УДК 821.161.3-3
ББК 84 (Беи)
Р82

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
"Кнігарня пісьменніка". Выпуск 26.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

**Рублеўская, Л.**
Р82 Сутарэнні Ромула : раманы / Людміла Рублеўская. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 520 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 26).
ISBN 978-985-7007-66-0.

Два новыя раманы Людмілы Рублеўскай: «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію» і «Сутарэнні Ромула» атрымалі шырокі розгалас у грамадстве. Іх звязвае тэма сталінскіх рэпрэсій супраць беларускай творчай інтэлігенцыі, а таксама тое, што дзеянне адбываецца і ў сучаснасці, і ў мінулым, раскрываючы тэму гістарычнай памяці. Прозе Л. Рублеўскай уласцівы псіхалагічная глыбіня, эпічнасць, філасофскі роздум і напружаны сюжэт, а таксама спроба сфармуляваць беларускую нацыянальную ідэю.

За раман «Сутарэнні Ромула» ў 2011 годзе пісьменніца стала лаўрэатам прэміі імя Францішка Багушэвіча.

**УДК 821.161.3-3
ББК 84 (Беи)**

**ISBN 978-985-7007-66-0**

Мы прыйшлі ў гэты свет не для таго, каб праклінаць цемру, а для таго, каб запаліць у ім святло.

## УВОДЗІНЫ

Альбарутэнія для нас пачыналася як Гульня.

Мы напачатку не ведалі, што той, хто ўвайшоў у гэтую Гульню, ніколі ад яе не адмовіцца, як не можа крыж пазбавіцца ад адной з перакладзін і застацца крыжам.

У горадзе нас пяцёра.

На два мільёны — пяцёра...

Кожны прыйшоў у Гульню сваім шляхам. Якім? А хіба вы можаце пралічыць шлях кропель дажджу, якія сцякаюць па шыбе і ўрэшце зліваюцца ў адну ручаінку?

Неяк дажджлівым травеньскім вечарам мы сядзелі ў нашай улюбёнай кавярні, сцены якой завешаныя чорна-белымі сямейнымі фотаздымкамі і калекцыямі манетаў і савецкіх марак у зялёных драўляных рамачках, і спрабавалі паводле дзядулі Фрэйда згадаць свае першыя дзіцячыя ўспаміны... Таму я, карыстаючыся пачутым тады, проста абмалюю для вас нашыя партрэты — так бы мовіць, у сямейных інтэр’ерах...

Гэта гульня...
Усяго толькі — наша гульня.
Што нам да тых,
Хто спрабуе зямлю перайначыць?
Альбарутэніі позірк, як рана, гарачы.
Сонца маё... Ты забіла мяне, як ягня
На ахвярніку белым...
І кроў — паласою — на белым...

Ваўкалакі правылі маю пахавальную ноч.
Час, як рана, загоіцца.
Лёс разаб'юць, як акно.
Гэта толькі гульня...
І ўсяго толькі — мёртвае цела.

**УДЗЕЛЬНІК ПЕРШЫ. ДАЛІЛА**

Трубы раўлі, быццам збіраліся абрынуць сцены кватэры.

Не ўрачыста-бліскучыя трубы, якія прынята называць меднымі — хоць насамрэч яны Бог ведае з якіх сплаваў, — а схаваныя ў цаглянай тоўшчы сценаў, зарослыя знутры агіднай смярдзючай слізззю...

Верагодна, гэтыя сцены, абклееныя бякла-зялёнымі шпалерамі з малюнкам «вермішэль у палёце», заслугоўвалі зруйнавання.

Але так казаць несправядліва — бо маленькія катухі «без архітэктурных лішкаў», рассыпаныя па Савецкім Саюзе пры Хрушчове, нібыта часткі дзіцячага канструктара, былі важнымі дэталямі, з якіх будавалася маленькае шчасце маленькіх людзей. Мець свой катух, знайсці ў савецкіх сотах сваю ячэйку і напаўняць, напаўняць, напаўняць яе мёдам кволага свайго дабрабыту... Камод, плюшавыя шторы, «мяккі вугал», збор твораў Андрэ Маруа, рэпрадукцыя Рубэнса Пітэра Пауля «Саюз Зямлі і Вады» з часопіса «Огонёк» у гіпсавым багеце пад бронзу...

Даліла так і не палюбіла гэтыя сцены.

Для яе яны назаўсёды — сцены Іерыхона, вакол якіх нясе свой каўчэг войска дзіўнага прышлага племя, і ты адчуваеш: Бог — з імі. А тут... маленькае шчасце мець сваю бетонную ячэйку.

Божа мой, у кагосьці першы ўспамін дзяцінства — сонечныя зайчыкі на яблыневых галінках, матчына калыханка, урэшце — яркая, неверагодна яркая, як бывае толькі ў несвядомым дзяцінстве, бразготка...

А ў яе — выццё водаправодных трубаў. Бякла-зялёныя шпалеры. Незнаёмы мужчына (яна так і не навучылася вымаўляць слова «тата») прыкладае да сцен жалез-

ную стужку, вылічвае нейкія «квадратныя метры»... Праз некалькі гадоў суседкі па пад'ездзе патлумачаць Даліле: твой нягоднік-татка пасля разводу хацеў адсудзіць кватэру...

Даліла была выдатніцай, але з восьмага класа сышла — абрыдла. «На залаты медаль рыхтавалі! У інстытут — простым шляхам!» — лямантавалі педагогі.

А яна проста ўзяла даведнік па сярэдніх спецыяльных установах і выбрала прафесію з больш-менш прывабнай назвай: афарбоўка тканінаў. Аказалася, праўда, што будучая прафесія звязаная не з маляваннем, а з самым нудным для Далілы прадметам — хіміяй. Гэта толькі ў дзяцінстве цікава: капаеш кроплю ёду, у яе кроплю зялёнкі — і ўтвараюцца паскудныя брунатныя камякі, ні на што не прыдатныя, акрамя як выклікаць тваю цікавасць. Дыплом Даліле перадалі ў раддом — аднакурснікі прычапілі яго да апушчанай з акна ніткі. Нарадзілася дачка. Хто бацька? А навошта вам ведаць? Даліла выканала прыроднае прызначэнне, найменш пацярпеўшы ад «патрыярхатнага ладу».

Яна гадавала дачку і працавала вахцёрам у рэабілітацыйным цэнтры. Працуе і па сёння. На вахце ціха, чытаць можна, толькі часам уночы загарлае бязногі «афганец». Спробы мужчын пазнаёміцца з Далілай спыняюцца звычайна на першым яе паглядзе. Цяжкі ў яе пагляд, у Далілы. Вузкія зялёныя вочы, немігучыя, як у змяі. І ўся яна высокая, гнуткая, маўклівая, цёмныя валасы гладка зачасаныя, і «луска» з сэканд-хэнду чорная і шчыльна па фігуры. Улюбёны пісьменнік Далілы — Оскар Уайльд.

Чаму? Лепей не пытайцеся. Яна не любіць спавядацца. Затое сваімі заўвагамі змусіць вас адчуць на сабе, што беларуская прымаўка «душа — не кажух, не вывернеш» не мае вялікага практычнага сэнсу.

Знаёмыя за вочы называюць Далілу «наша кобра» ці проста «кобра».

Альбарутэнію Даліла знайшла на цвінтары. Яшчэ б яна не была некрафілкай... Цэнтр, дзе Даліла працавала, месціўся ўшчыльную да старажытных могілак, з брамай, падобнай да выбеленага дажджамі чэрапа з прагаламі вачніцаў. Прыхільніца Оскара Уайльда кожны дзень па некалькі разоў

праходзіла пад цёмнымі шатамі велізарных ліпаў, стараючыся не наступаць на паваленыя камяні з выбітымі на іх нетутэйшымі прозвішчамі: Агінскія... Дарбут-Зампольскія... Загорская з Трэпкаў... Інсургент, паэт-дэмакрат, дырэктар гімназіі, пробашч... Урэшце яны сталі як бы яе знаёмцамі, усе тыя, хто жыў раней у яе горадзе, магчыма, на месцы яе дома... Тыя, хто лічыў за гонар загінуць за Альбарутэнію. Хто ведае, як і калі ў яго сэрца пастукаецца радзіма? Выпадкова прачытаны артыкул у самай важнай газеце краіны — пра мастака, які калісьці размалёўваў капліцы на гэтых могілках... Пачутая радыёперадача пра паэта, які выдаваў першую ў горадзе беларускую газету і таксама тут пахаваны разам з продкамі... Маленькі фотаздымак у сямейным фотаальбоме — матчына бабуля ў цёмнай сукенцы з белым каўняром пад горла, з гладка зачасанымі, на прабор, валасамі, з насцярожаным паглядам дачкі «буржуазнага элемента»... Даліла пачала шукаць звесткі пра гісторыю свайго горада — скупыя, раскіданыя, перакручаныя ў памяці сведкаў, усё збольшага на польскай мове. Ад яе прапрадзеда, колішняга менскага аптэкара, не засталося ні фотаздымкаў, ні ўцямных успамінаў. Толькі, што пасля рэвалюцыі ў пана фармацэўта ўсё адабралі да апошняй мікстуры ды саслалі, а яго дачку не прынялі з-за паходжання ў тэхнікум, пайшла на завод сарціроўшчыцай.

Даліла няшмат ведала пра свой род. Якое там сёмае калена... Нават да пятага не сягае памяць. Але ў адрозненне ад іншых ёй было на гэта не напляваць. Аднойчы яна пабілася з падлеткамі, што згіналі на помніках жалезныя крыжы. Будучыя мужчыны — чаго ад іх чакаць? У лепшым выпадку — сінякоў ды драпін. Цяпер з ёю ветліва вітаюцца ўсе хлапчукі раёна. Увогуле Даліла цудоўна ладзіць з мужчынамі — калі яны ў якасці сяброў. Але як толькі пяройдуць рысу павагі...

І не дзіўна, што Даліла трапіла ў Гульню. Альбарутэнія — жанчына. Гордая і самотная, як Плачка з апаведаў Яна Баршчэўскага. Даліла часта ўяўляе падчас сваіх начных дзяжурстваў яе побач з сабой...

**УДЗЕЛЬНІК ДРУГІ. ГЕНУСЬ**

Мячык быў сіне-чырвоны. З брудна-белым паскам, які размяжоўваў сінюю і чырвоную паловы.

А яшчэ ён быў чужы, гэты мячык.

Генусь у свае тры гады гэтага не разумеў. «Дайдайдайдай»...

Гаспадыня цацкі, вялізная пяцігадовая дзяўчынка ў вязанай шэрай кофтачцы — турэмнага колеру, як цяпер сказаў бы Генусь — забірае свой сіне-чырвона-круглы скарб і моцна штурхае нахабніка, які на гэты скарб спакусіўся. Генусь падае... Дзеці падаюць мякка — кажуць, іх падтрымліваюць анёлы. Але ён усё роўна плача.. Ён хоча чырвона-сіні мячык.

«Гэта дзяўчынка... Яе нельга крыўдзіць, нельга адбіраць...» — хуткі нервовы шэпат над вухам. Твар Той-каго-нельга-крыўдзіць крывіцца: «Ён стласны, як Баба Юга!»

І галасы, галасы: «Навошта вы прыводзіце яго да нармальных дзяцей? Яны палохаюцца».

«Мама, заечая губа — гэта таму, што я — зайчык?»

Генусь на ўсё жыццё ўсвядоміў, што ён — вылюдак. Дарэмна яму даводзілі, што ў тры гады чалавек яшчэ мала што помніць.

Ён — памятаў. Нават тое, што гузікі на шэрай кофтачцы дзяўчынкі, якая яго спалохалася, былі ў выглядзе маленькіх пластмасавых машынак.

Ён рос сярод нармальных дзяцей. Маці ўпарта адмаўлялася ад нейкіх спецыяльных умоваў, школаў-інтэрнатаў — яе дзіця не горшае за іншых! Настаўнікі ставілі чацвёркі там, дзе трэба было — тры... Цярпліва выслухоўвалі яго гугнявае мармытанне (воўчае паднябенне — у ім жыў яшчэ і воўк!) Часам ён здзіўляў нечаканымі думкамі — зусім як дарослы! Часам палохаў выбухамі нянавісці. З яго баяліся смяяцца. Ён глядзеў цёмнымі вачыма, як звераня, скрозь чорныя пасмы валасоў, якія амаль закрывалі твар: настаўнікі не наважваліся змушаць яго коратка стрыгчы грыўку. Вядома, няшчаснае дзіця хоча прыкрыць сваё калецтва. Гардыня не выспела ў ім, але не з'явілася і прыніжанасці. Толькі ледзяная самота. Ён увесь унутры адчуваў сябе ледзяным.

У шаснаццаць гадоў яму зрабілі аперацыю. Тонкі шнар на верхняй губе, трошкі асіметрыі ў рысах... Генусь стаў надзіва

прывабным. Праз некалькі гадоў дзяўчаты будуць шаптаць яму на вуха, што ён падобны да галівудскага пірата Джоні Дэпа... «А што, калі ты завяжаш на валасы чырвоную бандану? Вось так... ну чаму — глупства? Чаму ты такі дзікі?»

А ён проста ведаў, што ён — вылюдак. Пачвара. І ўсё прыгожае не для яго.

У Інтэрнэце не мела значэння ягоная сапраўдная знешнасць.

Ён стаў слынным хакерам, у Сеціве яго ведалі пад імем — толькі не смейцеся! — Тэрмінатар. Мы, напрыклад, калі даведаліся — не ад яго, зразумела, — доўга смяяліся.

Дзяўчаты проста ліпнуць да Генуся — можа быць, кожная з іх падсвядома хоча стаць Гердай, якая выратоўвае маленькага Кая.

Альбарутэнію Генусь знайшоў у Сеціве. Адразу было смешна — купка фанатыкаў перабрэхваецца на «мове», хто з іх большы патрыёт... Вершы змяшчаюць дэпрэсіўныя. А потым адзін з тых дзівакоў, з разраду агрэсіўных, спытаў Генуся на чаце: «А хто ты сам ёсць?» Генусь хацеў запосціць ганарлівае — «грамадзянін свету», але задумаўся... Лёс Альбарутэніі надзіва быў падобны да ягонага. Раптам ён уявіў сябе на дзіцячай пляцоўцы, на якую прыйшла яна, Альбарутэнія, а ён разам з іншымі гідзіцца падысці — страшная, недаразвітая, «не пускайце яе гуляць з нармальнымі»...

Цяпер ён мадэратар папулярнага беларускамоўнага сайта.

**УДЗЕЛЬНІК ТРЭЦІ. МАКС**

Маленькая дзіўная цацка, якую ён знайшоў на ніжняй паліцы чужой шафы, была прахалодная, на ёй блішчэлі белыя шарыкі, якія так прыемна намацваць языком. На маленькіх ланцужках віселі іншыя шарыкі — маленечкія, металёвыя, яны бразгалі пяшчотна-пяшчотна, быццам смяяліся феі. Як у мультфільме — у белых сукенках-званочках, вісяць у паветры проста перад тварам галоўнага героя і смяюцца... І вось-вось падорыць цуд... Магчыма, нават тут, у гэтым цёмным куце чужой кватэры, пад чужымі футрамі, што грувасцяцца над галавой Макса, нібыта яліны звесілі стамлёныя

пухнатыя лапы. Тут адчувалася бяспека. Ніхто не выцягне на сярэдзіну ярка асветленага пакоя, не стане казытаць за жывот, за шчокі — «Уй, які халосанькі! Бутузік! Анёлачак!», не змусіць чытаць абрыдлы верш... Адзіны, які Макс мог расказваць без памылак, — пра елачку, на якой выраслі залатыя шышкі. Лухта. Феі бываюць, а елак з залатымі шышкамі ён пакуль не бачыў. Колькі шуму ад гэтых дарослых...

— Вось тут... Тут, на шафе, ляжала брошка. Яшчэ гадзіну назад ляжала.

— Мусік, ты, напэўна, яе пераклала.

— Мы зараз пашукаем, Марыя Вітальеўна. Яна, можа, звалілася, пакуль мы таньчылі.

— На ёй сапраўдныя перліны. І срэбра шмат. Праца дызайнерская...

— Мусік, не псуй настрой гасцям... Знойдзеш сваю цацку.

— І ўсё-ткі... Гадзіну таму я яе бачыла на месцы.

— Я зараз зазірну пад шафу, Марыя Вітальеўна... Хвілінку... Не, няма...

Макса знайшлі ў цёмным куце калідора пад чужымі футрамі.

— А ты што тут робіш? Што ў цябе ў роце? Дай... Ах, ты...

Вядома, ён не разумеў, чаму на яго абрынуўся гнеў, чаму ён стаў для маці і бацькі такім нядобрым.

— Не чапайце дзіця, яно не ведае, што робіць...

Цёмная вуліца... Святло ліхтароў у сняжынках, нібыта яны раскрадаюць яго, імкнуцца аднесці далей, у сцюдзёную цемру, — але не даносяць, губляюць, гаснуць...

— Ты разумееш, Марыя Вітальеўна можа вырашыць, што мы падгаварылі малога нягодніка сцягнуць брошку...

— Глупства.

— У любым выпадку — калі дзіця можа ўзяць чужую каштоўнасць, застаецца падазрэнне, што гэта з-за бацькоў... Што гэта гены... Ты зразумей, Марыя Вітальеўна — дырэктар нашай крамы, а я на касе сяджу, з грашыма працую... Першая наступная недастача — і падазрэнне на мяне... У, сволач маленькая! Злодзей расце! У каго толькі?

Макс удаўся ні ў каго.

Чытаць навучыўся ў пяць гадоў. І кнігі сталі ягоным ратункам і ягонай сапраўднай сям'ёй. Макс хаваўся з чарговым томам на шафе, пад сталом, на закінутай будоўлі побач з домам. Аднойчы ўзяў у бібліятэцы старую кнігу з незнаёмым прозвішчам на вокладцы: «Караткевіч». Чытаў усю ноч, з ліхтарыкам пад коўдрай. А нараніцу ведаў: у яго ёсць радзіма.

Калі яго першы раз забралі за ўдзел у пікеце — баранілі старасвецкі будынак, на месцы якога спланавалі чарговы бізнес-цэнтр, — бацькі нават не прыйшлі ў пастарунак.

На чацвёртым курсе гістфака Макс перавёўся на завочнае. З-за «крымінальных плямаў» армія па ім не плакала. Да таго ж ён так і вырас «бутузам» — вялізным, паўнаватым і танкаскурым, наіўныя блакітныя вочы, светлыя валасы трохі віюцца... Уладкаваўся ў архіў. Старыя супрацоўнікі яго любілі — надзея, прадаўжальнік... Макс жа адчуваў сябе злодзеем — ён выхопліваў з мінулага тое, што належала не яму, і за гэта плацілі. «Томб райдэр», разумееш.

Рабаваць чужыя ўсыпальніцы, каб збудаваць сваю...

Ёсць такая птушка ў тропіках, якая, каб прывабіць самку, будуе з травінак, каменьчыкаў, кветак, ягад дзівосныя палацы, выкладвае неверагоднай прыгажосці арнамент... Чым мы лепшыя за тых птушак? Тым, што сцвярджаемся, разбураючы чужыя арнаменты?

Макс спадзяваўся хоць адзін аднавіць... Прынамсі, на сайце Генуся ў яго ёсць свая рубрыка, дзе ён адначасова і займаецца гістарычным лікбезам, і выкладвае сенсацыйныя гіпотэзы наконт беларускай гісторыі. Даследуе беларускія радаводы. Пра свой раскапаў такое — не паверыце. Бацькі Максавы дык не вераць. Кажуць — ілжэ. Якія там шляхецкія карані, сваяцтва з князямі?

Яшчэ ёсць у яго хобі — цягаецца па беларускіх сядзібах, фатаграфуе руіны, урослыя ў зямлю помнікі... Мінулым летам зваліўся з дрэва, на якім шукаў лепшы ракурс, паламаў рэбры — адно рабро прабіла лёгкае. Ледзь дацягнуўся да шашы. Каб не міласэрны кіроўца машыны з нейкай птушкафабрыкі — ці быў бы Макс у нашай кампаніі? Вядома, марыць выдаць кніжку. І заваяваць каханне Далілы.

## УДЗЕЛЬНІК ЧАЦВЁРТЫ. ЕДРУСЬ

Сонца прасявалася скрозь зялёныя парцьеры, зусім як скрозь лясныя шаты. Але тут не было водару ядлоўцу, грыбной цвілі, спелых ягад... Толькі пах падгарэлых катлетаў.

— Я табе пакажу «тата»! Не тата, а «папа»! Ну, паўтарай: «па-па»!

— Та-та!

Па вуснах стукае даланя. У роце солана.

— Чаго ты прычапілася да малечы. Няхай гаворыць, як хоча. У школе ўсё роўна перавучаць.

— У, калгаснікі! — злосць цяпер скіраваная ў іншы бок. — Гаварылі мне, што не трэба выходзіць за дзеравенскага. А ўсё твая маці. «Падгадуецца ўнучак на свежым малачцэ»... Вярнуўся — як чужы. І на дзень болей не пушчу!

— Ды сціхні, «гарадская»... Паляндвіцу вунь сама трэскаеш, не гідзішся, што з вёскі.

— А табе толькі прапіска патрэбная была, быццам я не ведаю!

Трохгадовы Эдзік абдымае плюшавага кракадзіла, зялёнага, як мох на маладой яліне. Ён не разумее, чаму вакол — блага, чаму дарослыя крычаць. Але разумее, што гэта — з-за яго.

Напэўна, ён вельмі важная персона, калі з-за яго такі моцны шум. Эдзік заплюшчвае вочы і пачынае ўяўляць, як ён ідзе па лясной дарозе, даланя бабулі — шурпатая, сухая, але цёплая. «Гэта ядловец, Едрусік... Калі ўзяць ягадку ядлоўцу ў рот і доўга смактаць — перастане балець горла... А вось гэты вялізны камень бачыш? Каля яго спачываў князь Палямон... Ішоў ён некалі са сваімі воямі па гэтай дарозе, дзе мы з табою ідзем, змарыўся, уторкнуў у зямлю меч — і патрапіў у земляную жылу. І выскачыў каменны пухір. Вось гэты валун. Бачыш, які круглы, беленькі... Нават мох на ім не расце».

— Навошта я з табой звязалася! Цямноцце! Звыклі жыць у брудзе! І ў горад свой бруд цягнеце!

Бацькі развяліся. Эдзік рос у няпоўнай сям'і. З татам удавалася бачыцца зрэдку. Той вінавата адводзіў вочы, саромеючыся сваёй нягегласці, чырвонага абветранага твару, старой кашулі, дарыў цацачную машынку, перадаваў прывітанне ад бабулі. У бацькі з'явілася іншая сям'я ў

райцэнтры. Эдзік нават бачыў аднойчы сваю зводную сястру — рудую таўставатую дзяўчынку са шчарбінай між верхнімі зубамі. Вядома, маці пра гэта знаёмства гаварыць было нельга. Яна ўладкоўвала Эдзіка ў музычную школу, у ізастудыю, на бальныя танцы. У яго былі касцюмчыкі з гальштукамі-батэрфляямі, пуловеры з шатландскай воўны, пад якія апраналіся белыя адпрасаваныя кашулькі, самыя дыхтоўныя чаравікі, стрыжка «пад пажа»... І нянавісць да ўсяго ўпарадкаванага, акуратненькага, фальшывага, як слова «папа». З шостага класа маці пачала вадзіць яго па псіхолагах. Яму ставілі дыягназы «неадэкватныя паводзіны», «павышаная эмацыйнасць», «агрэсіўнасць». Эдзік змрочна слухаў, як маці скардзіцца на ягоную дрэнную спадчыннасць. Яна жыццё кладзе, каб сына вывесці ў людзі, а сын не жадае прымаць нават методыку раздзельнага харчавання. І ўвогуле, яна падазрае... ну, так, як ні прыкра... што Эдуард ужывае наркотыкі. Не, не знаходзіла. Але ён такі... дзіўны. Адсутны... Часам псіхолаг, які з прафесійнай цярплівасцю слухаў адукаваную матулю ў вязаным капялюшыку і карункавай белай блузачцы, лавіў кінуты спадылба позірк «некіруемага» падлетка. І столькі недзіцячай іроніі было ў гэтым позірку, і столькі тугі, што рука сама лезла ў шуфляду стала па новы стос тэстаў...

Эдзік паступіў пасля восьмага класа ў «хабзу» пры хлебазаводзе проста таму, што не мог знайсці менш рамантычнае месца. Нават працу ў моргу (была ў яго і такая думка) маці магла неяк вытлумачыць (Гамлет, чэрап Ёрыка, дэкаданс, некрафілія)... А так — як сказаць сяброўкам, з якімі разам ходзіць у прыватны паэтычны салон (такія ж капялюшыкі, блузачкі, Ах-Ахматава), што сын вучыцца на хлебапёка... Булачніка. Ганьба.

Тое, што ён граў у рок-гурце — ягоны сапраўдны занятак, — было таксама па-за межамі ейнага эстэтычнага разумення.

Ён пілаваў на сола-гітары, і някепска. Бялявыя валасы звязаныя ў хвосцік, тонкія цвёрдыя вусны, велікаваты нос... Не тое каб гожы, але... Сінія вочы не страцілі іроніі. Гралі гранж, апантана, зараблялі грошы, каб зняць прыстой-

ную «кропку» дзеля рэпетыцыі, паступова выпаўзаючы з падвалаў на клубныя сцэны.

Там, у рок-тусоўцы, здавалася б, такой далёкай ад лясной сцяжыны, па якой хадзіў князь Палямон, Эдзік і спаткаўся з Альбарутэніяй. Ён пазнаў яе адразу — як пах ядлоўцу. І назаўсёды застаўся Едрусем.

У яго была гітара, магіла бабулі на вясковых могілках на Лагойшчыне і Альбарутэнія.

Гэтага досыць, каб быць самадастатковым — і чужым.

Калісьці ў яго здарыўся яшчэ кароткі, на два абзацы, раман з Далілай. Дакладней, Едрусь спрабаваў яго наладзіць з дзіўнай дзеўчынай, што пацягвала піва ў кутку арт-кавярні ў падазронай самоце. Яна відавочна ніколі не нацягнула б на сябе карункавую блузачку і не зацікавілася б «раздзельным харчаваннем па метаду Поля Брэга».

Замест рамана нечакана для абаіх выйшла сяброўства. Для нашае суполкі гэта проста файна.

Што яшчэ пра Едруся? Ад арміі «адкасіў» — скарысталіся ўсё-ткі былыя візіты да псіхолагаў. З хлебазавода сышоў. Гандлюе газетамі. Грае на вяселлях. Жыве... Шмат дзе жыве. Абы не ў маці.

Толькі ў дзень барацьбы з наркаманіяй — ёсць такі ў календары ЮНЕСКА — дасылае мамачцы букет жоўтых хрызантэмаў.

Навошта? Каб верыла, што выратавала сыночка ад «белай смерці»? Ці проста — вытанчаны здзек? Магчыма... Мы ж тут усе... гадзючыя.

**УДЗЕЛЬНІК ПЯТЫ. Я**

Ну што вам пра сябе расказаць?

У адрозненне ад іншых, я нарадзілася проста ў абдоймах Альбарутэніі. Пакладзеная на ейныя калені і накрытая вышываным фартухом. Татуся і мамуся мае былі такія свядомыя, што ад іх можна было запальваць купальскія вогнішчы. Мусіць, першае, што я памятаю, — гэта і ёсць купальскае вогнішча. Цемра, языкі полымя, мільгаценне постацяў у светлых кашулях, высокі моцны голас маці: «Ку-па-лі-інка, Ку-

па-а-лі-нка... Цё-омна-ая но-очка...» Халодны мокры дотык да твару кветак, што звісаюць з майго купальскага вянка...

Галасы аддаляюцца, аддаляюцца... Я адна. Прыціскаюся да шурпатага ствала, пачынаю ціхенька ўсхліпваць... Гучна плакаць нельга — тут Дзед Лясун, русалкі, якія казычуць непаслухмяных дзяцей, цмок, які жыве ў гэтым возеры... Я не ведаю, што такое цмок, але слова страшнае. Успамінаецца метро — аднавокае страшыдла ляціць з жахлівым грукатам... Увогуле, машыны — гэта страшна... Смярдзючыя, шумныя, бязлітасныя... У майго таты няма машыны. Бо рэчы для нас не галоўнае. Галоўнае — духоўнасць. «Ану, Руся, раскажы верш Янкі Купалы «Чаго вам хочацца, панове?» Не, яна ведае, проста саромеецца... Расказвай, Руся! Як ты магла забыцца **такі** верш? Ну дык ідзі адсюль, нам паразмаўляць трэба, пагартай там, у кутку, часопісы».

Бацькі мяне ўвесь час забывалі. У куточку залы, дзе адбываецца чарговая імпрэза. У дзіцячым садку. У школе, у «прадлёнцы», якую бацькі ахрысцілі «падоўжанкай». Яны вельмі занятыя сабою і «справай». Канферэнцыі, прэзентацыі, вечарыны, экспедыцыі... Цяпер я разумею, ім здавалася, што я ведаю, якую важную справу яны робяць, і ганаруся, і падзяляю... Што? Іх усведамленне сябе інакшымі, далучанымі, лепшымі за іншых? Бабуля, матуліна мама, неяк расказала, што бацькі калісьці захапляліся містыкай Рэрыхаў. Нават у таварыства ўваходзілі. Дапамагалі праводзіць выставы. Ездзілі на Алтай, па касмічную мудрасць.

Потым на змену Рэрыхам прыйшла Альбарутэнія. Яны пазалацілі ейны твар, закавалі ў бліскучыя рызы і ўпёрліся лбамі ў падлогу перад ёю.

А яна жывая. З усімі наступствамі. І ўжо колькі стагоддзяў з жорсткай усмешкай назірае за пакутамі тых, што гінуць за яе.

Вядома, яна гэтага вартая. Але ўдзячнасці не дачакаецеся.

«Марь-Ванна, а Руслана снова сказала на “кровать” — “ложка”!»

У дзявятым класе я абрэзала сваю пшанічную касу пад самае нічога. Зрабіла пірсінг на ніжняй губе і пачала слухаць выключна «Нірвану». Калі бацькі ўсвядомілі, што я

маю іншыя зацікаўленні, а не наведванні нудотных паэтычных вечарынаў і спяванне народных песень у хоры (голасу мне Бог не даў, але слыху, на жаль, дастаткова, каб усведамляць уласную музычную бездапаможнасць), я стала для іх здрадніцай. Нарэшце яны мелі магчымасць пакараць пагардай хоць аднаго ворага, тым болей ён быў побач і яго было лёгка дастаць. Я паступіла на архітэктурны факультэт і нават вершы пачала пісаць на рускай мове. І, напэўна, дзякуючы дурному фанатызму бацькоў узненавідзела б Альбарутэнію і ўсё, што з ёю звязанае, да канца дзён сваіх, не мною палічаных... Калі б не сустрэча ў падземным пераходзе з двума музыкамі... Карацей, двое ў чорных майках з белымі выявамі ваўчыных пысаў, у хустках-банданах... Яны спявалі так прачула-нягучна — пра пакаленне прысаку, пра мячы ў ножнах, пра сэрца ваўкалака і верасовыя пусткі, — што мяне нібыта за абрэзаную касу залатым цвіком прыбілі да каменнае сцяны. Я прастаяла побач з музыкамі да вечара — яны, здавалася, не звярталі на мяне ўвагі, як, зрэшты, і на тых, хто праходзіў побач і кідаў — ці не кідаў — у адчынены футарал ад гітары грошы. Але потым — вельмі проста, без ценю нядобрай зацікаўленасці — паклікалі мяне на піва.

Адзін з музыкаў быў Едрусь.

Я зрабіла вокладку для іхняга дыска. Ваўкалак на фоне верасовага поля і начнога неба. Готыка... Не ведаю, наколькі гэта па-мастацку, — але хлопцам падабаецца.

Так, я не сказала... Я гатовая памерці за яго. За бландзіністага Ваўкалака Едруся.

Але яшчэ хутчэй памру, каб ніхто пра гэта не даведаўся.

Бо для хлопцаў існуе толькі Даліла. Якая ненавідзіць заляцанні і закаханасці.

Ува мне ж няма нічога, што б магло прывабіць. Я — сярэдняя па жыцці. Рост сярэдні, вочы — сярэднія... Паміж шэрымі і зялёнымі. Часам да мяне прыходзяць вершы. Душаць, балюча варочаюцца дзесьці пад сэрцам, просячыся на свет, — здараецца, я іх запісваю. Друкаваць, вядома, не збіраюся. Я не ведаю, для чаго я. Я не ведаю, як мяне адрозніваюць у натоўпе. Я б сама сябе не пазнала — дакладна. І ў гэтым апо-

ведзе я не буду галоўнай. Вы можаце ў большасці выпадкаў нават уявіць, што мяне няма.

Вось такія мы, пяцёра. Калі сустракаемся дзеля нашых дзіўных для непасвечаных спраў, мне так і хочацца заспяваць на матыў піянерскага марша: «Мы, маргіналы, дзеці падполля...»

Мяне не адразу далучылі да Гульні.

Каб я была сёмай дачкой сёмай дачкі, гэта значыць вядзьмаркай па нараджэнні, я б, напэўна, раней зразумела, аб чым перамаўляюцца падчас сустрэчаў мае новыя сябры і куды яны час ад часу знікаюць, каб з'явіцца. І адзін з іх заўсёды выглядае як пасля шпацыру на той свет.

Але я была адзінай дачкой адзінай дачкі, і мне давялося чакаць, пакуль Даліла аднойчы не сказала: «Цяпер мы выкарыстаем цябе».

**АБСТАЛЯВАННЕ ДЛЯ ГУЛЬНІ**

Леанарда да Вінчы вучыў, што лягчэй за ўсё маляваць зусім старых: варта толькі зразумець, якая ў іх асноўная рыса характару. Бо чым бліжэй да смерці, тым болей у чалавеку развіваецца адна, асноўная ягоная якасць. Сквапнасць або шчодрасць, юрлівасць або сціпласць, дабрыня або зласлівасць...

Гэтая бабулька жадала павучаць.

Даліла адразу думала, што бабулька была калісьці настаўніцай. Пакуль адна санітарка не распавяла, што звяглівая хворая раней працавала прыбіральшчыцай, а яшчэ гандлявала кветкамі. Вырошчвала ля свайго прыватнага дамка. А ўзімку прадавала часнык і сушаныя прыправы. Ды яшчэ нібыта была ці то баптысткай, ці то вядзьмаркай. І нікогенька ў яе не засталося са сваякоў. Са свету зжыла. Карацей, асоба непрыемная. І звалі «кветкава» — Разалія. Разалія Іванаўна.

Здавалася, што твар бабулькі калісьці зляпілі са снегу. А потым на сонцы ён стаў раставаць, усе рысы паплылі ўніз, абсунуліся і раптам застылі. Ды хіба Даліла не бачыла, як выглядаюць пасля інсульту? Гандлярка кветкамі, уся ў

зморшчынах, але каротка стрыжаныя валасы пафарбаваныя ў каштанавы колер, — гаварыла, гаварыла, гаварыла рыпучым голасам, у якім нельга было разабраць і паловы словаў, пра ўмовы ў бальніцы, пра моладзь, пра горад... Усё было кепскае. Медсёстры з прафесійным цынізмам жартавалі — шкада, не адняло ў старой стрэмкі мову.

Так выйшла, што найчасцей пабыць з хворай прасілі Далілу. Тая ніколі не падлагоджвалася, не падтаквала. Проста маўкліва дапамагала прайсціся па ўнутраным дворыку да лавачкі, прыносіла ваду... Ёй у рэабілітацыйным цэнтры даўно ўжо дадаткова налічвалі паўстаўкі санітаркі. Медсёстры нават уколы навучылі рабіць. Такая разумная дзеўка — і вартаўнічка... Ішла б хаця на завочнае ў медвучылішча!

Неяк Разалія Іванаўна і Даліла сядзелі побач на лавачцы, пад травеньскім сонейкам, і мая сяброўка дастала з кішэні кніжку Както — у мяккай вокладцы з гравюрай Бердслея. Болей пафаснага чытва для бальнічнага дворыка і ўявіць цяжка. Хворая спытала:

— Што, падабаецца?

Даліла лена адказала:

— Наш час — гэта час яркіх этыкетак, не хапае падтэкстаў. Вось і кампенсую.

Бабулька ўважліва паглядзела на вахцёрку.

— А чаму размаўляеце па-беларуску? Звычайна аматары інтэлектуальных кніжак пазбягаюць усяго, што можа даць намёк на іх... правінцыйнасць, скажам.

Даліла ўскінулася — на падобныя закіды ў яе быў даўно гатовы адказ — наконт сапраўднай культуры... Які яна і агучыла. Разалія Іванаўна заўсміхалася перакрыўленым ротам, нібыта перадачу доўгачаканую атрымала:

— Ведаеце, маладым нельга доўга знаходзіцца са старымі. Старасць раней лічылася нечым... проста непрыстойным. Быў такі філосаф Ісідор Севільскі, які жыў тысячу гадоў таму. Дык ён казаў, што старасць — гэта калі чалавек ператвараецца ў немаўля, поўніцца кашлем і нечыстотамі, пакуль не сыходзіць у пыл і тло. Я не баюся. І вы не саромцеся, што вам гэта гідка ўва мне. Галоўнае — што чалавек паспеў на-

быць за сваё жыццё... Ці нейкія транты, якія альбо спарахнеюць, альбо нашчадкі за іх перагрызуцца, альбо... набыў веды.

Старая гаварыла ясней, чым звычайна, толькі расцягваючы словы, як зблытаную вяроўку. Даліла пацiснула плячыма.

— І нікога я не гіджуся. Вы проста стаміліся. Давайце, можа, адвяду вас у палату.

Хворая абурана замахала дрыжачай рукой — на сярэднім пальцы зблiснуў срэбны пярсцёнак, падобны да заручальнага.

— Не трэба ў палату. Я выдатна сябе адчуваю. Нiколькі не горш, чым батлеечная шынкарка. Вось яе пакруцілі на дроціку — і яна ўжо таньчыць. Мой дрот трымае вельмі ўчэпісты батлейшчык, надакучу — кіне ў скрынку і вечка замкне. А пакуль я патрэбная на гэтай мізэрнай сцэне — буду выходзіць і таньчыць. Як мне шкада, што зніклі батлейкі... Вам не хапае шматслойнасці, дзяўчынка... Ведаеце, за кожны слой прасторы і часу, за іх спазнанне трэба плаціць. Вы гатовыя?

Даліла чамусьці паглядзела на казённыя пантофлі Разаліі Іванаўны, на якіх красаваўся шмат разоў падмаляваны надпіс белай фарбай: «3-я п., кард.», што азначала трэцюю палату кардыялагічнага аддзялення. Вось вам «шматслойнасць»... Старая відавочна з галавою не сябруе. Ну дык што, з вар'ятамі часта цікавей размаўляць, чым з нармальнымі.

— За ўсё, што я раблю ў сваім жыцці, я гатовая плаціць, — цярпліва адказала Даліла. — Таму раблю толькі тое, што хачу. І, дарэчы, я даўно не дзяўчынка. Маёй дачцэ шэсць гадоў.

— Што ж, — Разалія Іванаўна зноў трохі прывяла, яе мова зрабілася няўцямнай, як з воўнаю ў роце. — Тады... вам... не будзе цяжка... Я жыву тут, тут... побач, адразу за могілкамі. Мне б хацелася, каб вы прыходзілі. Я... магу плаціць. Уколы... вы ж умееце рабіць, праўда? Вы... давядзяце мяне дадому, калі я выпішуся. Гэта ўжо... хутка. Мне трэба паспрабаваць яшчэ... хоць раз. На адзін раз мяне хопіць.

Апошнія фразы Разалія Іванаўна прагаварыла зусім шэптам. Інсультнікі нярэдка трызняць. Але рэабілітацыйны цэнтр — не бальніца і не дом састарэлых. Прайшоў курс працэдураў — і выпісвайся. Праз тры дні сапраўды давя-

лося весці бабульку дахаты. Даліла так нічога толкам пра яе не даведалася, а распытваць, як вы ўжо зразумелі, не ў характары маёй сяброўкі. Бабулька адукаваная. Хаця часам гаворыць надта па-простаму, хіба — знарок? І яшчэ дзіўна... Па дакументах выходзіла, што старой мусіць быць усяго пяцьдзясят два гады. Сучасныя жанчыны ў гэтым узросце на фітнэс бегаюць ды джынсы носяць... А Разалія Іванаўна выглядала на ўсе семдзесят. Можа, памылка ў дакументах?

Дом быў зусім блізка ад могілак, заціснуты між шыкоўнымі катэджамі, быццам жабрак у чорных лахманах між свецкіх дам у дэкальтэ на прыёме ў губернатара. Ды яшчэ пабудаваны ў нейкай яміне, так што з-за плота з пачарнелых дошак відаць толькі дах. І крыты нават не шыферам, а руберойдам, там-сям парослым зялёным імхом, — нібыта мокрая, змятая і брудная трохвуголка напалеонаўскага ветэрана, які з цяжкасцю пераадольвае супраціў беларускай гразі. Падслепаватыя вокны. А між шыбамі — зжаўцелая вата, пасыпаная навагоднімі блішчынкамі — патрушчанымі шклянымі елачнымі цацкамі. Вокны, відаць, гадоў трыццаць не адчыняліся. Пад вокнамі тырчаць мальвы з бляклаfailружовымі, нібыта выцвілымі, кветкамі. Хто б мог падумаць, што пасярод горада захаваліся такія халупы... Двор быў таксама няўтульны, толькі хохлікам па ім бегаць. Пакуль гаспадыня лячылася, зарос травой, пустазелле на градах вымахала вышэй галавы. Асабліва шмат палыну. Тужліва глядзеліся між учэпістых «плебеяў» яркія галоўкі хрызантэм — нібыта гімназісткі згубіліся на бядняцкім кірмашы, і галадранцы шчыкаюць іх, пасміхаючыся, штурхаюць і не даюць сабрацца разам і паклікаць строгую класную даму. З дрэваў — толькі некалькі вішанек ды клён з незвычайна буйнымі пяціпалымі лістамі.

Гаспадыня, абапіраючыся на кавеньку, успаўзла на бетонны ганак, як слімак на антычную ўсыпальніцу, і забразгала ключамі.

Унутры было таксама бедна, але чыста. Не верылася, што за вокнамі — шумны горад.

Даліла азіралася з цікавасцю — перш за ўсё ў любой хаце шукала вачыма кніжкі. Што яшчэ раскажа пра гаспадароў

лепей? Але кніжак у доме не было. Сцены, абклееныя зялёнымі шпалерамі з ружамі, выцвілыя амаль да таго стану, калі кіч становіцца антыкварыятам. Жалезны ложак, упрыгожаны шышачкамі на парэнчах. Засланы, праўда, не даматканай посцілкай, а звычайнай, куплёнай у краме, ды яшчэ з выявамі конікаў, якія граюць на скрыпачках. Ля супрацьлеглай сцяны канапа, старая, пакрыўленая, быццам цыганскі шарабан. Здавалася, дакраніся да яе — і з праседжанай абшыўкі, як разбойнікі з засокі, вымкнуць іржавыя спружыны... Ні вышыванак, ні вазонаў. А казалі, бабулька — кветачніца. Абшарпаны круглы чорны стол, на ім — вазачка з зялёнага шкла, у якую насыпаны катушкі з ніткамі, гузікі, іголкі, шпількі. Побач з вазачкай нататнік з залатым надпісам на зялёнай дэрмацінавай вокладцы «Ленінград» і танная асадка. У яе целе з празрыстага пластыку, як вянозная артэрыя, цямнеў напалову спісаны сіні стрыжань. Пачак пернікаў, якія, відаць, паспелі ператварыцца ў камяні... І адзіны цікавы прадмет — тоўсты фотаальбом у вокладцы з выробленага пад скуру цёмна-брунатнага кардону. Чым можа займацца чалавек, які жыве ў такой пустой кватэры? Хіба што маліцца... У куце праваслаўны абраз, але не Божае Маці, як зазвычай, а «Маленне аб Чашы». Ісус Хрыстос у Гефсіманскім садзе. У сваю апошнюю ноч перад пакутамі, абапёршыся на халодны камень, моліцца бацьку: «Пранясі гэтую чашу паўз мяне... Але, зрэшты, не як Я хачу, але як Ты хочаш». Можа быць, самы кранальны момант Святога Пісання... Абраз танны, наклееная на дошку карцінка, але, відаць, яшчэ даваенны — бо малюнак таксама выцвіў, па краях выцерся... У прынцыпе, напэўна, для веруючага чалавека не павінна быць розніцы — маліцца на дарагі абраз, маляваны на якой-небудзь кіпарысавай дошцы вядомым майстрам, альбо на танную, набытую ў царкве штампаваную карцінку... Гэта як акно, праз якое можаш глядзець на сонца — галоўнае ж не каштоўнасць рамы, а сонца... І здольнасць яго бачыць. З другога боку, намоленыя абразы, пацямнелыя ад дыму свечак, абразы, якія помняць пагляды тысяч людзей у найвышэйшых духоўных парываннях, набываюць

асаблівую прыцягальнасць, можа быць, яны — больш празрыстыя вокны ў неба...

Перад гэтым абразом, напэўна, таксама часта маліліся. Хаця імя «Разалія» — нейкае не праваслаўнае.

Разалія Іванаўна тупала па хаце, абапіраючыся на новенькую мыліцу з шэрага пластыку, нешта мармытала сабе пад нос... Даліла падышла бліжэй да абраза. Пацягнула руку, каб паправіць вышыты крыжыкам ручнік, які зусім па-вясковаму аздабляў святыню...

— Прэч адсюль! — голас бабулькі быў такі адчайна-пранізлівы, што Даліла здрыганулася... Хаця мала што магло змусіць яе страціць душэўную раўнавагу.

— Пайшла! Зараз жа!

Разалія Іванаўна стукала мыліцай у падлогу, азызлы твар дрыжэў, як быццам яе біла токам, здавалася, па скуры ішлі дробныя хвалі. Даліла моўчкі пакрочыла да дзвярэй, перакінуўшы зручней свой улюбёны джынсавы заплечнік. З такімі хворымі гаварыць — як шрот есці.

— Стойце!

Ну што яшчэ? Але старая зусім супакоілася. Толькі пагляд з-пад абвіслых павекаў стаў яшчэ больш змрочным.

— Я гэты дом вам адпішу. Разам з... усім. Толькі абяцайце, што не будзеце выходзіць... туды... занадта часта.

Даліла цярпліва кіўнула і выскачыла за дзверы. Трэба зараз жа схадзіць да галоўурача. Або няхай прымацоўваюць да старой прафесіяналку са шпрыцам, альбо ўладкоўваюць у патрэбную ўстанову. Гэта ж ні ў краму сама Разалія Іванаўна не сходзіць, ні есці сабе не зварыць...

Хаця... Даліла сама лепей памерла б з голаду, чым пераехала б ва «ўстанову».

І ўжо праз гадзіну прыцягнула старой сетку з прадуктамі. Разалія нават дзякуй не сказала. Дарэчы, Даліла і не чакала ўдзячнасці. Прычым ніколі і ні ад кога. Таму і не мела крыўды на гэты свет. Яна з тых, хто здольны на надзвычайную міласэрнасць — і надзвычайную жорсткасць. Таму што даравацъ таксама не ўмее.

Цяпер маршрут Далілы быў такі: шпіталь — могілкі – Разалія – могілкі – дом. Часам яна брала з сабой дачку

Віку, ціхмяную зеленавокую дзяўчынку з русявымі коскамі. Малая чужой бабулі палохалася, захіналася ад яе плюшавым заплечнікам-мядзведзікам... Некалькі разоў складаў кампанію Едрусь. Праўда, кветачніца няўхвальна глядзела на ягоныя чорныя строі з заклёпкамі, таму булачнік-музыка часцей чакаў на ганку, пакуль Даліла аддасць закупленую правізію ды лекі. Толькі аднойчы Разалія зірнула больш памяркоўна, калі маладыя госці заспелі яе за разгляданнем фотаальбома. Дакладней, адной фоткі. Так разглядаць можна толькі былое каханне. Старая сядзела ў брунатнай у чорныя палоскі сукенцы, высунуўшы з каўняра тонкую маршчыністую шыю, як чарапаха Тарціла. Галава з каротка пастрыжанымі валасамі трэслася... А вочы з непрыгожа адвіслымі павекамі малітоўна ўпёрліся ў мужчынскае аблічча. Фотаздымак трохі пажаўцеў, ён быў любоўна абклеены плёнкай... Але з яго пазіраў не які-небудзь бравы лётчык альбо чырвоны камандзір, а звычайны хлопец у груба звязаным швэдары, з чорным чубам, амаль як у Джэймса Бонда, і цалкам разняволенай іранічнай усмешкай.

— Се-ева... — пяшчотна працягнула старая, гледзячы на фотаздымак, і тут жа быццам раззлавалася на сябе за гэтую пяшчоту. — Блазнюк... Такі самы, як ты...

Гэта адрасавалася Едрусю, які намагаўся ў гэты момант прыладзіць на месца перакошаны карніз. Хаця навошта? Уся справа карніза была трымаць вартыя жалю падабенствы занавесак. Тканіна пад замежным найменнем дэдэрон, з якога яны былі калісьці створаныя, зжаўцела, як костка, і здавалася гэткай жа шорсткай і хрусткай. Увесь пыл стагоддзяў быў у гэтых дэдэронавых анучах, якія нібыта аддзялялі хату ад могілкавага краявіду, а насамрэч прыўносілі ў яе магільны пыл.

— Ваш муж на фотаздымку? — няўважна папыталася Даліла, якая раскладала шпрыцы, каб зрабіць бабульцы ўкол. Я, дарэчы, заўсёды дзівілася, як Даліла можа гэтак спакойна і ўпэўнена пароць голкай чужое цела, не баючыся, што яму — баліць... Найбольшае, на што выявілася здатнай я, — гэта пароць у гумавую задніцу, якія нам раздавалі на ўроках медпадрыхтоўкі ў інстытуце. І то — прызнаюся — мне

было шчыра шкада гэты кавалак гумы, гэткі безабаронны, сколаты грубымі голкамі, гэткі пяшчотна-памаранчыкавы...

Гэткім жа пяшчотна-памаранчыкавым стала аблічча Разаліі, калі тая пачула пытанне Далілы.

— Калі жанчына разглядае фотаздымак мужчыны, значыць, успамінае мужа? Ці вы лічыце мяне гэткай старой, што не пра мужа я не магу і думаць? Каб вы ведалі, як вы памыляецеся... А гэта... гэта ўнук нягодніка і ката.

Даліла і Едрусь перазірнуліся. Але старая заківала галавой.

— Меладраматычна гучыць? Але праўда... Мы з Севам вучыліся разам у... Якая розніца, дзе? У будатрадзе ён выцягнуў мяне са студні. Ды не, назва была адна, а не студня. Ламаччам закіданая і без вады. А я заўсёды была... няўважлівай. Мы плавалі ў рэчцы пад назвай Лана, ноччу, сам-насам з поўняй... І... не было між намі таго, пра што вы падумалі, маленькія амаральныя істоты. Мы бераглі гэта... Каб спраўдзіць менавіта тады, калі належыць, калі нас блаславіць і неба, і зямля, і людзі... Хаця думкі апошніх нас цікавілі найменей. А потым я даведалася, з якой ён сям'і. Я ж думала — супадзенне, падобнае прозвішча... Не, аказваецца, дзед ягоны — той самы Касіянаў, былы дэпэушнік і нкусавец... Вядома, калі мы пазнаёміліся з ягоным унукам, таварыш Касіянаў быў ужо генерал у адстаўцы. Я нават у госці да яго хадзіла, у якасці нявесты ўнука. І дзед той мне падабаўся... Старэнькі, паперхвае ўвесь час, але ўсмешлівы, вясёлы... Жартуе разумна. Кніжкі інтэлектуальныя чытае. У мастацтве разбіраецца. Мне кніжку пра Сальвадора Далі падараваў — а тады ж гэта быў страшэнны дэфіцыт. І памёр сваёй смерцю не так даўно, паляжаўшы ў лечкамісіі, паездзіўшы па Друскеніках ды Місхорах. А мае родныя — яны ж амаль усе тут ляжаць. Расстраляныя як «ворагі народа». Ноччу, крадма... Так, тут, на гэтых могілках, таксама стралялі і закопвалі людзей у ямы, як быдла... Каб ні следу... Дзед не быў палітыкам. Не быў вайскоўцам. Усяго толькі дзякам у Крыжаўзвіжанскай царкве — яе ўжо няма. У трыццаць трэцім зруйнавалі. А дзеда майго арыштавалі. Падстава

для арышту была смешная... Нават не тое, што служыў у царкве, і не святы абраз — а груша.

— Палітычна няправільная груша? — засмяяўся Генусь. Бабулька дробна затрэслася.

— Ненавіджу грушы... Галіны, цяжкія ад пладоў, звешваліся за плот... Таварыш Касіянаў ехаў на аўтамабілі... разам з яшчэ адным такім, нібыта інтэлігентам-навукоўцам, а насамрэч стукачом слынным. Па нашай вулачцы гэта, напэўна, першы аўтамабіль праязджаў.

— Начальнік сарваў ігрушу, а ваш дзед пачаў лаяцца? — здагадалася Даліла.

— Дзед ніколі не шкадаваў ігрушаў для мінакоў! — пакрыўдзілася хворая. — Проста галіна сцебанула таварыша навукоўца па твары. Моцна, да крыві... Можа быць, гасподзь падаў яму знак спыніцца на той крывавай дарозе, на якую ён стаў? Але каты ніколі не спыняюцца, каты нават паміраюць катамі. І чаго так блізка да плота пад'ехалі? І чаго гэты нягоднік не адхіліўся? Як спецыяльна... Касіянаў раскрычаўся — контррэвалюцыйны замах. А дзед яшчэ пачаў пярэчыць, што не трэба ссякаць дрэва.

— А што той, навуковец?

— Нібыта ціха сядзеў... Нават супакойваў сябрука-ката: маўляў, нічога. Добранькім хацеў падацца, сволач. Мне пра яго пасля расказалі: палову ўніверсітэта свайго перасадзіў, гад. Скаловіч ягонае прозвішча... Нават у энцыклапедыях дасюль ёсць. Геній, ці ж бачыце, у хіміі. Нічога, самога праз год разам з ахвярамі расстралялі. А дзеда забралі тым жа вечарам. Ён і хавацца не стаў — навошта? Людзей нават у Казахстане, у Сібіры знаходзілі. Бабуля насіла перадачы ў турму. Яна была цяжарная маёй маці і чакала гадзінамі кожны дзень у чарзе такіх жа сваякоў арыштаваных — няшчасныя кабеты з клуначкамі... Год хадзіла... А пасля ў яе аднойчы не прынялі перадачу. А ў трыццаць сёмым забралі і бабулю. Маці выхоўвалася ў дзіцячым доме. Гэта цуд, што бабуля выжыла ў лагеры для жонак «ворагаў народа». Называўся ён экзатычна — «АЛЖИР», «Акмолинский лагерь жен изменников родины». Другі цуд — што, выйшаўшы на волю, пасля вайны, яшчэ да пачатку «рэабілітансу», знайшла сваю

дачку, тады ўжо трынаццацігадовую дзяўчынку, худую, як запалка, і апантаную піянерку... Якая пасля спрабавала атруціць злачынную маці.

— Як гэта? — разгубілася Даліла. — Дзіця?

— А што — дзіця? — прабурчэла старая. — Дзеці — яны і ёсць найлепшымі катамі, бязлітаснымі, вынаходлівымі... Што Аркадзь Гайдар, які ў пятнаццаць гадоў уласнаручна расстрэльваў белагвардзейцаў, што кітайскія хунвэйбіны, якія абмазвалі смалой сваіх школьных настаўнікаў і клалі на сонца... І праз кожныя некалькі гадзінаў — пакуль няшчасныя варушыліся — падмазвалі яшчэ... А высакародная ідэя, каб апраўдаць дзіця-забойцу, знойдзецца заўсёды. Маёй маці было трынаццаць гадоў, яна пакутавала, што жыве з ворагам савецкай улады... Вось тут, у гэтым дамку ля могілак... Ды яшчэ пасля лагераў мая бабуля не была надта прыветнай ды ласкавай. Піянерка аблупіла галоўкі ад серніцаў — цэлую пушку ўзяла — і натрушчыла ў каву... Яны тады пілі жытнюю каву — з пражанага збожжа.

— І што? Ваша бабуля заўважыла? — зацікавіўся Едрусь. Разалія Іванаўна няўхвальна паглядзела на ягоную фрызуру — валасы забраныя ў хвост, ды яшчэ бялявая коска таўшчынёй з лазовы прут звісае над вухам, пераплеценая чорнай ніткай.

— Выпіла мая бабуля тую каву... Але арганізм, відаць, загартаваны быў да любой атруты. Паванітавала — і нічога.

— А потым — як жа? — жаласліва спытала Даліла, падумаўшы пра сваю зеленавокую дачушку Віку, што зараз адрывае лялькам парэпаныя пластыкавыя ногі ў гульнявым пакоі групы нумар дзесяць дзіцячага садка завода ацяпляльнага абсталявання.

Галава Разаліі Іванаўны трэслася, нібыта старая адмаўляла тое, што гаворыць.

— А потым — мая маці прызналася... Бабуля даравала... Хаця да канца яны адна адну так і не прынялі.

Разалія Іванаўна памаўчала.

— Калі мая маці падрасла, здаецца, тое-сёе зразумела... Прынамсі, чаму ў гэтай хаце піянеры б’юць вокны. А яшчэ пачытала запісы сваёй маці пра тое, што давялося перажыць

у турме і ў лагерах. Я таксама паспела пачытаць... І прозвішча Касіянаў было там на кожнай старонцы. Сёння сказалі б — садыст... Хаця сам ён ніколі нікога не біў. Нават пальцам, казалі, не крануў. Але што ён вытвараў з людзямі! Быццам хацеў сцвердзіцца ў думцы, што любога чалавека можна давесці да стану жывёлы. Вызваліць з ягонае душы звера, а потым — ператварыць звера ў казюрку... Нікчэмнасць... Сапраўдную навуковую сістэму распрацаваў.

Разалія Іванаўна перарывіста ўздыхнула, і Даліла паспяшалася падаць ёй вады ў кубачку з застарэлымі пісягамі ад густой заваркі ўнутры і намаляванымі вішанькамі звонку. Старая прагна выпіла.

— Дзякую... Гэта называецца — ёсць каму вады падаць... Мая бабуля ўсё паўтарала, што ёй не падасць перад смерцю ніхто. А мая маці страшэнна злавалася. Яна ж была студэнткай медвучылішча, марыла ратаваць параненых на полі бою. Усё роўна, дзе тое поле бою, — ясная справа, «нашы» будуць ваяваць за высокую справу. І бацьку майго яна сустрэла падчас гэткіх «вучэнняў». Уключалі сірэну, усе, хто ішоў у гэты момант па вуліцы ці гуляў па прысадах парку, абвяшчаліся ў зоне паразы хімічнай зброяй... Вось бацька мой, курсант, і патрапіўся — рупная дзяўчынка-сандружынніца паўгадзіны пераконвала яго, што ён цяжка атручаны і мусіць легчы на насілкі.

Калі маці выйшла замуж за майго бацьку, Сталін ужо памёр. Нават помнік яму на Кастрычніцкай плошчы паспелі знесці. І таварыш Касіянаў вырашыў ратавацца... Вядома, чужымі пакутамі. Вынаходзіць новыя справы. Ён адсачыў сваіх былых «кліентаў»... Мой бацька быў вайсковец. У вайну застаўся сіратой, служыў сувязным у партызанскім атрадзе. Скончыў артылерыйскую вучэльню. Вядома, сувязь з сям'ёй «ворага народа» даказвала, што ён — шпіён. Маіх дзеда і бабулю яшчэ не паспелі рэабілітаваць... Бацька не вытрымаў ганьбы арышту. Седзячы ў камеры, загнаў у горла алюмініевую лыжку. Так я і вырасла — пад ненавісныя спрэчкі дзвюх пакрыўджаных лёсам кабет аб тым, ці шмат дала нам савецкая ўлада і хто вінаваты ў смерці мужчын з роду. А потым з'явіўся Сева...

Кветачніца ўзяла фотаздымак, заклееены плёнкай, і беражліва схавала між старонак альбома, нібыта зачыніла ў шафу знакаміты шкілет, які мусіць мецца ў кожнай сям'і.

— І чаму ён уздумаў засіліцца на грушы? — цяпер Разалія Іванаўна не гаварыла, а шаптала. — Гэта лёс? Ці ён даведаўся? Калі б не тая груша... Чаму я ні разу не знайшла яе... Можа быць, дастаткова было б адламаць адну галінку... Многімі і разнастайнымі чынамі прыносяць людзі ахвяры нескароным анёлам, казаў блажэнны Аўгустын, які так любіў сваю маці, што адрокся ад маці свайго сына. А я?

Голас старой стаў зусім нягучны. Едрусь зірнуў на Далілу і пакруціў пальцам ля скроні. Даліла спачувальна прыўзняла бровы. Хвораму і дурнап'яну есці не трэба...

Аднойчы яны зайшлі да кветачніцы ўтрох. Чарнявая Даліла ў чорным (туніка з матузамі), бялявы Едрусь таксама ў чорным (майка з выявай пражскага габрэя Кафкі), а чарнявы Генусь, арыгінал такі, у марынарцы. Падобна, чорнае хутка стане фірмовым адзеннем нашай каманды.

— Ну, дзе твая бабулька?

— Ціха, не шуміце, спіць яна, відаць.

Аднак на ложку, пад коўдрай з гарэзнымі надпісамі «Чыкага» — о вялікі сэканд-хэнд, ты з'ядноўваеш народы! — старой не было.

— Ды куды ж яна падзелася? Запалі святло, Едрусь...

— Ляжыць! Тут, у куце, пад абразамі... Памажы...

— Разалія Іванаўна! Спадарыня Разалія! Чуеце?

— Зараз... Як жа... Пачуе... Яна... яна... не цалкам... Яна разрэзаная...

— Не гарадзі абы-што, Тэрмінатар.

— Каб я здох! Дзе ейная галава? І плечы? У сценцы, ці што?

— А кроў тады дзе? Ой, халера... Праўда, нібы ў сценку ўвайшла...

— Давайце паспрабуем адцягнуць яе...

— Не чапай! Міліцыю трэба!...

— Паспееш... Лепей цягні... Вось... Галава... проста са сценкі выходзіць... І рукі...

— Цэлая твая старая. Але... Матка Боска... Усё роўна...

— Можа, укол які трэба зрабіць? Даліла, у цябе ж ёсць...

Але ніякія ўколы Разаліі патрэбныя не былі. Нават корань мандрагоры не мог разбудзіць сваім несамавітым крыкам гэтае цела. Старая глядзела ў чорную столь сваёй хаты вачыма такімі нерухомымі, што, здавалася, па іх можна пастукаць, як па шкле.

І тады Едрусь падышоў да сцяны і паспрабаваў дакрануцца да шпалераў з выцвілымі ружамі...

**ГУЛЬНЯ № 1**

Пасля мы спрабавалі адно аднаму пераказаць, што адбываецца па той бок сцяны. Словы падалі, як цьмяныя штучныя перліны, не здольныя адлюстраваць нічога. Вядома, мы шукалі адказы, чаму менавіта ў хаце Разаліі Іванаўны ўтварыліся дзверы ў іншы час, і як такое ўвогуле магчыма. Яшчэ да таго, як да Гульні далучылі мяне, Макс адкапаў у Інтэрнэце звесткі пра Чорны Камень на ірландскай ферме, ля якога час ад часу знікалі жывёлы і нават людзі, пра зялёную калону з жоўтымі пражылкамі ў левым куце мячэці маленькага гарадка Саудаўскай Аравіі, ля якой ніколі не моляцца, бо аднойчы раніцай убачылі, што з каменю высоўваецца рука... Рука немаладога мужчыны, спрацаваная, з чорнымі пазногцямі, аголеная па локаць... Руку сузіралі цікаўныя цягам часу між двума ранішнімі спевамі пеўняў, глядзелі, як б'ецца жылка на запясці, а потым рука варухнулася і ўцягнулася ў калону, як слімак у сваю ракавінку. Самае страшнае, казалі сведкі, — менавіта кантраст паміж будзённым, нехлямяжым, прафанным выглядам канечнасці — і неверагодным, звышчалавечым яе месцазнаходжаннем.

На лонданскай Канон-стрыт, насупраць Кітайскага банка, у закратаванай нішы захоўваецца камень Брута. Саксонскі кароль Этэльстан распавёў летапісцу, як ён праз гэты камень хадзіў па сваю карону. Вытанчаная срэбная карона нагадвала ўпрыгожанні піктаў у часы росквіту іх цывілізацыі, якая пры Этэльстане заняпала да людажэрства і касцяных упрыгожанняў. Паўстанец Джэк Кэйд нібыта пры дапамо-

зе каменя Брута зайшоў у Лондан, і спаліў яго, і абвясціў сябе каралём Мантгомеры... Хаця які сэнс абвяшчаць сябе каралём пажарышча — ведае толькі егіпецкі бог Гор, адказны за самалюбства.

І гэтак далей, далей... І паспрабуй адрозніць, дзе спрацавала фантазія затурканага начальствам журналіста, якому абавязкова — дэд-лайн праз гадзіну — трэба скінуць у стужку навінаў сем сенсацыйных паведамленняў, а дзе — рэальныя падставы паўтараць словы Гамлета да Гарацыя... Ёсць, маўляў, многае на свеце...

Свет нагадвае скамечаны ліст паперы, таму нам у ім няўтульна, і мы ўвесь час саслізгваем з абранага шляху. А тут патрапілі на самы згін, сцёрты так, што ўтварылася невялікая дзірачка...

Куды можна выйсці праз такое выпадковае акенца?

Запісы Разаліі Іванаўны ў зялёным нататнічку з залатым надпісам «Ленінград» пачыналіся: «Менск, 1933 год».

Лагічна было падумаць, што ты трапіш на тое самае месца, дзе цяпер знаходзішся, толькі ў іншым часе, і першае, што ўбачыш, — яшчэ не зруйнаваныя могілкі, касцёл, капліцы, распісаныя знакамітым мастаком Янам Дамелем...

Але не ўсё так проста... Не ў госці схадзіць да бабулі Ганны на бліны ці да суседа Радаслава на каньяк. Ты прабіраешся Туды, у чужы асяродак, нібыта спрабуеш скрозь поліэтыленавы занавес дакрануцца да чужога аголенага цела. Кагосьці часткова замяшчаеш, выціскаючы яго таксама некуды... І прыцягвае цябе абавязкова яна, Смерць.

І плата за знаходжанне Там была высокая. Як за знаходжанне ў любым чужародным асяродку — у вадзе, агні, на лютым марозе ці страшэннай вышыні. Стан трохі падобны на ліхаманку пры высокай тэмпературы... Хвіліны забіралі гады. Гэта на прыкладзе Разаліі Іванаўны было відно.

З таго, што запісала Разалія, вынікала: яна ўпарта спрабавала выправіць лёс свайго роду, скручаны, як жалезны крыж, у які ўдарыла маланка... Абрэзаць галінку дзедавай ігрушы...

Мы, цынікі-маргіналы, пасмейваліся: зацыкленая няшчасная Беларусь на пладовых дрэвах. Ігруша на беразе Дняпра з прэлюдыі «Каласоў пад сярпом тваім»... Ігруша з пост-

мадэрновага рамана гомельскага літаратара Балахонава, у ствале якой кінутая кабета пахавала труп забітага каханка... І зноў «Імя грушы».

Кветачніца ўсур'ёз спадзявалася, што як толькі галінка знікне — павінен знікнуць і высокі жалезны крыж з бляшаным вяночкам на ўскрайку могілак. Дзе ляжыць ейны Сева.

Даліла, вядома, узяла да галавы. Выканае, маўляў, запавет...

Але смерць кожнаму прапаноўвае сваю галінку.

І кожны сам выбірае, ці гуляць яму са смерцю...

Чаму дасюль вінавацяць англійскага мастака-дэкадэнта Обры Бердслея ў распусце? Ён быў прававерны каталік... Але хварэў з васьмі гадоў на сухоты. Кажуць, хворы на сухоты ў пэўны момант свае хваробы перажывае павышаную сэксуальнасць.

Багдановіч, таксама хворы на сухоты, пакінуў дзённік, дакладней, некалькі алоўкавых запісаў на аркушах паперы пра адносіны з замужняй жанчынай Клавай. Бердслей, які ненадоўга перажыў Багдановіча, маляваў падоўжаныя, як у блёкаце, белыя жаночыя целы з чорнымі кветкамі граху.

Перад смерцю пакаяўся. Папрасіў спаліць грахоўныя малюнкі, асабліва ілюстрацыі да «Лісістраты» — неверагодна вялізныя напружаныя чэлесы, белыя жаночыя сцёгны, як узбітыя вяршкі...

Менавіта хвароба спараджае падвышаную пачуццёвасць ды эмацыйнасць. Здаровы, па-прыроднаму здаровы чалавек ураўнаважаны і не стане засільвацца з-за таго, што самка адмовіла яму ў спарванні альбо чужая бабулька папрасіла спілаваць галінку грушы коштам у некалькі гадоў твайго жыцця.

Але ніхто з нас ураўнаважаным ад пачатку не быў.

Першым Туды пайшоў Едрусь.

Мой Едрусь. Худы бялявы рокер з блакітнымі вачыма, няспраўджаны млынар...

...Чалавек, на якога глядзіць Едрусь, крануў пяром аркуш. Маленькая кропачка атраманту... Быццам першая ракавая

клетка. З яе можа вырасці літара, потым — метастазы слоў... сказаў... Смяротная пухліна.

«Я, Павал Глебавіч Налецкі, 15 красавіка быў запрошаны на невялікі банкет у дом прафесара гісторыі Люцыяна Нічыпаровіча з нагоды дня народзінаў гаспадара. Паколькі я працую з прафесарам у адной установе (Бел. універсытэт), і паколькі я ведаў, што сярод гасцей будуць комуністы і камсамольцы, я вырашыў пайсці. Хаця да мяне даходзілі чуткі, што прафесар Нічыпаровіч яшчэ не да канца пераадолеў у сабе буржуазна-ліберальныя ўхілы...»

Пяро затрымалася... Павал Глебавіч асцярожна паклаў яго. Нібыта яно магло выстраліць... Па вялікім рахунку, можа. Налецкі незаўважна для сябе пачаў разважаць услых. Не, не, гэта невыносна... За што такое на старасці гадоў... Калі яго змусілі напісаць «адчот» пра тую злашчасную вечарынку ў педтэхнікуме, ён жа не напісаў нічога кепскага... Выбіраў кожнае слова... Але як, як ён мог не згадаць пра выбрык гэтага ненармальнага шляхцюка з Камароўкі Апіевіча! Гарлаць пры сведках пра тое, што няшчасную Беларусь падзялілі між Усходам і Захадам, і топчуцца, і разрываюць яе жывое цела...

Дваццаць гадоў таму і сам Налецкі мог кінуць падобнае ў твар нават жандарам... Тады ён не быў баязліўцам. А цяпер... Ён жа вымушаны... У яго жонка... Дачка... Не за гарэлы блін душу аддаць... Не ён — дык іншыя напішуць. Ды што крывіць? Колькі пер'яў рыпяць у гэты ж самы час, апісваючы застолле ў Нічыпаровіча! І, напэўна, тыя, што старанна выводзяць літару за літарай, не вярэдзяцца, яшчэ і перакананыя, што робяць добрую справу... Асабліва — той, чарнявы мярзотнік Валяр'ян Скаловіч, што сядзеў за сталом насупраць. Нездарма ж сябруе з галоўным катам горада, Касіянавым. Налецкі сам бачыў, як ехалі яны разам у шыкоўным чорным «Фордзе». Дзіва што — хто з такім тыпам, як Скаловіч, будзе яшчэ сябраваць? Скура белая, быццам з сутарэнняў ніколі на сонца не выпаўзаў. Цёмныя валасы — неахайнымі прадкамі, нібыта ніколі не прычэсваецца. І гэта на пятым дзясятку, прафесар! Вочы з'ездлівыя, нос вялікі, кручком, на вуснах змяіная ўсмешка. Але знеш-

насць нічога ў параўнанні з характарам. Кажан. Незразумела, чаму Нічыпаровіч яго так любіць. Глядзіць — нібыта бацька на хворага сына. Не аднімеш, Скаловіч — геній у хіміі. Каб хацеў — даўно апынуўся б зноў у якой Сарбоне... Грахі не пушчаюць, ці што? Успомніць толькі гісторыі з закаханымі студэнткамі... Што яны знаходзілі ў гэтым мярзотніку? Ён жа ўсміхацца нармальна не ўмее. Выгляд, нібыта з жанчынай ні разу ў жыцці не цалаваўся.

Так, гэты не будзе вагацца — даносіць або не. Кажуць, нават студэнтаў сваіх не шкадуе, пасылае на перавыхаванне ў ДПУ.

Ён, Налецкі, ніколі не будзе перакананы ў тым, што данос можа быць добрай справай.

Апіевіч павесіўся б усё роўна — пісаў пра яго, не пісаў... Акрамя таго — ён жа, у адрозненне ад некаторых, не падлюга.

...ён — узважвае — кожнае — слова

З фотаздымкаў у зялёных рамках на гаспадара пакоя глядзелі добрыя ўсмешлівыя вочы. З'езд славістаў... Гадавіна вяселля з Ганнай... Дачка — на лецішчы ў Ліфляндыі, у матросцы, на трохколавым роварчыку...

Пяро ізноў кранула паперу, нейкім рыўком, нібыта ўпілося ў яе сваёй жалезнай дзюбай.

«Акрамя мяне, сярод гасцей знаходзіліся загадчык кафедры неарганічнай хіміі БДУ Валяр'ян Скаловіч, выкладчык педтэхнікума літаратуразнаўца Пятро Замоцкі, паэт Змітрок Кадура і яшчэ два чалавекі, якіх я асабіста не ведаю. Аднаго звалі Андрэем, другога Антонам. Апошні быў у суправаджэнні жонкі. Яе імя я не запомніў».

Запомніў, яшчэ як запомніў! Антаніна. Антон і Антаніна... Абое студэнты. Ён — вучань Нічыпаровіча, будучы філолаг, камсорг універсітэта, яна — хімік. Прыгожыя, маладыя... Асабліва адметныя ў яе вочы: зялёныя, як смарагд, і трохі з усходнім разрэзам, быццам у Неферціці.... Як Антаніна пагардліва зірнула на яго, Паўла Налецкага, старога, ссівелага навукоўца з сусветным імем, калі ён сказаў, што не варта трымацца за старыя ілюзіі, хіба мала — сумленна працаваць, рабіць сваю справу. Каб захаваць хоць нешта для нашчадкаў, для тых, хто захоча адкапаць гэтую Трою, засыпаную палітычнымі пяскамі...

Пра тое, што яна яму сказала, ён не напіша.

«Беларусь разадралі напалам, вынішчаюць яе лепшых сыноў, дасылаюць кіраваць ёю чужынцаў... Катаў з іншых краёў, малаадукаваных, без сумлення, без чалавечнасці. Але Беларусь моцная. Яна не памрэ. А вось дзеля яе варта памерці».

Застаецца спадзявацца, што Скаловіч тых słоваў не чуў. Вось ужо ад гэтай студэнткі любоўных цыдулак мярзотнік не дачакаецца.

Налецкі і сам калісьці думаў, як Антаніна. А цяпер... Хто ён цяпер? Ён усё яшчэ верыць, што можна збалансаваць паміж подласцю і сумленнасцю?

Можа быць, варта выкрасліць сказ пра буржуазна-ліберальныя ўхілы? Але ж пра гэта пісалі ў «Звяздзе»... Не было б Рымшы — дык быў бы чорт іншы... Калі не напісаць — атрымаецца, што ён замоўчвае, альбо — барані Божа! — падзяляе погляды Нічыпаровіча...

Насамрэч, вядома, падзяляе. Нічыпаровіч — не тое каб душэўны сябра, але калега самы паважаны, высакародны па-старасвецку, да наіўнасці...

«Мы пілі віно партвейн, а яшчэ гарэлку, якую прынёс паэт Змітрок Кадура. Я выпіў таксама, таму мала памятаю, што гаварылі за сталом. Размова насіла бытавы характар. Памятаю, што Кадура чытаў свой верш, у якім давалася апісанне буры. Магчыма, тут быў нейкі палітычны намёк, але, паколькі я быў п'яны, я гэтага дакладна не зразумеў».

Чалавек кладзе пяро на стол і выцірае дрыжачай рукой спацелы лоб. Але, здаецца, пакуль нічога кепскага не напісана. Зараз жа гнюсны, ненавісны страх сціснуў сэрца. Вось гэта і не спадабаецца! Яны адразу ж вырашаць, што ён ілжэ, не хоча супрацоўнічаць па-сапраўднаму! А тады... Ён ужо пабываў у іх кабінетах і іхніх сутарэннях. Застарэлы смак крыві ў роце, кроў, якая цячэ з носа проста ў горла, так, што захлынаешся... Перхаеш крывёй... Ходзіш у прыбіральню крывёй... Не, болей — ніколі! Урэшце, не ён — іншыя ўжо даклалі... Успомні пра Скаловіча!

Пяро нібыта само скочыла ў знямелыя пальцы.

«Прафесар Нічыпаровіч вельмі хваліў верш Кадуры і сказаў, што беларусы — таленавіты народ, толькі, як гаво-

рыцца ў казцы, начальства Бог заўсёды пасылае яму самае паганае».

Павал Глебавіч схамянуўся і пераправіў літару «Б» у слове «Бог» на малую.

«Я не адобрыў слоў прафесара, нагадаўшы, што зараз нарэшце ўлада належыць народу. На гэта прафесар адказаў, што гэта вялікі зман, і на змену старым дыктатарам прыходзяць новыя, толькі менш пісьменныя, якім непатрэбная беларуская культура, да таго ж многія прыехалі з іншых краёў».

Пяро на хвілю затрымалася. Што далей? Распісваць, як абурылі яго, даносчыка, словы прафесара? Няшчасны Нічыпаровіч... Але ж павінен быў гэты стары ідэаліст разумець, што сам наклікае сваю смерць! А Кадура... Ды ён жа правакатар! Як гэта раней не зразумелі! Вядома, ходзіць, гарлае, чытае вершы! Вось і на зборышчы ў Нічыпаровіча, гледзячы ў прыгожыя вочы Антаніны, прачытаў верш Янкі Купалы, да якога цягаецца, як галодны заяц да цешчы на бліны:

Раз абселі беларуса
Маскалі ды Ляхі
І давай яму сваяцтва
Тыкаці з-пад пахі:
— Ты мой ісцінны браточак! —
Маскалёк бармоча;
— Ты мой хрэснік, мой сыночак! —
Юда-Лях сакоча.
Беларус жа ім на тое:
— Сваячкі мае вы!
Смачны жолуд вам на каву,
Дый высока дрэва!

Вар'ят... Правакатар... Але такі малады. Ён столькі мог бы стварыць... І яго кроў ляжа на гэтыя рукі...

Рукі сялянскага сына з Веткаўскага павета, за здольнасці вывучанага вясковым дзячком ды пасланага на грошы апякунства ў Магілёўскую семінарыю...

Налецкі перагортвае ў памяці старонкі свайго жыцця, нібыта рыхтуецца не забіць, а памерці.

З семінарыі, аднак, пайшоў не ў святары. Пакуль жыў, здымаючы на мізэрную дабрачынную стыпендыю катух у мясцовага краўца, знайшоў у шафе Біблію на іўрыце, што належала яшчэ прадзеду сённяшняга гаспадара дома. І, ад цікаўнасці і самоты, вывучыў па ёй, успамінаючы некалькі семінарскіх урокаў па старажытнагабрэйскай, іўрыт... Гэта была шостая мова, якой авалодаў веткаўскі «вундэркіндэр», — пасля польскай, рускай, нямецкай, лаціны і грэчаскай. Беларуская ў гэты пералік, зразумела, не ўваходзіла... Што за мова? Грубая мужыцкая гаворка! Ад якой належала як мага хутчэй пазбавіцца, каб не выклікаць насмешак адукаваных людзей.

Магілёўскія габрэі прыходзілі паглядзець на дзіва: шаснаццацігадовы беларускі хлопец вольна чытае Тору! Як можна даць такому таленту згінуць у глухой правінцыі імперыі? Скінуліся хто колькі мог, ды яшчэ дадало грошай мясцовае таварыства прыгожай славеснасці... І Пятрок апынуўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце на аддзяленні ўсходніх моваў. І ўжо славутым маладым вучоным, аўтарам трох манаграфій, дзясяткаў артыкулаў, мужам прыгажуні з сям'і піцерскага архітэктара змушаны быў наведаць родную вёсачку, загубленую між палескіх балатоў. Ехаў, каб атрымаць дазвол «обчества», да якога па законе быў прыпісаны, як селянін, на «открепление» — каб мець магчымасць працаваць настаўнікам... «Обчество» належала паіць, карміць дні тры, як на вяселлі, улагоджваць, каб далі грамадою згоду. А сусед-апівоха ўсё куражыўся над «вучоным»: «А вось не адпусцім цябе! У паны захацеў! Заставайся з намі гной варочаць!»

Адпусцілі... Потым была вялікая праца. Міжнародныя канферэнцыі, лекцыі, дыскусіі, змаганне з цэнзурай. Адкрыццё Беларусі і яе мовы. Гістарычныя крыніцы, якіх дагэтуль упарта не заўважалі. Зборнік народных казак, за які яго маглі адны — спаліць на вогнішчы, як блюзнера і сакрушальніка «устоев», а другія — ушанаваць вечнай павагай і ўдзячнасцю...

Не спалілі. Не ўшанавалі. Лаўровы вянок, як і цярновы, даецца толькі абранцам. А ён у душы так і застаўся звычай-

ным сялянскім сынам — абачлівым, няўпэўненым у тым, што заўтра не выгарыць ягоная ніва, не адбяруць ліхія паны апошнюю худобу... З пакрыёмым, агідным самому жаданнем цалаваць у ручку таго, хто можа паслаць на стайню... Пасля, можа, выйдзе мужык з панскіх пакояў ды сплюне, ці выдзера з плота калаціну на панскую спіну... Але пакуль трэба бараніць сябе ды свой надзел, чаму б не схіліцца... Ён ненавідзеў у сабе гэта сялянскае, халопскае, у маладосці, здаралася, трымаўся сярод свецкіх, бліскучых знарочыста годна, часам нават задзёрзка... Потым, калі з'явіўся дасканалы касцюм, пенснэ, партфель з англійскай скуры — гэта сталася залішнім. Інтэлігент да апошняй валасіны.

Рэвалюцыя гукнула голасам колішняга суседа: «Бач, панам зрабіўся! А да обчаства вяртайся, у гной!»

Было невыносна цяжка... Але з крыві і гразі паўстала Беларусь. Тое, пра што не марылася ў самых смелых мроях. Такія ж сялянскія сыны задумалі стварэнне акадэміі і ўніверсітэта — у якіх гаварылася б на мове тутэйшага люду. Ён прыняў запрашэнне, не разважаючы.

А потым.... А потым былі гады волі і веры, якія паступова змяніліся на адчуванне, што сядзіш у палонцы, вада ў якой паволі замярзае, ператвараецца ў лёд, і вось-вось абхопіць цябе цвёрдымі халоднымі абцугамі, і згасіць апошнюю жарынку жыцця... Маленькія саступкі новай уладзе — добра, я звольню гэтага асістэнта... Галоўнае — не чапайце кафедру. Добра, мы аб'яднаем нашы кафедры... Але дайце магчымасць выкладаць надалей. Добра, я не буду называць у лекцыі гэтых імёнаў — пакіньце тыя... Яны таксама вартыя. Добра, далучу да шэрагу вартых прозвішча аднаго патрэбнага і важнага пустазвона... Ну хаця б у такім выглядзе гэта надрукуецца?

Ён падпісваў паперы, згаджаўся — вядома, з агаворкамі, з адваёвамі нечага ўзамен на нешта... Але ад душы адкусвалі кавалачак за кавалкам, і яна сцякала сумленнем... Першым не вытрымала не душа — сэрца.

Павал Глебавіч устае... Пяро падае на стол з цёмнага дрэва, кроплі атраманту на пашарпанай паверхні амаль не бачны. Як кроў на крыві. За што? Як жыць далей з гэтым

на душы? Дрыжачая рука імкнецца скамечыць ліст... Боль, які перапаўняе сэрца, раптам выплюхваецца, ахоплівае ўсё цела... Налецкаму здаецца, што над ім нахілілася тая амаль незнаёмая дзяўчына Антаніна, чужая жонка, і шэпча: «Так будзе лепей...»

Едрусь, задыхаючыся, глядзеў на чалавека, які ўпаў на падлогу. Які боль... Нібыта спыняецца сэрца. Але ж увесь гэты час госця з будучыні як бы тут не было — не варухнуцца, не ўмяшацца ў падзеі. Трызненне? Сон? Але ж госць сачыў, як гаспадар пісаў свой «адчот», запомніў кожнае слова... І пры гэтым — не адчуваў уласнага цела. Ён што, таксама памёр? Едрусь амаль у жаху паспрабаваў варухнуцца. Дзякуй Богу, цяпер можа рухацца. Правёў рукой па твары... Хістаючыся, нахіліўся над гаспадаром... Павал Глебавіч Налецкі глядзеў у столь шырока расплюшчанымі, нібыта здзіўленымі, вачыма, у кутках якіх блішчэлі слёзы. Рокер асцярожна дакрануўся да рукі гаспадара... Адчуванне — нібыта спрабуеш нешта ўхапіць пад хуткай плыннью... Пульсу няма. Можа, трэба зрабіць якісьці масаж сэрца?

Але Смерць ужо паставіла тут сваё кляйно. Едрусь нібыта адчуваў яе нялюдскі, цяжкі гнеў на недазволенага сведку ейнай працы.

Трэба адсюль сыходзіць...

Перад тым, як выйсці з пакоя, завешанага пажаўцелымі фотаздымкамі ў зялёных рамках, госць скамечыў і сунуў у кішэню спісаную няроўным старэчым почыркам паперу.

Вядома, першы раз Едрусь не паспеў нічога толкам ні разгледзець, ні паспрабаваць змяніць — гэта пасля мы адзін за адным пачнём тузаць за ніты не намі сатканага сувоя.

Наш рокер блага памятаў, што было потым. Ішоў праз нейкія дзверы, спускаўся па лесвіцы... Нібыта бачыў іншых людзей. Ці бачылі яны яго? Ніхто не загаварыў, не спрабаваў затрымаць. Так выйшаў і на вуліцу. Шэрае неба, як мёртвае вока. Пад нагамі мерзлы бруд. Холаду не адчуваў... Менск... Але непазнавальны. Драўляныя дамы, незнаёмая цэркаўка за імі — як светлы анёл за спінамі сагнутых старэчаў, што рыхтуюцца ў апошні шлях. Што яшчэ? Прысмак медзі ў

роце. Такі бывае, калі прыкладзешся да старога крыжа. Незвычайная лёгкасць — і туга ад усведамлення, што гэты свет — толькі цень.

Едрусь не шукаў шляху назад — дый у тым сваім стане і не мог бы знайсці. Дзе тыя могілкі, дом Разаліі, злашчасная груша? Яго проста нейкая неадольная сіла выціснула назад, бы кроплю алею з халоднай вады.

У кішэні Едруся, які вываліўся проста са сцяны на драўляную падлогу дома Разаліі, хапаючы паветра ротам, быццам выцягнутая з вады рыбіна, ніякай паперкі не засталося. Але і ў сакрэтных архіўных тэчках даносу Налецкага Макс не знайшоў. Хаця праверыў, як мог, па архівах, а Генусь па Сеціве «прабіў». Высветлілася, усе, хто названы ў незакончаным даносе, былі неўзабаве пасля «банкету» арыштаваныя і асуджаныя. Скаловіч, аднак, праз паўгода адпушчаны. Выслужыўся, зразумела. Шкада, у энцыклапедыях не прынята дадаваць да навуковых званняў слова «даносчык». Значылася толькі: «Нарадзіўся ў 1890 г. у г. Мінску. З сям’і артыстаў. У 1911 г. скончыў хімічнае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта Юр’еўскага ўніверсітэта, у 1913 — Вышэйшыя педагагічныя курсы (аддзяленне фізікі, матэматыкі і касмаграфіі), абараніў кандыдацкую дысертацыю. У 1913–1923 гг. працаваў у Сарбонскім універсітэце. У 1923–1933 — прафесар і загадчык кафедры неарганічнай хіміі БДУ, дэкан хімічнага ф-та (з 1931). Неаднаразова арыштоўваўся органамі НКУС. У 1934 абвінавачаны ў «шпіёнска-дыверсійнай дзейнасці» і асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Час і месца смерці невядомыя».

Яшчэ былі спіс навуковых прац ды падрабязнасці ўкладу ў развіццё каардынацыйнай хіміі і нейкіх там пераксідных злучэнняў.

Тады ўдзельнікам Гульні здавалася, што калі яны сутыкаюцца з кімсьці па той бок сцяны, гэта выпадковасць. Наіўныя!

І яшчэ вырашылі: хаця папера са стала прафесара ў нашым часе не з’явілася, але ж і ў тым, здаецца, не засталася. Значыць, можна нешта змяніць! І варта спрабаваць! Усе гэтыя сантыменты пра матыля на дарозе — тыпу, раздушыш

у іншым часе, а ў тваім настане апакаліпсіс, — лухта. Гэта не крылы матыля — гэта млын. Пачварна цяжкія каменныя жорны — кшталту тых, на якіх волат Мянеск перамолваў валуны на месцы будучага горада свайго імя. Усё замесіцца ў адно цеста, усё пройдзе праз адну печ... А ці памятае той, хто спажывае хлеб, імя кожнага зярняці?

**ГУЛЬНЯ № 2**

Другім Туды пайшоў Макс.

Вядома, сам напрасіўся: аж рукі трэсліся, як у скнары над халяўным гаршком з дынарамі. Гістарычныя сенсацыі! Вернутыя імёны і рукапісы! Разгадка таямніцаў! Усё пралічыў: і карту тагачаснага Менска вывучыў, і старыя фотаздымкі, і падзеі... Адкрыты тэатр оперы і балета, архітэктар Лангбард хапаецца за сэрца, бо замест падабенства антычнага тэатра — з каланадай, скульптурамі і трыма ярусамі — дзве шэрыя «бляшанкі», пастаўленыя адна на адну... Не хапіла сродкаў, дый не Афіны тут, спадар. Затое Дом урада паўстаў, як мае быць... І помнік Леніну перад ім. Мінскі аэрапорт адкрыўся — з першым і адзіным самалётам К-5. Маршрут — вядома, які... На Маскву. У трамвайным парку — 43 трамваі... А яшчэ — забаронены царкоўны перазвон, і ў Кацярынінскай царкве захоўваюцца селядцы. Надпіс на фасадзе «Дом мой домам малітвы нарачэцца» замазваюць фарбай, а ён ізноў праступае. У турме памёр ад тыфу мінскі епіскап Мікалай. Уведзеная «наркомаўка» — плаўнае, спеўнае, натуральнае гучанне мовы скасавана, беларускі правапіс павінен быць як мага больш набліжаны да расейскага... Каб пасля з ім цалкам зліцца. У камуністычным, так бы мовіць, экстазе, на імперыялістычных прасцінах. А яшчэ — лютаўскі хапун па справе «Беларускай народнай грамады» і паралельна арышт татарскай інтэлігенцыі. У красавіку — арышты па справе «контррэвалюцыйнай дыверсійна-шпіёнскай арганізацыі ў жывёлагадоўчай галіне БССР». У жніўні — па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра»... У кастрычніку «вылазкай контррэвалюцыйнай агентуры беларускага кулацтва і буржуазіі» на ўсебеларускай

нарадзе па драматургіі названы п’есы Янкі Купалы, Васіля Шашалевіча, Міколы Грамыкі ды іншых — дзе хоць трохі жыла Беларусь. Крэацівілі чыноўнічкі, каб не прастойваць, фантазія працавала. Маладыя паэты напханыя ў «амерыканку», жалезную круглую камеру ў двары дыхтоўнага будынка НКУС... Катаванняў нібыта яшчэ няма. Афіцыйна яны з’явяцца потым, у 1937-м... Але насамрэч метады тыя самыя. Толькі ў вязняў ёсць яшчэ рэальны шанец на жыццё.

Макс у адну кішэню — лічбавую камеру, у другую — стары «Кодак» з плёнкай, хто яго ведае, як ТАМ лепей...

І — у сцяну, дзе абраз «Маленне аб Чашы».

З ложка падаў голас Едрусь:

— Паслухай, можа, не варта...

Макс са здзіўленнем зірнуў на яго. Едрусь сядзеў на ложку, засланым посцілкай з конікамі, сагнуўшыся ў крук.

— Нічога, я вунь які здаровы, пару кіль з задавальненнем там пакіну, магу і дзесяць кіль. А наконт сувязі — дык я мабільнік узяў! — зблазнаваў Макс і знік за бляклымі шпалерамі.

...Крэчат адняў ад вуснаў насоўку. Можна не правяраць: у чырвоных плямах. Ну і што? Яму, старому рэвалюцыянеру, выпаў найвялікшы гонар і шчасце: дажыць да здзяйснення сваіх мар. Упэўніцца, што барацьба, смерць сяброў і ягоная ўласная смерць былі не дарэмныя. Гады ў падполлі, голад, пагардлівыя позіркі мешчукоў ды арыстакратаў, палахлівыя — тых, з-за каго ішоў на пакуты. Прывід вісельні, з-пад якога цудам удалося знікнуць... Пакінуўшы там дарагіх, лепшых за сябе. Сяргей, Сонечка — і іх бязвольныя целы на шыбеніцы. Гэта непрыгожая смерць — у пятлі. Язык высоўваецца, і яшчэ... Паміраючы спраўляе натуральную патрэбу. А ў мужчын адбываецца выкід семя.

Раней семя вісельніка каштавала вялізныя грошы. Калі не кат яго збіраў — дык існаваў адмысловы клан жабракоў і зельнікаў, якія пільнавалі, каб паспець абабраць павешанага, і жылі з тае здабычы. Цудадзейным лічылася ўсё — валасы шыбеніка, ягоныя адрэзаныя пальцы...

Чалавек, па сутнасці, сцярвятнік. Падлаед. Толькі рэвалюцыя можа пазбавіць яго жывёльнасці, абудзіць у ім чысты дух.

І ўсё-ткі ён, Крэчат, не можа забыцца на гэта жахлівае відовішча, якое ён бачыў, на шчасце, толькі ў думках — Сяргей і Сонечка гайдаюцца ў петлях, тузаюцца, выконваючы «танец вісельніка», які так любілі сузіраць жыхары сярэднявечных гарадоў. Сінія языкі звешваюцца, па нагах сцякае...

Не, ён не павінен пра гэта нават думаць — гэта абражае памяць нябожчыкаў.

Галоўнае, цяпер ён, ацалелы, бачыць, як паўстае магутная дзяржава, у якой кіруюць таварышы, людзі з народа, сумленныя, адданыя рэвалюцыі! Не, ну калі самому быць сумленным — сярод іх таксама не ўсе вартыя... Гэты... таварыш Мадэст Касіянаў... Ён, Крэчат, не можа ўхваліць ягоныя метады. З паэтам Апіевічам, напрыклад, відавочна перагнута палка. Чалавек быў не страчаны для рэвалюцыі. Прынамсі, на небяспечную справу ў сваё эсэраўскае мінулае Крэчат яго б узяў, не вагаючыся. Сорак дзён пазбаўляць чалавека сну... Нават інквізіцыя лічыла, што скрайні тэрмін такога катавання — шэсць дзён. Пасля чалавек лічыўся звар'яцелым. Вядома, у рэвалюцыі вакол — ворагі... Трэба змагацца... Але ці не сумленней адразу — кулю ў лоб здрадніку? Вось Скаловіча — не шкада. Нягоднік заслужыў усё, што зараз мае. Не хацеў бы ён, Крэчат, быць на ягоным месцы. Гэта папы няхай на споведзі грахі адпускаюць. А рэвалюцыя за ўсё спаганяе напоўніцу, бязлітасна, без скідкі на час і абставіны. І гэта правільна.

— Ты таксама палезеш у пятлю, Скаловіч, рана ці позна! — хрыпіць Крэчат са злавеснай радасцю.

Але... надта ўжо Касіянаў ад таго, што робіць, атрымлівае насалоду. Надта падводзіць пад усё... навуковую базу. Нібыта такая навука спатрэбіцца ў той будучыні, якую яны рыхтуюць, дзеля якой гатовы памерці. Катаванняў у савецкай краіне няма.

І... Вось жахлівая думка... Ці гатовы таварыш Касіянаў за тую будучыню памерці?

Крэчат схіляе галаву — чорныя валасы шчодра перавітыя сівізною. Чамусьці ўсплыў яшчэ ўспамін — месяц таму выпадкова праходзіў па вакзале і бачыў, як з вагона-цялятніка выкідаюць нешта пачварнае. Людзей-клёцак. У рызманах, якія разышліся пад напорам хворай бледнай плоці. Вочышчыліны. Чорныя пазногці. Нехта патлумачыў шэптам, што гэта — хахлы. Спухлі ад голаду. Там, на Украіне, вымiраюць цэлымі вёскамі. Ураджай багаты — а людзям не даюць ні каласка. Таму што хахлы ўсе кулакі і людажэры.

Кажуць, цяпер — і праўда — там-сям людажэры.

Людзей-клёцак выгружалі на брудны асфальт, як мяхі. Нібыта яны ўжо не былі людзямі. Нехта з іх, яшчэ не зусім страціўшы падабенства са стварэннем божым, цягнуў руку, нешта прасіў нячутным голасам. Відаць, хлеба...

Крэчат сышоў тады і не ведаў, куды падзеліся прыезджыя. Не хацеў ведаць. Баяўся глядзець. Цяпер баіцца нават думаць.

А ў камісарыят паступаюць усё новыя звесткі і пра голад на Беларусі. Лісты... Допісы... У калгасе «Перамога» Мінскага раёна чацвёра калгаснікаў памерлі «ад недахопу харчавання». У людзей пухнуць рукі і ногі, што перашкаджае ім выходзіць зарабляць «трудадні». У калгасе «Вольная праца» на Гомельшчыне таксама некалькі калгаснікаў, спухшы, памерлі. Сярод людзей паніка, праезджых упрошваюць забраць дзяцей, каб выратавалі ад галоднай смерці. У Нараўлянскім раёне ўвогуле, калі верыць тым падмётным лістам, сотні паміраюць, у Жыткавіцкім таксама... Крэчат уласнаручна падпісваў паперу пра тое, каб знайсці і арыштаваць аўтара антысавецкага ліста, што прысланы ў Сенненскую газету «Камунар»: «Самі ходзім голыя, паелі ўсю траву, ліпавы ліст, а з нас патрабуюць малака, мяса... Не ведаю, як перадаць, як вы здзекуецеся з нас, пісаць ёсць чаго, ды няма каму чытаць гэта. Падумаць, ізгалілі Украіну, цяпер узяліся за Беларусію... Смерць Сталіну, далоў сацыялізм!»

Што ж гэта?

— Шкодніцтва! Наркамат земляробства расстраляць! — вырываецца з пасінелых вуснаў.

Страшныя сумнівы паляць душу... Няўжо нешта ідзе не так, як яны задумвалі? І як з ім, народным камісарам, апошнім часам некаторыя пачалі размаўляць? Паблажліва, ледзь не пагардліва... А гэтае шыпенне Касіянава: «Радуйся, што хворы!» Хутчэй, хутчэй адагнаць гэтае блюзнерства, гэты блёкат!

Крэчат заходзіцца ў кашлі, маленькая частка лёгкага, якая толькі і не здрадзіла, засталася служыць, не паспявае перадаваць у кроў кісларод. Крэчат амаль з пяшчотай уяўляе гэтае апошняе войска клетак, што змагаецца за яго супраць смерці. Адзін за адным мізэрныя воі гінуць, наступіць імгненне, калі смерць чарговага з іх стане агульнай паразай... На колькі ўздыхаў іх яшчэ хопіць?

За акном хор маладых, няхай не вельмі зладжаных, галасоў заспяваў:

Белая армія, чорны барон
Знова гатовяць нам царскі трон...

Спявалі з мясцовым акцэнтам, але — задзірыста, з энтузіязмам... Сіл падысці да акна і паглядзець, хто гэта — рабфакаўцы, чырвонаармейцы, асаавіяхімаўцы, — не было. Песня аддалялася, гублялася ў вулічным шуме.

Радасць, шчырая радасць ахапіла ўсю істоту Крэчата. Жыве рэвалюцыя нават у гэтым забытым Богам куточку, калісьці — ускраіне праклятай Імперыі! Шкада, не паспеў яшчэ больш наблізіць эпоху, дзе не спатрэбяцца Касіянавы. Ва ўніверсітэце кубло варожае не падчысцілі. Акадэмікаў гэтых паганых, спяцоў з жандарскімі каўнерыкамі не паганялі да канца... Кулю ім у лоб! Пятлю! Сам Крэчат ніколі не вагаўся, калі трэба было выстраліць. Толькі адзін раз утрымаўся — каб аддаць здрадніка нашмат большай пакуце. А тое, што вучоны, што вынаходніцтвы — дык мы вырасцім не такіх яшчэ вучоных!

Крэчат зноў закашляўся і, перагнуўшыся з крэсла ўправа, сплюнуў у масянжовы таз. Смерць заўсёды выглядае непрыгожа. Хаця — ён не з гідлівых. Чамусьці ўспомнілася тое, што яшчэ ў бурсацкім юнацтве замкнуў у самай далёкай шуфлядзе свядомасці: твар маці, таксама схілены над

тазам — толькі ў тым тазе не кроў, а чужая бялізна. Пара амаль захінае грубаватыя рысы, рукі, чырвоныя, распухлыя, спрытна кідаюць-падымаюць тканіну ў казачных замках пены. На сярэднім пальцы пярсцёнак з цьмянага жоўтага металу, не з золата, уціснуўся ў цела, здаецца, урос, як дрот урастае ў ствол дрэва...

«Трусік-пампусік! Дзе твой бацька? Свінням сена косіць!»

Уявіце сабе рэвалюцыянера з прозвішчам «Трусік»! Міхаіл Трусік! Не дзіва, што падпольная мянушка сталася ягоным адзіным імем.

— Я — Крэчат! Крэчат — не Трусік! — ганарыста хрыпіць чалавек, нібыта намагаецца кагосьці ў гэтым пераканаць, і нават стукае худым кулаком па парэнчах крэсла.

У партыйным білеце ён так і называецца — Максім Крэчат. Прасіў, каб і на помніку было выбіта толькі гэтае імя.

А помнік мусіць быць прыгожы... Ён заслужыў. Камісар Крэчат. Бо — што ён больш па сабе пакіне? Усё аддадзена святой барацьбе. Не засталося сяброў. Некаторыя — загінулі. Ад некаторых давялося пазбавіцца — не яму самому, рэвалюцыі. Слабы паплечнік — значыць, вораг. Сям'я, дзеці, каханне... Не да таго было. Яго сям'я — гэта ўся новая краіна. Увесь працоўны народ. Крэчат моршчыцца ад таго, што нават думка такая гучыць фальшыва. Ну, добра, не ўвесь народ... Але нехта мусіць яго памяць ушаноўваць. Насіць на магілу кветкі. Неяк пра гэта раней не думалася... А цяпер думка, што да ягонай магілы можа ніхто ніколі не прыйсці, падалася невыноснай. Калі б ён не страціў веры ў Бога... А раптам усё, што гэтак ясна ўяўлялася ў дзяцінстве — той свет, анёлы, нябесны суд, — праўда? Тады як яго будуць судзіць? Для сябе ж ён ніколі нічога не хацеў...

— Нічога... Для сябе...

Крэчат зноў зайшоўся ў кашлі, і чамусьці пабачылася аблічча Валяр'яна Скаловіча — такім, якім бачыў яго апошні раз, недзе месяц таму. Ганарысты твар, нібытаператвораны ў белую маску, цёмныя вочы... Безнадзейныя, як само пекла. І скептычная ўсмешка на вуснах.

Вось іронія лёсу: апошняе, што ён успамінае перад смерцю, — гэта аблічча здрадніка.

Таму што гэта смерць. Кроў хлынула горлам, замест дыхання пачулася нейкае булькатанне... Нага, зведзеная сутаргай, перавярнула таз... І ў гэтую чырвоную, смярдзючую жыжу ўпаў тварам камісар Крэчат.

Макс, задыхаючыся, узняўся з падлогі. Сам не заўважыў, калі ўпаў... Хаця Едрусь жа тлумачыў — пакуль нехта побач не памрэ, ты як прывід... Цяпер можна рухацца. Макс наблізіўся да памерлага. Асцярожна крануў цела наском чаравіка... Ну, тут ужо нічым не дапаможаш. Не вельмі прыгожая смерць атрымалася ў камісара... Госць агледзеўся. Што за месца, дзе давялося апынуцца? Не бальніца. Звычайная кватэра. Макс, наколькі мог хутка, падышоў да пісьмовага стала, схапіўся за паперы... Пасведчанне наркампрода... Даклад аб забеспячэнні насельніцтва харчаваннем у калгасах Менскай вобласці... Рука палезла па фотаапарат. Але з кішэні дастаўся брусок нібыта спрасаванай шэрай гліны. А мабільнік? Яшчэ адзін шэры брусок... Што за містыка? І маланка ў джынсах ператварылася ў аморфную, бляклую металічную паласу... Нібыта свядомасць гэтага часу, як прыдуманая польскім фантастам Лемам планета Салярыс, можа паўтараць вобразы толькі таго, што ўцямна і зразумела, а нешта невядомае і складанае — толькі ў агульных рысах, груба, як муляж... Як дзіця малюе ракету. Урэшце — фізічны свет сапраўды створаны з нічога, па Слове Божым. Ядро атама ў параўнанні з яго абалонкай — усё роўна што вішнёвая костачка ў параўнанні з планетай Зямля... Пустэча — тое, што мы цэнім, набываем, дзеля чаго губім іншых і сябе. Слова, думка, вобраз — толькі гэта і мае сапраўднае значэнне.

Апошні раз зірнуўшы на нябожчыка, які ляжаў тварам у чырвонай лужыне, архівіст выйшаў на вуліцу. Паветра якое чыстае... Як у вёсцы. Але дыхаць цяжка, нібыта грудзі сцягнутыя жалезнымі абручамі. Бедныя дзяўчаты, што насілі гарсэты... Цікава, ці працягвае нехта насіць гарсэты тут? Наўрад... Тут ужо амаль два дзесяцігоддзі пануе вайсковы стыль. Фрэнчы, гімнасцёркі, шынялі... Але не, людзі, амаль усе — у шэрым, не ў хакі... Макс успомніў, што ў трыццаць трэцім годзе быў аддадзены загад, які забараняў нашэнне вайсковай формы тым, хто не служыць у Чырвонай Арміі...

І гэтыя, у шэрым, ідуць міма, не зважаючы, не дзівуючыся. Ды ці бачаць прыхадня? І на дамах — ні шыльдаў, ні назваў...

— Гэй! Дзе... тут... вуліца Леніна? Таварыш... Таварыш... не... падкажаш, дзе ўніверсітэт?

Голас хрыпіць, як прабіты гармонік. Застаецца спадзявацца, што ўзбуджальнікі сухотаў такім... неверагодным шляхам не перадаюцца.

Твары — усмешлівыя, сярдзітыя, стамлёныя. Вось жанчына (вылінялая чырвоная кофтачка, саматканая спадніца, белая хустка) прыпынілася, угледзелася... Не ў Макса — у тое месца, дзе ён стаяў. Макс падышоў ушчыльную.

— Не... падкажаце, дзе... універсітэт?

У вачах жанчыны мільганула здзіўленне. Рука мімаволі паправіла хустку. Ды што, хіба госця з будучыні не бачна? Ён — прывід, ці ўсе тут — прывіды? Макс асцярожна, з заміраннем сэрца, крануў кабету за рукаў. І з палёгкай адчуў пад пальцамі шурпатую тканіну.

— Чаго табе трэба? — жанчына нават трохі адскочыла, нібыта шыракаплечы хлопец праявіўся перад ёю проста з паветра.

— Універсітэт... — прахрыпеў Макс, баючыся, што яго зараз званітуе. Цікава, гэта будзе лічыцца ўмяшальніцтвам у гісторыю — ваніты з іншага часу на брукаванцы?

Кабета махнула рукою кудысьці ўправа і хутка пайшла, азіраючыся... Цікава, якім ёй бачыўся Макс? Плыткім, у зменлівым мігценні? Прывідаў, кажуць, нельга пабачыць проста — толькі бакавым зрокам.

Макс ішоў па вуліцы таго часу, калі ён яшчэ не нарадзіўся. Вось і маеш унікальную магчымасць для збору матэрыялаў... Але як яе выкарыстаць, калі ты — паўмёртвы ад болю, і вывучаныя да драбніцаў фотаздымкі і карты ніяк не супадаюць, не сумяшчаюцца з гэтымі краявідамі, і сам ты — нібыта ўнутры фотаздымка і табе не хапае нейкага аднаго вымярэння... Скрасці б што-небудзь з гэтага часу — як і належыць прафесійнаму злодзею. Знайсці Янку Купалу... Папярэдзіць Максіма Гарэцкага аб смяротнай небяспецы... Прачытаць хоць чый-небудзь рукапіс з тых, што канфіскаваныя і спаленыя ў 1937 годзе ва ўнутраным двары «Жоўтага дома» НКУС...

Цела бязлітасна сціснула нейкая сіла, як быццам апусціўся глыбока пад ваду... І Макс вярнуўся. Як і Генусь — зваліўся на падлогу ля сцяны, абклеенай зялёнымі ў ружы шпалерамі.

Даліла адразу ўшпіліла яму ўкол глюкозы — ужо ведала, чаго чакаць.

Першае, што сказаў наш архівіст, калі змог гаварыць:

— Як, схуднеў я трохі?

— Прыдурак! — адказала за ўсіх Даліла і ледзь не ляснула яму па твары. Збялелым, але ўсё гэтак жа паўнаватым.

Мабільнік, фотаапараты і «маланка» на джынсах вярнуліся да ранейшага выгляду. Але не працавалі. А «маланка» нібыта пабывала пад прэсам. Давялося распорваць.

Што ж — кожны з нас, пабываўшы Там, таксама не быў ранейшым.

Настаў час асэнсоўваць чарговую «здабычу». Генусь прывалок ноўтбук, Макс раскінуў свае тэчкі...

Крэчата ў энцыклапедыі не аказалася. Затое Міхаіл Дармідонтавіч Трусік згадваўся — у «Энцыклапедыі БССР». Родам з Магілёва. Адукацыя — царкоўнапрыходская школа плюс незакончаная семінарыя. У фракцыі бальшавікоў ад яе стварэння. Дзяржаўны дзеяч, камуніст, спрычыніўся да стварэння сістэмы аховы ўнутранага парадку на Беларусі. Пахаваны на Вайсковых могілках.

На наступны дзень Даліла і Макс нават адшукалі ягоную магілу, праўда, з цяжкасцю. Невялікі чорны помнік урос у зямлю. Трава, палын, крапіва, ніводнай кветкі — нават сатлелай штучнай... Надпіс ледзь прачытваецца. Прозвішча згодна з энцыклапедыяй. Трусік.

Потым была доўгая спрэчка. Едрусь адмоўчваўся, а Генусь-Тэрмінатар упёрся: навошта ТУДЫ хадзіць? Паглядзіце на сябе... Разалія Іванаўна да інсульту давандравалася. У пяцьдзясят два гады выглядала на семдзесят. Мы ж нічога не зменім. Ці зробім яшчэ горш. Ні адтуль нічога не вынесці, ні адсюль... Вы што, сапраўды збіраецеся грушы пілаваць у 1933 годзе?

Тады Даліла нечакана сказала:

— Схадзі ТУДЫ сам. Адзін раз. Слабо? А тады скажаш.

ГУЛЬНЯ № 3

Генусь падрыхтаваўся ісці Туды, як да здымак у гістарычным фільме. Заявіўся ў дом ля могілак у чорнай ільняной кашулі — падарунак чарговай сяброўкі, на гэты раз прыхільніцы готаў. Дурнічка шыла сама, рукамі, спадзеючыся, напэўна, што Тэрмінатар яе патрыярхальнае старанне зацэніць. Спадзявалася, у прынцыпе, не дарма — Генусь палічыў, што няроўныя шыўкі самадзейнай швачкі ў падарожжы ў мінулае нададуць ягонаму прыкіду натуральнасці, і кашуля пакінула мех з непатрэбнымі анучамі. Штаны таксама адшукаліся па-сутнасці архаічныя — ільняныя, шэрыя, мятыя, але найноўшай моды. Зробленыя ў Турцыі і купленыя на рынку, які цяпер месціцца на стадыёне «Дынама», збудаваным на месцы габрэйскіх могілак. Касцюм давяршаў сапраўдны картуз з трэснутым чорным лакавым казырком. Дзе Генусь яго выпараў? Хіба ў якога вясковага пастуха. Насунуў казырок нізка на лоб... Ды яшчэ валасамі завесіўся — усё яшчэ па звычцы хаваючы сваё «звыродства». Мабільнік пакінуў і адключыў — а то званіць будуць усялякія марцэлі. Паглядзеў на Далілу — тая стаяла, закусіўшы губу, нібыта стрымлівала сябе ад крыку. Памарудзіў... Відаць, спадзяваўся, што Даліла скажа: «Не хадзі». Але «кобра» моўчкі глядзела ганарлівымі зялёнымі вачыма...

— Мае компы не прадавайце! Я іх сам збіраў, там такія навароты ды прымочкі... Карацей, калі што, забярыце сабе.

І Тэрмінатар павярнуўся да сцяны, глыбока ўздыхнуў і зрабіў крок.

...Прафесар Люцыян Нічыпаровіч яшчэ раз перачытаў ліст, акуратна склаў і паклаў у канверт. Канверт заклейваць не стаў — навошта? Не стаў і падпісваць. Дастаткова пакласці на сярэдзіну стала.

Прыйдуць «археолагі» — знойдуць.

Калісьці ён удзельнічаў у археалагічнай экспедыцыі на Віленшчыне. Раскопвалі руіны замка... І ў сцяне, справа ад колішняй брамы, знайшлі шкілет жанчыны. Ён стаяў у вузкай — не варухнуцца — нішы, абдымаючы вертыкальна ўмацаванае бервяно.

Чамусьці па ўсім свеце верылі, што, каб замак, храм, мост, вежа, гарадская сцяна стаялі, трэба, каб іх падтрымлівалі нябожчыкі. Закапаныя ці замураваныя жыўцом. Вунь Гальшанскі замак успомніць... Нібыта жонка аднаго з майстроў у сцяне. Прыйшла, небарака, да мужа з абедам, а муляры, азвярэўшы ад таго, што сцяна абрушваецца ў каторы раз, ужо чакалі: чыя кабета першай прыбяжыць, тую і ахвяруем. Паданне, кажаце? Ды яшчэ ў 1843 годзе жыхары нямецкага мястэчка Гале прапаноўвалі ў падмурак новага моста пакласці жывое дзіця. Добра, часы былі іншыя, асветніцтва, разумееш, і ўлады не згадзіліся. Думаеце, здарма называецца месца, з якога пачынаўся горад, — дзяцінец?

Але самае надзейнае — калі ахвяра згаджалася на такі жудасны скон добраахвотна. У XIX стагоддзі англійскі збеглы матрос патрапіў на востраў Фіджы і бачыў, як будавалі жытло мясцовага правадыра. У кожнай яміне са слупом будучага дома стаяў жывы чалавек, які трымаў бервяно і цярпліва чакаў, пакуль яго разам з бервяном засыплюць.

У кожнай вялікай справе павінны быць такія людзі, якія моўчкі трываюць кпіны і здзекі і даюць сябе засыпаць... І нават мёртвымі працягваюць трымаць сцены.

Прафесар адчыніў шуфляду стала і паглядзеў на тое, што там ляжыць. Так, ён ведае, што збіраецца ўчыніць вялікі грэх. Смяротны грэх. Але ці лепей будзе пакорліва пайсці на ўсё, што для яго падрыхтавана «ачышчальнікамі»? Ён ведае, што робяць у сутарэннях Жоўтага дома. Ламаюць усіх. Ну, хіба... за адным выключэннем. Але ён, Люцыян Нічыпаровіч, занадта стары. І занадта шмат людзей можа пацягнуць за сабой. А паміраць з ганьбай, з усведамленнем, што загубіў бязвінныя душы, — дык лепей ужо загубіць грэшную сваю. І Лёлечцы лепей застацца ўдавою, чым жонкай «ворага народа».

Прафесар падымаецца і праходзіць па пакоі. Для яго не пашкадавалі шыкоўнай кватэры ў цэнтры горада. Аксамітныя парцьеры, паркет, антыкварная мэбля, прыслуга... Акадэмічны паёк. Не будзе адмаўляць — звык да камфорту. Не з графаў — але ўсё-ткі з сям'і гімназічных настаўнікаў. Яму не давялося немаўлём гарлаць у кошыку на ўскрайку жытняга поля, пасвіць худобу, бегаць у школ-

ку басанож... Пазалочаныя анёлкі на каляднай ёлцы, кніжкі пра індзейцаў з карцінкамі, нянька, урокі англійскай і нямецкай, фартэпіяна... Бацька — піцерскі, але з роду гарадзенскай шляхты, маці — з сям'і польскіх паўстанцаў. Гэта яна называла яго Люцыянам. У праваслаўным хрышчэнні яму далі імя Лука — але Нічыпаровічу больш падабалася «Люцыян». Так і падпісваўся заўсёды. У доме чыталі Тургенева і Чарнышэўскага. А яшчэ — Яна Баршчэўскага і Міцкевіча. Ён быў зусім малы, калі яго пазнаёмілі з дзівакомдзядком, насатым, таўсманным, як снегавік, са старамоднымі бакенбардамі і дабрэннымі-дабрэннымі вачыма. Стары павёў яго на другі паверх кватэры і паказаў жывога зайца. Заяц скакаў па ўсім пакоі, не прызнаючы клетку, што адчыненай сіратліва тулілася ў куце. А гаспадар, крэхчучы, згінаўся, каб працягнуць свайму пестуну капусны ліст. Звалі старога смешна — пан Каэтан. А зайца завялі ягоныя хатнія па парадзе доктара — дабрэнны пан Каэтан вельмі не любіў рухомага ладу жыцця, на шпацыры нават хадзіць адмаўляўся. А дзеля жывой істоты — як не ступіць пару лішніх крокаў?

Гаспадар падарыў маленькаму Люцыяну кніжку на незнаёмай мове са страшнаватымі карцінкамі: мерцвякі, укручаныя ў нейкія стужкі, людзі з галовамі звяроў і птушак, другія людзі, нібыта звычайныя, але намаляваныя неяк выкручана — галовы у профіль, а плечы распрастаныя... І — смешна — мужчыны ў спадніцах. Пан Каэтан сказаў — гэта фараоны. Слова, ад якога патыхала таямніцай, як ад куфра старой купчыхі — нафталінам.

З гэтай кніжкі пачалося зацікаўленне Люцыяна гісторыяй. Закахаўся ў старую дзеўку Кліа, музу «навук гістарыйскіх», па самыя вушы. Ды ці дзеўка яна? Ці не самадайка? Калі падумаць, гвалцілі яе на яго вачах заўзята, хто толькі хацеў. І працягваюць...

Маці потым распавяла, што выпала ім быць у гасцях у слыннага вучонага родам з Беларусі, Каэтана Касовіча. Які першым у Расійскай імперыі расчытаў санскрыт. І быў адзіным з наведнікаў Лонданскага музея, хто заўважыў, што шумерскія таблічкі з эпасам пра Гільгамеша развешаныя па сценах залы дагары нагамі.

У гісторыі Заходняга краю дасюль таблічкі вісяць дагары нагамі. Нічыпаровіч паспрабаваў нешта выправіць. Прынамсі, праца, у якую ўкладзена два дзясяткі гадоў жыцця, сапраўдная гісторыя тутэйшага люду — крывічоўліцвінаў-беларусаў, абудзіла б думкі і годнасць многіх... Полацкае княства, якое — не з Кіеўскай Русі, а з IX стагоддзя... А можа, і раней — калі верыць скандынаўскім летапісам. Не з Масковіі — з Візантыі хрышчанае. Еўрапейская дзяржава... Магла б быць і дасюль — асобнай, незалежнай. Не Усходнімі Крэсамі, не Заходняй губерняй. Але сёння надрукаваць гэта немагчыма. Застаецца спадзявацца на чалавека, якому давярае. Які нікому не выдасць.

Не, Люцыян Нічыпаровіч ніколі не быў зацятым «браткам-беларусам». Бацька лічыў сябе рускім, маці — полькай. «Пан сахі і касы»... Таксама мне нацыянальны архетып. Калі па вялікім рахунку, ён хутчэй — грамадзянін свету. Краіны ўзнікаюць, зліваюцца ў адно, раз’ядноўваюцца. Мацнейшыя паглынаюць слабейшых... Нас жа не абурае гэты працэс у жывёльным свеце? Супраць «натуральнага адбору» не папрэш.

Але «перавернутых таблічак» у гісторыі заставацца не павінна. Кожны народ мае права ведаць, хто ён ёсць. І тады можа адбыцца цуд — як з чэхамі, якія абаранілі сваю культуру ад магутнейшага ўціску нямецкай. Маці перадала Каэтану Касовічу некалькі песень з Віленскага павета, прысланых матчыным дзядзькам, «хлопаманам», як дражнілі суседзі. Дзядзька, які адтрубіў пяць гадоў высылкі за дапамогу інсургентам, але пазбег канфіскацыі маёмасці, упарта называў сябе беларусам і ў кожны лісце заклікаў піцерскую пляменніцу і яе мужа прызнаць свае беларускія карані і спрыяць адраджэнню края. На жаль, Люцыяну не ўдалося з ім пазнаёміцца асабіста. Але ён дасюль памятае дасланыя тэксты:

І падняўся меч Цыпрыянавы,
Нібы вогненны цмок, над татарынам.
Дзве маланкі ў вачох яго блыснулі,
Засмяяўся рыцэр пагрозліва.

Не хадзіць табе, збродня татарская,
Па палёх ліцвінскіх ды пасьвіцях...

І яшчэ была старажытная, вельмі сумная песня, якую маці нават магла сама праспяваць:

Едзе рыцар, едзе рыцар збройны,
Павяртае з велькей-велькей войны.
У яго шабля, шабля вышчарблёна,
Ды кашулька ў яго закрвавёна.
Вітае яго айцец стары,
Сёстры нясуць, нясуць яму дары.
...За гарамі рыцар, рыцар збройны —
Не вярнецца ўжо ніколі з войны.
Там раскошы ў войску ён ужые,
Замест вады ён крыві напіе.
Садзяць яго, садзяць на конь сівы,
Бо ён рыцар, рыцар справядлівы.
За ягону кожную трывогу
Сцелюць яму кветкамі дарогу.
А як яго, яго ў дол спушчалі
З трох ладункаў огня-огня далі.

Нічыпаровіч зноў сядае за стол. Ці ж яму не ведаць, як бязлітасна абыходзіцца час з людзямі. Як забываюцца пакутнікі і набываюць незаслужаны бляск мёртвыя нягоднікі. Летапісы? Помнікі? Ды хоць бы і пірамiды... У гіпатэтычнай усыпальніцы самага вядомага егіпецкага фараона-рэфарматара Эхнатона, мужа Неферціці, былі знішчаныя ўсе надпісы з яго імем, перачаканена на золаце кожная рысачка... На ўсіх збаночках і заклёпачках... Паклалі ва ўсыпальніцу іншага нябожчыка. І дасюль невядома, ці Эхнатон там першым пахаваны.

Не, справядлівасці чакаць нельга, тады не давядзецца труціць душу крыўдай... Бедны Валяр'ян... Нізавошта не згадзіўся б прайсці праз такое. Нічыпаровіч коратка ўздыхае і паўтарае ўслых:

— Бедны Валяр'ян... Які лёс... Хоць бы вытрымаў...

Каб ведаў, што наперадзе, дык, можа, варта было б дваццаць пяць гадоў таму прайсці міма цёмнага кута

ўніверсітэцкага археалагічнага музея, дзе стуліўся худы бледнатвары студэнцік, сузіраючы пастаўленую на егіпецкі саркафаг рэторту з падазроным сінім агеньчыкам, што падпаўзаў, як атрутная жамяра, па танюткай галінцы фіціля да каламутнай вадкасці. Але ён даў Валяр'яну слова нават не спачуваць.

І не хоча нічыйго спачування сам.

Люцыян Нічыпаровіч працягвае руку і дастае з шуфляды рэвальвер. Прафесар зусім спакойны. Ён пражыў цікавае жыццё. Рабіў дабро, рабіў зло — як любы грэшны чалавек. Няхай даруюць вышнія сілы...

Сенека, калі паміраў, седзячы ў гарачай ванне з успоратымі па загадзе былога вучня, Нерона, венамі, пакуль мог, дыктаваў свае адчуванні. Стоік, разумееш...

Не, смерць таксама можна выбраць камфортную, хуткую, акуратную — наколькі гэта магчыма. Прабач, Лёлічка...

Руля рэвальвера ўпіраецца ў скронь. Раптам страшная думка змушае цела пакрыцца халодным потам. Ён жа ў анатоміі — нуль... Што, калі рана не акажацца смяротнай? Былі ж людзі, якія выжывалі пасля стрэлаў у галаву. Ачуняць у турэмнай лякарні... Альбо — яшчэ горш — застацца спаралізаваным... Ці — звар'яцець. Калісьці маці паўтарала дзіўную фразу: «Чым ганарышся — ад таго і загінеш». А ён заўсёды ганарыўся сваім розумам. Таму і баяўся ўсё жыццё, да бяссоння, — вар'яцтва. Прыслухоўваўся да сябе, правяраў: ці не здраджвае свядомасць?

Толькі, відаць, здраджвала: як возьмецца за працу — ці старадрукі расшыфроўваць, ці перабіраць чорныя спрасаваныя камякі — праслойку пажарышча XV стагоддзя ў раскопе, ці здабываць каменную фігурку Вялеса, якую нейкая бабулька на Старажоўцы хавае на сваім гарышчы, — ніякая сіла не спыніць. Да знямогі, да перамогі... Ні спаць, ні есці. Агнём гарыць душа — як ад найвялікшай любові. Нават Лёлічку ён так не любіў, не гарэў па ёй. Яна часам жартавала: «Твае пальцы гэтак пяшчотна гладзяць брудны пергамент, што рэўнасць бярэ».

А ўсё астатняе — лухта.

На сходах выкладчыкаў універсітэта з удзелам партыйнай ячэйкі — апошнім часам па некалькі разоў на тыдзень — не-

каторыя трацілі прытомнасць. Ад страху. Ад тых смяротнай моцы абвінавачванняў, нават не ў свой адрас, што там чулі. Не зварухнуцца... Любы рух могуць палічыць за нязгоду. Хіба ў ладкі папляскаць — але і тут жудасна прамарудзіць і на міг. А ён, Нічыпаровіч, у гэты час дзікіх гуляў паўтараў у галаве словы Лаўрэнцьеўскага летапісу альбо які з раздзелаў Статута... Успамінаў нататкі Светонія пра імператара Нерона ды рымскі сенат — патрыцыі таксама загадзя трэніраваліся ў плясканні ў ладкі ды адабральных воклічах.

Калі прафесара прасілі выказацца, гаварыў лёгкім іранічным тонам. Ад якога ў кіраўнікоў сходу пена на вуснах з'яўлялася, як у шалёных сабак. Адмаўляўся асуджаць, галасаваў — няхай не супраць, але ўстрымліваўся... Вежа са слановай косткі. Успомніць, як усяго дзесяць гадоў таму натхнёны Язэп Лёсік прамаўляў на вышэйшых курсах беларусазнаўства: «Вы ўжо не тыя, што былі, бо пакаштавалі плоду з таго дрэва, што называецца беларускай справай, беларускім Адраджэннем, пазналі таямніцы ўваскрашэння Айчыны нашай — маці-Беларусі. Вашы свечкі запаленыя, і вы становіцеся апосталамі беларускай справы. Але бойцеся, каб не пагасла свечка вашая, бо не раз бура захопіць вас у дарозе і не адну навальніцу давядзецца перажыць вам у час свайго падарожжа».

Каб ведаў Язэп Юр'евіч тады, як у хуткім часе ўсе дружна дзьмухнуць на свае свечкі, апярэджваючы подых чужой буры.

На гэтай зямлі чалавек — як воск. Цяпер яго, Нічыпаровіча, вінавацяць у тым, за што калісьці ўзносілі. Як ён наважыўся ў лекцыях распавядаць пра быццам нейкія станоўчыя здзяйсненні прыгнятальнікаў-князёў? А пра буржуазнага нацыяналіста Каліноўскага як пра годную асобу? Цемрашалка Еўфрасіння Полацкая — нацыянальная гераіня?!! Якое асобнае княства з беларускай мовай у якасці дзяржаўнай? Беларусы пачаліся пасля кастрычніцкай рэвалюцыі.

На апошнім сходзе ўсе прагаласавалі за ягонае звальненне.

Усе, акрамя аднаго. Дэкана хімічнага факультэта Валяр'яна Скаловіча.

Куды ж правільна стрэліць, каб пэўна? Руля ссоўваецца на паўвяршка ўверх... Стук. Нехта настойліва просіцца ў кватэру. Дзякуй Богу, адчыніць няма каму — Нічыпаровіч паклапаціўся адаслаць на сёння ўсіх хатніх. Няпрошаныя госці, аднак, не сыходзілі. Трэск... Ламаюць дзверы. Што ж, марудзіць больш не выпадае.

Генусь, схапіўшыся за галаву, стаяў на каленях ля пісьмовага стала, за якім сядзеў мёртвы чалавек. З раны на скроні чалавека сцякаў цёмны струмень. Чаму такі цёмны? Кроў павінна быць пунсовай...

Чаму ў гэтым падарожжы так усё несправядліва? Ты змушаны назіраць чужую смерць, не ў змозе аніяк паўплываць, умяшацца — толькі пераважыўшы яе разам з ахвярай, набываеш волю руху... І тое — адносную... Хай бы і боль быў адносны.

Па твары Генуся таксама нешта пацякло. Правёў рукой — кроў... З носа... Пунсовая. Картуз з лакавым казырком, куплены не ў вясковага пастуха, як жартавалі сябрукі, а на барахолцы ў Ждановічах, адкаціўся да нагі забітага.

Дзверы расчыніліся ад страшнага ўдару. У пакой забеглі чацвёра ў вайсковай форме. Адзін, у цывільным, у шэрым паліто і чорным капелюшы, увайшоў за імі спакойнай хадой, як гаспадар.

Генусь застыў на месцы. Але прыхадні яго не заўважалі. Нават непамысна зрабілася. Як быццам ён стаўся ценем, і зараз паркетная падлога завагаецца, як паверхня вады, і па ёй павольна праплыве чорная Харонава ладдзя. Госці спрытна, моўчкі рабілі кожны сваю справу, быццам часткі адладжанага, няўмольнага механізму, між валаў і шасцярэнек якога лепей не трапляць. Адзін даставаў адна за адной шуфляды пісьмовага стала, хутка перакладваў паперы. Другі перабіраў кнігі на паліцах уздоўж сценаў — кожную пралістваючы, патрэсваючы. Трэці аглядаў шафу... Чацвёрты масніца за масніцай прастукваў падлогу. Чуваць было, што падобную справу прыхадні робяць і ў другіх пакоях. Чалавек у цывільным, з нічым не прыкметным, мяккім, трохі азызлым абліччам дамаседа і аматара рыбалкі, — куточкі вуснаў

заўсёды ўсміхаюцца, — агледзеў нябожчыка, акуратна датыкаючыся да яго рукой у пальчатцы, нібыта да рэдкага экспаната. Праверыў патроны ў рэвальверы. Цікава, што картуз з трэснутым лакавым казырком ніхто не бачыў.

— Таварыш Касіянаў! Тут ліст...

Адзін з вайскоўцаў працягваў чалавеку ў капелюшы канверт без надпісу.

Пульхныя бледныя вусны начальніка пакрывіліся. Ліст выслізнуў з канверта амаль вінавата, ціха шаргатнуў...

— Нават пасля смерці хоча савецкую ўладу прынізіць! — дакорліва падрахункаваў прачытанае таварыш Касіянаў. — Падшыць у справу... Строга сакрэтна.

Шэрыя вочы з-пад трохі прыпухлых павек агледзелі пакой, слізганулі па Генусю.... Нешта было ў чалавеку з такой звычайнай, мірнай знешнасцю, што выклікала няўтульнасць у душы. Як позірк на самую мірную змяю. Касіянаў утаропіўся ў скурчанага на падлозе Тэрмінатара, нібыта ўглядаўся праз акно ў начны лес.

— Мадэст Пятровіч, няма рукапісу!

Касіянаў толькі трохі прыўзняў бровы, не адрываючы невыразны пагляд ад Генуся.

— Вядома, няма. Ён жа чакаў нас. Рыхтаваўся. Значыць, знайшоў надзейную схованку.

І голас мяккі, лены. Дабрадзейнага сем'яніна, які ў махровым халаце ды пантофлях усеўся ў фатэль ды заўважыў, што дзеці некуды знеслі ягоную газету. Блазнюкі, што з іх возьмеш?

Вусаты немалады нкусавец, падобны да стамлёнага бясконцымі пабудовамі запрудаў бабра, упэўнена прамовіў:

— Зноў трэба хіміка ў апрацоўку ўзяць. Не можа быць, каб не ведаў.

Касіянаў, усё гэтак жа гледзячы ў адну кропку, якая знаходзілася дзесьці ля сэрца зледзянелага ў сваёй чорнай, сшытай неахайнымі, але закаханымі шыўкамі кашулі Генуся, адказаў:

— Возьмем, возьмем, папрацуем над хімікам. Чаму ж не. Гэта абавязак наш — з такім матэрыялам працаваць.

Раптам Генусь падумаў, што — вось ён, шанец, дзеля якога, можа, ён і патрапіў сюды. Забіць гэтую навалач. Вось

цяпер жа. І колькі людзей, выдатных, вартых, будзе выратавана, пазбаўлена ад заўчаснай смерці і пакутаў. І сям'я Разаліі Іванаўны, дарэчы, таксама пражыве інакшы лёс...

Забіць... Як проста. Як у гульні «Контрастрайк». Ці «Сан-Андрэас». А ў эрпэджы «Аблівіён» Генусь яшчэ сёння раніцай — неверагодная, няўяўная даўніна! — прайшоў за рэкордны тэрмін усе місіі гільдыі забойцаў. Тэрмінатар падняўся на дрыжачыя ногі. Цяпер ужо заазіраліся ў ягоны бок і іншыя нкусаўцы, але пакуль яшчэ няўважна, як на фіранку, у якой заблытаўся вецер. Калі ён сам адчувае цвердзь падлогі і стала, значыць, яго цела таксама можа стаць шчыльным, адчувальным для гэтай прасторы. Усё залежыць — наколькі можна зразумець — ад таго, ці пачне ўспрымаць яго, Генуся, свядомасць гэтых людзей. Ён стане рэальным для іх, калі яны гэта дазволяць.

Страшэнна балела галава. Аж у вачах разыходзіліся светлыя кругі — нібыта глядзіш з вады на сонца. Генусь ліхаманкава абводзіў вачыма пакой. Стукнуць Касіянава вунь той бронзавай Артэмідай з гадзіннікам па галаве? Або... задушыць? Тэрмінатар сціснуў далоні. Не, можа не хапіць сіл.

— Мадэст Пятровіч, глядзіце, тут нечая шапка валяецца. Раней яе не было.

Малады службовец са светлымі, амаль белымі бровамі і ружовым, як шынка, тварам падняў Генусеў картуз. Падобна, хутка заўважаць і яго ўладальніка. Вырашай жа нешта, звыродлівы баязлівец!

І наш хакер схапіў са стала рэвальвер, які яшчэ памятаў скронь старога прафесара.

Цяпер яго заўважылі. Здзіўлення — адкуль раптам у паветры вымаляваўся? — не было. Відаць, свядомасць часу хутка зацягвала разрывы, неяк вытлумачвала ўсё.

— Кінь рэвальвер!

Прыхадні занялі абарону вакол, наставіўшы на ворага сваю зброю. Касіянаў моўчкі, сунуўшы рукі ў кішэні паліто, глядзеў на хлопца ў чорнай кашулі. Няпраўда, што кат абавязкова сам страшэнна баіцца болю і смерці. Гэты кат баязліўцам не быў. Толькі ўсмешка некуды знікла з

куточкаў вуснаў, шчокі падцягнуліся, вочы звузіліся — дабрадзейны сем'янін, якім здаваўся яшчэ нядаўна, некуды знік. Рэвальвер скакаў у Генусевай руцэ, як жывы.

— Ты ягоны вучань, так? — голас Касіянава быў мяккі, як падушка, пад якой схаваны кінжал. — Ці ягоны сваяк? Не, не падобны... Значыць, студэнт. Савецкая ўлада дала табе магчымасць вучыцца, бачыш... Слухаць лекцыі вядомых вучоных. Напрыклад, прафесара Нічыпаровіча. Ты ж любіў ягоныя лекцыі, так?

Генусь, сам не разумеючы, чаму, хітнуў галавою.

— Ну вось... — задаволена, нібыта Генусь прызнаўся, што атрымаў значок варашылаўскага стралка, прамовіў Касіянаў. — І, вядома, цябе захапілі некаторыя ідэі прафесара. Незалежная Беларусь, Вялікае Княства Літоўскае, пабілі маскавіцян пад Воршаю... Але ведаеш, хлопча, ідэі — усяго толькі плод чалавечага розуму. Яны нараджаюцца тут... — Касіянаў пастукаў пальцам у чорнай скуранай пальчатцы па сваім ілбе. — А значыць, не кожная ідэя справядлівая. Вось жа многія думалі, што такім хлопцам, як ты, — ты ж не з багацеяў, праўда? — нельга вучыцца ва ўніверсітэтах, кіраваць дзяржавай, камандаваць арміямі.

Голас Мадэста Пятровіча, як туман, спавіваў думкі. Неверагодна, але нават ведаючы, што за чалавек перад ім, Генусь не мог пазбавіцца ад нейкага дурнога даверу, што спакваля запаўзаў у душу, як рабак, — гіпноз, ці што? Генусь разумеў, што трэба наважвацца... Націснуць курок... Усяго толькі адзін зрух пальцам... І не мог. Слімак.

— Ты не вінаваты, хлопча. Прафесар падманваў сам сябе. Зразумеў гэта — вось і вырашыў пайсці з жыцця. Смелы ўчынак. Ён даў табе і такім, як ты, знак: не памыляйцеся! Не ідзіце за мной, бо я вяду ў тупік! Маладыя людзі, здольныя верыць у ідэалы і змагацца за іх, патрэбныя рэвалюцыі. Мы забудзем на гэтую тваю памылку. Апусці рэвальвер... І шчыра распавядзі пра ўсё, што звязвала цябе з тваім выкладчыкам...

Генусь пераступіў з нагі на нагу, узяўся за рэвальвер абедзвюма рукамі, заплюшчыў вочы... Ну, націскай!

На яго накінуліся з усіх бакоў. Зброя прафесара адляцела некуды пад стол, так і не стрэліўшы другі раз. Білі па

рэбрах, па нырках, па галаве... Касіянаў назіраў з мяккім дакорам — як доктар за тым, як хворае капрызлівае дзіця не даецца зрабіць сабе выратавальны ўкол. Непрыемная, але неабходная працэдура... Цярпі, хлопча. Мы цябе вылечым. Галасы зліліся ў нейкі гуд...

I Тэрмінатар вярнуўся ў свой хакерскі час.

Як ні дзіўна, разам са сваім картузам.

Горыч і слодыч мёду,
якому не даў наліцца
У Богам табе адведзеныя,
не залатыя соты,
Стануць тваёй атрутай,
апошнім глытком вадзіцы,
Якога не дапрасіцца
ад брата Лазара ўпотай.
Зямля ў крыжах, нібы ў дзідах.
Пустэча — дарога болю.
Будуй высокую вежу
з наймоцнай слановай косткі —
Народжаны быць пчалою
ніколі не зменіць ролі.
Ён мусіць збіраць да скону
зямлі сваёй водар Боскі.
I ўмерці, не даляцеўшы
да самай апошняй кветкі,
I ўпасці на стос паперы
на паўрадку, на паўфразе.
А вулей у тую хвілю
не сціх і на зміrг павекаў.
А вулей, твой мёд забраўшы,
не ўспомніць цябе ні разу.

**ГУЛЬНЯ № 4**

Вярнуўшыся Адтуль, Генусь выглядаў горай за ўсіх. Таму што вярнуўся ў сіняках і скрываўлены. А кроў заўсёды надае сур'ёзнасці. Зброя, якая не рассякала цела, а толькі труш-

чыла косткі, была куды больш смертаноснай, бо ўдзельнікі двубою ў час не спыняліся.

Даліла, не прыгаворваючы абавязковыя для іншых кабетаў «ой, бедненькі — пацярпі — чаму я цябе не спыніла», агледзела Генуся. У прынцыпе, кроў цякла толькі з носа.

Генусю было кепска, а потым стала яшчэ горш — бо давялося распавядаць, што было Там. І пра сваю недаравальную баязлівасць. Скажаце, навошта? Можна было не расказваць? Салгаць? Каб у гэтай тусоўцы манілі, у ёй былі б іншыя людзі. Якія займаліся б іншымі справамі. Напрыклад, гулялі вечарамі ў сокер — падкідвалі нагамі напханую шкарпэтку. Ці пераказвалі адзін аднаму апошнія навіны пра гурт «Токіа-Гатэль» ды абменьваліся ружовымі значкамі...

Але людзі гэтай тусоўкі ўсе былі ў доме ля могілак.

Даліла толькі вусны пагардліва пакрывіла. Як можна было не выстраліць? Макс маўчаў. А Едрусь прамовіў:

— Я б таксама не змог. Забіць — нават ката — грэх. Твой грэх.

Генусь валяўся з тэмпературай на ложку Разаліі. Пытанне, дзеля якога ён пайшоў Туды, — варта болей хадзіць ці не — засталося без адказу. І так ясна было, што — пойдуць. Счакаўшы тыдзень, ці два... Але пойдуць. Пакуль жа абмяркоўвалі ўсё ў драбніцах. Відавочным рабілася — аб'ядноўваў усіх людзей, з якімі яны сустракаліся, адзін персанаж. Усе «кліенты» перад смерцю ўспаміналі пра хіміка Валяр'яна Скаловіча. Можа, Там галоўнае — сустрэць менавіта яго? І гэта яго належыць «спілаваць», а не галіну грушы?

Пакуль наш Генусь ачуньваў, Макс павёз Далілу ў вандроўку ў чарговую сядзібу. Ды не проста ў сядзібу, а туды, дзе пахаваны барон фон Нолік, вядомы мецэнат і бібліяфіл XIX стагоддзя, з якім Макс, аказваецца, у сваяцтве праз прабабулю, якая выйшла замуж за аднаго з чатырнаццаці баронавых дзяцей.

Макс загадзя спісаўся з мясцовым краязнаўцам. Што атрымалася далей, Даліла пасля пераказала мне, таму і я магу вам распавесці.

На месцы сядзібы і баронавай пахавальні пасля рэвалюцыі пабудавалі шклозавод. І менавіта ў тым цэху, што на месцы

магілак, пачалі з’яўляцца здані. То нейкія цені слізгаюць, то прадметы самі рухаюцца, то гукі таямнічыя. На пасадзе начальніка цэха больш за год ніхто не прабыў — паміралі. Васьмёра ўжо памерла. І некалькі апошніх гадоў месца вакантнае.

І вось згаданы краязнаўца, ад якога звычайна адны замарочкі — лямантуе, што не тое бураць, не тое будуюць, — паведамляе начальству, што прыедзе нашчадак барона фон Ноліка, гэта значыць Макс. А тут — ні магіл, ні сядзібы... Сорамна.

Месцічы, запалоханыя містыкай, убачылі ў прыездзе баронавага спадчынніка шанец пазбавіцца ад жаху. Людзі з рыдлёўкамі кінуліся на тое месца, дзе, па расповедах старых, была закапаная магільная пліта знакамітага барона. Камень у тону вагою вывалаклі і ўстанавілі пасярод клумбы перад фасадам завода. Кветак натыркалі — нібыта век тут раслі. Па госця-арыстакрата прыслалі машыну. Школьнікі з кветкамі, начальства з урачыстымі фізіяноміямі. Крамяныя дзеўкі ў нацыянальных строях з хлебам-соллю. Не паспелі Макс і Даліла выйсці з машыны — журналісты мясцовых газетаў ды радыё кінуліся да іх, як да Джоні Дэпа з Кірай Найтлі пад ручку. І самы ўпаўнаважаны журналіст з усведамленнем урачыстасці місіі звярнуўся да Макса па-нямецку. Ну як жа, бароны фон Нолікі! Дарэмна Макс тлумачыў, што ён не немец, што выдатна разумее і па-беларуску, і па-расейску і што на тытул барона прэтэндаваць не можа — прамыя спадчыннікі жывуць у Польшчы. Так і прахадзіў баронам да канца візіту, а дабрачынныя гіды час ад часу спрабавалі паўтараць ключавыя фразы сваіх аповедаў на мове Гётэ і Шылера. А Даліла, якая шчыра цешылася з сітуацыі, відаць, сыходзіла для ўсіх за баранесу.

Павялі «барона» і да адзінай ацалелай магілы роду фон Нолікаў: малодшага сына са спамянутых чатырнаццаці дзяцей. Пахаваны асобна, бо — самазабойца. Распавялі тут жа кранальную гісторыю: закахаўся малады паніч у цыганку, тая нарадзіла яму дзіця, а бацька-барон не дазваляў жаніцца... Ён і засіліўся.

Макс тут змог прыўнесці яснасць — загадзя раскапаў сапраўдныя факты ў архівах. Можа, падставай было і кахан-

не... Але засіліўся паніч з-за іншага. Ён вучыўся ў піцерскім універсітэце і быў выкліканы — ці сам каго выклікаў — на двубой. Тады смяротныя гулі з абаронай гонару забаранілі, усе датычныя жорстка пераследаваліся. Таму тыя, што жадалі «сатысфакцыі», рабілі так. Ворагі пісалі кожны развітальную запіску аб намеры добраахвотна сысці з гэтага свету. Потым секунданты кідалі ў шапку дзве косткі — чорную і белую. Той з удзельнікаў двубою, хто даставаў чорную костку, мусіў застрэліцца, а ўсе сведкі падтрымлівалі версію пра самагубства.

Малодшаму фон Ноліку не пашанцавала.

«Барона» і «баранесу» адвезлі ў Мінск на машыне начальніка мясцовай адміністрацыі. Ці суцішацца пасля іхняга візіту выбрыкі памерлых фон Нолікаў — пакуль невядома.

Макс пасля спісаўся з сапраўднай наследніцай тытулу — шаноўнай дамай з Уроцлава. Дык тая нават расплакалася, даведаўшыся, што яе паважаныя прадзеды так непрыгожа паводзяць сябе пасля смерці.

Карацей, нават дачка Далілы, малалетняя Віка, дражніла цяпер дзядзьку Макса «Фон-барон». Яго ж не баялася — дзядзька вясёлы, добры, на руках пагушкае, шакаладку дасць, цікавую казку раскажа... Шкада, не іграе на гітары, як дзядзька Эдзік, і не дае пагуляць у незвычайныя камп'ютарныя гульні, як дзядзька Генусь.

І, вядома, Макс быў супраць таго, каб Даліла пайшла Туды. Што ты за маці? Асіраціць дзіця хочаш? У цябе і так тры паддоследныя трусікі мужчынскага полу маюцца. Можа, досыць іхніх пакутаў? Генусь з ложка нешта запярэчыў... А Даліла — вось дзіва! — не ўгневалася, а хутчэй разнервавалася. Яшчэ крыху — і ўсе пабачылі б цуд у выглядзе слязінкі на зялёным воку. Але цуды на грэшнай зямлі здараюцца рэдка. Найбольш — у выглядзе старасвецкай чорнай сукенкі, якую наша сяброўка апранула замест заўсёдных штаноў, рыхтуючыся да падарожжа. Таму Даліла толькі прагаварыла перарывістым голасам, што сябры — гэта не паддоследныя трусікі. І калі каму ў галаў зайшло падобнае,

тым больш трэба давесці, што яны нароўні. Рызыкаваць чужым жыццём, не рызыкуючы сваім, несумленна.

І бегма, адпіхнуўшы Макса, кінулася Туды.

...Пятро Замоцкі моўчкі глядзеў у адну кропку. Дакладней, на драпінку ў падлозе з шэрых гранітных плітаў. Нават на погляд падлога была халоднай. Але яму давялося адчуць гэты холад навобмацак. І не адзін раз. А разоў гэтак трыста.

І кожны раз спадзявацца — што гэтае выратавальнае халоднае дакрананне падоўжыцца. Што не падымуць, пакінуць ляжаць... І новая сустрэча з болем адцягнецца... Ну хоць на пяць хвілінаў.

Дарэмна спадзяваўся. Тыя, хто працаваў тут, ведалі сваю нялюдскую працу дыхтоўна. Калі ім трэба спыніцца, даць вязню крыху надзеі, каб потым яшчэ нясцерпней падаліся здзекі, а калі трэба не аслабляць націск ні на хвілю, толькі мяняючы яго накірунак. Як ламаюць лазовы прут.

Цяпер ён на той стадыі, калі яму даюць надзею. Што ж, яны не памыліліся. Ён даўно гатовы падпісаць усё, што ім хочацца. Здаецца, нешта ўжо падпісваў... Выкрыкваў разам з крывёй прозвішчы. А яны казалі: «Не тыя! Мала! Яшчэ!»

Калі ласка... Міцкевіч, Луцэвіч, Кудзелька, Астрэйка, Дудар, Кадура... Магу назваць Напалеона Банапарта... Магу Маці Боскую Вастрабрамскую... Толькі дайце, дайце заснуць... Перастаньце біць... І хоць кроплю вады...

Пятро глядзіць на свае босыя ногі. Божа мой, гэта — яго ногі? Чорныя ад смярдзючага бруду і запеклай крыві... Пазногці, як кіпцюры.

Замоцкі ўспамінае, як паўтара дзясяткі гадоў таму гэтак жа здзіўлена глядзеў на свае ногі, праўда, зусім з іншым пачуццём — першы раз у жыцці абуў лакавыя чорныя чаравікі. Пазычыў іх маладому настаўніку педтэхнікума піцерскі прафесар, які нядаўна прыехаў з Расіі і стаў суседам па дому. Няёмка, вядома, паважанага акадэміка пасвячаць у свае побытавыя праблемы... Але нельга ж было ісці сустракаць вялікага пісьменніка Якуба Коласа, які прыязджаў з Курскай губерні на радзіму, у падраных чаравіках! Жонка ўжо і атрамантам замазвала драпіны, і суровымі ніткамі сшывала...

А якая гэта была сустрэча! Білеты распаўсюджваліся па спісах Саўнаркама, па некалькі — на кожны тэхнікум, школу, прытулак. Ён ухапіў усяго адзін — але жонка сказала: «Не возьмеш з сабою — лепей дамоў не вяртайся.»

Прабіліся... Усё-ткі Гандзя была сакратаркай у Наркампродзе, а значыць, звыкла мець справу з напорыстымі асобамі, што вымагалі падвышанага пайка. Загартавалася ў бойках з натоўпам. Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч прыязджаў у спецыяльна вылучаным дзеля яго вагоне, у суправаджэнні «світы»... А зусім нядаўна працаваў сціплым настаўнікам у вясковай школе ў Абаяні Курскай губерні. Яшчэ і адпускаць «губнаробраз» каштоўнага кадра не хацеў. Беларускі Саўнаркам абураную перапіску завязаў: вярніце нам нашага паэта!

Колас выйшаў з вагона — Замоцкі з-за мора галоў ды плеч бачыў толькі хударлявы вусаты твар, шчаслівы, расчулены... Нават разгублены. Народжаная ў вірах часу Беларусь тоўпілася на менскім вакзале. Хто тады думаў, чым гэта закончыцца?

Хаця... Некаторыя прадказвалі. Асабліва калі ў 1920-м расстралялі паэта Фабіяна Шантыра. Ужо большага рэвалюцыянера ўявіць цяжка было. Не чалавек — паходня. Ці кулямёт. Па здольнасці прамаўляць доўга, пераканаўча і аднастайна пафасна. Але захацеў абысціся без маскоўскіх бальшавікоў. Маўляў, у нас ёсць свае, беларускія, камуністы.

Ідэаліст. Кажуць, вельмі жанчын любіў. Нават у прысудзе яму гэта ўпісалі — «за добровольно-принудительную связь».

Цікава, што зараз робіць Гандзя? Падобна, пастаралася выкрасліць яго са свайго жыцця. Дзяцей жа ім лёс не даў. Яно і добра, як на сёння. Праўда, сусед па камеры неяк шаптаў яму на вуха — дзіва што, вязні ляжалі адзін на адным, як шпроты ў бляшанцы, — што зняволеным проста не перадаюць пасылак з дому. Наглядчыкі ўсё забіраюць — нават калі вязень даўно мёртвы, не скажуць, возьмуць — і спажываюць самі.

Замоцкі адчуў трывогу — нешта надта ён расслабіўся. Пачаў думаць пра недапушчальнае. Дом, жонка...

— Замоцкі, пад'ём!

Вязень ускочыў, як быццам крэсла пад ім запалала, заклаў рукі за спіну. Следчы задаволена глядзеў на спухлы, счарнелы твар з запалымі вачыма, падобнымі да апусцелых шклянак. Гатовы. Яшчэ крыху... І доўгая стужка дасканала арганізаванага канвеера вынесе адсюль патрэбны выраб. Паводле параметраў, вызначаных таварышам Касіянавым. Яшчэ падгабляваць... Дацiснуць... Не цела — душу. Калі на змену нянавісці, крыўды, гневу да «аб'екту» прыходзяць пакорлівасць і паслухмянасць, наступны крок — «аб'ект» мусіць палюбіць свайго ката. Шчыра, самааддана. І ўсё яму прабачыць, і перапоўніцца шчырай удзячнасцю. Варта толькі падказаць іншы накірунак для нянавісці, іншага — «сапраўднага» — ворага. Таварыш Касіянаў кажа, што па гэтай схеме працавалі ўсе вялікія. Рымскія цэзары выкарыстоўвалі ў якасці «пудзілаў», на якіх можа скіравацца ўся назапашаная нянавісць, першых хрысціянаў, іспанскія каралі — габрэяў. А ў нашых, драбнейшых, маштабах аддзела НКУС дастаткова сярод паддоследных выбраць аднаго... Галоўнае — не памыліцца з выбарам.

— Наперад!

Замоцкі дробнымі крокамі, баючыся паказаць, што балюча ісці, перайшоў у другі пакой. Пасля таго, як білі жалезнай трубой па галаве, адно вуха перастала чуць, і боль, быццам нехта час ад часу ўтыкае нож проста ў мозг.

— Сядай.

Пятро сеў, куды загадалі. Толькі пасля гэтага свядомасць уключылася. Побач, за сталом, сядзеў нехта маўклівы ў чорным. Але без загаду павярнуць галаву, паглядзець, хто гэта — не магло і думкі мільгануць! Знаёмы, як хвораму на рак — уласная пухліна, голас следчага прамовіў амаль спачувальна:

— Вось ты, Замоцкі, напэўна, думаеш, якія сволачы цябе схапілі, мучаюць.

Па твары зняволенага прайшлі дрыжыкі — ад жаху, што маглі падумаць, што ён праўда такое думае, і ад жаху, што мог не стрымацца і запярэчыць услых. Следчы працягваў:

— Не трэба баяцца сваіх памылак. Памылкі трэба выпраўляць. Менавіта з-за іх ты сюды і трапіў. А яшчэ дзякуючы таму чалавеку, які сядзіць у гэтым пакоі. Ён сказаў

нам, што ты памыляешся. Мы яму за гэта ўдзячныя. І ты мусіш быць удзячны. Ты ж выправіўся з нашай дапамогай, праўда? Паглядзі на яго.

Замоцкі павярнуўся налева. За сталом у высокім крэсле — разная спінка вышэй галавы — сядзеў у дыхтоўным чорным паліто, зашпіленым на ўсе гузікі да самага падбароддзя, ганарыста выпрастаўшыся і схаваўшы рукі пад стол, дэкан хімічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Валяр'ян Скаловіч. Твар белы, шчокі запалі, але вочы ўсё гэткія ж з'едлівыя. І на вуснах — не можа быць! — крывіцца тая ж непрыемная ўсмешка. Ён яшчэ можа ўсміхацца, вылюдак!

Замоцкі ледзь стрымлівае дрыготку нянавісці. Загнаны глыбока на дно душы гнеў раптоўна падымаецца наверх. Нібыта ўсё, што ён перажыў за апошнія паўгода, можна зараз спагнаць, выплюхнуць... Нехта мусіць яму за гэта заплаціць...

— Бачыш, які ён задаволены жыццём, твой знаёмец Валяр'ян Скаловіч? У такім прыгожым чорным паліто... У такім прыгожым крэсле...

Твар Скаловіча перасмыкнула, як ад агіды. Ён тузануўся, нібыта хацеў устаць, але замест гэтага толькі ганарліва адкінуў галаву на спінку крэсла.

— Не вер ім... Пятро, не вер ім... Яны эксперыментуюць над намі, паскуды...

Здушаны голас хіміка цяжка было пазнаць. Да таго ж Замоцкі мог слухаць толькі Касіянава — як слухаюць усемагутны лёс.

— Ты разумееш, Замоцкі? Гэта не мы, гэта Скаловіч вінаваты ў тым, што ты трапіў сюды. Скажы гэтаму чалавеку, што пра яго думаеш, не бойся. А можа быць, ён сам правінаваціўся перад савецкай уладай, а ад нас гэта схаваў? Можа быць, гэта ён мусіў быць на тваім месцы?

Замоцкі падымаецца, як у сне. Ногі дрыжаць. Бледны твар Скаловіча падаецца яму тварам самой смерці, самым паскудным, што ёсць у жыцці. Знішчыць яго — і вернецца святло і дабро.

— Ты, ты... Сволач... — у горле зняволенага хрыпіць нянавісць. Ён, як самнамбула, набліжаецца да здрадніка,

цягнучы рукі... Хімік глядзіць неяк незразумела — нібыта з затоеным болем. Не адхінаецца, не адводзіць вачэй... І паранейшаму крывіць, крывіць свае вусны... Схапіць за горла...

— Толькі не па твары! Чуеш, Замоцкі, па твары нельга! Пачакай!

Але Замоцкі цягнецца да бледнага аблічча кашчавымі пальцамі, на двух з якіх сарваныя пазногці.

Следчы вычэквае, потым падае знак канвойнаму. Той падыходзіць да Замоцкага і акуратна стукае таго па галаве прыкладам вінтоўкі. Чэрап нібыта ўзрываецца. Пятро падае ў трыста першы раз на гранітныя пліты.

— Я ж казаў, толькі трохі аглушыць!

— Ды я не моцна, таварыш лейтэнант... Відаць, у чэрапе была трэшчына.

Ужо згасаючы позірк выкладчыка педтэхнікума скіраваны пад стол... І бачыць, выразна, як уласную смерць, што з-пад чорнага дыхтоўнага паліто чалавека, які сядзіць за сталом, высоўваюцца ногі, дакладна такія ж, як у самога Замоцкага. Босыя, чорныя ад бруду і крыві, і нават свежыя чырвоныя струменьчыкі па гэтых нагах, прыкручаных дротам да ножак цяжкога крэсла, па кроплі сцякаюць у лужынку на гранітных плітах.

Відовішча аддаляецца... Замоцкі разумее, што яго цягнуць за ногі. І гэта апошняе, што ён разумее ў гэтым жыцці...

...Даліла не памятае, як патрапіла ў іншы пакой, куды перацягнулі нябожчыка. Сцены тут пафарбаваныя зялёнай алейнай фарбай колеру бэзавай лістоты. У пакоі пісьмовы стол, два сціплыя крэслы, драўляная табурэтка, лямпачка ў жалезнай круглай «клетцы»... Пах карболкі — як у бальніцы. Нічога страшнага. Калі не лічыць мёртвага цела вязня, выцягнутага на падлозе з шэрых гранітных плітаў, нібыта ўпаляваны звер. Далілу ўсё яшчэ калоціць ад апошняга моцнага пачуцця, якое перажыў перад смерцю нябожчык — ад нянавісці. Ёй хочацца кагосьці забіць — з-за таго, што перажыў мёртвы. Пакой пусты. Нікому няма справы да выкладчыка педтэхнікума Пятра Замоцкага, які не дажыў да таго, каб стаць гатовым вырабам канвеера... Не, не канвеера смерці, смерць — гэта збой, гэта адкіды... Подласці, ці што...

Даліла адарвалася ад сцяны. Наша феміністка ведала, што ў яе цяпер ёсць лічаныя хвіліны, перад тым як невядомая сіла выцісне Адсюль. І, вядома, спадзявалася правесці гэтыя хвіліны куды карысней за хлопцаў-першапраходцаў. Няшчаснаму Замоцкаму не дапаможаш... Трэба знайсці той пакой, дзе сядзіць хімік. Магчыма, за гэтымі дзвярыма... Даліла націскае на новенькую жалезную ручку ў форме зоркі... Дзверы не адчыняюцца. Ідзе да другіх дзвярэй — тыя таксама замкнёныя.

І што, варта было сюды трапляць, каб правесці час у кампаніі з нябожчыкам? Мая сяброўка кінулася да пісьмовага стала — можа быць, хоць тут нейкія вартыя дакументы, таямніцы? З шуфлядаў пасыпаліся на падлогу жоўтыя пустыя аркушы. Дзіўна, але Даліла выдатна ведала, што насамрэч на гэтых аркушах ёсць тэкст, проста ейная свядомасць не магла яго ўспрыняць, як вока не можа разгледзець нешта занадта далёкае. Мінулае праглядалася, як пейзаж з акна цягніка — то ўсё злівалася ад хуткасці, то на нейкім павароце ці на прыпынку можна было ўхапіць каліўца чужога жыцця. Асобныя кадры, маленькія эпізоды... І зноў — размыты, няпэўны асяродак.

Трэба пастукаць у дзверы... Закрычаць... Калі Генуся Тут білі, у яго засталіся сінякі. Значыць, у прынцыпе, Тут цябе могуць і забіць, няхай ты і з часу лядовых палацаў.

Даліла рашуча падышла да дзвярэй... Але перш чым яна паспела яшчэ раз тузануць за ручку-зорку, па той бок пачуліся крокі. У замку павярнуўся ключ, і ў пакой увайшлі трое ў форме. Адзін, каржакаваты, як мядзведзь, нёс на плячах складзеныя насілкі.

— Грузіце.

Расчыненыя дзверы — тое, што трэба... Даліла асцярожна абышла прыхадняў...

— Стой! Ты да каго, грамадзянка?

Даліла здрыганулася ад нечаканасці. Хлопцы ж расказвалі, што пакуль сам не «праявішся», не пачнеш з кімсьці размаўляць, дзейнічаць — ты для тутэйшых прывід.

Светлавалосы нкусавец з тварам, пабітым воспай, глядзеў проста на яе... Не, дакладней, праз яе. Таму што з-за спіны Далілы, з калідора адказаў няўпэўнены жаночы голас:

— Я да таварыша Касіянава... Ён выклікаў мяне. Я жонка арыштаванага Пятра Замоцкага.

Даліла павярнулася і пабачыла худзенькую кабету ў брунатнай сукенцы, падобнай да гімназічнай, з вялізнымі спалоханымі вачыма, якія з жахам зазіралі ў пакой, пасярод якога ляжалі насілкі з накрытым белай, чысцюткай, адпрасаванай прасцінай целам. У гэтым быў таксама асаблівы здзек — брудны, закарэлы труп вязня накрываць дасканала чыстай казённай тканінай. Нкусавец сярдзіта захінуў сабой насілкі.

— Налева па калідоры, грамадзянка. Чаму вы без суправаджаючага? Што за непарадак?

— Я тут! — маладзенькі шпіёналоў падляцеў да кабеты. — Я ж вам казаў пачакаць. Тут нельга хадзіць аднаму.

— Прабачце... — прашаптала жанчына, усё яшчэ не адрываючы вачэй ад насілак. — Я выпадкова... Мне падалося, што... А... мой муж... ён дзе? Мне дадуць яго пабачыць?

— Вам усё патлумачаць, — маладзён схапіў жанчыну за плечы і сілай развярнуў у калідор. — Ідзіце, куды сказана.

Даліла рушыла следам. Раптам жанчына адпіхнула суправаджаючага з моцай, неверагоднай для ейнага худзенькага цела, і бегма кінулася назад, у пакой са страшнымі насілкамі.

— Стой, сцерва! Страляць буду! — закрычаў нкусавец і выхапіў рэвальвер. Вось тут Даліла і адчула, што можа выканаць сваю гістарычную місію... Зараз штурхне забойцу ці прыме кулю на сябе...

— Ну якая вы нервовая, грамадзяначка, — жонку Замоцкага трымаў амаль у прыяцельскіх абдоймах каржакаваты, які нёс раней насілкі. — Адразу з таварышам Касіянавым пабачцеся, а тады лётайце сабе. Калі захочаце.

— Я ведаю — гэта Пятрок! Я адчуваю! — жанчына задыхалася ад хвалявання. — Скажыце мне праўду!

— Таварыш Касіянаў скажа.

— Дайце я толькі пагляджу, хто там, на насілках!

Даліла моўчкі глядзела, як жанчыну валакуць, ледзь не выносяць. І што цяпер? Каго біць, штурхаць, страляць? А вось і знаёмае па расповедах хлапцоў сціскanne цела. Як быццам цябе хочуць змясціць у вельмі вузкую труну...

І Даліла вярнулася ў хату ля могілак.

Хлопцы без яе «адарваліся». Макс з падбітым вокам — Генусь прыклаўся. За тое, што Далілу справакаваў на падарожжа. Едрусь парваў струну на гітары... А якіх яшчэ вынікаў чакаць ад саракахвіліннага няспыннага нервовага брынгання?

А Даліла была змрочнай, як раструшчанае люстэрка. Так нічога і не змяніла. Дарэмна схадзіла. Такое болей не павінна паўтарацца.

**ГУЛЬНЯ № 5**

— І вось сядзіць ён у чорным паліто. І, уяўляеце сабе, усміхаецца!

Даліла сыходзіла праведным гневам, як кактус апунцыя — маленькімі калючымі атожылкамі. З кожнага атожылка магла таксама вырасці вялікая шыпастая расліна.

Едрусь паспрабаваў запярэчыць — усіх катавалі, таму судзіць тых, хто даваў паказанні, нельга... А паказанні давалі практычна ўсе. Макс распавядаў не аднойчы, што старонкі ў следчых справах крывёй запырсканыя. Толькі ў 1933-м яшчэ здзекаваліся так, каб чалавека можна было пасля падлячыць ды выпусціць. Невядома, як мы бы прайшлі праз гэтыя пакуты. Напэўна, таксама здавалі б усіх і згаджаліся на ўсё. Даліла толькі фыркнула — і сказала, што гэта «апраўданне позы». Вельмі распаўсюджаны на сёння ў асяродку інтэлектуалаў занятак. На іспытах у тэатральныя вучэльні ды інстытуты жадаючым далучыцца да гільдыі блазнаў і трубадураў даюць заданне стаць неяк асабліва вычварна, камандуюць: падымі правую нагу, завядзі левую руку за спіну, абапрыся правай рукой аб падлогу... А тады трэба прыдумаць і сыграць абставіны, у якіх тая поза будзе абсалютна натуральнай. Напрыклад, калі ты стаіш ракача, узняўшы руку над галавой, — гэта смешна. А калі ў руцэ пантофля і ты збіраешся забіць прусака — ужо нармальна. Вось і той, хто дэфармаваўся ў таталітарнай сістэме, падрыхтаваўся лізаць азадак альбо захінуўся ад удару, сціснуўся, угнуўся, зашыўся пад лаву, прыдумвае сабе высакародныя апраўданні.

Цэлыя бліскучыя, дасціпныя артыкулы і манаграфіі бываюць прысвечаныя апраўданню позы...

Бо натуральная для чалавека толькі адна — вольна выпрастаўшыся.

Даліла разумела, што ісці Туды яшчэ раз пакуль не можа. Саслабла. А пакінуць усё надоўга яна не хацела. Да таго ж, новы чалавек можа ўбачыць нешта новае...

І да Гульні далучылі мяне.

Хлопцы, дарэчы, былі супраць. Кожны парываўся пайсці сам. Але Даліла пераканала — трэба пусціць новенькую. Мне сумленна распавялі пра рызыку.

Я апранулася так, як параіў Макс, знаўца часу. Не стала браць у бацькоў нацыянальныя строі. Вампука ўсё гэта, іхнія вышыванкі, камізэлькі, андаракі... Для «ражаных». Зайшла да знаёмай мастачкі Вольгі, пазычыла сукенку з нефарбаванага лёну, на дробных гузічках, і высокія чаравікі з брунатнай патрэсканай скуры — усё сапраўднае, канца саракавых гадоў. Волечка, дарэчы, у чарговы раз мяне здзівіла: іду да яе, а яна сядзіць насупраць пад'езда свайго дома-«сталінкі» на зэдліку і крышыць перад сабою батон. Побач фатограф Сева. Перад імі стаіць венскае крэсла, цераз скразную, у выглядзе вензеля, спінку якога Сева цэліць аб'ектывам. Я не адразу скеміла, што да чаго. У сцяне Вользінага дома нішы — пад ідэалагічна правільныя помнікі. Колькі гадоў пустыя... Дык адну нішу Волечка заслала парчой і расклала нацюрморт у стылі старых галандцаў: чаканеныя з металу вазы, ружы, півоні, вінаград, гарбузы, яблыкі, персікі, лімоны... А хлеб крышыцца — каб яшчэ і галубы сюды падляталі.

І калі ў гэтым горадзе нехта робіць казку — хто можа знішчыць гэты горад? Ды яшчэ ў ім ёсць такія людзі, як Волечка, якія ніколі не пытаюцца, нашто табе тое ці іншае. Нават камсамольскі значок трыццатых гадоў з калекцыі Вользінага дзядулі.

Я начапіла на сукенку з дробнымі гузікамі значок і праігнаравала загад студэнтам пятага курсу сабрацца на інстытуцкім стадыёне для падрыхтоўкі да свята горада — мы мусілі ісці падчас урачыстасцяў салдацкім строем у чырвона-зялёных спартовых касцюмчыках і махаць чырвона-

зялёнымі сцягамі. Замест гэтага, рызыкуючы «двойкай» па фізкультуры, рушыла на могілкі.

За крок да сцяны з абразам «Маленне аб Чашы» Даліла прымусіла мяне дастаць металёвы шарык-завушніцу з губы.

А татушку-чарапушку, рэцыдыў цяжкога ўзросту, усё роўна на левай лапатцы наўрад забачаць. Не ў лазню збіраюся.

Я весела ўсміхнулася сябрам і зрабіла крок наперад.

...У верхняй частцы высокага акна красаваўся новенькі вітраж — чырвоная зорка, серп, молат...

Каляровае шкло магло кінуць адценне на растворы і перашкодзіць убачыць іх сапраўдныя колеры падчас доследаў. Але ніхто не наважыўся нават рэкнуць пра тое, каб прыбраць сімвалы савецкай улады з акна ўніверсітэцкай лабараторыі. Толькі змрочны дэкан хімічнага факультэта Валяр'ян Іванавіч Скаловіч напісаў заяву на імя рэктара. Рэктар, збялелы, як папера, на якой была напісаная заява, выклікаў да сябе славутага хіміка. Што яны казалі за зачыненымі дзвярыма — невядома, але заява бясследна знікла. У адрозненне ад зоркі ў акне.

Антаніна, закусіўшы губу, глядзела на спіну высокага мужчыны ў белым халаце. Мужчына вельмі акуратна пераліваў белую каламутную вадкасць з прабіркі ў вялікую колбу, напалову напоўненую празрыстым расчыннем. Упэўненыя рухі, хударлявая, але моцная постаць...

— Валяр'ян Іванавіч, вы не адказалі мне.

— Я не абавязаны адказваць на абсалютна дурныя і некарэктныя пытанні сваіх падначаленых, — нізкі глыбокі голас мужчыны гучэў з'едліва, як серная кіслата. Здавалася, гэты голас таксама можа праліцца на падлогу, і нават з каменя пойдзе едкі дым. Антаніна нервова адвяла за вуха прадку рудых непаслухмяных валасоў.

— Валяр'ян Іванавіч...

— Студэнтка Аксючыц! Я пачынаю шкадаваць, што ўзяў вас на пасаду лабаранткі. Вы, здаецца, не маеце нават самага элементарнага ўяўлення пра тэхніку бяспекі падчас працы з атрутнымі хімічнымі рэчывамі! Ніякіх староннiх размоў!

Голас грымеў так, што нязвыклы чалавек мімаволі адхіснуўся б назад. Але рухі мужчыны пры гэтым ні на змірг не страцілі сваёй размеранасці. Ды і дзяўчына, відаць, да падобных грымотаў прызвычаілася, бо толькі яшчэ мацней прыкусіла ніжнюю губу. З боку гэта выглядала зусім па-дзіцячы... Хаця дзяўчына была прыгожай той шчаслівай прыгажосцю, калі ўзрост губляе значэнне, — такія аднолькава вабяць вока і ў пятнаццаць, і ў сорак. Дасканалая гнуткая постаць, высокія грудзі, вялікія зялёныя вочы з «русалчыным» разрэзам — трохі прыўзнятыя знешнія куткі, выгінастыя бровы, высокі белы лоб... Вялікаватыя ружовыя вусны, зараз горка падцятыя... Забіцца ці забіць за такую прыгажосць.

Мужчына скончыў працу, няспешна паклаў прылады на месца і павярнуўся. Ён быў ужо немалады — гадоў сорак, але пастава выпрастаная, як у таго, хто любіць пазіраць на ўсіх звысоку або шмат займаўся гімнастыкай. Цёмныя прыжмураныя вочы змрочна і ганарыста глядзелі на лабарантку. Худы твар мужчыны наўрад хто назваў бы прыгожым. Бледная скура, вялікі нос кручком, рэзкія лініі ад носа да фанабэрыстых вуснаў, глыбокая вертыкальная зморшчына між прамых густых броваў, неахайныя прадкі валасоў...

— Ну што вы стаіце, таварыш Антаніна? Здаецца, вам плацяць не за сузіранне свайго прафесара, а за тое, каб вы ў ліку іншага мылі пустыя прабіркі. Калі, вядома, гэты надзвычай складаны працэс даступны вашаму інтэлекту. Ну, будзеце далей выяўляць з сябе саляны слуп?

Зялёныя вочы дзяўчыны глядзелі так адчайна, што звычайны прадстаўнік адамавага племя спапяліўся б у іх зялёным агні, упаў бы на калені і маліў аб прабачэнні...

— Валяр’ян, прашу цябе, не хадзі туды.

— Студэнтка Аксючыц! Хто вам дазволіў звяртацца да свайго выкладчыка так недапушчальна фамільярна?

Ну нашто ён зноў будуе гэтую шкляную сцяну? Дзяўчына ступіла наперад і паклала вузкую даланю на грудзі мужчыны. Той тузануўся, каб адхіснуцца, але ўсё-ткі застаўся на месцы. Толькі яшчэ больш адкінуў назад галаву.

— Я бачыла позву на тваё імя... Чаму яны прыслалі табе позву ва ўніверсітэт? Другім прыносяць дахаты, таемна. Чаму яны хочуць, каб усе ведалі, што ты туды пойдзеш?

Прафесар апусціў вочы і прамовіў скрозь зубы:

— Таварыш Антаніна, адыдзіце ад мяне. Гэта пераходзіць усе...

— Перастань! — голас Антаніны сарваўся на крык. — Што ты з сабой робіш? Чаму паводзіш сябе з усімі як апошні паскуднік?

— А я і ёсць апошні паскуднік, — голас мужчыны гучаў цалкам сур'ёзна. З ледзь прыкметным дамешкам горычы. — Хіба Вы не заўважылі, Антаніна, што пасля майго візіту ў Жоўты дом з універсітэта знікла пару дзясяткаў людзей? Калі вы не бачыце тут сувязі, значыць, ваш узровень інтэлекту яшчэ ніжэйшы, чым я думаў.

— Я не веру! — дзяўчына ўчапілася ў белы халат свайго суразмоўцы абедзвюма рукамі, нібыта баялася, што яго злыя словы зараз садзьмуць яе, як вецер. — Яны зноў напісалі, як мінулы раз, што выклікаюць цябе «для кансультацыі»... Тады ты знік на паўгода... Потым вярнуўся такі... На цябе страшна было глядзець. Ад цябе пахла смерцю... Але не страхам. Не подласцю. Не баязлівасцю. Мяне ты не падманеш сваёй... сваёй бессардэчнай манерай зносінаў.

— Усё, гэта ўжо занадта! — мужчына адарваў ад сябе рукі дзяўчыны. — Займіцеся справай! Пачніце, урэшце, разгадваць душэўныя нюансы ў сваім мужы.

— Я кахаю цябе! — пракрычала Антаніна ў спіну прафесару, які пачаў няспешна здымаць халат. — Ужо пяць гадоў. З першага курса. Я выйшла замуж за Антона толькі таму, што ты мяне адштурхнуў!

Голас Валяр'яна Іванавіча ні на залатнік не страціў атрутнасці.

— Чыста жаночая логіка. Выйсці ад крыўды за камсорга ўніверсітэта. Вы ўпэўненыя, што бравы чырвонаармеец Аксючыц вашу логіку зразумее?

Скаловіч павярнуўся да дзяўчыны. Ён застаўся ў чорным пінжаку, зашпіленым на ўсе гузікі, і ў белай кашулі з высокім каўняром. Быццам рыхтаваўся выйсці на сцэну. Цёмныя вочы глядзелі ўсё гэтак жа звысаку.

— Шаноўная, прафесар, які спакушае студэнтачку, — гэта банальна, як гусар, які спакушае гімназістку. Выпіце нанач маёй цёзкі, валяр'янкі.

— Я не магу без цябе. Ты выдатна ведаеш, што я не маню! Што для мяне гэта сур'ёзна. І — прызнайся — для цябе... Тады, пасля вечарыны ў політэхнічным, калі я ўпала, а ты мяне падхапіў... Калі вярталіся пад дажджом... І потым, калі капнула сабе на руку кіслатою... Ты ж трохі выйшаў са сваёй сталёвай абалонкі?

— Чаму такі паскуднік, як я, не можа пагуляць пачуццямі наіўнай дзяўчынкі? — холадна адказаў прафесар, гледзячы некуды за акно з чырвонай зоркай. — Зразумейце, мне за сорак, і мяне не могуць сур'ёзна зацікавіць маладзенькія інжэню. Шкада, што вы настолькі... бязмозглая, што вырашылі, быццам у мяне ёсць сэрца.

— Валяр'ян! — Антаніна кінулася да мужчыны, абняла за шыю; ён стаяў нерухома, схаваўшы рукі ў кішэні пінжака. — Я не ведаю, у якія гульні гуляюць з табой нкусаўцы... Мне ўсё роўна, што гавораць пра цябе іншыя. Чаму ты караеш сябе так жорстка? Чаму не хочаш, каб цябе кахалі? — вусны прафесара здрыгануліся, але ён прамаўчаў. Дзяўчына працягвала гаварыць гарачым шэптам: — Але я ведаю, што гэта ты выратаваў Паўліка ад арышту, што гэта ты схаваў насценгазету перад вышукам, і наш выбрык застаўся без наступстваў, і што гэта два дурныя трэцякурснікі выпадкова перакулілі партрэт Сталіна ў трыццаць другой аўдыторыі, а ты ўзяў на сябе. І дасюль чытаеш лекцыі на беларускай мове, хаця цябе за гэты тройчы разбіралі на сходах. І на гэтых лекцыях студэнты сядзяць нават на падваконнях і на падлозе — не хапае месцаў. Ты вялікі вучоны. І я адчуваю, што ў Жоўтым доме цябе чакае нешта страшнае. Як ні хаваеш — я бачыла на тваіх руках чырвоныя шнары. Вось тут... І тут... І на шыі, пад каўняром. Дазволь мне выратаваць цябе! Мы можам з'ехаць... Вунь паэт Паўлюк Шукайла з'ехаў у Ленінград... І яго не арыштавалі.

З твару прафесара знік сарказм — засталіся толькі стома і сум.

— Збегчы... Божа мой... Наіўнае дзяўчо... Калі б можна было збегчы... Тут створаная сістэма, ад якой схавацца немагчыма. Ведаеш, я... спрабаваў. Не, мне дапамагчы нельга. Мая роля прадвызначана. Гэта як у балагане. Клоўн можа

быць хворы, п'яны, можа паміраць.... Але ад гэтага яго нумар яшчэ смешнейшы.

Голас прафесара зноў набраў моцы.

— І ўвогуле, чаму вы вырашылі, што мяне варта шкадаваць? Я заслужыў усё, што маю. Ваша фантазія пра мяне беспадстаўная. Запэўніваю вас — я **сапраўды** даносчык і здраднік, і на мне **сапраўды** кроў маіх сяброў.

Ён сказаў гэта так, што сэрца дзяўчыны пахаладзела... І паверыла. Перад тым як выйсці з аўдыторыі, Валяр'ян Іванавіч азірнуўся:

— Памыйце прабіркі. І не так неахайна, як мінулы раз. Не зачапіце па няўклюднасці вялікую колбу. Працэс мусіць доўжыцца да дзесяці трыццаці раніцы. А з заўтрашняга дня вы пераводзіцеся на пасаду лабаранта біялагічнага факультэта. Я ўжо дамовіўся з дэканам.

Дзверы зачыніліся. Антаніна моўчкі стаяла і глядзела. На апліку ля дзвярэй вісеў белы халат. Ягоныя рукавы нагадвалі змятыя крылы.

Дзіўна, звычайна Скаловіч старанна распроствае, перш чым павесіць, свае «хімічныя даспехі».

Зялёныя вочы дзяўчыны згаслі... Холад падымаўся ад сэрца да вуснаў, расцякаўся па руках да кончыкаў пальцаў... Як холадна... Як у магіле.

Яго вусны былі такімі гарачымі падчас іх першага пацалунку — тады, пад дажджом. Папраўдзе, гэта яна яго пацалавала, сама. Немаладога, непрыгожага, суровага прафесара з невыносным характарам. Тады ён раптоўна сціснуў яе ў абдоймах — і адказаў на пацалунак. А потым адштурхнуў ад сябе і прачытаў цэлую лекцыю пра неўтаймаваную эратычную энергію падлеткаў і этыку адносінаў між студэнтамі і выкладчыкамі.

Часам здавалася, што яна проста прымроіла тое, пасля чаго між імі прагучала «ты»... Імгненні шчасця... І — такое жорсткае расстанне.

Але яе нянавісці і крыўды не хапіла надоўга.

Антаніна, як у сне, падышла да стала з прабіркамі, колбамі ды іншым начыннем сучасных алхімікаў, якія не верылі ў філасофскі камень. Каб каму з яе знаёмых расказаць, што яе

нешта з’ядноўвае з фанабэрыстым і геніяльным нягоднікам Скаловічам, — рассмяяліся б. Цяпер і яна можа рассмяяцца. Такім тонам не маняць. Няўжо ён і праўда — даносчык? Забойца? І ходзіць у камісарыят па сваёй волі? І не варты кахання? І... не кахае яе?

Вось што адзіна важнае.

ён-не-кахае-яе

Аскалёпкі разбітай надзеі ўпіліся ў душу. Калі душа сцякае нябачнай крывёю, гэта надоўга.

Антаніна падышла да стала і моўчкі ўтаропілася на колбу з каламутнай белай вадкасцю. Вось быў бы лепшы сродак ад болю... Толькі невядома, каму лепей прыняць, — ёй, яму... Ці — напалам... Шлюбны келіх вар’яцкага часу. На рудых валасах, заплеценых у касу, скакалі вогненныя водсветы промняў сонца, што прабіваліся праз чырвоную зорку на вітражы.

Раптам дзверы ў лабараторыю расчыніліся. Антаніна з раптоўнай надзеяй павярнулася. Антон, муж... Шыракаплечы, блакітнавокі, надзейны. З твару дзяўчыны нібыта імгненна сцерлі нейкі тонкі светлы выраз. За Антонам сунуўся ягоны прыяцель Андрэй — Антаніна яго не любіла і нават пабойвалася. Здаецца, таварыш Антона па колішняй службе ў асобым атрадзе. Валасы, бровы, вейкі амаль белыя, а твар ружовы, як шынка. І вочы светлыя... Як гузікі ад салдацкіх кальсонаў.

Андрэй чамусьці зачыніў за сабой дзверы лабаранцкай на ключ. Адкуль у яго ключ? А Антон, пачуўшы за спінай шчоўканне замка, раптам імкліва падышоў да жонкі і моцна ўдарыў па твары.

Антаніна пахіснулася... Яе падхапілі моцныя рукі — гэта белабровы. Прыціснуў спінай да сябе, рукі — як абцугі. Голас над вухам, сіплы, нібы ў карчмара:

— Ты што, Антон? Не павінна быць слядоў!

Камсорг грэбліва скрывіўся і сказаў, як плюнуў, у твар жонкі.

— Сучка! Ну што, не нацягнуў цябе сёння твой прафесар? Мусіць, у яго праблемы з гэтым. Прабірак нанюхаўся.

Антаніна тузанулася, але Андрэй яшчэ крапчэй сціснуў яе.

— Пусціце мяне! У нас... са Скаловічам... нічога не было...

— Тады ён цалкавіты мудак.

Антаніна ўбачыла, што Антон бярэ са стала колбу з каламутнай вадкасцю.

— Пастаў на месца! Гэта нельга чапаць да заўтра. Ты сапсуеш Валяр'яну Іванавічу дослед! Да таго ж тут кіслата. Апячэшся.

Антон нявесела ўсміхнуўся.

— Якая клапатлівая ў мяне жоначка. Дзень і ноч толькі пра мяне думае.

— Слухай, а можна яе... разок... наастачу? — прагучаў над вухам Антаніны задыханы, як ад бегу, голас Андрэя. — Гарачая дзеўка.

— Можа, пад Скаловічам і гарачая была, — прашыпеў Антон. — Але ты, Андрык, кінь дурное, а то моркву тваю адарву. Гэта мая жанчына! Не мне — дык нікому.

І па твары яго прабег цень болю. Даўняга, стоенага, які на дне душы даўно ператварыўся ў атруту нянавісці.

Антаніна з жахам разумела, што яны ўжо нешта вырашылі наконт яе. І не чакаюць ні тлумачэнняў, ні раскайвання, нічога.

— Трымай крапчэй!

Яна з усіх сілаў пачала вырывацца, кусацца, брыкацца... І абсунулася ад жорсткага ўдару.

— Што вы... Навошта?

— Сюрпрыз твайму прафесару рыхтуем!

Антон паднёс колбу да ейных вуснаў і схапіў моцнай рукой за падбароддзе.

— Скажы «а»!

Апошняе, што падумала Антаніна, — яны хочуць зрабіць Скаловіча забойцам. Вядома, Валяр'ян вырашыць, што яна скончыла самагубствам з-за яго. Але... Значыць, насамрэч — ён ніколі не быў забойцам! Ён зноў на сябе нешта нагаварыў! Валяр'ян... Невыносны... Любы...

Што з табой будзе, калі ты даведаешся пра маю смерць?

Рот апякло пякельным агнём... І акрамя болю, у гэтым свеце не засталося нічога.

Дзверы зноў зачыніліся. Халат, што вісеў на апліку, трохі варухнуўся, быццам хацеў затрымаць злачынцаў.

Я глядзела на дзяўчыну, што ляжала пасярод светлага пакоя з белымі металёвымі шафамі са шклянымі дзверцамі. Была б вельмі мастацкая дэталь, каб чырвоны водсвет вітража-зоркі падаў якраз на труп у белым халацiку.

Але зорка працэджвала сонечныя промні ў бок левай шафы. Праўда, готыка атрымлівалася і пры гэтым: шкляное начынне шафы, колбы ды рэторты, здаваліся напоўненымі крывёю, як у кабінеце чорнага мага.

Чырвань, магчыма, была яшчэ і ў маіх вачах. Госпадзе, як жа мне было фігова! Цяпер я разумела, што перажывалі мае сябры. Прысутнічаць пры чужой смерці... І табе нібыта перадаецца боль таго, хто памірае... І ты не можаш нічога зрабіць — бо фізічна цябе пакуль у гэтым свеце няма.

Я адвяла вочы ад твару нябожчыцы. Кіслата — гэта вам не напой «Бураціна»... Рука забітай нібыта трымала колбу, у якой заставалася яшчэ са шклянку вадкасці. У эксперыментальным расчынні павольна закручваліся белыя спіралі, быццам дым. Што ж, пасля таго, як камсорг з сябрам папрацавалі над дэкарацыямі, нават самы тупы, калі зойдзе, адразу зразумее, ад чаго памерла прыгажуня.

У галаве маёй, як заўсёды ў стрэсавыя моманты, быццам на шалёным верацяне, высноўваліся радкі, у якіх убачанае перакручвалася, скажалася, прысмак смерці ператвараў дзень у ноч, сонца — у поўню...

Выпіць атруту.
Нічога не помніць пра зоркі
У вітражах ацалелага дома пакуты.
Поўня, нібыта адзінае злоснае вока
Чорнага звера, які да граніту прыкуты.
Выпіць атруты...
Мой келіх запомніў адбіткі
Рук тваіх цёплых...
Мае ж схаладнеюць навечна.
Колькі разумных...

А мудрых няма і вялікіх.
Нас падзялілі на спісы, участкі і рэчы.
Зоркі шкляныя
Працэджваюць погляды поўні
Гэтак ашчадна,
Як злая шынкарка — гарэлку...
Цемра і ціша.
Ты проста, як рану, запомні
Вочы мае... І табой цалаваныя вейкі.

Папраўдзе, больш за ўсё мне хацелася адсюль знікнуць. І я зараз жа ўявіла, як раптам не змагу вярнуцца — мала што... Замок у дзвярах не быў зачынены. Каты ж не хацелі, каб іх справа засталася незаўважанай. Пусты калідор. Я дайшла да акна ў яго канцы і зірнула ўніз: здаецца, трэці паверх. Акно выходзіла ў маленькі, як кішэня, унутраны дворык, засаджаны кустамі і яшчэ кволымі дрэўцамі. На лаўцы пасярод дворыка цямнела постаць. Мужчына ў чорным пінжаку сядзеў да мяне спінай, апусціўшы галаву з неахайнымі прадкамі валасоў. Нерухомы, як камень. У ягоных прыўзнятых плячах, апушчанай галаве мне чамусьці пабачыўся безнадзейны адчай. Хаця, можа быць, прафесар проста медытаваў на гіпсавага Леніна, які бялеў насупраць лаўкі ідэалагічным маяком. Я зразумела, што мне трэба рабіць.

Пайсці і сказаць Скаловічу, што адбылося ў лабараторыі.

Ён, вядома, страшэнна непрыемны чалавек. Абсалютова незразумела, чым прывабіў прыгажуню Антаніну. Застаецца меркаваць, што незвычайнымі поспехамі ў хіміі.

Але нават самы апошні мярзотнік мае права ведаць, што на яго сумленні забойствам менш. Хаця з прыгажуняй-лаборанткай быў ён невыносна грубы. Далілы няма на такога грубіяна.

Я выйшла на лесвіцу і патроху пабрыла ўніз. Другі паверх... Першы... Вестыбюль... Сонца 1933 года расплылося ў маіх вачах, нібыта па паверхні вады ўдарылі вяслом і кожнай маленькай хвалі ўдалося ўхапіць сваё адлюстраванне нябеснага вока.

Завярнула за вугал, спрабуючы зразумець, дзе тут уваход у дворык з чорнай (жывой) і белай (гіпсавай) фігурамі.

Здаецца, там... Мяне абагналі двое — шыракаплечы хлопец у брунатным пінжаку і картузе, амаль такім, як выкуплены Генусем «на Жданах», і дзяўчына з кароткай стрыжкай, у сіняй кофтачцы і белай спадніцы. У абаіх — камсамольскія значкі, такія ж, як я пазычыла ў Волечкі. Парачка збіралася ўжо завярнуць у двор, куды мяціла і я, але прыпынілася. Дзяўчына грэбліва прамовіла напаўголаса.

— Там Скаловіч сядзіць. Фу. Пайшлі адсюль.

— І праўда... Вось халера... А чаго гэта ты пра яго — «фу»?

— Дык ён жа на НКУС працуе. Усе ведаюць. Даносіць.

Хлопец неўразумела пацісну́ў плячыма.

— Ну і правільна робіць. А што, мы не павінны паведамляць савецкай уладзе пра ўсякія варожыя вылазкі? Шпіёны ж паўсюль, белыя, кулакі, нацдэмы замаскіраваныя... У нашым універсітэце таксама.

Дзяўчына трохі сумелася.

— Ну, так... Але... Ну вось ты, Міхась, хіба пасля лекцыі Нічыпаровіча пабег даносіць, што ён хваліў князя Радзівіла?

Міхась стаяў да мяне спінай, і я не бачыла ягонага твару. Але заўважыла, як вушы яго, злёгку аттапыраныя, пачырванелі.

— А што, хваліць эксплуататараў, па-твойму, савецкі выкладчык мае права? Тэатр, разумееш, крывасмок пабудаваў, галерэю карцінную... Не сам жа будаваў! Прыгонных сваіх змушаў! Бізунамі! Дай волю такім нічыпаровічам — яны вернуць царскі лад, пры якім у іх была прыслуга і залатыя талеркі.

— Якія залатыя талеркі? — дзяўчына зазлавала. — Глупствы вярзеш. Галоўнае — чалавек абазнаны. Любіць Беларусь, перадае нам свае веды, робіць гэта самааддана, цікава...

— А трэба — не «цікава», а так, каб па-нашаму, па-пралетарску. Цікава — гэта ў кафэшантане. Вунь тры гады таму гэтыя «пісьменнікі», што паступілі ва ўніверсітэт без іспытаў, — Дудар, Александровіч, Дарожны, Глебка, Лужанін, Кадура — памятаеш, якімі фацэтамі хадзілі? У капялюшыках, пры гальштуках, з кульбачкамі... З «простымі» студэнтамі не размаўляюць. А калі пра іх фельетон змясцілі ў насцен-

газеце — у «Савецкую Беларусь» напісалі. «Беларускіх пісьменнікаў у Дзяржуніверсітэце прыцiскаюць!» А потым — што? Пасля правільнай партыйнай крытыкі? Усе прыпаўзлі прабачэння прасіць. І дзе цяпер яны самі, і дзе іх капелюшы?

Дзяўчына блiснула на хлопца шэрымі вачыма.

— І ўсё роўна... Калі чалавек памыляецца — пра гэта трэба сказаць на сходзе, адкрыта, каб той, каго абвінавачваюць, мог выказацца, прызнаць памылку, а пасля выправіцца.

— Вось і давай абмяркуем цябе на наступным камсамольскім сходзе, — вельмі сур'ёзна прапанаваў хлопец. — Спытаем у таварышаў, ці мела ты рацыю, калі асуджала прафесара Скаловіча за шчырае супрацоўніцтва з Наркаматам унутраных спраў і апраўдвала прафесара Нічыпаровіча за ўхвалу эксплуататарскіх класаў.

Я пабачыла, што дзяўчына спалохалася. Нават рабацінкі, якія шчодра ўсыпалі ейны круглы тварык, збляднелі. Яна амаль шчыра рассмяялася.

— Ну, можа, я і памылілася. Ты ж многа раз казаў мне, што я занадта даверлівая. Проста... Нічыпаровіч зусім стары... А Скаловіч такі... няветлівы. Ён жа і на цябе адзін раз накрычаў.

— Так, тып, трэба прызнацца, непрыемны... — неахвотна прабурчэў Міхась. Дзяўчына схапіла яго пад руку і разварнула да вуліцы.

— Ну, пайшлі да мяне ў інтэрнат.

— Ты ж не хацела? — падазрона прамовіў Міхась.

— А я перадумала.

Твар хлапца асвяціўся ўнутраным задавальненнем, нібыта ад доўгачаканай перамогі. Ён шырока ўсміхнуўся і рушыў з дзяўчынай пад руку... Я нейкі час глядзела ім услед.

Быў час, быў век, была эпоха...

А цяпер трэба знайсці Скаловіча. Я зайшла ва ўнутраны дворык... Вось — чорная фігура на лаўцы. У той жа паставе смуткуючага... Я наблізілася і пачула, што прафесар — вось дзіва — нешта напявае ціха-ціха і змрочна. Да таго ж паангельску.

І тут мяне «накрыла» «хваля вяртання».

**ГУЛЬНЯ № 6**

Дрэва хутка прагніе,
Камні скоцяцца на дно,
Сталь-жалеза з'есць іржа,
Срэбра-золата скрадуць...
Абрушыўся Лонданскі мост,
Абрушыўся Лонданскі мост,
Абрушыўся Лонданскі мост,
Лэдзі мая, лэдзі...

Генусь, прабегшыся па Сеціве, запэўніў, што гэта дзіцячая сярэднявечная песенька. У пачатку мінулага стагоддзя ангельскія «жаўранкі»-беспрытульнікі распявалі яе на вуліцах, як расейскія — «Разлуку»... І з той жа мэтай. «Падайце, Хрыста дзеля, чырвонец залаты».

А фальклярысты лічаць гэтую песню водгукам звычаю прыносіць у ахвяру новаму мосту жывое дзіця.

Значыць, Скаловіч пажыў і ў Лондане.

Я зноў і зноў ва ўсіх дэталях пераказвала ўбачанае падчас візіту Туды. Макс, як дасведчаны архівіст, стварыў ужо цэлы архіў гісторыі нашага асваення мінулага. Кожны персанаж — нават эпізадычны — у яго меў уласнае дасье. На Антаніну Аксючыц дасье аказалася зусім кароценькае. Ніякіх звестак. Можа быць, справа ў тым, што мы не ведалі ейнага дзявочага прозвішча, пад якім яна дзе-небудзь і мільганула ва ўніверсітэцкім справаводстве? Камсорг Аксючыц адзін раз згадваўся — у «звяздоўскім» матэрыяле пра камсамольскі сход, на якім студэнты асудзілі сваіх палітычна блізарукіх таварышаў, што напісалі ліст у абарону беларускамоўных лекцый.

Паўлюка Шукайлу, паэта-футурыста, дасталі і ў Ленінградзе. Ён з'ехаў туды у 1932-м, пасля таго як удалося адвесці абвінавачванні па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Там з ягоным харызматычным характарам таксама прабіўся — нават на пасаду віцэ-прэзідэнта Дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. А потым — зноў пагроза арышту. Збег у Маскву... Хаваўся... Жыў абы-дзе... Ды ад савецкай улады не схаваешся! Расстралялі ў 1939-м, пасля паўгода допытаў.

Але — вось рэдкасць! — вінаватым сябе не прызнаў. З характарам быў наш першы футурыст.

Выпадкова пабачаная мною студэнцкая парачка так і засталася неапазнаная.

Мы спрачаліся, сварыліся, мірыліся... Тэрмінатар нападаў на Макса, Даліла на ўсіх... Едрусь па-сяброўску ляпаў мяне па плячы: «Трымайся, старая...»

Ад гэтага сяброўскага тону мне хацелася злосна і тужліва выць, як кінутаму ваўчаняці.

А Едрусева мама яшчэ ўчыніла: у паэтычным салоне, куды яна хадзіла, ёй канчаткова затлумілі галаву ейным высокім талентам. Гаспадыня салона, вядомая артыстка, любому гатовая была пазычыць крылаў. Томік вершаў з аўтографам выбітнага паэта Анатоля Сыса ляжаў у яе ў адным стосіку з рускамоўнай графаманіяй — і на тых жа правах. А чым горшая ад Сыса паэтка, якая пайшла працаваць стрэлачніцай, каб быць далей ад зямной мітусні, і напісала сто санетаў, прысвечаных савецкаму спеваку Юрыю Антонаву? Прынамсі, яна ж не п'е. І не памрэ, як Сыс, перад уласнай прыбіральняй, захлынаючыся ад крыві і паху таннага віна і ведаючы — няма каму прыйсці, знойдуць, дасць Бог, дні праз тры-чатыры.

Карацей, Едрусева мама напісала нават не сто — тысячу вершаў па матывах Жывой Этыкі Рэрыхаў. Аўры-шмаўры. Шамбала-камбала. Вядома, гэта адкрыццё, шэдэўр, падзея, і неадкладна трэба выдаць кніжку.

Ніхто з салонных «ахальшчыкаў» ахвяраванняў сваіх, аднак, на «шэдэўр» не даў. І паэтэса — зарплата бібліятэкаркі вядома якая — вырашыла прадаваць кватэру.

Не-не, яна ўсё прадумала — не застанецца без жытла, замест двухпакаёўкі купіць аднапакаёвую, дзе-небудзь на ўскраіне. А ўвогуле дастаткова і маленькага пакойчыка ў камуналцы.

Шкада? На ТАКОЕ шкада? Усяго за пяцьсот долараў можна, кажаце, кніжку выдаць? Не ТАКУЮ, спадарове! Наклад і выданне мусяць быць вартымі зместу.

Адзіная замінка выйшла ў «геніяльнай паэткі»: у кватэры па ранейшаму быў прапісаны яе недалужны сын Эдуард.

І без ягонай згоды кватэру нельга было ні прыватызаваць, ні прадаць.

І вось аднойчы са сцэны клуба «Арэна», пасярэдзіне песні пра пляцы і палацы, Едрусь забачыў між дзяўчатак у марынарках і чорных кашулях ружовую з белымі карункамі блузачку сваёй матулі, што засяроджана, грэбліва падціснуўшы вусны, прабіралася да ганебнага ўзвышэння, на якім гарлалі нешта непрыстойнае «наркаманы» з гітарамі, адзін з якіх ейны прапашчы нашчадак Эдуард.

Я сама прапанавала Едрусю прысутнічаць разам з ім пры перамовах — ён быў у такім адчаі, што згадзіўся. Але, баюся, мае завушніца ў ніжняй губе і фарбаваны басмай, чорнай і індыйскай, «вожык» на галаве не дадалі ўзаемаразумення пакаленням. На жаль, я таксама падпадала пад катэгорыю «наркаманкі».

Едрусь хутка ў чарговы раз пераканаўся, што заклікаць да розуму матулю дарэмна. Як ні абяцаў, што сам збярэ грошы на ейную кніжку, што не трэба прадаваць кватэру — толькі абвінавачванні ў бездухоўнасці і карыслівасці. Увесь у татачку пайшоў. А выдаваць ТАКУЮ кніжку на грошы, здабытыя невядома як, хутчэй за ўсё антымаральным і антыграмадскім спосабам, яна нізавошта не стане. Калі б Эдуард згадзіўся на дыягностыку кармы...

Тады Едрусь махнуў рукой і пакорліва пайшоў падпісваць усё, што падсоўвалі натарыусы.

А я яшчэ зрабіла глупства. У пэўны момант, абураная да пячонак, пачала раскрываць вочы паэтычнай мамачцы на сапраўдную мастацкую вартасць ейных «хвостапісаў», як называе падобную ўзвышаную ахінею мая знаёмая паэтка Наталка. Едрусь вельмі груба мяне «заторкнуў» і, па-мойму, дасюль крыўдуе.

Маўляў, нельга пазбаўляць чалавека ілюзій, якія трымаюць яго ў гэтым жыцці.

Сентыментальны... Шкадуе... А сам застаўся, лічы, без жытла і без прапіскі. «Бомж» натуральны. А паколькі рокерскае жыццё час ад часу сутыкае з міліцыяй — я ўжо не ведаю, чым гэта для Едруся можа скончыцца.

Даліла хацела прапісаць яго ў Разаліну хату — хаця б як субкватаранта. Але рокер наш пакуль цешыцца са свайго бамжоўскага статусу.

Што ж, найлепшы сродак здушыць боль і крыўду — зрабіць іх тэмай жартаў.

Ці не так учыняў Скаловіч?

Наконт хіміка меркаванні тусоўкі падзяліліся. Адны лічылі яго апошнім мярзотнікам, другія — проста мярзотнікам. Макс, які пазнаёміўся з Нічыпаровічам, згадваў, што той Скаловіча шкадаваў. А Далілe ўпарта хацелася знайсці ворага, з якім можна змагацца. Яна абяцала Разаліі Іванаўне выправіць выпадак з грушай і тварам хіміка, па якім згаданая груша сцебанула. І яна выправіць.

А я... Мне не спадабалася, як Скаловіч паводзіўся з Антанінай. Але ж яна за нешта яго кахала? І верыла яму...

Што ж, адзін і той чалавек можа ўспрымацца рознымі асобамі абсалютова па-рознаму. І нават адзін можа быць розным. Аўтар назвы самай адыёзнай навукі, ідэалогіі — француз дэ Трасі, апазіцыянер Напалеона. Эпоха асветніцтва, васямнаццатае стагоддзе... І вось учынілі браткі-асветнікі рэформу навучання. І дэ Трасі напісаў падручнікі для тых школ, у якіх вучылі дзяцей, што мусілі, вырасшы, кіраваць грамадствам. А потым ён жа напісаў падручнік для школ, у якіх вучылі будучае быдла — тых, хто мусіць слухацца і выконваць. І гэта аказаліся зусім іншыя падручнікі, з іншай гісторыяй Францыі.

І нельга ж сказаць, каб ідэйны француз маніў, — проста ў кожным падручніку была патрэбная праўда.

Гісторыя пра дэ Трасі — адзінае, што я запомніла з лекцый па ідэалогіі. Таму залік па згаданай спецыяльнасці шчасліва завеліла.

Засталася без стыпендыі. Супер.

Генусь падкінуў «халтурку» — рабіць вокладкі для пірацкіх дыскаў. Па начах я сядзела ў падвальчыку, дзе месцілася туманістая камп’ютарная фірма, у якой ён працаваў, і цягала з Інтэрнэту патрэбныя кадры. Час ад часу заспявала сябе на тым, што ў абліччах старых галівудскіх артыстаў спрабую ўгледзець рэзкія рысы Валяр’яна Скаловіча. І мімаволі вяртаюся да лёсу гэтага чалавека.

З сям'і артыстаў... Якіх менавіта? Аперэта? Драма? Дзе ігралі? На сталай сцэне ці ў антрэпрызе? Звычайна дзеці, якія вырастаюць у тэатральных сем'ях, самі рана пачынаюць выходзіць на сцэну. Часта іх выносяць туды яшчэ ў пялюшках. «Зорка» нямога кіно Мэры Пікфард, напрыклад, ужо ў пяць гадоў была прафесійнай актрысай, яе сястра таксама. Ад дзяўчатак кармілася маці, кінутая мужам, дзяцінства праходзіла ў гастролях... Танныя вагоны, халодныя грымёркі, боязь вырасці з роляў анёлападобнага дзіцяці... Дарэчы, калі Мэры вырасла і нават выйшла замуж, маці, звыклая цалкам распараджацца талентам дочкі-зоркі, змусіла яе развесціся і таемна зрабіць аборт, і бяздзетная Мэры спілася. Стужкі са сваімі фільмамі ўсе спаліла.

Якое ж дзяцінства было ў Скаловіча? Мяркуючы па ягоным паскудным характары, не надта шчаслівае.

А ў нас — у каго было шчаслівае?

А ці мы можам зрабіць чыёсьці дзяцінства шчаслівым?

Дачка Далілы падхапіла ангіну. Даліла ўзяла бюлетэнь і лётала па кватэры з рознымі гогалямі-могалямі. Макс спрабаваў перадаваць апельсіны-цукеркі, накупіў адмыслова чорнага горкага шакаладу, які любіла сама Даліла, — але тая хлопца турнула. Сама можа купіць. У доме ля могілак беспрытульны Едрусь брынгаў на гітары і нават паклаў на музыку адзін з вершаў сваёй апантанай мамачкі: на матыў «Запрагайце, хлопцы, коней...» спяваў «Медитацией спасёмся».

Час ішоў. Крыжы на могілках патроху абрасталі мохам і заглыбляліся ў зямлю, нібыта хацелі схавацца ад цьмянага беларускага сонца. Але мы ўсе ведалі, што нашы падарожжы не скончаны. Што настане час, і нехта зноў адправіцца Туды. Макс усё часцей загаворваў пра таямніцы мінулага... Зніклыя рукапісы...

Але ўсё вырашыла Даліла. Як заўсёды.

Кінула ўсім па эсэмэсцы: «Збіраемся», а калі мы прыйшлі, то пабачылі нашу сяброўку апранутай у тую самую чорную сукенку, у якой яна хадзіла ў Засценне мінулы раз, і з тым самым рашучым выразам твару. «Мае грудзі, ваша амбразура, пацалуйце за мяне Пазняка».

Мы не паспелі толкам паспрачацца. Едрусь увогуле маўчаў, седзячы на ложку нябожчыцы і ўтаропіўшыся ў нефарбаваную драўляную падлогу колеру гнілой анучы. Мільганула чорная сукенка — і чакайце нас з таго свету.

А, яшчэ Даліла паспела перад адыходам кінуць Максу:

— Паклапаціся пра Віку!

Макс, збялелы, моўчкі нахіліў галаву.

А Едрусь і Генусь кінулі на яго вельмі аднолькавыя позіркі. Не надта добрыя і надта тужлівыя.

...Мужчына ў акуратным мундзіры, са звычайным, трохі азызлым, добразычлівым тварам булачніка сядзеў на звычайным драўляным крэсле з абшарпанай спінкай. Газета даўно была прачытаная і адкінутая ў кут, яна ляжала на падлозе, бездапаможная, як вязень, які страціў прытомнасць. І мужчына проста бязмэтна пазіраў на сцяну, усю ў пражылках трэшчын, выбоінах і вычварных пісягах. Пры ўяўленні — а ў мужчыны хапала ўяўлення — у гэтых узорах можна было ўгледзець розныя дзівосныя карціны. Напрыклад, вавёрак, якія скачуць па кедрах. Альбо прыгажунек у сетчатых панчохах, якія дружна падкідваюць ногі на сцэне нэпманаўскага рэстарана. Альбо мітынг... Напэўна, чалавек з тварам булачніка часцей за ўсё ўяўляў мітынг. Ці яшчэ лепей — як конармія перасьледуе белых. Шашкі свішчуць, рассякаюць целы, цячэ кроў, і не блакітная яна зусім, яшчэ жывыя белагвардзейцы падаюць пад капыты...

Якія яшчэ фантазіі могуць быць у начальніка аддзела па барацьбе з нацыянал-фашызмам таварыша Касіянава?

А можа, ён проста перажывае, што ў маленькага сына Кімушкі — ангіна і трэці дзень трымаецца тэмпература? Бо таварыш Касіянаў — клапатлівы бацька і добры муж... І з годнасцю выконвае сваю цяжкую, але неабходную працу ў гэтых брудных сценах, і заслужыў, каб дома яго чакала гарачая вячэра, пастаўленыя ў вітальні пантофлі і ласкавы жончын пагляд...

Жонка любіць акуратнасць. Сама калісьці была прыслугай. Цяпер патрабуе ад сваёй прыслугі сапраўднай працы.

Добра, што яна ніколі не пабачыць, у якіх умовах даводзіцца працаваць яе Модзіку.

Так, наўрад удасца калі-небудзь змыць са сцяны гэтыя пацёкі.

Прыйдзецца праз нейкі час атынкаваць ды пафарбаваць. У той самы практычны зялёны колер. Як мундзір. Гэтая сцяна таксама мае права насіць мундзір.

Таварыш начальнік нецярпліва пацягнуўся. Напэўна, надакучыла сядзець. Каб курыў — дык было б чым заняцца. Але Мадэст Касіянаў клапаціўся аб сваім здароўі. Яму яшчэ шмат трэба паспець зрабіць.

Ён паглядзеў уніз. Старонні назіральнік здрыгануўся б, напэўна, ад гэтага відовішча. Між ножак крэсла ляжаў складзены ўдвая чалавек. Ляжаў нерухома, маўкліва. Як манекен. Але ён быў жывы — рукі, выцягнутыя наперад, паўзверх ног, ад пакуты нават не дрыжэлі — уздрыгвалі, як ад удару токам. Адна рука была заматаная бруднай скрываўленай анучай.

Ды старонніх назіральнікаў тут не магло быць. А «мясцовых» відовішча не ўражвала.

— Ну што, Кадура, можа, хочаш падняцца? — голас мужчыны гучаў лена і добразычліва. Складзены маўчаў, рукі яго ўсё ўздрыгвалі, калі прыгледзецца, можна было заўважыць, што гэтак жа ўздрыгваюць цягліцы на ўсім целе — рызманы мала што прыкрывалі. А варта было б прыкрыць — цела, збітае, худое, бруднае, выглядала страшна.

Мужчына ў фрэнчы раздражнёна крэкнуў. Мусіць, вырашыў, што і праўда трэба гада даставаць. Падобна, гаварыць ён проста ўжо не можа.

Чалавек пад крэслам, аднак, мог гаварыць.

Але навошта? Ён даўно ўжо зміртыўся з тым, што памрэ. Яшчэ тады, калі напісаў свой верш пра буру і мерцвякоў. Не, не супраць савецкай улады. За што яму, вясковаму хлапчуку, якому, каб не рэвалюцыя, не ва ўніверсітэце вучыцца, а кароў век пасвіць, — жадаць канца савецкай уладзе? Але набрыдзь усялякая, навалач, усё сапсавала. Свабоду далі — цяпер забіраюць. У кулакі палову вёскі запісалі. І краіну напалам падзялілі, каб лепшым яе кавалкам адкупіцца ад суседскага злога сабакі. Мову «наркамаўкай» скалечылі.

Хто праз сто гадоў здагадаецца, што ў спявучым беларускім слове «сьнег» стаяў мяккі знак?

Бура зруйнавала хаты, прагнала жывых, а мерцвякі, крыжы над якімі паваліліся, вызваліліся ад палону зямлі і ўзялі ўладу. І назвалі сваё ўладаранне краінай шчасця.

Толькі косткі рыпяць над зямлёю маёй,
Ды ў калодзежах стыне атрута.
Спіць з кінжалам ў грудзях наш крывіцкі герой,
Называецца шчасцем пакута.

Ён ведаў, што кожнае слова набліжае да смерці. Але не мог не пісаць. Ён ніколі не мог не пісаць.

Таму і быў невыносны — так казалі ўсе.

Бацькі, якія спадзяваліся, што адзіны сын падтрымае гаспадарку. А ён усё кінуў і ўцёк на рабфак — босы, з адзіным багаццем у торбачцы — кніжкай «Дудка беларуская».

Дзяўчаты... Кожная хацела няхітрага: каханне-вяселле-дзеці-дом — і, гэта зноў-такі значыць, гаспадарку. Ён пісаў ім вершы, цвіло каханне, потым — расчараванне, слёзы, дакоры... З гэтага ён таксама высноўваў вершы, як павук высноўвае павуту з уласных вантробаў.

І выкладчыкі педуніверсітэта абураліся: далі магчымасць самародку паступіць без іспытаў, закрываем вочы на прагулы і запоі — хоць бы які залік здаў. Сябры смяротна крыўдзіліся на забойчыя заўвагі. Мог сказаць: «Не пішы ты, браце, вершаў. Не ўмееш. Лепей ідзі ў школку, дзяцей вучыць». Або ўвогуле: «Ты пралятаеш, як фанера над Парыжам».

Яго баяліся запрашаць выступаць, і не запрасіць — таксама баяліся. Прыйдзе сам, нашуміць, абразіць. Вершы правакацыйныя пачытае.

А колькі нерваў, мусіць, ён папсаваў людзям у мундзірах! У паказаннях блытаецца, на супрацоўніцтва ідзе — але так па-дурному, што ўсё зрываецца. Пасля чарговай размовы ў Жоўтым Доме выйшаў на плошчу да помніка Сталіну і пачаў раўці на ўвесь горад: «Я цяпер агент органаў! Я на ўсіх данясу! Усіх выкрыю! Ушанавалі мяне каханенькія-родненькія даверам сваім!»

Блазан.

Ён прыходзіў у бальніцу да Янкі Купалы — да гэтага колькі разоў сядзеў у яго дома, разам з іншымі маладымі паэтамі. Цяпер ніхто не гаварыў уголас, што здарылася з дзядзькам Янкам. Але шаптацца ніхто нікому не забароніць — нават у камеры смяротнікаў. Калі сам Купала паспрабаваў уцячы з гэтага жыцця, ды яшчэ такім пакутлівым шляхам — лязо нажа, харакіры, што казаць пра іншых?

Знаёмы пасля па сакрэту сказаў, што дзядзьку Янку прапаноўвалі ўзяць на сябе ролю «кіраўніка контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі». Выступіць на закрытым судовым працэсе, усіх выкрыць... Усе ўжо арыштаваныя, справы заведзеныя... Не хапае толькі аўтарытэтнага лідара, які б пакаяўся. Паэт аддаў перавагу пакутлівай смерці. Потым тую ж ролю прапануюць Купалаваму сябру, акадэміку Усеваладу Ігнатоўскаму — і той застрэліцца ў 1931-м...

Да Купалы не пусцілі. Удалося пабачыць толькі «арганіста» на крэсле, з газеткай у руках, перад белай занавескай, за якой стаяў ложак з паэтам.

Гэты, Касіянаў, таксама сядзеў над ім, Змітраком Кадурам, з газеткай... У якой, магчыма, калі нумар стары, яшчэ ёсць надрукаваны да травеньскіх святаў Кадураў верш.

Свядомасць пачала трохі імгліцца ад болю і страшэннага напружання.

На вокліч начальніка прыбеглі двое ў такіх жа зялёных мундзірах. Паэт адчуў, што яго цела разгінаюць. Як балюча... У вачах згусала цемра. Галасы гучалі здалёк, як з другога канца поля.

— Нясі вядро з вадой!

На твар лінула халодным.

Ён аднойчы тануў у «проланцы», з якой вяскоўцы чэрпалі ваду. Патрапіў туды не з-за таго, што катаўся па лёдзе, а таму, што хацеў зазірнуць у чорную таемную бездань. Бо дакладна ведаў — там, на дне, залатая карона вужынай каралевы. І ведаў, як выглядае: высокія зубцы, на краях якіх дробныя перліны, як расінкі па краях лісця мацярдушкі. І буйныя, як арэх, перліны па коле.

Нават падалося, што ўбачыў светлы круг... І тут жа абрынуўся ў ледзяныя абдоймы вады. Ці вужынай каралевы, што не схацела аддаваць нават чужым вачам сваю маёмасць.

Цяпер зноў падалося — бачыць карону з перлінамі. Кадура паціху выплываў з чорнай палонкі наверх, да залатога круга...

— Устаць, падла!

Боль вярталася, як надакучлівая жонка, якая пачынае сварыцца яшчэ за парогам. Нечы бот ударыў у бок.

— Што ляжыш, зноў верш сачыняеш? Мусіць, трэба ў галаву табе цвік загнаць.

Ён і праўда спрабаваў пісаць вершы нават тут. На ўласных рызманах, на сценах... Заўважылі. І ў якасці пакарання прыбілі руку цвіком да тае ж сцяны, на якой былі надрапаныя няроўныя, тонкія, як пульс паміраючага, радкі.

Не прасіўся і не наракаў. Толькі плакаў ад болю.

Тут хутка пераставалі саромецца крыку, слёз, прыніжаных маленняў.

Проста ён ведаў, што не выжыве. Ад смерці няма зелля.

Вязня паставілі на ногі. І ён сустрэўся паглядам з таварышам Касіянавым. Паглядам не грэблівым, не злосным — добразычлівым.

— Ты разумееш, Кадура, што ты зусім не герой? Напэўна, думаеш — нашчадкі даведаюцца, што ніколі не быў супраць савецкай улады, што органы памыліліся... І ўшануюць цябе, бязвіннага пакутніка. Вершы твае тамінай з залатым абрэзам выдадуць. А ты ведаеш, што знойдуць нашчадкі? — Касіянаў гаварыў амаль спачувальна. Кадура неўразумела глядзеў у яго спакойныя, як плаха, вочы. — А знойдуць яны пратаколы допытаў, у якіх ты прызнаешся ў сваёй шпіёнскай дзейнасці. І называеш, хто з сяброў яшчэ замяшаны. І расстрэльваць цябе ніхто не будзе. Ты паедзеш у высылку, папрацуеш на лесанарыхтоўцы. Потым вернешся, і цябе нават прымуць на працу ў газету «Советская Белоруссия». І ўсе скажуць: ён перавыхаваўся, ён усіх сваіх знаёмых ворагаў савецкай улады выкрыў.

Вусны Змітра задрыжэлі. Вось жа, сволачы, заўсёды намацаюць тую кропку ў душы, дзе яшчэ можа забалець.

— Гэта ўсё няпраўда... Я быў амаль непрытомны, калі падпісваў...

— І хто пра гэта даведаецца? Хто паверыць? — мякка папытаўся Касіянаў. — Асабліва калі ёсць людзі, якія ўсім раскажуць, што ты — шпіён і здраднік. Дарэчы, зараз я пазнаёмлю цябе з такім чалавекам.

Ахоўнікі павалаклі вязня ў суседні пакой.

За сталом, ганарліва адкінуўшы галаву на высокую спінку крэсла і схаваўшы рукі пад стол, у чорным паліто, зашпіленым да падбароддзя, сядзеў прафесар хіміі Валяр'ян Скаловіч.

Кадура моўчкі глядзеў на прафесара. Гарбаты нос, цені вакол прыжмураных вачэй, фанабэрыстыя вусны, неахайныя прадкі валасоў... Рэзкае, непрыгожае аблічча.

Скаловіча многія не любілі. Расказвалі пра яго ўсялякія пачварныя гісторыі. Згвалціў, забіў, чужую працу прыўлашчыў... Ну і, вядома, стукач.

Але пра самога Кадуру таксама расказвалі ўсялякае. І таксама не любілі.

І яшчэ: Змітро ні разу не бачыў, каб суровы прафесар да кагосьці падлагоджваўся, усміхаўся, калі гэтага не хацелася, гаварыў тое, што чакаюць. Затое казаць гадасці майстар. Самавар, пабыўшы трохі ў кампаніі прафесара, мог закіпець сам па сабе. Ну дык і Кадура на такое здатны.

Сапраўдныя падлюкі так сябе не паводзяць.

Касіянаў нешта балбатаў над вухам пра тое, колькі ворагаў дапамог выкрыць Скаловіч, як ён нават уласных сяброў і студэнтаў не шкадуе. Нават, мусіць, перастараўся. Вось і Кадуру ледзь не прымусіў арыштаваць.

Змітрок моўчкі глядзеў на прафесара. Той не адвёў позірк, толькі скрывіў вусны ў горкай усмешцы.

Кадура дакладна ведаў, што тут нічога не робіцца выпадкова. Мадэст Касіянаў вывярае кожную дробязь. Што яны чакаюць ад гэтай сустрэчы са Скаловічам? Каб ён, Змітрок, узненавідзеў прафесара? Дзіўна... «Сваіх» так не падстаўляюць.

— Давай, падыдзі да яго. Не бойся. Ведаеш, Кадура, можа, ты не так ужо і вінаваты. Ты ж таленавіты паэт. Табе трэ-

ба пісаць, друкавацца, аздабляць сваім талентам савецкую ўладу. А з-за гэтага чалавека, з-за ягонай падазронасці, ты пазбаўлены такога лёсу. Мы — што, мы — хірургі, выдаляем з цела дзяржавы пухліны, нарасты, гнілыя часткі. А здаровыя тканкі пакідаем. Разумееш, пра што я кажу, паэт?

Кадура хітнуў галавою.

— Значыць, па-вашаму, я — гніль.

Касіянаў незадаволена скрывіўся — вязень яшчэ можа разважаць. Кепска.

— Гэта вырашылі напачатку не мы, а гэты чалавек, Скаловіч. З-за яго ты тут апынуўся... Уяві: твае вершы, паэзія, а паміж імі і табой — гэты мярзотнік. Не хочаш нічога сказаць яму? Ну, давай жа... Мы не будзем супраць, калі ты з ім пагаворыш як мае быць. Скажу табе па сакрэце — мы ведаем, што прафесар загубіў і зусім нявінных людзей, сваіх сяброў. Яны загінулі з-за яго даносу. Праўда, Скаловіч?

Хімік па-ранейшаму маўчаў, толькі апусціў вочы, і цені на ягоным твары зрабіліся яшчэ глыбейшымі. А Касіянаў асцярожна паклаў на край стала, бліжэй да Кадуры, пісталет і салдацкую дзягу з жоўтай масянжовай спражкай. Вось яно што...

Змітро падняў на Касіянава налітыя крывёю, запухлыя вочы.

— Месяц таму вашы падначаленыя паставілі побач мяне і Петрака... Распранутымі. І прымушалі, каб мы сцябалі адзін аднаго дзягамі. Пятрок згадзіўся... Я — не. І... ён біў мяне... Але вінаваціць беднага Петрака — усё роўна што вінаваціць дзягу. Чуеш, Скаловіч? — Кадура павярнуўся да чалавека ў чорным паліто. — Дзяга не вінаватая.

Прафесар яшчэ больш скрывіў вусны і прахрыпеў, нібыта нешта сціскала яму горла:

— Не... разумнічайце, Кадура. У вас... усё роўна... не атрымліваецца.

Змітро раптам усвядоміў, што горла прафесара сапраўды нешта пераціскае... Ды ён жа проста галавой варухнуць не можа. І рукі недарэмна пад сталом... Вось сволачы, зноў падстава...

А Касіянаў шыпеў над вухам сваё:

— Апраўдайся перад савецкай уладай! Улада ўсё даруе. Яна твая маці. Пакарай гэтага нягодніка, які падмануў тваю маці.

Адчайная весялосць раптам ахапіла ўсю істоту Кадуры — весялосць смяротніка. Ён закінуў галаву і зарагатаў страшным, хрыплым смехам.

— Маці, бля! Ну і дзеткі ў гэтай маці! Ты гаўно, Касіянаў! Ты пралятаеш, як фанера над Парыжам!

Апошняя фраза захлынулася пад ударамі.

Кадура ўпаў... І яму пашанцавала тым страшным шанцаваннем, якое магло здарыцца тут, — яго скронь патрапіла якраз на кут стала з цяжкога цёмнага дрэва.

...Даліла, задыхаючыся, глядзела на мёртвае цела.

Зноў — тыя самыя персоны, той самы кабінет... І зноў — труп. Што за лялькавод тузае за ніты ў гэтай пакутлівай гульні?

Касіянаў лаяўся. Нават твар ягоны страціў падманлівую азызласць і мяккасць, вочы, у сіраты пазычаныя, пасвятлелі ад злосці.

Мёртвае цела вынеслі з пакоя, накрыўшы выбеленай накрухмаленай прасцінаю.

— А з гэтым што? — папытаўся начальніка адзін са службоўцаў, кіўнуўшы ў бок прафесара.

— У камеру. Да смяротнікаў. Там, дзе з універсітэта ёсць.

— У расход хіба? — здзівіўся асабіст.

Касіянаў злосна павярнуўся.

— Не заслужыў ён хуткай смерці. — І павярнуўся да прафесара: — Чуеш, Скаловіч? Усіх будуць страляць, а цябе — не. На цябе паляцяць чужыя мазгі, пырскі крыві... І так будзе, пакуль не зразумееш: твае выбрыкі бескарысныя. Ты ўсё роўна станеш добраахвотна дапамагаць следству. Рана ці позна. Сваім «я не валодаю гэтай інфармацыяй» ты нікога не падманеш. Усё роўна аддасі нам рукапіс Нічыпаровіча. Бо нікуды не падзенешся ад мінулага. Памятаеш Сяргея і Соф'ю? Што, вочы апусціў? Не, не выйдзе з цябе бязвіннай ахвяры. Бо ты прадаў сяброў. Ты ж сам сабе не дараваў, праўда? І рэвалюцыя табе не даруе, пакуль ты ёй шчыра не

служыш. Таму ты станеш слухаць перадсмяротныя крыкі. І крыкі нянавісці ў свой бок. Але будзеш заставацца жывы. Столькі, колькі трэба.

Скаловіч фанабэрыста скрывіў вусны і прахрыпеў, умудраючыся пры гэтым захоўваць невыносна ментарскі тон:

— Вы, шаноўны, хаця я б не спяшаўся надаваць вам такі эпітэт, па-ранейшаму не навучыліся выказвацца лагічна. «Колькі трэба»... Безадноснае вызначэнне, якое траціць сэнс. Трэба — каму? Вам? Мне? Партыі? І, па-мойму, толькі што эмпірычным метадам вам было даведзена, што падтрыманне або спыненне жыццядзейнасці арганізма суб'екта лёгка выходзіць за рамкі вашага кантролю.

Касіянаў амаль адчайна завыў і кінуўся быў на «лектара», але ў апошні момант затрымаўся, сціснуў сківіцы, развярнуўся і выйшаў з кабінета хуткім крокам.

Даліла неверагодным намаганнем узнялася... Забіць! Касіянава трэба было забіць! Позна... Шкада, у яе не мелася ў руках рэвальвера, як у баязліўца Генуся. Яна б не схібіла. Даліла павярнулася да Скаловіча. Ля таго завіхаліся нкусаўцы. Нешта адвязвалі, адкручвалі — ля шыі, на руках... Дапамагалі падняцца.

Скаловіч у сваім доўгім чорным паліто, з-пад якога віднеліся бліскучыя боты з «гармонікам», стаяў пасярод пакоя, нібыта вялізны кажан, і расціраў запясці рук. Яго змрочны худы твар не выказваў нічога. Можна было падумаць, што ён тут гаспадар.

Даліла раптам адчула страшэнны прыліў нянавісці да гэтай персоны. Так, ён — таксама ахвяра. Але ж, падобна, і кат.

Што было далей — Даліла не магла распавесці дакладна. Яна проста зразумела, што яе хвіліны Тут сыходзяць... І апошняя магчымасць нешта выправіць — таксама.

Ужо ў зменлівым мігценні — быццам плёнку ў відзіку пачало «заядаць» — Даліла ўбачыла, што чорная постаць пахілілася і ўпала на падлогу. Як ссечанае дрэва.

І аматарка горкага шакаладу кінулася да прафесара.

Вяртаць з небыцця вас не варта...
Вядома, не варта...
Вы ў неба сплылі —
і забыліся нашых балотаў,
Дзе вуліцай вузкай
начная праходзіла варта,
Дзе крылы даюцца —
ды лётаць чамусь неахвота.
Сцяну, быццам воспа,
пабілі расстрэльныя кулі.
Выбоіны бачна —
а кроў пасплывала з дажджыма.
У жоўтым пясочку
паэты і каты паснулі,
І шашаль да німба
залочаных з'еў херувімаў.
У тэчках са справамі следчымі
спіць Незалежнасць,
Між шчырых даносаў,
нібыта між скураў змяіных.
Рукою, да мура прыбітай,
напішуцца вершы.
І Бог
Беларусь
пералепіць
з палепшанай гліны.

Пад нашымі нагамі, на аблезлай падлозе дома ля могілак, тварам уніз ляжаў чалавек у доўгім чорным паліто, у бліскучых новых ботах з «гармонікам» і зблытанымі цёмнымі валасамі. Даліла пераможна ўзнялася, абапіраючыся рукой аб сцяну.

— Цяпер... усё... скончана.

— Гэта хто, Скаловіч? — ашаломлена прамовіў Макс. — Што ты нарабіла?

— Тое, што не змаглі вы! — прагаварыла зняможаная, але шчаслівая Даліла. Яе зялёныя вочы ззялі, як у амазонкі, што

ўсадзіла стралу ў лытку старажытнага грэка. — Я змяніла час. Цяпер у жніўні трыццаць трэцяга няшчасная груша нікога не сцебане па твары!

— Ідыётка! — Макс відавочна не лічыў патрэбным далікатнічаць. — Як ты магла! Успомні маю лічбавую камеру ды мабільнікі! Ты ж забіла яго!

Мы ўсе схіліліся над прыхаднем з іншага часу. У мяне мімаволі вырвалася:

— Ну і смярдзіць!

— Ён не з салона прыгажосці, а з турмы, — пагардліва патлумачыла Даліла.

— Прывід Эдмона Дантэса да ягонага пераўтварэння ў графа Монтэ-Крыста, — скрозь зубы прагаварыў Генусь, датыкаючыся да непрытомнага няўпэўнена, нібыта да шкла з трэшчынай.

— Пераварочвайце яго. Асцярожна.

Калі шчыра, я баялася ўбачыць замест твару нешта пачварнае. Але твар быў звычайны... Хаця гэтае вызначэнне не падыходзіла да аблічча Скаловіча.

У параўнанні з тым, якім я бачыла хіміка апошні раз, падчас яго размовы з Антанінай, ён схуднеў, цёмнае шчаціннe надавала яшчэ больш змрочнасці рысам, глыбокая складка між броваў нібыта падоўжылася, а валасы выглядалі, быццам іх уладальніка рыхтавалі на ролю першабытнага чалавека, які жыў да вынаходніцтва расчосак і мыцця галавы. Тым не менш пабояў і драпін на твары не назіралася.

— Жывы! — са здзіўленнем і трывогай прамовіў Макс, намацаўшы пульс хіміка. — Але як жа гэта? Мы ж нават паперкі не маглі адтуль вынесці!

— Значыць, яму было прадвызначана пабываць тут! — упэўнена сказаў Едрусь. — І невядома, дарэчы, колькі ён тут прабудзе. І ўвогуле — чалавек у непрытомнасці. Давайце здымем з яго гэта піжонскае паліто ў стылі готаў.

Я дрыжачымі пальцамі пачала расшпільваць дробныя гузікі.

— Вошай не набярыцеся! — гукнула Даліла, якая сядзела на падлозе, прыхінуўшыся да сценкі. — Калі гэты не памёр — дык і вошы маглі выжыць.

Мае рукі яшчэ больш затрэсліся, так што гузікі пачалі выслізгваць з пальцаў. Едрусь узяўся дапамагаць...

Тое, што адкрылася пад паліто, змусіла ўсіх здрыгануцца. Едрусь прысвіснуў, Макс вылаяўся... А мяне ледзь не званітавала.

— Даліла, тут медык трэба... — здушаным голасам вымавіў Генусь і адвярнуўся. Амазонка з падрыхтаваным сярдзітым выразам на твары падышла... І пабачыла тое, што і мы.

Пад дыхтоўным паліто Скаловіч быў апрануты ў адны падштанікі. І тыя парваныя і спрэс у закарэлай крыві. А як выглядала цела — гэта я і цяпер успамінаць не хачу. Не білі прафесара, напэўна, толькі печкай. А шыю апярэзваў чырвоны шнар, нібыта душылі дротам. Такі ж след — на запясцях. Бліскучыя боты аказаліся таксама бутафорыяй — уздзетыя на босыя ногі, чорныя ад бруду і крыві.

Даліла адразу перамянілася — пачуццё доўгу. Хоць, напэўна ж, было ёй самой нядобра. Самі ведаем, як гэта. Але яе адрывістыя каманды надалі нашым дзеянням армейскую зладжанасць і хуткасць.

Калі чалавек, які даўно павінен быў быць спарахнелым мерцвяком, ляжаў на ложку, вымыты, абмазаны лекамі, перабінтаваны і апрануты ў адносна новы фланелевы халат з жоўтымі зайчыкамі на блакітным фоне (застаўся ад Разаліі Іванаўны, а нічога лепшага не знайшлі), Даліла строга, як вынік фінансавай праверкі дзяржкантролем чарговай дробнай фірмы, абвясціла:

— Зламана два рабры. Ну, можа, і ў другіх рэбрах ёсць трэшчыны — не ведаю. Галоўнае, каб ныркі працавалі... Бо сляды на спіне — быццам дошкай прыкладаліся... Ці трубою. Там-сям невялікія нагнаенні, гэта зажыве. Акрамя звычайных ран, ён яшчэ і пакусаны. Сабакамі цкавалі, ці што? І кіпцямі драпалі... Вялікіх унутраных пашкоджанняў не заўважаю, хаця я ж не доктар. Я ўкалола антыбіётык, а паколькі ў **гэты** арганізм антыбіётык не трапляў раней ніколі, то — спрацуе. Ну, і яшчэ... Яму патрэбная спецыяльная дыета. Пакуль што прынясу з працы кропельніцу... Будзем даваць глюкозу.

Я мімаволі зірнула на нашага госця. Спалучэнне бледнага твару з кручкаватым носам і фланелі ў зайчыкі выглядала хутчэй недарэчна, чым смешна.

— А калі ён усё-ткі памрэ?

Даліла пацiснула плячыма.

— Дык ён жа і так памёр.

Самае галоўнае было — каб ніхто не даведаўся, што ў доме ля могілак ляжыць непрытомны чалавек без дакументаў. Суседнія дамы «прыватнага сектара», у прынцыпе, стаялі далекавата. Даліла ні з кім з суседзяў не кантачыла — або алкашы, альбо бізнесоўцы, што выкупілі дамкі ў згаданых алкашоў і на іх месцы збудавалі свае шыкоўныя вілы. Бізнесоўцы амаль усе выглядалі гэткімі ўсходнімі баямі, так што ніякіх стасункаў з імі быць не магло. З дакументамі на хату ўсё даўно ўладжана — Даліла, адзіная спадчынніца, спраўна плаціла за святло, ваду, газ ды іншыя даброты, якія прадастаўляла хаце на могілках шчодрая дзяржава.

Адно выклікала непакой: пару разоў наведваліся нейкія мужыкі ў касцюмчыках з тэчкамі пад пахамі. Распытвалі, хто прапісаны, ці адна Даліла тут жыве, ці не збіраецца прадаваць дамок... І нават нешта намякалі пра падазроныя абставіны смерці былой гаспадыні. Раён прэстыжны, цэнтр. Хата-развалюха каштоўнасці не ўяўляе, але ж ахвочых атрымаць гэты кавалак зямлі шмат.

Каб яны яшчэ ведалі, што ў дадатак да гэтага кавалка!

А з дадаткам атрымалася цікава. Не працаваў ён. Макс спрабаваў на наступны ж дзень па з'яўленні Скаловіча Туды прайсці — і толькі аб сценку стукнуўся.

Зачыніўся ход. Як клетка, у якую пасадзілі паддоследных трусоў.

Часам мне нават хацелася паўглядацца ў столь і пашукаць гіганцкае вока назіральніка.

Як мы ні вызіралі гістарычных зменаў вакол, нічога не заўважалі. Жалезны крыж з масянжовым вяночкам над унукам Касіянава Севам стаяў, як і раней. Ні літары ў энцыклапедыях не зрушылася. Ні адной паперкі ў архівах.

І самае застрашлівае — паўсюль напісана, што Скаловіч быў расстраляны ў 1934-м. А мы ж скралі яго, калі верыць звесткам пра час смерці Змітрака Кадуры, з траўня 1933-га...

Генусь сцвярджаў, што гэта таму, што насамрэч мы падарожнічаем не ў той трыццаць трэці, які ўсе ведаем, а ў ягоны цень, астаткавы след, марэнне... Макс развaжаў на тэму шматварыянтнасці гісторыі. Магчыма, у нейкай — іншай — Беларусі і змянілася нешта ад знікнення Скаловіча. І Разалія Іванаўна Касіянава дзесьці пражывае са сваім мужам Усеваладам Касіянавым і гадуе ўнукаў.

А я была згодная з Едрусем. Гісторыя зрабіла маленькую пятлю на сваёй трасе. Яе кола толькі трохі збочыла на няроўнай дарозе. Скаловіч у любое імгненне можа вярнуцца. Як вярталіся мы ў свой час.

Пытанне: што рабіць, калі ён раптам апрытомнее?

Скажаце, нічога страшнага? Едрусь думаў па-іншаму. Мы вандравалі ў мінулае, якое і так добра ведалі. А вось вяртаецца з будучыні ў свой час гэткі Настрадамус, які можа прадказваць падзеі і вынаходніцтвы... Другую сусветную, смерць Сталіна, уз'яднанне Усходняй і Заходняй Беларусі, гібель Купалы ў гатэлі «Масква», Хатынь і Чарнобыль...

А то яшчэ — ён жа вучоны! — змайструе ў сваім трыццаць трэцім атамную бомбачку ды рване ворагаў сваіх.

Карацей, ачуняе Скаловіч — ніякай інфармацыі не даваць! Светлае будучае не паказваць! Ніякіх сотавых, тэлевізараў, камп'ютараў...

А што з ім, у такім выпадку, рабіць?

Не ведаў ніхто. Падазраю, што ўсе мы былі ўпэўненыя, што тым і скончыцца. Паляжыць непрытомны — і аднойчы знікне. Гэтак жа нечакана, як з'явіўся. У нас жа няма для яго «цудадзейнага электуарыя па шэсць пенсаў за пінту», якім у XVI стагоддзі ратавалі паміраючых. Па-добраму, яго б у бальніцу, у рэанімацыю...

Адна Даліла ўпарта не верыла, што яе высілкі дарэмныя. Можа, праз месяц нешта зменіцца... Праз год... Скаловіч не павінен вярнуцца! Часам мне падавалася, што мая сяброўка кідае на хворага крыважэрныя позіркі. Думаеце, я перабольшвала? Не было ў мяне пэўнасці, што мы не пераступім «мяжу ягняці»... Гэта калі ператвараешся з ахвяры ў драпежніка. Мы ж тады са смерцю зжыліся, як лялькі ў беларускай батлейцы.

А яшчэ пры поглядзе на выснажаны твар хіміка, на яго рукі з доўгімі вытанчанымі, але моцнымі пальцамі — у вене тырчэла голка кропельніцы — мне рабілася страшна. Містычны страх — найгоршы ад усіх. І гэта не прывід у цёмным калідоры. Гэта звычайная рэч у неўласцівых ёй абставінах, якая паводзіць сябе не так, як трэба. Акно адчыняецца само, спрацаваная рука дэхканіна высоўваецца з калоны мячэці... Чалавек, якога расстралялі шмат гадоў таму, ляжыць на тваім ложку ў жаночым фланелевым халаціку.

І, між іншым, выбачайце за фізіялагічную падрабязнасць, яму трэба час ад часу мяняць памперсы (Даліла прывалакла цэлы пачак са шпіталя — адмыслова для ляжачых старых). А штучнае кармленне... Ад аднаго ўспаміну ўва мне прачынаецца гарачая малітва аб тым, што калі надыдзе мая ўласная канчына, каб была яна хуткай і без такога вось «абслугоўвання».

А верасень нават у горадзе быў прыгожы. Гэткі месяцатвары паніч у залатых ботах, жупане і з завушніцай. Чаму? Таму што мне цікава ўяўляць моду часоў французскага караля Генрыха Трэцяга, які трохі пакіраваў Рэччу Паспалітай, пакуль не збег ад дзікуноў-сарматаў уночы, не развітваючыся... Дваране насілі парыкі, пудрыліся, фарбавалі вусны, насілі завушніцы, паліравалі пазногці, апраналіся ў аксаміт і атлас, расшытыя перлінамі... І кожнае імгненне маглі выхапіць шпагу, маглі гэтак жа лёгка, як таньчылі ці спявалі рандэлі, забіць ці быць забітымі альбо патрапіць у катавальню... А пад бліскучай адзежай ва ўсіх — нават у караля — хаваліся шнары ад «самабічавання»: каталікі лічылі абавязковым падобнае «ўціхамірванне плоці».

Пад залатой адзежай восені таксама ёсць крывавыя таямніцы. Увогуле люблю восень. Адзін малады паэт на літсуполцы, куды я хадзіла, пакуль не псіханула на заўвагі, напісаў верш, які пачынаўся: «Верасень, Кастрычнік, Лістапад»... І далей абыгрываў тое, што першыя літары гэтых слоў утвараюць «ВКЛ». Вялікае Княства Літоўскае. Прыўкрасны, залаты наш міф, адабраны суседзямі. Разумееце, і нічога прыдумваць не трэба — у саміх восеньскіх назвах ужо паэзія, гісторыя і трывога.

Мы па чарзе дзяжурылі ў дамку ля могілак. У пятніцу, пасля самай паскуднай лекцыі з філасофскай назвай «супраціўленне матэрыялаў», надышла мая чарга. Даліла загадала па сотавым працерці маззю з непрыстойнай назвай «салкасерыл» раны на шыі і руках хіміка — ніяк не жадалі загойвацца, хаця прамінуў тыдзень.

Я асцярожна вадзіла кавалкам марлі па шыі Скаловіча, у які раз вывучаючы ягонае аблічча. На скронях сівізна. Глыбокая зморшчына між густых броваў, ганарлівая складка вуснаў, нос... Ну, не так ужо кручком, але велікаваты, з гарбінкай. Падбароддзе, якое ў дэтэктывах любяць называць «валявым». Нешта было ў гэтых рысах... Змрочная ўнутраная моц...

І раптам павекі здрыгануліся, і ў мяне ўтаропіліся цёмныя вочы.

**ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ-2**

Я апынулася на валасіну ад таго, каб заверашчаць самым стэрэатыпна жаночым, і ад таго страшэнна агідным маёй феміністычнай натуры чынам.

А вочы глядзелі зусім не каламутна, а цалкам наадварот.

Разумна і нават пранізліва яны глядзелі.

Цяпер было відно, што яны не чорнага, а хутчэй цёмназялёнага колеру.

Як вада ў віры.

Я выпусціла з рукі марлю і ўскочыла з ложка. Але гэта быў толькі пачатак майго кашмару. Прафесар адкашляўся... І загаварыў. Нізкім голасам, яшчэ хрыплым, слабым, але ўжо з дозай атруты.

— Я, здаецца, не прасіў вас, спадарыня, аб паслугах сядзелкі.

Я так разгубілася, што язык адняло... Затое ў прафесара язык усё болей развязваўся.

— Вы што, на тыфус хварэлі? — пільны позірк на мой чорны «вожык». — А валасы пафарбавалі ў спадзеве, што адрастуць хутчэй?

— Не, гэта... модна, — вырвалася ў мяне абсалютовая бязглуздзіца. Я ж ніколі не мкнулася за маскультам — я ж эксклюзіў. Андэграўнд.

— А дрот у губе — таксама мода? У знак салідарнасці з заняволенымі ў кайданы неграмі Анголы? Ініцыятыва пярвічнай камсамольскай ячэйкі?

Здаецца, мае шчокі пачырванелі. А цёмныя вочы Скаловіча ўжо слізгалі па пакоі, затрымаліся на кропельніцы.

— Гэта... абавязкова? — ён прыўзняў руку з голкай, ад якой цягнуўся празрысты катэтар з сілкавальным расчыннем.

Я моўчкі хітнула галавой. Мяне ўсё больш палохала, як хутка Скаловіч адаптуецца, ужываецца ў гэтую прастору і як хутка яго розум здатны рабіць супастаўленні і высновы. Да таго ж не падобна, каб ён адчуваў у нашым часе той дыскамфорт, што мы — у ягоным... А прафесар разважаў услых, не чакаючы маіх адказаў.

— Гэта не турма. На вокнах няма кратаў. Не бальніца. Пахі не такія. З вас гэткая ж сястра міласэрнасці, як з прэс-пап'е рэторта. На міліцыянтку вы таксама не падобны. Хутчэй на гімназістку, якая гуляе ў беспрытульніцу.

Павярнуў, як мог, галаву.

— О, абраз у куце... Значыць, сюды не заходзяць... так бы мовіць... прадстаўнікі ўлады. На абразе павуцінне... Яго не здымалі, не перахоўвалі... Я за мяжой? Заходняя Беларусь?

Што заставалася рабіць? Я няпэўна хітнула галавой, нешта мармытнула пра «пачакайце» і кінулася на кухню — тэлефанаваць Даліле і ўсім увогуле.

«Я не спраўлюся з гэтай сітуацыяй!» — закрычала мышаня Джэры, запхнутае катом Томам у мікрахвалёўку.

Першыя дажджынкі ўдарыліся ў нямытыя шыбы, і гэта было падобна, нібыта першакласнік размазаў слёзы па сваім мурзатым твары. Праз пятнаццаць хвілінаў чакання я ўбачыла між могілкавых прысадаў чорную куртачку Далілы. У адзін час з вахцёркай прыцягнуўся Генусь. Макс таксама дзесьці сарваўся з працы, але яму далёка ехаць — іхні архіў нядаўна перавялі ў нейкую цьмутаракань (а нечага было ладзіць сховішча ў сценах старой царквы). Едрусь не

ў доступе — дзесьці «лабае», і, вядома, музыка іхняга гурта перашыбе піск любога мабільніка.

— Добры дзень, Валяр'ян Іванавіч! — афіцыйна пачала Даліла. Яна яшчэ не ведала, з кім размаўляе... А я за той час, што «кобра» дабіралася сюды, паспела зразумець. І дайсці да маральнага стану школьніцы, заспетай за спальваннем дзённіка. Скаловіч утаропіўся суровым позіркам у Далілу.

— Вы, шаноўная, тут гаспадыня, ці не так?

Даліла па-ранейшаму захоўвала афіцыйны тон.

— Так, вы ў маёй хаце. І прашу вас...

— Вы — можаце мяне прасіць. Вось толькі я — не прасіў вас ні аб «ратаванні», ні аб змене адной турэмнай камеры на другую.

— А што, лепей было вас там пакінуць? Чакайце... — схамянулася Даліла. — а чаму вы вырашылі, што гэта мы вас забралі з турмы?

— А вы мне самі толькі што пра гэта распавялі, — задаволена прамовіў хімік. — І, мяркуючы па вашых «перакуленых» фізіяноміях, мая прысутнасць, асабліва ў жывым выглядзе, не ўваходзіць у вашыя планы.

Я першы раз пабачыла, як Даліла разгубілася. Яна нават павярнулася і абвяла вачыма нас, нібыта чакала падказкі.

— Вы зусім хворы. Вам трэба ляжаць...

— Давайце я сам буду вырашаць, як сябе адчуваю. — Скаловіч пацягнуўся і прыўзняўся на ложку. Я заўважыла, што ён сціснуў сківіцы — відаць, ад болю. Паглядзеў на голку ў вене.

— Быў бы ўдзячны, каб вы гэта асталі.

Я паслухмяна падбегла. А Валяр'ян Іванавіч ужо круціў у пальцах катэтар.

— Цікавы матэр'ял... Што за рэчыва?

Даліла імгненна падскочыла і выхапіла з пальцаў Скаловіча тонкую празрыстую трубачку. У ягоным часе такія палімеры яшчэ не вынайшлі.

Скаловіч насмешна зірнуў на Далілу. Потым адкінуў трохі коўдру і агледзеў Разалін халат.

— Гэта таксама... «мода»?

— Разумееце, мы не маглі знайсці для вас іншага адзення... — замармытала я.

— Цікавая афарбоўка... — Скаловіч зноў мацаў сваімі доўгімі пальцамі прадмет з «сакрэтнай інфармацыяй», дакладней, фланель з малюнкам у жоўтыя зайчыкі. — Да бавоўны нейкі дамешак... Пакуль не магу вызначыць.

Я чамусьці ўспомніла сярэднявечных алхімікаў, якія маглі, паводле летапісу, неяк зачытанага Максам у кавярні «Лондан», «ракавіны ад вустрыцаў ператвараць у вочы краба, просты алей у салодкі міндальны, ваду з ракі ў aqva cinnamoni». Погляд прафесара далей «сканаваў» хату... Генусь нават пасунуўся наперад, нібыта спадзяваўся захіліць рэаліі нашага часу. А цёмныя вочы госця трохі пашырыліся ад здзіўлення: на чорнай майцы Тэрмінатара красаваўся Ленін у навушніках, перад мікрафонам, і надпіс па-чэшску: «Рэвалюцыя рок-н-ролу».

Скаловіч адкінуўся на падушку, заплюшчыў вочы і прамовіў фразу, якая нас дабіла:

— Які гэта год?

Вось і ўся канспірацыя. Супраць такога інтэлекту мы былі, як удзельнікі турніру дваровых хакейных каманд «Залатая шайба» сярод гульцоў НХЛ.

У выніку давялося распавядаць больш-менш праўдзівую гісторыю... Патлумачылі і тэорыю Едруся. Чалавек з мінулага ляжаў, заплюшчыўшы вочы і сурова падціснуўшы вусны. Нарэшце мы выказаліся і змоўклі. Маўчанне рабілася ўсё больш трывожным.

— Выдатна... — Скаловіч зноў прыўзняўся і абвёў вачыма кампанію. — Купка самаўпэўненых маладых асобаў узялася вырашаць чужыя лёсы. Ведаў я такіх... І бачыў, чым скончылася. Якая безадказнасць! Гэта вы! — погляд, востры, як скальпель, упёрся ў Далілу. — Што гэтак пераклініла вашыя вартыя жалю мазгі, калі вы цягнулі мяне сюды? З чаго б такі подзвіг?

Голас прафесара гучаў цяпер амаль напоўніцу — каб тут была школьная парта, я б схавалася пад яе ад гэтых грымотаў. Нават Генусь толькі паперхваў ды мыкаў, нібыта рыхтуючыся і не наважваючыся запярэчыць. Адна Даліла

зрэагавала як ёй было ўласціва. Гэта значыць — не так, як усе. Раз'юшылася і выкрыкнула:

— А што, вам так падабалася ў катавальні? Я забрала вас, каб не губілі людзей! Вы — даносчык! І я не дапушчу, каб вы вярнуліся!

Скаловіч нечакана супакоіўся, нібыта пачуў правільны адказ на іспыце, і з'едліва пасміхнуўся.

— У такім выпадку, вам варта было ад мяне зусім пазбавіцца. Што, смеласці не хапіла?

Даліла знямела ад абурэння. Вось цяпер было цалкам зразумела, чаму гэтага чалавека так не любілі і лёгка верылі ў ягоную падступнасць. Гэтак цвеліць кожнага сустрэчнага! Але я памятала Антаніну...

— Паслухай, Даліла... Хіба з таго, што мы ўсе бачылі, вынікае, што Валяр'ян Іванавіч даносчык? Яго катавалі... Яго паказвалі вязням, каб тыя ненавідзелі яго — не катаў. Скажыце, прафесар, — звярнулася я да Скаловіча, — вы сапраўды даносілі на ўсіх гэтых людзей? На Кадуру, на Замоцкага, на Нічыпаровіча? На іншых з універсітэта?

— Толькі не трэба маніць, — раптам вельмі сур'ёзна прагаварыў з-за маёй спіны Генусь.

— Калі ласка, скажыце... — умольна прамовіла я. — Гэта... вы рабілі?

Скаловіч зноў ляжаў на падушцы, заплюшчыўшы вочы, і маўчаў. Потым яго вусны варухнуліся:

— Не.

І ганарліва паглядзеў на Далілу.

— Але гэта не мае значэння.

І дадаў невыносна загадным тонам.

— Падайце мне вады. Думаю, шклянкі ў вас яшчэ самі не лётаюць.

І — дзіва — Даліла моўчкі рушыла ў бок кухні.

А прафесар, гледзячы ў чорную, быццам абгарэлую, драўляную столь, прагаварыў, як працытаваў:

— У вашым часе можна набыць нацельны крыжык? Спадзяюся, гэта вас не збанкруціць? І кнігі мне прынясіце! Усё роўна якія. Толькі не бульварныя раманы і не кулінарыю.

Дрэва хутка прагніе,
Камні скоцяцца на дно,
Сталь-жалеза з’есць іржа,
Срэбра-золата скрадуць...
Абрушыўся Лонданскі мост,
Абрушыўся Лонданскі мост,
Абрушыўся Лонданскі мост,
Лэдзі мая, лэдзі...

Валяр’ян Скаловіч ляжаў на ложку, накрытым коўдрай з надпісамі «Чыкага», і пахавальным голасам зноў і зноў напяваў песеньку лонданскіх беспрытульнікаў, нібыта яе словы былі надрапаныя на столі, куды прафесар упарта пазіраў. Макс, які гібеў за сталом над рэфератам — узяўся чытаць лекцыі па гісторыі ў каледжы, у чарговы раз парываўся папрасіць нашага госця змоўкнуць, але не наважваўся. Пазнаёміўся ўжо з характарам прафесара. Выглядаў Скаловіч трохі лепей, тым больш апрануты ён быў ужо не ў фланелевы халацік, а ў чорную кашулю і джынсы — волат Макс, які быў аднаго росту з прафесарам, адшкадаваў. Чамусьці ў гэтым прыкідзе хімік з мінулага нагадваў старога рокера. Яму б яшчэ Едрусеву гітару... Вось толькі Едрусь нават сябрам гітару не давярае. Я часам зайздросціла гэтаму кавалку фанеры з металёвымі дратамі — як яго любяць! Як песцяць!

Але Даліла даўно сцвердзіла, што ў нашай тусоўцы каханне — канец сяброўству, і трэба душыць здрадніцкія гульні гармонаў.

Якраз цярплівы, але адораны тонкім музычным слыхам Едрусь першым не вытрымаў дэпрэсіўнага спявання, хаця голас Скаловіча быў досыць прыемны. Млынар выйшаў з кухні, куды Даліла адаслала яго чысціць бульбу:

— Спадар Валяр’ян, вы б лепей распавялі нам штосьці.

Скаловіч нават галавы не павярнуў.

— Я не на лекцыі, малады чалавек. А наймацца расказчыкам да вас не збіраюся.

Каб на месцы Едруся быў Генусь, усчалася б раздражнёная дыскусія. Але Едрусь толькі паціснуў плячыма.

— І ўсё-ткі... Невядома, колькі вам тут удасца прабыць. Ёсць шанец нешта перадаць нашчадкам.

— Не думаю, што ў вашым часе ў мяне маюцца нашчадкі, — са змрочным гумарам прагаварыў Скаловіч. У мяне чамусьці сціснулася сэрца... Сапраўды, ён жа самотны. Такі страшэнна самотны. Я папрасіла:

— Ну вось хаця б... Мы ведаем, што вашы бацькі былі артыстамі. А дзе яны ігралі? У якім тэатры?

Прафесар адарваўся ад сузірання столі і змерыў маю сціплую постаць паглядам, як таполю перад спілаваннем.

— Так-так... Суд нашчадкаў... Не спадзяваўся, што ён выявіцца такім матэрыяльным. Вось толькі не разумею, для чаго вам падрабязнасці майго асабістага жыцця?

— Таму што вы — гэта ўжо гісторыя. Наша гісторыя. На якую мы маем права, — сярдзіта патлумачыў Едрусь. Макс адарваўся ад сваёй працы і натапырыў вушы. З прафесара яшчэ не ўдалося выцягнуць ніводнага расповеду.

— Гэта значыць, што я размаўляю з вамі нібыта з магілы? — пракаментаваў Скаловіч.

— Можа, і так... Ну дык і чаго вам тады замоўчваць? Чаго саромецца — у магіле? Я на вашым месцы распавёў бы ўсё сваё жыццё да драбніцаў. Мы адзін для аднаго — цені. Але дзякуючы вам, можа, адновяцца хоць якія аскалёпкі мінулага. Вы ж сябравалі з Нічыпаровічам — ведаеце, як нішчылася наша гісторыя. Можа, нейкіх вартых людзей без вашай дапамогі сёння ніхто і не ўспомніць. Так што давайце — пасмяротную споведзь.

Логіка Едруся, відаць, падзейнічала. Хімік і сам, падобна, быў аматар чорнага гумару:

— Хм... Споведзь з магілы... Ведаеце, часам і ў магіле варта памаўчаць і даць сябе засыпаць. У Парыжы... — хімік запаволіўся, нібыта вырашаў, ці варта прыадчыняць перад намі карціны мінулага, але ўздыхнуў і працягнуў гаварыць. — Так, у Парыжы, яшчэ перад вайной... мне даводзілася слухаць старую спявачку, па мянушцы Гулю, Ненажэрная, якую гадоў пяцьдзясят да гэтага маляваў геніяльны карлік Тулуз-

Латрэк. Яна танцавала канкан у Мулен-Ружы, калі гэта лічылася яшчэ страшэнна непрыстойным, і любая гандлярка зелянінай мела права шпурнуць ёй у спіну гнілы памідор. Цяпер парыжане любілі яе і шанавалі, як найкаштоўнейшую рэліквію. Уявіце сабе — сцэна з чырвоным аксамітам, натоўп слухачоў, уся багема... І вось выходзіць яна, у дэкальтэ, панчохах у сетачку... І, ведаеце, такі дзіцячы ружовы бант — вось тут, на шыі. А скура вісіць, як пусты кашалёк. І голас... Як паламанае кола коціцца — кожнай спіцай у брукаванку. Са мной была... адна экзальтаваная асоба. У шараварах. Дык пачала крычаць: «Змоўч! Змоўч! Гэта ганьба для ўсіх жанчын!» Французы нас ледзь не прыбілі.

Скаловіч памацаў свой гарбаты нос, відаць, успамінаючы падрабязнасці размовы з французамі.

— Мая маці таксама насіла панчохі ў сетачку. Артыстка... Толькі не тэатра, а балагана. У вас ёсць балаганы? Калёсы з палатняным верхам, размаляваным грубымі кветкамі. А там... Свая маленькая дзяржава. Стары леў, які так неахвотна выходзіць са сваёй клеткі, нібыта яе пруты зрасліся ўжо з ягонымі рэбрамі. Пры ім дрэсіроўшчык, таксама стары і запаволены, з сівымі доўгімі вусамі — ён быў дырэктарам балагану. Таўсманная чэрававяшчальніца з маленькімі вусамі на верхняй губе. Яе звалі Трыксці, яна была добрай і дурнаватай. Гэта яна навучыла мяне чытаць, і каментавала прачытанае мною таямнічым пранізлівым голасам, які сыходзіў, аднак, не з яе жывата, а нібыта збоку. Я нават бегаў і шукаў, хто гэта гаворыць, а яна смяялася. Быў яшчэ гутаперчавы хлопчык трыццаці гадоў, які не еў мяса, каб не патаўсцець і не пачаць выглядаць на дарослага. Ён доўга ненавідзеў і пабойваўся мяне, як магчымага канкурэнта. Сям'я ліліпутаў — мужык і жонка з аднолькавымі круглымі тварамі, нібыта ў масках, пажаўцелых і перакрыўленых ад часу. Кітаец, які ўмеў круціць на бамбукавых палках талеркі — адразу па шэсць. Ён ставіў палкі на плечы, на далоні, на лоб і нагадваў гіганцкага жука, што абмацвае вусікамі паветра ўнутры слоіка. Ну і — мае бацькі. Факір з асістэнткай.

— Як цікава! — я не магла стрываць захапленне. — Цырк! У вас было незвычайнае дзяцінства!

Скаловіча перасмыкнула.

— Незвычайнае? Мабыць... Ведаеце, які мой першы ўспамін? Чырвоны азадак малпы. І вакол яго — фальбоны бліскучай фіялетава-зялёнай спадніцы. «Сцены» з шэрай тканіны пагойдваюцца, у адной са «сценаў» — дзірка, і з яе цягнецца да мяне пыльны дрыготкі прамень, як сонечная змяя... Гэта значыць, мяне везлі ў фургоне. Так, цыркавыя дзеці маюць шмат ураджанняў, недаступных іх равеснікам. Яны ў казачных касцюмах, як маленькія прынцы і прынцэсы, выскокваюць з люстраных шафаў фокуснікаў, выносяць на сцэну белых галубоў, прадаюць у антрактах кветкі і цукеркі, круцяць сальта... Але маім бацькам не пашэнціла. Я рос занадта няўклюдным і непрыгожым, і мяне маглі прыстасаваць толькі да аднаго — каб сядзець унутры механічнай мадам Таро, васковай варажбіткі з жалезным чэравам, і націскаць на рычажкі, з дапамогай якіх мадам выцягвала для жадаючых даведацца свой лёс карты. Пры гэтым яна варушыла васковымі вуснамі, і я мусіў гаварыць тое, чаму мяне навучылі, у спецыяльную трубачку. Мой дзіцячы голас з дапамогай хітрага прыстасавання ператвараўся ў нізкі, таямніча прарочы. «Цябе чакае казённы дом»... «Мар'яж»... «Бойся віновай дамы»... Трэба прызнацца, унутры гадальшчыцы было цеснавата, нават для васьмігадовага.

Балаган вандраваў ад Беластока да Мелітопаля, ад Пінска да Смаленска... Падчас буйных кірмашоў мяне саджалі ў жалезны футарал уранку, а даставалі, калі між крытых саломай альбо чарапіцай дахаў, як вялізны засынаючы чорны воўк, варочалася ноч і п'яныя месцічы гублялі ўсялякі інтарэс да сваёй гіпатэтычнай будучыні. Адзін раз, памятаю, мяне ўвогуле забыліся вызваліць, і я праседзеў у чэравэ мадам усю ноч. Плакаць і крычаць баяўся — мне настрога забаранілі падаваць прыкметы жыцця. Як толькі нехта даведаецца сакрэт васковай прадказальніцы — канец усяму балагану. Людзі любяць, калі іх падманваюць, і ненавідзяць тых, хто робіць гэта кепска.

Скаловіч замаўчаў, амаль мройна гледзячы ў столь. І ўвогуле падчас расповеду ягоны голас гучаў, нібыта ён успамінаў, як гувернёр яго «и в Летний сад гулять водил».

— А як жа хімія? Навука? — папытаўся Макс, і я заўважыла, што наш архівіст крадма ўключыў дыктафон. Вось жук.

— А хімія мая там і пачыналася, — патлумачыў Скаловіч. — Бацька заўсёды прымушаў мяне дапамагаць у падрыхтоўцы рэчываў для ягоных фокусаў. Ён спецыялізаваўся на агні. Ад яго дакранання ўспыхвала рознакаляровае полымя, ён трымаў агонь на далоні, глытаў яго, праводзіў праз зыркае вогнішча маю маці — у ружовай пышнай кароткай сукенцы і чорных ажурных панчохах... Маці была такая прыгожая. Я страшэнна раўнаваў яе да ўсіх, што глядзелі на яе вачыма, у якіх нібыта скакалі адбіткі пякельнага полымя, да ўсіх, каму яна ўсміхалася, пасылала паветраныя пацалункі... Мяне яна не цалавала ніколі. Аднойчы я парваў яе панчохі на ніткі і кінуў у клетку да малпы.

Я змешваў парашкі, расціраў цвёрдыя камякі мінералаў, асцярожна пераліваў каляровыя вадкасці... Запамінаў назвы, распытваў... Крадма эксперыментаваў — атрымліваліся то выбухі, то смярдзючы дым, то бескарысныя згусткі... Яшчэ мой бацька меў кнігу на нямецкай мове «Вялікае мастацтва артылерыі», у якой апісвалася, акрамя іншага, як учыняць розныя феерверкі, рабіць петарды, афарбоўваць агонь... Рабіць пірафігуры — Бахуса, які пускае з кубка вогненную вінную пену, а пасля знікае ў «ачышчальным агні», «лятучага дракона», «крывавага Марса»... Мадам Трыксці, абруселая немка, дапамагла і тут... Я слова за словам разбіраў тэкст, і толькі пасля даведаўся, што аўтар самай чароўнай кнігі майго дзяцінства — беларус сямнаццатага стагоддзя Казімір Семяновіч, генерал-лейтэнант кароннай артылерыі Рэчы Паспалітай. Ну а сапраўдная навука з’явілася дзякуючы бабулі. Мяне падкідвалі да яе на зіму, калі з гастролямі было цяжка. А калі я падрос, яна аддала мяне ў школу — літаральна адабрала ў маці... Прыгразіла, што заявіць у паліцыю, быццам яны ў балагане змушаюць мяне ўдзельнічаць у сеансах чорнай магіі.

— Напэўна, яна вас любіла? — пацікавілася я.

— Як можна любіць адроддзе шатана? — прамовіў хімік без ценю крыўды. — Пані Леакадзія была прыстойнай удавой паштовага служачага з Менска. Гадавала адзіную дачку, прыгажуню Юльяну... У гімназіі вывучыла. А тая збегла з факірам-венграм з імем Янош Рагоцы з праезджага балагана.

— Чакайце, але ж у вас не венгерскае, а беларускае прозвішча? І па бацьку вы — Іванавіч? — удакладніў Макс, старанна захінаючы рукою дыктафон.

— Іванавіч я таму, што перайначыў Яноша ў Івана. А прозвішча матчына — таму што мае бацькі не вянчаліся, — патлумачыў Скаловіч. — Бацька ўжо быў жанаты — ці то ў Польшчы, ці то на Украіне... Увогуле, не ведаю, ці сапраўды ён венгр, як дэклараваў. У цырку часта называюць сябе экзатычнымі імёнамі. Не чуў ад яго ні венгерскіх песень, ні цікавасці да лёсу радзімы. Памятаю толькі, ён расказваў на ламанай расейскай мове пра парослыя вінаграднікамі горы, на вяршынях якіх стаяць старыя кляштары, як арліныя гнёзды. Пра атары авечак, якія яму ў дзяцінстве трэба было пасвіць. Ён таксама ў свой час прыбіўся да вандроўнага балагана і збег ад мачыхі. Вось тут, над брывом, у яго быў шнар ад удару кнутом. Казаў — гэта яго пабілі аднасяльчане пасля таго, як згубіў ажно шэсць авечак. Падняўся нейкі віхор, яны спалохаліся, паляцелі ў прорву... Помню яшчэ, я страшэнна хацеў прымерыць шыкоўны венгерскі касцюм Рагоцы для выступленняў. Сіні, з залатымі кунтушамі... Бацька быў прыгожы. Спрытны, дужы, гучнагалосы, з чорнымі вусамі, якія закручваліся ў кольцы, з буйнай чорнай грывай валасоў... Ці любіў ён мяне? Было пару разоў, праганяў тых, што мяне крыўдзілі. Але асаблівай пяшчоты не выяўляў. Лупіў, вядома... Тыя, каго ў дзяцінстве білі, іншага выхавання не ўяўляюць. А маці... З бацькам яны таксама ўвесь час біліся. Рагоцы меў палюбоўніц, напэўна, у кожным мястэчку, дзе мы спыняліся. Аднойчы ён прывёў у балаган чарнявенькую хахлушку з вялікай чорнай радзімкай на верхняй губе і сказаў, што яна будзе ягонай новай асістэнткай. Не, маці з балагана не сышла. Куды? На Ляхаўку, да беззаганнай захавальніцы нораваў Леакадзіі Пятроўны? Сышлася са

старым дырэктарам-дрэсіроўшчыкам, і ў ягоны нумар з ільвом дадаліся дрэсіраваныя пудзелі, з якімі спраўлялася «мадэмуазель Юльяна Скало». Я гадзінамі расчэсваў паганую поўсць тых чатырохлапых брахлівых артыстаў... Так што сабак не люблю яшчэ больш, чым панчохі ў сетачку. Калыханак маці мне дакладна не спявала. Мне ўвогуле здаецца, што яна, нарадзіўшы ў шаснаццаць, так і не ўсвядоміла да канца, што зрабілася маці. Часам песціла мяне, як ляльку. Потым адкідала... Як зламаную ляльку. Калі я падрос і зрабіўся зусім непрыгожы, увогуле забараняла пры чужых называць яе мамай. Я ж быў байструк. Тэорыю Аляксандры Калантай пра вольныя сэксуальныя адносіны тады яшчэ не ўзаконілі. І я дзіця граху.

— Гэта перажытак — так казаць! — абурылася я. — Дзяцей дае Бог.

— Шкада, вы не сустрэліся са спадарыняй Леакадзіяй Скаловіч, маёй бабуляй, каб пераканаць яе ў гэтым. Да таго ж, я працягваў бываць у балагане. Мяне час ад часу зноў забіралі бацькі, і я грашыў там сярод грэшнікаў «блазнаваннем і чарнакніжніцтвам». Як пазашлюбнага, бабуля мела права ўвогуле адабраць мяне ў маці. Але ўзвальваць на сябе такі крыж назаўсёды? Не. Калі маці адвозіла мяне назад у Менск, на Ляхаўку, мяне чакала шматдзённае пакаянне. Маці даводзіла да весніц і вярталася. Я мусіў сам ісці да бабулі, стукацца ў дзверы з шырокіх дубовых дошак з прымацаваным да іх выцвілым абразком у шкляной рамачцы, сціскаючы ў руцэ клунак з маім «пасагам» — зменай бялізны, некалькімі сшыткамі і трыма рублямі, загорнутымі ў балаганную праграмку. Ніколі не забудуся, як убачыў бабулю першы раз — мне было гадоў шэсць, і яна падалася мне большай за чэрававяшчальніцу Трыксці. Хаця насамрэч была нават нізенькай. Рухавая, па-вясковаму прыземістая, з гладка зачасанымі пад каптур сівымі-сівымі валасамі. Вельмі светлыя пукатыя вочы, кірпаты нос, тонкія строгія вусны — нібыта нічога застрашлівага. Але вочы гэтыя, светлыя, як лёд, шырока расстаўленыя, з белымі вейкамі, сніліся мне па начах у жахлівых снах. Бо глядзелі на мяне заўсёды, як на вінаватага. Я ж нічога не ўмеў — ні карыстацца відэльцам і

нажом, ні вітацца, ні маліцца. Затое вечна змешваў нейкія смярдзючыя рэчывы ды блазнаваў. У балагане навучыўся трохі жангліраваць, ды яшчэ хаваўся ў самых нязручных мясцінах — на вершаліне дрэва, на даху... Як бы там ні было — я бабулі Леакадзіі абавязаны. Гэта яна навучыла мяне верыць у Бога. Хаця так ні разу і не прапанавала назваць яе «бабуля Лёдзя». Выключна — «Леакадзія Пятроўна». Толькі я не пераняў ейнай нецярпімасці да ўсіх, хто верыць не так, як мы, і тых, хто грэшыць. Я ж сам быў — увасабленне граху. Яна не шкадавала мяне... Але я бачыў, што яна не шкадуе і сябе. І мне ў галаву не прыходзіла крыўдаваць ці марыць пра іншыя адносіны. Скончыў гімназію... З перапынкамі на балаганныя вандроўкі. За два класы здаваў экстэрнам. І дзякуючы ўрокам хіміі, бібліятэцы майго настаўніка, дзівакаватага пана Сымона Аляксандравіча па мянушцы Колба, які чамусьці прыхінуўся да мяне, і «летняй практыцы» ў балагане, ужо ў шаснаццаць гадоў я зрабіўся някепскім піратэхнікам. Феерверкі — любых колераў, петарды, ракеты, якія могуць выпісваць у паветры вензелі... Вось тады мяне і знайшлі сацыялісты. І яна... Альбарутэнія...

Апошнія словы прафесар прагаварыў зусім ціха. Але мы, дзеці фаст-фуду, агаломшана пераглянуліся. Прафесар прамовіў слова, якое была нашай салодкай таямніцай. Тое, што з'ядноўвала нас і рабіла чужымі ў гэтым свеце.

Альбарутэнія.

Як прыходзілі да яе напачатку мінулага стагоддзя? Дзе яна хавалася? Як сустракала сваіх будучых вояў?

Сыну факіра яна з'явілася ў абліччы лірніка.

Сляпога лірніка на кірмашы ў маленькім беларускім мястэчку. Стары спяваў пра Цыпрыяна-рыцара, які перамог татарскага хана. Жонку рыцара забралі ў палон, там яна ператварылася ў зязюлю і прыляцела ў родны край.

На зямлі ліцвінскай азёраў і рэк, як зораў,
На зямлі ліцвінскай дзяўчаты, нібы валошкі.

Валяр'ян слухаў... І разумеў, што яму пашанцавала натрапіць на сапраўднага майстра — якому ад нараджэння Бог даў тое, што славутыя спевакі купляюць гадамі

пакутлівай працы. Тонкія старэчыя пальцы краналі струны ліры, нібыта гладзілі бязважкія месяцавыя промні, голас кранаў сэрцы...

Валяр'ян і сам часам размаўляў на мужыцкай гаворцы — не задумваючыся, як у хаце апранаюць зручныя пантофлі. Але на людзі трэба — крамныя чаравікі! Расейская, польская, лаціна...

Едзе Вітаўт па вуліцы,
За ім нясуць дзве шабліцы.
Слаўны князь Вітаўт,
Гаспадар на Літве!
Шаблі літы, злотам біты,
Ў яшчар-скуру апавіты.
Адна шабля для спадара,
Друга шабля на татара.
Стануў Вітаўт прад кашовым,
Бліснуў ў сонцы шабляй новай,
Стукнуў-грукнуў у падковы,
Гэй шыхтуйся пан кашовы!
Гэй шыхтуйся збройна, жвава,
Дзе йдзе бітвы слаўна справа.

Лірнік спяваў, твары людзей побач былі сур'ёзныя, нібыта на іх вачах нараджалася нешта важнае... Большае ад асобнага чалавечага лёсу...

Ой, ў нядзельку параненьку
Ўзышло сонейка хмарненька,
Ўзышло сонейка над борам
Па-над Сялецкім таборам.
А ў таборы трубы граюць,
Да нарады зазываюць.
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршу здабываці:
А ці з поля, а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічкі?
Сталі хлопцы-пяцігорцы
Каля рэчкі на прыгорцы.

Гучаць разам з самапалаў,
Б’юць паўсоткаю з гарматаў.
Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці.
А як з Воршы уцякалі,
Тую рэчку праклiналі:
«Бадай ты павысыхала,
Наша слава тут прапала...»

Гэта было так непадобна на песні, якія спяваліся ў балагане для публікі:

Что танцуешь, Катенька?
Польку, польку, маменька!
С кем танцуешь, Катенька?
С офицером, маменька!

Не падобна гэта было і на тое, што спявалася не для публікі — за чаркай гарэлкі, на калёсах, хаця і тое было гожа.

Ой, пайшла я малада, лугавінай,
Абматалася уся лапушынай...

Лірнік спяваў балады пра невядомую зямлю. Невядомы народ. У якога былі свае каралі і рыцары, чароўныя дамы і паэты. Які бараніў сябе мячамі і шаблямі і меў годнасць і гонар.

І Валяр’ян раптам усвядоміў — гэта пра гэтую зямлю, і пра гэты народ, да якога належыць ён, байструк.

Таму што, калі ты чалавек, здольны думаць, кахаць і пакутаваць, табе нельга жыць, не маючы зямлі, якую можна называць сваёй, за якую можна памерці. І найлепш гэта разумее той, хто пазбаўлены любові і ўласнага дому.

Ён выпрасіў у бабулі тры капейкі і запісаўся ў першую Менскую публічную бібліятэку, якая, вядома, насіла імя Аляксандра Пушкіна. Там адшукаў у навуковых часопісах артыкулы фалькларыстаў — Федароўскага і Сержпутоўскага,Налецкага і Адама Багдановіча. Прачытаў, спатыкаючыся на старажытных, незразумелых словах, урыўкі Баркалабаўскай

хронікі, што друкаваліся ў адным з філалагічных альманахаў як узор пісьменнасці «Северо-Западного края».

«Року 1590 былі козакі запрозкіе Матюша с полком, Голый с полком у Могілёве. Аж до Мінска пріставство по волосцях бралі, а крыўды, шкоды не чінілы, только жонок охочых, тых намовлялі і заклікалі, абы з німі на Ніз ішлі. І взялі з собою жонок і девок яко двесте поголов».

А пасля стрыжаная курсістка, якая пасялілася ў доме, суседнім з домам яго бабулі, прынесла яму газету. На кепскай жоўтай паперы, з кепскім шрыфтам... Называлася «Наша Ніва».

Не пужайся, што здрадныя хмары
Неба ўслалі з канца да канца,
Што свае цемната ўнесла чары,
Закружыўся груган над папарам:
Яшчэ прыйдзе вясна!

Курсістка пацікавілася: «Ці праўда, што ты цыркач?», а пасля папыталася, ці ўмее ён рабіць нітрагліцэрын.

Скаловіч усміхнуўся нейкім сваім успамінам — усмешка на нейкае імгненне падалася зусім мілай — без з’едлівасці альбо горычы.

— А далей? Што з вамі было далей? — нецярпліва гукнуў Макс.

— Цікава, як вы запісваеце тое, што я гавару? Нейкая новая тэхналогія? — бязвінным голасам папытаўся хімік.

— А адкуль вы... Чаму... — разгубіўся Макс.

— У вас голас, як у следчага.

Цікава, што гэты чалавек яшчэ пра нас зразумеў?

Адзінае, што супакойвае, — і ён часам памыляецца і робіць няправільныя высновы.

— Прынамсі, я ведаю, што Беларусь жыве... Праз столькі гадоў. Беларуская мова гучыць з усіх вуснаў.

Гэта было, магчыма, брыдка — але мы разрагаталіся. Скаловіч недаўменна паглядзеў на нас. Потым страшэнна спахмурнеў. Відаць, зразумеў сітуацыю раней, чым Едрусь агучыў:

— Такіх, што размаўляюць па-беларуску, а не на «нармальным языку», тут няшмат. На вуліцах гэтага горада вы рэдка пачуеце беларускае слова.

Тут прыйшла Даліла і запатрабавала, каб мы пакінулі хворага ў спакоі — ён зусім знямогся.

Спадар Валяр'ян сапраўды, відаць, знямогся. Бо ляжаў, заплюшчыўшы вочы, нібыта зноў страціў прытомнасць.

А можа, проста аплакваў сваю Альбарутэнію.

А я, адыходзячы дадому, падумала, што дарэмна так і не наважылася распавесці Скаловічу, як пабачыла смерць Антаніны. Можа, для яго гэта сапраўды важна і ён не такі строгі і фанабэрысты, як мне было падалося...

**ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ-4**

На наступны дзень атрымалася так, што з раніцы да абеду не было каму дзяжурыць у дамку, і госця з мінулага давялося замкнуць на замок. Вядома, з тлумачэннямі і прабачэннямі, на якія было адрэагавана з'едлівым буркатаннем. Даліла, адпрасіўшыся з працы раней, заспела хіміка, які стаяў ля акна, абапершыся рукой аб сцяну, і пазіраў на могілкі.

— За час савецкай улады людзі зусім развучыліся правільнаму стаўленню да смерці, — прамовіў ён спінай да гаспадыні. — Вы не паважаеце яе. Я разумею, чаму, — тое, што пачалося ў мой час, відаць, працягвалася досыць доўга. Пасля першай сотні тысяч трупаў смерць робіцца механічным працэсам, усё роўна што ўкладваецца ў сцяну чарговая цагліна. І толькі з адлегласці бачны ўвесь застрашлівы будынак, узведзены стараннямі катаў. А смерць... Гэта ўрачыста. Гэта таемства. Пераход у іншы стан. Новае нараджэнне душы — з гніючага футарала цела. Якія страшныя вашыя помнікі...

Даліла, раскладаючы на стале прадукты, няўважна папыталася:

— Чаму?

— Яны нагадваюць паднятыя пліты падлогі. Быццам па іх нехта ўжо таптаўся. У прынцыпе, гэта лічылася вартым хрысціяніна — святыя людзі, перакананыя ва ўласнай

грахоўнасці, загадвалі хаваць сябе пад парогам царквы, каб усе, хто заходзіць, таптalі іх нагамі. Менавіта так запавядаў учыніць са сваім целам Дон-Жуан. Іспанскі пракуднік Дон Жуан Тэнорыа... Які пабачыў наяве чысцец, раскаяўся і пастрыгся ў манахі. Спадзяюся, вы чулі пра такую асобу. Але на гэтых помніках мала крыжоў, і не выпадае казаць пра хрысціянскую пакорлівасць.

Пытанне Даліла было надта далёкім ад тэмы смерці:

— Якую гарбату вам заварваць? Чорную альбо зялёную?

Хімік нарэшце павярнуўся да яе.

— Тую, якую можна піць без агіды. Дагэтуль у вас такая не атрымлівалася. І ежа ў вас... Выбачайце, але ўся з прысмакам гумы. Вы сінтэзуеце мяса з мазуты? Ці проста вашыя персанальныя гаспадарчыя здольнасці ў мінусе?

Даліла прашыпела нешта пра жаночае раўнапраўе... Спадар Валяр'ян здзекліва прыўзняў бровы.

— Я начуты пра жаночае раўнапраўе. Але, выбачайце, нават на фоне подзвігаў трактарысткі Пашы Ангелінай у яго не веру. Кожную ноч у Менску, з якога вы мяне забралі, «чорныя варанкі» прыязджалі за дзясяткамі людзей. Але жанчын амаль не чапалі. А ўзяўшы, адпускалі. І ведаеце, чаму? Як патлумачыў мне адзін з тых, хто забіраў, краіне патрэбная танная працоўная сіла, якой лёгка маніпуляваць. Куды лягчэй, чым мужчынскай паловай. У тым ліку — тлумячы галовы раўнапраўем і змушаючы брацца за непадсільную жаночаму арганізму работу. Ведаеце, як называлі жанчын у Вялікім Княстве Літоўскім? Белагаловыя.

Даліла, вядома, не сцярпела... Скончылася тым, што ледзь гарбату не выплюхнула ў твар прафесара. Карацей, за стол селі ў варожым маўчанні. На тым, што ён можа цывілізавана абедаць, седзячы за сталом, настояў сам прафесар. Што ж, калі ласка... Даліла лічыла, што пераадольваць уласныя боль і слабасць — тое, дзеля чаго мы, можа, тут і жывём, у гэнай «юдолі».

Скаловіч, выпрастаўшыся, як быццам яго па-ранейшаму прывязалі да крэсла, акуратна наразаў амлет.

— Пакуль вас не было, у ваш дом стукаліся. Двое мужчын. Яны дужа не спадабаліся мне. Паліцэйскія, жаўнеры,

міліцыянты, асабісты... Ва ўсе часы іх можна пазнаць нават у касцюмчыках з гальштукамі. У іх размовах гучалі словы «прытон» і «маліна». Не здзіўлюся, калі за кампанію з вамі зноў апынуся ў Жоўтым Доме. Яго, я думаю, не знеслі. Такія будынкі застаюцца пры любой уладзе.

Даліла спахмурнела.

— Ды ходзяць тут час ад часу... Нібыта з міліцыі. Намякаюць, што гаспадар суседняй вілы гэты дамок купіць хоча. Глупствы ўсякія гавораць. Маўляў, падазрона памерла былая гаспадыня, бо я ў медустанове працую, маю доступ да атрутных рэчываў... І лепей мне хату гэтую прадаць, каб не наклікаць на сябе праблемы. Але мяне на спалох не возьмеш. Акрамя вас, іншых злачынстваў за намі няма. Вам патрэбны пашпарт...

Прафесар узяўся за шклянку з гарбатай.

— Цікава, а якое імя ў вашым пашпарце? Даліла... Гэта для запалохвання мужчын. Вы б, спадарыня, яшчэ Гаргонай назваліся. Гатовы паспрачацца на падручнік сучаснай вам хіміі, што гэта не сапраўднае імя.

— Як хачу, так называюся, — адрэзала Даліла. — А падручнік хіміі я вам не прынясу. Пакуль няма пэўнасці, што вы тут... назаўсёды.

— Спадзяюся, не назаўсёды, — змрочна прамовіў прафесар. — Я мушу вярнуцца.

— Навошта? Працягнуць знаёмства з катамі?

Скаловіч кінуў на сумоўніцу цяжкі позірк.

— Ёсць справы, дзеля якіх можна пайсці на рызыку страціць яшчэ трохі крыві. Я разумею — у вас дакладныя звесткі, што мой лёс варты жалю. Але гэта мой лёс. І ў ім — мае даўгі. А цяпер з-за вашай асабістай дурноты і безадказнасці...

— Яшчэ каго-небудзь хочацца выдаць? — Даліла са злосці кінула відэлец. — Вы ж самі сябе ненавідзіце! Значыць, ёсць за што. І нават цяпер не хочаце сумленна пра ўсё распавесці. Пра свае «даўгі».

— Мы не ў царкве, вы — не святары, адпускаць грахі. Вы проста купка азлобленых юных істотаў, што не знайшлі месца ў сваім часе.

— А вы — баязлівец! — крыкнула Даліла, якую страшэнна злавала, што гэты чалавек змушае яе страчваць раўнавагу. — Вы баіцеся ўсіх! Цяжкое дзяцінства, комплексы, не перажыты да канца падлеткавы ўзрост... Зачынюся ў сваёй шкарлупіне і буду на ўсіх атрутай пырскаць, бо мяне ніхто не любіць. А хто любіць — няхай пакутуе, бо я ж ведаю, што ён не можа мяне любіць.

Скаловіч, дзіва, не ўгневаўся, нават павесялеў.

— Дык вы ж свой дакладны партрэт намалявалі, мадэмуазель.

Даліла трохі пачырванела.

— Мне не сорак гадоў, прынамсі. Я магу сабе дазволіць... І раз вы не хочаце проста быць шчырым — давайце мяняцца. Я таксама шмат пра што магу вам распавесці... Пра ваш час.

— Што з Нічыпаровічам? — хутка прамовіў хімік.

— Ён застрэліўся, — без эмоцый паведаміла Даліла. — А вось Антаніна...

І таямніча змоўкла.

Шклянка ў руцэ прафесара ўздрыгнула, нібыта гарбата ў ёй раптоўна ўскіпела, і прафесар акуратна паставіў яе на стол, накрыты белым ільняным абрусам з жоўтымі слядамі ад талерак і кубкаў. Голас па-ранейшаму гучаў роўна.

— Я ведаю лёс сваёй лабаранткі.

Даліла напружылася, як кобра перад скачком на ахвяру.

— Вы не ведаеце праўды. Таму... вы распавядаеце мне, чаму вас усе называлі здраднікам, чаму вы дазвалялі вырабляць з сабой такое, а я вам — пра Антаніну.

Рэзкі твар Скаловіча, здавалася, яшчэ больш збялеў — хаця здавалася, што гэта немагчыма.

— Добра... Даставайце свае прылады для запісу.

І Даліла паклала на стол, не хаваючыся, дыктафон.

— Толькі спавядайцеся, будзьце ласкавы, лежачы. Мне на вас нават нашатырнага спірту шкада.

І Скаловіч распавёў...

«Як я вам ужо казаў, калі пазнаёміўся з Сонечкай і Сяргеем, мне было шаснаццаць. Я не хацеў вяртацца ў балаган. За апошні клас здаў экстэрнам. Бабуля прапаноўвала ўладкаваць мяне на пошту. Але я марыў пра

навуку. Падтрымліваў мяне ў гэтым і настаўнік па мянушцы Колба. Вечна буду ўдзячны гэтаму смешнаму кругленькаму пану. Ніколі не забудуся, як мы зачыняліся ў ягонай імправізаванай лабараторыі, абкладаліся апошнімі нумарамі навуковых часопісаў і спрабавалі нейкія доследы паўтарыць... А жонка Сымона Аляксандравіча, кругленькая, як і ён, энергічная кабета стукалася ў дзверы і крычала, каб зараз жа спынялі выраб дыму і смуроду — інакш яна хімічныя доследы сабе не ўяўляла. Сымон Аляксандравіч не быў надта адораным, але — энтузіязму ў яго хапала. Як ён ганарыўся тым, што я, ягоны вучань, абараніў дысертацыю, паехаў у Сарбону! Мне дасюль сорамна, што, калі я змушаны быў з'ехаць з Менска, не знайшоў у сабе сілы напісаць яму... Азваўся толькі праз шэсць гадоў. Затое, пакуль не пачалася вайна, па ягоных просьбах перасылаў яму столькі кніг і прыладаў для доследаў, нібыта для маленькага ўніверсітэта. Ён памёр ад іспанкі ў 1914-м, я не паспеў з ім сустрэцца...

Формулы сніліся мне па начах, сімвалы, нібыта ў нейкім вычварным танцы, мяняліся, вібрыравалі, спалучаліся... А што ў мяне яшчэ мелася? Сябры? Сярод равеснікаў? Вы што, здзекуецеся? Гэтыя маленькія пачвары, мэтай жыцця якіх было ператварыць жыццё сваіх бліжніх у пекла? Яны пакінулі мяне ў спакоі толькі тады, калі я навучыўся рабіць рэчывы, якія маглі выбухнуць у кішэні альбо прымусіць плакаць. Пайшла пагалоска, што я магу атруціць нават на адлегласці, і я нарэшце атрымаў права на самоту. Самае каштоўнае, што можа займець чалавек. Цішыня, самота... Тут, у вашым дамку, які, як я разумею, стаіць наводшыбе, усё роўна шумна — нешта грукоча, грае, верашчыць нават уночы. Баюся, вы не ведаеце, што такое цішыня. Дзіва што нервовыя і неадэкватныя.

Сонечка была вясёлай, як жаўранак. Не ведаю, ці зацікавіў бы я яе сам па сабе — няўклюдны маўклівы падлетак у чорным касцюмчыку, з якога даўно вырас, з вечнай кнігай пад пахай, прапахлы дымам рызыкоўных эксперыментаў. Відаць, трэба прызнаць лагічнае — яе зацікавілі менавіта мае эксперыменты і сувязь з Альбарутэніяй. Яе дом быў праз вуліцу, і яна магла назіраць, як я завіхаюся над колбамі ў флігелі.

А пра мае адносіны да Альбарутэніі ёй маглі сказаць крыкі бабулі: «Беларус ён, ці ж бачыце! Выгадаваўся між малпаў, паскуднік! Скаловічы — не мужыкі! Скаловічы — шляхта! Я табе пакажу — беларусы... Яшчэ слова скажаш на гэтай грубай гаворцы — пакіну без абеду».

Сонечку бабуля ненавідзела і баялася. Яна была «палітычная», нядобранадзейная. Высланая з Санкт-Пецярбурга да сваякоў за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. Бацька Сонечкі быў важным чыноўнікам Міністэрства ўнутраных спраў, таму абышлося высылкай у Менск.

Для мяне ўвага гэтай стройнай, як каласок, дзяўчыны з вясёлымі блакітнымі вачыма, каротка стрыжанымі пшанічнымі валасамі была — усё роўна як сляпому раптам далі пабачыць сонца. Я нават не мог асобна ўспомніць рысы ейнага твару — нос, здаецца, крыху прыўзняты... З рабацінкамі... Яна ўся была — ззянне ў маіх вачах.

Каб яна сказала мне скокнуць з вежы Пішчалаўскага замка — я скочыў бы, не вагаючыся, шчаслівы, што магу дагадзіць.

Потым Сонечка пазнаёміла мяне з Сяргеем. Хлопец, як я цяпер разумею, начытаўся Шылера і Байрана. Тэрарыстаў і рэвалюцыянераў згаданыя паэты спарадзілі болей, чым усе Марксы і Бакуніны. Сяргея можна назваць «прафесійным рэвалюцыянерам». Бабуля мая пра такіх чамусьці гаварыла «Ганарысты, як хутаранец». Ён быў дужы і прыгожы, з хвалістымі русымі валасамі, са смелым позіркам шэрых вачэй... Бог ты мой, я нават марыць не асмельваўся быць хоць трохі да яго падобным. І, вядома, куды мне было раўнаваць яго да Сонечкі — не раўнуе мурашка кветку да пчалы.

Потым я пазнаёміўся з астатнімі — бялявым сталёвавокім і сталёвасэрцым Крэчатам, чарнявым Навумам, які ў адрозненне ад іншых любіў жартаваць і добра спяваў... Гэта быў зусім іншы свет — і там маё «цёмнае» паходжанне, мая балаганная праца і пагарда месцічаў не былі заганай, а зусім наадварот. Мяне паважалі за тое, што меў такі сумны жыццёвы досвед і не зламаўся, што знайшоў сябе ў навуцы, што зарабляю грошы сам, уласнай працай, у адрозненне ад «эксплуататараў»... Шанавалі маю апантанасць хіміяй і

любоў да самоты... А для мяне ўсе яны былі героямі. Сонечка і Сяргей любілі прыходзіць да мяне ў флігель, у якім я зладзіў лабараторыю і дзе, фактычна, жыў. Яны сядзелі на старой канапе, накрытай аблезлай мядзведжай скурай, і, пакуль я абмазваў шэрай смярдзючай жыжай дроцікі, выrabляючы бенгальскія агні, распавядалі пра новыя акцыі сацыялрэвалюцыянераў, маёўкі і страйкі, абмяркоўвалі Гегеля і Феербаха, Энгельса і Маркса, Бакуніна і Шпенглера... Зачытвалі «Нашу Ніву». Гэтая газета была голасам эпохі. Змест яе ведаеце? Трохі? Ну... Я калісьці мог запамінаць тэкст дзясяткамі старонак. Амаль як Жульен Сарэль, герой рамана «Чырвонае і чорнае», які меў памяць як у генія альбо ідыёта. Не прэтэндую цалкам ні на першае, ні на другое, але і зараз магу працытаваць...

«Па ўсім Палессі ідзе даўно ўжо агітацыя перад выбарамі на дэпутатоў у Думу ад Мінскай губерні. Агітуюць мінскіе «истинно-русские» людзі (чорносоценцы)... Кажуць, што найгоршыя ворагі народные гэта тые, хто дабіваецца аўтономіі».

Што? Падобна на ваш час? Віншую...

«Пад восень гэтага году ў мястэчка Раманава прыходзіў нейкі соцыяліст. Як толькі людзі пачалі варочацца з царквы, ён узлез на нейкі слончык і пачаў гаварыць аб усіх крыўдзіцелях працуючаго народу. Мужыкі ўпадабалі, што гаварыў той чалавек, пачалі слухаць яго і нават вельмі ахвотна бралі ад яго нейкія пісулькі. Ураднік, шпаркі гэткі, хацеў зразу арыштаваць сацыяліста, але не, не ўдалося: мужыкі не далі, ды яшчэ нават, кажуць, за каўнер ураднiку наклалі»...

«У Смаленску невядомы чалавек, спаткаўшы князя Урусава пры дзвярах шляхоцкага клюбу, напроціў саду, у якім шпацэровала багата людзей, пальнуў у яго тры разы з рэвольверу. Князь аступіўся і ўпаў, тым часом той, хто страляў, уцёк».

Вось такія тыповыя навіны...

Краіна была цяжарная смерцю.

А мае новыя сябры былі забойцамі.

Я гэта разумеў, і мне гэта страшэнна падабалася.

Яны прынеслі мне належныя хімікаты. І я рабіў, што прасілі. Мая першая бомба выглядала не вельмі прывабна — замест круглага футаралу Сяргей дастаў нешта падобнае да чыгуннай біклагі. Потым былі больш дасканалыя пасудзіны для смертаносных джынаў. Я ўсяго зрабіў іх дзевяць. Дзясятую не лічу.

Тое, што я мог ездзіць з балаганам па месцах і мястэчках, таксама падавалася вельмі карысным для арганізацыі. І я нават згадзіўся вярнуцца на лета да бацькоў і побач з чысткай клетак і ўсталяваннем дэкарацый перадаваў патрэбным людзям забароненую літаратуру, зброю, выбуховыя рэчывы. Цырк — увогуле ідэальнае месца для кантрабанды. Хто прыме ўсур'ёз «глумцоў ды блазнаў»? Сярод фальшывых шпаг і пісталетаў працей схаваць сапраўдныя. Хаця і трасуць цыркачоў па традыцыі ўсе паліцыі свету асабліва.

Норавы ў таварышаў маіх бацькоў былі простыя. Свайго Станьчыка ў балагане не мелася... Памятаеце партрэт знакамітага блазна пры двары Жыгімонта Старога? Станьчык... Трагічны нервовы твар, усё разумеючыя вочы... Бедны Ёрык, карацей. А тут працавалі людзі, якія жылі ад грошай да грошай. Маленькіх, выпакутаваных грошай. Усе са смешнымі амбіцыямі: «Мы — артысты». Дрэсіроўшчык сцвярджаў, што ён лепшы дрэсіроўшчык у свеце, ліліпуты меркавалі сябе самымі ліліпутнымі... Насыпаць у пудру ворагу нягашанай вапны лічылася дасціпным жартам. Адзін з клоўнаў з гэтай прычыны хадзіў аднавокім — праўда, ад гэтага ягоная перакрыўленая фізіяномія здавалася яшчэ смяшнейшай, а значыць, калецтва было на карысць.

Цяпер мне было лягчэй пераносіць здзекі «балаганаўцаў» — я быў таемным рыцарам свабоды.

Калі я вярнуўся да бабулі, Сонечка прынесла мне радасную вестку. Мяне возьмуць «на справу».

За год да таго адбыўся замах на генерала Курлова. Думаю, і вы ведаеце пра тую ганебную гісторыю — Курлоў загадаў расстраляць мітынг на прывакзальнай плошчы, удзельнікі якога патрабавалі вызвалення палітычных вязняў. Сто чалавек загінула. Іван Пуліхаў узяўся здзейсніць прысуд кату, вычакаў яго ля Свята-Петра-Паўлаўскай царквы, але бомба

не разарвалася. Тэрарыст спакойна сышоў бы, каб не сямейка Старовых — матка і дзве дачкі. Яны ўчапіліся ў злачынцу, усчалі крык... На затрыманне кінуўся паліцмайстар Нораў, але ў яго стрэліла таварышка Пуліхава — Аляксандра Ізмайловіч. Дачка генерала, які служыў на Далёкім Усходзе. З эпохі ў эпоху распешчаныя дзеці «сталпоў» рэжыму пачынаюць апантана, нічога не баючыся, змагацца супраць гэтага рэжыму — ім жа не прышчапілі з маленства памяркоўнасць ды ціхамірнасць, а ведання пра «цёмны бок месяца» ў іх куды больш, чым у «дзяцей меднага саслоўя». І адчування абароненасці куды болей.

Івана павесілі, і цела ягонае тры дні вісела на браме Пішчалаўскага замка. Аляксандру саслалі ў Сібір. Вось мае сябры і абавязаліся адпомсціць за іх. Курлоў на той час сышоў з пасады і з'ехаў — з рэпутацыяй крывавага дыктатара. А вось Нораў і сям'я Старовых мусілі быць пакараныя.

Мне ўпершыню давялося думаць не пра рэвалюцыйную барацьбу ўвогуле, не пра вартых смерці катаў увогуле, а пра канкрэтных асобаў, якія з маёй дапамогай будуць забітыя. Дагэтуль мне ніколі не паведамлялі, дзе зробяць пякельную справу мае машыны смерці. І калі я чытаў пра тэрарыстычныя «акцыі», сэрца сціскалася ад салодкага жаху, падобнага да гонару: гэта, магчыма, зрабіў я. Я небяспечны. Я — таемны ўладар над жыццямі. Суддзя паскуднага гэтага чалавецтва. Цяпер мне належала зірнуць ахвярам у твар. Ну, паліцмайстар — гэта зразумела... Чалавек, які апранае на сябе мундзір, тым прымае на сябе функцыю адказваць за мундзір — забіць альбо быць забітым. А вось Старовы... Тры кабеты... Прычым дзве — зусім маладыя. Дзяўчаты.

Так, яны зрабілі жахлівае... Калі глядзець з аднаго боку барыкады. Успомніце Шарлоту Кардэ, якая забіла нажом Марата. Ён сядзеў у ванне — хвароба скуры, невыносны сверб. На тую самую пошасць хварэў рымскі дыктатар Сула, іншыя тыраны... Шарлота прыйшла, як быццам просьбітка.

Адны яе кляймілі, як падступную забойцу... Але іншыя — лічылі гераіняй. Прыгожая дзяўчына, якая ахвяруе сабою, каб пакараць ката, выратаваць тысячы жыццяў, даць волю Айчыне... Так, як яна разумела. З аднаго боку — манархістка

Кардэ, з другога — нарадаволка Соф'я Пяроўская. Чалавек, які здольны мысліць, убачыць гэтую люстранасць.

Таму тых, хто здольны мысліць, забіваюць у першую чаргу.

Ну, уявіце... Тры жанчыны бачаць, як малады чалавек кідае бомбу, назірае за панікай, пагардліва ўсміхаецца і сыходзіць. Забойца, які можа забіць яшчэ. Як расцаніць, што яны кінуліся яго затрымліваць? Ведаючы, што ён можа быць узброены, што могуць загінуць? Таксама ж смелы ўчынак?

Я быў супраць таго, каб забіваць Старовых. Гэта не стасавалася да вобразу высакароднага змагара — карбанарыя, Авадня, Карла Маора, Андрэя Кожухава... У вас чытаюць яшчэ кнігу Сцепняка-Краўчынскага пра нарадавольца Андрэя Кожухава? А-а, у маці ёсць у шафе? Значыць, зноў пераацэнка каштоўнасцяў пакаленняў...

Я даказваў сваё вельмі горача. І ўрэшце мяне запэўнілі, што забойства не будзе. Старовых проста трэба напалохаць — так, каб былі папярэджаныя ўсе, хто захоча ў будучым стаць на шляху рэвалюцыянера.

Бомбу належала ўзарваць пад іх вокнамі, падгадаўшы, каб усе былі дома. Я мусіў зрабіць гэтую бомбу і высачыць кабетаў. Сонечка кіне кошык са смяротным снарадам пад акно — і ўсё. А Норава тым часам пакараюць іншыя. Хто — мне не сказалі. Я здагадваўся, што ў той групе будзе Крэчат. Усё здарыцца на ўгодкі смерці Пуліхава.

Дні разбіваліся, як дажджынкі аб вечка труны. Я працаваў, як апантаны... Сачыў за Старовымі... Сонечка была да мяне неверагодна ласкавай. У ноч напярэдадні нашай акцыі яна нават пацалавала мяне на развітанне. У левую шчаку... Лёгка і хутка, як птушка... Ніколі не забуду гэты момант. Яе брунатную сукенку ў вузкую сінюю палоску, з шэрагам дробных гузікаў пад горла, чорную шапачку на стрыжаных пшанічных валасах, крыху прыўзняты носік — і выраз вечнай дзёрзкай цікавасці на твары. Нібыта яна пыталася ў свету: як жа гэта? Чаму так робіцца?

Яна сышла... А я ўсё не мог супакоіцца. Сну не было і ў адным воку. Я ўспамінаў, як пільнаваў злачыннае сямейства ля

Кацярынінскай царквы. Як бачыў іх на службе. Старэйшая, таўставатая, як на мой густ, увесь час стаяла, апусціўшы вочы і трохі пахіліўшы галаву ў карункавым капялюшыку да левага пляча — мне здавалася, што ў ейным смірэнні я ўгледжваю нешта ненатуральнае. Мажная маці, наадварот, галаву трымала прама, нават паклоны біла з адчуваннем уласнай годнасці... І пагрозна паглядала на малодшую, якая крадма перазіралася з нейкім фацэтам у вайсковай форме.

Я ведаў, што малодшая любіць манпансье — рознакаляровыя круглыя карамелькі. Часта купляе іх у аднаго і таго ж афені-карабейніка. Што старэйшая наведвае мадыстку і таемна скуплівае паштоўкі з партрэтамі артыстаў МХАТа, асаблівую перавагу аддаючы асобе Качалава. А да мадам Старовай, шаноўнай удавы, прыходзяць гэткія ж, як і яна, дамы — урыўкі іхніх гутарак, якія мне ўдавалася падслухаць праз адчыненае акно, можна было друкаваць у газеце «Славянскі сабор». Людзі сапсаваліся, маралі няма, моладзь... Якая моладзь — напісана яшчэ чатыры тысячы гадоў таму ў Фіванскай пірамідзе. Выказванне тамтэйшага жыхара слова ў слова супадала з меркаваннем мадам Старовай. З такой разбэшчанай моладдзю — ніякай будучыні ў няшчаснай старажытнаегіпецкай (рускай праваслаўнай) краіны.

Дакладна такія кампаніі з такімі ж размовамі збіраліся ў маёй бабулі Леакадзіі. Толькі кола іх было трохі «ніжэйшае», і замест срэбнага на стале красаваўся парцалянавы імбрычак.

Я стаяў пад таполямі, насупраць дома Старовых на Францысканскай. Раптам паўз мяне прабеглі двое хлапчукоў з крыкамі:

— Забілі! Забілі!

Маё сэрца абарвалася. Я нават пераадолеў сваю сарамяжнасць і дагнаў хлапчукоў.

— Каго забілі? Хто?

Капейка змусіла жэўжыкаў распавесці падрабязна. Пачутае — няхай перабольшанае, дзе ж дзеці ад гэтага ўтрымаюцца? — кінула мяне ў жах. Нораў цэлы, ад бомбы — маёй бомбы! — загінулі дзве жанчыны, простыя жанчыны, што прыехалі на Ніжні рынак з вёскі, і стары лірнік. Нораў

спыніўся ля яго, каб накрычаць — што за мужыцкі блёкат, што за антырасейскія песні!

Аднаго з хлопчыкаў асабліва ўразіла, што ліра, якая адляцела далёка ўбок, яшчэ некалькі імгненняў працягвала граць сама па сабе.

Магчыма, яму гэта проста падалося.

Я пабег да Сонечкі. Быццам маё прышэсце магло нешта змяніць. Горад поўніўся крыкамі і чуткамі. Вось яе дом... Але я не наважваўся зайсці. Стаяў на ганку, як слуп... І пачуў размову. Гаварыў Сяргей.

— А твой хімік не перашкодзіць? Зялёны...

— Ды перастань, я магу з ім рабіць усё, што хачу, — гэта быў вясёлы голас Сонечкі. — Ён такі брыдкі і дзікі, што наўрад хто з ім яшчэ размаўляе. Для рэвалюцыі карысна, калі ў чалавека няма іншых прыхільнасцяў, акрым барацьбы, і іншых таварышаў. Урэшце, ты ж таксама быў зялёным і баяўся крыві. Калісьці трэба пачынаць. Пасля першай крыві дарогі назад няма.

— Твая праўда... — пагадзіўся Сяргей. — Толькі цяпер не прамахніся. Проста ў акно... Чуеш? Каб усіх траіх, паскуд... У пяць яны садзяцца піць гарбату. Англічан пераймаюць. Зялёны дакладна высачыў.

— Не прамахнуся. Калі што — і ты з рэвальвера не прамахніся. Крэчат вунь прамазаў... Траіх забіў — а таго, каго патрэбна, не. Мазіла.

Яны яшчэ нешта гаварылі — як падмануць шпегаў, што сочаць за хатай, як забяспечыць ад’езд, але я збег з ганка і пакіраваўся... Куды? Здаецца, у свой флігель. Свет расплываўся ў маіх вачах, нібыта мяне зноў забылі дастаць з жалезнага чэрава мадам Таро. Мне бачыліся знаёмыя і незнаёмыя мне людзі, якіх, магчыма, забілі мае бомбы... І сярод іх пакуль яшчэ жывыя Старовы — з акрываўленымі тварамі, ляжаць, як паламаныя лялькі... Божа мой! Я спрабаваў зачапіцца за выратавальную думку. Сонечка, Сяргей... А можа, яны, мае адзіныя сябры на гэтым свеце, маюць рацыю, можа, яны ведаюць нейкую вельмі важную, абсалютова пераканаўчую праўду, якую я пакуль яшчэ не ўсвядоміў па

сваёй дурноце? Але як, як мне да гэтай праўды хоць крыху дапяць, каб не было так жудасна, так моташна на душы?

Нехта схапіў мяне за плечы.

— Што ты зноў утварыў, нягоднік? Не мані — я ж бачу, што нешта ўтварыў! Кажы зараз жа, вылюдак, можа, Гасподзь па літасці тваёй цябе ўратуе!

Гэта была Леакадзія Пятроўна Скаловіч, мая бабуля. І я, захлынаючыся ад сухой роспачы — плакаць даўно адвучыўся, — пачаў расказваць... Потым былі нейкія двое ў цывільным, з вайсковай выпраўкай... Мне загадалі дастаць з падрыхтаванай для Старовых бомбы выбуховае рэчыва і перадаць яе тэрарыстам.

Я амаль не памятаю, як прынёс кошык з кветкамі, пад якімі ляжала бомба, пад таполі на Францысканскай. Паставіў... І пайшоў, не азіраючыся. Я не бачыў, як Сонечка ўзяла гэты кошык, як кінула бескарысную, пазбаўленую мною місіі смерці бомбу ў акно... Як Сяргей адстрэльваўся...

Іх узялі жывымі. Доўга дапытвалі. Потым — павесілі. Не дапамагло, што Сонечка — дачка важнага пецярбургскага чыноўніка. Іх смерць адбылася неяк непрыкметна для грамады — надта часта тады гучалі выбухі, надта часта гайдалася пятля. Дый забойства дзвюх сялянак і жабрака — не асабліва высакародная нагода падымаць дэмакратычны шум.

Дасюль не магу зразумець, чаму мае сябры так ставіліся да чужых жыццяў. Можа, як бываюць асобы, пазбаўленыя музычнага слыху, нараджаюцца людзі, пазбаўленыя літасці, боязі крыві і чужога болю? А хутчэй за ўсё, былі яны проста жорсткімі дзецьмі, і ўсе гэтыя акцыі, бомбы, разадраныя на часткі целы ўспрымаліся вялікай гульнёй. Зусім, дарэчы, як і ў выпадку з вамі.

Але і мне не было чым ганарыцца. Я ведаў, што заслугоўваю пагарды і нянавісці. І больш нічога. Мяне ратавала толькі тое, што тады я знаходзіўся ў нейкім тумане, нібыта чалавек са зламанай нагой, які, як самнамбула, даходзіць дадому і толькі там падае на падлогу ад болю.

Мяне заахвоцілі за дапамогу ў раскрыцці небяспечнай тэрарыстычнай групы — я атрымаў магчымасць паступіць

на хімічнае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта Юр'еўскага ўніверсітэта.

Мара збылася. Але цяпер яна была толькі сухой кветкай на сукенцы нябожчыцы.

Я жыў дзеля працы. Нібыта спадзяваўся сваімі адкрыццямі апраўдацца за зробленае. І... ведаў, што болей ніколі нікога ў сваім жыцці не прадам і не заб'ю. Потым... Шмат чаго было. Былі хвіліны слабасці. Памятаю, аднойчы на другім курсе страшэнна закарцела далучыцца да свету ценяў. Да аднакурсніка прыехала сястра, гімназістачка, і, пакуль круцілася ў гасцёўні інтэрната, дзе я прыладкаваўся на зручнай канапе з чарговай кнігай, пачала пасылаць мне доўгія пагляды. Напэўна, дасюль крыўдуе, што я затросся, як пры з'яўленні прывіду, і ўцёк, нават забыўшыся на здабыты з цяжкасцю ў публічнай бібліятэцы том. А проста неразумнае дзяўчо страшэнна нагадвала Сонечку.

Я не Вертэр. Я ўсяго толькі сын балаганнага факіра. На хуткую руку змяшаў сімпатычнае расчынне, якое пры судакрананні з агнём мусіла даць прыстойны, але зусім невялікага радыусу, выбух, плюс атрутны газ з малым часам распаду. Дастаткова было знайсці цёмны пусты кут...

І я, паколькі рамантыка ў мазгах яшчэ не перагарэла, забраўся ва ўніверсітэцкі археалагічны музей, туды, дзе грувасціліся каменныя саркафагі егіпецкіх фараонаў. Тут і днём нікога ніколі не было — а апоўначы, як я спадзяваўся, нават вартаўнік не дачуецца.

Затое — якое атачэнне! Фараоны, саркафагі... Што труп з адарванай галавой не прыкрасяць нават такія дэкарацыі — я неяк не задумваўся. Так спяшаўся... Ажно кроў у вушах шумела... І не пачуў крокаў выкладчыка — ён нядаўна атрымаў месца дацэнта на кафедры гісторыі старажытнасці і выяўляўся ў сваёй навуцы гэткім жа энтузіястам, як я ў сваёй...

Так я пазнаёміўся з Люцыянам Нічыпаровічам.

Я доўга даводзіў яму, што такога, як я, не варта ратаваць і нават гаварыць са мной прыстойнаму чалавеку гідка... У доказ распавёў (яму першаму і адзінаму), якім чынам трапіў сюды на вучобу. Пра Сонечку і Сяргея...

Спадар Люцыян знайшоў словы, якімі прывязаў мяне да жыцця. Нагадаў пра Бога, веды, Альбарутэнію... Ён назаўсёды застаўся маім лепшым сябрам.

Калі я атрымаў праз яго запрашэнне паўдзельнічаць у стварэнні Беларускага ўніверсітэта, не вагаўся ні хвілі. У мяне быў доўг перад гэтай зямлёй. І я прыехаў.

Не трэба думаць, што тыя гады — толькі смерць ды подласць. Я ехаў з Парыжа ў краіну, дзе перамагла вялікая рэвалюцыя. Дзе будуецца Альбарутэнія. І не расчараваўся... Так, была беднасць. Прадуктовыя карткі. Пайкі... Чэргі за селядцамі... Але і вечарыны паэзіі, на якіх збіраюцца тысячы людзей і ловяць кожнае слова з вуснаў маладога беларускага генія. Дзень авіяцыі ў 1924-м, падчас якога ўзляцеў першы ў свеце самалёт з надпісамі на беларускай мове... Інстытуты, музеі, часопісы — у якіх усё па-беларуску... Спаборніцтвы па веласпорту... Выступленні Маякоўскага... Прафсаюзны з'езд хімікаў, на якім усталяваны зносіны з калегамі з Чэхіі... Памятаю, як у кастрычніку 1925 года ў Менск пешкі прыйшоў знакаміты французскі падарожнік Эме Тарал, які нацэліўся абысці вакол свету. Мяне папрасілі быць у дэлегацыі, якая сустракала яго... Мы напаілі француза, вядомага цвярозніка і вегетарыянца, старадарожскім першаком так, што ён палез цалавацца з гіпсавым помнікам Гіршу Лекерту ў Аляксандраўскім скверы. А як даставаліся білеты на першы беларускі фільм «Лясная быль» у кінатэатры «Культура», у будынку былой харальнай сінагогі! Памятаю пуск першага трамвая... Вагон, прыкрашаны кветкамі, з раніцы да ночы вазіў усіх бясплатна... Не, было шмат вясёлага, цудоўнага... А колькі талентаў з'явілася! Наш народ — надзвычай таленавіты. Колькі яго ні выкошвай... Я праводзіў семінары, на якіх прапаноўваў студэнтам пафантазіраваць, што ў нашай галіне хіміі будзе вынайдзена да канца стагоддзя... Вы б гэта чулі! Якія ўсчыналіся спрэчкі, якія ўзнікалі ідэі ў гэтых учарашніх вясковых хлапчукоў ды дзяўчатак! Упэўнены, у вашым часе да ўсіх іхніх прапаноў яшчэ не дадумаліся. І нават тады, калі пачаліся арышты, для многіх людзей заставалася досыць месца для радасці і веры ў светлую будучыню.

Але для некаторых гэтага месца не ставала.

У 1932 годзе сюды прызначылі камісарам Крэчата. Ён пазнаў мяне.

Ні ў чым яго не вінавачу. Я не заслужыў лёгкай смерці. А ён быў гатовы мне яе падарыць. Але, відаць, Крэчат хацеў, каб я паводзіўся падчас допыту трохі іначай. Прасіўся, напрыклад. Выяўляў сваю нягодніцкую сутнасць. Прызнаўся, як патрабавалі, у сваёй шпіёнскай дзейнасці на карысць Францыі, Англіі і Польшчы. Выкрыў змову іншых буржуазных шпіёнаў-прафесараў Беларускага ўніверсітэта... Абмаляваў мяркуемыя дыверсіі... Проста ён не ведаў, што для мяне смерць і фізічны боль — гэта такая дробязь у параўнанні з іншым... З вечным пакутлівым адчуваннем віны, якое ледзь не з'ела мяне знутры. А якая радасць забіць чалавека, які ўпэўнены, што гэта заслужыў, і нават палёгку ў смерці бачыць? Мадэст Касіянаў, таксама новы «прызначэнец», што прыўнёс у працу НКУС асаблівыя метады, прапанаваў больш дасканалае пакаранне для здрадніка. І пасля чарговага допыту, які, па маіх прыблізных падліках, доўжыўся пяць сутак, «перакупіў» мяне з крэчатавых кіпцюроў для сваёй парафіі.

Мой папярэднік на ролі «глабальнага здрадніка» павесіўся. Другога задушыў адзін з вязняў. Двое іншых зламаліся, пачалі сапраўды ўсіх здаваць. І зрабіліся непрыдатнымі для эксперыментаў. Пра гэта мне сам жа Касіянаў і распавёў, калі мяне першы раз запхнулі ў ягоны «Форд».

Таварыш Касіянаў — чалавек недурны. Гісторыю добра ведае. Напрыклад, дэвіз інквізітараў: «Прымусь іх увайсці». Гэта значыць грэшнікаў — у Царства Нябеснае. Думаеце, для чаго ерэтыкоў палілі? Каб пакараць? Не. Лічылася, што пакутлівая смерць можа ачысціць бедныя грэшныя душы і даць ім магчымасць увайсці ў «Горад нябесны». Вось і Касіянаў браўся давесці, што, па-першае, любога, самага спакутаванага, вязня можна прымусіць шчыра палюбіць свайго ката, падсунуўшы яму іншы аб'ект для нянавісці. А па-другое, што любога, самага зацятага, ворага можна прымусіць пайсці на службу «рэвалюцыі», дакладней, карным органам. Дастаткова, каб усе паверылі, што ён ужо

шчыра супрацоўнічае. Каб ён напачатку звык да пагарды. А пасля і ганарыцца пачне. А яшчэ карысна, калі вязню даюць магчымасць выступіць у ролі ката. Для гэтага «глабальны здраднік» у якасці «пасіўнага аб'екта» падыходзіць як мага лепей.

Так здарылася, што падчас першага блізкага знаёмства з Касіянавым у суседнім кабінеце знаходзіўся Нічыпаровіч. Касіянаў выклікаў яго дзеля гістарычнай кансультацыі — якраз дзейнасць інквізіцыі яго і цікавіла. Прэцэдэнты ў Вялікім Княстве Літоўскім. Ён жа, навалач, навуковую працу на падставе сваіх доследаў піша. І выпадкова акадэмік пачуў нашу з Касіянавым... трохі аднабаковую размову. І, падобна, застаўся ўражаны. Потым, калі мяне выпусцілі, Нічыпаровіч даў слова ніколі нікому не расказваць пра тое, што даведаўся. Нянавісць я пераж ыву. А вось пагардлівую шкадобу... Ды лепей здохнуць.

Ну і як, вы задаволены маім расповедам? Напэўна, атрымалі вялікую насалоду? Вам жа толькі гадасці і падабаюцца. Нервы казычуць».

Даліла ў адказ прамаўчала.

**ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ-5**

Жоўтае лісце на чорным граніце магіл —
Быццам для смерці ляжаць залатыя манеты.
Неба крумкач атрасае з натомленых крыл
Проста на штучныя кветкі каля пастамента.
Як прабачэння прасіць у таго, хто заснуў,
Ці — верагодней — прачнуўся ад нашае явы?
Лёс разбіваецца, як аб глухую сцяну,
Аб міласэрнасць і штучныя кветкі дзяржавы.
Толькі рука твая — цёплая і пад дажджом —
Мне не дае саступіць са сцяжынкі да згубы.
Ходзім па могілках, быццам прыглядваем дом.
Толькі лістотай яго не аплоціш, мой любы.

Жоўтае лісце падала на магілы гэтак ціха, нібыта баялася кагосьці тут пабудзіць.

Але нас наўрад маглі б напалохаць нябожчыкі.

Тым болей, адзін з іх ішоў разам з намі.

Спадар Валяр'ян у сваім доўгім чорным паліто (якое насамрэч, як выявілася, належала аднаму са следчых) на фоне крыжоў, мокрых чорных ствалоў дрэў і золата лістоты нагадваў не кажана, а крумкача — яшчэ нядаўна іх тут было, як пчол ля вулля. Пякельных пчол Тартарава вулля.

Дачка Далілы Віка весела наразала кругі па сцежках, а дзе і па закінутых магілах, раскідваючы ножкамі ў чырвоных боціках кучы лістоты — ганяла «шуршыкаў».

Дзеці не баяцца нябожчыкаў пабудзіць. А што малым? Яны і так жывуць у свеце міфаў і свята вераць, што іх лялькі па-за вачыма сваіх гаспадароў рухаюцца, размаўляюць, жывуць сваім жыццём... Дарослы пры дапушчэнні адной думкі пра такое не заснуў бы ад жаху.

Час ад часу Віка падбягала да дзядзькі ў чорным паліто, каб задаць вельмі сур'ёзныя (гены сказваюцца!) пытанні. І пачуць ад дзядзькі таксама вельмі сур'ёзныя, паважлівыя адказы...

Даліла, якая ішла наперадзе ўсіх нас, на самоце, незадаволена азіралася.

А вось Макс шпацыраваў цалкам задаволены — нядаўна Скаловіч вычытаў пару ягоных артыкулаў і дадаў гэткія каларытныя дэталі (вядома, бязлітасна раскрытыкаваўшы прымітыўны стыль, ненавуковы падыход і малаабазнанасць аўтара), што публікацыя абяцала выбухнуць маленькай сенсацыяй.

У мяне таксама атрымалася выгода ад з'яўлення госця — учора ён дапамог мне зрабіць кантрольную па праклятым супрамаце, над якой я раўла ўжо два дні... Цікава, як прафесар мяняўся, варта было ягоны розум «загрузіць» складанай задачай, — ніякага скепсісу-пацвельвання... Можна было падумаць, што ён па-сапраўднаму жыве толькі ў такія моманты... Сур'ёзны, уважлівы... Хоць наўрад калі раней эпюры крэсліў — але падручнік мой пагартаў, падумаў — і рашыў... Мне нават уявілася, як добра было б, каб гэта быў мой бацька, да якога заўсёды можна звярнуцца... Мой жа свя-

домы татка, інжынер і фалькларыст-аматар, на мае просьбы толькі раздражняецца... Гультайка! Няздара! Канфармістка!

Я нават прывалакла Скаловічу пачытаць — пад абяцанне нікому не расказваць — свае першыя празаічныя спробы...

Раскрытыкаваў, вядома.

Але я чамусьці не расплакалася — як у мяне ў звычаі ад найменшых крытычных заўвагаў. Якім чынам Скаловічу ўдалося «размазаць» мае сціплыя творчыя набыткі, як цеста на патэльні, і пры гэтым змусіць паверыць ва ўласныя сілы?

Ва ўсялякім выпадку, я сустракала кастрычніцкую раніцу задуменная і ўся такая натхнёная, перабіраючы ў стрыжанай галаве магчымыя сюжэты.

Увогуле, гэтая нядзельная раніца, восень, ціша ўлагодзілі ўсіх. Нават Генусь і Едрусь перасталі сварыцца... Чаго яны сварацца? Па першае, тэмпераменты розныя, па-другое, Далілу на ўзроўні падсвядомасці (а можа, і свядомасці) дзеляць, па-трэцяе, у Едруся самі ўжо ведаеце, якая мамачка, толькі на дзень наркаманіі такую віншаваць, а Генусь сваёй ледзь не кожную гадзіну тэлефануе. Суцешвае, падтрымлівае маральна. Вось цяпер блукае па могілках, але кажа, што звоніць з бібліятэкі. Каб не засмучаць.

Калі б мой дваццаціпяцігадовы сын, не студэнт, заўважце, не аспірант, сказаў мне, што тэлефануе з бібліятэкі, я б занепакоілася. Ці ўсё ў парадку ў маладога чалавека з асабістым жыццём?

Але Генусева мамачка, сціплая, хваравітая, трохі запалоханая медсястра, да такога тлумачэння звыкла, як да сынавых шакаладак: «Ну што ты трацішся на мяне, сынок...»

Можа, Генусь таму так лёгка і расстаецца з закаханымі дзяўчаткамі? «Мамкін сынок»...

А я ішла пад руку з госцем з мінулага.

Не падумайце нічога. Проста падчас сваіх вандровак у тэмпе электравеніка па бетонных брукаванках горада я падрала ўшчэнт красоўкі, і давялося выпараць са скрыні пад канапай школьныя боты. На абцасах у дзесяць сантыметраў! Быў у мяне такі «бзік»: вырашыла, што я маленькага росту. Не дацягваю да подыумнага стандарту. Не мазгі былі, а зацірка без солі.

А хадзіць на гэтых хадулях так і не навучылася. А тут вузкія сцежкі, гнілое лісце, слізка... Скаловіч падтрымаў мяне падчас падзення, а потым моўчкі падставіў руку. За хлопцаў нашых не патрымаешся — што за пяшчоты! У ЗША яшчэ ў 1985 годзе выдадзены «Feminist Dictionary», фемiнiстычны тлумачальны слоўнік, у якім гаворыцца: «Галантнасць — зброя ўціску, якая робіць жанчыну няздольнай вырашаць жыццёвыя праблемы без штодзённай дапамогі мужчыны».

Вось і давялося дыбаць, нібыта павятовай паненцы са сваім старасвецкім дзядзечкам. Вой, і ўпячэ мне пасля за гэтую ганебную слабасць Даліла...

Каб Едрусь выказаў незадаволенасць — я была б шчаслівая.

Але яму што я пад руку са Скаловічам, што я ў абдоймах якога-небудзь заезджага алігарха альбо стрыптыз-хлопчыка Тарзана, — так, гэта мая асабістая справа.

Мы амаль перасталі канспіраваць ад хіміка відарысы «светлай будучыні» — ён толькі пагадзіўся не шукаць энцыклапедый ды навуковай літаратуры. Ганарыста абвясціў, што не схільны да плагіяту. Тым болей будучыня не выклікала ў спадара асаблівага захаплення, наадварот: погляд на шэрыя шыхты «хрушчовак» ды «брэжневак» спарадзіў такую саркастычную ўсмешку, што мне проста закарцела насуперак уласным перакананням неяк абараніць звыклы ўрбаністычны саўковы пейзаж.

Залаты ліст павольна праляцеў проста перада мной, нібыта маленькі човен запрашаў у падарожжа, апусціўся на магільную пліту з чырвонага граніту з шэрымі пражылкамі... Тут адразу былі пахаваныя трое. Не, адна фотакартка адсутнічала, і пастаўленая толькі дата нараджэння. Ніякавата выглядае. Немаладыя муж і жонка, памерлі гадоў дзесяць назад, у адзін дзень, і побач месца для іх, відаць, пакуль жывой пяцідзесяцігадовай дачкі. Няўжо яна такая самотная, што падрыхтавала ўжо сабе магілу з бацькамі? А магіла — заціснутая між помнікамі XIX стагоддзя... Значыць, на гэтым месцы таксама было старое пахаванне. Жудасць якая — ляжаць над іншым нябожчыкам... Нібыта на верхнім ярусе турэмных нараў. Але, відаць, «гаспадыня» магілы над гэтым

не задумвалася. Унутры агароджы з пафарбаванага ў чорны колер металу было прыбрана, у вазачцы — не з пластыкавай бутэлькі, як тут часта сустракаецца, а з белай парцаляны свяціліся вострымі юлёвымі промнямі астры.

— Дзіўна, але яшчэ дзесьці жывуць людзі, якія маглі б мяне памятаць, — задумна прамовіў Скаловіч. — Вось толькі наўрад хто з іх мяне памятае.

— Вам ад гэтага сумна? — не ў лад аптымістычна азваўся Макс.

Хімік скептычна пакрывіў вусны.

— Я хацеў, каб на мяне забыліся.

Даліла, якая, відаць, прыслухоўвалася да размовы, рэзка спынілася і азірнулася.

— Калі вы не лжаце, то ў вас не ўсё добра з псіхікай. Чалавек не можа жадаць, каб на яго забыліся нашчадкі.

— «Не можа» — слабы аргумент, — з'едліва пракаментаваў Скаловіч. Чым і наклікаў на сябе гнеўную водпаведзь.

— Гэта супярэчыць самаму галоўнаму інстынкту — самазахавання, — Даліла нават кулакі сціснула — відаць, усё назапашанае раздражненне на госця ўскіпела. — Дзеля чагосьці вы ж працавалі, разбіраліся ў сваіх іонах-пратонах? Ах, я здраднік... Ах, пакарайце мяне... Ах, я варты смерці... Колькі людзей, вашых сучаснікаў, цудоўных, добрых, шчырых і не вельмі, ляжыць на гэтых жа могілках безыменнымі, застрэленымі куляй у патыліцу, і іх сапраўды ніхто ніколі не ўспомніць. І калі іх расстрэльвалі — тут, між гэтымі ліпамі, уночы, крадма, як хворае быдла, — у іх не павінна было заставацца надзеі на памяць, помнікі, вянкі, удзячныя словы... Каты не давалі ім ні пробліска веры ў гэта. Але я ведаю — яны верылі. А вы проста... выкапнёвы мізантроп.

Я прыняла сваю руку з рукі Скаловіча і трохі адступіла ўбок, каб якая трэска гневу ў мяне не патрапіла, калі зараз пачнецца гнеўная сеча.

Хімік нібыта не заўважыў маёй ганебнай рэтырацыі і прамовіў надзіва спакойна:

— На безыменных магілах ахвяраў спаконвеку раслі гарады і храмы. Лозунг «Успомнім усіх» — гэта, вядома, прыгожа. Але гэта немагчыма. Пра гэта сведчыць элемен-

тарная логіка. Мільярды людзей... Мільярды клетак цела сусветнай цывілізацыі. Няхай кожная з іх непаўторная — што значаць іх імёны? Вы ведаеце хоць адно імя з тых, хто бараніў незалежнасць царства Урарту? А там былі героі-патрыёты. Толькі на Страшным Судзе кожны верне сваю індывідуальнасць. А для слабога чалавечага розуму — хоць бы сябе неяк ўратаваць ад гардыні. Вы ездзілі ў Чэхію, бачылі там знакамітую капліцу-костніцу? Усё ў ёй выкладзена з костак мніхаў. Агароджа, алтар, люстра... Кожны мніх ведаў, што пасля ягонай смерці цялесны футарал не будзе захоўвацца ў маўзалеі, і зямное імя згасне, як рэха нябеснага. Вам, спадарыня, страшна ўявіць, што вас не будзе ў зямным жыцці. Вы па маладосці гадоў сваіх проста не можаце гэтага ўявіць увогуле. І цвёрдай веры ў тое, што смерць — толькі пераход, брама, — у вас няма. А наконт маёй мізантропіі — заўважце, я і не рабіў спробы вам спадабацца. Мяне, уласна кажучы, вашае меркаванне пра маю сціплую асобу не кранае. А кранае мяне, што дзесьці ў гэтай зямлі, магчыма, утварылася пустэча, таму што там няма мяне. Маіх непаўторных клетак. З-за вашай інфантыльнай любові да радыкальных эксперыментаў над бліжнімі...

Голас прафесара падчас ягонай прамовы ўсё больш набіраў лекцыйную моц, і ўрэшце ўсе мы згрувасціліся купкай, як хмаркі, у лучнасці якіх выспявала бура. Нават маленькая Віка перастала раскідваць лісце і зацiхла, як змерзлая птушка.

Касцёл пазіраў на нас псеўдагатычнымі вачыма вокнаў, выцягнутых нібыта ў здзіўленні, — аркі, як зламаныя бровы.

— Пра мой варты жалю інтэлект і безадказнасць я ўжо наслухалася! — зялёныя вочы маёй сяброўкі ад гневу ледзь не палалі жоўтым агнём, як у сапраўднай кобры.

— Хто вам даў права гэтак размаўляць з Далілай? — выкрыкнуў Генусь на адрас хіміка. Я інстынктыўна падалася наперад, каб стаць паміж імі... Генусь нервовы, а Скаловіч, між іншым, яшчэ ледзь на нагах стаіць — толькі фіг у гэтым прызнаецца. Вось і зараз атрутным тонам працягвае выклікаць на сябе:

— Вы сур’ёзна лічыце, што гэтае права можа нехта даць?

Генусь і праўда быў тузануўся, нібыта каб замахнуцца...

— Ціха, ціха! — вылез наперад Макс. — Хто-хто, а гісторыкі лепей за іншых ведаюць, наколькі няпэўная штука памяць. Больш за ўсё, між іншым, ілгуць дакументы.

— Гэта як? — падала голас я, бо захавала школьніцкі піетэт да кожнай паперкі з пячаткай.

— А так... Вось трэба табе, скажам, зваліць з заняткаў, ты ж стопудова нешта выдумаеш — цётка захварэла, дзядзька з Кіева прыехаў... Напішаш жаласную заяву ў дэканат. А потым твае біёграфы пачнуць шукаць неіснуючую хворую цётку і дзядзьку з Кіева. Загадка паэтэсы Русланы Палынскай! А ўсе гэтыя паведамленні пра адстаўкі высокіх чынуш! Перапрацаваўся, саслаб здароўем, добраахвотна вырашыў, што на іншай пасадзе прынясе большую карысць дзяржаве... Ага, як жа... І ні ў водным дакуменце не напішуць проста — скраў, застуканы на распусце, абразіў яшчэ вышэйшага чынушу...

— Паслухай, але ж ёсць сведчанні сучаснікаў! — запярэчыў Генусь.

— Ага, а яшчэ дзённікі! — зыранізаваў Макс. — Чытаў Кафку? Няшчасны, усе яго тыранілі... Сям’я, кабеты, шэф на працы... А тут яшчэ антысеміты пражскія... Але некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што і ў дзяцінстве ягоным ніякіх жудасцяў не сустракалася, і бацькі любілі, і начальнік страхавой кампаніі шанаваў геніяльнага падначаленага — той пару гадзін на дзень папрацуе, месяц хварэе... А шэф яму дапамогу выплочвае. Сябар, Макс Брод, як хвосцік, ходзіць следам, расхвальвае, артыкулы піша, друкавацца дапамагае... А як з кабетамі абыходзіўся — таксама асобная размова. Эксперыменты ставіў: спакуса праз перапіску. Ды і пагромаў у ягоны час яшчэ не было.

— Ты хочаш сказаць, што ён шчаслівчык, які прыкідваўся, што пакутуе? — абурылася Даліла.

— Ды не, пакуты былі сапраўдныя... — пагадзіўся Макс. — Не кожны вытрымае. Бяссонне, страўнік ежу не прымае... Толькі прычыны ўсё-ткі больш унутраныя, чым знешнія. Геній бярэ на сябе пакуты ўсяго чалавецтва. Вось такі ён... выскачка.

— За тое мы такіх людзей і памятаем! — урачыста падрахункавала Даліла. — У Оскара Уайльда ёсць апавяданне пра салаўя і ружу... Салавей, каб дапамагчы паэту заваяваць каханую, сваёй крывёй афарбаваў белую ружу ў чырвоны колер, працягваючы спяваць, калі шып уваходзіў у грудзі... Красуня і чырвоную ружу забракавала, кветку стапталі ў бруд... Але смерць салаўя ніколі не бывае дарэмнай! Песні застаюцца!

Скаловіч, які са сваёй раздражняючай усіх без выключэння, акрым, можа, Вікі, усмешкай гэта слухаў, не прапусціў азвацца на пафас.

— Ну так, памятаеце вы... Вось тут, непадалёк, я бачу крыж са знаёмым прозвішчам. Вось ужо хто не шкадаваў сябе дзеля беларускай справы. Сапраўдны інтэлігент... Ягоная пецярбургская суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» і была для тутэйшых — як сонца. Без яе, можа, ні Купалы, ні Коласа не было б. «Вянок» Багдановіча выдаў на грошы Магдалены Радзівіл. А хто такі быў Багдановіч? Пакуль акадэмік Замоцін, запрошаны з Расіі, не адкрыў яго як вялікага паэта... Ды яшчэ Сяргей Палуян, таксама «зялёны» крытык-самагубца, ацаніў, дастаў Багдановічавы вершы з кошыка «Нашай Нівы»... У БНР чалавек, пахаваны тут, працаваў міністрам асветы. Напісаў першы падручнік па неарганічнай хіміі на беларускай мове. Пры Саветах стаў рэктарам педінстытута... У бальшавіках расчараваўся. Цяпер... дакладней, у маім часе — прафесар Варшаўскага ўніверсітэта. Аўтарытэт! І вось — сціплы крыжык з белчырвона-белай стужачкай...

— А ён, можа, і крыжа не заслужыў, — з выклікам прамовіў Генусь. — Падчас апошняй вайны... вы да яе не дажылі, — кінуў Скаловічу, — гэты чалавек пайшоў служыць акупантам. Для якіх беларусы — рабы, якія падлягалі большай часткай вынішчэнню. Людзей забіваюць сотнямі тысяч, вешаюць, спальваюць жыўцом, мораць голадам у канцэнтрацыйных лагерах... Жанчын, дзяцей, немаўлятаў... А гэты ў касцюмчыку горадам кіруе ды беларушчыну ратуе. Забілі яго партызаны... І правільна зрабілі.

— Чакай, не так усё проста! — запярэчыў Макс. — Наш прафесар — сведка... Як разабрацца, дзе праўда, калі ты ўнутры віру? Хто — здраднік, хто — герой, хто — сябра, хто — вораг? Вось бальшавікі... Зачышчалі тэрыторыі Украіны і Беларусі ад нацыянальнай інтэлігенцыі, каб гэтыя пагранічныя з Еўропай землі можна было спакойна дзяліць, каб не было народаў, а толькі насельніцтва. З паўтысячы беларускіх пісьменнікаў купка набярэцца ацалелых, і з тых прынамсі палова выжылі за кошт свайго стукацтва. «Кулакі» — у Сібіры. Гэта значыць, працавітыя, хоць троху ўмелыя людзі... А колькі іх проста «дзеля плана» забрана! Каб адрапартаваць, што вось столькі працэнтаў ворагаў «вычысцілі». Наняла самотная бабулька маладога суседа бульбу выкапаць — усё, «кулачка», мае батрака. Беларусізацыя зварочваецца. Нават граматыку скалечылі, каб бліжэй да расейскай мовы. Людзі вар'яцеюць ад страху. Калі начальнікам «органаў» у Менск прызначылі Барыса Бермана, ён загадаў следчым «зняць пальчаткі», і кожную ноч толькі ў сталіцы хапалі па сто чалавек... Вам, спадар Валяр'ян, гэта яшчэ давялося б спазнаць. А пачварны закон «пра каласкі» — за сарванае на калгасным полі зерне дзесяцігоддзі катаргі... У прынцыпе, нічога новага для сусветнай гісторыі. Гэткі строй называецца легізм. Яшчэ старажытны кітаец Шан Ян абгрунтоўваў «у рогі» Канфуцыю... Карай за малую правіну, як за вялікую, — нікому ў галаву не прыйдзе ўтварыць вялікую. Народ подлы, яго трэба саслабляць, а дзяржаву ўмацоўваць.

Макс стукнуў па фарбаванай чорным агароджы магілы, як быццам заклікаў нябожчыка таксама ў сведкі:

— І тут — немцы... Ідуць пад лозунгамі вызвалення ад уціску камуністаў. Ёсць надзея выкарыстаць іх, каб утварыць беларускую нацыянальную дзяржаву. Без палякаў, без расейцаў. Мара, дасюль недасяжная. БНР, дарэчы, таксама ж пры немцах утварылася... Іван Луцкевіч кайзераўцаў хлебам-соллю ў Вільні сустракаў. І цяпер не кожнаму хапіла розуму ўсвядоміць, што гэта ўжо не проста немцы, нацыя Гётэ і Шылера, — а фашысты. Якія не культуру нясуць, а генацыд. Беларускі паэт Майсей Сяднёў сядзіць у бальшавіцкай тур-

ме, смерці чакае — за вершы, за мову... Як ён павінен успрыняць гукі самалётаў, што лятуць бамбіць Мінск? Правільна, як сімвал вызвалення.

— Ты іх усіх апраўдваеш? Паліцаяў? — Генусь напяўся, як драпежны звер. — Не разабраліся... Затое па-беларуску газеткі выдавалі... А ведаеш, што было б, калі б мой дзед па бацьку ў якім сорак другім сустрэўся на вуліцы Мінска з якой беларускай патрыёткай з камендатуры? Мой дзед, хлопчык з гета, з нашытай на падраны пінжак жоўтай зоркай... І дама ў капялюшыку, якая толькі што гарбату ці шампанскае піла з герам, які аддаў загад гета знішчыць.

Вецер, зніадкуль вазьміся, прашаргатаў па жоўтым лісці, узвіхурыў яго ў прывідных «джынчыкаў», якія хутка прабегліся па магілах, спалохаліся і рассыпаліся.

— Я глядзеў фільм пра вайну ў Карэі, — задумна прамовіў Едрусь. — Мы ж мала ведаем гісторыю іншых краінаў... А там ужо пасля Другой сусветнай схапіліся паўднёвыя «капіталісты» і паўночныя «камуністы». Карэйцы супраць карэйцаў. І налажылі мільёны тры. І вось ужо наш час, дакументальныя кадры. Раскопкі на месцы баёў. Парэшткі кожнага салдата з пашанай дастаюць, накрываюць карэйскім нацыянальным сцягам... Гімн грае, слава героям... А фішка ў тым, што ніхто не адрознівае, не разбіраецца — які жаўнер за які бок ваяваў. Таму што прыйшло разуменне — усё гэта карэйцы. І кожны з іх верыў у нейкую ідэю, хацеў лепшага для свайго народа. У нас пакуль гэтага разумення няма. Наш народ хворы вайной.

— Ёсць рэчы, якія нельга дараваць нават у імя самай высокай ідэі! — ускрыкнуў Генусь.

— Ага, свабода, роўнасць, братэрства... — скептычна прамовіла Даліла. — А яшчэ дэмакратыя.

— А што, табе падабаецца жыць пры таталітарызме? — Генусь паглядаў спадылба, праз цёмныя доўгія прадкі валасоў, — відаць, вось гэткі ягоны позірк і страшыў у свой час школьных настаўнікаў. — Усе — строем, усе ідэалагічна правільна мысляць, а намёты пікетоўшчыкаў можна і бульдозерам... Вунь я хадзіў міма Дома прэсы, і справа ад яго белая сцяна гаража тры гады была спрэс у надпісах «СС»

ды «Слава России!». І тры гады ніхто не замазваў. Хаця хадзілі ж побач людзі... А чаму? Баяліся чапаць. А раптам гэта правільна? Вось каб напісаў хто «Жыве Беларусь!» — на наступны ж дзень зафарбавалі б. Брамнікаў языком змусілі б злізаць.

— Ну, скажам, і пры самых тваіх улюбёных дэмакратыях намёты пікетоўшчыкаў паліцыя прыбірае. Дзе — бульдозерам, а дзе і вадамётамі ды газамі, — адрэзаў Макс. — Дэмакратыя — гэта яшчэ не значыць агульнае шчасце. Каб пабудаваць нацыянальную дзяржаву, часам даводзіцца нечым ахвяраваць, каб пераламаць сітуацыю ў бок нацыянальнага.

— А што такое — «нацыянальнае»? — ціха спытаў Едрусь. — Вось, спадар Скаловіч — напалову венгр. Я — напалову расеец. Генусь — на чвэрць габрэй. Усе мы гатовыя памерці за Альбарутэнію. Піцерскі паэт Гарадніцкі, габрэй па паходжанні, неяк напісаў верш-адказ тым, хто спрачаўся наконт таго, чый ён паэт: «Родство по слову порождает слово. Родство по крови порождает кровь».

Скаловіч, які ўвесь гэты час адмоўчваўся — відаць, паглынаў і перапрацоўваў каштоўную інфармацыю пра будучыню, скрыжаваў рукі на грудзях і агледзеў нашу кампанію звысаку.

— Та-ак, ну і каша ў вашых мазгах, сябры. Замілоўваюць мяне падлеткі, які разважаюць пра палітыку. А вось цяпер адкажыце мне, а галоўным чынам сабе, сумленна ўсяго на адно пытанне: ці згадзіліся б вы жыць у самай дэмакратычнай краіне, з самым высокім узроўнем жыцця, калі б яна перастала быць Альбарутэніяй? Воля, дабрабыт... Можа быць, і назва тая самая. Але няма жывой мовы — хіба ў якасці фальклору. А так — руская, польская, англійская. Літаратура беларуская — што на лаціне, у якасці помніка.

Восень глядзела на нас жоўтымі вачыма, як рысь.

— Гэта... дэмагогія! — абурыўся Генусь. — У дэмакратычным грамадстве захаваюць нацыянальнае...

— Некарэктнае дапушчэнне. Я паставіў пытанне вельмі проста. Баіцеся адказаць самі сабе?

Зеленавокая Віка асцярожна тузанула крысо чорнага паліто.

— Дзядзька Валяр'ян, а ў гэтай краіне будуць Дысней-ленды? Ну, такія... паркі з каруселямі?

— Колькі хочаш! — запэўніў Скаловіч.

— Тады я згодная!

— Чаму вы вучыце дзіця? — крыкнула Даліла і адцягнула Віку да сябе за рукаў. — Хочаце ведаць мой адказ — магу сказаць. Мне не патрэбная самая лепшая ўлада, калі пры гэтым не захаваецца Альбарутэніі. Калі мне не будзе каму сказаць «Калі ласка».

— Можна падумаць, зараз вы часта гэта гаворыце. Словы відавочна не з вашай лексікі, — не ўтрымаўся ад чарговай порцыі атруты Скаловіч і абвёў вачыма астатніх.

— Ну? А што думаеце вы?

— Пакуль жывы я, жывая Альбарутэнія, — спакойна ўсміхнуўся Едрусь. — Помніце, як у апавяданні Аляксандра Грына... Чалавека падманулі, паслалі ў джунглі шукаць цудоўны горад. Ён шукаў, пакутліва і дарэмна, а праз нейкі час пабудаваў яго. На пытанне, як гэта ўдалося, адказаў: «Я нёс гэты горад у сэрцы маім».

— А вы, Руслана?

Я адарвала вочы ад Едруся, нібыта давялося аддзіраць пластыр ад раны.

— Зразумела, небеларуская Беларусь, нават з самым лепшым урадам, — гэта не мая краіна. А вы самі? Змаглі б жыць без Альбарутэніі?

У цёмных прадках прафесарскіх валасоў, з рэдкімі нітамі сівізны, заблытаўся вецер.

— А я і не змог.

І куды нам, няшчасным, у такім выпадку падзецца? Сказана — хочаш даведацца, чыя ў краіне ўлада, паслухай, на якой мове вучаць дзяцей у школах. Адна паэтка, памятаю, у сярэдзіне дзевяностых прапаноўвала, каб беларускамоўным беларусам дазволілі стварыць сваю рэзервацыю. Накшталт індзейскіх вёсак. Каб хоць так захавалася наша культура. А турысты будуць ездзіць, спачуваць... Подпісы пад зваротам збірала. Думала, улады прысаромяцца, адчуюць «сцёб».

А яшчэ памятаю, як мае бацькі змагаліся, каб я працягвала навучанне ў беларускамоўным класе. А дырэктарка тлумачыла, што дзеля трох чалавек (менавіта столькі бацькоў не пагадзіліся з пераводам класа на рускую мову) асобны клас стварыць не могуць. А паколькі ў нас свабодны выбар моў, дык вось усяго за дзесяць прыпынкаў са зручнымі перасадкамі ў вельмі добрай школцы ёсць беларускамоўны клас, і нават з эстэтычным ухілам. І хай там на гэтым непрыгожым языку і выяўляецца ваша дачка.

З боку шашы, якая жыла сваім мітуслівым жыццём за агароджай могілак, пачулася адчайнае выццё механічнага звера.

— Ну і клаксоны ў вашай тэхнікі... — прабурчэў хімік, павярнуўся і павольна пайшоў назад, да белай брамы, чорны, няўклюдны, чужы ў гэтай залатой восені.

— Стойце!

Даліла кінулася за ім, схапіла за рукаў, нібыта непаслухмянае дзіця.

— Я нешта мушу вам паказаць...

І павалакла некуды ўлева ад сцяжыны... Я здагадалася — там жа магілы Севы Касіянава і Разаліі! Няўжо Даліла спадзяецца, што, калі туды падыдзе Скаловіч, то зямля рассядзецца і нябожчыкі ажывуць?

А наша амазон-феміністка, сцяўшы вусны, подбегам цягнула прафесара за сабой, не жадаючы заўважаць, што ён не можа ісці хутка. Урэшце ён і праўда пахіснуўся і цяжка ўпаў на адно калена, нібыта паранены рыцар перад чароўнай дамай. Я адарвала руку Далілы ад ягонага рукава.

— Ты што, ачумела? Яму нельга!

— Жаласлівая... Ты ў нас, Руся, заўсёды самая жаласлівая ды памяркоўная. Як мікстура ад кашлю. З усімі згаджаешся, усіх мірыш, тыповая пазіцыя здрадніка. — Даліла выплёўвала словы, як згуслую жоўць. — А я хачу, каб ён... прафесар наш... паглядзеў на гэтыя магілы.

Скаловіч адхінуў маю дапамогу і ўзняўся сам. Ён стаяў, сунуўшы рукі ў кішэні чорнага паліто, купленага нейкім сталінскім арлом, дакладней, сцярвятнікам, і вусны яго былі ганарыстыя, нібыта ў маршалка на сойме.

Просты жалезны крыж на магіле ўнука ягонага ката трохі пахіліўся, блакітная фарба на ім аблупілася, а твар юнака ў маленькім авале ледзь праглядаўся скрозь пацалункі соцень дажджоў.

— Касіянаў... Трэба разумець, што ў Мадэста Пятровіча меўся ўнук. Запэўніваю вас, што я не душыў яго пад лесвіцай, як Рычард Трэці сваіх пляменнікаў. Дый, дарэчы, няшчаснаму каралю таксама гэта злачынства толькі прыпісвалі.

— І ўсё-ткі гэты хлопец загінуў з-за вас! І яшчэ шмат вартых людзей... Напрыклад, пахаваная побач з ім, вось у гэтай магіле, папярэдняя гаспадыня маёй хаты.

Маладая Разалія з кароткай стрыжкай з грыўкай трохі спадылба пазірала з партрэта, які стаяў, прыхілены да часовага драўлянага крыжа побач з магілай Касіянава.

Жудасная гісторыя пра галіну грушы прагучала гэтак тэмпераментна, што Далілу ад самой сябе ледзь на слёзы не прашыбла.

Скаловіч толькі вусны пакрывіў.

— Нават не буду абяцаць, што, ведаючы гэта і вярнуўшыся, не праеду ў машыне Касіянава пад згаданай ігрушай. Гэтак жа падгадаваны кабанчык не можа паабяцаць вам сустрэчы пасля Калядаў.

А ў маім горле стаялі слёзы крыўды.

— Як табе не сорамна, Даліла! Няўжо ты не разумееш — калі Валяр'ян Іванавіч тут, і нічога не змянілася — значыць, усё адбылося не з-за яго! І колькі б ні спілоўваць тую галіну грушы — нічога не зменіцца!

— А з-за каго ж гэта ўсё адбылося? Бачыце, прафесар, якое ўражанне вы зрабілі на нашу даверлівую Русю! Пакутнік... Карбанарый Авадзень у балагане... Думаеце, калі на допытах нікога не называлі, а проста сядзелі прывязаным у крэсле ды маўчалі — дык вы чысты? Вы ж спрыялі таму, каб людзей ператваралі ў звяроў! Ды сумленны чалавек на вашым месцы сапраўды засіліўся б! Ці на ката кінуўся! Зубамі грыз... У вас жа быў час збегчы... Вы — не Раскольнікаў, які забіў бабульку, а пасля прыняў пакуты катаргі. Вы — здраднік. Нянавісць да сябе нічога не апраўдвае!

Скаловіч стаяў, апусціўшы галаву. Ён раптам падаўся мне разгубленым, я нібыта пабачыла самотнага няўклюднага юнака, які робіць на продаж бенгальскія агні.

— Я ўжо адзін раз зрабіўся забойцам — досыць. Засіліцца? Загубіць душу? Часам смерць — гэта баязлівасць. А ўцякаць... Я не маю права ўцякаць.

Маленькая Віка прарабіла чырвонымі боцікамі сцежку ў лістоце ад закінутай капліцы да сярдзітай матулі.

— За што ты крычыш на дзядзьку?

Даліла, відаць, збіралася нешта гадкае вымавіць, але стрымалася. Затое пракаментаваў прафесар, да якога вярнулася ягоная суровасць.

— Таму што твая мама заўсёды шукае вінаватых. Ва ўсім жа нехта вінаваты. Габрэі, кулакі, нацдэмы...

— Не смейце мяне параўноўваць з катамі!

Генусь тут жа падскочыў да хіміка.

— Прасіце прабачэння!

— Шкада, што вас гэтак раздражняюць цалкам лагічныя супастаўленні. — Скаловіч дадаў атруты ў свой гучны нізкі голас, хаця і бачыў, што ў нашага хакера ажно вусны дрыжаць ад гневу. — Не дзіўлюся — логіка не ўласціва вашаму мысленню. Гэта ж тычыцца і вашай дамы... Калі вы так моцна ў яе закаханыя — дык стрымлівалі б неяк яе афрыканскі тэмперамент.

Магу паспрачацца на сшытак сваіх вершаў — апошнія словы прафесар прамовіў, выдатна разумеючы, што будзе далей. Я ледзь паспела захінуць сабой хіміка — кулак Генуся дакладна заехаў бы мне ў лоб, калі б Скаловіч маланкавым рухам не перахапіў яго. Ды яшчэ так перахапіў, нягледзячы на свой яшчэ паганы стан, што Генусь ад болю сагнуўся.

Пачалася брыдкая тузаніна.

— Слухай, ты, Тэрмінатар! — прароў Едрусь на хакера, адкідваючы яго назад. — Ты рэальнасць са сваім улюбёным «Думам» не пераблытаў?

А Генусь, збялелы, з растрапанымі чорнымі валасамі, усё яшчэ парываўся звесці рахункі са Скаловічам.

— Няхай ты хоць акадэмік, але не маеш права нас прыніжаць! Хто ты такі? Ля цябе ж трава вяне! Мефістофель

у лапцях! Брыдка глядзець, як нашы дзеўкі за табой упадаюць. Што адна, што другая. Гэта нізка — выкарыстоўваць іх! Яны табе ў дочкі...

— Заторкніся! — Даліла прамовіла гэта хрыплым шэптам, і гэта было так страшна, што Генусь змоўк, адчайна закінуў галаву да восеньскага неба, нібыта збіраўся завыць ад тугі, рэзка павярнуўся і пайшоў прэч.

— Стой! — закрычала я. — Ты ж абяцаў зрабіць прафесару пашпарт...

Тэрмінатар нават не азірнуўся, толькі падняў угору левую руку з адстаўленым сярэднім пальцам.

Не, ён сапраўды «зрушыўся» ад непадзеленага кахання. Я і Даліла — і ўпадаем за старым звяглівым дзядзькам? Яшчэ б да могілкавай брамы прыраўнаваў.

— Ну што, цяпер вы задаволеныя? — прагаварыла Даліла тым жа ненавісным шэптам на адрас прафесара. І, не чакаючы адказу, узяла пераляканую Віку за руку і рушыла ў бок дамка Разаліі. Прафесар, змрочна сыходзячы за ёю, зірнуў на мяне:

— Дзякую.

А побач вырас Едрусь.

— Ты малайчына, Руслана. Давай, трымайся... А то абцасы паломіш.

І падставіў руку.

А я... А я, глытаючы слёзы, пакульгала, успорваючы шпількамі вільготную зямлю, зусім у іншы бок, далей ад усяго, што лічыла дагэтуль самым важным у сваім жыцці.

Лісты па-ранейшаму ціхутка падалі на магілы, нібыта хацелі закрыць ад погляду неба нашы сляды...

**ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ-6**

Я не была ў дамку ля могілак, напэўна, тыдні два. Адключыла сотавы. Накупіла дыскаў з фільмамі Грынуэя, Кім Кі Дука і Ван Вармердама — мой улюбёны дэпрэсняк. Асабліва люблю Грынуэя «Адлік нябожчыкаў». Там жанчыны гэтак вытанчана топяць мужыкоў... аднаго за другім... у

атачэнні кветак, апалага лісця і чырвоных яблыкаў. І ўсё гэта таксама Вялікая Гульня — толькі іхняя, а не наша.

Заняткі таксама прагуляла. Бацькам, вядома, па барабану. Маці толькі аднойчы з'едлівым тонам прамовіла, што лепей бы я, чым блытацца па хаце без справы, схадзіла на вечарыну барда Сцяпана Ветравея, якога зараз не пускаюць на вялікія сцэны.

Нічога не маю супроць барда Ветравея.

Але дваццаць гадоў спяваць адно і тое ж, з тым самым пафасам і практычна для той самай публікі, якая за гэты час пасівела і палысела і не выканала нічога з таго, да чаго гэтыя песні заклікаюць?

Я лепей апавяданне напішу... Пра аднаго з паэтаў, расстраляных у гонар дня народзінаў савецкага камсамолу, 29 кастрычніка 1937 года. Пра дзяўчыну, якая кахала свайго прафесара, але пайшла замуж за камсорга. Пра сённяшнюю студэнтачку архітэктурнага аддзялення, якая няздольная разабрацца ў тым, што ёй рабіць у гэтым жыцці — прынамсі, не будаваць жа лецішчы для багацеяў. Лядовыя палацы таксама неахвота. Дый увогуле... Здавалася толькі, што архітэктура амаль тое самае, што маляванне. Музыка, замкнёная ў камні... Ле Карбюзье, Гаўдзі... Ага... А «супрамат» хто вывучыць? А ўсе гэтыя праграмы тры-дзі-макс? Балкі-швелеры-русты-канелюры? А жах майго жыцця — адмыўка? Вы ведаеце, што такое адмыўка? Гэта калі празрыстую ваду, у якой расчынена фарба, слой за слоем вельмі акуратна наносіш на накрэслены на ватмане фрагмент, раз за разам адступаючы. Такім чынам дзесьці фарба — у два слаі, дзесьці — у дзесяць... І атрымліваецца дасканала плаўны пераход ад светлага да цёмнага.

Мне ніяк не ўдавалася роўненька ссоўваць пэндзлем валік афарбаванай вады па нахіленым планшэце. Заўсёды атрымліваліся пісягі.

А мае прабабулі, напэўна ж, пралі, ткалі, вышывалі... Божа мой, я ж нават вязаць не навучылася — не разумею, як гэта можна не ўдавіцца ад нуды, тысячу разоў аднолькавым рухам чапляючы на пруток нітку... А тут... І ўсё жыццё гэтым займацца?

Таму я валялася на канапе, глядзела Грынуэя, а па начах пісала на сваім старэнькім камп’ютары прозу, а ў сшытку — вершы. Не прызнаю, калі вершы пішуцца на камп’ютары. Па-мойму, парушаецца нешта пры гэтым. Ну, усё роўна як стол накрываць газетамі.

Час сцякаў марудна, па кроплі, як вада ў кітайскім катаванні. Вядома, я чакала, што нехта ўсё-ткі праб’ецца праз узведзеную мною сцяну. Самыя зацятыя мізантропы заўсёды на гэта спадзяюцца. Чым мацней яны адасабляюцца — тым больш пякучая надзея, што нехта зараз раскайваецца ў тым, што не цаніў іх прысутнасць.

Насамрэч чым болей часу ты хаваешся ад свету, тым болей цябе забываюць, а ты, наадварот, «накручваеш» сябе.

У маіх начных жахах бачыўся Едрусь, які працягвае мне руку, на якую я так і не апусціла сваю, спіна Генуся і ягоны развітальны зняважлівы жэст, вусны Далілы, з якіх злятаюць крыўдныя словы, і змрочны твар Скаловіча. Мне нават некалькі разоў падалося, калі я глядзела праз акно на двор, што я бачу постаць Едруся, які таксама пазірае на мяне. Да трызненняў сябе давяла.

Я ўяўляла, што робіць госць з мінулага ў дамку... Мы ўжо перасталі дзівіцца некаторым ягоным звычкам. Напрыклад, кожную раніцу і ўвечары ён станавіўся перад абразом і хвілінаў пятнаццаць прамаўляў малітвы. Не зважаючы, глядзім мы, не, звяртаемся да яго ці не... Вось менавіта на гэты час у яго прызначанае самае важнае спатканне — і ён нізавошта гэтае спатканне не прапусціць. Потым пачаў адціскацца ад падлогі. Адразу — нядоўга, па некалькі разоў, падаючы ад болю. Але чым больш ачуньваў, тым даўжэй адціскаўся. На адной руцэ, на другой... На кулаках... Зноў-такі — не зважаючы на насмешкі і роспыты. Толькі адно патлумачыў — маўляў, хімік не мае права сапсаваць дослед з-за таго, што ў яго трасуцца ад слабасці рукі. Нібыта быў пэўны, што вось-вось давядзецца зноў узяцца за доследы. А яшчэ ён бясконца выпрабоўваў розныя рэчывы. Усё роўна, што... Адшкрабаў галоўкі запалак, выціскаў крэм для галення... Разглядаў, змешваў, падпальваў. І чыркаў, чыркаў

алоўкам на абрыўках газет, на цэтліках, на любых ашмётках паперы нейкія формулы. Аднойчы — не ведаю, з чаго — яму ўдалося зрабіць сапраўдны феерверк. Рознакаляровыя іскры разляталіся фантанам, чамусьці нічога не апякаючы. Але смурод утварыўся такі, што давялося расчыніць усе вокны, нават тыя, што гадоў трыццаць не адчыняліся, і з іх павылятала вата, усыпаная раструшчанымі навагоднімі цацкамі. А яшчэ ён умеў жангліраваць чым заўгодна. Так-так, спадар мізантроп мог быць і такім. Малая Віка страшэнна радавалася і падсоўвала дзядзьку то цыбуліну, то лыжку, то кубак — каб пляталі ў паветры. Мяне ўвогуле здзіўляла, што ў Скаловічы, калі даведацца лепей, ужываліся і малітоўнасць, выхаваная бабуляй, і балаганныя штукарствы, дарунак бацькоў. Хрысціянскасць — і дзіцячая крыўдлівая зацятасць. Змрочны аскетызм — і схільнасць да гумару, праўда, чорнага. Педантычнасць — і побытавы мінімалізм, амаль хіпоўскі. Я ўспамінала, як з Далілай прыйшла позна вечарам у дамок, забраць Віку, пакінутую на прафесара, і яшчэ спанадворку мы пачулі дружны смех... Даліла прыклала палец да вуснаў, і мы праслізнулі ў хату, як дзве мышы... І... пабачылі прафесара і Віку ў становішчы дагары нагамі. Ён, аказваецца, вучыў яе па ейнай просьбе стойцы на руках. І гэта з рэбрамі, якія ледзь зрасліся! Абое час ад часу падалі на падлогу і рагаталі, хаця прафесар пры гэтым і моршчыўся ад болю. Нарэшце акрабаты заўважылі нашу аслупянелую прысутнасць і зараз жа да смешнага аднолькава зрабілі каменна-сур'ёзныя твары і імгненна ўселіся за стол, на якім ляжала адчыненая кніга, каб з перабольшанай цікавасцю працягваць знаёмства з прыгодамі паноў Кубліцкага ды Заблоцкага.

Не, Даліла мае рацыю — прафесар сапраўды яшчэ не выйшаў з падлеткавага ўзросту.

За гэтыя два тыдні, што я не бачыла Скаловіча, ён не выходзіў у мяне з галавы. І ўрэшце я вырашыла наведаць дом на могілках. Божа, як я сябе ненавідзела... Але ўсё-ткі рушыла.

Калісьці мы зрабілі на ўсіх ключы ад дамка. Я ціха, нага за нагу, зайшла на двор, у соты раз уяўляючы, што мяне ча-

кае за вокнамі, пад якімі тырчэлі высокія ссохлыя мальвы, нібыта інквізітары пад дзвярыма ерэтыка. Зазірнула ў акно...

Даліла сядзела на краі ложка, на якім ляжаў Скаловіч, і павольна гладзіла прафесара па твары рукой, схіліўшыся над ім, як мне падалося, з пяшчотай.

У мяне ў грудзях заварушылася вострая льдзінка. Гэтага проста не можа быць.

не-можа-быць

Вядома, першае, што падумалася, — дарэмна я сюды кіруюся.

Але я ўсё-ткі штурхнула дзверы з пафарбаваных аблезлай зялёнай фарбай дошак і ўвайшла ў дом, у якім пахла падгнілай бульбай, лекамі і нечым гарэлым.

Даліла пры маім з'яўленні неяк хутка паднялася і выглядала надзвычай разгублена. Я перавяла позірк на ложак. І...

Прафесар ляжаў, прывязаны, як у класічным фільме пра кіднэпінг. Відаць, тыя, хто гэта зрабіў, хапалі ўсё, што траплялася пад руку — разарваная прасціна, вяроўка для бялізны, нават Вікіны баваўняныя калготкі ярка-бэзавага колеру. Бледны скамянелы твар, пагардліва падціснутыя вусны, заплюшчаныя вочы.

Я не паспела задаць пытанне, як Даліла загаварыла сама. Божа ж мой, ды ў яе сапраўдная істэрыка — са слязьмі і панікай.

— Я не ведаю, што рабіць! Ён не слухае! Ён хоча сысці!

Аказалася, што сёння раніцай Скаловічу распавялі падрабязнасці наконт нашых падарожжаў у ягоны час. Ён падышоў сам памацаць сценку, абклееную шпалерамі з выцвілымі ружамі. І... на яго раптам спрацавала. Рука знікла ў сценцы... І, каб Даліла не кінулася на хіміка, як хорт на лася, ён цяпер быў бы, відаць, зноў у кабінеце таварыша Касіянава.

Прафесар ірваўся ў сцяну, і добра, што Макс не паспеў сысці на працу — ён жа мажны, як шафа, кілаграмаў сто, — і неяк удалося ўтрымаць госця...

Макс таксама не супраць пакінуць тут каштоўную крыніцу інфармацыі пра мінулае... Але ж гэта подла!

— Зараз жа адвяжы яго! — выціснула я скрозь зубы. — Хто ты пасля гэтага? Ну!..

Мая сяброўка пакорліва апусцілася на калені ля ложка і пачала разблытваць вузлы. Я дапамагала з іншага боку... Даліла на хвілю прыпынілася і, намагаючыся гаварыць з ранейшай звыклай мне безапеляцыйнасцю — але слёзы перашкаджалі, — прамовіла:

— Спадар Валяр'ян! Прашу вас, толькі не трэба — адразу туды... Прашу... Добра, вам усё роўна, што вас там чакае. Што вас заб'юць. Разумееце — заб'юць! Пакутліва, нерамантычна... Але пабудзьце яшчэ дні тры... Толькі тры дні...

Скаловіч нават вачэй не расплюшчыў. Я з недаўменнем паглядзела на сяброўку.

— А што за тры дні зменіцца?

— Не ведаю... — адвяла вочы Даліла.

Скаловіч узняўся з ложка, і, не гледзячы на нас, падышоў да акна. Даліла рушыла за ім, апусціўшы галаву.

— Ну прабачце мне...

Я не верыла сваім вушам. Даліла просіць прабачэння!

— Валяр'ян... Спадар Валяр'ян...

Даліла глядзела ў ягоную спіну, абцягнутую чорнай Максавай кашуляй, нібыта ў сцяну, за якой схавана нешта дарагое. Мяне нават трохі скаланула: зусім як калісьці Антаніна.

— Ну зразумейце ж мяне — я хачу як лепей! Я не магу, каб вы...

Скаловіч нарэшце зліставаўся павярнуцца.

— Таварыш Касіянаў таксама хацеў, як лепей! Таварыш Гітлер, які на маёй памяці толькі прыйшоў да ўлады, таксама хацеў, як лепей! Нашто я вам — тут? У якасці цацкі?

— Няўжо я абыходжуся з вамі, як з цацкай? — абурана запярэчыла Даліла.

— У пэўным сэнсе — так, — з'едліва сцвердзіў Скаловіч, і мая сяброўка чамусьці апусціла вочы, яе вусны задрыжэлі. А хімік працягваў выкрываць.

— Мне самому вырашаць, як распарадзіцца сваім жыццём! Вы ж не ведаеце, што і каму я вінны... І ніхто не мае права адмовіцца ад таго, што толькі ён мусіць у сваім часе зрабіць.

Ганарова гэта ці прынясе адны кпіны, запомніцца, забудзецца — мы ўсе, як пчолы, што мусяць напаўняць свае соты. Кропля слодычы, кропля атруты... Ад суворага дзядоўніку, ад светлай ліпы, ад няшчаснай свірэпы... Патрэбнае ўсё. Тым болей столькі нашых пчолаў нясуць мёд іншым вуллям. А калі пустыя соты — вулей вымірае, і гаспадар шукае для вольнага жытла новы рой. Я мусіў запоўніць сваю ячэйку. Ці найлепшым мёдам — якая розніца...

Прафесар правёў рукой па твары, нібыта сціраючы павуцінне стомы.

— І што — я схаваюся тут, а там няхай замест мяне нехта гіне? Няхай Касіянаў далей на кімсьці ставіць свае эксперыменты? Няхай з-за мяне знікне праца майго лепшага сябра? Толькі я ведаю, дзе яна зараз схаваная. Люцыян Нічыпаровіч паведаміў мне перад тым, як я пайшоў па выкліку ў Жоўты дом. Прасіў адно — калі надарыцца магчымасць, апублікаваць гэты рукапіс. Ад вас я даведаўся, што спадар Люцыян застрэліўся. І цяпер разумею сэнс ягонай просьбы.

— Мы можам пашукаць ягоную працу цяпер! — горача прапанавала Даліла. Хімік змерыў яе зграбную фігурку ў чорнай майцы і штроксах суровым позіркам.

— Там, дзе ён яе схаваў, папера семдзесят гадоў не праляжыць. А што я буду тут рабіць без навукі! Вы што, хочаце, каб я перакваліфікаваўся ў брамнікі?

Скаловіч зноў пачаў шыпець ад гневу, як забыты на агні чайнік. Даліла не спрабавала пярэчыць, стаяла, угнуўшы галаву і ўпарта прыкусіўшы губу.

— А вы, Руслана, — прафесар нечакана павярнуўся да мяне, — што вы думаеце, як самая адэкватная з кампаніі?

Я страшэнна разгубілася, гледзячы ў ягоныя цёмныя вочы. І чамусьці прашаптала:

— Застаньцеся, калі ласка... Хоць яшчэ на тры дні...

Скаловіч аж галавою закруціў.

— Можна падумаць, што на вас спрацоўвае адзін з комплексаў паводле тэорыі Фройда, і я мушу замяніць вам недахоп бацькоўскага пачатку — альбо сублімаваць яго як аб'ект вашай нянавісці. Добра. Я звык да нянавісці.

Хімік дэманстратыўна абыякава падышоў да паліцаў, зняў томік Купалы (я заўважыла, што гэта быў дзявяты том з апошняга збору твораў — там, дзе сабраныя дакументы, у тым ліку пратаколы допытаў) і ўлёгся на ложак, змахнуўшы з яго на падлогу імправізаваныя вяроўкі.

Гэты дзень быў цяжкі, як праклён. Даліле неадкладна спатрэбілася на працу, і яна пакінула мяне з хімікам у якасці вартаўніка. За ўвесь гэты час Скаловіч не вымавіў ні слова, нягледзячы на мае нясмелыя спробы яго разгаварыць. Ляжаў, чытаў. На адзін том у яго трацілася гадзіна. Усяго да прыходу Далілы ён паспеў прачытаць тры тамы.

Даліла вярнулася з пакункамі, напятая, рашучая, нібы камікадзэ перад вылетам.

— Зараз будзем вячэраць. Спадзяюся, спадар прафесар не хоча ўмарыць сябе галоднай смерцю на знак пратэсту?

Але павячэраць у гэты дзень нам не давялося. У дзверы пастукалі.

Даліла, нават не пытаючыся, хто там, адчыніла дзверы.

Іх было трое. Усе ў цывільным. Каржакаваты, які нагадваў стамлёнага бабра. Высокі белабровы, з тварам, як шынка. Галоўны — са звычайным, трохі азызлым тварам добрага сем'яніна, з вуснамі, куточкі якіх трохі ўсміхаліся.

— Дар'я Сямёнаўна Крашынская? Домаўладальніца? Міліцыя... Дазвольце ўвайсці.

Даліла моўчкі ўпусціла прыхадняў... Нават дакументаў не папыталася. Не пазнаю сяброўку...

Свой прыход міліцыянты патлумачылі тым, што былі скаргі суседзяў. На тое, што хату пенсіянеркі Разаліі Іванаўны Самлевіч захапілі падазроныя асобы. Нефармальная моладзевая суполка. Сходкі, оргіі, наркотыкі...

Белабровы затрымаўся позіркам на Едрусевай гітары (адной з трох) — на ёй красавалася налепка з Пагоняй.

Ну і, вядома, праверка дакументаў...

З дакументамі, як вы здагадваецеся, у нас было, як у маскалёў у XVII стагоддзі з тэатрам.

Гэта значыць — ніяк. Нават я забылася студэнцкі білет у заплечніку, з якім звычайна хаджу на заняткі.

Я дзівілася спакою Далілы. Мяне ж усю ажно калаціла... Але ўвага няпрошаных гасцей была скіраваная на прафесара. Скаловіч з'едліва пасміхаўся і дэманстраваў вышэйшы пілатаж сафістыкі. Вы, напэўна, ужо заўважылі яго мілую манеру адказваць пытаннем на пытанне.

— Як вы добра размаўляеце на беларускай мове... — нібыта між іншым заўважыў азызлатвары. — А да якой партыі належыце?

— А што, валоданне беларускай мовай з'яўляецца апазнавальным знакам прыналежнасці да палітычнай партыі? — усё гэтак жа «міла» вымавіў прафесар. — Дазвольце пацікавіцца, шаноўныя, а як бы вы вызначылі мае палітычныя погляды, калі б я пачаў размаўляць з вамі па-англійску альбо па-французску? Дапускаю, што згодна з вашай асабістай логікай мая французская мова сведчыла б пра тое, што я прадстаўляю палітычную партыю, якая мае на мэце дасягненне ўлады французаў ва ўсім свеце. Як вядома з гісторыі, такой асобай быў Напалеон Буонапарці, не зусім, дарэчы, і француз — да канца жыцця гаварыў на мове Лафантэна са страшэнным акцэнтам. Мой сябра, слынны спецыяліст па псіхіятрыі, распавёў бы вам наконт знаёмстваў са шматлікімі Напалеонамі. Калі я размаўляю з вамі па-беларуску, значыць, я па меншай меры Кастусь Каліноўскі? А чаму вы не зробіце маленькае дапушчэнне, што калі я размаўляю па-французску, я альбо француз, альбо проста люблю гэтую мову. А калі карыстаюся ў якасці камунікатыўнай беларускай мовай, я, адпаведна, беларус і люблю мову Купалы? Шкада, што самыя простыя лагічныя сувязі вам несімпатычныя. У выніку — пабудова сілагізму сыходзячы з ілжывых дапушчэнняў.

— Хопіць! Дзе твае дакументы? — зароў раздражнёны слоўнай плынню спрактыкаванага лектара азызлатвары. А «бабёр» прабурчэў:

— Такога сапраўды ў дурку варта...

Трэба было нешта распавядаць пра насатага цемнавокага дзядзьку, у якога вышэйшая адукацыя была напісаная на высокім лобе рунічнымі пісьмёнамі, відочнымі нават з космасу.

Па сачыненні праўдападобных гісторый у нас спец — Макс. Але яго заўсёды няма менавіта тады, калі ён больш

за ўсё патрэбны. Простыя словы, простыя рэчы наконт таго, што дзядзька ёсць дзядзькам гаспадыні кватэры, не спрацоўвалі. Міліцыянты жадалі падрабязнай споведзі. Прапіска, месца працы, сямейнае становішча... І — прадземце ў аддзяленне.

Давялося ўсё рабіць самой. Я ж усё-ткі пісьменніца, хаця і маргінальная. Я трохі павагалася наконт варыянту з амнезіяй... Не, лепей ціснуць на нацыянальнае пытанне. У маім аповедзе паўставаў трагічны лёс бежанца з Узбекістана, выкладчыка хіміі ў Харэзмскім політэхнічным інстытуце (нядаўна глядзела фільм пра вайну харызматычнага Чынгісхана і фанабэрыстага харэзмскага султана). Валяр'ян Іванавіч — дзядзька шаноўнай Дар'і Сымонаўны па бацьку. (Няхай шукаюць, каб пацвердзіць, ейнага бацьку... Маці дзесяць гадоў адшукаць не магла, каб аліменты стрэсці, дык, можа, гэтым удасца.) Сюжэт развіваўся, вочы Скаловіча і Далілы ўсё пашыраліся. Спадар Валяр'ян змушаны быў пакінуць сваю кватэру ў Харэзме, бо яе падпалілі ўзбекскія нацыяналісты. Потым быў палон у мясцовага бая, здзекі, катаванні, цяжкая праца на прыватных плантацыях бавоўны (трэба ж было неяк патлумачыць наяўнасць шнараў, якія госці пры пэўных абставінах змогуць заўважыць). Уцёкі, таварныя вагоны, пакутлівы шлях да роднай Беларусі...

— Гэты чалавек прайшоў пешкі дзве тысячы кіламетраў! — пранікнёна абвесціла я. — А цяпер ён чакае статусу бежанца і грамадзянства... І праз дні тры ўсе дакументы будуць у парадку. Так што прыходзьце пазней, спадарства...

Скаловіч слухаў, іранічна прыўзняўшы бровы. Дзякуй Богу, хаця б не ўздумаў пярэчыць.

Эх, калі б наш хакер не псіхануў, каб хоць якую паперку для пацверджання асобы хіміка здабыў...

Я выразна паглядзела на Далілу і прамовіла.

— І ўвогуле, Валяр'ян Іванавіч ужо ў нас загасціўся. Думаю, Вам, Валяр'ян Іванавіч, час вярнуцца туды, адкуль прыйшлі.

Даліла зразумела мае словы, зірнула на абраз «Маленне аб Чашы», потым на Скаловіча... Панурыла галаву...

Прафесар няспешна падышоў да абраза, перахрысціўся... Вось зараз ён знікне за сцяной у выцвілыя ружы...

Сапраўды, нават Даліле ясна, што выцягнуць чалавека на семдзесят гадоў наперад, каб ізноў кінуць у шчыльныя абдоймы «органаў», — гэта ўжо не па-людску...

Азызлатвары міліцыянт звярнуўся да Далілы:

— Ну што, праедземце ў аддзяленне на прадмет высвятлення асобаў?

Я заўважыла, што Скаловіч усё яшчэ стаіць, уважліва назіраючы за падзеямі. І твар ягоны ўсё змрачнее.

Чаму ён не сыходзіць?

Затое прыйшоў яшчэ адзін госць... Нават не стукаючыся ў дзверы, уваліўся па-гаспадарску... Уладальнік суседняй вілы, якога я некалькі разоў бачыла. Немалады сівы дзядзька, падобны да ўсходняга бая, мажны, як бык, у чырвонай кашулі і джынсавай куртачцы. Смуглявая скура на ягоным твары ледзь не трэскалася ад тлушчу. Міліцыянты прывіталі яго амаль па-свойску, я здагадалася, што няйначай ён і ёсць заяўнік на нашы «оргіі»... Аглядаў сусед Разаліну хату таксама неяк надта па-гаспадарску... І нас з Далілай... па-гаспадарску. Мне здавалася, што ягоны позірк пакідае на мне тлустыя плямы, як ад пальцаў, якімі толькі што елі плоў.

Скаловіч адышоўся ад запаветнай сцяны і ўсеўся на ложак, дэманструючы прафесарскую пагарду. А белабровы, які шнырыў па хаце, нібыта рукі свярбелі ўсё тут абшукаць, заўважыў на паліцы шафы стосік дыскаў, на вокладках якіх было напісана «За свабоду». Дыскаў заставалася пару дзясяткаў — знаёмы рокер папрасіў Едруся параздаваць пасля канцэртаў.

— Гэта чыё?

— Маё! — адразу ж адгукнуўся Скаловіч, які, хутчэй за ўсё, абсалютова не ведаў нават, што гэта за канверцікі.

— Адкуль гэта ў вас? — жвава запытаўся белабровы.

— Вы ж самі толькі што адтуль іх дасталі — з шафы.

Цікаўнік пачаў траціць цярпенне.

— Ну а ў шафу як яны трапілі?

— Калі ёсць пацверджанне, што гэта належыць мне, можна дапусціць, што я і паклаў.

— А дзе ўцялі, каб пакласці?

— З шафы і ўзяў.

— Яны што, самі там з’явіліся?

— Гэта ненавуковае дапушчэнне. Думаю, вам дастаткова сведчання, што гэтыя прадметы належаць мне.

— Здзекуемся? Нічога, у аддзяленні разбяромся...

Але азызлатвары кінуў на ініцыятыўнага белабровага міліцыянта незадаволены позірк, і той неахвотна паклаў дыскі на месца. Чаго гэта на «крамолу» вырашылі не зважаць?

Я перахапіла позірк прафесара і паказала вачыма на абраз. Скаловіч адмоўна пахітаў галавой. Ён таксама быў спакойны... Што ж, яму не прывыкаць — столькі разоў забіралі...

— Выходзьце, грамадзяне!

**ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ-7**

Кароткі калідор з відам на закратаванае акенца. Пафарбаваныя алейнай зялёнай фарбай сцены.

Зусім як у бальніцы, куды аднойчы я патрапіла з ларынгітам. Жудасна... Я задыхаюся, хапаю паветра, а яно засядае ў горле, як быццам ваўняныя ніткі... Маці апранае на мяне свой самавязаны сіні швэдар — напэўна, у яе ўяўленні я задыхаюся ад холаду. А па калідоры да мяне набліжаецца медсястра — белы халат, ад якога на адлегласці, як марозам, патыхае абыякавасцю і нават раздражнёнасцю (Ну чаму «іх» прывозяць сярод ночы?). Пантофлі-саба медсястры глуха стукаюць па каменнай падлозе, а ў руках жалезны падносік са шпрыцамі... Я не бачу яе твару, я не чую ўгавораў маці — я назіраю, як да мяне набліжаецца металёвы падносік... Вострая-вострая голка.

І мне страшна.

Потым, ужо ў палаце, мы з такімі ж «ларынгітнікамі», з перабінтаванымі горламі (сагравальныя кампрэсы) займаліся тым, што складалі папяровыя самалёцікі. З самалёцікаў атрымліваліся цэлыя эскадрыллі. Кожны прыдумляў для сваіх мадэляў нейкі адмысловы спосаб складання... Шкада, ніводны з гэтых самалёцікаў не мог знесці мяне ад жудаснага пагруквання шпрыцоў аб жалезныя падносы.

І цяпер я сядзела і складала з прабітага талончыка на тралейбус маленькі самалёцік. Бездапаможна маленькі, шэры, але з упартым тупым носам... Мне нават уявілася, што калі я зараз запушчу яго ў закратаванае ржавым жалезным дротам акно, яно, як у рэкламе таннай беларускай бялізны, ад папяровага дотыку ўзарвецца...

Праўда, у рэкламе вастраносы выбухованебяспечны самалёцік быў з беленькага аркуша паперы, і запускала яго гожая дзеўчына ў чырвонай міні-спадніцы ў акно закаханаму юнаку.

Юнак, вядома, закахаўся з-за маечкі беларускай вытворчасці. Нават у рэкламе — безнадзейна кепскай якасці з выгляду. Але — купляй сваё!

Я сціскаю ў пальцах самалёцік і... пачынаю яго разбураць: распраствацъ няшчасны талончык. Самалёцік чакае рэінкарнацыя. Што паробіш — я ад маленства падчас нервовага чакання мушу што-небудзь тузаць, ірваць, круціць у пальцах.

А што застаецца рабіць? Сядзім у калідоры апорнага пункту аховы правапарадку ўжо паўгадзіны... І невядома яшчэ колькі і чаго чакаць... Можа, каб «праніклiся»?

Скаловіч выглядаў вясёлым, як прафесійны трунар. Падняў каўнер чорнага паліто, сунуў рукі ў рукавы...

— Мы адсюль, напэўна, не выйдзем... — прашаптала я.

— Глупства, — сурова прамовіў прафесар, які сядзеў паміж мною і Далілай, быццам сапраўды старасвецкі дзядзька з пляменніцамі, якіх вывез на свецкі прыём, і цяпер сочыць за іх добрапрыстойнымі паводзінамі.

— Руслана, не кідайце ўвесь час жаласлівыя позіркі ў бок акна. А пэўная ваяўнічая асоба, якую, як высветлілася, насамрэч завуць Дар'я Сымонаўна... — прамовіў Скаловіч у мой бок, ігнаруючы прысутнасць Далілы, — павінна пакінуць карбанарскія планы. І ўспомніць, што яна — маці, хаця і вельмі нядбайная, і нясе адказнасць яшчэ і за ўласнае дзіця. Думаю, хату трэба прадаваць, бо інакш ад вас не адчэпяцца.

Даліла падала раздражнёны голас.

— А я пану прафесару параіла б завучваць версію пра Узбекістан. Як там Руслана агучыла? Плантацыі бавоўны? А можа, лепей — амнезія?

І спытала з уяўнай абыякавасцю:

— І чаму вы не сышлі? То вас да ложка трэба было прывязваць, каб затрымаць, то не выпхнуць адсюль...

Скаловіч па-ранейшаму ігнараваў яе прысутнасць.

— Цікавыя асобы трапляюцца мне на жыццёвым шляху. Напрыклад, самаўпэўненыя, не вельмі разумныя, затое агрэсіўныя кабеты, якія мараць застацца ў пастарунку выключна ў дзявоцкай кампаніі.

— Можа быць, я не надта разумная! — Даліла пачала злавацца. — А вы... Разумны... Вы ж бясконца просіцеся на той свет! Дыскі, бачыш, вашы... Яшчэ крыху — і прызнаецеся, што вы нас з Русланай скралі і гвалтам трымалі ў дамку, даючы волю брутальным эратычным фантазіям.

Скаловіч пасміхнуўся, гледзячы на шэрую, у пісягах, столь.

— Надзвычай цікавая ідэя! Асабліва наконт «брутальных эратычных фантазіяў»... Мой сябра Уладзімір, псіхіятр, сцвярджае, што ў экстрэмальных абставінах чалавек хоча самога сябе пераканаць у тым, што ён моцны, і таму намагаецца пераймаць паводзіны грубых, агрэсіўных людзей, якіх баяўся сам. Брыдкасловіць, думае пра сэкс, робіць развязныя рухі. Называецца — знайсці свайго тыгра. Калі за спінаю мышаняці тыгр, чаго баяцца? Нават калі няма — варта ўявіць.

— Вы ўжо колькі разоў згадвалі свайго сябра псіхіятра, — прамовіла я, абы не думаць болей пра тое, што нас непазбежна чакае. — Распавялі б пра яго, ці што... Абстаноўка — дарэчы...

Відаць, экстрэмальныя абставіны дзейнічалі на характар хіміка дабрадатна, таму што пабурчэў ён зусім нядоўга і пачаў распавядаць:

— Пасля адной з публікацый у французскім навуковым часопісе я атрымаў запрашэнне працаваць малодшым асістэнтам у хіміка-фізічнай лабараторыі Жака Перэна ў Сарбоне. Ехаў я ў Парыж без жалю — мне не было чаго пакідаць. А Уладзімір Акерман вучыўся там на медыцынскім факультэце, ён дужа цікавіўся псіхіятрыяй. Родам з Растова, мой аднагодак. Яму распавялі, што я захоўваю пад ложкам

грымучую ртуць. Тым жа вечарам Акерман пастукаў у дзверы майго пакойчыка. Валодзя сам нагадваў, дарэчы, грымучую ртуць — не было такой паэтычнай вечарыны альбо цікавай аперацыі ў анатамічным тэатры, каб там не мільгала ягоная чорнавалосая галава.

Знаёмства пачалося з таго, што няпрошаны госць пачаў угаворваць мяне прайсці адмысловыя тэсты — як змяняецца псіхіка чалавека, які жыве ў смяротнай небяспецы. Дзівак! Каб ён бачыў, што ляжала пад маім ложкам у бабуліным флігелі альбо на чым я спаў падчас вандровак у балагане! Мы напачатку трохі... гучна паразмаўлялі. Але потым Уладзімір, як ні дзіўна, са мной пасябраваў. Можа, мой характар уяўляў для яго прафесійную цікавасць — ён сапраўды псіхіятр ад Бога, са сваімі тэорыямі і скандальнымі манаграфіямі. Дый я паступова прывык да ягоных візітаў і доўгіх спрэчак. Карацей, пра мае суіцыдальныя схільнасці і комплексы, закладзеныя ў дзяцінстве, я хутка мог і сам распавесці напамяць. Да таго ж, хоць я дрэнна ладзіў з расійцамі — для большасці з іх беларускага народу не існавала, — Валодзя разумеў мае мары пра Альбарутэнію. Ён і сам належаў да народа, якому ў Расійскай імперыі забаранялася жыць у вялікіх гарадах.

Не буду пераказваць пра тое, што перажылі разам. А была і вайна — нямецкія цэпеліны над Парыжам, бамбардзіроўка 1918 года, параза французскіх войскаў на Дамскай дарозе, страйкі, мабілізацыя, бітва на Марне... Я тры месяцы працаваў санітарам у вайсковым шпіталі ў Марэё, непадалёк ад лініі фронту... Але гэта асобная гісторыя. Памятаю, як французскія таксаматоры, чырвона-зялёныя, дапамагалі хутка перавезці войскі да месца галоўнай бітвы. І пасля перамогі над «бошамі» паўсюль прадаваліся чырвона-зялёныя цацачныя машынкі... Я прыехаў у Парыж з краіны, дзе смерць — справа звыклая, дзе на могілках адбудоўвалі гарады і мільёны палеглых заставаліся такімі ж безыменнымі, як скошаная трава. Калі я вярнуўся на Беларусь, пра ахвяраў Першай сусветнай ужо не памяталі. Гаварылі толькі пра рэвалюцыю. А вось у Францыі пасля перамогі ў 1918 годзе было вырашана ўзвесці трыццаць тысяч помнікаў загінулым.

Калі я з’ехаў, яны яшчэ ўзводзіліся, але я не сумняваюся, што помнікаў не будзе меней за аб’яўленую колькасць, бо будаваліся яны па пятнаццаці на дзень. Вялікія, маленькія, у гарадах, паселішчах... Вас цікавіць іншае? Ну як жа, Парыж... Было і іншае — сезоны дзягілеўскага балету. І «Пошукі страчанага часу» Пруста... І кабарэ «Бык на даху»... Чарлстон, уанстэп, шымі... Навамодная амерыканская штука — джаз. Дзіўная музыка, але нешта ў гэтай дзікай хаатычнасці ёсць, нібыта ў накіданым хваляй друзе — ракавінкі, водарасці, чорныя, амаль скамянелыя галінкі... А ўгледзішся — асаблівая прыгажосць і гармонія.

Вядома, гэты бок жыцця я бачыў толькі ўрыўкава. Што мне да мітусні? Мне пашчасціла пару гадоў працаваць побач з вялікай Марыяй Складоўскай-Кюры. Праўда, у інстытут радыю я ісці адмовіўся — вабілі іншыя тэмы... Але не пайшоў я і па шляху таленавітага, але прагнага да грошай і поспеху Шуэлера, які свае таленты выплюхнуў у фарбу для валасоў. Ды яшчэ назваў яе гэтак па-мешчукоўску — «Ларэаль». Цяпер ён уладальнік аднайменнай фірмы. Што ж, магчыма, і фарба для валасоў можа зрабіць чалавека знакамітым.

Давялося паездзіць па свеце. Прага, Вена, Лондан... Ці быў я шчаслівы? Што за некарэктнае пытанне? Якое права я меў на шчасце? Я марыў пра адно — працаваць да знямогі і аднойчы памерці ў лабараторыі. Я не арыгінальны — мне падабалася, як гэтак жа сфармуляваў пра сваё пісанне Кафка. Падобна, мая мара пачынала збывацца... Але сябар не збіраўся пакідаць мяне сам-насам з ёю. Гэта была ягоная вялікая памылка. Якая, між іншым, забіла наша сяброўства.

І вось, уявіце... Восень 1920 года. Не такая, як тут, шэрая, дажджлівая, а — цёплая, як шклянка сырадою, з сінім-сінім небам над бульварамі, з залатым лісцем каштанаў. Быў такі пісьменнік, Аляксандр Зеваэс... Дык ён пра дваццатыя гады ў Парыжы сказаў так: «Пагоня за любоўнымі прыгодамі і мільёнамі, за задавальненнямі і радасцямі жыцця. На кожным куце расчынілі дзверы танцзалы, куды спяшалася стракатая публіка... Таньчылі апантана, каб забыцца, апаматацца ад узрушэнняў вайны...»

Парыж той пары называлі Віль-Люм’ер, горад святла.

Калі падчас ваенных дзеянняў Акерман працаваў у шпіталі, ён пасябраваў там з дзіўным маладым французам, таксама студэнтам, толькі маладзейшым на некалькі гадоў, які спецыялізаваўся на псіхічных хваробах. Звалі французіка Андрэ Брэтон. А дзіўны ён быў таму, што яго на фоне скрываўленых целаў перапаўнялі выбуховыя ідэі наконт стварэння новай культуры. Старая, як вядома, заўсёды ні да падлы. Новую трэба.

Брэтон сцвярджаў, што новы від мастацтва — гэта калі страляеш з двух рэвальвераў у натоўп, адмыслова не цэлячыся і ўвогуле не маючы пэўнай мэты. Мастацтва — не свядомасць, а падсвядомае. У ім няма ніякіх законаў. Яго мэта — новыя эмоцыі і ўражанні. Трэба дасягаць аўтаматычнага пісьма — каб свядомасць цалкам адключалася. Калі парэзаць газетны артыкул на радкі і адвольна іх скласці, атрымаецца паэма.

Брэтон прыдумаў назву ўсяму гэтаму блёкату — сюррэалізм. Наўрад памяць пра гэтыя выбрыкі засталася ў вашым часе. Але Уладзімір з задавальненнем удзельнічаў у сюррэалістычных вечарынах... Не без прафесійнага інтарэсу — збіраў таксама матэрыял для сваіх даследаванняў пра шызафрэнію, параною ды іншыя прыемныя інтэлектуалу з’явы.

І вось сюррэалісты задумалі грандыёзную імпрэзу — з нагоды адкрыцця чарговага Салона. Не было для авангардыстаў лепшага пудзіла, чым Салон. Традыцыйная штогадовая мастацкая выстава пры Акадэміі прыгожых мастацтваў. Рэцэнзіі на карціны пісалі лепшыя літаратары. Напрыклад, у свой час Дэні Дзідро. Выставіцца ў Салоне значыла дамагчыся прызнання.

І, вядома, там калісьці панаваў акадэмічны, а значыць, замшэлы, спарахнелы, кансерватыўны стыль.

Учыніць нешта гарэзнае між карцін «спарахнелага мастацтва» — ура!

На гэты раз для сцэнарыя патрабаваліся петарды і феерверкі.

Дабра такога ў Парыжы было — хоць пацукоў тымі петардамі кармі. Але спадары сюррэалісты жадалі, каб узрыў петардаў нагадваў хрумст костак, а феерверкі — фантаны крыві. Здаецца, гэта мусіла сімвалізаваць пратэст супраць захопніцкай палітыкі імперыялістаў, альбо супраць эксплуатацыі працоўных, альбо ў падтрымку расійскай рэвалюцыі... Якая розніца? Галоўнае — напалохаць «абывацеля».

Акерман распавёў сябрам пра змрочнага дзівака з хімічнага факультэта, які можа зрабіць хоць вясёлку нябесную.

Я тады быў ужо чалавек цалкам самавіты. У свае трыццаць — прафесар, сам меў лабарантаў... Мог пераехаць у вялікую кватэру — але па-ранейшаму жыў у адным пакоі непадалёк ад лабараторыі. За маім акном рос каштан, ягоная вершаліна была абламаная, не ведаю кім... Калі я засяліўся, рана была яшчэ свежая. І каштан нават трохі прывяў. І я назіраў год за годам, як ён змагаецца за жыццё, каржакаваты, нібыта прыгорблены, няўклюдны, але кожную вясну ўсё болей дзівосных белых кветак падымаў да парыжскага неба на сваіх вузлаватых руках.

Каштан гэты, здаецца, таксама быў маім сябрам. І, можа, самым лепшым.

Ён, вядома, не стаў бы падгаворваць мяне ўзяць удзел у той сюррэалістычнай авантуры. Прызнаюся: аднаму Уладзіміру гэта б і не ўдалося. Але ягоная колішняя аднакурсніца Мары...

Та-ак, Мары была стыхія.

Калі Уладзімір нас пазнаёміў, мне было дваццаць сем, а ёй — дваццаць два. Першы год нашага знаёмства быў страчаны мною на тое, каб прымусіць чароўную птушку-парыжаначку з бліскучымі, як чорны агонь, вачыма назаўсёды забыцца шлях у маю лабараторыю, у мой пакой і ўвогуле каб яна пры сустрэчы, дрыжучы ад страху, пераходзіла на той бок вуліцы.

Дарэмна. Праз год я здаўся.

Мары здаваліся ўсе.

Яна вырасла ў арыстакратычнай прыстойнай сям'і (яе прозвішча гучэла з прыдомкам «дэ», у Правансе можна адшукаць разваліны замка пад тым жа назовам, а герб нагадваў пастку на матылёў, стракаты, як кветкавы луг). Мары скончыла каталіцкі пансіён... Потым састрыгла валасы, паступіла ва ўніверсітэт, звязалася з авангардыстамі... А шалёны тэмперамент у яе быў ад прыроды. Хвалілася, што адна з ейных пра-пра-прабабуль забіла мячом нявернага мужа, а потым узброіла слуг і адбіла напад каралеўскіх жаўнераў, пасланых звяршыць правасуддзе над дзёрзкай кабетай.

Мары як найвялікшую святыню захоўвала парык гэтай пра-пра, якой, здаецца, усё-ткі адсеклі галаву на пласе. Шэры, страшны, але пудра на ім усё яшчэ пахла мелісай.

Мая сяброўка насіла шаравары, цюрбаны і курыла доўгія таненькія цыгарэты. Яе малявалі Жаан Міро і Андрэ Масон... Абодва сюррэалісты, вядома.

Калі вы лічыце, што я быў яе адзіным каханнем ці што я ўвогуле быў яе каханнем, — памыляецеся.

Сям'я, манагамія, вернасць — гэта лічылася таксама «спарахнелым». Мары нагадвала мне гераіню беларускай балады пра вайтоўну:

Ой, загадалі на вайну
Нашаму войту самаму.
Ў нашага войта сынаў нет,
Адна дачушка на раду.
А скуй жа, бацька, востры меч,
Каб добра была войска сеч.
Мячом вайтоўна махнула,
Палова войска палягла.

Я пераклаў гэтую баладу на французскую мову, і мадэмуазэль сюррэалістка з задавальненнем яе распявала.

Мары ўдалося па-сапраўднаму раззлаваць мяне абвінавачваннямі ў баязлівасці. І... урэшце, я вырас у балагане... І я зрабіў ім піратэхнічнае начынне, не без задавальнення, тым болей гэта быў выклік маёй прафесійнай годнасці. Агонь мусіў атрымлівацца цьмяны, густога пунсовага коле-

ру... І нічога не падпаліць. Не хапала мне яшчэ няшчасных выпадкаў па маёй віне! Шляхціц Казімір Семяновіч раіў, каб зрабіць агонь крывавым, выкарыстоўваць сурму... Ну і я ад сябе такія-сякія формулы дадаў...

Мары, вядома, павяла мяне глядзець на мяркуемае бясчынства.

Публіка, у прынцыпе, была ўжо «пужаная». Пасля скандалу, што ўчынілі тут яшчэ ў 1885 годзе імпрэсіяністы, чаго толькі не нагледзелася. Магу паспрачацца на мікраскоп — большасць прыйшла менавіта ў спадзеве на чарговы скандал.

Як на мой густ, не былі выстаўленыя працы такімі ўжо «спарахнеласцямі». Меліся і карціны, цалкам адпаведныя назве «сучаснае мастацтва», калі з хаатычных рознакаляровых пісягоў альбо разбэрсаных геаметрычных формаў вымалёўвалася чыясь постаць альбо пейзаж. Я хадзіў пад руку з Мары ад карціны да карціны, на гэты раз асабліва шмат вывесілі сюжэтаў з самалётамі ды авіятарамі, і нават забыўся на злавесныя планы «брэтонаўцаў». Уладзіміра адсунуў некуды ўбок натоўп, але гэта і лепей — Акерман нерваваў мяне, бо ўсё азіраўся па баках ды па-змоўніцку ўсміхаўся.

Я разглядаў нацюрморт ва ўсходнім стылі з парушэннем усіх магчымых законаў перспектывы (Леанарда да Вінчы ў труне верацяном круціўся): шклянка з сінім напоем, сіне-зялёна-чырвона-жоўты персідскі дыван, кальян, якім карыстаўся нейкі Геркулес, што не кантраляваў уласнае моцы і таму бязлітасна пагнуў узорысты метал...

Раптам за нашымі спінамі пачуўся гучны хрумст, нібыта нешта зламалася.

Эфект добра мне знаёмы, бо я сам яго адпрацоўваў.

— Пачалося! — Мары ў захапленні тузала мяне за руку.

І сапраўды, утварылася маленькае сюррэалістычнае пекла. Згасла святло, у цемры пачалі выбухаць крывавыя феерверкі, а пад нагамі перапуджанай публікі гучна хрумсцелі-выбухалі петарды.

Брэтон з кампаніяй выбеглі ў белых балахонах, якія ў святле феерверкаў здаваліся крывавымі. Нехта з яго каман-

ды апусціўся на карачкі і, брэшучы па-сабачы, пачаў ганяць дам і нават якойсьці ўчапіўся ў лытку.

Божухна, які ўсчаўся віскат... Беганіна... Вогненныя водбліскі... Відовішча з Дантэ альбо Босха. Чаму наведнікі не ўцякалі? Як я зразумеў, сябрукі Акермана не толькі выключылі святло, але і зачынілі ўваходныя дзверы.

Сказаць вам праўду? Мне гэта спадабалася.

Я ніколі не любіў натоўп. Гэтую шматгаловую, шматногую пачварыну, прагную, бязмозглую, сляпую, якая намацвае шлях тысячамі маленькіх вусікаў і заўсёды гатовая шарахнуцца ў той ці іншы бок, кагосьці зжэрці, стаптаць, усмактаць у сябе альбо завібрыраваць ад захаплення, як рабак, які аб’еўся асабліва тлустага дзярма, і падсадзіць чарговага і часовага куміра на сваю спіну... Калі я сядзеў у жалезным чэраве мадам Таро, я часта марыў, каб цікаўныя тубыльцы, што тоўпіліся на пляцы перад балаганам, раптам пачалі вось гэтак жа вішчаць, бегаць, спатыкацца, падаць...

І цяпер я адчуваў, што мае вусны мімаволі расцягваюцца ва ўсмешцы, што я, прынамсі, Фаўст... Бо Мефістофелем мне не дазваляла назваць сябе нават у думках бабуліна хрысціянскае выхаванне. Мары падскоквала ад захаплення, цалавала мяне і крычала, што я геній...

Я і сам гэта ведаў.

Уладзімір матэрыялізаваўся побач з намі.

— Заўважце, як паводзяцца астэнічныя асобы... Вунь тая мадам, напрыклад... Якая прыцiскае да грудзей сумачку...

Як ён кагось асобнага мог разгледзець у гэтай змрочна-цьмянай куламесе? Між тым натоўп закрычаў асабліва адчайна — сапраўды як адзін арганізм, і пачаў рассоўвацца далей ад цэнтра.

На імгненне ўключылася святло... І я пабачыў пасярод залы мерцвяка.

Малады мужчына ў звычайным, як на многіх з прысутных, чорным касцюме, чамусьці ў капелюшы, які ад падзення не адкаціўся ўбок, глядзеў у столь. І сёння магу аднавіць у памяці гэты твар з ненатуральна жоўтай скурай, шырока расплюшчанымі светлымі вачыма і сціснутымі яркімі вуснамі.

Запомнілася яшчэ, што ягоны гальштук-батэрфляй з'ехаў набок, нібыта да шыі пад левым вухам прысмактаўся кажанвампір.

Святло зараз жа пагасла. Пасля гэтага, відаць, дзверы адчыніліся, таму што людзей пачало менець, нібыта ў цемры рассыпалася, распаўзалася агромністае кубло змей.

Я моўчкі стаяў і глядзеў у той бок, дзе ляжаў мёртвы. Я разумеў, што гэта я забіў яго.

Зноў стаў прычынай гібелі ні ў чым не вінаватага чалавека.

І ад таго, што толькі што перажываў ганарлівае захапленне, мне было яшчэ горш.

Падчас вайны я бачыў мноства трупаў. І куды болей страшнейшых, чым гэты, рэспектабельны... Але яго тут не мусіла быць!

Мары тузанула мяне за руку:

— Фараоны! Уцякаем!

Я стаяў нерухома. Мне здавалася, што я ператварыўся ў свінцовы стод і мяне можна толькі паваліць, але не ссунуць з месца.

Спадчынніца ваяўнічай прабабулі злосна закрычала мне ў вуха:

— Ты што, хочаш нас усіх здаць?

Божухна, усё паўтараецца, як і вучыць нас гісторыя чалавецтва, вучыцца ў якой мы, аднак, не хочам.

Не памятаю, як мы апынуліся на вуліцы, як усёй кампаніяй заваліліся ў нейкую кавярню на Манмартры... Я не мог зразумець, чаму ўсе так весела рагочуць, віншуюць адзін аднаго і мяне — з чым? З тым, што мы сталі забойцамі? Я спрабаваў пытацца, што сталася з тым няшчасным — яго штурханулі, і ён няўдала ўпаў, ці ў яго было слабое сэрца? Але мае роспыты сустракаліся рогатам, Мары абдымала мяне і крычала, што ў душы ейнага змрочнага алхіміка жыве залатое дзіця, а Валодзя Акерман спачувальна ўсміхаўся...

Як я напіўся тым вечарам! Не прыпомню іншага выпадку, каб я мог у сябе ўліць столькі віна. Чым болей я піў, тым выразней бачылася мая будучыня: я мушу здацца паліцыі. Узяць усё на сябе. Я прыдумаў, я здзейсніў... І ніхто больш.

Проста я нават п'яны не ведаў, як жыць далей з гэтым... Акерман зноў нешта казаў пра падсвядомае жаданне быць пакараным і суіцыдальныя схільнасці... Другія ляпалі мяне па плячы ў адказ на мой п'яны блёкат: «Не хвалюйся, Валеры, мы заўтра самі цябе адвядзём у жандармерыю!»

Урэшце Мары завяла мяне ў нейкую кватэру, помню толькі шматлікія ўсходнія статуэткі, якія са звонкім стукам падалі пры маім набліжэнні, і агромністы, як іпадром, ложак, накрыты коўдрай з пунсовага атласу.

— Апошняя ноч асуджанага на смерць! — урачыста абвясціла Мары. — Гэтую ноч ты не забудзеш ніколі!

Яна памылялася. Пасля трох бутэлек таннага савіньёну нават самыя афрыканскія жарсці памятаюцца надзвычай цьмяна.

Мяне пабудзіў прамень ранішняга сонца, што нахабна прабіваўся скрозь шчыліну ў цяжкіх аксамітных парцьерах. Я адмахнуўся ад яго, як ад залатой мухі, але адразу страшэнны боль, наступства савіньёну, працяў галаву. Я застагнаў... Учарашняе пачало праяўляцца, як дагератыпная пласцінка, але ў зваротнай паслядоўнасці. Мары — кавярня — салон — труп...

Мне ж трэба ў жандармерыю!

Я працягнуў руку на другі бок ложка.

— Мары...

Але рука мая наторкнулася на нешта нерухома-халоднае. Я проста на фізічным узроўні адчуў прысутнасць смерці... Ускочыў... Пунсовая коўдра зляцела на падлогу...

На ложку, шырокім, як іпадром, ляжаў учарашні труп з Салона. Я выдатна пазнаў яго. Жоўтая скура, светлыя невыразныя вочы, яркія вусны... Толькі капелюша няма. І — верхняй часткі чэрапа няма, і добра відаць усё начынне мозга. Паўшар'і, падобныя да грэцкага арэха, вены, крывяносныя сасуды...

Адзіная дробязь, якая ўчора мною не заўважылася, — усё гэта было выраблена з воску.

Спадары сюррэалісты падкінулі ў залу выставы васковы манекен з анатамічнага тэатра.

Я зноў адчуў сябе трынаццацігадовым хлапчуком, якога пачапілі на крук пад столлю балагана.

Я сышоў з прытулку «апошняй перад смяротным пакараннем» ночы. І гэта сапраўды была мая апошняя ноч з Мары. Больш не хацеў бачыць ні яе, ні Акермана, ні іхніх сябрукоў, аматараў аўтаматычнага пісьма.

Яна прыходзіла, падоўгу стукалася ў дзверы, крыўдзілася... І Акерман, якога я перастаў заўважаць, сыпаў мне ў спіну тэрмінамі псіхааналізу...

Што ж, я — такі, які я ёсць... Можа, каб я быў больш шчырым і распавёў у свой час Уладзіміру пра Соню і Сяргея, ён не дазволіў бы сыграць са мною такі жарт. А так, магчыма, меў найлепшыя намеры. Ад перажытага шоку я, напрыклад, пачаў бы, паводле ягонай тэорыі, болей цаніць радасці жыцця, зразумеў бы, што ўсё, што мяне палохае, не болей чым манекен, лялька.

Ён не ведаў і пра тое, што я сам доўгі час быў у ролі лялькі.

Такім чынам, паводле этыкі псіхааналізу, ён не быў вінаваты — прычынай няўдалага лячэння стала няшчырасць пацыента.

Але размаўляць з ім я ўсё роўна не хацеў.

А Мары... Яна, я думаю, хутка суцешылася. Алхімік-мізантроп, вядома, добрая прыкраса для звярынца амазон-феміністкі, але гэта ўсяго толькі адзін з экзэмпляраў.

Дзесьці ў трыццатым годзе мне паказвалі альбом з рэпрадукцыямі карцін, выстаўленых на апошнім Парыжскім салоне. І на адным з палотнаў, як мне здаецца, я пазнаў Мары. Ейныя вялікія вільготныя вочы — чорны агонь, прыўзняты дзёрзкі носік, прыадчыненыя ў вечным здзіўленні вусны...

Я вярнуўся на Беларусь тады, калі з Савецкага Саюза параходамі высылалі філосафаў, паэтаў, эканамістаў... Усіх «прафесараў па грамадскіх навуках», якіх Ленін страшэнна ненавідзеў і якім пагражаў расстрэл за недазволенае вяртанне. Але нехта ж там заставаўся... У 1922 годзе Францыю наведаў акадэмік Вярнадскі, з нявысланых, які распавядаў, як у Маскоўскім універсітэце студэнтаў абавязалі сачыць

за прафесарамі, даносіць на іх і адзін на аднаго... Пра «маральны і разумовы прыгнёт»...

«Интеллектуальные силы рабочих и крестьян растут и крепнут в борьбе за свержение буржуазии и ее пособников, интеллигентиков, лакеев капитала, мнящих себя мозгом нации. На деле это не мозг, а говно».

Мне пераказвалі гэты змест ліста Леніна да Горкага... Але я вярнуўся. Беларускі ўніверсітэт — гэта быў цуд, у які яшчэ нядаўна мала хто верыў.

Я не шкадую, што вярнуўся.

У хуткім часе пасля мяне прыехаў у Савецкі Саюз і Валодзя Акерман. Ён стаў старшым судовым экспертам у Маскве, праславіўся даследаваннямі шызафрэніі...

Так што, відаць, даводзілася яму даваць заключэнні наконт псіхічнага стану вязняў — можа няшчасны яшчэ нешта звязнае вымавіць ці ўжо звар'яцеў ад здзекаў.

Адзіны мой сябра, які застаўся ў Парыжы, — малады каштан з паламанай вершалінай.

Хімік змоўк. А Даліла раптам асабліва злосна пракаментавала:

— Пазнаю спадара прафесара ў апошняй настальгічнатужлівай фразе! «Ніхто мяне не любіць, ніхто не разумее, толькі беднае, як я, паламанае дрэўца...» Ты... Вы... проста не жадаеце заўважаць добрых пачуццяў! — Даліла амаль крычала. — Колькі цудоўных людзей сустракалася на вашым шляху! Мадам Трыксці з балагана, што вучыла вас чытаць... Настаўнік Колба... Той самы Акерман... Нічыпаровіч... А Мары ды Антаніна! Вы што, праўда не разумееце, што яны шчыра вас кахалі?

Скаловіч апусціў галаву. Я заўважыла, што ягоныя пальцы сціснуліся, аж збялелі.

— Справа не ў людзях... Справа ўва мне. Я нікому не магу даць шчасця.

— А яны ў вас што-небудзь прасілі? — вусны Далілы дрыжэлі. — Усяго толькі дазволіць быць побач!

— Калі вы стаіце на краі абрыву, які штохвілі можа абсунуцца, вы дазволіце дарагому чалавеку стаяць побач з вамі? І ўвогуле — я ніколі і не сцвярджаў, што я добры чалавек.

— Яшчэ б! — раздражнёна гукнула Даліла, а потым нейкім дзіўным голасам спытала: — Яна была прыгожая? Гэтая... Мары?

— Прыгожая, — спакойна адказаў прафесар.

— І... вы па ёй сумавалі?

— Дужа сумаваў.

— Я вас ненавіджу! — раптам зноў псіханула мая сяброўка.

— Гэта ваша права.

Даліла і Скаловіч працягвалі лаяцца, а я раптам усвядоміла, што за ўвесь гэты час... Нават ад таго моманту, як падышла да дома на могілках... Ні разу не ўспомніла пра Едруся.

Неверагодна. За апошні год гэта стала для мяне як ціканне гадзінніка. Кварцавыя гадзіннікі цікаюць вельмі ціха — але ўсё-ткі гук ёсць, і калі паднесці да вуха, то пачуеш пяшчотнае тахканне ліліпуцкага сталёвага сэрца.

Вось ты ходзіш, спіш з гадзіннікам пад падушкай — а яно тахкае, ні на міг не спыняючыся.

Ты яго не чуеш, не накручваеш спружынку, але ведаеш, што тахкае.

Так для мяне быў успамін пра Едруся.

Я ішла ў інстытут, сядзела на лекцыях, ехала дадому, і дзесьці фонам было — вось Едрусь прачнуўся, вось пакуе газеты, вось ідзе ў пераход прадаваць іх заспаным няшчасным мінчукам, якія мала купляюць газеты, дзе пішуць непрыемнае, але і тыя, дзе пішуць прыемнае — пра вяселлі «зорак», на якія іх ніколі не запросяць, альбо збудаваныя для іх, шараговых грамадзянаў, палацы, у якіх яны і іх дзеці, магчыма, таксама ніколі не пабудуць, — купляюць таксама меней... А вось ён вяртаецца ў свой падвальчык, кладоўку ў Доме культуры, дзе падпрацоўваў ды-джэем плюс вартаўніком і якому ўсё роўна аддаваў перавагу перад домам ля могілак... Вось бярэ гітару, пяшчотна кранае струны... А вось Едрусь на сцэне... І дзяўчаты глядзяць-глядзяць-глядзяць на яго...

І вось раптам тахканне гадзінніка спыняецца, я перастаю думаць пра Едруся.

Чаму?

Мне не дадзена было ў той момант адшукаць адказ.

У канцы калідора бразнулі дзверы. Я зразумела, што гэта па нашыя душы.

Рана на рану кладзецца, як лёд — на крышталь.
Падае сэрца ў халодную яміну болю.
Сонца маё, мой далёкі святарны Грааль,
Я не пабачу цябе, я змірыўся з «ніколі».
Іншы, не спэцканы грэшнаю страсцю сваёй,
Не Ланцэлот, каралевай чужой цалаваны,
Пройдзе праз могілкі, не сцеражоны змяёй,
Чару не вып'е з крывёю з уласнае раны.
Кропля атраманту ў шклянку — няма чысціні.
Блазнам не месца ў святыні. Смяротнае джала.
Мой беззаганны, на камні дарогі зірні —
Кроў мая шлях для цябе на камнях пазначала.

**ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ-8**

Мы з Далілай, не гледзячы адна на адну, сышлі з бетоннага ганка апорнага пункту аховы правапарадку ў прыцемак і невядомасць.

Вечаровае восеньскае паветра мае прысмак дыму.

Апошнім часам апалую лістоту ў нашым горадзе паляць менш, чым раней, калі абрысы вуліц бачыліся праз вэлюм, утвораны душамі лістоў, якія прайшлі праз чысцец вогнішчаў, але не спяшаліся ўзняцца ў халодныя нябёсы.

— Даліла! Руслана! Як вы? А дзе Скаловіч?

«Тры волаты» спяшаліся сюды, не паверыўшы тэлефанаванню Далілы, што ўсё ў парадку, нас ужо выпускаюць і не варта турбавацца... Генусь ішоў наводдаль, моўчкі глядзеў спадылба, праз чорныя прадкі валасоў... Макс трымаў за руку Віку, якая вырвалася і пабегла да маці. А Едрусь... Едрусь наблізіўся да мяне, але неяк нясмела, нібыта не быў упэўнены, што я зноў ад яго не ўцяку:

— Ну як ты, малая? Гэта ж трэба — і цябе забралі... З баявым хрышчэннем!

І я адчувала сябе чамусьці вельмі вінаватай перад ім, таму што вось ужо сем гадзінаў пра яго не думала.

Ён, вядома, не падазраваў, што я пра яго думала раней, пра тахканне гадзінніка, але мне ўсё роўна было сорамна. Нібыта ён зараз мог сказаць: «А чаму гэта ты перастала пра мяне думаць?»

А музыка раптам збянтэжана прамовіў:

— Ну ты даеш... На званкі не адказваеш... Я нават некалькі разоў да твайго дома падыходзіў — святло ў тваім акне гарыць, сілуэт за шторай...

Якім шчасцем для мяне калісьці было б гэта пачуць... Цяпер жа іншае вярэдзіла душу. Я азірнулася на Далілу.

Тая, апусціўшы галаву, прыціскала да сябе Віку. Але я не збіралася сама адказваць на пытанне, якое гучала ўсё настойлівей:

— Дык дзе Скаловіч?

Нарэшце Даліла падняла галаву. Яе зялёныя вочы чамусьці нагадвалі сарванае лісце.

— Спадара Валяр'яна адвезлі ў бальніцу...

Вось, вось, хай сама расказвае... Як невыносны ўпарты Скаловіч цвяліў міліцыянтаў... Як яго паклікалі на асобную размову ў нейкі кабінет... Як праз нейкі час туды ж увайшлі два дужыя санітары ў белых халатах і доктар... Прафесар жа без дакументаў, і гаворыць на літаратурнай беларускай мове, і яшчэ... Ён геній, але з іншага часу. Не ведае многіх элементарных для нас рэчаў, як чалавек XVIII стагоддзя не ведаў бы, як можна іначай, чым у ягоным салоне, трактаваць мужчыну з нафарбаванымі вуснамі. Яны ж усе — палітыкі, паэты, філосафы, фінансісты, наведнікі салонаў і прыёмаў — фарбавалі вусны, румянілі шчокі, пудрыліся, малявалі сурмою бровы і «мушкі» — чорныя плямкі на твары. Бог яго ведае, што хімік там ляпнуў... Чаго не змог пазнаць... Мы ж, ідыёты, хавалі ад яго і гістарычныя падзеі, і рэаліі сучаснасці. У выніку нам паведамілі, што дзядзька наш відавочна з правaламі ў памяці, і яго адправяць у бальніцу.

Божа мой, асістэнт Марыі Складоўскай-Кюры, прафесар Сарбонскага ўніверсітэта, дэкан хімічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта — у мінскай «дурцы»! Ды яшчэ пасля ўсяго перажытага ў Жоўтым доме! З усімі сваімі шнарамі, ды яшчэ з мілай прывычкай ледзь не што-

ноч у сне праз роўныя прамежкі часу паўтараць занудным гучным голасам фразу: «Я не валодаю такой інфармацыяй». Відаць, вынік «канвеерных» шматдзённых допытаў — праўда, з прафесара каментарыяў не выцягнулі. Не любіць, ці ж бачыце, тэму. А Едрусь з-за гэткага «гукавога суправаджэння» нават начаваць у Разалінай хаце адмовіўся.

Мы сядзелі ў доме ля могілак, нібыта толькі што вярнуліся з пахавання. Усе прыгнечана маўчалі. Даліла такая напятая, нібыта чакае, што вось-вось на яе кінецца воўк.

А яна тады яго загрызе. Лёгка.

— Урэшце, па логіцы падзеяў, — разважна загаварыў Макс, — мы можам увогуле выкрасліць з памяці хіміка. Не было яго — ну і зноў няма. Ну, скажам, падабралі на могілках дзядзьку непрытомнага. Хто такі, адкуль — не ведаем. Хто ён нам?

— Ах ты, нягоднік! — Генусь ускочыў з зэдліка, сціснуўшы кулакі. Макс прымірэнча падняў да яго далоні.

— Ціха, ціха... Я проста гіпатэтычна...

— Морду біць за такую гіпатэтычнасць!

— Ты, дарэчы, і Скаловічу збіраўся морду біць, — насмешліва парыраваў Макс. — А каб зрабіў яму па сваіх хакерскіх каналах хоць якое пасведчанне, як абяцаў, — усё-ткі надзея...

— І яшчэ яму, калі спатрэбіцца, морду наб'ю! — гнеўна адказаў Генусь. — Але набіць морду і кінуць падыхаць у дурдоме — розныя рэчы!

— Ніякай надзеі не было. Ён сам захацеў застацца, хоць мог сысці, — падала голас Даліла. Нейкі металёва-нежыццёвы голас, які мне надта не спадабаўся. — Гэта ягоны выбар.

Паколькі не ўсе ведалі, што адбылося ў доме раніцай, — мне давялося распавядаць.

— Гнюсная гісторыя, — спакойна прамовіў Едрусь. — Спадар Валяр'ян — чалавек, варты ўсіх нас разам узятых. Што вы цяпер, збіраецеся апельсіны яму ў Навінкі насіць і тым сумленне суцяшаць? Супер! Вы як хочаце, а я зраблю ўсё, каб...

— І што ты зробіш? — іранічна спытаў Макс. — Налёт на псіхушку?

— Ну вось што, спадарства, — Даліла нарэшце ачомалася і паднялася. — Заўтра я сама пагавару з міліцыянтамі. Макс, Генусь, пашукайце яшчэ звестак пра гісторыю месца, на якім збудаваны гэты дом. Ну не можа быць, каб болей нічога... Любыя, самыя сумнеўныя гіпотэзы... Чуткі... Паданні... Усё, што заўгодна. А ты, Руслана...

— Ты ўсё яшчэ лічыш сябе лідарам тусоўкі? — злосна спытаў Генусь. — Камандуеш? Пасля ўсяго, што ты натварыла, — гэта ж усё з-за цябе, ты прыдумала гэтыя нялюдскія падарожжы, прыцягнула прафесара ў наш час... Ды яшчэ пасля таго, як я бачыў, як ты са Скаловічам...

— Заторкніся! — Даліла крыкнула, нібыта ўдарыла маланкай. — Не твая справа, з кім я і дзе. І ўвогуле — хто не хоча ратаваць хіміка — валіце...

Генусь павярнуўся да мяне.

— Руслана, скажы ты...

Едрусь і Макс чамусьці таксама павярнуліся ў мой бок з сур'ёзным чаканнем.

Няўжо кагосьці зацікавіла маё меркаванне?

А Едрусь раптам прамовіў:

— Я веру Руслане. Няхай яна скажа, што рабіць.

Я сустрэлася поглядам з ягонымі шэрымі вачыма і зразумела, што ніхто тут не жартуе. Ім сапраўды важна, што я скажу. Зірнула на Далілу... Мая сяброўка ўсміхалася неяк крыва... Яе ўсмешка нечым нагадвала фірмовую ўсмешку Скаловіча.

Я ўспомніла, як пераможна яна ўсміхалася, калі зваліла непрытомнага хіміка пад нашы ногі пасля свайго апошняга падарожжа...

Паўза зацягвалася. Мы тут свае мікраскапічныя амбіцыі вырашаем, а Валяр'ян Скаловіч працягвае ісці па сваім пекле...

— Варта паразмаўляць і з міліцыянтамі, — сказала я. — Але найперш трэба яшчэ пагаварыць і з гаспадаром суседняга маёнтка. Ясная справа — без яго не абышлося. Увогуле, думаю, налёт на нас — ягоная справа. Праплаціў. Дом забраць хоча... Напэўна, і прафесара ў дурдом запхнуў у якасці закладніка. І наконт гісторыі... Неадменна нешта

на гэтым месцы мусіла здарыцца ў 1933 годзе. І, можа быць, наш прафесар нейкім чынам да гэтага датычны. Паспрабую знайсці яго і распытаць. І варта яшчэ раз дом і ўсё вакол дома агледзець. Кожны прадмет. І нам спатрэбяцца грошы. Шмат грошай. Думайце кожны, дзе ўзяць.

І я падышла да абразоў, як гэта рабіў прафесар, і, не звяртаючы ўвагі на тых, хто побач, і як яны на гэта рэагуюць, перахрысцілася і памалілася аб тым, каму зараз дапамога была патрэбная болей за ўсіх.

Мы з Едрусем сядзелі ў бальнічным калідоры. Я не разумею, чаму бальніцы і паліклінікі ў нас абавязкова мусяць быць падобнымі да турмаў, нібыта іх будуюць па адных праектах. Можа, ад таго, што сцены і там, і там пранізаныя людскім болем, пакутлівым чаканнем, нянавісцю?

Думаеце, мала нянавісці ў той жа раённай паліклініцы? А вы хоць раз сядзелі ў чарзе на прыём да ўчастковага ўрача? Калі перад табой — чалавек дваццаць, палова — з талончыкамі, палова — па жывой чарзе, а яшчэ прыкульгваюць ветэраны, якія ідуць без чаргі, і абавязкова якая-небудзь бабулька з кульбачкай, якую прыводзяць пад рукі з кабінета галоўурача, таму што яна нічога не памятае, але ёй таксама кепска, таксама баліць... А яшчэ тры-чатыры бабулькі, якія ходзяць сюды, бо больш няма куды ісці, бо толькі тут можна пасядзець між людзямі, паскардзіцца, паўспамінаць, і цябе выслухаюць.

А тут, дзе мы сядзелі, было псіхіятрычнае аддзяленне... Воля ваша, але я веру, што псіхічныя хваробы заразныя. Помню, як у кавярні «Вясна», дзе цяпер нейкая іспанская рэстарацыя, працавала пасудамыйкай паэтка, выпускніца маскоўскага інстытута... Яна любіла хадзіць па праспекце ў вязанай шапачцы, са сшыткам, і на хаду запісвала вершы.

Аднойчы я доўга ішла за ёю, назірала... Ну як жа, абавязак літаратара — вывучаць фактуру! А потым, вярнуўшыся дадому, ніяк не магла прывесці ў парадак думкі, якія разбягаліся спалохана, як дзеці ад Фрэдзі Кругера, і мне здавалася, зараз з маіх вуснаў сарвецца таксама няўцямны блёкат, вер-

шаваныя радкі, скажоныя да непазнавальнасці, як пусты скамечаны пачак ад чыпсаў.

Сказаць, што мне было няўтульна між гэтых брудна-зялёных сценаў, — значыць, сказаць пра матылька, што яму цёпла ў вогнішчы. Мне было жудасна, страшна, тужліва...

А Едрусь толькі жмурыў свае шэрыя вочы, нібыта святло лямпачкі ў жалезнай клетцы яго сляпіла. Хаця насамрэч было яно цьмянае, як лекцыя па сацыяльна-палітычнай філасофіі, прачытаная цёткай марксісцкага ўзросту па канспекце дваццацігадовай даўнасці.

Каржакаваты руды санітар, які прыняў Едрусевы даляры, з'явіўся з-за жалезных дзвярэй, нібыта захавальнік атамнай бомбы. Пасля доўгіх перамоў санітар пагадзіўся ўсё-ткі правесці на «падпольнае» спатканне мяне адну. Едрусь у сваім чорным «прыкідзе» — скураной куртцы, высокіх чаравіках-камэлотах — ды з доўгім бялявым хвастом выглядаў занадта падазрона. А мне быў выдадзены белы халат і шапачка, а таксама ліквідаваная завушніца ў губе.

Рокер агледзеў мяне і падняў вялікі палец: маўляў, класна выглядаеш, малая. Чыста медсястра.

— Няўжо камусьці ў ахвоту размаўляць з гэтым тыпам? — мармытнуў санітар, калі праводзіў мяне ў пакой для спатканняў. Я зразумела, што прафесар са сваім «анёльскім» характарам паспеў дастаць нават супрацоўнікаў псіхушкі.

У гэтым пакоі зусім не было вокнаў. На зялёных сценах (зноў усюдыісны практычны колер!) замест карцін віселі, прымацаваныя скотчам, карысныя плакаты пра тое, як захоўвацца ад СНІДу, пра шкоду наркаманіі і карысць фізкультуры. Бравы лыжнік у сіняй шапачцы набакір заклікаў далучацца да здаровага ладу жыцця, з-пад ягоных лыжаў фантанам вылятаў снег, а над правым плячом, як быццам матэрыялізаваны дух продка, грувасціліся слупкі парад па правільнаму харчаванню. Зерневыя, садавіна, адварная ялавічына, кефір... Лямпа гарэла люмінесцэнтная, пад столлю, ненатуральна яркая. Мяне пасадзілі за шырокі пісьмовы стол, які звычайна купляюць для бедных дзяржаўных кантор. Дзверы насупраць адчыніліся, і ўвайшоў Валяр'ян

Скаловіч у сіняй піжаме, які сеў на крэсла па той бок стала. Санітар прыладкаваўся наводдаль, каб бачыць нас...

Мне было ўсё роўна, я глядзела на прафесара. Не ведаю, што спадзявалася ўбачыць, — быццам суткі ў псіхушцы могуць змяніць чалавека да непазнавальнасці. Прынамсі, даводзілася назіраць Скаловіча куды ў горшым стане. Ды і сіняя выцвілая піжама выглядала ўсё-ткі больш памужчынску, чым Разалін халат у жоўтыя зайчыкі.

Скаловіч па-ранейшаму пазіраў ганарыста, хаця хударлявы гарбаносы твар стомлены, і яшчэ мне чамусьці падалося, што прафесар чакаў замест мяне ўбачыць кагосьці іншага. Нейкая жарынка расчаравання загарэлася і згасла ў ягоных цёмных вачах. Але тон ягоны ні на каліўца не змяніўся.

— Нарэшце вы выглядаеце, як прыстойная дзяўчына.

Што ў перакладзе на звычайную мову, напэўна, можна было ўспрыняць як «Прывітанне, Руслана, рады цябе бачыць».

— Добры вечар, спадар Валяр'ян.

— На жаль, мне пасля конскай порцыі брому цяжка зразумець, вечар альбо раніца. Але, прынамсі, гэта ўсё яшчэ стары добры бром.

Не было калі траціць час на спачуванні і роспыты «Як вас кормяць?» ды «Ці не крыўдзяць?».

Таму я адразу, паўшэптам, каб не чуў санітар, распавяла пра нашыя планы, у тым ліку спадзевы адкрыць сакрэт Разалінага дамка.

— Успомніце, калі ласка, у трыццаць трэцім годзе вы былі на гэтых могілках, паблізу ад дома Разаліі Іванаўны? Ці, можа, чулі што-небудзь пра гэтае месца?

Прафесар задумаўся. Зморшчына між броваў паглыбілася, і вочы, цёмна-зялёныя, як вада ў віры, зірнулі на мяне цалкам сур'ёзна. Вось табе на... Калі ў гэтых вачах не было насмешкі, мне, аказваецца, чамусьці было трывожна у іх глядзець... Як з акна высокага паверха. І прыцягвае, і баішся ўпасці. Потым позірк прафесара ўпёрся ў сасновую паверхню стала, у якой, аднак, не было нічога цікавага — бо гэта не натуральнае дрэва, а пліта з пілавіння і клею, з плёнкай, што імітуе драўніну. Без сучкоў, без незвычайных разводаў,

у якіх пры жаданні можна ўбачыць нейкія вобразы. Нават нічога не надрапалі на гэтай мёртвай паверхні. Толькі яна нібыта памутнела ды пакрылася плямамі ад усхваляванага дыхання ды мноства цяжкіх адчайных позіркаў.

Скаловіч ціха загаварыў.

— Мяне забралі амаль адразу пасля таго, як памерла Антаніна. Яе муж са сваім сябруком Андрэем прыходзілі мяне дапытваць. Праўда, у адрозненне ад згаданага Андрэя, які займаў пасаду інструктара па допытах — на яе бралі асабліва спрактыкаваных і фізічна дужых, таварыш камсорг быў аматарам. Але затое зацятым. А я... Я і без крыкаў камсорга быў упэўнены, што стаўся прычынай смерці ягонай жонкі. І... лічыў, што ён, напэўна, мае права рабіць са мною тое, што... рабіў. Я тады сам сябе гатовы быў закатаваць. Карацей, гэта не былі самыя лёгкія дні ў маім жыцці. Трэба згадаць, што ў мяне мелася прывілея — ніколі не білі па твары і галаве. І кісці рук не чапалі. Чаму? Здагадайцеся... Калі ў турме тысячы людзей са спухлымі, збітымі абліччамі, з крывавымі язвамі на галовах — там, дзе вырывалі валасы, з раструшчанымі пальцамі, як мусіць успрымацца нечапаны твар? Таму даведзеныя да паўжывёльнага стану мае знаёмыя і кідаліся на мяне. Адзін, калі сіл ударыць у яго не было, пачаў мяне кусаць і драпаць... Бядак... Так што прывілея адносная. Тым болей калі ў нос гадзінамі льюць ваду і нашатыр, гэта не лягчэй, чым калі выдзіраюць валасы. Апошняе наваўвядзенне, з нашатырам, якраз змагары з контррэвалюцыяй маглі выпрабаваць на чарговай порцыі вязняў. Пачынаўся працэс «Беларускай народнай грамады». Гэта меркаваўся працяг справы пра «контррэвалюцыйны «Саюз вызвалення беларускага народа», якая адыгралася трыма гадамі раней. Запэўніваю вас — такая ж містыфікацыя. Было ўжо дастаткова людзей, якія пачыналі разумець усе «вабноты» гэтай улады. Але сярод арыштаваных, напэўна, не мелася ніводнага, прынамсі, я такіх не ведаў, хто быў бы гатовы са зброяй у руках звяргаць Саветы, забіваць камісараў... Арышту падлягалі навукоўцы, пісьменнікі, святары, настаўнікі. У 1930-м па справе гэтага «Саюза» хапанулі дзесьці чалавек сто. Сярод іх — найлеп-

шыя пісьменнікі. Дубоўка, Пушча, Антон Адамовіч, Жылка, Гарэцкі, Бабарэка, Гурло, Шашалевіч... Усіх не peралічу. Янку Купалу цягалі. Пасля гэтага ён разрэзаў сабе сцізорыкам жывот. Многіх выслалі, некаторых і адпусцілі — пад нагляд, на перавыхаванне. Тады я яшчэ не спаткаўся з Крэчатам і з таварышам Касіянавым. З маёй кафедры забралі чатыры чалавекі. Вядома, мы спрабавалі нешта зрабіць... Мы ж усе верылі, што адбываюцца памылкі. Пісалі лісты, збіралі подпісы... З апошнім было цяжка. Вось калі я зрабіўся «штатным здраднікам», да мяне часам самі падыходзілі, каб папрасіць аб заступніцтве. А яшчэ смешна было сустракацца з некаторымі з тых, хто ўдзельнічаў у эксперыментах Касіянава. Бачу на калідоры ўніверсітэта чалавека, якога пераканалі, што я яго здаў, і які біў мяне за гэта ў кабінеце НКУС, а пасля рыдаў ад шчасця і замілавання ў абдоймах следчага... І ён глядзіць на мяне, як гусь на бліскавіцу, вітаецца і без усякіх эмоцый ідзе далей. І мы — нібыта багатыя кліенты бардэля для вычварэнцаў, што ў паўсядзённым жыцці нават знакам не намякнуць адзін аднаму, дзе разам бавілі час. Вядома, той-сёй, ачуняўшы, зразумеў, у якой інсцэніроўцы ўдзельнічаў... Але што яны маглі перайначыць, калі страх пасяліўся ў сэрцы? Каб вы бачылі, як гэта страшна — чалавек, які быў разумным, дасціпным, з нашым улюбёным інтэлігенцкім скепсісам, глядзіць на цябе пустымі вачыма, нібыта на дно іх наліта волава, і ўсяго яго распірае ад жадання служыць савецкай уладзе, даводзіць, які ён адданы ёй, як шчыра яе любіць... Як ён удзячны, што яна, Вялікая Маці, пад наглядам Вялікага правадыра, не адкінула, а перавыхавала, ачысціла, дазволіла слугаваць... Ён лёгка аддасць жыццё ці заб’е. Ён выказваецца толькі ўрыўкамі з газетных артыкулаў. І нават не хавае, што і гэтую нашу сустрэчу апіша ў «адчоце».

Ён нават і мне, здрадніку, удзячны — бо я ж цяпер у ягоных вачах не здраднік, а патрыёт, такі ж, якім зрабіўся ён.

Вы пытаеце, ці быў я на гэтых могілках у трыццаць трэцім? Я не ўпэўнены. Але вы прасілі — любыя здагадкі... Магу распавесці адзін выпадак. Падчас маёй апошняй адсідкі неяк уночы мяне вывелі з камеры, пераапранулі ў чыстае...

Я апынуўся ў добра знаёмым мне «Фордзе» разам з Мадэстам Касіянавым. Верх аўто быў падняты, горад асвятляўся не так, як цяпер, дый кеміў я на той момант марудна, таму нават уяўлення, куды мяне вязуць і навошта, не меў. Зрэшты, якая розніца? Калі мяне змусілі выйсці нібыта ў нейкім гаі і я ў зыркім святле фараў пабачыў свежавыкапаную яміну — у мяне ўнутры салаўі заспявалі. Божухна, няўжо нарэшце Ты даеш згоду мне сысці адсюль? Я агледзеўся: дзе мне давядзецца спачыць? Непадалёк зблiснулі крыжы... Могілкі. Выдатна! Нават не ў якой ляснои глушы, не ў балаціне...

Але магіла, глыбінёй дзесьці з метр, капалася не мне. З другой машыны, з закрытым кузавам, у Менску называлі яе «варанок», выцягнулі нешта доўгае і цяжкое... Мне не трэба было здагадвацца, што, — нагледзеўся... Двое ў пальчатках, з завязанымі марлевымі павязкамі тварамі кінулі нябожчыка ў яміну. Адзін з катаў пасвяціў уніз ліхтарыкам. Касіянаў жэстам загадаў мне палюбавацца. Я нахіліўся над апошнім прытулкам няшчаснага, які ляжаў тварам уверх, да чорнага неба...

Я ведаў гэтага чалавека.

Незадоўга да майго зняволення да мяне прыйшла бабуля Леакадзія.

Так, яна яшчэ жыла... Хаця і зусім старэнькая — пад дзевяноста.

Не глядзіце на мяне так. Я адразу па вяртанні з Францыі яе наведаў... Але яна мяне і на ганак не пусціла. Слуга шатана, які прыехаў слугаваць слугам шатана.

Сляды бацькоў маіх згубіліся на пачатку вайны — здаецца, у Бесарабіі, куды балаган з'ехаў бліжэй да цяпла і далей ад рэвалюцыйных выбухаў. Леакадзія Пятроўна засталася адзіным маім родным чалавекам. Але прадукты з акадэмічнага пайка, якія ёй пасылаў, адразу ж вяртала. З настойлівай просьбай забыцца на ейнае існаванне.

Карацей, калі яна прыйшла да мяне, я не бачыў яе сем гадоў.

Яна вельмі пастарэла. Замест ганарлівай паставы сагнулася амаль удвая, абапіралася на кавеньку. Галава абвяза-

ная па-сялянску чорнай выцвілай хусткай, нейкая плюшавая зялёная кацавейка... Рот праваліўся, але светлыя вочы пазіраюць па-ранейшаму ўладна. Так што мне падалося, што я, як і ў дзяцінстве, гляджу на яе знізу ўверх.

Бабуля сказала, што яе прывяла да мяне божая справа. Нават у самага апошняга грэшніка, такога, як я, заўсёды ёсць шанец выратаваць сваю душу. Як у разбойніка, укрыжаванага побач з Хрыстом. Я сябрую з галоўным слугой шатана ў гэтым праклятым горадзе. Таму змагу зрабіць тое, аб чым просяць. Зараз у турэмнай бальніцы памірае епіскап Мікалай. Кажуць, у яго тыф. Вядома, ніякага апошняга прычасця і споведзі ад катаў ён не дачакаецца... І каб падтрымаць святога пакутніка ў ягоных апошніх пакутах, яму трэба перадаць рэліквію...

Бабуля павольна-павольна, як здымаюць са ствала тонкі слой бяросты, дастала з-пад крыса сваёй кацавейкі нешта памерам з кнігу, акуратна загорнутае ў шэрую паперу. Я ўзяў прадмет з ейных дрыжачых рук, разгарнуў...

Гэта быў абраз, намаляваны на тоўстай, з тры пальцы, дубовай дошцы, цёмны ад дыму тысяч свечак, старажытны, дзівоснага мясцовага пісьма. Я не спецыяліст — але думаю, што гэта шаснаццатае стагоддзе. Асаблівы каларыт, барочная мяккасць і выразнасць аблічча, тканіны з раслннымі арнаментамі, як на шляхецкіх вопратках. Маці Божая Адзігітрыя. Тая, што паказвае шлях. З цёмнай паверхні абраза струменіла незвычайнае святло. Вочы Маці Божай глядзелі з такой скрушлівай любоўю...

Я папярэдзіў бабулю, што «там» не дазваляюць вязням трымаць пры сабе нічога. Абраз усё роўна ў айца Мікалая забяруць ягоныя турэмшчыкі.

Леакадзія Пятроўна ўгневалася, пачала стукаць кавенькай у падлогу... Гаварыла, што абраз — з нядаўна разбуранай Крыжаўзвіжанскай царквы, адзінае, што ўдалося ўратаваць. І самой ёй, рабе Божай Леакадзіі, засталося жыцця на адну свечку... І гэта грэх — сумнявацца, што ўсё ў волі Божай. Я пасняшаўся запэўніць, што святыню перадам... Але нічога з маіх прыпасаў бабуля ўсё-ткі не ўзяла — і не дазволіла нават дапамагчы спусціцца па сходах маёй шыкоўнай акадэмічнай

кватэры. Я глядзеў на яе сагнутую спіну, няўпэўненыя крокі, і мне здавалася, што святло, што ішло ад абраза, цягнецца за бабуляй услед, каб падтрымаць яе замест мяне, роднага ўнука.

Мне ўдалося выканаць просьбу Леакадзіі Пятроўны. Я нават сам дайшоў да айца Мікалая — меў добрыя сувязі сярод дактароў. Епіскап ляжаў у гарачцы, непрытомны, але калі я схаваў пад ягоную падушку абраз — зрабіў рух, нібыта хацеў яго там намацаць... І я ўклаў Адзігітрыю ў ягоныя схуднелыя пальцы, якія адразу сціснуліся, нібыта на руцэ найбліжэйшага сябра.

Праз пару тыдняў мяне выклікалі ў Жоўты дом.

І вось цяпер я бачыў знаёмы выснажаны твар айца Мікалая ў яміне. І... Не, мне не падалося — павекі здрыгануліся ад святла ліхтарыка, епіскап быў яшчэ жывы. У гэтым не было неверагоднага — ад тыфу людзі паміралі, здаралася, месяцамі. Я ледзь стрымаў крык... Бо зразумеў — людзі вакол выдатна ведаюць, што ў яміне — не труп.

Я пачаў ціха прамаўляць малітву. Гэта не спадабалася прысутным, мяне трохі «ўразумілі» — але я ўсё-ткі дачытаў, што хацеў. Потым мяне паднялі на ногі і зноў змусілі схіліцца над адкрытай магілай.

Інструктар па допытах Андрэй падаў таварышу Касіянаву нейкі прадмет... І я, толкам не разгледзеўшы, здагадаўся: абраз Маці Божай Адзігітрыі.

Касіянаў павярнуў да мяне цёмны лік Той, Што паказвае Шлях.

— Пазнаеш, Скаловіч? Гэта — зброя эксплуататараў, якой яны адурманьвалі народ, зброя, якую ты прынёс гэтаму папу.

І кінуў абраз у яміну, у ногі епіскапу.

— Вось ляжыць той, хто працоўны народ адурманьваў. І зараз з тваёй дапамогай, Скаловіч, мы гэты опіум знішчым.

Мне зрабілася страшна. Што яны прыдумалі на гэты раз? А ў руках Касіянава ў святле фараў зблiснула шкло... Колба... Трэба ж, не разбілася... І каламутнае рэчыва на тры пальцы...

— І гэта таксама пазнаеш? Тут, унутры, яшчэ засталася частка атруты, якую ты падрыхтаваў, каб забіць сваю лабарантку. Бачыш, мы ведаем, што Антаніна Аксючыц загінула

з-за цябе. А цяпер тваё злачыннае вынаходніцтва паслужыць справе працоўных...

Касіянаў працягваў мне пасудзіну.

— Вылі гэта на абраз!

Вядома, ніхто і не спадзяваўся, што я згаджуся. Але гэта былі правілы гульні. Пасля пэўных рытуальных дзеянняў інструктара па допытах мяне паставілі на калені над магілай. Таварыш Андрэй схапіў мяне за валасы:

— Глядзі, падла! Успамінай Антаніну!

Касіянаў нахіліў колбу над ямінай. А епіскап раптам застагнаў.

І я сказаў:

— Добра. Я сам...

Яны вельмі здзівіліся. Гэта было маё першае і адзінае «добра» падчас нашых зносінаў. Думаю, таварыш Касіянаў адкаркаваў у думках шампанскае ў гонар свайго метаду.

А я прамовіў:

— Я знішчу абраз... Але ў тым выпадку, калі вы не будзеце хаваць гэтага чалавека жыўцом.

Таварыш Касіянаў узрадаваўся нездарма. Бо калі вязень пачынае гандлявацца са сваім катам — гэта першы крок да зламання. «Добра, я здам гэтага — а вы не чапайце тых...»

Потым ён здасць усіх.

— Малайчына, Скаловіч! Ты пачынаеш разумець савецкую ўладу! — падбадзёрыў Касіянаў. — Давай напачатку вылі кіслату... А потым — даю слова — епіскап атрымае шанец на лёгкую смерць.

Я ўзяў колбу, нахіліў над абразом, які ляжаў у нагах айца Мікалая. Празрыстая густая вадкасць кранула твар Маці Божай... І паверхня абраза — я выразна гэта бачыў у мёртвым святле ліхтарыкаў — успенілася, зашыпела, пад белай каламутнай жыжай знікла цёмнае аблічча з вялікімі вачыма, у якіх свяціліся ўсёразуменне, любасць і скруха...

Я паставіў на зямлю пустую колбу.

— Вы далі слова.

Касіянаў усміхаўся, нібыта балаганны непераможны барэц у паласатым трыко падчас выхаду на арэну.

— Гэта быў самы лепшы ўчынак у тваім памылковым жыцці, хімік. І я сваё слова стрымаю. Мы не будзем хаваць

гэтага слугу імперыялізму жыўцом. Злачынец атрымае хуткую смерць. Толькі ты сам яе яму і падары.

І працягнуў мне рэвальвер.

Што б вы зрабілі на маім месцы?

Мелася тры магчымасці.

Першая — пазбавіць айца Мікалая нечалавечых пакутаў. Стогн даводзіў, што ён быў яшчэ жывы і нават можа апрытомнець.

Але гэта азначала б, што я — забойца. Яшчэ адзін смяротны грэх на душу.

Другая магчымасць — забіць Касіянава... Або хоць кагосьці яшчэ з вылюдкаў.

Праўда, гэта не выратуе ні мяне, ні айца Мікалая. І, магчыма, справакуе яшчэ большую азвярэласць... Хаця ці магчыма большая?

І трэцяе, самае простае і прывабнае — пусціць сабе кулю ў галаву.

І зноў — загубіць сваю душу.

Дык што б зрабілі вы?

Я ўзяў рэвальвер, разумеючы, што ўсе тры магчымасці ведае і мой кат... І зараз я гуляю па ягоных правілах.

гэта-ягоная-гульня

Паклаў палец на курок... Потым зняў. І шпурнуў зброю ўбок, як гадзюку.

Касіянаў рассмяяўся. Гідка так, пагардліва. Падняў кінуты мною рэвальвер... Пацэліўся мне ў лоб... Націснуў курок... Пачуўся глухі шчаўчок.

У рэвальверы не мелася кулі.

Мне на галаву пасыпаўся дробны халодны дождж. Зашумела лісце.

— Ну ты і баязлівец, Скаловіч. Я стрымаў слова — даў нягодніку магчымасць лёгкай смерці. Ты не дазволіў яму той магчымасцю скарыстацца. Каб ты стрэліў, давёў сваю рашучасць — я б пасля ахвяраваў на яго баявую кулю. А так — усё. Здраднік ты, і застанешся здраднікам.

Магілу з жывым чалавекам і абразом пачалі засыпаць. Недзе непадалёк, відаць, на чыімсьці падворку забрахаў сабака.

Я не прынёс ім задавальнення сваёй істэрыкай. Стаяў на каленях, маўчаў і глядзеў. І ведаў, што Маці Божая Адзігітрыя глядзіць на мяне праз белую пену і пясок.

Чаму? Таму што ў колбе была не зусім кіслата. У выніку пэўных працэсаў з цягам часу рэчыва, якое з'ела бедную Антаніну, рабілася бясшкодным. Яно магло пеніцца пры судакрананні са шчолаччу, але не раз'ядала паверхню.

І яшчэ мне падалося, што вочы айца Мікалая на нейкае імгненне зрабіліся асэнсаванымі і ён сустрэўся са мною паглядам.

Але тут жа ягоны твар цалкам схаваўся пад кінутым рыдлёўкай вільготным пяском.

Калі мяне вялі назад, толькі не ў «Форд», а ў «варанок» — цяпер я мог запэцкаць дарагую камісарскую машыну зямлёй і крывёй, — я паспеў разгледзець непадалёк белую браму...

А потым жалезныя дзверы за мной зачыніліся.

І я мог колькі заўгодна разважаць пра свае тры нявыкарыстаныя магчымасці.

Так што, Руслана, гэта ў прынцыпе маглі быць і магілкі, пра якія вы пытаецеся.

**ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ-9**

Восемдзесят адсоткаў вулканаў на Зямлі — падводныя.

Восемдзесят сем адсоткаў людзей на Зямлі — тыя, што не здольныя да самастойнага мыслення. Восемдзесят дзевяць адсоткаў — пазбаўленыя паэтычнага слыху.

Восемдзесят працэнтаў беларусаў назвалі сваёй роднай мовай беларускую.

Трынаццаць-адзінаццаць — гатовыя змагацца за яе існаванне.

Трынаццаць-адзінаццаць... Столькі ж, колькі здольных да самастойнага мыслення, колькі маюць паэтычны слых і гатовыя выбухнуць на паверхні зямлі.

У цемры гарадскіх могілак гарэлі шматлікія свечкі — на магілах і ў руках наведнікаў. Да Дзядоў заставалася яшчэ некалькі дзён, але людзі прыйшлі на ўгодкі «чорнай ночы» беларускай літаратуры. У ноч 29 кастрычніка з нагоды свят-

кавання Дня савецкага камсамолу былі расстраляныя амаль трыццаць беларускіх пісьменнікаў.

Дзве тысячы пісьменнікаў рэпрэсавана па ўсім Савецкім Саюзе.

З іх восемдзесят адсоткаў — з нацыянальных рэспублік.

І дваццаць пяць адсоткаў, гэта значыць пяцьсот літаратараў, — з Беларусі.

Ноч — з нагоды дня.

На акне хаты, дзе мы ўпершыню пабачылі кручканосага прафесара хіміі з паскудным характарам, таксама мігцела свечка.

— Мы з табой ідзём на гэты агеньчык, нібыта і мы — госці з іншага свету, — прамармытаў Едрусь.

Таксама мне, жартаўнік... І так страшна. Вецер вые. Апошняя лістота ціснецца да чорнага галля. Цёмна... Свечкі мігцяць... Як тут жыла Разалія Іванаўна разам са сваімі і чужымі мерцвякамі?

Добра, што калісьці Эдысан прыдумаў электрычную лямпачку. Сляпуча-жоўты вусень спіралі, укрыжаваны на вострых дзідах-дроціках, здольны пазбавіць містыкі нават інтэр'ер дома ля могілак.

Першае, што я заўважыла, калі ўвайшла ў пакой са шпалерамі ў выцвілыя ружы, было тое, чаго не было. А дакладней, абраза «Маленне аб Чашы».

Кут нязвыкла пуставаў. А над сталом схіліліся Макс і Генусь. Перад імі ляжаў абраз, вынуты з рамкі, і Макс пінцэтам адрываў ад дошкі наклееную папяровую карцінку.

Што за кашчуннасць? Я наблізілася з прадчуваннем таямніцы. Пад паперай, на дошцы бачыўся цёмны малюнак алейнай фарбай. Куточак рызы, расшытай расліннымі ўзорамі...

Яшчэ да таго, як паказалася цудоўнае аблічча з дзіўнымі вачыма — любасць і скруха, — я зразумела...

Маці Божая Адзігітрыя.

Абраз, які быў пакладзены ў магілу з епіскапам Мікалаем. Яго старанна замаскавалі — спілавалі частку дошкі, каб быў танчэйшы, абклеілі карцінкай...

Пакуль мы з Едрусем наведвалі Скаловіча, Макс і Генусь узяліся абшукваць хату па ўсіх метадах дэдукцыі і індукцыі, Холмса, Пуаро і Ніра Вульфа...

Сцены прастукалі, шпалеры месцамі паадрывалі... Да абраза дабраліся, дасталі яго з рамкі. Потым пасварыліся — Макс упарта хацеў ададраць ад зваротнага боку паперу. Генусь крычаў пра кашчуннасць... Пачалі цягаць у бакі... Папера на згінах і раз'ехалася. І там паказаўся нейкі цёмны слой. Адхінулі... І вось...

Пасля таго, як я распавяла ўсё, што пачула ад Скаловіча, мы зрабілі прыблізна такую рэканструкцыю падзеяў.

Епіскапа закатавалі тут, ясна. Хаця ў даведніках значылася — памёр ад тыфу ў турме. Скаловіч бачыў нейкі дамок, відаць, якраз гэты. Абраз — з Крыжаўзвіжанскай царквы, дзе служыў дзякам дзед Разаліі Іванаўны. Зразумела, што той дзед сачыў за лёсам айца Мікалая, і, магчыма, менавіта ён выратаваў абраз са зруйнаванай царквы і перадаў яго праз бабулю Леакадзію ў турэмную бальніцу.

Тое, што адбывалася на ўскрайку могілак, асвятлялася фарамі машын. Гэта маглі бачыць з дамка.

Ці ведалі дакладна насельнікі дома, каго хаваюць прыхадні? Але ясна, што яны пайшлі раскапаць магілу. Навошта — зразумела: паглядзець на забітага, каб пазнаць яго або хаця б запомніць аблічча, потым — пахаваць па-хрысціянску.

Ці быў айцец Мікалай да таго часу жывы? Мы зноў жа не ведаем. Хутчэй за ўсё — наўрад. Увогуле маглі з-за асцярогі раскапаць магілу ў іншую ноч...

Галоўнае — вось ён, абраз са спаленай царквы. І вось жахлівы выпадак, звязаны з гэтым месцам: пахаваны жыўцом епіскап.

Ці магло гэта паўплываць на ўтварэнне нейкай часавай анамаліі?

Паколькі лепшай версіі ў нас не было, вырашылі — магло.

Вядома, абраз не ўвесь час тут вісеў. Пры Разалінай маці-камуністцы — дык дакладна не. І ход у мінулае тады, відаць, не адкрыўся. Калі Разалія Іванаўна знайшла ікону, калі павесіла на сцяну?

Дзённік заведзены восем гадоў таму.

Калі вы думаеце, што там падрабязныя апісанні прыгодаў, накшталт як я вам распавядаю — дык не. Кароткія запісы «Выйшла ў 1933. Пнеўманія. Нічога не паспела».

Што азначала, што нехта памёр у прысутнасці госці з будучыні ад запалення лёгкіх, а груша так і не была знойдзеная.

Усяго Разалія Іванаўна паспела выйсці ў той свет адзінаццаць разоў.

Ну, добра...

А пры чым тут Скаловіч?

А хто, акрамя яго, мог распавесці пра лёс епіскапа? Пра гісторыю гэтага абраза? Ён жа казаў, што апошняе, што епіскап бачыў у жыцці, — гэта ягоны, Скаловічаў, твар.

Вось вам і гульня... Нават Гульня з вялікай літары. Там, дзе пачынаецца рэальны боль, яна заканчваецца.

А што мы раней ведалі пра жыццё? Тое, што яно — дзярмо. Што мы — лепей за іншых, бо незразуметыя і пры гэтым прасунутыя, і наша Альбарутэнія — таемны ордэн, які дае права на эксклюзіўнасць.

І вось што цікава, наўрад Валяр'ян Скаловіч скажа, што жыццё — дзярмо. Нават седзячы ў псіхушцы. Нават прайшоўшы праз усё, што прайшоў... Хаця Даліла і вінаваціла яго ў мізантропіі, ён ніколі не скардзіўся на жыццё. На несправядлівасць лёсу, фатум і падобную дэпрэсіўную муту.

І, пры ўсім сваім знешне фанабэрыстым характары — які насамрэч проста бар'ер між ім і светам, добраахвотная псіхалагічная вязніца — хіба ён лічыў сябе лепшым за іншых? Ды ён жа ўвесь час з сябе падсмейваецца.

А хто з нас можа з сябе шчыра пасмяяцца? Даліла, ці што? У нас жа ўсё так сур'ёзна...

Вось і зараз хлопцы пачалі вельмі сур'ёзна спрачацца наконт рэлігійных канфесій. Хто ў каго храмы адбіраў. Бог ты мой. Мы — беларусы. Было — праваслаўных братчыкаў камянямі на вуліцах білі. Было — уніятаў бізунамі ў праваслаўе заганялі. Як да гэтага праваслаўных — ва ўніяцтва. А цяпер у касцёл ідуць, бо там службы прыгажэй-

шыя, больш культурна, па-еўрапейску... А беларускія храмы абарончага тыпу ўсё яшчэ стаяць зруйнаваныя. Францыска Асізскага на іх, дыскусійнікаў, няма, з аднаго боку, а з другога — Серафіма Сароўскага. Святы Францыск чарвяка называў «брат мой чарвяк» і пераносіў з дарогі на траўку, а святы Серафім, неверагодны аскет, калі ў пост яго частавалі бедныя сяляне па няведанні самым лепшым, беражоным, але скаромным, не ўшчуваў, але частаваўся — бо страшней пакрыўдзіць, чым самому саграшыць.

Беларусу адзін аднаго пакрыўдзіць — як перад чужым прагнуцца. На раз. «Ну что у нас за нелепый язык? «Як», «як»... Смешно! Вот у русских — «как», «как»! Кр-расота!»

Не ведаю, да чаго б яны даспрачаліся — праваслаўны Едрусь, каталік Макс і схільны да ўніяцтва, як да блізкай эйкуменізму канфесіі, хакер Генусь. Добра яшчэ саентолагаў сярод нас няма. Альбо прыхільнікаў секты Аум Сенрыкё.

Але вярнулася Даліла.

Глядзець на яе было ніякавата. Дождж на вуліцы халодны, ды не самы моцны, так, вераб'я напалохаць, але Даліла не мела моды хадзіць пад парасонам (А навошта адгароджвацца ад прыроды? Хіба мы слабейшыя за нашых продкаў?) і таму паспела добра вымакнуць. Чорная «луска» (куртачка-шалік-штроксы) не выратавала. Валасы звісаюць жаласнымі прадкамі, зялёныя вочы апушчаныя...

— Сволачы.

І табе прывітанне, Далілачка. Але, здаецца, сяброўка наша насамрэч мела на ўвазе не нас. Ну і на тым дзякуй.

А мела Даліла сёння аж два спатканні. Адно — з бобрападобным міліцыянтам. Другое — з сытым насельнікам суседняй вілы.

Усходні таварыш Далілу прыняў вельмі добра. Каву падрыхтаваў, вінаград-персікі на стол паставіў... Усе клопаты па афармленні куплі-продажу Разалінай развалюхі на сябе бярэ... Вось толькі з цаною — праблемка. Дзесяць тысяч — і не болей.

«Дзевушка, карасавіца, я ж мог нічога табе не даць. Старая ханум вельмі нядобра памерла. Пачнуць дазнавацца, як, — і дом у цябе забяруць, і сама сядзеш. А зона пры

тваёй прыгажосці — ай, кепска. І дачка ў цябе маленькая, сіратой застанецца...»

Але, калі што, Арам можа цану набавіць удвая. Калі Даліла ўлагодзіць яго з дапамогай сваёй прыгажосці.

«Добрая здзелка. Але як, дзевушка, зрэшты, хочаш. Арам — не гвалтаўнік. Арам бярэ толькі тое, што яму аддаюць самі. І плаціць гатовы».

— Я не пайду да яго! — Даліла сціснула кулакі, нібыта мы прымушалі яе зараз жа ісці да гэтага Арама.

А міліцыянт доўга разважаў на тэму сваёй прыхільнасці закону, пра тое, як мы, моладзь няшчасная, са сваім псіхаваным дзядзькам, уляпаліся, потым намякнуў, што вызваленне з псіхушкі падазронага тыпа — справа калектыўная. Шмат начальства трэба будзе ўлагодзіць. Асоба дзядзькі не высветленая, у венах — сляды ўколаў... Можа, ён наркаман? А што вярзе! Як размаўляе з персаналам! Агалцелы нацыяналіст. Такіх толькі ў псіхушках і трымаць і лячыць па поўнай праграме. За тое, каб гэткі бэнээфавец на свабодзе апынуўся, не дзесяць тысяч, а ўсе дваццаць, не меней, патрэбна. Зразумела, не дроваў. І не беларускіх рублёў. А то праседзіць ваш дзядзька на транквілізатарах і шокавай тэрапіі да другога прышэсця... Сваяцтва ж вы пацвердзіць не можаце?

Карацей, міліцыянт, падобна, з тых, хто за капейку жабу да Барысава дубцом пагоніць.

Макс падкаціўся да гаспадыні дома.

— Куртку скідай... А Руслана няхай гарбату зробіць.

Даліла, аднак, змерыла клапатліўца ганарлівым поглядам, адсунулася.

— Сама зраблю сабе гарбаты... Не рассыплюся. І чаму ты пасылаеш да пліты менавіта дзяўчыну?

Макс сумеўся. Ну так — парушыў няпісаны этыкет тусоўкі. «Галантнасць — зброя мачызму».

Даліла, не здымаючы мокрай курткі, пашыбавала на кухню, хутка там нешта забразгала, нібыта полтэргейст гарэзаваў...

Мокры вецер аблізваў шыбы шурпатым чорным языком. Свечак на могілках усё менела... Нібыта адна за адной адляталі назад, у вышэйшы і лепшы свет, душы.

Ноч расстраляных паэтаў згушчала сваю цемру вакол дамка ля могілак.

Каб выкупіць прафесара, нам не хапала дзесяці тысяч баксаў.

Божа мой, столькі пакутаў, крыві, кахання — і ўсё ўпіраецца ў баксы. «Пратарчака жыцця», як сказаў бы Самсон Самасуй.

— Быў такі паэт, Рыгор Папараць, у сапраўднасці — Сапун, — задумна прамовіў Макс. — Калі толькі пачыналіся рэпрэсіі, з'ехаў у Піцер. Нават зладзіў там філію «Маладняку». І ажаніўся выгодна — з дачкой былога латышскага стралка. Кватэра шыкоўная, з антыкварнай мэбляй... Дый жонка — першая прыгажуня, актрыса, балерына. Праўда, і раўнаваць даводзілася паэту... — Макс чамусьці кінуў змрочны позірк у бок Далілы. — Але і Папараця гэнага забралі. Прывезлі сюды, у Менск... І тады жонка з цешчай прадалі з хаты латышскага стралка ўсё, што можна. Мэблю, карціны, футры... Бацька Папараця, селянін, але адукаваны, заможны — таксама аддаў, што меў. І выкупілі небараку з турмы. Праўда, той даў распіску, што болей ніколі пісаць не будзе. І не пісаў. Вершамі душыўся. Плакаў у падушкі. Крычаў: «За што? За што?» А за тое... Што не трэба беларусам нараджацца. І да таго ж — паэтам пры таталітарным рэжыме.

— Давядзецца і нам — шляхам Папарацевай радні, — прамармытаў Генусь.

— Ды вось жа — абраз прадамо! — узрадваўся Макс і працягнуў руку да Адзігітрыі.

— Не чапай! — сінхронна гукнулі Едрусь і Даліла.

— А што? — бязвінным позіркам абвёў усіх Макс. — Мы ж не сабе грошы забяром, а хіміка выкупім.

— Не трэба гэта чапаць, пакуль Скаловіч не вернецца. А потым... Потым гэта трэба вярнуць у храм, — цвёрда прамовіла я. — А за айца Мікалая заўтра закажам саракавуст... Вось не ведаю, ці ўдасца адшукаць ягоную магілу...

— Наўрад, — паківаў галавой Макс. — Калі дакладна месца не вядомае... Хіба Скаловіч бы пазнаў, і тое сумніўна. Та-ак, дасца нам гэты хімік у знакі... Грашовыя.

— У пячонкі ён нам дасца! — раптам прарвала абсохлую Далілу. Яе зялёныя вочы зноў пачалі бліскаць маланкамі. — Ён жа і сапраўды псіх! Вы што, не зразумелі? Маньяк! Цяжкое дзяцінства, комплексы... Яго цягне браць на сябе чужую віну. Не ведаю, як гэты сіндром называецца ў псіхіятрыі. Але яго дакладна трэба лячыць! Калі б Чарнобыль пры гэтым тыпусе ўзарваўся — ён бы сказаў, што гэта ён узарваў! Прыдурак стары! Хто яго прасіў з міліцыянтамі ды дактарамі счэплівацца! Вось хай зараз і лечыцца!

Даліла закінула галаву да столі, каб з вачэй не выліліся здрадніцкія слёзы. Як яна злавалася на тое, што плача! І якая яна была прыгожая нават у такія моманты!

— Ну што, пайшлі па дамах? — падняўся Генусь. — Маці не вельмі добра сябе адчувае. І грошы трэба шукаць. Застанецца тут хто сёння начаваць?

Ахвотных не знайшлося.

Хата Разаліі Іванаўны стаяла чорная, апусцелая, нібыта выкапнёвы чэрап. Я мімаволі перавяла пагляд туды, дзе побач свяцілася еўравокнамі вясёленькая трохпавярховая віла за высокім белым плотам з сістэмай відэаназірання.

Там ніколі не будуць успамінаць расстраляных беларускіх паэтаў.

А на могілках тым часам згасалі апошнія свечкі. І ўва мне ў такт крокам біліся няроўныя радкі:

Свечкі Дзядоў на магілах трымцяць безыменных,
Вершы спалёныя ў восеньскім лісці шапочуць.
Выбіты кулямі вашы імёны на сценах
У сутарэннях, дзе сёння пяюць і рагочуць.
Кат дажывае, як пан, біяграфію ката.
Ведае — вуліца ў гонар яго назавецца.
Косці паэтаў маўкліва ляжаць пад асфальтам,
Вецер да свечкі ляціць, быццам куля да сэрца.

**ФІНАЛЬНАЯ ГУЛЬНЯ-1**

«Шляхціц на загродзе роўны ваяводзе». Так казалі продкі.

У XVI стагоддзі пасол Рымскага імператара Тэктантэр, які ехаў да вялікага князя маскоўскага, праязджаў праз Менск. Дык тутэйшы стараста затрымаў яго і пачаў здзекавацца: няўжо рымскі імператар не можа мець сябрам якоганебудзь больш значнага гасудара, чым маскавіта?

Ведаў бы ён, што надыдзе час, калі маскавіты зробяцца тут гаспадарамі. А потым праз маскавітаў паедуць да нас іншыя...

Я стаяла перад высокім белым плотам «загроды» ўсходняга бая Арама. З-за плота брахаў сабака і бразгаў ланцугом. І глядзець не трэба — ясна: здаравучы натрэніраваны звер. Вочка відэакамеры глядзела з выгнутага над плотам белага прэнта на мяне, нібыта іншапланецянін, або, як кажа мой вясковы дзед, «інаплан». І мне здавалася, што гэты «інаплан» дужа дзівіцца, акругляе недаўменна чорна-сіняе вока: што за непаглядная істота ломіцца ў панскі дом?

Але я дакладна ведала, чаму я тут. І чаму апошнім часам пачала менш думаць пра Едруся.

Памятаеце выдатны фільм «Ляон» з дзюбаносым Жакам Рэно і маленькай Наталі Портман у ролях? Там сірата-тынейджар Наталі кажа свайму апекуну, кілеру з душою дзіцяці: «Здаецца, я цябе кахаю». Той пытаецца, як яна адчувае, што кагосьці кахае? І дзяўчынка кладзе руку на жывот: вось тут, пад лыжачкай, нешта пачынае абрывацца, калі глядзіш на таго, каго кахаеш.

Ну вось і ў мяне так ад кожнага кадрыка памяці, на якім красуецца на падушцы гарбаносы твар з фанабэрыстымі вуснамі і глыбокай зморшчынай між броваў.

Я цэлы год была ўпэўненая, што кахаю Едруся.

А цяпер не ўпэўненая ні ў чым.

Комплекс Электры, туга па недахопу любові бацькі? Комплекс школьніцы — падсвядомае жаданне сэксу з самым строгім настаўнікам? Ці проста я прымаю элементарную шкадобу за нешта іншае? «Она его за муки полюбила...» Фу, як прымітыўна. Урэшце, Скаловіч — самая значная асоба з усіх, каго я сустракала ў сваім жыцці. Не, я не пра

пасаду там, званні... Калі хочаце, можна казаць пра харызму, навамоднае слоўца паходжаннем з антычнасці. Вянец, які трымала багіня Афіна над абраннікам, і той меў уладу над розумамі. А магчыма, над сэрцамі... Якая розніца? Проста я ведаю, што не змагу жыць, пакуль прафесар па нашай віне — у псіхушцы і што з ім вырабляюць — невядома.

Уяўляю, як там настойліва спрабуюць знайсці звесткі пра буркатлівага хворага і атрымаць хоць якія ўцямныя тлумачэнні наконт паходжання не такіх ужо даўніх шнараў. Засталося спадзявацца, што Скаловіч не пагрэбуе працытаваць маю байку наконт рабства на плантацыях бавоўны.

Між тым мы збіралі грошы на «выкуп». Генусь прынёс тры тысячы — аказалася, прадаў свае наварочаныя камп'ютары. Тысячу Едрусь выручыў за гітары. Пакінуў сабе самую танную. Макс ахвяраваў трыста баксаў. Я з неверагоднымі намаганнямі набрала столькі ж, збыла тое-сёе праз Інтэрнэт... Альбомы там па мастацтву, плэер, сканер... Даліла, бедная, як царкоўная мыш, да майго здзіўлення, таксама паклала тысячу. Прамармытала нешта пра крэдыт у банку і пра навалач банкірскую, якая болей, сыходзячы з зарплаты, не дае.

Каб у нас быў час... Даліла велягурыла нешта пра тое, што няхай псіхаваны прафесар падлечыцца, яму не пашкодзіць, усё пад кантролем, кормяць добра, транквілізатараў не колюць. Але я лічыла кожную гадзіну.

І калі Даліла, на густ бая, каштавала дзесяць тысяч баксаў, дык я, можа, пацягну хоць на ўдвая меншую суму. Урэшце, бай падчас вышуку ў нас не толькі па Даліле позіркам праходжваўся, але і мне ўлучыў увагі.

Я зноў націснула на кнопку. Ніякага гуку — дзынькала, відаць, дзесьці ў доме. Але за плотам пачуліся нечыя крокі, потым створка ад'ехала ў бок... Малады смуглявы хлопец у чырвонай куртцы-«алясцы» аглядаў мяне з лёгкай пагардай.

— Мне да пана Арама. Па важнай справе. Я... з суседняга дома, які пан Арам купляе.

Хлопец падумаў, дастаў сотавы... Перагаварыў на незнаёмай, але, ясная справа, усходняй мове, кіўнуў мне галавой.

— Ідзі.

Ну я і пайшла.

Я даўно вырасла з мульцікаў пра Аладзіна. Але, відаць, усё роўна спадзявалася недзе ў глыбінях свайго не самага інтэлектуальнага, па вызначэнні прафесара з мінулага, мыслення ўбачыць нешта падобнае да багдадскага палаца.

Але інтэр'еры былі вытрыманы ў стылі часопіса «Мезанін». Нават стракатых дываноў не мелася. І сам бай апрануты ў зялёны джут. Чорныя кароткастрыжаныя яго валасы былі напалам з сівізной, а рукі, з маё сцягно таўшчынёй, неяк па-малпаўску расстаўленыя ўбакі. Жывоцік, праўда, вельмі па-ўсходняму звісаў над спражкай дарагой скураной дзягі, але гэта не рабіла постаць азызлай. Наадварот, Арам, нягледзячы на паважаны ўзрост, быў пругкі і моцны, як падрыхтаваны да сапраўднай карыды бык (несапраўдная карыда — калі быка прымораць, каб не надта хутка бегаў, рогі падпілуюць... А што, эль турыста ўсё схаваюць, а нам далей жыць, спадары тарэра).

Калі я, седзячы ва ўтульным скураным фатэлі, больш-менш звязна выклала сваю прапанову, мне падалося, што позірк Арама зрабіўся падобны на позірк відэакамеры над варотамі ягонага дома. Здзіўлена-недаўменны. Потым вочы зноў заблішчэлі нармальна, па-мужчынску... Менавіта за такі позірк праўдзівая заходняя феміністка адразу падае ў суд.

— Ну як нечага можа быць шкада для такой прыгожай дзяўчыны? Добра, няхай будзе пятнаццаць тысяч за вашую хату. Слова даю. Верыш?

Я кіўнула. Я сапраўды чамусьці яму верыла. Ён моцны. Упэўнены. Такія не лгуць... па дробязях.

Мне хацелася аднаго — каб усё хутчэй скончылася.

Я па ягонай прапанове перасела на шырокую скураную канапу, засланую... не, не леапардавай шкурай, а пухнатым белым штучным футрам, стараючыся трымацца, як спрактыкаваная гетэра, скінула чорную кашулю, якую насіла замест пінжака. Арам скасавурыўся на маю белую маечку-топ, нават караткапалую руку працягнуў, каб пагладзіць па плячы... Але схамянуўся, патупаў да шафы, дастаў бутэльку, крышталёвыя бакалы... Наліў віна — амаль да краёў... Падсеў бліжэй. Нешта гаварыў-вуркатаў... Настойлівей... Бліжэй...

Божа, ён жа старэйшы за майго бацьку...

Я адчувала, што мая ўсмешка ўсё больш нагадвае грымасу. Дужая гарачая мужчынская рука лягла мне на грудзі...

я — усё роўна — павінна — праз гэта — прайсці

усе — рана ці позна — праз гэта — праходзілі — і нічога — жывыя

інструкцыя: расслабся і атрымлівай задавальненне

Раптам рэзкі пах адэкалону аддаліўся, гарачыя рукі саслізнулі з мяне. Я расплюшчыла вочы (сама не заўважыла, калі зажмурылася). Гаспадар сядзеў, адхіліўшыся, і зноў вывучаў мяне недаўменным позіркам.

— Слухай, ты дзяўчынка?

Я нават не адразу зразумела, пра што ён пытаецца. Потым шчокі мае запалалі, быццам мяне па іх нехта адхвастаў.

— Якая розніца?

Арам адвёў вочы, узяў са стала чарку і замаўчаў. Я з адчаем разумела, што грошай, падобна, не атрымаю. Няўдалая з мяне спакусніца. Такая ж, як і архітэктар. Трэба нешта рабіць... Зусім распрануцца, ці што?

Але я сядзела на скураной канапе, як прыклееная, і адчувала сябе горш за белы пухнаты дыванок са штучнай шкуры, які кінулі пад дзверы... Ды яшчэ не з боку кватэры, а звонку, з боку вуліцы, там, дзе мокры абутак, і на белыя варсінкі сыплецца пясок і падаюць недапалкі.

— Што, той мужчына, якога забралі... гэта насамрэч твой дзядзька?

Я кіўнула. Арам глядзеў вельмі сумна.

— Любіш яго вельмі? Грошы трэба, каб яго выкупіць?

— Так...

Бай яшчэ памаўчаў. Паставіў на стол келіх.

— Калі забілі брата майго дзеда, я быў яшчэ маленькі. І са сваякоў нікога побач, акрамя маці і мяне. Мы вярнуліся ў наш аул, які доўга стаяў пусты, як вока сляпога. Усіх адтуль выселілі, бо абвясцілі здраднікамі і прыслугачамі Гітлера. Нават немаўлятаў, якія не маглі вымавіць ні імя «Гітлер», ні імя «Сталін», ні слова «мама». І я нарадзіўся ў сібірскім горадзе Акмолінску і ніколі не бачыў гор. Але, як стала

можна, дзядзька маёй маці ўзяў яе і мяне, і мы паехалі на радзіму продкаў. Знайшлі свой дом, напалову засыпаны брудам, пасяліліся... Апошнія з роду.

Мне падавалася, што гаспадар сядзібы мяне нават не бачыць, а размаўляе з кімсьці больш важным. Таму што голас ягоны ажно трымціць ад гневу.

— А ў некаторых дамах ужо жылі іншыя. Прыхадні. Якія не хацелі, каб тутэйшыя вярталіся. Яны пілі гарэлку, іх жанчыны брыдка лаяліся... І аднойчы, калі мой дзед зрабіў такой жанчыне заўвагу, прыбеглі яе сваякі і дзеда моцна пабілі. Палкамі, як ішака. А ён быў ужо стары... І ён памёр. І тады мая маці ўзяла стрэльбу... У нас у доме ў кожнага прыхаваная зброя — а зброя, сапраўдная, дагледжаная, не страціць смертаноснай моцы нават цягам вякоў... Як і помста. Маці адпомсціла ім усім. І мы з ёю сышлі. Праз сорак гадоў я выкупіў у тым ауле ўсе дамы.

Арам звузіў вочы, ягоныя сківіцы сціскаліся...

— А навошта тады вам нашыя дамы? — папыталася я.

Гаспадар раптам разрагатаўся, адкінуўшы на спінку канапы ссівелую галаву.

— Дурнічка! Кожны народ бярэ столькі зямлі, колькі здольны ўзяць. І пралівае за сваю зямлі столькі крыві, колькі ёсць у ягоных жылах. Вы аддаяце нам свае дамы — мы возьмем. Чаму ж вы гэтак узнялі цэны на сваё жытло, што вам самім яго не купіць? Я ведаю — нават прафесары вашыя не могуць набыць і самай маленькай кватэры, а хто яшчэ паважаней павінен быць, чым настаўнік? Пакуль сярод вас жывуць такія, што гандлююць сваёй зямлёй, — яе будуць скупліваць. Мне часам шкада вас. Але чаму я павінен думаць пра іншы народ? Я думаю пра свой. Таму я забяру тут столькі, колькі змагу. Але я паважаю тых, хто можа ахвяравацца за свой род. Пачакай...

Арам выйшаў на хвілю з пакоя, потым вярнуўся і кінуў на канапу два тоўстыя пачкі грошай.

— На, гэта за вашу хату. Дваццаць тысячаў.

Я разгубілася.

— Чакайце... Гэта ж хата Далілы... Дар'і Крашэўскай. Яна павінна падпісаць дакументы... Дамову...

— Дурнічка! — стары бай спачувальна глядзеў на мяне. — Усё ўжо даўно падпісана. Не верыш? Вось дакументы...

Ён пакорпаўся ў нейкай шуфлядзе і кінуў на стол паперы. Я афіцыйных папер баюся, дробны шрыфт скакаў у маіх вачах, нібыта нехта мак сеяў... Але лічбу «10000» і подпіс Далілы я разгледзела. І чысло... Не сённяшняе, не ўчорашняе... А якраз таго дня, як нас забрала міліцыя.

— Я назаўтра ўжо і бульдозер замовіў.

Мне падалося, што мяне нешта прыціскае да паркетнай падлогі вялізнай чорнай лапай.

— І што... вы не прапаноўвалі Даліле... пераспаць з вамі?

— Чаму ж не? Прапаноўваў. — Арам шчыра ўсміхаўся. — А што ў гэтым кепскага? Яна жанчына свабодная. На дачку грошы трэба. Нельга дзяцей у беднасці гадаваць. А цану на вашага дзядзьку міліцыянты самі паднялі. Надта ён ім не спадабаўся. Трымаецца, як вялікі злы начальнік. Такі дорага павінен каштаваць. Напачатку дамаўляліся — за дзесяць. Каб нікога не крыўдзіць. Мне — хата, ім — мае грошы, тваёй сяброўцы — свабода і тое, што яна яшчэ прасіла. Патрымаць, каго і дакуль скажа, у бальніцы. І чаго толькі яна на твайго дзядзьку так уз'елася? Відаць, пакрыўдзіў яе моцна.

Мае вусны трэсліся. Арам паляпаў мяне па плячы.

— Ну, ідзі, выручай сваяка. Будзеш аддаваць грошы гэтым сцярвятнікам з міліцыі — найлепей мець табе справу з капітанам Тумачом, — скажы: ад Арама. І скажы яшчэ, што Арам прасіў перадаць, што рахунак ведае. Гэта калі падмануць цябе захочуць. Бо дзесяць, што зверху цаны, гэта тое, што я абяцаў ім аддаць за спрыянне. Так што хай бяруць, як дамаўляліся, ці я ім дах паварушу.

Калі я ўжо выходзіла з сядзібы, хаваючы пад крысом курткі пачкі з грашыма, да мяне здалёк кінулася фігура ў чорным. Едрусь...

Ён схапіў мяне за плечы.

— Я цябе цэлы дзень шукаю! Стукаўся да гэтага чарнажопага — не пусцілі. Але як ты магла... Ты... што? Ты да яго хадзіла замест Далілы! Я яго заб'ю!

Я стамлёна прамовіла:

— Не варта. Ён нічога мне не зрабіў. Чуеш? Ды не трасі ты мяне, як ігрушу. Нарабілі ўжо спраў з-за тых ігруш.

Едрусь адпусціў мяне. Ды ён сапраўды за мяне хвалюецца... Вось так. Пакуль дыхала з ім у такт, яму было фіялетава.

— Супакойся. Ніякага сэксу. Пагаварылі, расшкадаваўся... Вось грошы за хату. Усе паперы падпісаныя. Не пытайся, як... І бягом да капітана Тумача. Заўтра хату Разаліну зносяць.

Мы беглі да прыпынка, як паслы рымскага імператара з Менска XVI стагоддзя. Я прыціскала да сябе грошы, быццам дыпламатычнае пасланне, і не зважала, што дождж наліўся ў мае красоўкі і хлюпае там, нібыта просіцца на волю.

Во, трэба было здабыць лакавыя боты на шпільках... Спадніцу-міні... А то спакусніца знайшлася.

— Слухай, Едрусь... А ты б хацеў пабачыць мяне... на шпільках... і ў міні?

Едрусь неўразумела скасавурыўся на бягу... Агледзеў мяне ад падраных красовак да скураной кепачкі з бляшанай кукардай...

— Ну-у, цікава было б...

Вось і кажыце пасля гэтага, што інстынкты перад сапраўдным інтэлектам — як тарантул перад клюшкай.

А мне раптам вельмі захацелася паказацца ў міні, шпільках і са сваёй былой пшанічнай касой Скаловічу.

Хаця ён і тады б знайшоў сказаць штось «мілае», кшталту: «Мадэмуазэль пераблытала прыватны пакой з кафэшантанам?».

Але можа быць, у ягоных вачах я заўважу іскрынку інтарэсу, і мой «комплекс школьніцы», альбо Электры, альбо яшчэ які атрымае спажыву і выдыхнецца, як адкаркаваная бутэлька сідру.

**ФІНАЛЬНАЯ ГУЛЬНЯ-2**

Мы ўтраіх: я, Едрусь і былы пацыент Навінак — знаходзіліся ў храме. Прафесар захацеў найперш пасля выпіскі скіравацца сюды...

Чамусьці, калі я заходжу ў царкву, нават у чужым горадзе, я заўсёды адчуваю, што прыйшла дадому.

Той-сёй са знаёмых наракае на іншае: і цяжка яму там, і душна, і смешна...

А мне добра. Спакойна так. Хаця якая з мяне ўцаркоўленая: да споведзі раз на год выбіраюся, на Вялікдзень альбо на Каляды... Паўз царквы часцей за ўсё проста прабягаю, папрасіўшы ў думках прабачэння — ну вось, бачыш, Божухна, неадкладныя справы... Стамілася... Крытычныя дні... Гэтак жа прабачаешся ў думках перад старэнькай бабуляй, якая чакае ў госці ў сваёй самотнай кватэры, чакае, а табе ўсё няма калі. Яна ж родная, яна зразумее, прабачыць...

І адбягаешся, як неслухмянае дзіця ад маці, усё далей, далей... І нарэшце адбяжышся на такую адлегласць, што калі цябе нехта пакрыўдзіць — маці не абароніць, бо далёка.

Спадар Валяр'ян таксама адчуваў сябе ў царкве, як дома.

Ён раз за разам клаў паклоны перад абразом Маці Божай Адзігітрыі, няхай і не падобным на той, што застаўся ў доме ля могілак, але які выпраменьваў тое ж святло.

І яшчэ я разумела, што гляджу на Скаловіча апошні дзень у сваім жыцці.

І хацела, каб у маёй памяці назаўсёды засталося гэтае аблічча, асветленае агнём свечак...

Калі мы з'явіліся ў дом ля могілак, Даліла, Макс і Генусь былі там. Сядзелі за сталом над кучай грошай, як гангстэры, што абрабавалі банк, і нешта планавалі... Пры з'яўленні і нашай тройцы — найперш высокага Скаловіча ў чорным паліто, з фірмовым сарказмам на вуснах — Даліла ўскочыла і нават пасунулася назад. Класічныя паводзіны пры з'яўленні прывіду.

Магла яшчэ закрычаць: «Згінь! Прападзі!»

Але замест гэтага, забачыўшы маю пагардлівую ўсмешку, закінула ганарыста галаву і заявіла:

— Так, я гэта зрабіла! Ну і што?

Макс і Генусь пераглянуліся. А я не збіралася шкадаваць нічые пачуцці. Я сёння, між іншым, ледзь не страціла цнатлівасць у абдоймах шасцідзесяцігадовага тлустага бая. І таму казала жорстка:

— Ты калі з Арамам дамовілася? У той дзень, як спадара Валяр'яна да ложка прыкруціла?

Даліла толькі ледзь звузіла зялёныя вочы.

— А што мне заставалася рабіць? А ты... ты навошта ўлезла? Хто ён табе? Яшчэ хоць бы дзень... — сяброўка пачынала нерваваецца не па-дзіцячы. — Ты разумееш, што вызваліла яго, каб забіць? Ты мазгамі хоць зрэдку варушыш, паэтычная наша? Ён жа зараз сыдзе! На смерць чалавека адпраўляеш!

Даліла пачала душыцца злымі слязьмі, якія не выклікаюць спачування.

Да прысутных патроху пачало даходзіць, што адбываецца.

— Чакай... Дык я компы свае дарэмна загнаў? — Генусь аж з месца ўзняўся. А Даліла глядзела толькі на Скаловіча.

— Валяр'ян... Зразумей... Я не магла дапусціць, каб ты сышоў. — (Чаго гэта яна да яго на «ты»? Незалежнасць сваю падкрэслівае?) — А мне паабяцалі, што цябе патрымаюць у добрых умовах. І выпусцяць... Калі дом знясуць. Я сапраўды не ведала, што яны ўдвая накінуць супраць таго, што мы з Арамам дамовіліся. Але я б усё роўна дастала грошы! І... ты ж памятаеш, я дала табе права выбару, ты застаўся сам!

— Ну ты і сволач, Дар'я Сымонаўна... — Генуся аж трэсла. — А я ж быў упэўнены, што ты нават маніць не ўмееш.

Едрусь, заўсёды такі спакойны, таксама ледзь стрымліваўся:

— А ты пра Руслану падумала? Яна ж з-за цябе ледзь не...

Я ў час штурханула рокера. Не жадаю, каб нехта ведаў пра маю няўдалую кар'еру дзяўчынкі па выкліку.

Даліла, не зважаючы ні на кога, падышла да Скаловіча, які захоўваў змрочнае маўчанне, паклала вузкую даланю яму на грудзі... Зноў зусім як Антаніна з 1933-га.

— Валяр'ян... Прашу цябе... Не сыходзь. Што там? Толькі смерць ды пакуты. Ну што ты зменіш? Каму што давядзеш? Пра тваё геройства ніхто — чуеш? — ніхто не даведаецца...

Скаловіч моўчкі адвёў яе руку. Яго хударлявы твар быў як каменны.

Паветра ў хаце згусла, нібыта перад навальніцай.

— Ну, што ж... Трэба прысесці на дарожку! — з уздыхам падаў голас Макс. І палез мацаць па сваіх шматлікіх кішэнях... Ага, дыктафон шукае.

Мы моўчкі ўселіся за стол. Нават Даліла нібыта змірылася. Скаловіч паглядзеў на мяне. Вельмі сур'ёзна. У мяне, зразумела, як і дэкларавала маленькая Наталі Портман, нешта абарвалася ў жываце.

— Вы, Руслана, не тым займаецеся ў жыцці, — ціха прагаварыў прафесар. — Вы — не тэхнар. Архітэктар з вас ніякі... На філфак падавайцеся.

Ага, развітальны «тастамент».

Макс тым часам перакруціў плёнку ў дыктафоне і сунуў прафесару пад нос.

— А вось скажыце, Валяр'ян Іванавіч, што вы ведаеце пра...

Генусь штурхануў нашага волата.

— Выключы... Сумленне трэба мець. І так загуляліся.

Мы маўчалі. Дождж сумна барабаніў у шыбы, нібыта праводзіў пахавальную працэсію. Кажуць, што калі ідзе дождж падчас пахавання — гэта добры знак, значыць, нябожчык быў някепскім чалавекам і прырода сумуе па ім.

Урэшце Скаловіч узняўся. Падышоў да канапы, няспешна расшпіліў паліто, скінуў яго... Гэтак жа нетаропка сцягнуў з сябе Максаву кашулю, акуратна склаў, потым зноў апрануў паліто — проста на голае, спаласаванае шнарамі цела... Цяпер, здаецца, джынсы здымае... Што гэта значыць? Я разгублена абвяла вачыма тусоўку. Усе прыгнечана маўчалі, хаваючы вочы... Раптам разуменне пранцяла і мяне. Гэта ж прафесар рыхтуецца сысці — у тым выглядзе, як з'явіўся... Калі не лічыць загоеных ран і змытага бруду. Наслухаўся Едрусевых тэорый пра неўмяшальніцтва ў гісторыю. І я нарэшце ўсвядоміла напоўніцу, пра што крычала Даліла і куды наш госць адпраўляецца... Што яго чакае... Можа, я зрабіла страшэнную памылку, калі выцягнула яго з дурдома?

Між тым прафесар уздзеў на босыя ногі боты з гармонікам... Выпрастаўся...

— Усё... бывайце.

І пайшоў да сцяны, дзе вісеў абраз, які дасталі з магілы. Я таксама ўзнялася, як за паветраным шарыкам узнімаецца ўверх нітка, якая, можа, зусім і не збіралася нікуды ляцець.

— Спадар Валяр'ян...

Я ж так яму і не сказала... Скаловіч наблізіўся да мяне, пацалаваў у шчаку, зазірнуў у вочы... Не, усё-ткі ён умеў чытаць думкі. Раптам прыхінуў да сябе і зашаптаў на вуха:

— Ну-ну... Гэта пройдзе... Гэта ўяўленне. Вы проста рамантычная, цудоўная дзяўчынка... І рыцар у вас ёсць, які вас кахае. І вы яго кахаеце... І ўсё ў вас будзе добра. А я — экспанат з мінулага. Стары сярдзіты прафесар, які, па-сутнасці, даўно ператварыўся ў тло. Дзяўчаткі ў вашым узросце могуць закахацца ў фотакартку, у мумію... Але ж лепей — жывы, прыгожы і шчыры хлопец. Ну, не сумуйце...

Пацалаваў у лоб, адышоўся...

І што, гэта — назаўсёды? І як далей жыць?

Даліла кінулася да яго праз увесь пакой, як шалёная, з такім адчайным крыкам, які можна чуць толькі падчас сапраўдных — не інсцэнаваных — народных галашэнняў. Абхапіла, ледзь не паваліўшы на зямлю. Мне падалося адразу, што яна збіраецца зноў гвалтам затрымаць госця.

— Прабач! Прабач мне!

І Скаловіч раптам таксама абняў яе... Рыўком, амаль груба, прыціснуў... Іх вусны сустрэліся...

Яны цалаваліся прагна, з жарсцю, так, як могуць цалавацца перад вечным расстаннем толькі людзі, якія даўно адно аднаго кахаюць і адно аднаму даўно не чужыя. Забыўшыся на нас. Забыўшыся на ўсё. Пальцы Далілы лашчылі цёмныя з сівізной неахайныя валасы... Кручканосы змрочны твар... Кожную рысачку... І яго рукі таксама нібыта стараліся запомніць яе...

Я зразумела, што плачу, толькі тады, калі слёзы пацяклі па шыі. Зараз, як Аліса ў Краіне Цудаў, наплачу сабе мора, у якім змагу патануць.

Дурнічка. Наіўная дурнічка. Гэта не тваё свята і не тваё гора. Гэта — для дарослых... Не для такіх малых няўдаліц, як ты... Зрабі сабе пірсінг на сэрцы, малая. Можа, не так стане балець.

А Даліла адарвалася ад прафесарскіх вуснаў і прамовіла:

— Тыдзень таму я яшчэ не была ўпэўненая... Але цяпер ведаю дакладна. Памятай — у цябе будзе нашчадак у нашым часе. З гэтым табе зробіцца лягчэй паміраць, каханы.

Скаловіч стрымаў уздых — ён жа чэмпіён па хаванні эмоцый! — і пацалаваў яе далоні.

— Дзякуй... З гэтым веданнем мне лёгка памрэцца. І... прабач... Калі зможаш... Бо я не магу ўчыніць іначай.

Адхінуў Далілу... Абвёў нас позіркам цёмных, як вада ў віры, вачэй, усміхнуўся — на гэты раз без прымешку сарказму, а весела, нават гарэзна, падняў руку...

— Паспрабую забіць нягодніка. Будуйце тут Альбарутэнію!

І зрабіў крок... Мне падалося на хвілю, што бачу — ці і праўда ўбачыла? — кабінет са сценамі, пафарбаванымі ў цьмяны зялёны колер, нерухомыя постаці ў мундзірах... І яшчэ падалося, што на запясці рукі Скаловіча, узнятай у развітальным жэсце, праступіў крывавы шнар, які зажыў амаль два месяцы таму. Потым відовішча пачало расплывацца, як адбітак на паверхні вады, у якую кінулі камень. Апошняе, што заўважылася, — высокая чорная постаць хіснулася і пачала падаць.

Ну так. Калі да цябе ў адно імгненне вяртаюцца наноў усе твае раны, пераломы і пабоі ў такой колькасці, якім бы трывушчым ні быў — болевы шок забяспечаны.

Кола замкнулася.

Перад вачыма зноў была толькі сцяна, абклееная шпалерамі з выцвілымі ружамі.

І нават апошні прусак у гэтай хаце мог бы пацвердзіць, што болей ніхто праз гэтую сцяну не пройдзе. Нешта нябачнае, трывожнае пакінула пакой.

— Ты што, праўду яму сказала? Пра нашчадка? — здушаным голасам прамовіў Макс да Далілы.

Тая не абцяжарылася адказам, павярнулася да нас.

— Усё. Пакуйце рэчы.

І рушыла з пакоя. Танклявая, гнуткая, прыгожая... Моцная.

Яна не будзе плакаць пры нас. Факт.

Апошняя гаспадыня гэтай хаты маўчала дзесьці на кухні, дождж XXI стагоддзя барабаніў у брудныя шыбы, на старых могілках дагаралі свечкі Дзядоў...

А Едрусь раптам пацягнуўся за сваёй апошняй, непрададзенай, гітарай, пяшчотна пагладзіў яе, нібы вітаўся або

прасіў прабачэння, што яна засталася без сябровак, крануў струны...

Гіене — баяцца, сабаку — вішчаць,
Свінні — рыцца ў гноі сваім.
А льву патрэбны калючы гушчар,
Родны край і свабода ў ім.

Я пазнала песню на словы Караткевіча, якую чула падчас апошняга фэсту. Едрусь што, звар'яцеў, спяваць у такі момант?

П'ю за тое, каб нам сярод родных лясоў
Не вішчаць, не дрыжаць, не крывіць.
Бо ўсе мы тут — не з гіен і не з псоў,
Бо мы — сапраўднай крыві.

Генусь адняў рукі ад твару, — на шчоках засталіся мокрыя сляды. Макс сумна схаваў дыктафон у кішэню і ўтаропіўся ў столь, якую так часта вывучаў позіркам наш нядаўні госць...

І таму давайце за ворагаў піць
І за імі сатканую сець.
Бо ім не дадзена нас палюбіць
І не дадзена нас зразумець.

Што ж... Зняволеныя ў «амерыканцы» паэты таксама спявалі — пакуль ім не паадбівалі лёгкія... А ў хаце, што згубілася пасярод змрочнага гарадскога лістападу, выснοўваліся кашчунныя для рамантыкаў словы пра нашых ворагаў.

Божа! Дай ім даўжэй пражыць,
Хай спаўна адтрубяць свой час.
Хай да самай апошняй нашай мяжы
Будуць яны у нас.
Божа! Ты скінуў іх нам, як дары,
І мы славім мудрасць тваю.
Бо яны нас будзяць яшчэ на зары
І рана заснуць не даюць.

I ўстаём, і арэм мы нашы палі,
Пакуль не апусціцца змрок.
І мы ўстаём, і зброю сталім,
Слова сталім і радок.

Я душылася плачам, як у далёкім дзяцінстве, калі бацькі згубілі мяне ў купальскім лесе.

Даруй ім, яны пакараныя й так,
Даруй — хоць на гэты раз.
Бо розуму ў іх, як слёз у ката,
І не могуць пазычыць у нас.
І даруй нам, што сеем мы ў душы ім жах,
Як скачком бяром частакол,
Што даводзіцца ім дрыжаць у дамах,
Калі гойсае леў вакол.

Збялелая Даліла выйшла з кухні — неверагодна, але ў гэтае імгненне яе гожыя рысы чымсьці нагадалі мне рысы Скаловіча, — падышла да сцяны, перахрысцілася на абраз Маці Божай Адзігітрыі (такога я дагэтуль за сяброўкай не заўважала!) і асцярожна зняла яго.

**ЭПІЛОГ 1**

Урывак з успамінаў загадчыка кафедры неарганічнай хіміі Сарбонскага ўніверсітэта (1923–1941) прафесара П'ера дэ Тэр'е пра паездку групы еўрапейскіх вучоных у Савецкі Саюз (жнівень 1933 г.).

«...На зваротным шляху з Масквы наш цягнік прыпыніўся ў маленькім гарадку з назвай Менск. Да цывілізацыі, гэта значыць да польскай мяжы, заставалася ўжо нядоўга. Вечарэла, але яшчэ было відно. Я паленаваўся выйсці на перон, стаяў у сваім купэ, курыў, апусціўшы шкло акна, і думаў пра тое, пра што звычайна думаецца на правінцыйных паўстанках: «А нехта ж і тут жыве... І, напэўна, тут ёсць вартыя, цікавыя людзі, для якіх гэтая глухамань — цэнтр сусвету, любае і дарагое месца...»

Вось хоць бы таму таварышу ў гаўрошаўскім кепі, што стаіць насупраць майго акна, рукі ў кішэні, нібыта без усялякай справы, і ледзь не насвіствае Марсельезу... Я спецыяльна ўпусціў на зямлю недапаленую цыгарэту — таварыш у кепі вокамгненна тузануўся, кінуў на недапалак прагны позірк... І зноў утаропіўся ў вечаровае неба. Цікава было б паглядзець, як пасля адыходу цягніка ён кінецца падбіраць «заходнюю крамолу» са святой камуністычнай глебы. Ён і цяпер бы кінуўся, але я працягваў глядзець у акно. Люблю цвеліць фараонаў яшчэ з часоў студэнцтва.

Халера, а я спадзяваўся пабачыць Горад Утопію ў маштабах імперыі, роўнасць, братэрства, усмешлівыя твары і ніякіх паліцэйскіх... Тым болей на кожным кроку.

Мела рацыю мая Сесіль, калі гаварыла, што рэвалюцыі — гэта святочныя феерверкі, якія ператвараюцца ў жудасныя пажары, а потым людзі сцвярджаюць, што вуголлі — гэта і ёсць новы свет.

Раптам нешта выбухнула з таго боку, дзе паравоз, нават з майго акна было відаць — пасыпаліся іскры... Назіральнік у кепі кінуўся туды разам з усімі іншымі... Пакуль я раздумваў, ці не варта і мне зірнуць, што адбылося, пад акном купэ ў першым прыцемку — кропля атраманту на шклянку дажджавой вады — з'явіўся быццам зніадкуль хударлявы высокі тып у кароткім брунатным паліто, з нАматаным на шыю вязаным шалікам і ўтаропіўся ў мяне цёмнымі вачыма... О-ля-ля! Гэтае бледнае аблічча з кручкаватым носам не пазнаць немагчыма... Пан Валеры Скаловіч! Калісьці, больш за дзесяць гадоў таму, мы працавалі на адной кафедры. Не сказаць каб сябравалі, — сяброў у яго, з ягоным замкнёным характарам і схільнасцю да чорнага гумару, было няшмат, наколькі я памятаю. Але я паважаў месье Валеры — сапраўдны фанатык справы, прычым з нестандартным мысленнем. Што ён тут робіць?

Валеры зрабіў мне знак, каб я адышоў ад акна, потым неяк вельмі хутка — я не паспеў асэнсаваць — падскочыў, падцягнуўся — і вось ужо ён у маім купэ. Я радасна прывітаў яго... Але словы прыліплі да маіх вуснаў. Месье Скаловіч выглядаў так пагана, што я мімаволі спытаў, што з ім такое.

Госць усміхнуўся асаблівай, толькі яму ўласцівай усмешкай — скепсіс плюс горыч — і патлумачыў, што ён нядаўна са шпіталя. Што здарылася? Пераабдымаўся з уладамі.

Скаловіч глядзеў пранізлівым цвёрдым позіркам, як чалавек, у якога ёсць вельмі важная — жыцця і смерці — справа. Выцягнуў з-пад паліто важкую, быццам прылавак мясніка, кнігу ў чырвонай вокладцы з залатымі літарамі «СССР. Шлях развіцця». Падобнымі нас ужо адорвалі ў Маскве.

— Вось, П’ер... Вазьмі... Прашу цябе — вывезі гэта адсюль.

Я здагадаўся, што пад сувенірнай вокладкай хаваецца нешта іншае. Валеры пацвердзіў.

— Вядома, выгляд — бутафорыя... Тут рукапіс. Апошняя праца акадэміка Нічыпаровіча. Нічыпаровіч нядаўна застрэліўся — можа, у вас чулі?

Я адмоўна пакруціў галавою. Прозвішча Нічыпаровіча ўвогуле я некалькі разоў сустракаў, але гісторыя — не мая парафія, і стасункаў з гэтым вучоным у мяне не здаралася.

— П’ер, гэта вельмі важна для маёй краіны... Не для той, назва якой напісана на гэтай кніжцы, а для той, якую мы ўсе спадзяваліся пабудаваць. Праўда пра наша мінулае. Я скажу, каму перадаць, хто зацікавіцца... Я дадаў анатацыю і кароткі пераказ на французскай — на жаль, перакласці цалкам, грунтоўна не хапіла часу.

Скаловіч назваў прозвішчы некалькіх славістаў.

— Ну, усё... Дзякуй, П’ер...

Нечаканы госць павярнуўся да акна. Я глядзеў на ягоныя неахайныя валасы, цёмныя з сівымі ніткамі, хударлявую стомленую постаць...

— Стой, Валеры! Ты ў небяспецы, так? Давай я паспрабую цябе выцягнуць адсюль. Гэта цяжка... Але пакуль магчыма. У мяне добрыя сувязі з нашай кампартыяй, даб’ёмся, каб цябе выпусцілі на сімпозіум у Парыж — будзе ў снежні, можа, чуў? Ці ў Прагу, на канферэнцыю... Вашы ж ездзяць... І ты застанешся.

Валеры павярнуўся да мяне і сумна адказаў:

— Ведаеш, я ў гэтым годзе ўжо зрабіў адно падарожжа... Можна сказаць, ва ўласнае жыццё. І сустрэў адну жанчыну... І зразумеў, што нельга вечна ўцякаць — ад сябе самога

таксама. Чалавека нельга зрабіць нягоднікам супроць ягонай волі. Нянавісць да сябе нічога не апраўдвае. Разумееш, П'ер?

Я не вельмі разумеў, пра што гаворыць мой былы калега, але падтакнуў ягоным ліхаманкавым словам, бо адчуваў, што ён наважыўся на нешта страшнае, і адгаворваць бескарысна. Мы абняліся... У мяне ў душы нешта балюча перавярнулася, калі я апошні раз угледзеўся ў выснажанае аблічча з цёмнымі ўпартымі вачыма. Потым ён выслізнуў праз акно — на наш узрост досыць спрытна — і знік у цемры, якая ўсё яшчэ поўнілася крыкамі і ўспышкамі.

Я схаваў чырвоную кнігу ў свой саквояж між падобных сувеніраў і выйшаў з купэ. Праваднік патлумачыў, што зараз мы адпраўляемся — проста нейкія хуліганы зладзілі ў кустах ля насыпу феерверкі. Можа, гэткім няўклюдным чынам мясцовыя энтузіясты вырашылі прывітаць цягнік з заходнімі навукоўцамі?

Ужо калі за акном перасталі мільгаць агні дамоў і цягнік цалкам увайшоў у амаль матэрыяльную цемру, я ўспомніў, што Скаловіч лічыўся выбітным піратэхнікам... І зладзіць непрыкметна феерверкі для яго — што для героя індзейскіх раманаў Скураной Панчохі застрэліць за дваццаць крокаў качку.

Прызнацца, вольна ўздыхнуў я толькі тады, калі забачыў зыркія агні Варшавы.

Працу Нічыпаровіча я перадаў, як і абяцаў. Праўда, калі яе выдалі ў перакладзе на французскую мову, так і не знайшоў часу пачытаць да канца — каюся. Перасяленні плямёнаў мяне ніколі не цікавілі так, як перасоўванні пратонаў. Водгукі ад знаўцаў былі розныя — усе казалі, што праца бліскучая, але з высновамі частка катэгарычна не згаджалася. Не ведаю, я не спецыяліст, можа, і праўда Нічыпаровіч прыдумаў новую дзяржаву — Альбарутэнію... Але калі ён і Скаловіч загінулі за яе, значыць, яна павінна быць.

Так, і Скаловіч загінуў. Я адмыслова пытаўся — яго арыштавалі дзесьці праз тыдзень пасля нашай сустрэчы. І больш яго ніхто нідзе не бачыў. Амін».

**ЭПІЛОГ 2**

З заявы сяржанта дзяржбяспекі В. Быхіна на імя наркама УС БССР А. Наседкіна ад 20.11.1938.

«Яшчэ раз заяўляю, што я быў сведкам шматлікіх парушэнняў законнасці з боку начальніка аддзялення па справах нацыянал-фашыстаў таварыша Касіянава М.П. падчас вядзення следства. І зараз я сам арыштаваны па беспадстаўных абвінавачваннях толькі з-за таго, што з'яўляюся гэтым небяспечным сведкам.

...Помню і такі адзін ганебны эпізод. У лістападзе 1932 года я мусіў прыйсці ў кабінет таварыша Касіянава з патрэбнымі яму дакументамі. Калі я зайшоў, то ўбачыў, што ў крэсле перад сталом Касіянава сядзіць чалавек інтэлігентнага віду. Паколькі ён быў добра апрануты (касцюм з гальштукам) і вельмі спакойны, я вырашыў, што гэта не зняволены. Але Касіянаў узяў у мяне патрэбныя дакументы і распарадзіўся, каб я стаў за спінаю гэтага чалавека. Мадэст Пятровіч так рабіў, каб той, каго дапытваюць, страчваў упэўненасць у сабе, бо калі за тваёй спінай нехта стаіць, гэта вельмі нервуе... Акрамя мяне, Касіянава і незнаёмца, у кабінеце знаходзіўся сяржант НКУС Завадзееў. Ён стаяў ля сцяны і, як я заўважыў, трымаў у руцэ гумавую палку — такія мы ўжывалі падчас допытаў.

Касіянаў размаўляў з чалавекам у касцюме, як з добрым знаёмым.

— Ну што, Скаловіч, вырашыў збегчы... Як табе не сорамна? Табе даецца магчымасць выкупіць сваю віну — а ты яшчэ болей шкодзіш. Няўжо ты думаў, што ў таварыша Уладзіміра Акермана няма іншых праблемаў, як уладкоўваць цябе, падазроную асобу, на працу ў сваю клініку? Цяпер, зразумела, у таварыша псіхіятра дзякуючы табе праблемы з'явіліся. І ён доўга будзе тлумачыць, чаму звязаўся з табою.

— Вы, Мадэст Пятровіч, спірытызмам ніколі не займаліся? — нечакана адказаў чалавек пытаннем на пытанне. — Толькі спірыты вераць, што зносіны між дзвюма асобамі могуць адбывацца нават у адсутнасці ўсялякага кантакту між фізічнымі целамі. Я ж не паспеў сустрэцца з Акерманам, і нават да Масквы не даехаў, як вы ведаеце.

— Да Масквы! — насмешна сказаў Касіянаў. — Патрапіць у сталіцу нашай радзімы яшчэ трэба заслужыць. А ты, Скаловіч, несвядомы шкодны элемент. Крыжык носіш, мову міжнацыянальных зносінаў не ўжываеш, з нацдэмамі сябруеш, студэнтаў сваіх псуеш... Студэнтаў шмат на тваім факультэце, прафесар?

Я не бачыў выразу твару Скаловіча, але голас яго гучаў зусім спакойна, амаль пагардліва.

— Я не лічыў сваіх студэнтаў. Мяне мала цікавяць падлеткі.

Мне не спадабалася, як гэты чалавек гаворыць пра вучняў. Напэўна, ён вельмі фанабэрысты і дрэнны выкладчык. Але таварыш Касіянаў толькі паківаў пальцам.

— Хітрыш, Скаловіч. І студэнтаў сваіх ведаеш, і студэнтачак. Пра твае эксперыментальныя футурыстычныя заняткі нам даўно дакладалі. А калі лічбы забыўся — нагадаем...

Касіянаў дастаў з тэчкі, якую я яму прынёс, аркуш з шэрагам імёнаў, запісаных у слупок.

— Так, так... Шэсцьдзясят чатыры чалавекі... На якіх ты, Скаловіч, аказаў дрэнны ўплыў. Таму будзем маладых людзей ратаваць. Якая твая любімая лічба?

Скаловіч прамаўчаў, і Мадэст Пятровіч адказаў за яго.

— Няхай гэта будзе пяць. Як промняў у чырвонай зоркі. Вось зараз і палічым па гэтым спісе — кожны пяты студэнт сёння будзе арыштаваны. З-за таго, што яго выкладчык аказаўся баязліўцам і шкоднікам і не захацеў супрацоўнічаць з Савецкай уладай. З-за тваіх уцёкаў, прафесар.

Касіянаў пачаў лічыць.

— Адзін, два, тры, чатыры, пяць... Вальжына Верацёнка. Не пашанцавала дзяўчыне. Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць... Навум Гольдберг... Адзінаццаць...

— Верацёнка — дачка супрацоўніка камісарыята... — абыякава сказаў прафесар. — Не думаю, што яму гэта спадабаецца.

Мне зноў падалося гідкім, што прафесар гэтак абыякава ставіцца да лёсаў сваіх студэнтаў. Але я заўважыў, што, нягледзячы на спакойны голас, ён так сціснуў свае далоні, што збялелі пальцы, і зразумеў, што насамрэч Скаловіч вельмі

пературажывае. Таварыш Касіянаў, відаць, таксама гэта разумеў, таму што закрычаў:

— Што, не падабаецца? Дык памятай — за кожную тваю спробу ўцёкаў, за кожны раз, калі ты праігнаруеш наша запрашэнне, будуць арыштаваныя твае студэнты! Сёння — кожны пяты. Наступны раз — кожны трэці! І кожнаму з іх мы скажам, што яго парэкамендаваў забраць ты.

— Сволач!

Зняволены гэтак маланкава кінуўся цераз стол на таварыша Касіянава, што я трохі спазніўся. Але сяржант Завадзееў, які адмыслова сачыў за зняволеным, некалькі разоў ударыў яго гумавай палкай. Мы ўдвох усадзілі арыштаванага назад на крэсла і прывязалі яго за рукі, ногі і шыю вяроўкамі. А таварыш Касіянаў гаварыў:

— Пакуль не перастанеш выкідваць такія каленцы — будзем прывязваць. Запомні: ты — здраднік. Гэтак называецца твая пасада ў аддзеле па барацьбе з нацыянал-фашызмам. Хочаш таго ці не, будзеш маўчаць альбо крычаць — не мае значэння. Ты для ўсіх здраднік. Кожнаму, хто прыйдзе ў гэты кабінет, я скажу, што гэта ты яго здаў. І адзіны шлях для цябе — пачаць шчырае супрацоўніцтва з намі. Ператварыся са здрадніка ў патрыёта, дай паказанні... Раскажы, хто, акрым цябе, завербаваны польскай дэфензівай... І атрымаеш волю. У гэтае крэсла сядзе іншы.

Да майго здзіўлення, Скаловіч прамовіў зноў вельмі спакойным і нават ганарыстым тонам:

— Дзіўнае ў вас уяўленне пра патрыятызм, таварыш Касіянаў. Здаецца, ва ўсе часы гэта называлася подласцю.

Пасля гэтага да арыштаванага былі прыменены фізічныя меры ўздзеяння, толькі па загадзе таварыша Касіянава не павінна было заставацца слядоў на твары арыштаванага. Я, як падначалены, змушаны таксама быў прымаць у гэтай ганебнай справе ўдзел. Але, запэўніваю Вас, таварыш наркам, унутрана я не ўдзельнічаў.

Таму прашу Вас выратаваць мяне ад помсты нядобрасумленных таварышаў, якія могуць ужыць да мяне таксама недазволеныя метады допытаў».

Удакладненне на абачыне дакумента: «Сяржант В. Быхін расстраляны 13.01.1939. А. Наседкін арыштаваны 16.12.1938, асуджаны да вышэйшай меры пакарання 25.01.1940».

## ЭПІЛОГ 3

Фрагмент артыкула кандыдата гістарычных навук Максіма Пратасевіча па матэрыялах следчых спраў 1933–1934 гг.

«Напрыканцы 1933 года па справе «контррэвалюцыйнай паўстанцкай і шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» «Беларускі нацыянальны цэнтр» органы АДПУ БССР арыштавалі 161 адказнага работніка дзяржаўных, партыйных, навуковых ды іншых установаў. Некаторыя арганізацыі былі змушаныя спыніць сваю дзейнасць з-за недахопу кадраў.

Цікава, што насамрэч, па сведчаннях сучаснікаў, па супастаўленнях кадравых рэестраў навуковых устаноў, схоплена людзей было нашмат больш, чым заяўлялася афіцыйна. Некаторыя следчыя справы дасюль застаюцца закрытымі. Нядаўна ўдалося адну з такіх знайсці.

Не дзіўна, што яе асабліва пільна хавалі. Справа была беспрэцэдэнтная. Замах на начальніка асобага аддзялення НКУС Мадэста Касіянава. Прычым здзейснены проста ў будынку самога наркамата, які называлі «Жоўтым домам».

На допыт выклікалі прафесара хіміі БДУ Валяр'яна Скаловіча. Улады падазравалі яго ў тым, што ён перадаў на Захад працу свайго сябра, акадэміка Нічыпаровіча, які незадоўга да гэтых падзей пусціў сабе кулю ў скронь. Скаловіча многія лічылі супрацоўнікам НКУС. Прынамсі, Мадэст Касіянаў неаднойчы вазіў В. Скаловіча па цэнтральных вуліцах горада на сваёй службовай машыне (чорны «Форд»), прычым складвалася ўражанне пэўнай дэманстрацыйнасці гэтых аўтамабільных прагулак. В. Скаловіча тры разы арыштоўвалі — і адпускалі, у той час як іншыя прыгаворваліся да высылкі і канцлагераў, а некаторыя — і да вышэйшай меры. І ў гэты дзень, 29 жніўня 1933 года, Валяр'яна Скаловіча прывёз у Жоўты дом сам Касіянаў. Што адбылося потым, вядома толькі пункцірна. Выбух у кабінеце Мадэста Касіянава, дзе знаходзіліся ён

сам, Валяр'ян Скаловіч і двое супрацоўнікаў, быў дастаткова моцным. Ад імгненнай смерці ўсіх выратаваў выпадак. Пачаў выпрацоўвацца атрутны газ. Адзін з прысутных, следчы-інструктар Андрэй Махоня, памёр на месцы, астатнія страцілі прытомнасць. Мадэст Касіянаў зарабіў хранічнае захворванне дыхальных шляхоў (астма), ад якога да канца жыцця лячыўся. Прыблізна ў гэты ж час перад ганкам дома ўзарваўся «Форд», на якім Скаловіча сюды прывезлі.

Следства па справе доўжылася два месяцы. Скаловіч, якому таксама ўдалося выжыць, узяў усю віну на сябе, ніводнага саўдзельніка выявіць не ўдалося. Па логіцы, з выбуху ў кабінеце можна было выснаваць куды больш гучную і шматлюдную справу, чым з выдуманага «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Але следства, хутчэй за ўсё, спяшалася сцерці ўсялякую згадку пра гэты выпадак, бо абставіны рабілі органы НКУС, таго ж Касіянава, адказнымі за такі «пракол». Пазначана, што хімік быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і прысуд выкананы. Але калі і дзе — невядома. Дасюль ва ўсіх энцыклапедыях і даведніках значылася, што В. Скаловіч расстраляны разам з тымі, хто праходзіў па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра», у 1934 годзе. Пасля знаёмства з ягонай следчай справай можна зрабіць верагодную выснову, што Скаловіч быў забіты ў 1933 годзе, у хуткім часе пасля замаху на Касіянава.

У справе знаходзіцца тлумачальная запіска самога М. Касіянава, які сцвярджае, што В. Скаловіч быў псіхічна неўраўнаважаным чалавекам, але вельмі каштоўнай асобай для псіхалагічнай апрацоўкі іншых арыштаваных. Бо ў яго павышаны болевы парог, а таксама інтравертнасць і надзвычай моцны комплекс віны. Гэта значыць, што замест супраціву альбо істэрыкі чалавек будзе маўчаць і цярпець, нават калі чуе пра сябе жахлівую няпраўду. Такім чынам, атрымліваецца няхай не добраахвотнае, пасіўнае, але супрацоўніцтва са следствам. І гэта давала трывалую надзею на тое, што ўрэшце супрацоўніцтва зробіцца добраахвотным і свядомым. Што было б вельмі каштоўным, улічваючы навуковы аўтарытэт, назіральнасць і моцную волю паддоследнага.

На жаль, пад канец апошняга следства адбыліся паталагічныя змены ў характары В. Скаловіча, што прывяло да некантралюемай агрэсіі і сумнавядомых наступстваў. Гэтыя наступствы, аднак, уваходзяць у працэнт абавязковай прафесійнай рызыкі. Так, ён, Касіянаў, лічыць сябе ўскосна вінаватым у тым, што адбылося. Аднак рэзкія абвінавачванні асобных таварышаў, якія хочуць яго зрабіць за гэта цалкам адказным, беспадстаўныя. Дзякуючы настойлівасці следства, В. Скаловіч выявіў сваё сапраўднае варожае аблічча, і ДПУ можа паставіць сабе ў заслугу выкрыццё і ліквідацыю небяспечнага палітычнага тэрарыста.

А тое, што некаторыя недальнабачныя таварышы прапаноўваюць перадаць зняволенага ў асобае тэхнічнае бюро пры наркамаце ўнутраных спраў СССР, як асобу са спецыяльнымі тэхнічнымі ведамі, дык асаблівая небяспечнасць злачынцы і яго зацятасць гэты варыянт выключае.

Напрыканцы аўтар тлумачальнай запіскі прапануе засакрэціць інцыдэнт і «абясшкодзіць» усіх, так альбо іначай абазнаных у тым, што адбылося. Бо тэрарыстычная акцыя В. Скаловіча ставіць пад сумнеў магутнасць усёй арганізацыі, а магчыма, і Савецкай улады.

На тлумачальнай размашыстым почыркам рэзалюцыя: «Прапанову задаволіць. Да стварэння павышанай сакрэтнасці прыступіць неадкладна. Таварышу Касіянаву — спыніць эксперыменты і надалей працаваць па агульнай апрабаванай схеме».

**ЭПІЛОГ 4**

З кнігі ўспамінаў мастацтвазнаўца П.А. Анісімава.

«У 1932 годзе з аддзела старажытнага рускага мастацтва Эрмітажа мяне накіравалі часова ў распараджэнне наркамата ўнутраных спраў БССР. Я вельмі ганарыўся, што для адказнай работы паслалі мяне, а не кагосьці з «белых каўнерыкаў» — гэтак пагардліва мы, савецкія маладыя спецыялісты, называлі калег, што засталіся музею ў спадчыну яшчэ з царскіх часоў. Старэчы ў пенснэ лёгка адрознівалі наўгародскую школу іканапісу ад маскоўскай,

ляўкасную грунтоўку ад алейнай, але не разумелі, што мастацтва — не стод, якому варта маліцца, а ўсяго толькі маёмасць працоўнага класа. Мне належала дапамагаць у адборы экспанатаў беларускіх музеяў для передачы Усесаюзнаму аб'яднанню «Антыкварыят». Раней на Беларусі я не быў, толькі вывучаў па рэпрадукцыях роспісы Полацкай Спаса-Еўфрасіннеўскай царквы — аблічча з вялізнымі сумнымі вачыма і строгімі вуснамі, ды яшчэ гартаў выданні Францыска Скарыны... Цяпер давялося паездзіць па местах і мястэчках былой імперскай ускраіны. Не, гэта была не Расія, як я дагэтуль лічыў. Іншыя твары — можа, з болей еўрапейскімі рысамі, іншая гаворка, нават будова хатаў... Але савецкі побыт, на шчасце, паўставаў і тут. Праўда, і ўсялякія перагібы даводзілася бачыць. І як секлі на распалку старажытныя драўляныя скульптуры, выкананыя мясцовымі прыгоннымі геніямі. І збітую з фрагментаў «царскіх варот» з малюнкамі XVI стагоддзя сабачую будку на двары старшыні камбеда. І партрэты італьянскай школы эпохі барока, у якіх былі павыразаныя твары, каб зрабіць дэкарацыі для выступленняў «сіняблузачнікаў»... Палацы, разабраныя да падмуркаў, — не, каб зладзіць там, у гатовым памяшканні, клуб альбо амбулаторыю... Амаль замазаныя бяліламі фрэскі ў царкве, прыстасаванай пад зернясховішча, — а фрэскі адметныя, для мяне ўвогуле адкрыццём стаў мясцовы жывапіс. Твары святых дакладна змаляваныя з тубыльцаў, сучасных аўтару. Так і здавалася, што гэтыя румяныя, жыццярадасныя аблічча вызіраюць з-за карчомнага стала з куфлямі піва альбо медавухі... А было і іншае. Шмат несвядомых элементаў і проста шкоднікаў. Здаралася, у музеях хавалі ад камісіі самае каштоўнае, няправільна ўносілі ў вопісы... Сустракаў я там і падобных да нашых «белых каўнерыкаў» старых спяцоў, і асоб, з якіх проста выплюхваўся местачковы нацыяналізм, — плявузгалі скрозь зубы, што нельга адрываць культурныя каштоўнасці ад народа, які іх стварыў... Шаноўныя, мы ўсе станем адным народам — вось толькі пазбавімся баласту, кулакоў ды такіх перажыткаў мінулага, як вы.

Але часам прыходзіла ў галаву, калі перабіраў груды адабранага для ацэнкі скарбу: добра, што не давялося

ўдзельнічаць у... так бы мовіць, першым этапе экспрапрыяцыі. Вось крыж з эмаляванымі ўстаўкамі-машчавікамі... Срэбная карона для Торы са стразамі... Залатая рыза ад абраза Багародзіцы... Не выключана, што за кожны з гэтых прадметаў рэлігійнага культу чапляліся з апошніх сілаў рукі цемрашалаў і цемрашалак... І адурманеныя рэлігійным опіумам няшчасныя гатовы былі аддаць жыццё альбо забіць, абы гэтыя прадметы не патрапілі ў савецкую ўласнасць. І... можа быць — вось здрадніцкі сумніў! — не вельмі рваліся нашы «белыя каўнерыкі» ў гэтую камандзіроўку...

Не ведаю, ці ўдалося б мне гэтак добра спраўляцца, каб не таварыш Крэчат з Наркамата ўнутраных спраў, да якога я быў прыкамандзіраваны. Ён не ведаў сумніваў і жалю, і рэвальвер, маланкава прыстаўлены да несвядомага лба, служыў неабвержным аргументам. Але часта ставала толькі ягонага суровага пагляду. Я шчыра захапляўся гэтым старым бальшавіком, героем рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Нават выгляд ягоны нагадваў гордую птушку, якой ён называўся, хаця рысы Крэчата ад прыроды былі досыць мяккія, тыпова славянскія, і нос нават троху кірпаты... Мой начальнік хварэў на сухоты, і час ад часу з ім здараліся страшныя прыступы. Але сваёй працы ён не пакідаў, і ніхто б і не наважваўся нагадаць яму пра адпачынак. Я ледзь мог угнацца за ім, калі ён, невысокі, падцягнуты, у чорнай скуранцы, пахіліўшыся наперад, як фарштэвень баявога карабля, шпацыраваў хуткім крокам па брукаваных вулках Менска. Здавалася, што вакол яго разыходзяцца нябачныя хвалі.

Але нашы сяброўскія адносіны аднойчы — назаўсёды і недарэчна — скончыліся.

Была свежая, як першае лісце на дрэвах, раніца. Таварыш Крэчат папрасіў мяне зайсці за ім уранку, і мы пакіраваліся ў будынак НКУС, праверыць дастаўленыя прадметы, адабраныя намі нядаўна ў Віцебскім дзяржаўным музеі. Сярод іх персідская гравюра ў фарбах, срэбная ханука са збаночкамі для алею, а самае галоўнае — дзве гравюры Дзюрэра, якія я ацаніў у шэсць тысяч рублёў. Кіраваліся пешкі — таварыш Крэчат быў надзвычай сціплы і, нягледзячы на сваю хваробу, амаль не карыстаўся службовым аўтамабілем.

Мы шпацыравалі ў раёне Беларускага ўніверсітэта. Я пераказваў ленінградскія інтэлігенцкія спрэчкі наконт артыкула Фадзеева «Далоў Шылера» і лефаакмеізму. Таварыш Крэчат скардзіўся на беларускіх паэтаў, якія пераймаюць кабацкага Ясеніна і амаль усе схіляюцца да буржуазнага нацыяналізму... Раптам мой спадарожнік рэзка спыніўся, утаропіўшыся позіркам у высокага мужчыну, які ішоў нам насустрач. Мінак, гадоў сарака, быў у недарагім, але акуратным касцюме і белай кашулі з гальштукам, з партфелем у руцэ. Ягоны твар падаўся мне вельмі адметным — паманаску аскетычны і адначасова ганарысты... Сярэднявечныя балгарскія фрэскі, ці што? Вялікаваты гарбаты нос, высокі лоб з глыбокай вертыкальнай зморшчынай, засяроджаныя цёмныя вочы, строгая складка вуснаў, густыя валасы, трохі сівыя на скронях... Незнаёмец пра нешта так задумаўся, што нічога вакол сябе не заўважаў. Дакладна навуковец. А таварыш Крэчат глядзеў з застрашлівым шаленствам... І нават рукою ліхаманкава пачаў намацваць рэвальвер.

Чалавек з партфелем нарэшце заўважыў нас... І спыніўся. Але на ягоным твары чамусьці не паказалася ні здзіўлення, ні спалоху. Хаця таварыш Крэчат ужо наставіў на яго рэвальвер:

— Стой, гад! Пазнаеш мяне?

Чалавек маўчаў. Толькі на нейкае імгненне прыжмурыў вочы і глыбока ўздыхнуў — нібыта рыхтаваўся даць нырца ў халодную ваду.

Ды не, не ў ваду — у смерць. Бо Крэчат — мне даводзілася назіраць у яго такі настрой, але ў меншай ступені — аж тросся ад нянавісці:

— За ўсё заплаціш, сволач! Здраднік! Здохні, як сабака!

Я не ведаў, у чым правінаваціўся сустрэчны, можа, мяркуючы па ягонай выпрастанай паставе, ён былы белагвардзейскі афіцэр, але майго начальніка належала спыніць... Бо я адчуваў: вось-вось прагучыць стрэл. А гэта не па-партыйнаму. Ворагаў трэба судзіць. Праводзіць следства — каб выявіць сувязі... Я схапіўся за руку Крэчата, якая трымала рэвальвер, адначасова баючыся, каб спатканы намі злыдзень не выкінуў якую подласць.

І тут з маім начальнікам надарыўся чарговы прыступ хваробы. Ён страшна закашляўся, сагнуўся, на вуснах ягоных паказалася кроў, рука з рэвальверам апусцілася... Я падхапіў яго пад пахі, з адчаем азіраючыся па баках — трэба клікаць на дапамогу, зараз той гад збяжыць... Але вуліца была, як на злосць, пустэльнай... Толькі дзесьці далёка празвінеў званок трамвая. Краем вока я бачыў чорную постаць побач. Вось удала, відаць, нягоднік так спалохаўся, што ў галаву не прыходзіць уцякаць. Крэчат тузануўся ў новым прыступе крывавага кашлю... Нехта дакрануўся да майго пляча. Незнаёмец моўчкі працягваў мне насоўку. Я схапіў яе, прыклаў да вуснаў хворага...

Калі таварышу Крэчату зрабілася трохі лепей і ён выпрастаўся і зноў змог прыўзняць рэвальвер, я са здзіўленнем упэўніўся, што чалавек з партфелем стаіць нерухома на тым самым месцы, дзе і стаяў, хоць, далібог, дзесяць разоў мог збегчы, і глядзіць на нас з нейкім незразумелым выразам... Не, усё-ткі непадобна, што ён увогуле здатны перапалохацца. Хутчэй, тут нейкая памылка...

Крэчат, аднак, працягваў глядзець на мужчыну з той жа нянавісцю. Абышоў яго, моцна торкнуў руляй рэвальвера ў спіну:

— Наперад, сволач!

На брукаванцы засталася ляжаць скрываўленая насоўка.

Мы адвялі мужчыну ў наркамат унутраных спраў. Ён так і не зрабіў спробы ўцячы, не вымавіў ні слова. Ішоў размераным крокам, нават не азіраючыся па баках, пакорліва выконваючы каманды Крэчата, куды кіравацца.

Я не пайшоў з імі ў будынак Наркамата. Радасці ад таго, што паўдзельнічаў у затрыманні сапраўднага шпіёна — а пра гэта так часта марылася! — чамусьці не было. Я не мог пазбавіцца ад уражання, што ў цёмных вачах незнаёмца свяцілася нейкая дзіўная палёгка — як у хворага, які так змучыўся чаканнем, што нават паведамленне пра смяротную хваробу лепей за няпэўнасць... Ён жа нават усміхнуўся мне на развітанне куточкамі вуснаў — калі мне не падалося. І ўвогуле... Лепей бы мы ніколі не спатыкаліся. Бо пасля гэтай сустрэчы я мала бачыў свайго начальніка. І размаўляць

з ім цяпер было цяжка. Амаль немагчыма. Адчувалася, што думкі яго круцяцца далёка ад экспанатаў раённых музеяў. І думкі, далібог, пакутлівыя. З вуснаў Крэчата ўвесьчасна зляталі праклёны і не вартыя камуніста пагрозы, відаць, у бок арыштанта. Гэтак жа, як на мае роспыты гучэла толькі лаянка на той жа адрас. «Сволач», «здраднік», «мярзотнік»... А я ўсё не мог забыцца на моўчкі працягнутую насоўку...

Што ж, вораг сапраўды можа прымаць розныя аблічча, і мяккацеласць тут недарэчы.

Праз тыдзень мая камандзіроўка скончылася, і я вярнуўся ў Ленінград, каб даць справаздачу Урадавай ацэначнай камісіі. На апошні выбітны экспанат, які я знайшоў у фондах Гомельскага дзяржаўнага музея — наборны габелен фламандскай работы, амаль тры на чатыры метры плошчай і папярэдняй ацэнкай у дзесяць тысяч рублёў, таварыш Крэчат нават не прыйшоў зірнуць».

## ЭПІЛОГ 5

Апавяданне студэнткі першага курса аддзялення беларускай мовы і літаратуры філфака БДУ Русланы Палынскай, надрукаванае ў часопісе «Dz».

### Магільшчык

Самотны кляновы лісток, маленькі, як птушаня, упаў на плячо высокаму чалавеку са ссівелымі цёмнымі валасамі, нібыта залаты пагон невядомай арміі. На імгненне затрымаўся... Потым саслізнуў, яшчэ пакруціўся ў паветры, нібыта спадзяваўся, што рука часовага гаспадара яго падтрымае, не дасць упасці... Але ўрэшце апусціўся на чорную халодную зямлю, кабператварыцца праз адведзены прамежак часу ў яе ж, з залатога, карункавага стаць бясформным чорным слізкім камяком...

А чалавек проста не заўважыў залатога госця. Папраўдзе, гэта і не дзіўна — дзіўна было, як гэты чалавек можа стаяць на нагах. Нават твар ягоны так спух ад пабояў, што цяжка ўяўлялася, як гэтае аблічча выглядае насамрэч. Адзінае

вока, якое магло пазіраць на гэты свет — другое заплыло да шчыліны, — здавалася цёмным, як вада ў віры.

Але чалавек стаяў, шырока расставіўшы босыя ногі, каб не хістацца, ганарыста закінуўшы чорна-сівую галаву. Як яму пашанцавала... Ён зноў бачыць сонца — няхай яно ўжо заходзіць, ледзь праглядае між стваловў дрэў. Ён зноў дыхае лясным паветрам...

Той, хто не сядзеў у камеры менскага Жоўтага дома, не ведае, у што можа ператварыцца паветра. Ад саракавёдзернай парашы, якую ніхто не выносіць. Ад соцень целаў, што ляжаць адзін на адным, сплываючы потам, крывёй, страхам...

А гэтае паветра — працятае промнямі сонца — хочацца разліць па венецыянскіх крышталёвых чарках і раздзяліць насалоду з каханым чалавекам.

Але лепей за ўсё ведаць, што каханы чалавек адсюль далёка.

Лісце з дрэў амаль апала. Але яго рэдкія карункі выглядалі тым болей тонка. Хутка яны прыкрасяць жоўты насып непадалёк.

Ён толькі што сам яго зрабіў. Вунь і рыдлёўка — пад маладой елачкай. У жоўтым пяску ляжаць шэсць былых вучняў. Ён чуў іх апошнія словы, іх адчай, іх нянавісць.

За сваё жыццё чалавек так працяўся чужой нянавісцю, што яна павінна была абцякаць яго, як вада ручаіны абцякае кавалак дрэва, які ад шматгадовага знаходжання ў віры зрабіўся чорны і цяжкі, быццам камень. Але ўсё роўна аскалёпкі чужога болю ранілі душу. Засядалі ў ёй...

Цэлы тыдзень цёмнавалосага чалавека штоночы кідалі ў машыну да людзей — жывых альбо ўжо нежывых. Напачатку ўсе яны, жывыя, прывезеныя ў які-небудзь лясок, далей ад паселішчаў, разам капалі яму. Потым ён стаяў між тымі, каго забівалі. І кожны раз спадзяваўся, што куля дастанецца і яму. Але кулі абміналі яго. Толькі пырскі крыві ляцелі на адзежу. На трэці раз, калі зразумеў, у якія гульні з ім збіраюцца гуляць, ён паспрабаваў захінуць кагосьці сабою, злавіць чужую смерць... Катам спадабалася забава, яны рагаталі, гледзячы на ягоныя кіданні, і як нехта з няшчасных, ашалеўшы ад страху, спрабаваў сам схавацца за яго, але дарэмна, — і гэта

было настолькі ганебна, што ён перастаў ірвацца пад кулю. Потым яго прымусілі абяцаннем хуткай смерці (зробіш — прыстрэлім і цябе) зацягнуць яшчэ цёплыя целы ў агульную магілу. Потым засыпаць... Так, каб зраўняць з зямлёй. Закрываць голлем, сухой травой. І зноў — аглушылі прыкладам, завезлі назад... Да яшчэ жывых. Слухаць стогны, шалёны шэпт надзеі, крыкі адчаю... Наступны раз ён проста кінуўся ў магілу, на нябожчыкаў... З марай — зараз засыплюць... Выцягнулі. Зноў шпурнулі ў апусцелую машыну і павезлі назад. Сёння ён адмовіўся капаць магілу, а потым пайшоў з кулакамі на аднаго з тых, што стралялі... Але ён быў слабы, і яго проста збілі. На развітанне «давялі да ладу фізіяномію» — дагэтуль яго забаранялася біць па твары, і побач з іншымі вязнямі «магільшчык» заўсёды выглядаў «белай варонай».

А потым ён усё-ткі засыпаў магілу. Таму што яны, ужо ведаючы, што змусіць яго іншым спосабам не могуць, пачалі па адным спраўляць на трупы малую патрэбу, пляваць уніз...

Ён не мог гэтага дапусціць... Таму закопваў, падаючы, спатыкаючыся, часам дапамагаючы сабе рукамі... А каты смяяліся. Напэўна, гэта сапраўды на погляд, пазбаўлены звычайных чалавечых ацэнак, выглядала смешна — прафесар у адной бруднай парванай кашулі стаіць на каленях на краі магілы і рукамі ссоўвае кучы жоўтага пяску на целы сваіх былых студэнтаў. Персанаж чорнагумарыстычнага студэнцкага анекдота.

Яму не падаравалі гонару ляжаць у адной магіле з іншымі ахвярамі. І ўвогуле, як каты са смехам патлумачылі, ніхто не стане важдацца, каб закопваць такое лайно, як ён. Вунь там пачынаецца балотца, ёсць сімпатычная смярдзючая дрыгва, і гэтага апошняга ложа будзе досыць.

Ён ішоў у тым напрамку, які паказалі, рассоўваючы тонкія, нібыта кволыя, але насамрэч пругкія, не пераламаць, галінкі хмызняку. Гэта пладовае дрэва, напрыклад ігруша, ламаецца лёгка, пакорліва. За спінай хрумсцела голле пад ботамі змагароў з контррэвалюцыяй і лепшай часткай народа.

Смешныя! Яны думаюць, што магіла мае значэнне. Бо самі спадзяюцца на ўрачыстыя гранітныя, а магчыма, бронзавыя помнікі. На добрую памяць нашчадкаў.

Чалавек шаптаў малітву, спатыкаючыся аб карчы.

Мы прыйшлі ў гэты свет не для таго, каб праклінаць цемру, а для таго, каб запаліць у ім святло.

Нарэшце ногі яго пачалі грэзнуць, халодная зялёна-брунатная жыжа падымалася ўсё вышэй... Цікава, ці ёсць яшчэ дзе столькі балот, як на Беларусі? Даводзілася падарожнічаць... Але па балотах не хадзіў. Ні ў Францыі, ні ў Англіі, ні ў Расіі... У Расіі балоты дакладна ёсць, але наўрад — такія... А што, калі і сапраўды тут, пад ягонымі босымі нагамі, месціцца філіял бурштынавага палаца вужынага караля? Можа, менавіта там, на дне гэтых балот, і знаходзіцца сапраўдная Альбарутэнія? Недасяжная для ворагаў, бяздонная...

Твань завагалася на ўзроўні каленяў. Забойцы, якія спыніліся там, дзе яшчэ суха, загадалі чалавеку ісці далей... Вада паднялася па пояс. Яшчэ далей... Гразкае дно схапіла за ногі. Усё. Ганебны страх — што вось зараз на яго пашкадуюць кулі, а проста загоняць глыбей, і ён будзе доўга захлынацца халоднай бруднай жыжай, змусіў былога магільшчыка спыніцца і павярнуцца тварам да чорнага вока вінтоўкі.

Не, страх усё-ткі — самы жывучы паразіт. Рабак, які пасяляецца ў душы і з'ядае яе.

Няўжо ты яшчэ не страціў здольнасці баяцца?

Апошні погляд на неба, якое ў гонар паховінам дня зрабілася чырвона-жоўтым з зеленаватымі пісягамі, нібыта палатняны купал балагана. Урачыстасць псавала маленькая аблачынка, падобная на барвовы шнар, якая цямнела трохі наўскос шыкоўным нябесным колеравым разводам.

Але ўсе гэта колеравае багацце вельмі хутка з'есць чорная жалоба ночы.

Хаця — на гэтай чарнаце ярчэй засвецяцца зоры! Буйныя восеньскія зоры!

У кожным, самым цёмным, часе ёсць свае зоры.

Напрыклад, веданне, што недзе жыве твой сын (вядома, гэта сын!), і жанчына, якая падарыла табе яго і веданне аб

ім, будзе цябе памятаць тады, калі ні ад цябе, ні ад катаў тваіх не застанецца нічога.

Ну, хіба па кімсьці з іх паставяць помнік.

Але гісторыя даказвае, што каты патрэбныя толькі на пэўны перыяд. Пасля забіваюць і катаў. Трэба ж кагосьці зрабіць вінаватым ва ўсім. А той, хто карае ката, вядома, добры ўладар. Выратавальнік.

І няма каму крыкнуць ці хаця б прахрыпець, што гэты выратавальнік і аддаваў катам загады.

— Ну, Скаловіч, развітаўся з жыццём, нягоднік?

— Я вас перажыву.

Яму адшкадавалі адну кулю.

Паверхня балотца на нейкія імгненні ўскалыхнулася, пайшла кругамі, потым супакоілася, чорная рана вады зацягнулася ржава-зялёнай тванню...

І ніхто не заўважыў, як потым на яе ўпаў яшчэ адзін, амаль бязважкі, залаты кляновы лісток.

## ЭПІЛОГ 6

Свіслач так лена гнала сваю цяжкую зялёную ваду па бетонным ложы, нібыта састарэла да няздольнасці спяшацца, нібыта ёй не былі болей патрэбныя ні таемныя віры, у якіх круцяцца апалыя лісты і аблокі, ні начышчаныя да злога бляску камяні, на якіх хуткая вада грае свае бурлівыя сімфоніі, ні белыя чаіцы, што гэтак хутка ныраюць у хвалях, як думкі аб кароткім шчасці.

— Вунь там, над паверхняй вады, чорная адтуліна... Уваход у калектар. Гэта і ёсць Няміга.

Едрусь паказваў пальцам кудысьці справа ад моста, які празвалі Пацалуйным (дзесяць хвілінаў таму я «эмпірычным метадам» зразумела, чаму).

— Ну што, убачыла? Рэчка была — увесь гэты раён затаплівала. І яе пахавалі жыўцом. А яна там, пад зямлёю, пазбаўленая свету... Жыве сваім жыццём, як дзіця, забытае ў катакомбах. Магчыма, у ёй па-ранейшаму водзяцца цмокі. Як у шаснаццатым стагоддзі. Чорныя, тлустыя яшчаркі... Верыш?

Я моўчкі кіўнула галавой. Чаму б не быць і цмокам? На цёмную паверхню вады, якраз насупраць уваходу ў каменнае ложа Нямігі, апусціўся бязважкі залаты кляновы лісток — нібыта на бяздонную магілу.

Я глядзела на яго, і душа сціскалася ад незразумелага суму...

А Едрусь раптам схапіўся за сэрца. Ну вось, ізноў...

— Халера...

Так, нас здорава змянілі падзеі мінулага года. Тады, калі ля старых могілак на месцы сённяшняй дыхтоўнай вілы цямнела хата дзівакаватай старой Разаліі Іванаўны, і мы ішлі ў тую хату на спатканне са смерцю.

Ніколі не праходжу міма свежазбудаванай вілы на адлегласці пазнавання з вокнаў. Едрусь мяне разумее і выбірае іншы шлях.

— Можа, пайшлі дадому? — прапанавала я.

Мы з ім здымалі кватэру непадалёк, у двухпавярховым дамку. Але пашанцавала — амаль задарма. Едрусеў сябар па рок-тусоўцы з'ехаў вучыцца ў Чэхію і сваю кватэру прапанаваў нам. Годзе, маўляў, па кутах туляцца, маладыя.

Едрусь бацькам маім спадабаўся. Дыскі ягоныя круцяць.

А я ягонай маме-паэтцы — не вельмі.

Дарэчы, я паступіла на філфак, і ў мяне цяпер зноў пшанічныя валасы. Праўда, яшчэ караткаватыя. Едрусь жартуе, што я зрабілася падобнай да Ганны Цюндзявіцкай, якая напісала кнігу па хатняй гаспадарцы «Гаспадыня Літоўская». Белагаловая, якая гатуе лікворы і шынкі.

А чаму не згатаваць? Цікавы занятак, аказваецца, гатаваць есці.

Едрусь нарэшце выпрастаўся. Адпусціла. Далася ў знакі Вялікая Гульня.

А я ўсё глядзела на ваду пад гранітным парапетам. Так, яна мне нагадвае нечыя вочы... Але тыя былі — як вада ў віры. А гэтая вада — мёртвая.

Едрусь ціха папытаўся, стоячы за маёй спінай.

— Усё сумуеш па ім?

Я адмоўна пакруціла галавою. Успамін пра цемнавокага прафесара проста зжыўся са мною, як успамін пра ўлюбёную

кнігу, прачытаную ў падлеткавым узросце. Яна змяніла назаўсёды тваё жыццё... Але ты ж не ставіш за мэту ўвайсці ў яе часткай тэксту?

Вядома, месяцы тры пасля знікнення госця я хадзіла ўся нетутэйшая, лёгкая ад слёзаў. Вы ведаеце гэтае адчуванне — калі добра выплакацца, то здаешся сабе пустой і лёгкай, аж хістае, і нейкая прыемнасць на душы...

Прафесар сказаў бы: дурасць выйшла са слязьмі.

Ён увогуле амаль заўсёды прадказваў правільна.

— А як там Даліла? — нібыта няўважна папыталася я. Няўважна — таму што дасюль не магу даравацъ сяброўцы... Ну не тое што раўную... А проста таго, якой дурнічкай выявілася з-за яе.

Едрусь усміхнуўся.

— Даліла «жжот»... Учора вызваніла мяне і Генуся... Да магіл Усевалада Касіянава і Разаліі Іванаўны ледзь не дабраліся могілкавыя дзялкі — могілкі ж прадаюцца па частках пад новыя пахаванні. Даліла прыйшла, а крыжы паваленыя, і на іх ламачча нехта накідаў. Наступны крок — вычакаць, потым абвясціць, што за магіламі ніхто не глядзіць... Расчысціць участачак... Даліла ім і паказала — «вольны ўчастачак». Прыскакала ў выканкам з малым Валеркам у сумцы-кенгуру на жываце і...

Я магла ўявіць, што там адбылося. Адчытваць людзей наша сяброўка цяпер умее дасканала. Пераняла інтанацыі і лексіку ў аднаго спадара. Сядзіць у дэкрэце, падрабляе тым, што навучылася рабіць масаж. Мы, вядома, дапамагаем ёй і яе малым, як можам. Часам яна згаджаецца нешта прыняць.

Цяпер занятая яшчэ, каб дабіцца помніка па айцу Мікалаю. Ніхто не супраць — але доказы дзе, што ён менавіта тут пахаваны?

Пазнаю цябе, Альбарутэнія.

Мы з Едрусем ішлі па вуліцы, трымаючыся за рукі. Сёння Дзяды. Мы пра гэта не гаварылі, але я была ўпэўнена, што і Едрусь успамінае, як мы сустракалі Ноч расстраляных паэтаў год назад.

Добра, што ўсё закончылася.

Але нельга, каб усё закончылася для тых, што ляжаць у безыменных магілах у Курапатах, у парку Чалюскінцаў, на Кальварыі... Яны вартыя памяці. Мы ўсе зараз на гэта працуем — я, Едрусь, Макс, Даліла.

Сёння якраз збіраемся ў Далілы. Вечар памяці, свечкі, слёзы... Не дай Бог сяброўка яшчэ дыктафон выцягне... Хаця і да варажбіткі не хадзі — выцягне. І я зноў адчую, як рвецца маё сэрца ад гуку нізкага, глыбокага голасу з непаўторнай сумессю горычы і іроніі.

Вось фотаздымка ў нас не засталося ніводнага. Не атрымліваліся чамусь здымкі. Нейкі шэры туман замест аблічча.

Мы асабліва не абмяркоўваем тое, праз што давялося прайсці. Ясна, што змяніць мінулае немагчыма. Нават галінку грушы не адпілуеш.

Будучыню — можна. Цёмныя вочы Далілавага сынулі — таму доказ.

Макс, праўда, трохі аддаліўся ад нашай кампаніі. Не дзіўна. Я ведаю — разоў дзесяць прапаноўваў Даліле законны шлюб. А колькасць атрыманых «гарбузоў» рана ці позна робіцца крытычнай.

Як Даліла і прадказвала, любошчы развальваюць сяброўства. Хаця тусоўка і збіраецца, але той амаль сектанцкай блізкасці, роднасці ў смерці няма. Я — з Едрусем, Даліла — з дзецьмі. Генусь — трымайце мяне, ржунемагу — ажаніўся.

З той самай дзеўкай, што шыла яму чорную кашулю. І нічога — жывуць з мамай, не сварацца, здаецца.

Пад залатымі шатамі дрэў горад мёртвых. Могілкі.

І мы з Едрусем пайшлі туды.

Я глядзела, успамінала... Сэрца сціснула скруха.

Божа мой, як я зараз зайздросціла Даліле! Хаця — з чаго б то... У мяне — Едрусь, які вось-вось зробіцца слынным музыкам, цікавая вучоба, публікацыі... А ў яе — ніякай надзеі пабачыць каханага, жабрацкія заробкі, але — цемнавокі сын і права на памяць. На ўсё, што было між імі — сярдзітым кручканосым прафесарам і свавольнай некіруемай дзеўчынёхай. Увесь нябачны для чужых вачэй шлях ад нянавісці да жарсці, ад першага пацалунку — да...

На мае вочы зноў навярнуліся слёзы крыўды.

Якая яна шчаслівая!

А што на ўсё жыццё гэта для яе — стапудова. Яна ж нават усе папяровыя ашмёткі, на якіх Валяр'ян Скаловіч крэсліў свае формулы, пазбірала і захоўвае, як найвялікшыя святыні.

Праўда, я ведала, чаго Даліла баіцца... Дужа, страшэнна баіцца. Што Там, у мінулым стагоддзі, ачуняўшы ў турэмнай лякарні, суровы прафесар хіміі не ўспомніў пра сваё неверагоднае падарожжа ў будучыню. Ці палічыў трызненнем... У ягоным жа часе гэта было адно імгненне... Кропка, у якой пачалася і завяршылася пятля часу.

На гэты раз я не стала абыходзіць новую вілу, збудаваную на месцы хаты Разаліі Іванаўны, за трыста метраў. Было, быллём парасло, лісцем асеннім засыпалася...

Дарэмна я так была пэўная. Пры нашым набліжэнні металёвыя вароты з глухім шоргатам раз'ехаліся, выйшаў смуглявы хлопец, з недаверам паглядзеў на мае светлыя валасы:

— Гэй... Гэта ты да Арама калісь прыходзіла?

Толькі гэтага не хапала... Зноў мне нагадваюць маю няўдалую кар'еру спакусніцы.

Я сабралася была «не пазнаць» хлапца, але той сказаў:

— Чакай... Арам загадаў — калі хто з вас з'явіцца, каб я аддаў...

Ён некуды збег і праз нейкі час вярнуўся з пакункам.

— На... І не жартуйце так болей. Дзядзька сказаў, яшчэ раз нешта падкінеце — знойдзе і рукі вузлом завяжа.

Вароты зачыніліся.

Я недаўменна глядзела на вялікі, цяжкі і бясформенны пакунак з шэрай шурпатай паперы, падмоклай і запэцканай зямлёй па краях — у такую плебейскую паперу калісь загортвалі куплёнае нават у самых лепшых крамах. На паперы сінім фламастарам, акуратнымі друкаванымі літарамі, накрэслены стары адрас Разалінага дома і імя Далілы. Ды не, гэта не фламастар... А тое, што называецца «хімічны аловак». Ім цэны на курыцах выпісвалі. Сінім атрутным колерам — па вільготным ружова-блакітным, у жоўтых пухірыках мясе... Фу...

Едрусь асцярожна разгарнуў паперу. Паказалася газета з незнаёмым шрыфтам. А ў ёй... Абламаная галінка грушы. З яшчэ зялёным лісцем, з гронкай крамяных пладоў... У лістападзе?!!

Я ліхаманкава разгарнула паперу. «Вусаты» партрэт, кампартыя, імперыялізм... І дата: 23 жніўня 1933 года.

Газета выпала з маіх рук.

Гульня працягваецца. Альбарутэнія жыве.

*2007*

Ён ведаў, што іншай працы ў яго ўжо ніколі не будзе. Занадта шмат бачыў і чуў за апошнія гады. Такі, як ён, можа толькі падзяліць лёс тых, каго лячыў у турэмнай бальніцы.

«Лячыў»... Звычайныя словы ў ягоным цяперашнім жыцці набывалі новы злавесны сэнс. Нібыта пачварна скажаліся абрысы прадметаў, якія ўпалі ў брудную цвілую лужыну: што там паблісквае на дне — лыжка? Скальпель? Абцугі? Паламаныя акуляры?

Лекар пацяжэлай рукой прысунуў да сябе жалезны кубак — той шоргнуў па сталешніцы, як гераічны пратэз інваліда грамадзянскай вайны аб брукаванку. Та-ак, гэта табе не бардо ў крышталёвым келіху рэстарана менскага гатэля «Еўропа» ды пад гранне венскага дамскага аркестра... Зрэшты, ён тады быў зусім юны, і даваенна-рэвалюцыйныя ўспаміны расплываюцца ў памяці вясёлкавым туманам.

Затое гэты жалезны, пагнуты кубак са спіртам — дужа рэальны.

Лекар паднёс кубак да вуснаў, не адрываючы пагляду ад падлогі, нібыта шэрыя масніцы, раздзеленыя тонкімі палоскамі гразі, былі ягоным ратункам. Роўныя, падагнаныя адна да адной, пакорлівыя і надзейныя. Узор для грамадства новага тыпу.

Спірт звыкла апёк горла. Свет закрыўся, як ракавінка, з якой дасталі перліну.

Падалося ці не, што цёмныя роўчыкі паміж масніцамі рассунуліся і адна з масніцаў стала шырэйшай за іншыя на два пальцы?

Уздзеянне алкаголю на мазгі і ягоныя сімптомы... Ён усё яшчэ памятаў нешта са сваёй прафесіі. Хаця навошта? Усё, што ад яго патрабавалася, — не вылечыць, а зрабіць так, каб

вораг народа мог зноў адчуваць боль — і гаварыць. А значыць, крычаць, благаць, вішчаць, гарлаць, стагнаць, верашчаць... А таксама маліць, прасіць, запэўніваць, згаджацца — і называць, называць, называць... Імёны, адрасы, заданні...

Часам каты прыносілі ў турэмную бальніцу непрытомных вязняў, нічога не тлумачачы, але з такімі паганымі і грэблівымі ўсмешкамі, што лекар адразу разумеў: давядзецца самому здагадвацца, як напаўжмурыка катавалі, бо нават каты не хочуць гэта агучваць. Словы — гэта ж з чалавечага свету. А тое, што яны толькі што рабілі, — нават не быдлячае, а... Жывёлы не могуць вытвараць тое, што адно з адным людзі.

У лекара дасюль пачыналі дрыжэць рукі пасля такіх абследаванняў.

Да чаго каты былі вынаходлівыя! Божа мой, ды калі б хоць доля тае вынаходлівасці людзям, якія прыдумваюць новыя лекі...

На хвілю лекар адарваў позірк ад масніцаў, адсалютаваў жалезным кубкам вусатаму партрэту на сцяне з зялёнымі, як раска на паверхні дрыгвы, шпалерамі, адсёрбнуў...

Гэта ўжо падобна да праўдзівых глюкаў. Падазроная масніца зрабілася шырэйшай за суседнія ўжо на цэлую даланю. Ці ён проста раней гэтага не заўважаў?

Лекар быў яшчэ не стары. Прыемны інтэлігентны твар, высокі белы лоб, іранічны выгін броваў і асаблівая, даверліва-датклівая, складка вуснаў... З якой шалёнай надзеяй пазіралі на яго вочы скалечаных людзей! Але побач пільна пазіралі іншыя вочы — так званых «калегаў». І лекар, «аскалёпак старога рэжыму», прывучыўся глядзець на сваіх пацыентаў, як калісь ягоныя сярэднявечныя сабраццi па цэху на пракажоных. Падлеглыя смерці, праклятыя, амаль што не людзі... І яшчэ горш — часам яго самога змушалі быць катам. А клятвай Гіпакрата заставалася выцерці вусны падчас гэткіх самотных вячэраў, асобна ад сямейнікаў, перапалоханых метамарфозамі калісьці вясёлага і далікатнага гаспадара. Скарыстаць, скамечыць, як брудную сурвэтку, і кінуць у кут... Паўгода таму давялося «лячыць» трох бы-

лых аднакурснікаў сына, задзірыстага паэта Алеся... Яны пазналі яго... І таксама надзея ўскалыхнулася ў запалых, чырвоных ад бяссоння і пабояў, вачах... А што ён? Крыху паблажлівасці — і Алесь ляжа побач з гэтымі, на жалезны ложак, засланы шэрай прасцінай у ржавых плямах... Ужо ледзь так не атрымалася, і дарагой цаной удалося выцягнуць яго з турмы. Але ці надоўга?

Лекар кожны дзень зноў чакаў страшнага. І гатовы быў зрабіць усё, каб гэта адцягнуць. Што ён сам тут апынецца — наўрад. Яго ніхто лячыць не будзе. Кулю ў патыліцу — і на Месяц, як кажуць вязні...

І ён нічога не мог патлумачыць сыну, які, чым далей, паглядаў з грэблівасцю, а часам з нянавісцю, змяшанай са шкадобай, і мімаволі хацелася збіць яго самому, зламаць дурную ганарыстасць, змусіць зашыцца ў куток... Абы застаўся жывы.

Роўчыкі паміж масніцамі паціху распаўзаліся ў бакі...

А лекар думаў пра свайго апошняга пацыента. Ён не мог не пазнаць яго. Як не мог не пазнаць самога сябе ў люстэрку. Такі ж высокі белы лоб — толькі ў крывападцёках ад падзенняў на каменную падлогу, просты нос, асаблівы мяккі выраз вуснаў — праўда, цяпер яны, запеклыя крывёй, былі скажоныя крыкам. Бач ты, пагалілі вязня... Яшчэ нядаўна зарос валасамі, як дзікун. А цяпер адразу відаць — паніч. У ягоных продкаў продкі лекара служылі спаконвек — ляснічымі, аканомамі, леснікамі... Служылі — і ненавідзелі. Нянавісць была ўзаемнай, але ў аніводным пакаленні традыцыя не парушалася, нібыта яе змацоўвала нешта вышэйшае за звычайныя чалавечыя пачуцці: гэты род — верныя слугі, а гэты — паблажлівыя гаспадары. Лекар ніколі не даруе пагардлівых позіркаў на сябе і сваю радзіну — род прыслугі з пакалення ў пакаленне абразліва выяўляў прыўлашчаныя калісьці рысы арыстакратычнага роду... І што з таго, што апошняму панічу ўжо не дасталося і следу колішняга багацця, і нават ягоны бацька быў, бадай што, бяднейшы за лекаравага бацьку. Што паніч пайшоў у навуку, бадзяўся, як апошні валацуга, па наваколлі, запісваючы з вуснаў былых «хлопаў» прыпавесці

і былічкі, не зважаючы на пасміханні. Нянавісць засталася, як застаецца соль у марской ракавінцы — колькі яе ні адчышчай, а толькі паднясі да вуснаў — адчуеш смак мора.

Цяпер надарылася магчымасць адпомсціцца. Але сэнсу ў помсце не было. З чалавекам зрабілі ўжо ўсё, што мог прыдумаць самы горкі мсцівец.

Вязень бесперапынна крычаў ад болю. Калі не змог крычаць — хрыпеў.

А лекар па загадзе следчага стаяў са шпрыцам, напоўненым марфінам, навідавоку, і вязню крычалі на вуха, што вось ён, ягоны ратунак, як выцягнуць руку. Адзін укол — і балець зусім перастане. Трэба толькі назваць імёны... адрасы... заданні... Асабліва дапытваліся пра нейкае таемнае сховішча ў царкве.

Чалавек на ложку хрыпеў. Лекар бачыў, што ён пакуль пры свядомасці і глядзіць на напоўнены марфінам шпрыц з неверагоднай тугою... Але следчаму так і не надарылася падаць лекару знак. Крыкі заціхлі, таму што болевы шок — ён і для графскага адроддзя болевы шок. А сэрца мае межы трывушчасці. Калі высокі белы лоб з крывападцёкамі схаваўся пад чыстай прасцінай, следчы няўважна папытаўся ў лекара:

— Ваш сваяк?

І лекар з зусім натуральнай нянавісцю змог выгукнуць:

— Не!

А масніца ўсё пашыраецца, пашыраецца... Вось яна ўжо шырынёй з вечка труны... Вусаты партрэт гарэзна падміргвае, апусцелы жалезны кубак падскоквае на стале, адбіваючы такт падыспаню... Глухія ўдары з-пад масніцы — нібыта нешта просіцца вонкі... Ці нехта... Вось масніца прыўзнімаецца...

Чаму так хутка закончыўся спірт?

Лекар устае на непаслухмяныя ногі, б’ючыся аб стол, сцены, шафу, як сляпы матыль, спрабуе знайсці на паліцах яшчэ не апусцелы слоік... І ён не ў змозе азірнуцца, пабачыць, як выраслая масніца прыўзнімаецца і ў шчыліне паказваецца скрываўлены белы лоб...

## Раздзел 1.
## ШЭРАЯ БУДЫНІНА ФОРЭВА

Выбуху зноў не адбылося.

Ася нават на нейкі час затрымалася, каб свядомасць прымірылася з тым, што пачварная шэрая будыніна, у якой месцілася ейная ўстанова, усё гэтак жа — не, не ганарліва, хутчэй бяздумна-бязлітасна — высіцца спаміж хрушчовак, і жнівень пакорліва згортвае свае апошнія дні ў сухое лісце ліпаў, што выжылі ў вязніцы з бетону і асфальту. Гмах-абеліск у памяць гадоў, праведзеных у ім. Ненажэрны шэры стод, які прагне ахвяраў.

А дзе, дзе, дзе столькі разоў уяўляная на гэтым месцы куча друзу? І каб над гэтай кучай з бездапаможнымі дрыготкімі вусікамі дроту паныла луналі паперкі з набраным Асяй чарговым разбітым на акуратныя параграфы тэкстам...

Не, Ася не крыважэрная. Па ёй, няхай бы ўсе з Шэрай Будыніны паспелі эвакуявацца. Распаўзціся па бяспечных шчылінах. І ветлівыя маладыя міліцыянты, што дзяжураць на першым паверсе, сочачы, каб не спазняўся народ у Шэрую Будыніну, каб не прасачыўся ў яе запаветнасць нейкі зладзюга ці дурань, што не разумее, якія важныя справы тут робяцца. І цётка-буфетчыца з вечна санлівымі вачыма, падобная да апосума, у якой Ася кожны працоўны дзень купляе кавалак заліўной рыбы і бутэльку «Актывілу», які карысны пры сядзячай працы. І Асіны калегі, усе мілыя, душэўныя людзі, вінаватыя толькі ў тым, што патрапілі працаваць разам з Асяй у адным выдавецтве, якое спецыялізуецца на выпуску брашураў з нормамі, правіламі, зводамі стандартаў ды іншымі рэчамі, якіх Ася аніяк не спадзявалася сустрэць у гэтым жыцці ў такой колькасці з прычыны ўласнае хранічнай неўнармаванасці.

Але вось ужо чатыры гады пасля інстытута пяць дзён на тыдзень яна іх рэдагуе да шэрых пчолак у вачах, ненавідзячы саму сябе за няздольнасць пайсці адсюль, з грашовай працы... Як яна ненавідзіць гэтую працу, як ненавідзіць сцены, у якіх праводзіць большую частку жыцця!

Ды ўсё, на што Асі хапіла пасля размеркавання сюды, — гэта на знак пратэсту зрабіць тату́ на правым плечуку ў выглядзе жабкі. Але ж не будзеш круглы год за выняткам выходных хадзіць па калідорах з аголенымі плячыма, а ўлетку ў Шэрай Будыніне было горача, як у пазасветнай лазні, супрацоўнікі соўгаліся ў мятых ільняных касцюмах, з апухлымі вачыма, нібыта пакрытымі ільснянай плёнкай, і на татушкі маладых супрацоўніц увагі не звярталі. Магчыма, падсвядомым жаданнем абараніцца тлумачылася і Асіна прыхільнасць да пярсцёнкаў і бранзалетаў... Яе тонкія пальцы былі закаваныя ў бразготкую браню металу і камянёў: вядома, не золата-дыяменты, а камяні напалову высакародныя, напалову простыя. Бастарды ў свеце каштоўнасцяў. Яшма, сердалік, лазурыт, змеявік, кашэчае вока, хрызапраз, аванцюрын... Несуразмерна ейным танклявым рукам вялікія, але кожны — са сваім каменным сэрцам, закаваным у не самыя вытанчаныя аправы... Ну і набор бранзалетаў — плеценыя са скуры, мядзяныя, набраныя з камянёў жа... Часам, калі Ася глядзела на свае складзеныя на стале рукі, з дна свядомасці ўсплывала скептычнае: «Нацюрморт «Мара геолага». Калі — вельмі рэдка — Ася, прыйшоўшы на працу, усведамляла, што забылася надзець свае «цацкі», пачувалася, як пазбаўлены ракавінкі смоўжык.

Яшчэ другакурсніцай Ася спакусілася прапановай: ехаць з супрацоўнікамі знакамітага выдавецтва «Сокал-прынт», якое праславілася выданнем шыкоўных альбомаў па мастацтву, на пленэр. Выдавецтва адзначала юбілей, і вырашана было зрабіць гэткі ўік-энды бівуак на маляўнічай лясной палянцы ля возера, з шашлыкамі, са спартыўнымі спаборніцтвамі кшталту перацягвання канату і пляжнага валейболу. А для пантоў — свая газета, у якой бы паведамляліся навіны свецкага мерапрыемства. За тое, што Ася будзе рабіць гэтую сцёбную газетку, абяцалі сто даляраў. Але будучы літрэдактар не ўлічыла маштабу карпаратыву. На палянцы яе чакаў асобны фургон з камп'ютарным начыннем. Газету пад назвай «Пікнік на ўзбочыне» належала выпускаць шэсць разоў на дзень, браць рэальныя інтэрв'ю ў пераможцаў спаборніцтваў,

змяшчаць фотаздымкі... Хуценька раздрукоўваць на каляровым прынтары... Як Ася намучылася, спрабуючы выцягнуць хоць пару слоў з пераможцы па шпурлянні бервяна — той, здаровы, як бэля, напалову лысы і зусім бухі, ляжаў у зарослым малінай роўчыку і толькі мыкаў, і на ягонай спіне, на калісьці белай майцы, — плямы рознага паходжання ўтваралі карту абедзвюх Амерык. А апошнія нумары газеты ніхто ўжо не хацеў браць, і Ася дарэмна ўсоўвала дыхтоўныя аркушы з яркімі ілюстрацыямі ў абвялыя, перапэцканыя кетчупам рукі выдавецкіх...

Тады жыццё «Сокала-прынта» здавалася ёй суцэльнай казкай. А кіраўнік аддзела навуковых выданняў адчуў да неверагодна працаздольнай студэнтачкі шчырую павагу. І ў хуткім часе Ася атрымала запрашэнне на практыку. Так і пайшло...

Вось толькі пікнікоў такіх больш не здаралася. Рынак рабіўся ўсё болей жорсткім, эканоміка рыпела ржавымі канструкцыямі... Прадпрыемствы зачыняліся, зарплаты змяншаліся. «Сокал-прынт» перастаў друкаваць альбомы па мастацтву і засяродзіўся на ўсё больш патрэбнай дзяржаве нарматыўнай літаратуры. З яго бесперапыннай папяровай ракой цяклі ідэалагічна правільныя падручнікі і брашуркі, кодэксы і зводы, ілюстраваныя альбомы з выявамі камбайнаў на палях, шахцёраў у шахтах і ветэранаў на парадах. Багаты «Сокал-прынт» заставаўся марай для многіх. І Ася пасля вучобы пайшла туды.

А ўсяму віной была Кватэра. Асобная. Зусім асобная ад усіх Кватэра, пра якую Ася марыла, напэўна, ад тае пары, калі ўвогуле навучылася марыць. Гэта няпраўда, што чалавек — калектыўная жывёліна. Іначай чаму ён увесь час здабывае адгароджаную прастору для сябе? Зайсці, замкнуцца — і каб ніхто, ніводзін любячы, добразычлівы бліжні без твайго дазволу туды не ўвайшоў.

Можа, дзесьці малады спецыяліст і здольны набыць Кватэру на свой заробак... Але Асі давялося браць крэдыт, а ўзяць крэдыт у гэтай краіне — здацца ў амаль пажыццёвае рабства. І ў вечны страх: а калі раптам цябе звольняць,

ты захварэеш, збяднееш да макаронаў, і не зможаш кінуць у пашчу банка-рабаўладальніка чарговую порцыю валюты... Асю ванітавала пры адной думцы, што ў такім выпадку давядзецца вярнуцца ў «двушку» — хрушчоўку, у адным пакоі якой жыла сястра Маргарыта з мужам і сынам, у другім — маці і бабуля, у гэты адурэлы ад вечнага гуду і начнога храпу вулей... Бабуля пагардліва заяўляла, што, маўляў, не бачылі вы сапраўднай цеснаты. Вось пасля вайны ў іхняй камуналцы ў падвальным паверсе... Але Ася задыхалася. Яна адчувала сябе півоняй, якая апякаецца ўласнымі апалымі пялёсткамі, — калі такі пяшчотны ружовы пялёстак прыліпае да цёмна-зялёнага лісця, за некалькі дзён там утвараецца агністая пляма — апёк. Калі б памеры кухні дазвалялі, Ася ўплішчыла б туды сваю канапу... Але кухня ўся была памерам з раскладзеную канапу, і пад яе расквечанай пісягамі, як карціна імпрэсіяністаў, столлю ў вечным штылі абвісалі ветразі пялюшак, начных кашуляў і хустак.

«Ідзі на балкон сачыняць, Пушкін!».

А, яшчэ асобны дзякуй за імя Арсенія, народжанае ў нетрах гэнай хрушчоўкі. Што гэта імя самадайкі з аповеда Мерыме, якая памірае ад сухотаў, радзіну не бянтэжыла.

Напэўна, імя вынайшла маці — яна абкладалася кнігамі, як зацяты іпахондрык лекамі. Ася сама фанацела ад чытання, але ў маці гэта было нешта хваравітае, кожны блякларужовы томік чарговага жаночага рамана, на вокладцы якога жарсна абдымаліся кудлатыя дзевы ў дэкальтэ і чарнявыя мача ў расхрыстаных на грудзях кашулях, ставаў цаглінкай паралельнага сусвету, з якога маці выходзіла вельмі неахвотна. І, вядома, уласнае прасцецкае імя Марына ахвотна памяняла б на Марыяну. Працавала яна са сваёй хімічнай адукацыяй кантралёрам на заводзе па вырабу шасцяронак. Кантралявала вышэйзгаданыя шасцяронкі — ці правільны сплаў, ці няма трэшчынаў. Часта ў начную змену. Гісторыі пра спакушаных сіротак Мэры і неўтаймаваных піратак С’юзан грувасціліся ружовымі сумётамі ў прыбіральні, на кухонным стале, на падваконнях, паміж падушак на канапе. Бабуля Ірына, якая амаль не выходзіла з хаты ўжо

тры гады, бо яе распухлыя ногі набылі проста пачварныя абрысы, страціўшы падабенства з часткай чалавечага цела, пасміхалася, папыхваючы цыгарэтай:

— Няхай бы лепей кулінарныя кнігі чытала. Больш было б карысці, чым ад гэтых ружовых сопляў.

Асіна бабуля дыміла, як паравоз. Танная цыгарэта нібыта і не знікала з ейных тонкі пажаўцелых пальцаў, якія так і не сталі з узростам вузлаватымі. Арсенія не адразу даведалася, што бабуля ў юнацтве была балерынай. Але таньчыла нядоўга — траўма, яшчэ ў вучэльні, і давялося перакваліфікавацца ў швачку. Машынка «Зінгер», дарэвалюцыйная, урачыстая і надзейная, стварала калыханкі Асінаму дзяцінству. Бабуліны рукі таньчылі над тканінай хуткі грацыёзны танец. Усе цяперашнія Асіны доўгія спадніцы і кофты з высокімі таліямі былі пашытыя на гэтай бліскуча-чорнай, з трохі аблезлымі залатымі гербамі машынцы «Зінгер»... І ўвогуле — усё ў доме. Нават накрыўкі на канапы — з непатрэбных кавалачкаў тканін, але падабраных так, што гэта нагадвала не звычайны для народных вырабаў стракаты россып «вырві вока», а далікатны ўзор на спіне марской жывёліны ці восеньскае перапляценне голляў, з якіх амаль абляцела лісцё. Калісьці ў дом часта прыходзілі заказчыцы, бабуля называла іх усіх «генеральшы», і Ася магла падзівавацца на неверагодныя тканіны — крэпдэшын, крэпжаржэт, натуральны шоўк, каралеўскі аксаміт... Разгорнутыя адрэзы нагадвалі сны пра балі, абрэзкі ад іх можна было займець, разглядаць і гладзіць, нібыта фотаздымкі краінаў, дзе не пабываеш ніколі. «Генеральшы» патрабавалі дэкальтэ і фальбонаў, рукавоў «ліхтарыкам» і спадніц «гадэ»...

Арсеніі часам здавалася, што бабуля Ірына здольная пашыць сабе новых сваякоў замест іх, няўдалых. І ў дзяцінстве нават вельмі баялася, атрымаўшы змайстраваную бабуляй ляльку-Залатаваласку, што хутка пад дробнае стукатанне голкі «Зінгера» з'явіцца і новая Ася. Прыгожая, залатакосая...

Цяпер прыходы «генеральш» у залатых завушніцах змяніліся рэдкімі візітамі «дваровых», гэта значыць суседак.

«Дваровыя», немаладыя, з гаспадарчымі сумкамі са штучнай скуры, звычайна прасілі падшыць купленыя на рынку спадніцы ці нагавіцы, пераліцаваць жакет, а калі і прыносілі ў дом свае тканіны, гэта былі вельмі практычнага колеру альбо прастадушна стракатыя адрэзы, ад якіх думалася не пра баль, а пра цырульню, пральню, гастраном... Але бабуля ніколі не скардзілася і не крытыкавала «кантынгент».

Ася была мала падобная да бабулі Ірыны. Больш — да маці. А шкада. Хаця ногі бабулі пад старасць распухлі, цела заставалася хударлявым, твар — з рэзкаватымі рысамі, але прыцягальны, энергічна-іранічны... А матчыны (і ўласныя Асіны) рысы выяўлялі якасці, якія Арсенія ненавідзела: датклівасць, наіўнасць і чысціню, што межавала, на яе погляд, з дурноццем. Высокі лоб, асаблівая, нейкая дзіцячая, датклівая складка вуснаў... Так і хочацца самой сабе заехаць у фізіяномію. Як выглядаў іхні з сястрой бацька, Ася нават не ведала. Пасля таго, як ён яшчэ да нараджэння малодшай дачкі сышоў з сям'і, каб з'яднацца з чарговым палкім каханнем дзесьці ў Мардовіі, у доме былі старанна панішчаныя ўсе выявы «тхара», як называлі блуднага татачку маці і бабуля. І — ніякіх згадак! Асіна старэйшая сястра Маргарыта таксама не магла ўнесці яснаты, бо цьмяна памятала тату, які бавіў болей часу у камандзіроўках, чым дома, дый было ёй годзікі чатыры, калі ён знік. Запомніла толькі, што ўвесь час патрабаваў акуратнасці і цішыні, бо яму трэба дапрацоўваць чарговы праект чарговага сельскага клуба.

Марго, прадавачка ў краме таннай і карыснай беларускай касметыкі, проста злосна змахвала матчыну «макулатуру» кудысь у кут, як смецце. Нічога дзіўнага, для злосці меліся прычыны — бо восем гадоў таму прывяла ў хату яшчэ аднаго чытача. Муж Марго з народным імем Гоша быў маладзейшы за яе на год, а як па мазгах — дык і на ўсе дзесяць. Ён сядзеў на фэнтэзі. Прычым самым «шарачковым». Там, дзе галоўны герой — прынц і маг адначасова, і змагаецца з драконамі, а тут жа і іншапланецяне прыляцелі, і прынцэсу трэба ратаваць, і дэман з невымаўляльным імем кшталту Буувафру вырваўся з нетраў планеты...

Акрамя фэнтэзі Гоша сядзеў на піве. Бутэлька ў ягонай руцэ была гэткай жа звыклай рэччу, як у пальцах бабулі — цыгарэта.

Ася проста не разумела, як магла ейная прыгажуня-сястра купіцца на такога Гошу... Ася ж расла ва ўсведамленні, што яна — пачварына ля прынцэсы, няўклюдны цень ружовашчокай, яснавокай Марго. Гэта было недасяжнае жыццё: бясконцае тэлефанаванне закаханых хлопчыкаў, гітарныя спевы ў дваровай альтанцы, бойкі-двубоі з няўмелым закосам пад моднае каратэ з-за аднаго Маргарыцінага позірку... Ася, у падлеткавым узросце няўклюдная, худзюшчая «батанка», з доўгімі нагамі-запалкамі і няроўнымі зубамі з ганебнымі металёвымі скобкамі на іх, ніколі гэтага не мела, звыкла прабягаць праз двор, угнуўшы гававу з неахайнымі шэрымі хвосцікамі, і ўнікала школьных дыскатэкаў, як візіта да зубнога ўрача. Нічога, акрамя прыніжэнняў... І шчыра ўразілася, калі на сустрэчы выпускнікоў (пяць гадоў пасля апошняга школьнага званка!) ажно тры хлопцы прызналіся з затоенай крыўдай, што былі ў яе шчыра закаханыя, а яна, такая ганарлівая прыгажуня, іх адшыла... А яна тады думала, гэта асабліва тонкія здзекі...

Але, як кажа бабуля, свой лёс на кані не аб’едзеш. Ася ў свае дваццаць пяць дасюль баіцца сур’ёзных адносінаў і «спажывае» мужчын у разумных межах, абы самота зусім не заела. А Маргарыце падчас сумеснага турпаходу па Карпатах заімпанавала эрудыцыя маладога земляка ў акулярах, ягоная здольнасць прамаўляць бясконца, павучальна-пераканаўча і пра ўсё, што заўгодна. І бацькі Гошавы ёй пасля, па прыездзе ў Мінск, спадабаліся. Інтэлігентныя, вясёлыя... Абое ў тэхнікуме выкладаюць.

І Марго трохі разгубілася, калі за два дні да вяселля інтэлігентныя выкладчыкі згрузілі Гошу са сваёй машыны перад нявестчыным пад’ездам з усім ягоным пасагам: чамаданчыкам з майткамі, стосам кніжак і магнітафонам «Самсунг». З’ясавалася, што прымаць нявестку ў сваёй кватэры, таксама «двушцы», яны не разлічвалі. Праз год Маргарыта нарадзіла Косціка. А Гоша страціў працу трэці

раз — і апошні. Бо дасюль шукае вартае сваёй выбітной эрудыцыі месца.

Таго, што пісала Ася, Гоша, вядома, не прачытаў, апраўдваючыся, што яму цяжка чытаць па-беларуску. Хаця два часопісы з яе аповедамі стаялі за шклом галоўнай шафы, побач з улюбёнымі бабулінымі парцалянавымі статуэткамі ў стылі «нямецкі кіч». Можа, і лепей, што не чытаў, а то паздзекаваўся б... Першы аповед называўся «Закінутая хата» і распавядаў пра прывід маладога інсургента, які ў згаданай закінутай хаце праліваў начамі слёзы па сваёй каханай, якая ўцякла з расейскім жандарам. Другі аповед, «Зруйнаваны палац», апісваў каханне юнага князя і прыгоннай актрысы, якую закатаваў бацька княжыча... Прывіды таксама меліся ў наяўнасці, у эпілогу яны, як належыць, луналі, стагналі і заклікалі да нашчадкаў... Твор-р-рчасць... Вартае жалю перайманне вядомага аўтара беларускага фэнтэзі Вячкі Скрыніча, у даславутым дзяцінстве, якое прайшло ў адным класе з Асінай сястрой, Славіка Скрынкіна. Славік, будучы Вячка, па ўспамінах Марго, нават на ўроках увесь час нешта запісваў у агульны сшытак... А Ася? За чатыры апошнія гады — адны накіды, дзесяці старонак няма. Нібыта набрала поўныя лёгкія паветра, стоячы над глыбокай ракой, а тая раптам узяла ды ўся высахла. А няўдалая плыўчыха ўсё чакае, пакуль можна будзе даць нырца. Як казаў Асі адзін стары паэт, які даўно не піша вершаў: мордай аб асфальт табе трэба пару разоў, тады зможаш нешта вартае напісаць.

Ася не была ўпэўненая, што гэта правільны рэцэпт, старому паэту ён жа не дапамог, але правяраць на сабе неяк не хацелася.

Яна неяк чытала, што мастацтва развівалася па такой схеме: напачатку — мегалаграфія, захапленне агульным, адлюстраванне велічнага і вялікага. Потым — ропаграфія. Выяўленне дробных прадметаў, захапленне сузіраннем, разглядваннем, медытацыяй... І непазбежна ўсё сыходзіць да рыпараграфіі — адлюстравання адкідаў, усяго агіднага і заганнага.

Большасць Асіных аднагодкаў, што сцвярджаліся ў літаратуры, адзін за адным кідаліся найперш у абдоймы апошняй

стадыі, спаборнічаючы ў скептыцызме, цынізме і цытаванні філосафаў і назаўсёды замураваўшы ў школьных сшытках наіўныя меладычныя радкі пра любоў да радзімы і супрацьлеглага полу.

Ася не любіла кідацца некуды разам з усімі. А куды ёй хочацца самой — не ведала. Таму пакуль што яна фатаграфавала... паветра. Свой асабісты прывід. А што — паветра ж таксама матэрыяльнае... Трэба толькі, каб яму трошкі нехта падыграў — сухое лісце, пыл, вада, снег, пара, — і ягоныя абрысы рабіліся відочнымі нават для недаверкаў. Вось, напрыклад, гэтае жнівеньскае паветра ля Шэрай Будыніны выяўляў першы сухі лісток, што зляцеў з таполі, і лена кружляў, і яшчэ не ведаў, што ён памёр...

Калі Ася паведаміла сваім сямейнікам, што яе ўласную кватэру пабудавалі і яна збіраецца хутка туды пераехаць, маці трохі пакрыўдзілася, што дачка не дзялілася з ёй навінамі пра будоўлю, але ўсё-ткі накрыла ўрачысты стол... Бабуля паглядала на малодшую ўнучку з прыхаваным гонарам — яна цаніла ў людзях самастойнасць. А Гоша, падвыпіўшы, пачаў гучнагалосна наракаць на несправядлівасць — вось, Ася адзінокая, і ў яе цяпер будзе асобная кватэра. А яны з Марго — сямейныя, дзіця малое... І няхай бы Ася засталася тут, а іх пусціла пажыць у новую хату «по-родственному», альбо яны згодныя застацца тут, а няхай Ася забярэ з сабой маці і бабулю...

— Самыя ж блізкія твае людзі! — пранікнёна гарлаў Гоша, а Марго маўчала, гледзячы ўбок, нібыта гэта яе не тычылася, але ўсё-ткі дзесьці, падобна, спадзявалася — а раптам у буржуйскай душы сястры прачнецца мецэнацтва. Косцік, хударлявы і пракудны, як гарадскі верабей, першакласнік, меланхалічна жаваў скрылёк сыравэнджанай каўбасы і паныла пазіраў у бок калідора — як і цётка, ён пры найменшай магчымасці намагаўся ўцячы з дома.

— Гэта мая кватэра! — скрозь зубы прамовіла Ася і пайшла на балкон — адзінае месца, дзе магчыма было хоць сімвалічна адасобіцца. А пасля ўсю ноч ціха плакала ў падушку, не ў змозе перамагчы адначасова пачуццё віны і

крыўду. І не выратоўвала, што маці і бабуля доўга адчытвалі Гошу на кухні: лайдак, труцень, пасаромеўся б рот раскрываць, жывеш у чужым доме, на чужым хлебе, хто табе не дае крэдыт узяць ды кватэру пабудаваць, дзяўчына сваім гарбом кватэру займела, мае права на асабістае жыццё.

Пасля пераезду Ася дужа рэдка заходзіла да радзіны. І да сябе не запрашала. Не дужа спяшалася і з уладкаваннем асабістага жыцця. Сядзела ў свядомасці стрэмкай: вядома, на гатовую кватэру любы паквапіцца... А каханне? У каханне Ася звыкла не верыла — прынамсі, у тое, што могуць пакахаць яе. Мужчыны прыходзілі, абувалі скураныя чорныя пантофлі з вышываным надпісам «Speed», незадаволена адзначаючы, што яны ў гэтым доме не першыя. Пілі прынесенае імі віно, гаварылі прыемнае, ну, кшталту, што яна падобная да прыгажунь дзевятнаццатага стагоддзя з партрэтаў Карла Брулова... Цалаваліся... Часам чыталі вершы, часам спрабавалі расшпіліць на Асі спадніцу... Ага, разбегліся. Хопіць з яе «мордай аб асфальт», што яна сабе ўсё-ткі зарганізавала на васямнаццацігоддзе, пайшоўшы «паслухаць музыку» з нейкім падобным да Анатоля Сыса ў маладосці пэтэвушнікам на хату да ягонага сябра... Выдатна разумеючы, чым усё закончыцца, але жадаючы раз і назаўсёды пазбавіцца ад рамантычных мрояў у духу матчынага чытва і займець «сур'ёзны жыццёвы досвед», які неабходны пісьменніку. Эксперымент прайшоў удала. Не, хлопец быў, як умеў, пяшчотны, і нават напаіў яе шампанскім. Але Ася толькі пасля пачала ўсведамляць, што нарабіла. І што цнатлівасць — гэта больш, чым маленькая фізіялагічная падрабязнасць, забабоны і стэрэатыпы. У адсутнасці кахання атрымалася адчуванне такой страшэннай згубы і ганьбы, што Арсенія нават бачыла ў дальнім куце пакоя празрыстую белую постаць свайго анёла-ахоўніка, які ў адчаі захінаў твар тонкімі рукамі, аплакваючы сваю дурную падапечную. І цэлы год не праходзіла насланнё, нібы яна ўся запэцканая, забруджаная, і гэта заўважаюць.

Пэтэвушніку яна нават імя свайго не сказала. Але цяпер не трымцела па-дзявочы ў прысутнасці чарговага самца, і

ўжо ніяк не жадалася паўтарэння тае... агіды. Мужчыны крыўдзіліся, здзіўляліся, раздражняліся. Называлі гаспадыню дзікункай і ганарліўкай і сыходзілі. Але, самае дзіўнае, усе ўрэшце прапаноўвалі замуж. Хто з першага ж спаткання, хто — паразважаўшы. Двое нават вельмі настойліва. Ася лена вызначала, каго спартыўны азарт «заеў» — заваліць фанабэрыстую дзеўку нават цаной штампа ў пашпарце, каму заімпанавала мець жонку з «высокімі маральнымі прынцыпамі», каму — проста жонку з кватэрай.

Якія прынцыпы могуць быць у супрацоўніка «Сокала-прынта»!

Колькі разоў Ася ўяўляла сваю будучую працу! Яна — «літаратурны рэдактар». Спрычыняецца да з'яўлення ў свет новых «Каласоў пад сярпом тваім» і «Людзей на балоце». О, як яна будзе шанаваць пісьменнікаў, як беражліва адносіцца да вытанчаных метафараў і смелых думак! І, вядома, сярод кніг, што становяцца на паліцы кнігарняў і бібліятэк, будуць і кнігі Арсеніі Вяжэвіч... Гістарычныя раманы. Не горшыя, чым у Вячкі Скрыніча, куміра рамантычна настроеных дзяўчатак... Нават у сумачцы Асінай сястры Маргарыты апошнім часам можна было знайсці томікі ягоных раманаў з аўтографамі аўтара.

Але каб Вячка патрапіў у Шэрую Будыніну, і яго наўрад хапіла б нават на адзін раман. У «Сокале-прынце» лайдакоў не трымалі. Каб паспець прачытаць усё, што належыць па нарматывах, ды яшчэ зарабіць прэміяльныя, заседжваліся да ночы, хапаліся за дадатковыя рукапісы, бралі працу дахаты.

Сяброўка Аксана з маленькай, беднай, але гордай, рэдакцыі даўно на Асіна выццё-ныццё адказвала раздражнёна: «Ніхто цябе там не трымае. Цяжка, нецікава — сыходзь, свет клінам на тваім «Сокале-сцярвятніку» не сышоўся».

Ася згодна ківала, заядала слёзы куды больш салёным сушаным кальмарам, якога яны з Аксанай абедзве любілі, ды яшчэ пад піва «Тубарг-Грын»... А нараніцу, падвіўшы попельныя, а калі дакладней — шэрыя, валасы плойкай, каб атрымалася прычоска «а-ля паж», пііла на прыпынак — тралейбус — метро — прахадная — другі паверх — кабінет — і

ў рукапіс «Сборника уточнений и дополнений к указу бла-бла-бла». Здаць у карэктуру да абеду.

Людзі лічаць, што шэры — гэта пераходны паміж белым і чорным, іхняя сумесь. Колер ніякі, аморфны, дэпрэсіўны. Але насамрэч ён складаецца з роўнай долі трох яркіх фарбаў — чырвонай, зялёнай і сіняй.

Праўда, чалавек, які выбірае шэры, па меркаванні псіхолагаў, ніколі не будзе першым. Затое гэты колер дае моц слабым і датклівым.

Шэры — колер пакарання.

Можа, таму за савецкім часам наш горад быў цалкам шэры?

Колер пакарання не адпускаў Асю. І ўсё часцей здавалася, што ў ёй жывуць два чалавекі. Славутыя «дзве душы» беларуса, пра якія пісалі Ігнат Абдзіраловіч і Максім Гарэцкі. Вядома, трэба нешта мяняць, так далей нельга — кажа адна твая палова. Але ці не стане горш? Усё-ткі ўжо прыцярпеліся... — адразу палохаецца другая.

Арсенія ўсё больш упэўнівалася, што не адна жадае смерці Шэрай Будыніны. А што, калі ўсе-ўсе, хто разам з ёю соўгаецца праз гэтую прахадную і спрыяе выпуску ў свет джамалунгмаў правільных брашурак, у душы ненавідзяць Будыніну не менш чым яна, Ася, і гэтаксама кожную раніцу спадзяюцца ўбачыць замест яе кучу друзу?.. І чаго тады варты Асін унутраны пратэст, гэты ганарлівы метраном «я-не-такая-як-вы», які толькі і дае моцы выжываць?

Але сёння давялося ў чарговы раз сунуць у металёвую шчыліну прахадной пластыкавую картку колеру замерзлай жабы і дазволіць паралелепіпеднаму цмоку паглынуць сябе на дзевяць гадзінаў.

Праз дзевяць гадзінаў яго табою званітуе. І ты пацягнешся дадому. І нібыта наяве пабачыш за сабою след шэрай слізі...

**Раздзел 2.**
**ПАРТРЭТ І ШКІЛЕТ**

Калі маленькая птушачка бачыць побач з сабой вялікую, драпежную, якая задумліва пазірае жоўтымі круглымі вачыма і невядома, ці нападзе, ці ўжо наелася іншымі маленькімі птушачкамі, але ўцякаць па-любому позна, — у маленькай пачынаецца эфект замяшчэння.

Ну, тыпу, яна не заўважае пачварыны, смерці сваёй патэнцыйнай.

Птушачка адварочваецца, пачынае старанна дзяўбці каменьчыкі, шчыкаць дзюбай зусім непатрэбныя сухія травінкі. Удаваць пільны клопат...

Гэтак і Ася, каля сядала ўранку на працоўнае месца, пачынала, пагрукваючы бранзалетамі, перастаўляць на стале «фенечкі» — так яна для зручнасці называла ўсе гэтыя аловачніцы-каляндарыкі-візітоўніцы, канцылярскае начынне. Бралася рапараваць якую-небудзь старую паламаную дыскету, якая незразумела адкуль узялася, ці ішла перамываць кубкі для гарбаты. Пасля падыходзіла чарга Інтэрнэту. Праверыць паштовыя скрынкі — адну, другую, трэцюю (хіба гэта можна параўнаць з адчуваннем у руках сапраўдных канвертаў?). Прагледзець сайты навінаў («Пасмяротнае адкрыццё Вангі: іншапланецяне рыхтуюць вялікую падзею!», «У шасі расійскага самалёта знайшлі труп!»). Хуценька, каб не заўважылі супрацоўнікі, зазірнуць на ўлюбёны сайт фэнтэзі — так, дзеля разгрузкі мазгоў, як Ася сама сабе апраўдвала такі правал густу. (Ага, новы фанфік пра Гары Потэра: «хлопчыка, які выжыў» нізавошта садзяць у магічную турму Азкабан, ён уцякае, пачынае помсціцца былым сябрам, што яго туды і запраторылі, але сустракае былое каханне, а ён жа так і застаўся цнатліўцам з-за «адсідкі»...).

А побач чакае стос рукапісаў. Здавалася, ён нават пазірае няўмольнымі немігучымі вачыма, жоўтымі і круглымі... Яшчэ трохі — і дзюбу можна ўявіць... Пачвара з гравюры Гоі.

А верхнюю тэчку трэ здаць у карэктуру сёння. Да канца працоўнага дня. І Ася ведала, што здасць — нікуды не дзенецца. Ні разу шчэ не пратэрмінавала, нават з тэмпературай. За тое і трымаюць. А за што яшчэ? Літаратурныя здольнасці

для рэдагавання якога-небудзь «жыллёвага кодэксу» ці падручніка па ідэалогіі не патрэбныя.

Вось, яшчэ хвілінак дзесяць «пазамяшчаецца», гарбаткі пап'е, і... «Работай, работай, работай, ты будешь с уродским горбом за долгой и честной работой, за долгим и честным трудом...» — пісаў самы рамантычны на свеце паэт Аляксандр Блок, астэнічнага целаскладу прыгажун, што так зацята намагаўся давесці маладой жонцы Любові Мендзялеевай, як гэта здорава — платанічнае каханне, а яна, небарака, так і не ўцяміла. Ледзь не звар'яцела, а тады палюбоўнікаў завяла.

Толькі драматычных любошчаў Асі і не хапала... Хопіць дурной школьнай закаханасці ў маладзенькага віхрастага настаўніка гісторыі ды яшчэ няўдалага рамана з самім Вячкам Скрынічам, растаптанага апошнім на стадыі бутона. Гэта было «мордай аб асфальт» дубль два...

Апошнія дні жніўня, водпускі адгуляныя, наперадзе — час, калі вяртанне з працы будзе адбывацца ў халоднай цемры, як, зрэшты, і прыход на яе... Бр-р-р...

— Там твой партрэт вісіць! Уй! Як жывая! — у пакой уварвалася Асіна аднакабінетніца, фарбавана-брунэтная дама-вамп Валянціна. За ёй, трохі адстаўшы, у кабінет запоўз шлейф густога паху парфумы «Жадарэ», лена скруціўся кольцамі, як пітон, і ўлёгся на шэры палас. Усё, цяпер праветрывай не праветрывай...

— Які партрэт? — няўважна перапытала Ася, якая ледзь паспела выйсці з сайта фанфікаў і цяпер удавала сваю зацікаўленасць стужкай навінаў.

— Ну ты зусім між папераў засохла, хоць зараз у гербарый, — абурылася Валянціна. — У галерэі выставу павесілі! Ужо ўвесь наш паверх збегаў паглядзець! Ідзі неадкладна, палюбуйся! Можа, таемна закаханы ў цябе мастак маляваў?

Нават у пячоры Цыклопа, напэўна ж, меліся куточкі, дзе хавалася прыгажосць, — ну там, раслі ў расколінах між камянёў бляклыя вытанчаныя кветачкі ці складаліся ў выпадковы незвычайны малюнак каменьчыкі... На дзясятым, апошнім, паверсе Шэрай Будыніны была Галерэя.

Напачатку гэты паверх лічыўся нешчаслівым. Яго здавалі ў арэнду, але колькі ні засялялася ўстановаў — усе неяк

хутка і непрыкметна прагаралі. Шыльды не паспявалі мяняць. Даўжэй за ўсіх пратрымалася турыстычная фірма «Солнечный рай». Але і рай ляснуўся, і дырэкцыя будыніны, змахнуўшы апошнія анёльскія пёркі з канцылярскіх сталоў, вырашыла адкрыць на нешчаслівым паверсе выставачную залу. Прычым грошай убухалі туды, як нявопытная гаспадыня солі ў боршч: сігналізацыя, кандыцыянеры, увільгатняльнікі... А навошта? Ася пару разоў схадзіла на прэзентацыі — супрацоўнікам «Сокала-прынта» ўваход быў бясплатны, але абодва разы няўдала. Адзін раз гэта аказалася выстава сына вядомага памерлага мастака. Нябожчык калісьці згубіў капялюш і частку інтэлекту ў эзатэрычных завіхрэннях. Сын, маладзён з пячаткай алкагалізму на капрызлівым прыгожым твары, старанна пераймаў бацьку, спрабуючы пераўзысці яго яркасцю колераў, экспрэсіўнасцю сюжэтаў і касмічнымі азарэннямі, і выглядала гэта да агіды непамысна, як гульня школьнікаў у морг. Другі раз Ася патрапіла на выставу твораў людзей з «асаблівасцямі псіхікі». Арт-тэрапія — справа добрая, але маладую рэдактарку канкрэтна пачало ванітаваць — асабліва перад карцінай алеем пад назвай «Перст»: на палатне быў намаляваны жоўты палец, велічынёй з батон, які ляжаў зусім асобна на шорсткай зялёнай траве, а з яго раслі чырвоныя кветачкі, страшэнна падобныя да крывавых пырскаў. Што праўда, была магчымасць зняць стрэс: арганізатары выставы рыхтавалі фуршэт. Пасярод залы цягнуліся вузкія сталы, а раскладзеныя на іх прадукты былі накрытыя бляклаюлёвымі абрусамі... Вядома, пад тканінай знаходзіліся рэчы зусім звычайныя — бутэлькі з напоямі, талеркі з горамі бутэрбродаў і садавіны, кубкі... Але на фоне пранізліва-яркіх, да галаўнога болю, карцін пад абрусам, які распяльваўся на нябачных формах, угадвалася немаведама што, ледзь не кавалкі трупаў ці прылады для катавання. А пабачыўшы, як прывялі самадзейных мастакоў, у прынцыпе, звычайных людзей, зусім не страшных, толькі задужа спакойных, Ася ганебна збегла... І болей на дзясяты паверх не хадзіла.

Цяпер яна ўспомніла, што бачыла ў вестыбюлі афішкі з рэпрадукцыямі зялёна-блакітна-жоўценькіх пейзажыкаў

на сінім фоне. Учора ўвечары ў галерэі адчынілася выстава-алаверды з нейкім музеем з расійскай глыбінкі. Цікава, яны — калекцыю жывапісу XIX стагоддзя, а што павезлі нашыя ўзамен? Алкагольна-касмічныя азарэнні альбо жывапіс пацыентаў псіхушкі?

Што ж, затое гара тэчак яшчэ пачакае... І Арсенія паімчала да ліфта, разганяючы пыльнае паветра ветразем чорнай спадніцы — вось добры выйшаў бы здымак тутэйшага паветра, мімаволі адклалася ў галаве: пыл казённага дывана, узмах чорнай тканіны...

На дзясятым паверсе нікога не было. Адна цётка-наглядчыца, сівенькая, як восеньскі туман, сядзела ў куце і вязала бэзавы шаль.

На сценах перамігваліся сонечнымі зайчыкамі пейзажы: бярозкі, хваінкі, аблачынкі... Цямнела некалькі старых партрэтаў — сурдуты, ордэнскія стужкі, капоты, каптуры... Але Арсенія бачыла толькі адну карціну. Проста насупраць увахода... Партрэт у поўны рост. Дзяўчына ў цёмнай сукенцы з вузкім белым каўняром, валасы гладка расчасаны на прабор, рукі цнатліва складзеныя пад грудзямі... Арсенія павольна падыходзіла бліжэй, і немажліва было пазбавіцца адчування, што набліжаешся да люстра...

На адлегласці шэпту ад карціны Ася замерла. Намаляваная дзяўчына паглядала зверху вялікімі цёмнымі вачыма гэтак рахмана і даверліва, яе тварык з высокім белым ілбом, маленькімі, амаль дзіцячымі вуснамі выпраменьваў асаблівую чысціню... «Мордай бы цябе аб асфальт!» — недарэчна прагучаў у Асінай галаве звяглівы голас старога паэта, які развучыўся пісаць вершы.

Не. Палохацца не варта. Што тут асаблівага? Чалавечы мозг так зладжаны, што ва ўсім шукае падабенства. У тосце з сырам бачаць партрэт Багародзіцы, і прадаюць яго на аўкцыёне за шалёныя грошы... У воблаку ўгадваюць абрысы самога д'ябла, і ў паніцы рыхтуюцца да канца свету. А Уладзімір Караткевіч, між іншым, пазнаваў сваё аблічча ў партрэце хлопчыка работы італьянскага мастака эпохі Адраджэння Пінтурык'ё. І праўда, падабенства незвычай-

нае. А тут... нічога звышнатуральнага. У дзяўчыны на партрэце і вусны меншыя, чым у Асі. І вочы больш цёмныя, і нос... вось тут, пасярэдзіне, трошкі танейшы... І прыгожая, не тое, што Арсенія. І... урэшце, гэта сапраўды мог намаляваць колішні знаёмец — упадалі за Марго студэнты з Акадэміі мастацтваў, адзін дамоў да іх хадзіў, здаецца, яго звалі Андрусь Камароўскі. І ўсё спрабаваў з малодшай сястрой сваёй дамы загаворваць, некуды запрашаць, толькі Ася, вядома, палохалася і бянтэжылася, што абражае мастакоўскае вока сваім страхавітым аблiччам (прынамсі, на гэта намякала Марго). Але, можа, хто з гэтых мастакоў мімаволі і выкарыстаў Асін вобраз, калі ўяўляў старасвецкую паненку?

Рэдактарка з палёгкай уздыхнула. Ніякай таямніцы. І перавяла вочы на шыльдачку ля багетнай рамы: «Партрэт графіні Марыі Корб-Варановіч. Невядомы мастак, пач. XIX ст.».

Усё, цяпер ніякага ратунку ад містычнага жаху... Адкуль ён толькі ўзяўся? У прынцыпе, нічога ж страшнага не адбылося — падумаеш, убачыла намаляваную падобную да сябе дзяўчыну... Гэта ж забаўна... А за сэрца нібыта нехта халоднай рукой крануў. І сціснуў... Так.

Бо Арсенія шалёна ненавідзела гэтую намаляваную дзяўчыну, такую чыстую, даклівую, рахманую...

Выплеск нейкай інстынктыўнай, незразумелай да містыкі нянавісці...

— Гэта ваша сваячка, напэўна?

Зацікаўлены голас бабулькі-наглядчыцы ледзь не змусіў Асю падскочыць.

— Вы не з Корб-Варановічаў выпадкам?

— Не... нічога я пра гэтых... Корб-Варановічаў... не ведаю! — знервавана прамовіла Арсенія і памкнулася прэч, пакуль яшчэ хто не заблукаў на нешчаслівы паверх. Прэч, далей ад ненавіснага аблічча.

— А як падобныя! — крычала ўслед бабулька, але Ася ўжо рванула на сябе дзверы галерэі.

Міргатлівыя лямпачкі над ліфтамі сведчылі, што кабіны паволі кіруюцца на першы паверх, а чакаць хацелася не

больш, чымся драпаць пазногцямі бетонную сцяну. Ася, прытрымліваючы рукой доўгую спадніцу, імкліва пабегла ўніз па «чорнай» лесвіцы, вечна пракуранай настолькі, што варта было спусціцца на суседні паверх, і валасы двое сутак патыхалі табакай. Хаця Ася пару разоў сфоткала паветра, абазначанае цыгарэтным дымам, але гэта было паветра не для яе дыхання.

На кожнай лесвічнай пляцоўцы блішчэлі мадэрновыя попельніцы на высокіх жалезных ножках, падобныя ці да металёвых грыбоў, ці то да маленькіх робатаў. Але падваконні былі застаўленыя звычайнымі бляшанкамі з-пад кавы і марынаваных алівак, якім курцы «Сокала-прынта» аддавалі перавагу, пра што сведчылі горы недапалкаў у бляшанках і сіратлівая пустэча, парушаная некалькімі пляўкамі, у попельніцах на жалезных ножках. Паміж сёмым і шостым паверхамі на лесвічнай пляцоўцы злева ад акна мелася глыбокая ніша, а ў ёй — вузкія дзверы, абабітыя бляхай, без аніякай шыльды. Нейкае тэхнічнае памяшканне. Аб гэтыя дзверы супрацоўнікі любілі тушыць недапалкі, спаборнічаючы ў мастацкасці чорных сыпкіх росчыркаў.

На шчасце, курцы на гэты раз не тоўпіліся перад акном. Але калі Ася, спяшаючыся, прабягала паўз нішу з дзвярыма, нехта моцна схапіў яе за руку, ірвануў убок — і Арсенія апынулася ў нішы, прыціснутая да нападніка, як у перапоўненым ліфце.

— Тс-с-с... Ціха...

Арсенія ледзь стрымала абураны крык... Перад ёй стаяў Вячка Скрыніч уласнай літаратарскай персонай! І нават моцна трымаў яе за руку (між іншым, на Асінай далікатнай скуры ўтворыцца сіняк). Худы твар Скрыніча здаваўся яшчэ больш напятым, чым звычайна, зялёныя вочы гарэлі, як у дзіцёнка, якога зараз тата пасадзіць у вагончык амерыканскіх горак. Прамыя цёмныя валасы зблытаныя, як быццам уладальнік толькі што прабег не адну літоўскую вярсту, ноздры драпежнага носа раздзімаюцца... Вочы Асі апынуліся на ўзроўні Скрынічавага падбароддзя, на дзіва паголенага (дзе ж рамантычнае шчэцце?). І паху алкаголю не адчувалася, толькі гаркавата-палыновая парфума... Ад шалёнага

Вячкі можна чакаць чаго заўгодна. Арсенія, праўда, ужо гады з два яго не сустракала, бо зусім перастала цягацца па літаратурных тусоўках. Толькі інтэрнэт час ад часу абурана гуў вакол абвестак, што Вячку, які славіўся незалежніцкай пазіцыяй, не пусцілі некуды выступаць ці не надрукавалі артыкул са станоўчай рэцэнзіяй на ягоны раман. Хаця курсавых і дысертацый па ягонай творчасці, Ася дакладна ведала, абаранялі шмат.

Скрыніч нідзе не працаваў. Адны казалі, што ён някепска зарабляе тым, што піша сцэнарыі серыялаў для расійскіх кінастудый, таму і можа пачувацца незалежна. Другія пляткарылі, што ён проста зусім апусціўся, спіўся, скалоўся, галадае, жыве на міласціну прыхільнікаў... Іначай даўно з'ехаў бы за мяжу, на які літаратурны грант. Можа, і праўда падсеў на якія наркотыкі? Вунь што вытварае... Як яго толькі ў «Сокал-прынт» прапусцілі?

Скрыніч, відаць, збаяўся, што ягоная «ахвяра» як відаць заверашчыць і пачне вырывацца, таму ўмольна і хутка зашаптаў:

— Ціха, калі ласка... Не бойся... Проста паслухай мяне...

Арсенія тузанулася, вызваляючыся. Пачаліся няёмкасць і боязь. Наўрад гэта спроба аднавіць забыты раман. Хутчэй на бутэльку не хапае беднаму генію, ці ў геніяльную галаву ўзбрыла мара выдацца ў «Сокале-прынце»... Піетэт перад Скрынічам Ася страціла якраз два гады таму, калі Скрыніч на прэзентацыі сваёй кнігі ў галерэі «Падземка» халадна запатрабаваў у абмен на інтэрв'ю ў Асінай сяброўкі Волькі, сімпатычнай студэнтачкі журфака, правесці ноч у ягонай спальні. І не проста так, а з наручнікамі. Дасюль, маўляў, не апрабаваў. А такія наручнікі файныя, сталёвыя, бліскучанькія... І ложак з жалезнымі парэнчамі ёсць, зручны для такой насалоды. Скрыніч стаяў пад карцінай з намаляванымі вачастымі сперматазоідамі ў сваёй чорнай кашулі і джынсах, дэманічна скрыжаваўшы на грудзях рукі, пазіраў нахабна-пагардліва некуды ў верхні кут столі, толькі час ад часу кідаючы літасцівы позірк на студэнтачку з таненькім лічбавым дыктафонам, заціснутым у наманікюраных пальчыках — нібыта птушка трымала-

ся за галінку, і лена распавядаў пра тое, што наручнікі — гэта высокі сымболь энергіі дзэн... Усе вакол разумелі, што Скрыніч сцябаецца, і ціха весяліліся, толькі дзяўчо з дыктафонам не разумела і не ведала, куды падзецца ад сораму. І Ася не ведала, што рабіць. Бо яшчэ ўчора на фуршэце пасля адкрыцця выставы знаёмага мастака Скрыніч нібыта ўсур'ёз з ёю размаўляў, і праводзіў дахаты, і дужа цікава распавядаў пра шляхецкія двубоі, і запрасіў на гэтую прэзентацыю... Прычым наказваў прыйсці абавязкова. На развітанне пяшчотна пацалаваў руку, закаваную ў пярсцёнкі, і здавалася, нават камяні іх заззялі ад радасці... Усё, як у ягоных кніжках! Неверагодна! І Ася, забыўшыся на свае комплексы, млела ад шчасця і не спала ўсю ноч, соладка шчыміла пад лыжачкай, і ніяк не верылася, што яна — няўклюдная дзеўчынёха з шэрымі валасамі — прыцягнула ўвагу самога Вячкі... Які нават за яе сястрой Маргарытай не стаў упадаць. Не, так не бывае, ён абавязкова ў Арсеніі расчаруецца...

Так тады і выйшла. Было бачна — забыўся, што запрасіў. Нават не глядзіць. Вусны пагардліва крывіць. Вось, прычапіўся да ейнай сяброўкі. А што ты хацела, пачварына...

Ася сышла, не дачакаўшыся нават, калі Скрыніч пачне чытаць урыўкі з новай кнігі, пакінуўшы разгубленашчаслівую Вольку вырашаць, ці згаджацца на наручнікі, і потым доўга сама сябе пераконвала, што пісьменнік і тое, што ён з сябе ўяўляе ў штодзённым жыцці, могуць не толькі не супадаць, але быць процілегласцямі. І ад гэтага якасць твора не пагоршыцца, бо толькі яна і мае значэнне. А Скрыніч ужо напісаў пяць выдатных раманаў, за якія ў лепшыя часы, ды пры спагадлівых адносінах дзяржавы да нацыянальнай літаратуры, быў бы запяспечаны да канца дзён сваіх, і на вуліцах яго пазнавалі б не толькі студэнты філфака...

Але што там... Усё перагарэла. Праўда, і сяброўства з Волькай пасля той прэзентацыі растала, як снег на далоні.

Не, Арсенія ўжо не тое наіўнае дзяўчо, пасля школы «Сокала-прынта» яе не збянтэжыш.

— Калі хочаце размаўляць — пойдземце ў мой кабінет.

А там на стале гара тэчак...

Скрыніч раздражнёна пакруціў галавой.

— «Кабінет...» Зусім ачыноўнічылася, паненка. Не пра тое думаеш... Не пра тое... На партрэт свой паглядзела?

Арсенія здрыганулася.

— Адкуль вы ведаеце пра партрэт?

— У Кнізе так напісана... — будзённа прамовіў Скрыніч нешта абсалютова шаманскае і зноў напяўся: — Ш-ш-ш...

На лесвіцы чуліся крокі. Вячка штурхануў абабітыя бляхай дзверы, і яны раптам расчыніліся. Патыхнула сутарэннем. Ася не паспела абдумаць, што адбываецца, як Скрыніч уцягнуў яе за сабой у вузкі, з тры локці, паўцёмны калідор і зачыніў дзверы — электрычнае святло працэджвалася скрозь круглыя маленькія адтуліны ў гіпсакардонавых плітах правай сцяны — нібыта волат відэльцам папароў. Што за гульні ў шпіёнаў? Але Ася, як і Вячка, паслухмяна чакала, пакуль на лесвіцы сціхнуць крокі.

— Пайшлі... — шапнуў Скрыніч, і Ася рушыла за ім углыб таямнічага пакоя, спатыкаючыся аб старыя транспаранты і шчыты для кніжных экспазіцый, сама не разумеючы чаму. Можа, таму, што на стале чакалі рукапісы, і гэта было мацней за ўсялякі іншы страх? Ці таму, што гэта быў Скрыніч, які хоць, кажучы велягурыста, і разбіў калісьці яе сэрца, але чые гераічныя фэнтэзі сніліся ёй па начах? Дый так хвалююча было залезці ў вантробы ненавіснай Шэрай Будыніны, нібыта гэтым зрабіць ёй балюча...

Дзесьці, зусім побач, праляскатаў ліфт... Спадніца зачапілася за пыльны планшэт... Усё, будзе нітка вісець на падале. Калідор скончыўся трохі шырэйшым тупіком. Тут усё было застаўлена старымі маніторамі, і Вячка махнуў рукой, запрашаючы Асю сесці.

І яна села проста на пажаўцелую спіну вялізнага старога манітора, як на які-небудзь чэрап дыназаўра, і адчула — упершыню за столькі гадоў — волю. Самае лепшае адчуванне ў свеце. Можа быць, нават лепшае за пачуццё кахання для тых, хто здольны цаніць падобныя рэчы. Як быццам збегла з урока перад кантрольнай. Шэрая Будыніна больш не выклікала нянавісці — у яе аказаліся свае кулісы, сваё патаемнае жыццё, далёкае ад афіцыйнага фасада... А Вячка

пазіраў нахабнымі светла-зялёнымі, з чорнымі доўгімі вейкамі вачыма на Арсенію.

— Сёння ты пабачыла партрэт свайго двайніка. Так мусіла быць — бо я так напісаў.

Манія вялікасці? Прароцтвы Скрыніча? «Тканіна загаварыла» — як у тупым галівудскім баевіку пра таемную суполку ткачоў, якія вылічваюць нябесныя пасланні па вузельчыках, што ўтвараюцца на сувоі, а пасланні ўсё нейкія аднастайныя: таго забіць, гэтага забіць. А Скрыніч ужо даставаў з чорнай джынсавай сумкі, што боўталася ў яго на плячы, рукапіс — раздрукаваныя на прынтары старонкі, падшытыя ў сіні файл. Вось як выглядае сёння аракул...

— Не смейся... — сурова папярэдзіў ён Асю, у якой на твары заўсёды было напісана, што яна думае пра гэты варты жалю свет і сваіх дарагіх бліжніх, вартых гэтага свету. — Я заўсёды ведаў, што думка матэрыяльная. Здаралася ў мяне — напішу, а яно і спраўдзіцца... І вось цяпер...

Вячка таксама ўсеўся на манітор-дыназаўр насупраць Асі, блізка-блізка — каб і надалей гаварыць ціхутка, палыновы пах ягонай парфумы нагадваў пра стэпы і, па асацыяцыі са стэпавымі прасторамі, пра тое, што трэба збягаць падалей ад маньякаў, якія зацягваюць малазнаёмых дзяўчат у кладоўкі паміж паверхамі. Хаця больш за ўсё Вячка нагадваў не маньяка, а пярэваратня. Ваўкалака. Ваўка. Жылістага, напятага, вясёла-шалёнага...

— Я напісаў пяць раманаў, — змрочна прамовіў Вячка, нібыта прызнаваўся, што пахаваў пяць жонак. — Гэта было... файна, пісаць іх... Ведаеш, мне тады па барабане ўсё, што адбываецца вакол, я паміраю, нараджаюся, забіваю, атрымліваю ўдары, кахаюся, здраджваю — разам са сваімі героямі. Аднойчы, як у Максіма Горкага, застаўся шнар на грудзях — калі выпісаў сцэну, дзе князя Барыса Глінскага забіваюць ударам корда ў сэрца. Крыві ў мяне не было — чырвоны след, нібыта апёк, і шнар застаўся, як ад апёку... Вось... — Вячка на імгненне расшпіліў чорную джынсавую кашулю. — Ведаеш, у маім свеце цікавей, бясконца цікавей, чым у вашым... Але рэальным ёсць усё-ткі ваш... Гэты... Я не магу больш трываць гэтай рознасці.

Скрыніч уздыхнуў, нібыта перад скачком з парашутам.

— Я напісаў раман... І я хачу яго пражыць.

Ася не стрывала і засмяялася.

— Гэта называецца ролевая гульня, спадар Вячаслаў. У асноўным падлеткі захапляюцца.

Вячка не пакрыўдзіўся, наадварот, нібыта супакоіўся, збліснуў гарэзна вачыма.

— Ты думаеш, у мяне дах паехаў ці я па пялюшках і бразготках занастальгаваў? Не. Як гэта ні прыніжальна — я надзіва неарыгінальны. Калісьці Петроній, арбітр элегантнасці ў Неронавым Рыме, напісаў раман і таксама захацеў яго пражыць — бо сам у рэальным жыцці нічога падобнага не меў. І яны з сябрам-вольнаадпушчанікам селі на аслоў і адправіліся ў падарожжа, паўтараючы прыгоды герояў. Блыталіся па прытонах, разбойніцкіх сховішчах, оргіях...

Арсенія паспрабавала зручней усесціся на жорсткім чэрапе манітора — не ўдалося. Вось жа няёмкасць — усебаковая. Знізу — вострая грань манітора, мазгі кампасціруе літаратурны геній, і ці не лепей вярнуцца да тэчак? Оргіі, прытоны... Ася выдатна памятала сюжэты Вячкавых раманаў: рыцары з гатычных замкаў шукаюць цмокаў у азёрах Віцебшчыны, замкнутыя ў сутарэннях паненкі адмаўляюцца ад шлюбаў па прымусу, яшчэ абавязкова скарбы трэба адшукваць — і скарбы абавязкова праклятыя... А яшчэ Вячка любіў падарожжы ў часе. Змешваць эпохі, перакідаць туды-сюды герояў, ды каб у прышэльца з іншага часавага вымярэння надарылася рамантычнае каханне... А яшчэ хтосьці з герояў сабой ахвяруе, на пакутніцкую смерць добраахвотна пойдзе, ворагам у пашчу... А каханая, што яго пры жыцці мучыла, тады валасы на сабе рве і светлую памяць захоўвае. А антураж які: палац візантыйскага імператара, пячора ў вампірскіх Карпатах, зал у Нясвіжскім палацы, нетры Белавежскай пушчы, рымскія катакомбы... І як Вячка збіраецца гэта пражываць? Арсеніі зрабілася нудна, як заўсёды, калі да яе прарываўся аўтар, якога трэба было, асабліва не крыўдзячы, адправіць з Богам і з ягоным

абсалютова «Сокалу-прынту» і асабіста Асі непатрэбным рукапісам.

— Ведаеце, гэта, напэўна, цікава, але я не захапляюся ролевымі гульнямі.

— Позна, — твар Вячкі перакрывіўся не самай лагоднай усмешкай. — Ты ўжо ў гульні. Думаеш, я да цябе выпадкова прыйшоў?

Побач ізноў прагуў-праляскаў ліфт. Вячка адкрыў рукапіс на пачатку і зачытаў спалатнелай Асі ўрывак:

— «Яна моўчкі глядзела на твар намаляванай дзяўчыны, і ёй здавалася, што яна глядзіць на самую сябе. Можа, нехта са знаёмых па студэнцкім юнацтве мастакоў намаляваў яе па памяці ў старажытным строі? Але выратавальную думку адпрэчыла шыльдачка пад партрэтам: «Графіня К., XIX стагоддзе, мастак невядомы». Гэты высокі белы лоб, расчасаныя на прабор гладкія, як шоўк, валасы, вялікія цёмныя вочы... Незвычайны для нашага часу выраз рахманасці і чысціні. А яшчэ яна адчула, што шалёна ненавідзіць намаляваную дзяўчыну — і не разумее, чаму...»

— Выходзіць, вы пісалі пра мяне? — прагаварыла Ася.

Вячка раздражнёна ссунуў бровы, як настаўнік над вучнем, што ніяк не можа скласці два і два.

— Я пісаў раман. Я ўсё гэта ўявіў — на архіўных матэрыялах пра род Корб-Варановічаў. Напачатку дзеянне адбывалася толькі ў першай палове дваццатага стагоддзя. А тады я зразумеў, што яно павінна працягнуцца ў сучаснасць. І ў рэальнасць... Мусіць жа быць кропка сыходу, з якой усё пачнецца? І вось учора ўвечары мастак Андрусь Камароўскі, сябра мой, распавёў, што на прэзентацыі бачыў партрэт, страшэнна падобны да адной дзяўчыны, да якой калісьці... прабач, ён назваў гэта «клеіўся». І дзяўчына, трэба ж, робіць у будынку, дзе і галерэя. Шкада, не прыйшла. Цікава было б пабачыць яе каля партрэта. Бо на прэзентацыі, хто з «Сокала-прынта» быў, усе гэта абмяркоўвалі — ці сваячка Ася Вяжэвіч графам Корб-Варановічам... І я зразумеў — гэтак жа ясна, як поўху — гэта і ёсць мой шанец... Ты.

Светла-зялёныя вочы Вячкі гарэлі драпежным энтузіязмам, і ён яшчэ больш, чым заўсёды, нагадваў Асі ваўка — у якога ніколі не будзе сваёй зграі.

— А што там далей, у кнізе? — асцярожна папыталася Ася.

Вячка адвёў позірк.

— Думаю, лепей, калі ты не будзеш пра гэта ведаць. Я пачну раскрываць сюжэт паступова.

— І наручнікі там маюцца? — не стрымалася Арсенія, каб не выплюхнуць даўнюю крыўду.

— А што, ты супраць? — раздражнёна прагаварыў Вячка. — Твая сяброўка дык не супраць была. Ведаеш, — стваральнік фэнтэзі глядзеў некуды ўбок, — я табе доўга дараваць гэтага не мог — цяпер можна сказаць, калі ўсё забылася. Я ж успрыняў напачатку наша знаёмства надта сур'ёзна. А як пабачыў, што ты прывяла гэтую дурную журналістачку, ды на мяне нацкавала, а сама побач стаяла і пасміхалася... Ну, зразумеў, якога дурня зваляў. Цяпер — усё, не бойся. Ніякай эротыкі. Ну, што табе губляць? Такое ўжо цікавае жыццё ў цябе?

Ася захінула твар рукамі. Вар'яцтва. А яшчэ ўсведамленне, што два гады таму ўсё магло атрымацца... Калі б не гэтая Волька... Калі б Ася насмелілася сама загаварыць з вялікім і жахлівым Вячкам, які, аказваецца, зусім не такі ўпэўнены ў сваёй пераможнасці, здольны збянтэжыцца і пакрыўдзіцца... Каб яна выявіла сваю зацікаўленасць — ну хоць на пялёстак незабудкі...

Позна.

— Я не ваша гераіня. У мяне не цёмныя, а попельныя валасы. У мяне... праца.

Скрыніч пераможна ўсміхнуўся.

— Валасы пафарбуем. Імя зменім. З працы звольнімся... — І, пабачыўшы жах суразмоўцы, паспешліва дадаў: — Ды жартую я, жартую... Гэта ўсё насамрэч не мае значэння. Дэталі, антураж.. Галоўнае — сэнс... Мэсэдж. — І прагаварыў ціха і сур'ёзна, узважыўшы рукапіс у руках. — Гэта лепшы мой раман. І ён дужа цікавы. І... апошні. Павер, ты не пашкадуеш. Ну, Аліса, ты гатовая сягнуць у Залюстрэчча?

Вячка ўстаў урачыста, як камандзір атрада перад бітвай. Ася таксама павольна паднялася — галава кружылася... Праца... тэчкі... кабінет... пазыка — кватэра — туга-туга-туга...

І прамовіла, страсаючы з сябе рэшткі былога жыцця:

— Я згодная.

**Раздзел 3.**
**ПАЛЯВАННЕ НА ДАЦЭНТА**

— Ганьба! Ганьба! Далоў! — Алесь на чале студэнтаў літаратурнага аддзялення педфака ўварваўся ў аўдыторыю. Нянавісць пульсавала ў скронях, змушала голас зрывацца... Пыльнае святло працэджвалася скрозь шыбы і заставалася ляжаць на паркетнай падлозе ромбамі, падзеленымі цёмнымі крыжамі, — якраз месца для ахвяры...

Той, хто быў прычынай нянавісці, стаяў на ўзвышэнні ля новенькай, лакаванай кафедры, якую не паспелі шчэ абцерхаць тэчкі з дакладамі выкладчыкаў. Вось такіх, як гэты, панскае адроддзе, Апанас Іванавіч Корб-Варановіч.... Інтэлігентнага выгляду, высокі, плячысты, гадоў пад сорак. Цёмныя вусікі, акуратная кароткая прычоска, шэры касцюмчык з гальштукам... Выпісаны з Ленінграда дацэнт. А як відаць, у прафесары цэліць. Нават цяпер, твар у твар з раз'юшаным натоўпам, — паважны, фанабэрысты... Ні свярбіць, ні баліць. Халодны пагляд шэрых вачэй з чорнымі вейкамі з-за круглых шкельцаў акуляраў, і так і ўяўляецца над высокім упартым ілбом лаўровы вянок.

— Мы адмаўляемся здаваць вам залік!

З-за спіны Алеся азваўся дружны хор ухвалы.

— Мы не будзем слухаць лекцыі чарнасоценца і шавініста!

Студэнты загарлалі, пад столь аўдыторыі пачалі ўзлятаць сшыткі, губляючы лісты, нібыта нехта хацеў ажывіць мёртвых птушак.

— І чаго вы дабіваецеся, Вяжэвіч? — дацэнт стараўся гаварыць дастаткова гучна, каб яго было чуваць, але не зрывацца на ганебны крык. — Гэта дэмагогія! Вам проста лянота вучыць славянскія мовы...

— Мы хочам вучыцца! — Алесь аж віраваў ад нянавісці, здавалася, яна, як вецер, кудлачыць ягоныя валасы. — Але не ў вас! Вы — чужы! Прыехалі з Расіі, беларускай мовы не ведаеце...

— Не вам дзяліць на чужых і сваіх! — холадна сказаў Корб-Варановіч. — Калі вам не вядома, я родам з Беларусі, як і ўсе мае продкі. Беларуская мова — мая родная мова, і я яе люблю не менш за вас. Так, люблю! — дацэнт павысіў

голас, каб заглушыць насмешны гуд. — Не мая віна, што я нарадзіўся, калі не было беларускага ўніверсітэта, і змушаны быў вучыцца ў Санкт-Пецярбургу і пісаць свае працы на расейскай.

— Вось і пішыце пра расейскую! Няма чаго прывязваць да яе нашу старажытную мову Скарыны і Літоўскіх статутаў! — гэта азваўся студэнт Аўтух Папара, які ўжо выдаў паэтычны зборнік, на які напісаў стрымана-ўхвальную рэцэнзію сам Лукаш Бэндэ.

— Я — вучань Шахматава, Бадуэна дэ Куртэнэ і Яўхіма Карскага. Спадзяюся, вам хоць нешта кажуць гэтыя імёны. І я ніколі не здраджу акадэмічнай навуцы, дзеля якой мяне і запрасілі на Беларусь, — вусны Корб-Варановіча крывіліся ад пагарды да невукаў. — Як навуковец, я маю справу з фактамі, а не з эмоцыямі. І раблю высновы не з таго, што мне заманецца. І не вы будзеце вызначаць тэмы маіх даследаванняў. Мова нашая зусім не вывучаная, яе паходжанне, яе развіццё... Сёння і цяпер ствараюцца яе літаратурныя нормы. А тут непазбежныя дыскусіі. Кожны вучоны мае права на сваё меркаванне, калі здольны навукова яго абгрунтаваць.

— Мы ведаем вашае меркаванне: беларусы павінны гаварыць «ліцература, цеатр, гасударства, аўгуст, срэдства»... Падвучыце мову, дацэнт! — выкрыкнуў з-за спіны Алеся ягоны сябар, Хведар П’янкоў, як заўсёды, жывапісна жэстыкулюючы, за што яго празвалі на курсе «ветраком». — Такіх, як вы, гнаць трэба! Хопіць з нас Ілавайскіх!

— А вам больш падабаецца казаць, як прапаноўвае ваш улюбёны самавук-акадэмік Лёсік, «уз’ярытованы, верадаваць, урымсціць, удыгаць, платэ, жанке, абразэ» і гэтак далей? От дзе «сапраўдная» літаратурная мова! — ноздры дацэнта пачалі драпежна раздзімацца. — А вучыць мяне будзеце тады, калі напішаце хаця б адно філалагічнае даследаванне, якое нешта дадасць да беларускай лінгвістыкі. А наконт славянафіла Ілавайскага — дык я вам скажу, што калі б ён прачытаў зборнік маіх лекцый, дык нападаў бы на мяне з гэткім жа шалёным імпэтам, што і вы, толькі з

іншага боку. І ўсвядомце — ніводзін сумленны выкладчык у вас залік замест мяне не прыме!

Цяпер Корб-Варановіч ледзь стрымліваўся, акадэмічная раўнавага з яго зляцела, як і не было, рукі сціскаліся ў кулакі. Выдатніца Вераніка Манцэвіч, высокая прыгажуня з залатой касой, схаванай пад чырвонай хусткай, і абуральна блакітнымі вачыма, весела закрычала:

— У такім выпадку нам згодзяцца і «несумленныя»! Такія, як Язэп Лёсік!

Алесь кінуў хуткі позірк на Вераніку:

— Правільна, Вераніка! Лёсік у турме за беларушчыну сядзеў, калі гэты філолаг у расейскіх імперыялістаў вучыўся!

Але агонь абурэння вакол суцішваўся: ісці на дацэнта з кулакамі ніхто не збіраўся, а той, глядзіш, вось-вось сарвецца... Шляхцюк недарэзаны... Аж вусны тузаюцца, а акуляры ледзь не сонечныя зайчыкі пускаюць.

Што можа быць прыемней сэрцу бунтоўнага студэнта, чым сузіранне нервовых канвульсій выкладчыка? Вяжэвіч адчуў, што аднакурснікі цягнуць ззаду за пінжак, ляпаюць па плячы... Хопіць, маўляў, пайшлі...

— Мы не будзем здаваць вам залік!

— Што за мітынг? — пагрозны крык змусіў студэнтаў суцішыцца. Дэкан педфака Міхал Уладзіміравіч, які ніколі голасу не падвышаў і ўвогуле быў чалавекам выключнай далікатнасці, прабіраўся ў аўдыторыю, ягоны твар быў чырвоны ад гневу. — Прашу разысціся! Гэта ўніверсітэт, а не карчма! Усе дыспуты — выключна цывілізаваным шляхам! У наступны аўторак — чарговае пасяджэнне Рады педфака, вось, калі ласка, і прысылайце на яе сваіх дэлегатаў. А зараз папрашу вызваліць аўдыторыю.

Студэнты, насупіўшыся, пачалі пакідаць пакой, незадаволеныя, як гледачы Калізея, якім абвясцілі, што гладыятары скончыліся і баёў сёння больш не адбудзецца. Алесь выскачыў адным з першых, расштурхаўшы таварышаў... Ды што ж гэта! Кругавая парука буржуйскіх кадраў! Ясная рэч, на камісіі зноў скажуць, што дацэнт Корб-Варановіч «уладае як юрыдыцыяй, гэтак і мэтадалогіяй мовазнаўства», пачнуць згадваць ягоныя даследаванні па мове Скарынінскіх

выданняў, працу над Гістарычным слоўнікам беларускай мовы, артыкулы па вывучэнні беларускіх гаворак, шматлікія экспедыцыі... Але Хведар П'янкоў мае рацыю — якое ўся гэтая лінгвістыка мае значэнне, калі робіцца чалавекам, што па прыродзе сваёй не можа раздзяліць гарачую любоў Алеся і ягоных таварышаў да Беларусі! Ён тут чужы! Ён мусіць з'ехаць! Але з гэнага гада ўсё — як з воску вада...

Алесю было б трохі лягчэй, калі б ён затрымаўся і пабачыў, як Хведар П'янкоў, выходзячы з аўдыторыі апошнім, павярнуўся да дацэнта і нягучна, але выразна прамовіў:

— І падумайце, Апанас Іванавіч, як вы будзеце тлумачыць Савецкай уладзе сваю сувязь з белабандытам Карыбутовічам. Ці далёка пагоны засунулі?

Так, відовішча спалатнелага твару Корб-Варановіча дакладна падняло б настрой Алесю.

Па шыбах павольна сцякалі халодныя слёзы травеньскага дажджу, абыякавыя, нібыта нехта плакаў проста таму, што звык сябе шкадаваць, хаця для шкадобы няма ніякіх відавочных падставаў.

Дэкан спачувальна і трохі трывожна глядзеў на калегу, які быў ягоным аднагодкам і нейкі час аднакурснікам па Піцерскаму ўніверсітэту.

— Апанас Іванавіч, прабачце, вядома, за недалікатнасць... Словы... як яго... студэнта П'янкова маюць пад сабою хоць цень праўды? Не-не, я ні ў чым вас не абвінавачваю і не хачу нічога выпытаць. Але... нехта ўпарта распускае чуткі, што вы ваявалі ў атрадзе Лаўрына Карыбутовіча.

Корб-Варановіч рэзка ўскінуў галаву:

— Я ведаю, хто распускае гэтыя чуткі! Нацыяналістычная хеўра, якая гатовая раздзерці за адно сцверджанне, што беларуская і руская мовы блізкія адна да адной!

— Супакойцеся, Апанас Іванавіч... — дэкан стамлёна прысеў на венскае крэсла, што стаяла ля кафедры, парушаючы вензелем спінкі прастакутныя вымярэнні аўдыторыі. — Я разумею, што вам цяжка. Тое самае перажываюць і іншыя старыя спецыялісты. Але зразумейце і вы вашых праціўнікаў. Мова цэлага народа абвяшчалася неіснуючай, мужыцкім

«наречіем». Дасюль не пераадолена стаўленне да яе як да дыялекту, сапсаванай рускай альбо польскай. Яшчэ нядаўна за тэкст на ёй можна было трапіць на катаргу... І людзі ішлі на катаргу. У такіх, як Лёсік ці Ластоўскі, няма бліскучай акадэмічнай адукацыі, як у вас, але ў іх ёсць іншае... Гарачы энтузіязм, самаахвярнасць і любоў да беларушчыны, якія нельга не паважаць.

Корб-Варановіч нервова прыгладзіў цёмныя валасы.

— А тое, што ваш Лёсік сцвярджае, што рускай мовы не існуе, што яна прыдумка імперыялістаў — гэта што? Цярпець? Яны настроілі студэнтаў супроць мяне яшчэ да таго, як тыя мяне пабачылі на вочы! Мне Леанід Калантай падрабязна распавядаў пра змову... Ён у наркамаце замежных спраў працуе, знаёмы з усімі нашымі «дзеячамі», ведае ўсе інтрыгі... Уяўляеце, учора на лекцыі пішу на дошцы формы дзеяслова «плесці» на балгарскай і на сербскай... Раптам з «камчаткі» выкрыквае той самы Вяжэвіч: «А напачатку года вы давалі нам гэты дзеяслоў у іншым напісанні! Калі ж вы памыліліся?»

— А вы і праўда памыліліся?

Апанас Іванавіч упарта прыкусіў губу, памаўчаў, гледзячы ўбок...

— Звычайная апіска. У іншых абставінах я б пажартаваў і пераправіў адну літару на другую. Але тут... — ён нервова прыгладзіў валасы, нібыта змахваў з іх павуцінне. — Кроў кінулася мне ў галаву... Усё, думаю, зараз гэтая хеўра накінецца... Ім не лектар патрэбны, а артыст, як падвізаецца на тэатральных падмостках, блазан, якога можа асвістаць не толькі знаўца, але любы невук, які прыйшоў у храм мастацтва ад няма чаго рабіць...

— Карацей, вы ізноў пасварыліся са сваімі студэнтамі, — дакорліва прагаварыў дэкан. — Паслухайце, Апанас Іванавіч, я, як і ўся прафесура, высока цаню вас як спецыяліста. Вы ўжо шмат зрабілі для беларускай філалогіі. І шмат яшчэ здольныя зрабіць. Проста... прашу вас... не трэба быць такім зацятым. Асабліва не варта заядацца з моладдзю — ёй спаконвеку ўласцівы бунтарскі дух. А тэрміны, якімі вы кідаецеся ў бок іх аўтарытэтаў, — «канібалы», «езуіты»! Я ве-

даю, крытыкуюць вашыя лекцыі. Але ж і вы гэтак накінуліся на «Граматыку» Лёсіка... Паверце, і ягоная праца, і вашая патрэбныя аднолькава на гэтым цаліку.

— Вы яшчэ скажыце, што яны аднолькава каштоўныя! Гэты невук шчыра лічыць, што слова «белетрыстыка» паходзіць ад слова «балет»! Цяпер я разумею Яўхіма Іванавіча Карскага, які адсюль з'ехаў адразу ж. Ён і мне казаў: «На Беларусі цяжка працаваць!» Я ж нават сям'ю сюды перавезці не магу — зноў жонку давядуць да нервовага зрыву... — Корб-Варановіч кідаўся па аўдыторыі, як зацкаваны звер. Дэкан спачувальна ўздыхнуў.

— Зразумейце, калега, сёння лінгвістычная спрэчка ў «чыстым выглядзе» немагчымая. Пад усё падкладаецца палітычная «падбіўка». Адны — «вялікадзяржаўныя шавіністы», другія — «буржуазныя нацыяналісты»... І нехта нацкоўвае нас адно на аднаго, каб знішчыць усіх разам. Падумайце над гэтым...

Корб-Варановіч спыніўся і ганарыста ўскінуў галаву.

— Я не магу бяззуба ўсміхацца на абразы. Леанід Калантай мае рацыю — я мушу абараняцца! Даводзіць сваю навуковую праўду! Вы проста не разумееце майго становішча...

— Вы так лічыце? — сумна прамовіў дэкан. — Ну, так, ваш Калантай падкажа... Прабачце, але гэта не той чалавек, парады якога варта слухаць. А памятаеце, як на нядаўнім банкеце, калі святкавалі юбілей Ігнатоўскага, да мяне падсеў гэты тып, былы падпольшчык з Наркамасветы? Вы яшчэ пыталіся, пра што мы з ім гаварылі?

— Н-ну... Памятаю...

— Дык вось, ён назваў мяне свіннёй, таму што я не падзяляю іх лінію, ваджуся з такімі, як Корб-Варановіч, і яны мяне «шыбануць».

Дацэнт збялеў.

— Я вас падстаўляю... Навошта вы прыйшлі сюды?

Суразмоўца супакаяльна працягнуў далаŭю.

— Ціха, ціха... Я ведаю, што раблю. Усё роўна я — сын святара. Паповіч. Гэты «грэх» мне не выкупіць нічым, таму ўсё астатняе не мае вялікага значэння. Калі мяне захочуць прыбраць, знойдуць за што. А вы так і не адказалі на маё

пытанне пра Карыбутовіча. Як ваш непасрэдны начальнік, я павінен ведаць, што гаварыць у вашую абарону. Як вы самі тлумачыліся з чэкістамі?

Дзверы грукнулі — нейкі студэнт сунуў у аўдыторыю віхрастую галаву, сустрэўся з сярдзітым позіркам дэкана і зараз жа схаваўся. На калідоры пачуліся хуткія крокі і вясёлы смех, яны аддаляліся, нібыта ў іншым свеце. Корб-Варановіч нават не павярнуўся, ён стамлёна абапёрся аб кафедру, нібыта збіраўся чытаць дзясятую за дзень лекцыю, і схіліў галаву з акуратнай цёмнай стрыжкай. Па шыбах цякла ўжо сапраўдная залева, скажаючы абрысы дрэваў за акном так, што яны здаваліся водарасцямі, якія павольна выгінаюцца ў глыбінных хвалях. Паглынулі мяне воды Твае...

— Я адказваў так: у мяне быў цёзка. Штабс-капітан Корб-Варановіч. Але я бачыўся з ім толькі адзін раз, у Клецку, у 1918-м, на балі ў гімназіі, дзе служыў настаўнікам. Мяне пазнаёміў з ім стрыечны брат маёй жонкі Сяргей Паўлючыц. Сяргей быў зусім малады. Яго, відаць, ачмурылі гераічнымі расповедамі, усёй гэтай ваўкалацкай сімволікай, якую любіў Карыбутовіч, і ён уступіў у банду і ў тым жа годзе загінуў, падрабязнасцяў не ведаю. Пасля згаданага выпадку ні я, ні мая жонка ні з тым Корб-Варановічам, ні з Сяргеем Паўлючыцам не бачыліся. Пра лёс Корб-Варановіча нічога не ведаю.

Голас лінгвіста гучаў глуха, нежыццёва, нібыта кожную фразу перад гэтым ён ужо прагаварыў разоў сто.

Дэкан паківаў галавой, падышоў да дацэнта, які так і не скрануўся з месца і не падняў галавы, паклаў на імгненне руку яму на плячук і выйшаў з аўдыторыі. Мудры ідзе за сваім лёсам. Нямудрага лёс валачэ за сабой.

Што ж, гады рэвалюцыі кідалі людзей, як трэскі ў віры. Нават пралетарскі пісьменнік Максім Горкі тады жахнуўся і ў 1918-м запісаў у сваіх «Няўчасных думках»: «Грабят и продают церкви, военные музеи, — продают пушки и винтовки, разворовывают интендантские запасы, — грабят дворцы бывших великих князей, расхищают все, что можно расхитить, продается все, что можно продавать, в Феодосии солдаты даже людьми торгуют: привезли с Кавказа турчанок,

армянок, курдок и продают их по 25 руб. за штуку. Это очень «самобытно», и мы можем гордиться — ничего подобного не было даже в эпоху Великой Французской революции».

Дождж суцішваўся, хаваючыся ў маладой лістоце, як падлетак, які нашкодзіў, накрычаў, а тады крадма залез на гарышча роднай хаты, спалоханы сваім свавольствам і пакрыўджаны на свет, які за гэтае свавольства неадменна пакарае.

Алесь Вяжэвіч ад дажджу не бараніўся ніколі — гэта быў ягоны сябар і брат, гэтак жа, як вецер ці снег. Паэт мусіць адчуваць роднасць з вольнымі стыхіямі! Таму і ішоў зараз у Татарскі канец Менска, дзе на кватэры ў Аўтуха Папара збіралася студэнцкая грамада, шчодра вымачаны «вольнай стыхіяй» — хаця дождж ужо ператварыўся ў незаўважную імжу, з валасоў капала, а з чаравікаў пры кожным кроку вылівалася халодная вада. Алесь шыбаваў, горда закінуўшы галаву. І, вядома, і ценю думкі не ўзнікала, што выглядае ён смешнавата і нават жаласна — пінжак, абвіслы ад вады, доўгі чуб прыліп да лба... А побач шкандыбае, схаваны пад кяпуркаю з вялікім брылём, наставіўшы каўнер скуранкі так, што вушы схаваліся, жыўчык П'янкоў. Хведар, як заўсёды, размахваючы рукамі, не пераставаў бубнець:

— І нашто перціся было ў самую залеву? Перачакалі б ва ўніверсітэце... Не хапала застуды ў самую сесію...

— Не цукар, не размокнем! — адрэзаў Алесь. — Калі застудзімся — дык у таты майго спірытусу мора, з бальнічных запасаў. Ляснуць па кубку — і ўсё. А тырчэць ва ўніверсітэце, які спаганены прысутнасцю гэтага чарнасоценца...

П'янкоў, шмаргануўшы носам, асцярожліва папытаўся:

— Слухай, Алесь, а чаго ты так Корб-Варановіча ненавідзіш? Не, я сам яго не выношу, і ўсе сумленныя беларусы... Але ж цябе проста перасмыкае пры найменшай згадцы пра яго. А мы ж напачатку, між іншым, думалі, што ты ягоны сваяк. Ты ж да яго падобны, як два яблыкі з адной яблыні, толькі ў цябе валасы светлыя, а ў Варановіча — цёмныя. А вось бацька твой з ім дык увогуле — дзве кроплі вады... Можа, нейкія рахункі ў вас з ім асабістыя?

Хведар прагна чакаў адказу, нават ягоны худы твар, здавалася, яшчэ больш выцягнуўся. Алесь злосна фыркнуў:

— Калі б я ведаў, што ў ва мне ёсць частка ягонае крыві, я б яе сам сабе выпусціў! Я яго як класавага ворага ненавіджу! Яго продкі, між іншым, панамі ў маіх прадзедаў былі. На стайню, як відаць, пасылалі. І багацця мелі нямерана, пасля, праўда, зусім згалелі. Але ж сутнасці сваёй гнілой не змянілі! Паглядзі, як ён часам трымаецца — быццам роднага брата забіў, і цяпер сумленне заглушыць хоча.

— Я-асна... — працягнуў сябрук. — А да Язэпа Лёсіка як ты ставішся?

— Спадар Язэп сапраўдны беларус! — прасвятлеў твар Алеся. — Паболей бы такіх!

— А Вацлаў Ластоўскі табе як? Кажуць, ён масонам быў... Ты чуў штосьці пра гэта?

Вяжэвіч страсянуў з валасоў дождж.

— Можа, і быў... У яго пярсцёнак такі дзіўны ёсць, на мезенцы носіць. Пры царскім рэжыме людзі блыталіся, кожны па-свойму да рэвалюцыі ішоў. Вось мой бацька, напрыклад, з эсэрамі калісьці звязаўся... Толькі пра гэта, браце, вядома, нікому не расказвай. Бацьку і так цяжка. Праца ў яго цяпер — не кожнаму па сілах, у турэмнай бальніцы. З арыштаванай контрай ён справу мае.

— І што, расказвае дома пра сваю працу?

Цяпер у голасе Хведара з'явілася нейкая штучная абыякавасць, але Алесь нічога не заўважыў. Загаварыў здушана, як пра даўнюю хваробу.

— Ды нічога не распавядае. Ні слова. Прыйдзе дадому, усіх з пакоя выгане, спірт глохча. Ведаеш, зусім іншым чалавекам зрабіўся. Не памятаю, калі апошні раз ён смяяўся, ці на піяніна граў, ці маці кветкі дарыў... А раней, калі ў чыгуначным шпіталі працаваў, кожны дзень цягаў ёй хоць рамоначак які! А ўзімку, уяўляеш, у сябе ў кабінеце ў слоік з вадой ставіў галінкі бярозы і вярбы, і як зазелянее галінка — прыносіў маці замест кветак.

Твар Алеся зрабіўся зусім хлапечы, шэрыя вочы свяціліся — вось такім ён быў, калі да яго прыходзілі тыя вершы, якія ён лічыў сваёй слабасцю ў адрозненне ад радкоў,

што пакутліва выштукоўваў, услаўляючы камсамол, фабрыкі і трактары... А ў гэтых, нязваных, серабрыўся туман над поплавам, пагойдваўся арэлямі месяц, і самая прыгожая ў свеце дзяўчына з рысамі Веранікі Манцэвіч расплятала косы над люстэркавай ціхай вадой...

Ганьба для камсамольскага паэта. Правільна яго лаялі ва ўніверсітэцкай насценгазеце, і на пасяджэннях «Маладняка», і ў часопісе «Полымя». І незразумела, чаму і адкуль прыходзяць яны, такія няправільныя вершы, і ад іх гэтак салодка-пакутна, гэтак нясцерпна-ўзвышана, як ніколі не бывае ад патрэбных радкоў пра станкі, заводы і камсамол. І, калі ўдумацца, чым ён, падлеглы сентыментальным буржуазным уплывам паэт Алесь Вяжэвіч, лепшы за таго Корб-Варановіча?

Але ўспамін пра дацэнта, які, у прынцыпе, нічога кепскага яму, Вяжэвічу, не зрабіў, зноў пагнаў дрыготку нянавісці па целе...

— Што, ужо ліхаманіць? — буркатліва заўважыў П'янкоў. — Будзеш ведаць, браце, як цягацца пад «вольнай стыхіяй»... Крочым хутчэй, а то без нас усё віно пап'юць.

Алесь нічога не адказаў, толькі прыспешыў крок. У небе між хмар паказалася маленькая сіняя лапінка, але да чыстага неба было яшчэ далёка.

...За шыбамі кабінета на трэцім паверсе наркамата замежных спраў неба было зусім шэрым, і ніякіх дрэваў пад акном. Калі не ведаць, які сёння дзень, можна было падумаць, што гэта не травень, а кастрычнік ці нават лістапад. На стале з цёмнага дрэва, магутным, як пастамент для статуі Юпітэра, і шчодра пакрытым бліскучым лакам, стаялі два парцалянавыя кубкі, такія пяшчотна-блакітна-ружовыя, з танесенькімі пазалочанымі ручкамі, што страшна было браць у рукі, здавалася, заверашчаць ад жаху, што іх раздушаць грубыя пралетарскія пальцы.

Хведар асцярожна паставіў свой кубак на гэткі ж далікатны сподачак, нібыта ён быў да краёў поўны, хаця насамрэч Хведар ужо выхлебтаў усю гарбату, нязвыкла салодкую. Цукру ў гэтым кабінеце не шкадавалі. Напэўна, не

скупіліся і на іншае... Свецкую ідылію псавалі ледзь прыкметныя, але ўсё-ткі бачныя паралельныя драпіны на лакавай паверхні стала: нібыта нехта ў смяротным адчаі хапаўся пазногцямі за гладкую паверхню, яго цягнулі назад, а ён зноў вырываўся і ламаў пазногці аб цёмнае дрэва... П'янкоў нібыта наяве пачуў крыкі...

Вось дурныя фантазіі... Гэта ж не турма, не следчы кабінет ДПУ — наркамат замежных спраў. Пазногцямі добры мэблевы лак не падрапаеш. Хведар дакладна гэта ведаў — у дзяцінстве давялося дапамагаць бацьку-цесляру. П'янкоў страсянуў галавой і, каб адагнаць морак, аддана ўтаропіўся ў мудрыя вочы намаляванага Леніна — вялізны партрэт у цяжкой багетнай раме вісеў як мае быць, на сцяне за спінай гаспадара кабінета... Добра, што таварыш Калантай не валодае здольнасцямі чытаць думкі. Хаця для важнай справы, якой яны абодва займаюцца, гэтая якасць вельмі прыдалася б.

Таварыш Леанід Пятровіч Калантай, акуратны да лялечнасці мужчына гадоў трыццаці, апрануты ў дыхтоўны гарнітурчык з дыяганалі, з прылізанай валасок да валаска доўгай грыўкай, што акуратным трохкутнікам закрывала палову гладкага лба, нарэшце адарваў вочы ад аркуша, спісанага дробным почыркам.

— Што, і праўда Ластоўскі носіць на мезенцы пярсцёнак?

Хведар пацІснуў плячыма.

— Сам не бачыў. Але, думаю, Вяжэвіч не стаў бы прыдумляць.

— Магчыма... А вось інфармацыя пра тое, які вялікі ўплыў мае на студэнтаў Лёсік, нас даўно трывожыць. Гэта выразны нацыянал-буржуазны ўплыў. І шавініст Корб-Варановіч нам у нейтралізацыі гэтага ўплыву дапаможа.

— Як? — здзівіўся П'янкоў. — Я ж думаў, дацэнт — наш вораг!

— Вядома, вораг, — ласкава пацвердзіў гаспадар кабінета. — І вельмі зацяты. У маладой савецкай дзяржавы шмат ворагаў — з усіх бакоў. Разумееш? З розных бакоў! Усе гэтыя закаханыя ў Лёсіка, Ластоўскага і Ігнатоўскага нападаюць на Корб-Варановіча? Але яны ж не таму на яго нападаюць, што за Савецкую ўладу ўсёй душою, а таму, што ён

не згодны з іхняй пальшчызнай. Яны тым выяўляюць сваю гнілую сутнасць. З другога боку, змагаючыся з нацдэмамі, Корб-Вpayновіч ды іншыя вялікадзяржаўнікі таксама сваю гнілую сутнасць выяўляюць... Вось няхай яны адзін аднаго і выкрыюць. Вось што, Хведар...

Таварыш Калантай устаў з крэсла, прайшоўся па кабінеце, важна заклаўшы за спіну рукі, — выглядала б гэта і зусім салідна, калі б не малы рост, не ратавалі нават высокія абцасы бліскучых ботаў, пашытых на замову.

— У хуткім часе Корб-Варановіч выступіць з дакладам на паседжанні Акадэміі навук. — Калантай па-змоўніцку пасміхнуўся. — Думаю, яго будзе не цяжка пераканаць, што абавязкова трэба публічна выказаць свае погляды, агучыць аргументы... Ён, вядома, усё і выкажа... А ты, Хведар, павінен паклапаціцца, каб у асяродку студэнтаў правільна ацанілі ягоныя шавіністычныя выказванні. Знайдзі некалькі чалавек — магчыма, тых жа Вяжэвіча, Папара, гэтую прыгажуньку Манцэвіч... Прапануй ім з'ездзіць у Ленінград, дзе вучыўся Корб-Варановіч, пагаварыць з ягонымі былымі аднакурснікамі, знаёмымі — сабраць доказы, што ён добра замаскаваны вораг. Я падкажу, каго наведаць... Запэўніваю — звесткі будуць найцікавейшыя! Ад Корб-Варановіча застануцца рожкі ды ножкі. А потым настане чарга ягоных апанентаў. І мы ачысцім савецкую навуку ад буржуазнага шалупіння! Ясна?

Худы твар Хведара пайшоў чырвонымі плямамі.

— Можа, не трэба Манцэвіч? Яна... дурнаватая.

Калантай пільна паглядзеў у спалоханыя шэра-зялёныя вочы свайго суразмоўцы:

— Асабістыя пачуцці не павінны замінаць нам у рэвалюцыйнай барацьбе. Ну-ну, не чырванней... Калі ты згодны сам апекавацца гэтай дзяўчынай...

— Я згодны! — спяшаючыся, выкрыкнуў П'янкоў, і Калантай дакорліва пахістаў галавою.

— Глядзі, хлопча, не памыліся. Але мы гатовыя цябе падтрымаць у спробе перавыхаваць камсамолку, якая пачала збочваць з ленінскага шляху. Заўтра ж прынясі на яе падрабязную характарыстыку. Усё, што ведаеш. А я запатрабую

ейную асабістую справу з універсітэта... — Калантай зрабіў хуткую пазнаку на перакідным календары. — Выратуем тваю Манцэвіч ад непатрэбных знаёмстваў.

— Ясна, Леанід Пятровіч! — па-вайсковаму адрывіста адрапартаваў Хведар, вочы якога свяціліся ад шчасця.

— А наконт незразумелай сувязі Вяжэвічаў з Корб-Варановічамі... Гэтае падабенства... Кажаш, яны землякі. Паны і прыслуга... Нешта тут нячыста. — Леанід Пятровіч спыніўся пасярод кабінета, якраз за спінай свайго агента, і той нязграбна закруціўся, каб бачыць начальства. Таварыш Калантай, задраўшы галаву, глядзеў у мудрыя вочы партрэта, нібыта атрымліваў ад яго нямыя ўказанні.

— Старэйшага Вяжэвіча мы самі праверым... Вось жа, чалавек патрэбны, на адказнай працы, а сувязь з эсэрамі схаваў, схаваў... А маці ў твайго сябрука, між іншым, дачка цемрашала, які панамаром у царкве служыў. Што, не чуў ад яго? А ты, са свайго боку, у студэнтаў параспытвай пра тое, што мы пра Вяжэвічаў не ведаем.

— Добра, таварыш Калантай!

Хведар зразумеў, што візіт скончаны, узняўся, спрабуючы адначасова і выцягнуцца ў бравую чырвонаармейскую паставу, і не пакрыўдзіць тым нізкараслага гаспадара.

— Дзейнічай, камсамолец Хведар П’янкоў! Партыя не забудзе тваёй гераічнай і небяспечнай працы! — «бласлявіў» гаспадар, падпусціўшы належнага пафасу ў голас, і Ленін на сцяне, здавалася, ухвальна зірнуў мудра прыжмураным вокам.

Калі дзверы за наведнікам зачыніліся, тонкі нос Леаніда Пятровіча незадаволена ўцягнуў паветра. Што гэтыя студэнты, зусім не мыюцца, ці што? У пакоі невыносна смярдзела прэлым абуткам. І вокны не расчыніш, краты... А фортка надта высока, не хочацца каго прасіць. Хоць праз дзверы пакуль праветрыць... Вось так. А цяпер, каб перабіць смурод, можна загадаць прынесці кавы. Яшчэ засталася тая, бразільская, прывезеная з Варшавы.

Гаспадар кабінета ўсеўся за спаласаваны драпінамі стол, грэбліва адсунуў на край сталешніцы пустыя кубкі, націснуў на кнопку званка, выклікаючы сакратарку, і зноў заглыбіўся ў спісаныя дробным почыркам паперы.

**Раздзел 4.**
**РОМУЛ І РЭМ**

Ася зачыніла сінюю пластыкавую тэчку з рукапісам. Зусім не падобна да ранейшых раманаў Вячкі Скрыніча. Яе перасмыкала ад адчування, што насамрэч патрапіла ў тую эпоху, калі на сцяне віселі вусатыя партрэты, а навуковыя дыскусіі заканчваліся расстрэламі. Нават нейкая даўжынёй з глыток паўза ўзнікла ў асэнсаванні рэалій: вось сцены маленькай кавярні «Эдынбург», завешаныя паліцамі са старажытнымі бутэлечкамі ад мікстураў і бляшанкамі з-пад табакі і манпансье, вось філіжанка з мятнай гарбатай на абрусе ў шатландскія краткі, вось насупраць сядзіць вясёлы Скрыніч у джынсавай куртцы і чорнай майцы з памаранчавым хіпоўскім надпісам: «Make love, not war», і ягоныя шэрыя вочы паглядаюць праз неахайную цёмную грыўку нахабна-дапытліва.

— Гэта вы ўсё прыдумалі? — нясмела папыталася Ася, і Вячка паморшчыўся, нібыта яна наступіла яму на нагу.

— Слухай, вось толькі давай без гэтых «вы», а то я пачуваюся зусім старэчай. А ўсё апісанае, — перайшоў на ўрачысты тон Вячка, — адкрылася мне ў прароцкім сне. Што, не верыш?

Ася разгублена перасмыкнула плячыма, але Скрыніч ужо зноў усміхаўся.

— А паверыла б з лёгкасцю, я ж бачу. Але не, выдумаць такое немагчыма. Давялося пакорпацца ў архівах. Ледзь не здох, начытаўшыся пратаколаў допытаў і даносаў. Па начах снілася... Разумееш, гляджу цяпер на старэчаў і думаю не пра тое, як прайшлася па іх лёсе вайна, а як яны паводзіліся ў мірным жыцці. Даносілі? Верылі ў масавыя працэсы над «ворагамі народа»? Самі былі ахвярамі?

Над філіжанкай павольна таньчыў, выгінаўся, астываючы, струменьчык цёплага паветра, добра відочны на фоне чорнай Вячкавай майкі і ў кантэксце сённяшняга пахаладання — шкада, Ася не прыхапіла фотаапарат.

— А пачытаць табе гэты фрагмент я даў дзеля таго, каб ты ведала, да каго зараз павінна ісці Арсенія Вяжэвіч, гераіня майго рамана.

Асі зноў зрабілася страшнавата. Петроній і ягоны вольнаадпушчанік... На што яна падпісалася? Вось — заміж таго, каб сядзець на працы, адпрасілася, спаслаўшыся на галаўны боль... А начальнік аддзела, лысаваты аматар піва, выгукнуў услед, каб абавязкова адкрыла бюлетэнь у паліклініцы, ці залічыцца як прагул.

У паліклініку Ася не збіралася. І, дзіўна, ёй зараз было на гэта пляваць.

— Я павінна перанесціся ў 1929 год?

— Не так радыкальна, — па-ваўчынаму белазуба пасміхнуўся Скрыніч. — Мой раман — слаёны пірог з адлегласцю амаль у стагоддзе паміж слаямі. Цяпер дзеянне пераносіцца ў сённяшні час. Гераіня, пабачыўшы сваё падабенства з партрэтам маладой графіні Корб-Варановіч, вырашае даследаваць радавод Корб-Варановічаў — а раптам знойдзецца сувязь з родам Вяжэвічаў — і адпраўляецца да апошняга прадстаўніка роду.

— Што? Я і праўда павінна пайсці да нейкага Корб-Варановіча? — ускінулася Ася, адчуваючы сапраўдны жах.

— Ды не бойся ты так, — супакоіў яе Вячка. — Я ж пайду з табою. І Корб-Варановіч, мяркуючы па тым, што я пра яго даведаўся, абсалютова нармальны, інтэлігентны чалавек. Працуе загадчыкам аддзела ў інстытуце гісторыі культуры, лекцыі чытае. І ён — праўнук таго Корб-Варановіча, пра якога ты толькі што прачытала. Так што ніякай оргіі не атрымаецца, хаця ты, можа, на яе і разлічвала.

Ася не адрэагавала на жарт, пакутліва спрабуючы звыкнуцца з роляй шахматнай фігуркі — якраз падобная да яе ў сваёй доўгай чорнай спадніцы і чорным блузоне. Мімаволі ўспомнілася, як сястра расказвала ёй, што Славік на ўроках любіў забаўляцца з жывой жамярой — будаваў у слоіках адмысловыя лабірынты, цэлыя маленькія гарады з паперы, шкла, пластыліну, і запускаў туды мурашоў альбо баговак. Не, не забіваў, а проста назіраў, змушаючы паўзці куды трэба з дапамогай сухой сцяблінкі.

— А вы... ты, Вячаслаў, якую ролю станеш выконваць?

Вячка адсёрбнуў гарбаты і трымаючы філіжанку на ўзроўні вачэй, прамовіў, гледзячы ў вочы Асі скрозь ужо ледзь заўважны вэлюм пары:

— А я — аўтар. Бог з машыны. Канструюю сітуацыі, падказваю рэплікі...

— І не страшна?

— Страшна, — пасур'ёзнеў Вячка. — Але ёсць рэчы, мацнейшыя за страх. Я нават не кажу пра высокія матэрыі... Цікаўнасць, напрыклад, — у некаторых яна настолькі моцная, што пераадольвае інстынкт самазахавання.

Ася стрымала ўжо гатовае вырвацца «Напрыклад, у цябе», бо сама за сабою падобнае ведала.

— Ну што, рушылі! — узняўся амаль культавы пісьменнік, паклаўшы на стол, накрыты шатландскім абрусам, беларускія грошы за кітайскую мятную гарбату. І дадаў, акінуўшы Асю вокам:

— Як усё-ткі файна, што ты не падобная да сваёй сястры.

Нарэшце хоць з нечых вуснаў гэта прагучэла кампліментам.

Інстытут месціўся ў аблямаваным мутным шклом бетонным прастакутніку, пабудаваным нядаўна, але быў ён гэткі ж шэры і панылы, як Асіна Будыніна. У Шэры Гмах напхалі розных установаў аж па самы дах. Вось якраз пад гэтым дахам і знаходзіўся інстытут. На іншых паверхах былі турыстычныя фірмы, дызайнерскія, камп'ютарныя... Але бюджэтная арганізацыя і ў лепшым доме горада створыць рэзервацыю інтэлектуальнай пакрыўджанай галоты. На тым паверсе, які займаў інстытут, не было ні дываноў, ні акварыумаў, ні скураных фатэляў для кліентаў. Змрочныя і панылыя, як Аід, бязлюдныя калідоры, ды яшчэ з нізкай і скошанай, нібыта ў карабельнай каюце, столлю — выштукаванні архітэктараў, аматараў незвычайных формаў. Бетонныя прастакутныя калоны, з-за якіх толькі і можна, што перастрэльвацца... Дзверы з кодавымі замкамі і міліцыянты пры іх... Вячка, які валодаў здольнасцю прабірацца праз любых вахцёраў і міліцыянтаў, цягнуў Асю ў самы канец лабірынту... Бінга! Дзеля прыліку, бо адказу і не падумаў чакаць, Вячка стукнуў суглобамі пальцаў у фарбаваныя шэрай алейнай фарбай дзверы з шыльдачкай «Загадчык аддзела навуковай працы Д.Р. Корб-Варановіч», запхнуў Асю ў кабінет і стаў за ейнай спінай, каб адрэзаць шлях да адступлення.

Загадчык аддзела, мужчына пад саракоўнік, сядзеў за танным канцылярскім сталом насупраць дзвярэй, утаропіўшыся

ў нязваных гасцей ільдзяным позіркам. Ягоныя шэрыя вочы, ваяўніча прыжмураныя, як толькі спыніліся на Асі, пасля імгненнага недаўмення пачалі выпраменьваць нянавісць, як ліст расіцы — кроплі атрутнай вільгаці, у якой мусіць гінуць неабачлівая жамяра. Хаця выглядаў гісторык не зусім так, як Ася ўяўляла: густыя бровы, просты нос, сурова падціснутыя вусны, высокія выліцы, і лоб высокі, упарты, яго праразае адзіная глыбокая зморшчына. Хвалістыя попельныя валасы, трохі цямнейшыя, чым у Арсеніі, і трохі даўжэйшыя, чым пасуе чыноўніку, зачасаныя назад, і падбароддзе ўпартае, выдаецца наперад, з ямінкай. Большы за Вячку, але не таўсманы, проста дужы. І ніякага гальштука, кашулі, пінжака — тонкі шэры швэдар-гольф, які напінаецца на цяглiцах, чорная скураная камізэлька. Непрацоўныя пальцы сашчэпленыя, а на безыменным блішчыць, як начышчаны, тонкі заручальны пярсцёнак. Чамусьці Ася адразу прыляпіла да спадара вызначэнне «граф». Сцены завешаныя рэпрадукцыямі з радзівілаўскіх партрэтаў, не папяровымі, а маляваныя алеем на дошках — але не прафесіянал маляваў, дакладна. Хіба сам граф копіі рабіў?

Чаму Арсенію аж скаланула ад нянавісці да гэтага фацэта, якая відавочна была ўзаемнай? Яна і сама не магла патлумачыць. Хіба таму, што ён выглядаў, як мог выглядаць ейны старэйшы брат? Ці як брат той, каго яна бачыла на партрэце?

Пасля яна шукала адгадкі ў псіхааналізе, можа быць, паўплываў адмоўны вобраз мужчыны, які стварыўся ў яе жаночай сям'і, — мужчына альбо агрэсіўная істота, драпежнік, альбо ўтрыманец, баласт... З Вячкам было прасцей — драпежнік, але на дыстанцыі. Агульная дамоўленасць пра недакрананне, вось і добранька, як прамовіў карсар, згортваючы з кавалка гравюры Дзюрэра самакрутку. А гэты... Стапудова, у яго таксама нейкія комплексы наконт жанчын...

— Слухаю вас! — ён яшчэ захоўваў дасканалую ветлівасць. А Асі ўжо карцела выдаць нешта абразлівае. Ну, вядома. Чыноўнік, навучыўся валодаць пачуццямі. Млявая восеньская муха праклала крывую траекторыю паміж дапатопнай лямпай дзённага святла і дапатопным маніторам камп'ютара. Рука графскага нашчадка здрыганулася, каб адмахнуцца ад

чорна-сіняй вястункі са сфераў Аіду і бліжэйшай жэсаўскай сметніцы. Але, відаць, спадар вырашыў, што жэст гэты быў бы няварты прадстаўніка арыстакратыі, і рука замерла. Муха надзейна прычапілася да пажаўцелай абалонкі манітора, як п’яны да зачыненых дзвярэй пад’езда.

— Мы, Даніла Раманавіч, па генеалагічным пытанні, — паспяшаўся «дэміург» Вячка падаць рэпліку. — Вы ж займаецеся складаннем радаслоўных беларускіх радоў... Так?

— Гэта не ёсць маім асноўным заняткам, — холадна адказаў Корб-Варановіч, чый пагляд упарта ігнараваў Вячку, як прыклеіўшыся да Асі, і ад ягонага нізкаватага голасу, прашытага ільдзянымі голкамі, Асю дадаткова перасмыкнула. — Вы дарэмна спадзяецеся купіць мае паслугі. Я бяруся за тое, што сапраўды мяне цікавіць і што адпавядае тым тэмам, над якімі я працую.

Януш Радзівіл у цяжкіх латах на партрэце злева над сталом бліснуў чорным вокам, нібыта пабачыў набліжэнне маскальскага войска. А Корб-Варановіч між тым перавёў вочы з Асі на Скрыніча, і раптам ягоны твар уражліва змяніўся, нібыта знутры яго нехта падсвяціў:

— Вы... вы Вячка Скрыніч, так?

Граф пругка падняўся, нібыта дужы звер, і наблізіўся да госця, каб паціснуць руку. Ён сапраўды быў вышэй за Вячку і магутней, але ў ім не выяўлялася брутальнай моцы, нават нейкая мяккасць, плаўнасць. Голас гаспадара гучэў цяпер усхалявана-радасна:

— Усе вашыя раманы чытаў. Вунь у гэтай шафе стаяць. Мой улюбёны — апошні... Пра князя Глінскага. Вядома, з гістарычнымі фактамі вы абыходзіцеся гэтак вольна, як гусар з пейзанкамі, але... Я заўсёды згаджаўся з думкаю, што нам трэба найперш ствараць прымальны рамантычны нацыянальны міф... Дарэчы, калі вам спатрэбяцца нейкія дакументы ці кансультацыі — звяртайцеся. Для мяне гэта гонар. Чым магу дапамагчы зараз? Ды вы сядайце, сядайце...

Вячка, скарыстаўшыся прапановай, усеўся на адно з крэслаў, што стаяла ля правай сцяны, насупраць шафы, вольна закінуў нага за нагу. Ася нясмела апусцілася ў крэсла побач, круцячы па чарзе свае пярсцёнкі, як заўсёды рабіла,

калі пачувалася збянтэжанай, а гэта значыць, практычна ўвесьчасна.

Корб-Варановіч гаварыў вельмі шчыра, і ў ягоных рысах цяпер было бачна тое, што Ася так ненавідзела ў сваіх: датклівасць і даверлівасць... Але варта было гісторыку перавесці позірк на дзяўчыну, яго вочы зноў зледзянелі. Вячка таксама зірнуў на Арсенію і, відаць, змірыўшыся, што ад яе працягу дыялогу не дачакаецца, зноў сам падаў рэпліку:

— Вось і выдатна... Таму мы не сумняемся, што наша справа вас зацікавіць. Вось, Арсенія — з роду Вяжэвічаў. Несумненна, вы чулі калі-небудзь пра род Вяжэвічаў. Ён нейкім чынам звязаны з родам Корб-Варановічаў. І мы хацелі б ведаць...

М-да, і гаспадар гэтага кабінету падаўся Асі напачатку ўладальнікам чыноўніцкай вытрымкі... Зазняць ягоную фізіяномію — псіхалагічны трылер. Пачуцці мяняюцца, і, падобна, ён проста не здольны іх прыхоўваць — хаця і намагаецца. Корб-Варановіч сцяўся, горда выпрастаўся:

— Выбачайце, спадар Скрыніч, але тут — іншае... Для вас асабіста — усё, што заўгодна... Пра Сапегаў, Пацаў, Вайніловічаў, Глябовічаў, Нарбутаў... Але я нічога не хачу болей ведаць пра род Вяжэвічаў! Паверце, усё, што я пра яго ведаю, адбівае цікавасць да знаёмства. — Граф імкліва падышоў да шафы, што стаяла злева ад акна, адчыніў зашклёныя дзверцы, вытаргнуў з кніжных шэрагаў брашурку ў зялёна-балотнай вокладцы і пагардліва кінуў на стол. — Дастаткова таго, што імя Арсеніі Вяжэвіч мне ўжо знаёмае!

Ася з непаразуменнем узяла брашуру... «Л.П. Калантай. Аспекты ідэалагічных праблем беларускай унутранай культурнай палітыкі і іх аптымізацыя ў сучасным грамадстве». Блёкат нейкі... Але, вядома, надрукавана ў «Сокале-прынце».

— Вы рэдагавалі? — спытаў-сцвердзіў Даніла Раманавіч.

Ася нясмела перагарнула старонкі... Ну так, яе прозвішча. Рэдактар. Але Арсенія дужа цьмяна памятала гэтую кніжку, прачытаную ў бясконцым шэрагу іншых, на аўтапілоце.

— І вам не сорамна мець дачыненне да такой... — Корб-Варановіч пакутліва падшукваў слова, — падмётнай літаратуры? Хаця... Вяжэвічы.

Твар гаспадара гнеўна крывіўся. Ася разгублена павярнулася да Вячкі. Той прашаптаў:

— Прабач, але ў Кнізе пра гэтую брашурку нічога няма, — і гучна прамовіў да Корб-Варановіча, працягваючы нанізваць рэплікі на аднаму яму бачную нітку:

— Чым вам не дагадзіла гэтая кніжка?

Даніла Раманавіч зноў утаропіўся ў Асю, звяртаючыся толькі да яе.

— Вядома, вам было дужа прыемна, што ў гэтай кнізе мой бязвінна закатаваны дзед абазваны прадстаўніком імперскага шавінізму ў лінгвістыцы! Гэта ён, ён, які пакінуў някепскую кар'еру ў Пецярбургу па першым жа запрашэнні з Менска, каб ствараць беларускую філалогію! Які абхадзіў пешкі ўсю Беларусь, самыя гіблыя і небяспечныя месцы, збіраючы легенды, песні, рэдкія слоўцы... Які даследаваў беларускія летапісы! Які сцвярджаў, што беларуская мова — старажытная, славянская, гожая! Якога цкавалі русапятыя ўсіх масцей! — гаспадар ледзь не кідаўся па кабінеце, як раз'ятраны звер. — Ці вы, спадарыня Вяжэвіч, скажаце, што зусім выпадкова ў гэтай жа кніжачцы, у раздзеле пра выкарыстанне архітэктурнай спадчыны, прыводзіцца ўдалы прыклад: аграпрамысловая фірма «Ройна» на месцы былой аднайменнай сядзібы... А вы ведаеце, як гэтую сядзібу, што належала маім продкам цягам пяці стагоддзяў, выкарыстоўваюць, дакладней, тое, што ад яе засталося? Гэта, між іншым, быў палац! З кутнімі вежамі, балконамі, скульптурамі... А цяпер — каробка на два паверхі, накрытая шыферам... Там вытворчасць па вырабу кукурузных палачак. Шыбы васямнаццатага стагоддзя, адмысловай формы, і каваныя краты выламалі, уставілі еўравокны лідскай фабрыкі... Адзін паляўнічы дамок сямнаццатага стагоддзя на ўскрайку лесу, у якім апошнія Корб-Варановічы жылі, больш-менш захаваўся — дый той нядаўна разабралі. Ніводнай магілы Корб-Варановічаў не засталося, могілкі зааралі, ад капліцы і падмурку не знойдзеш — цэглу расцягалі на хлеўчукі... Дрэвы векавыя ў парку выкарчавалі, а з парэшткаў царквы, якую ў шаснаццатым стагоддзі мой продак, Язэп Варановіч, будаваў — абарончага тыпу, з элементамі барока, — бульбасховішча зрабілі...

Гаспадара відавочна «панесла», як харта па следзе параненага зайца. Арсенія вывучала фальшывы, пластыкавы, паркет. А чым тут апраўдвацца? Тым, што ты — проста шрубчык у сістэме? Што нават не ўчытвалася ў тэкст, час ад часу прагаворваючы асобныя яго фразы ўслых, абы не заснуць за рэдагаваннем, як кіроўца-дальнабойшчык за рулём? Толькі яе фургон быў зусім пусты.

— Але пра Корб-Варановічаў у дачыненні да сядзібы Ройна ў кнізе нічога не было сказана... — мармытнула Ася, сама не разумеючы, як насмелілася. — Там напісана, што яна нейкім Сітавым належала...

— Правільна, Івану Сітаву, маёру расійскай арміі, — з'едліва адказаў Даніла Раманавіч. — Корб-Варановічы бралі ўдзел ва ўсіх паўстаннях, якія адбываліся на гэтых землях супроць імперыі. У апошнім, 1863-га года, удзельнічала ўся сям'я... Трое братоў — Андрусь, Віктар, Павал — былі камандзірамі інсургентаў, Павал і Віктар загінулі, Андрусь быў асуджаны на катаргу. І іх бацькоў, ужо старых, таксама саслалі — за тое, што дрэнна выхавалі дзяцей. Пазбавілі тытулу і шляхецтва. Усе маёнткі сканфіскавалі, Ройна аддалі карніку Сітаву. Андрусю праз дваццаць гадоў удалося вярнуцца, яму і ягонай жонцы, якая паехала за ім у Сібір. На знак вышэйшай літасці ім быў аддадзены паляўнічы дамок, той самы, які нядаўна панішчаны, і вернутая шляхецкая годнасць. Графамі, праўда, не засталіся, але не надта засмучаліся.

— Чаму? — здзівілася Арсенія, якая ад цікаўнасці забылася на боязь. Корб-Варановіч нават не працяў яе гнеўным позіркам, улюбёная тэма відавочна бараніла яго ад успрыняцця знешняга свету.

— Наша шляхта тытулаў не вельмі шанавала, усе былі браты ў вольнасці шляхоцкай. А тытулы — гэта ўжо расійскія ўладары раздавалі, каб мясцовых магнатаў заахвоціць да лаяльнасці. Графамі Корб-Варановічы сталі ў васямнаццатым стагоддзі, пры Кацярыне. Ёсць тытул, землі, палацы, ці няма, галоўнае — прозвішча і незганьбаванае шляхецтва. Мой прадзед — сын народжанага на катарзе сына Андруся Корб-Варановіча і ягонай жонкі Людвікі.

Пан Даніла пераможна ўсеўся за стол:

— Так што радаводам Вяжэвічаў я займацца не буду. Нават дзеля вас, спадар Скрыніч.

Правёў рукой па твары, нібыта хацеў сцерці гнеў, і працягнуў халодна-здзекліва:

— Вы, спадарыня, хацелі ведаць, як род Вяжэвічаў звязаны з родам Корб-Вярановічаў? Сакрэту няма. Вяжэвічы былі слугамі Корб-Варановічаў шмат вякоў. Пасля таго, як у тых усё забралі, працягвалі служыць новым гаспадарам. Прычым ёсць версія, што яны паспрыялі знікненню старых. Паненка, вядома, пабачыла сваё падабенства з партрэтам якойсьці маёй прабабкі, здагадваюся, гэта партрэт Марыі Корб-Варановіч, які нядаўна прывезлі з Расіі. Яна выйшла замуж за аднаго з паўстанцаў 1831 года. Калі таго пасадзілі ў Бабруйскую крэпасць, Марыя памерла ад нервовай гарачкі. Так што прамых нашчадкаў у яе няма. Але вам, вядома, захацелася пацверджання свайго графскага паходжання. Мушу вас засмуціць... — гісторык пагардліва падціснуў вусны. — Гэтае падабенства між Вяжэвічамі і Корб-Варановічамі заўважанае не толькі вамі, яно цягнецца стагоддзямі. Выяўляецца не ў кожным пакаленні, але час ад часу ў абодвух радах паўтараецца адзін тып знешнасці. І тлумачыцца падабенства вельмі проста... Нехта з маіх продкаў упадабаў сімпатычную прыслужніцу. Але бастарды не могуць ні на што прэтэндаваць пры наяўнасці законных нашчадкаў. А тым больш у прамінулых стагоддзях яны былі ніжэй за прасталюдзінаў... — Асі здавалася, што Корб-Варановіч выгаворвае словы з садысцкім задавальненнем. — Запэўніваю, у навакольных вёсках заўсёды жыло шмат панскіх двайнікоў. Чулі наконт права першай ночы?

Арсенія больш не магла цярпець гэты абыякава-ненавісны голас.

— Нічога я не хачу! Не прэтэндую! Не трэба мне вашых... тытулаў! Усё! Спыняю гэтую дурацкую гульню! Адчапіцеся ад мяне... — вось сарамацішча — на слёзы прабіла. Ася рванулася да дзвярэй, але яе затрымала жалезная рука Скрыніча. Ну так, «дэміург» Вячка, вядома, падрыхтаваў кручок для кожнай рыбіны...

— Спадар Вархановіч, я пішу раман пра вашага прадзеда.

Твар гаспадара кабінета зноў страціў маску спакойнай пагарды.

— І... як вы трактуеце яго асобу? Як... шавініста? Русіфікатара, які не ведаў беларускай мовы?

— Не хвалюйцеся, гэта цалкам станоўчы персанаж... — запэўніў Вячка, учэпіста трымаючы знерваваную Арсенію за плечы. — Вядома, складаны, неадназначны... Як і ўсе іншыя мае героі. А другі герой — паэт Алесь Вяжэвіч. Вучань вашага дзеда, студэнт літаратурнага аддзялення філфака.

— Вось як... — Корб-Варановіч спахмурнеў. — Тады вы павінны былі прачытаць у следчай справе прадзеда, якую ролю адыграў згаданы Вяжэвіч у ягоным лёсе. Алесь Вяжэвіч быў завадатарам у справе цкавання «расейскага дацэнта». Прадзед пасля сябе дзённік пакінуў, апісвае ўсё...

— Я чытаў той дзённік. Вельмі шчыры, дужа эмацыйны... Але, згадзіцеся, і суб'ектыўны. Не ўсё так проста, спадар Даніла, — мякка прагаварыў Вячка, адпусціўшы нарэшце Асю, якая спыніла парыванні выскачыць з кабінета. — Ведаеце, я чытаў следчую справу і Алеся Вяжэвіча. І там цытуюцца лісты ў дэканат Корб-Варановіча, у якіх студэнт Алесь Вяжэвіч называецца зацятым нацыяналістам, вузкалобым фанатыкам, які служыць інструментам тых, хто адрывае беларускую мову ад славянскіх каранёў. Як вы ведаеце, Алесь Вяжэвіч сам быў арыштаваны і асуджаны да вышэйшай меры пакарання неўзабаве пасля таго, як загінуў ваш прадзед.

Арсенія разгубілася — яна ніколі ні ад маці, ні ад бабулі пра лёс свайго продка не чула.

— Так, ён загінуў, — на вуснах Корб-Варановіча крывілася жорсткая ўсмешка. — І татачка яго не выратаваў. Вы не гаварылі гэтай спадарыні, што адзін з яе продкаў, а менавіта бацька згаданага пакутніка Алеся, працаваў у НКУС? І якраз у той час, калі там канаў ад катаванняў мой прадзед.

Арсенія схаладнела і павярнулася да Вячкі... Гэта не можа быць праўдай!

— Ён быў проста ўрачом у турэмнай бальніцы, вы ж ведаеце... — ціха прагаварыў Скрыніч.

— Вы таксама ведаеце, што такое турэмная бальніца трыццаць сёмага года! Працяг катавальні, — гарачыўся гісторык.

— У вас няма доказаў, што доктар Вяжэвіч прымаў удзел у допытах, — запярэчыў Скрыніч. — А можа, наадварот, ён нечым дапамог вашаму прадзеду?

— Ага, дапамог... Магу ўявіць. Вы проста не разумееце... — Корб-Варановіч усхвалявана счапляў-расчапляў пальцы. — Вяжэвічы і мы — гэта...

— Ну чаму ж, разумею, — перабіў Вячка. — Вечныя антаганісты. Глядзець спакойна адзін на аднаго не можаце. Паны і прыслуга. Законныя нашчадкі і бастарды. Каталікі і праваслаўныя. Заходнікі і ўсходнікі. Каты і ахвяры, якія мяняюцца ролямі. Але ў вас, вы самі гэта прызналі, адна кроў. Паглядзіце абое, вам гэта нічога не нагадвае?

Скрыніч дастаў з тэчкі аркуш і паклаў на стол. Ася зацікаўлена схілілася. На пажаўцелай паперы быў намаляваны чорнай тушшу кубак... Каржакаваты, з гравіраванай паляўнічай сцэнай — хорт ляціць за лемпардам між дзівосных дрэў, на фоне вастраверхіх дамкоў і цэрквачак. Выявы грубаватыя, трохі наіўныя, але непаўторна-выразныя, відавочна мясцовага майстра, не вучанага ў італійскіх майстэрнях.

— Пазнаю. Гэты кубак... дакладней, ягоная палова, дасюль захоўваецца ў сям'і Корб-Варановічаў, — ганарыста прамовіў графскі нашчадак.

— У бабулі ў буфеце таксама... — няёмка прамовіла Арсенія.

— Што? — недаўменна перапытаў Даніла Раманавіч. Ася сабралася з духам і прамовіла больш гучна:

— У маёй бабулі ў буфеце стаіць палова такога кубка. Яго некалі вось так, вертыкальна, рассеклі. Ён срэбны, толькі на ім вершнік з мячом, а не гэтая... пантэра.

— Лемпард, — аўтаматычна паправіў Корб-Варановіч. І зараз жа зноў усхадзіўся, як паверхня ракі ад вясла чоўна: — Па-першае, гэта наш фамільны кубак, і я не разумею, чаму яго фрагмент павінен захоўвацца ў сям'і прыслугі. Па-другое, адкуль вы, спадар Скрыніч, пра гэтую рэч даведаліся?

— Са следчай справы Апанаса Іванавіча Корб-Варановіча, — адказаў Скрыніч, і памаранчавыя літары на ягонай майцы чарговы раз нагадалі, што не варта ўчыняць вайны. Гісторыка гэта не супакоіла:

— Выбачайце, але ўсё, што можна было знайсці пра майго прадзеда, я знайшоў, і гэтага аркушыка нідзе не...

— Запэўніваю, вы знайшлі далёка не ўсё, — перабіў Скрыніч. — У мяне, так бы мовіць, свае крыніцы і сувязі... Таму і кажу — вы павінны далучыцца да маіх... нашых далейшых росшукаў.

Маніпулянт Вячка дастаў яшчэ адну пажаўцелую паперку, спісаную ад рукі сінім атрамантам, няроўным, нервовым почыркам:

— Вось, зірніце... Уласна кажучы, з гэтай паперкі і пачалася мая задума рамана. Вы маглі чытаць скарочаную версію следчай справы, перададзеную на захаванне ў агульны архіў органаў. А мяне дапусцілі яшчэ і да такіх-сякіх папер з канфіскаванага архіва Апанаса Іванавіча, якія дужа зацікавілі следчых. Сярод іх — тастамент Алехны Корб-Варановіча, складзены ў час княжэння Жыгімонта Аўгуста. У справе захоўваўся спіс з яго, зроблены вашым прадзедам.

Вячка працягнуў аркуш. Граф прагна схапіў яго і пачаў чытаць, прамаўляючы ўслых:

— Так... Тэкст сапраўды падобны да шаснаццатага стагоддзя... «То ест тестамент остаточное волі моее... Естлі бы пан Бог смерть на мене допустіл рачіл, так водле волі моее хочу меті, а не іначей...» Ну, гэта не вельмі цікава... Абавязковыя формулы... «Тело мое мае быць погребено і похована ведля обычаю, одна прецесея в шесть свечок ляных у Ройно, у царкве святого Іосіпа, прадедом моім паном Іосіпом Вороновічем будованою. А куфар мой поставіць у царкву светого Юры, до магілы прадзеда майго Юры Вороновіча, уваход жа туды тылько пану Богу і старейшым од роду ведомы, дзеля таго, каб было чым справджваць запаведанае». Нічога не разумею... — Корб-Варановіч нават апусціў аркуш з тастаментам. — У шаснаццатым стагоддзі ў Ройне Язэп Варановіч пабудаваў царкву ў гонар свайго нябеснага апекуна святога Язэпа... Яна прастаяла да часоў

Хрушчова. А Юры Варановіч, брат Язэпа, загінуў рана, і пра царкву святога Юрыя ў ваколіцах Ройна я ніколі не чуў. Магілы Корб-Варановічаў усе былі ў царкве святога Язэпа. Праўда, праверыць не магу, калі царкву ўзарвалі, то і сутарэнні вычысцілі ад княскіх парэшткаў... Прырабілі да руінаў дах і бульбу там захоўвалі. — І пачаў чытаць далей. — «Его кролевской мілості, пану моему мілостівому, два кубкі позолотістые с коралевымі рогамі. І два кубкі одностайные роботы нурумбергское между іншымі моімі наболшіе, зверху і знутра позлотістые, а к тому налівка з медніцаю сребраные»... Так, гэта наўрад пра той самы кубак... Ага, вось... «Потомкові моему Андрею, естлі ему пан Бог здоровье рачі дать, все іменье мое стоячое, што навечность маю в местском праве в Городеі, Жеславлі...»

У дзверы кабінета настойліва пагрукалі, ва ўнісон грукату жаласна заверашчаў на стале тэлефон, нібыта нехта наступіў яму на шнур.

— Я заняты! — раўнуў Корб-Варановіч у шчыліну, якая нясмела пачала ўтварацца між дзвярыма і дзвярным касяком. Хтосьці па той бок дзвярэй спалохана вохнуў, шчыліна знікла. Тэлефон працягваў верашчаць, а тут і мабільнік азваўся «Паланэзам Агінскага», але граф нібыта не чуў, працягваючы ўчытвацца:

— А гэта дакладна пра наш кубак: «І полову кубка сребного, малюнкамі прыкрашоного, на особлівое захованіе, дзеля того, што кубок той ад продка нашого пана Іосіпа Вороновіча достаеться, і дорожей перлов і золата і перстней са смарагдамі, бо кроў у ім. І другой половы не шукай, пакуль не надарыцца, што пан Іосіп заповедовал і што я тобе, пане Андрей, оповедывал, як ты сыну свойму старейшому оповедуеш, і кубак на алтар цэлы стане тылько з чатырох рук і з одной крыві. Так же опісую пріятелем своім, пану Янові і пану Юркові Мазынам по сту чірвоных золотых... Барва моя люнская, доломаны, і дылеі, і шапкі — служебніком моім. Рызы моі одомашковые і стыхар, і епітрахею на церков Святого Іосіпа».

Дзверы ізноў рыпнулі...

— Сказаў жа, заняты — прыйду праз дзесяць хвілінаў, — раўнуў у той бок Корб-Варановіч і вярнуўся да тастамента. А ён сапраўдны дыктатар, запалохаў, відаць, падначаленых так, што па адной масніцы перад ім ходзяць.

— Далей згадваюцца яшчэ сябры, прыслуга... Міласэрныя ўчынкі... На сірот, удоваў... Гэта прапусцім... «Слугам нашыім Вяжэвічам надалей і павек лес наш вартоваці, і ані з лесу того з іх нікого не згоняці, і ані нічого з маетносці іх не адбіраці, і веры іх не чапаці, у імя святого Юр'я і волі продкове. Пісан у Ройна, року Божаго нароженья тісяча пятьсот пятьдесят шостого, месяца мая осмого дня».

Граф, узрушаны, як дзіця, якому падарылі замест чаканай машынкі сапраўдны камп'ютар, працягваў разважаць над сакрэтамі тастамента, па-ранейшаму ігнаруючы скаргі тэлефона, да якога далучыўся паланэзам графскі мабільнік. А Арсенія з багавейлівым жахам глядзела на Вячку, страшэнна задаволенага сабой, як цыган, што прадаў за рысака сляпую кабылу. Знайшоў усё-ткі артэфакт для завязкі сюжэта! І прыдбаў яшчэ адну марыянетку. А падрабіць мову дакумента шаснаццатага стагоддзя — яму на раз...

— Не сумнявайцеся, дакумент сапраўдны! У мяне толькі копія. Дам спасылку на піцерскі архіў, які толькі нядаўна рассакрэцілі, — праверыце, — нібыта адчуў сумненні гераіні аўтар.

— І што далей? — змрочна прагаварыла Арсенія. — Будзем на кубку гадаць? Закінутыя скарбы шукаць?

— Беларусы шмат вякоў не могуць адшукаць самі сябе, — загадкава прагаварыў Скрыніч. — Ненавідзяць адно аднаго, зняважаюць адно аднаго, адмаўляюцца адно ад аднаго... Дзе за ўвесь час існавання Вялікага Княства Літоўскага хоць адзін дакумент, напісаны на той мове, якая сёння называецца літоўскай? Усё, усё было — на беларускай... Дакументы, дыпламатычная перапіска, нават лісты Вітаўта і Ягайлы! — Вячка стукнуў кулаком па калене, нібыта з ім нехта тут спрачаўся. — У княстве згодна з перапісам 1528 года восемдзесят адсоткаў шляхты былі беларусы! Ліцвіны! А сёння літоўцы прыязджаюць на экскурсію ў «былыя калоніі» і расказваюць, як іхнія рыцары «агнём і мячом» заваявалі

гэтыя землі... А мы сціпла мэкаем, што і сапраўды, мабыць, па ўласнай гісторыі ля сценачкі хадзілі... Што тыя скарбы! Мяне больш цікавяць людзі. Мяне цікавіць мой апошні раман. Чаму ўзнікла варажнеча між Вяжэвічамі і Корб-Варановічамі, такімі падобнымі між сабою? Пра якую таемную царкву ідзе гаворка ў радавых дакументах? Што мусілі здзейсніць нашчадкі Корб-Варановічаў з гэтым кубкам, чаму ён рассечаны, чаму захоўваецца ў абедзвюх сем'ях? Пакуль трэба сабраць усё, што мы ведаем. Ты, Арсенія, сваякоў параспытваеш, спадар Даніла таксама сямейныя таямніцы страсяне... Пра шаснаццатае стагоддзе наўрад хто памятае. Але нашы бліжэйшыя героі — Апанас Корб-Варановіч і Алесь Вяжэвіч — заслугоўваюць надзвычай пільнай увагі. Пакідаю вам гэтую копію, у мяне яшчэ асобнік ёсць. Вы згодны, спадар Даніла?

Корб-Варановіч падняўся з-за стала і наблізіўся да някліканых гасцей. Парушынкі таньчылі ў сонечным промні, што працягнуўся між ім і Асяй з Вячкам, нібыта прывідны меч. Арсенія скурай адчувала небяспеку, якая сыходзіла ад гэтага волата, ад ягонай магутнай, але падцягнутай, — ані каліва тлушчу, адны цягліцы — паставы... Гэта цяпер у фільмах пра баявыя мастацтвы героі такія сабе шчуплыя ды жвавыя, як шалёныя конікі, а раней вой павінен быў быць вось такі — плячысты, упэўнены, здольны ўзняць двуручны меч і біцца нават са смяротнай ранай... Ён страшны ў гневе, але ж як спакойна і ўтульна — за спінай такога, калі ён цябе абараняе...

Для Асі гэты ваяр быў з варожага войска.

Граф нервовым жэстам адкінуў валасы з упартага лба.

— Калі я адмоўлюся, гэта ж нічога не зменіць? Вы ўсё роўна нешта напішаце, дафантазіруеце... Я ўжо здагадаўся, што прататыпы вашых герояў — не толькі мой дзед, але і я з гэтай спадарыняй. Што ж мне, забіць вас на месцы, каб гэтага пазбегнуць? — на хвілю Арсеніі падалося, што Корб-Варановіч змагаецца з жаданнем здзейсніць сваю прапанову. — Паэтам дадзена асаблівая ўлада. Гэта нават Аўгуст Актавіян усвядоміў, хоць і саслаў Авідыя мерзнуць у Адэсу. Не сумняюся, у вас атрымаецца чарговы выдатны раман.

І мне і маім магчымым нашчадкам далей з гэтым жыць. Што ж... — гісторык тужліва ўздыхнуў. — Зараз я дужа заняты. Рыхтуем зборнік дакументаў да юбілею інстытута. А вось у пятніцу, гадзіны ў тры, пастараюся вызваліцца і нешта падсабраць па тэме. Прыходзьце сюды, а вы... спадарыня Вяжэвіч, не забудзьцеся прыхапіць вашу палову майго кубка.

Вядома, слова «майго» было вымаўлена з адмысловым націскам.

Калі яны выходзілі з Шэрага Гмаху, Ася папыталася Вячку:

— Слухай, а гэта праўда, што ён сказаў пра майго продка з НКУС?

Вячка падумаў, пакорпаўся ў тэчцы і дастаў адтуль тры аркушы, з самага пачатку рукапісу. Потым дадаў яшчэ некалькі з канца.

— Вось, пачытай... Гэта самы пачатак рамана, пралог, а гэта — чацвёрты раздзел. Вядома, толькі рэканструкцыя плюс фантазія.

...Лісцё каштанаў памірае вельмі непрыгожа. Яно скручваецца, згінаецца, як пальцы муміі, робіцца ржава-брунатным і падае цяжка, з панылым шоргатам, без спробаў узляцець, затрымаць падзенне. Ася назнарок наступала на скурчаныя лісты каштанаў, якія расціскаліся пад нагой, як вусені. На працу вяртацца бессэнсоўна — праз гадзіну канец працоўнага дня, дый адна думка пра Шэрую Будыніну выклікала агіду і камяк страху пад горлам. Як у школьніка пры думцы пра заўтрашнюю кантрольную. Хаця Скрыніч паабяцаў пагаварыць з яе начальнікам, выявілася, прыхільнікам ягоных раманаў, і замяць ейны сённяшні прагул, але Ася не была пэўная, што любоў да фэнтэзійна-авантурных раманаў на мове здольная пераважыць сокал-прынтаўскую зацыкленасць на дысцыпліне. Рэдактарка брыла па вуліцы, стараючыся не сутыкацца з мінакамі, якія спяшаліся, спяшаліся, спяшаліся. Яна пазірала час ад часу на свае пярсцёнкі з рознакаляровымі каменьчыкамі. Яшма, сердалік, змеявік, кашэчае вока... І як ніколі адчувала сувязь з імі: таксама — паўкроўкі, паўвысакародныя... Але Ася не мела і найменшага жадання мяняць іх, надзейных, сціпла-прыгожых, на бліскучыя і дарагія. Які ж гэты... Корб-Варановіч... нягоднік.

На чысціні крыві ссунуты. Рыцар, разумееш! А не выключана, што якісь ягоны прадзед-граф ейную прабабулю, простую дзяўчыну, жорстка згвалціў! Таксама, відаць, здаровы быў, як конь... А гэты, нашчадак, сядзіць, важны, як манарх, паперкі перабірае — з такімі плячыма... Няхай бы мяхі з бульбай пацягаў ці гной параскідваў, раз сілы падзець няма куды!

Арсенія зласліва ўявіла, як Корб-Варановіч у ватоўцы і дзіравых нагавіцах шчыруе віламі, а на твары ў яго грэблівая няшчасная міна... І аж заўсміхалася.

А калі на часопісным століку Асінай Кватэры апынулася філіжанка гарбаты з бергамотам, Ася змусіла сябе дастаць з сумкі Вячкавы аркушы. І пачала чытаць з пачуццём нядбайнай гаспадыні, якая адчыняе накрыўку забытага месяц назад пад сталом рондаля з супам.

«Ён ведаў, што іншай працы ў яго ўжо ніколі не будзе. Занадта шмат бачыў і чуў за апошнія гады. Такі, як ён, можа толькі памяняцца лёсам з кімсьці з тых, каго лячыў у турэмнай бальніцы...»

## Раздзел 5.
## ВЕЖА ГРЫФОНАЎ І ГЕНЕРАЛ-МАЛЯР

Двор быў вузкі і гулкі, нібы калодзеж. У промнях нізкага сонца, якое, здавалася, ляжала проста на высокім даху аднаго з дамоў, сцены, фарбаваныя ў колер паранага малака, свяціліся самі па сабе, а вокны чарнелі, як студні... На гэтым фоне цагляная вежа, цёмная, магутная, змрочная, вышынёй у тры паверхі, выглядала як пракаветны цмок, што скамянеў у чаканні забойцы ў бліскучых латах. А яшчэ вежа нагадвала трубу, і, хутчэй за ўсё, ёю і была, і страшна ўявіць, якая пад ёю магла зеўраць печка. Падабенства з трубою падкрэслівалі два жалезныя абручы, якія абхаплівалі волатаў стан.

У двары, як вада ў калодзежы, стаяла цішыня, разбаўленая таямнічым шамаценнем — на гарышчах дамоў, ды і ў самой, відаць, вежы сяліліся галубы, і час ад часу ўніз, нібыта проста з неба, зляталі пёркі. Дастаткова, каб прасякнуцца містычным трымценнем... Але камсамольцы, вядома, не маглі паддацца гатычнай містыцы.

— Вось яна, вежа грыфонаў! — ціха прамовіў Алесь. — Таварыш Павал не падмануў... Як толькі пачуў, што нам на Сёмую лінію Васільеўскага вострава, дом шаснаццаць, адразу ўзрадаваўся. Вось шанец убачыць унікальны помнік старога Санкт-Пецярбурга!

— І што тут унікальнага? — прабурчэў Хведар П'янкоў, зусім здарожаны, так што ягоны вастраваты нос, падобны да стрэлкі компаса, паказваў усё больш не наперад, а на піцерскую, а цяпер ужо ленінградскую, брукаванку. — Проста вялікая цагляная труба.

— Таварыш Павал расказваў, што вежу пабудаваў у васямнаццатым стагоддзі аптэкар Вільгельм Пель. Знакаміты фармацэўт... Ён, між іншым, прадаваў імператарскаму двару адмысловыя лекі «Спермін-Пель», ад старэння і нямогласці... Рабіў ён гэты спермін... — Алесь вінавата зірнуў на Вераніку, за плячом якой зазззяла здагадлівай ухмылкай фізіяномія Аўтуха, — не скажу, з чаго. Але «пастаўшчыкамі сыравіны» былі парсючкі і... кашалоты. А сын Вільгельма вынайшаў медыцынскую ампулу... Да яго ў госці прыходзіў Мендзялееў. У гэтым вось доме была аптэка і лабараторыя. Старэйшы Пель захапляўся алхіміяй, а ў гэтай вежы разводзіў грыфонаў.

— Падобных да арлоў? — прашаптала Вераніка Манцэвіч, на якую, відочна, усё-ткі паўплываў гатычны антураж.

— Яны напалову арлы, напалову львы, — патлумачыў Алесь, усё гэтак жа не павышаючы голасу. — Галава і дзюба арла, крылы... Астатняе львінае. У старажытнасці верылі, што грыфоны водзяцца ў Скіфіі. Ахоўваюць багацці. А замест яек нясуць каштоўныя камяні — агаты. Скіфы нават паказвалі прыхадням вялізныя косткі, якія нібыта належалі грыфонам — каб адпудзіць ад сваіх скарбаў.

— Паўсюль цемрашальства, паўсюль багацеі людзей дурылі, — змрочна зазначыў Аўтух Папара, адзіны з кампаніі апрануты ў сапраўдную вайсковую форму — гімнасцёрка, падпяразаная пасам з начышчанай спражкай, галіфэ, боты... Меў права — чырвонаармеец у запасе, і каб не намагаўся з усіх сілаў здавацца старэйшым, чым насамрэч, выглядаў бы нават пры ягоным дзіцячым круглым тварыку з рэдкімі

светлымі вусікамі цалкам салідна. — Навошта твайму Пелю былі грыфоны?

Зверху павольна пралунала-зляцела шэрае пёрка. Вераніка нават спалохана адсунулася, каб яно не кранулася яе. Алесь павагаўся, ці варта выяўляць далей абсалютова непатрэбныя камсамольцу веды, атрыманыя ў бацькавай хатняй бібліятэцы, у якой было поўна літаратуры па гісторыі медыцыны яшчэ дарэвалюцыйных часоў:

— Алхімія ставіла за мэту здабыць філасофскі камень, які дае несмяротнасць і веды. Гэта быў вельмі складаны працэс, і на нейкім этапе са звычайных металаў у ім утваралася золата. Ну, дакладней, цёмныя людзі верылі, што яно павінна ўтварацца. Залаты грыфон і ўвасабляў гэтае золата. Таму і распавядаюць байкі, што грыфоны выляталі з вежы. Пель, ясная справа, нешта там плавіў-пераганяў, з трубы вылятаў дым... А забабонныя людзі бачылі ў ім міфічных істотаў. Дый цяпер... Кажуць, апоўначы з вежы вылятаюць нябачныя грыфоны, і толькі адлюстраванні іх можна пабачыць у шыбах гэтых дамоў.

Вераніка аж перасмыкнула плячыма ў тонкай сіняй кофтачцы, нібыта змерзла, — здавалася, двор паглядаў на гасцей дзясяткамі таямнічых вачэй, і ад гэтага холад ішоў па скуры.

— Вось пра што табе распавядаў таварыш Гукайла, калі ты хадзіў да яго ў інстытут кінематаграфіі, — асуджальна прамовіў Аўтух. — Сярэднявечныя байкі распаўсюджвае. Несалідна для камуніста і прадаўжальніка справы Маякоўскага! Нічога я ў гэтай старой развалюсе асаблівага не бачу. Толькі выгляд двара псуе. Пафарбаваць ды аддаць піянерам пад які авіямадэльны гурток. Я б лепей яшчэ раз на Смольны паглядзеў, на «Аўрору»!

— Правільна! — падтрымаў Аўтуха Хведар, рассякаючы паветра рукой, нібыта яно было вінаватае. — Чаго сюды прыцягнуліся? Два дні тупаем па Ленінградзе. Усё, што трэба, сабралі, партрэт ворага савецкай улады Корб-Варановіча ўсімі фарбамі ззяе. Чаго яшчэ? Нашто нам ягоная жонка, белагвардзейскае адроддзе? Запэўніваю — будзе выгароджваць мужанька ды лгаць.

Алесь упарта пакруціў галавой.

— Мы павінны сабраць усё, што можна! Гэта не варта савецкага чалавека — кідаць справу таму, што стаміліся. Урэшце, у спісе для апытання, які ты, Хведар, склаў, не было ніводнага сапраўды блізкага Корб-Вaraновічу чалавека. Адзін дацэнт увогуле ўвесь час збіваўся на тое, што ён не менш таленавіты за Варановіча, ды згадваў, што калі яны з ім у аспірантуры вучыліся, Корб-Варановіча ўсе хвалілі незаслужана, а яго, небараку, не заўважалі. Калі чалавека жаба душыць, яна яму на лоб таксама кляйно ставіць.

— Ты што, сумняваешся, што сведкі гаварылі праўду? — з ледзь заўважнай пагрозай азваўся Хведар. — Ці захацелася даведацца пра светлы бок нашага... героя?

Вераніка асуджальна паглядзела на Хведара.

— Ну што ты чапляешся! Урэшце, можаш пачакаць на двары. Калі ўжо прыйшлі сюды, дык трэба даводзіць да канца. А то грыфоны задзяруць. Чаго нам баяцца? Мы з гэтай Варановічавай пані пальчаткі зараз паздзіраем!

Дзяўчына засмяялася, перакінула залатую касу з плечука на плячук... У трох спадарожнікаў мімаволі перахапіла дыханне. Якія пасля гэтага аргумента ў праўдзівага хлапца могуць быць пярэчанні?

У пад’ездзе невыносна смярдзела смажаным селядцом, катамі, квашанай капустай... Увогуле, не атрымлівалася дакладна вылучыць асобныя партыі ў гэтай сімфоніі смуроду. За аднымі дзвярыма пакутліва аганізаваў гармонік. Кватэра нумар шэсць знаходзілася на трэцім паверсе. Прозвішчы жыльцоў на заквэцаным аркушыку ля дзвярэй — адны дапісаныя, другія выкрасленыя — значыліся густа, як прусакі на нямытай патэльні, прачытаць немагчыма, каму колькі разоў належала званіць. Тым больш званок не працаваў. Алесь рашуча пастукаў, яшчэ раз, і яшчэ, але не з’явілася нават прывіду аптэкара Пеля. Хаця ў кватэры дакладна нехта быў — жаночы голас прамаўляў нешта няўхвальнае, бразгалі тазікі... Аўтух з усяе моцы штурхануў цяжкія дзверы са шнарамі ад сякеры, і яны раптам расчыніліся. Цяпер да смуроду на лесвіцы дадаўся цёплы пах прыгарэлага цеста з кватэры. А паесці было б нядрэнна...

Алесь адагнаў няпрошаныя гастранамічныя думкі.

— Ёсць тут хто?

Кватэра як відаць нагадвала мурашнік, завешаны цынкавымі тазікамі, кожны катух тут быў прыстасаваны да жылля. З аднаго з адсекаў вызірнула кабета ў шэрай кофце з падкасанымі рукавамі і сіняй паркалёвай спадніцы, з неахайным сівым вузлом на галаве, падобная да булачніцы, у якой дзятва толькі што пакрала ўсе булкі. Пантофлі на ейных нагах нагадвалі двух раздушаных трамваем пацукоў.

— Чаго трэба?

— Тут жыве грамадзянка Марына Паўлаўна Корб-Варановіч?

Нават касцяныя гузікі на кофце кабеты заззялі зласлівай радасцю.

— Нарэшце! Дайшло да жылкама, што тут прапісаны шкодны элемент, які перашкаджае жыць пралетарыяту.

— Ты ўжо пралетарыят, Марфа! — азваўся з глыбіні пакоя, з якога вызірнула кабета, насмешны мужчынскі голас з п’янаватай хрыпатцой. — Ці даўно семкі на Віцебскім вакзале прадавала? Не слухайце яе, грамадзяне начальнікі, Марынка добрая баба. І сынок яе харошы. Ціхія, спагадныя...

— Маўчы, боўдзіла! А то за сваёй Марынкай зараз у кантору пойдзеш! — лена гукнула кабета ўглыб пакоя і зноў утаропілася ў Аўтуха, чыя вайсковая форма, безумоўна, была для яе гарантыяй навядзення парадку ў кватэры і надзеяй адхапіць пару лішніх метраў за кошт выселенай «контры». — Там яны жывуць, элементы, па правы бок калідора, апошнія дзверы. Дома яна, нават калі не адчыніць. Вы, таварыш начальнік, разбярыцеся, з чаго гэта нейкая пані будзе пакой займаць, які пралетарыяту належаць павінен! Да яе ўвесь час муж-буржуй прыязджае, у акулярах і капелюху. Прадукты чамаданамі возіць! Мальцу свайму веласіпед купіў. За якія грошы? Яна нават хрысціцца — сама бачыла! А я свядомая, я ў Бога не веру! Чуеце, людзі, зараз Марынку высяляць будуць!

Апошнія словы цётка крычала ўжо за спінамі студэнцкай дэлегацыі.

Напэўна, тыя крыкі было добра чуваць і ў апошнім пакоі справа па калідоры. Таму што дзверы яго адчыніліся, варта было Алесю адзін раз нягучна стукнуць.

Худзенькая жанчына з укладзенымі на галаве русявымі косамі, у штапельнай сукеначцы ў дробныя брунатна-бэжавыя кветкі з бялюткім каўняром з усіх сілаў намагалася захоўваць спакой і выглядаць годна. Але тонкая яе рука, што трымалася за сцяну, дробна дрыжэла. Гэта было вельмі непрыемна назіраць, і Алесь перавёў вочы на твар з далікатнымі нервовымі рысамі.

— Вы Марына Корб-ВАрановіч? Мы з Беларусі, з Менска. Студэнты ўніверсітэта.

У вялікіх блакітных вачах, абкружаных тонкай сеткай зморшчын, палыхнуўся жах.

— Што... што з Апанасам?

— Ды нічога з ім не здарылася, не хвалюйцеся вы так, — гэта прамовіла Вераніка, якая чамусьці страціла ваяўнічы запал.

— Мы проста хочам спытаць тое-сёе, — Аўтух Папара, які лічыў сябе чалавекам бывалым, адагнаў няёмкасць, як класавага ворага. — Можа, мы зойдзем? У вас тут шумна, на калідоры...

Жанчына неахвотна зрабіла запрашальны жэст, і студэнты ўваліліся ў пакой, у якім адразу стала невыносна цесна. Алесь з цікаўнасцю агледзеўся. Абстаноўка была спартанская. Шафа, два жалезныя ложкі з худымі коўдрамі, два старыя крэслы, стол, накрыты вязаным карункавым абрусам, на ім парцалянавыя кубкі. Хіба што магло палічыцца раскошай — кнігі на паліцах, збольшага энцыклапедыі ды слоўнікі, і чорнае піяніна, уціснутае ў кут ля дзвярэй, як збяднелы родзіч. Ніводнай фотакарткі, ніводнага партрэта. Алесь падумаў, што гэта падазрона. За акном бачна асветленая сонцам верхняя частка вежы грыфонаў.

— Што вы хацелі ў мяне спытаць? — Марына Паўлаўна Корб-ВАрановіч стаяла на фоне акна, таненькая, спалоханая, упартая... Алесь, які так ірваўся сюды, разгубіўся, не ведаючы, з чаго пачаць — не пачнеш жа «я ненавіджу вашага мужа, ён велікарускі шавініст»... І зноў праявіўся Аўтух.

— А чаму вы зноў да Апанаса Іванавіча ў Менск не пераедзеце?

Жанчына не зварухнулася.

— Яму там і без нас цяжка. А ў мяне тут цікавая праца. Я касцюмер у тэатры Ленсавета.

— А ў якасці каго ваш муж у Лаўрына Карыбутовіча служыў? — гэта ляпнуў Хведар П'янкоў, ды яшчэ такім здзекліва-ўладным тонам, што Алеся перасмыкнула. Калі гэта Хведар-вятрак навучыўся так прамаўляць? Гаспадыня ганарліва закінула галаву, Алесь падумаў, так робяць, каб не праліліся няпрошаныя слёзы.

— Колькі можна... Я ўсё шмат разоў распавядала вашым калегам яшчэ ў Менску. Усё сто разоў імі ж праверана. Так, мой стрыечны брат Паўлюк у 1918-м патрапіў у атрад Карыбутовіча «Ваўкалакі», але ў тым жа годзе і загінуў. Яму было ўсяго сямнаццаць. Мы не мелі з ім аніякай сувязі. Ні я, ні тым болей мой муж. Апанас Іванавіч увогуле тады быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію, на пасаду ўпаўнаважанага па рэквізіцыі фуражу. А я ў 1918-м нарадзіла, у маці ў Клецку, роды былі цяжкія, Паўлік з'явіўся на свет вельмі слабенькі... Так што, самі разумееце, нам было не да ўдзелу ў контррэвалюцыі.

Жонка дацэнта гаварыла дастаткова цвёрда, з ледзь прыхаваным гневам. Што ж, цяпер зразумела, чаму Корб-Варановіч не вязе сваячку белагвардзейца ў Менск. Алесь намагаўся прымусіць сябе ўзненавідзець і яе, як ейнага мужа. Але тонкія рукі, якія абсіверала, відаць, ад халоднай вады, і такая кранальна ганарлівая пастава, сукеначка з таннага штапелю і стамлёны блакіт вачэй, абкружаных зморшчынкамі, нічога агульнага не мелі з вобразам ворага. Вось слінцяй, аблаяў сябе Алесь і азірнуўся на Вераніку, якая стаяла, падціснуўшы вусны, у самых дзвярах і ўпарта маўчала. А яшчэ збіралася «пальчаткі здзіраць».

— А дома Апанас Іванавіч калі-небудзь размаўляў па-беларуску? — гэта Аўтух вымудрыўся. Трэба ж, якое хітрае пытанне... Гэта не пугаю па вадзе — нешта з'ясуецца. П'янкоў вунь як вушы натапырыў, быццам збіраецца імі матылёў лавіць.

— Апанас Іванавіч выдатна валодае дзесяццю мовамі, — холадна адказала Марына Паўлаўна. — Роднай мовай ён лічыць беларускую. І, вядома, ён размаўляў і на ёй. Як

і на рускай. Што ў гэтым злачыннага? — і раптам маска абыякавасці зноў зляцела з яе. — Усё жыццё цкуюць чалавека! За што? — жанчына дастала з шуфлядкі стала тэчку, развязала тасёмкі. У тэчцы захоўвалася некалькі газетных выразак і спісаныя ад рукі аркушы.

— Гэта яшчэ дарэвалюцыйнае... «Студент из Западных губерний Корб-Воронович проявил возмутительную приверженность к не заслуживающим доверия теориям профессора Евфимия Карского. И более того, в своей работе, представленной на соискание места в аспирантуре при кафедре языковедения, пошел еще дальше своего учителя, утверждая, что белоруссины — не исконная часть русской народности, и их диалект должен не ассимилироваться, но, наоборот, фиксировать и усугублять свои отличия от общеупотребительного русского языка. Мы, группа студентов филологического факультета, истинных патриотов великой России, требуем исключения из университета господина полячишки Корб-Вороновича». Вы ведаеце, што пасля гэтага ліста Апанасу давялося пайсці на фронт?

Марына Паўлаўна брала ў рукі аркуш за аркушыкам:

— «Вредоносные идеи сепаратистского кружка прозападных настроений... Среди участников выделяется студент Афанасий Корб-Воронович, считающий себя «белорусом» и говорящий об угнетении в российском государстве национальностей». «Мы вас, жидомасонов, насквозь видим, и происки ваши против великого русского народа будем сурово наказывать». Гэта ананімны ліст, падкінулі ў пошту.

Марына Паўлаўна сабрала паперкі ў тэчку. Алесь зразумеў — захоўвае ў спадзеве выдаць Корб-Варановіча за ахвяру царскага рэжыму. А жанчына горка прагаварыла:

— Ён адпакутаваў тут за сваю беларушчыну напоўніцу. Цяпер вы мучаеце яго там. Чым ён гэта заслужыў? І чаму вы, ягоныя землякі, хочаце яго смерці?

Алесь апусціў вочы. Ён ніколі не думаў, што станецца з Корб-Варановічам, калі яны дамогуцца свайго. Хацелася толькі, каб ненавісны прафесар перастаў у іх выкладаць і ўвогуле куды-небудзь знік... А ён жа можа знікнуць і

на Салаўкі, ці... Вось жа — стаіць сталая жанчына, якая ўжо сівее, у сваім уласным пакойчыку. Перад ёю чацвёра смаркачоў, і яна не можа іх вытурыць. Гэта яны нібыта маюць уладу зрабіць з ёю ўсё, што заманецца...

Недзе прабіў гадзіннік: адзін, два, тры, чатыры...

— А вы можаце даць нам гэтыя дакументы? — Хведар прагна цягнуў руку да тэчкі, але Марына Паўлаўна схавала яе ў стол.

— Вазьміце ордар наператрус і забірайце ўсё.

— Так ужо і ўсё? Ёсць такія таемныя месцы... Сховішчы... Падземныя, напрыклад... Дзе цэлая банда схавацца можа.

Алесь так і не зразумеў, ці Хведар ведаў, на што намякае, ці атрымалася выпадкова, але гаспадыня пакойчыка зноў збялела і затрэслася, як быльнёг на вятры.

— Магу толькі паўтарыць — я не ведаю нічога пра белагвардзейскае сховішча ў падпольнай царкве! Не бачыла я ў Ройна ніякай другой царквы, акрым той, што ўжо рэквізавалі пад зерня469 сховішча. І Апанас не бачыў. Гэта мясцовы міф, казка, легенда, якім ужо некалькі стагоддзяў. Апанас проста запісаў ад якогась стагадовага дзеда, змясціў у свой зборнік... Такія легенды маюцца ў кожным фальклоры — праклятыя храмы на дне возера ці пад курганам. Гэта ўсё роўна, што патрабаваць дакладны адрас пячоры, дзе сядзіць цмок.

— Добры дзень! — хлапечы голас прагучэў за спінамі дэлегацыі. Госці расступіліся, прапускаючы ў пакой бялявага хлопчыка гадоў адзінаццаці, у белай кашульцы з піянерскім гальштукам. Ён быў вельмі падобны да маці. Вялікія блакітныя вочы, тонкія вусны... Хіба ўпарты высокі лоб — як у Корб-Варановіча... Ды і ў Алеся Вяжэвіча.

Хлопчык стаў побач з маці, у адной руцэ ён трымаў парусінавы партфель, а другую вельмі па-даросламу, нібыта абараняючы, паклаў Марыне Паўлаўне на плячук. Гаспадыня паглядзела на сына, і твар яе прасвятлеў пяшчотай і гонарам. Калі яна перавяла позірк на прыхадняў, яны адчулі, што ў іх ахвяры з’явілася моц.

— Спадзяюся, адказала на ўсе вашыя пытанні. А цяпер папрашу пакінуць нас. Паўліку трэба займацца.

У двары па-ранейшаму было ціха і бязлюдна, хаця з суседніх вуліц даносіліся грукатанне ламавых рамізнікаў, крыкі тачыльшчыкаў, малочнікаў, старызнікаў ды верашчанне дзятвы. А тут з вежы грыфонаў вызіралі нябачныя пачвары. Алесь нібыта заўважаў іх жоўтыя вочы-агеньчыкі ў чорных прагалах пад дахам вежы.

Вераніка, якая ўвесь час візіту маўчала, прамовіла ціха:

— Не варта было заходзіць. Толькі... зблытала яна мне ўсё.

— Ну чаму ж не варта? — маленькі твар Аўтуха скрывіўся ад зласлівай радасці. — Белякоў трэба прыціскаць да пазногця, не шкадуючы. Я ўжо нагледзеўся, калі мы белабандытаў на Случчыне ганялі... — Аўтух чамусьці азірнуўся, нібыта баяўся, што на яго зараз наляцяць залатыя грыфоны ці тыя белабандыты. — Здараецца, такая кабета плача і плача, і такая ўжо няшчасная, і такая бяскрыўдная — папхні-павалюся... А яе мужык у гэты час затаіўся на гарышчы і стрэльбу на нас навёў... І толькі і чакае, каб мы зручна павярнуліся, каб усіх перастраляць, як зайцоў. І дамачка пра гэта цудоўна ведае, таму і захліпаецца, як паламаная катрынка.

— Ну навошта вы так, — спахмурнела Вераніка. — Што яны могуць нам зрабіць, гэтая Марына Паўлаўна і яе сын? Толькі — паплакацца...

— Вось бачыш, ты паддалася ўплыву ворага! — зласліва ўзрадаваўся Аўтух. — Гэта вельмі лёгка. Вунь як Міхась Зарэцкі — якім здаваўся нашым, чырвонаармеец, талент! А цяпер — калі ласка. Паслугач фашыстаў! Аднойчы звярнуў са сцежкі...

— Чакай, Аўтух, — не пагадзіўся Алесь, — з Зарэцкім — дакладна памылка выйшла. Як там яго назвалі ў «Рабочым» — «взбесившийся мелкий буржуа»? Ды хіба так можна! Ну, памыліўся таленавіты пісьменнік, але ж ён у рэвалюцыю верыць! У Беларусь!

— Веру ў рэвалюцыю трэба кожны дзень абнаўляць! — пафасна, як і ўсё, што ён пісаў, вымавіў Папара, і Алесю раптам зрабілася неяк непамысна. І страшна... Ці сам ён, Алесь, не памыліцца аднойчы? Ці... Вераніка? Непрадказальная, гарэзная Вераніка, дачка чыгуначніка, якая любіць бегаць па

рэйках і збіраць жаўтацвет на адхонах, чытае Жуля Верна і ведае на памяць «Дванаццаць» Блока? Што, калі аднойчы і Вераніку выкрыюць, як «абмыліўшуюся»? Ці зможа Алесь адмовіцца ад яе вось так, як зараз павінен адмовіцца ад Міхася Зарэцкага, чые творы яшчэ нядаўна былі для яго ўзорам сапраўднай літаратуры? Алесь успомніў газетную справаздачу пра сход партыйных ячэек... Міхась Чарот, паэт, якога Алесь таксама любіў, заявіў: «Безнадзейна нянькацца з Зарэцкім, і далейшае быццё яго, кулацка-шавіністычнага элемента, у нашых шэрагах немагчымае». Колас абмыляўся... Сам Купала... Дый Паўлюк Гукайла, футурыст і крытык, бясстрашны падпольшчык, які перабег з паняволенай Заходняй Беларусі, гарачы, але гранічна шчыры, нездарма з Менска з'ехаў у Ленінград... Алесь чуў, што таварыша Паўла ледзь не арыштавалі. А вось Корб-Варановічу — як расою ўмыўся.

Вяжэвіч азірнуўся на Вераніку. Яна ішла апошняй, разглядаючы высокія каменныя дамы з калонамі, балконамі і ляпнінай. Зверху то шчэрыліся мармуровыя львіныя пашчы, то пазіралі сляпымі вачыма барадатыя каменныя галовы, і раптам Алесю падалося, што Вераніка не ў сіняй паркалёвай кофтачцы і кароткай шэрай спадніцы, а ў панскай сукенцы з гарсэтам, і вузкі шлейф цягнецца за ёй па брукаванцы, як захоплены позірк мінака... А замест чырвонай хустачкі на залатых валасах — гарэзны капялюшык з пухнатым пёркам невядомай птушкі... Як добра, што яна ўсё-ткі не паддалася адгаворам П'янкова і паехала з імі!

И веют древними поверьями
Её упругие шелка...

Алеся працяў сорам, нібыта нехта мог прачытаць ягоныя думкі... Яшчэ б Надсана згадаў, цюхцяй... Усё гэта — буржуазная адрыжка, плакальшчыкі... Таварыш Фадзееў у часопісе «На литературном посту» дакладна напісаў, што перадавы мастак пралетарыяту пойдзе не па лініі рамантыкі.

Чаму ж гэта так прыгожа?

Яны выйшлі на Універсітэцкую ўзбярэжную. Сонца, рэдкае ў Піцеры, чамусьці гэтыя два дні вырашыла суправа-

джаць беларускіх гасцей, нібыта верны сармацкаму звычаю шляхціц. Цяпер яно апусцілася нізка над шпілямі палацаў па той бок Нявы. Піцер... Перламутравыя, серабрыстыя, металёвыя адценні — холад і высакароднасць, — як срэбнае блюда з раскладзенымі на ім ракавінкамі і марскімі каменьчыкамі... Алесь адчуў, як у ягоную камсамольскую душу ўпаўзае захапленне і трывожная любоў да гэтага горада... Да ягоных балоцістых нетраў і каменных берагоў... І як горка, што ў каханым Менску няма нічога падобнага да гэтых неверагодных палацаў і сабораў... Як здорава, напэўна, жыць тут! Але ўспомніўся ідэалагічна няправільны верш Язэпа Пушчы «Ліст да сабакі», напісаны некалькі гадоў таму ў Ленінградзе:

...У сталіцы не дазволяць жыць табе,
Адзет ня будзеш ты ў парадны кіцель,
Ня будзеш мець заслугі-мэдаля,
Зьбягуцца і абступяць цябе гіцлі,
І будзе шмат іх, дзе ні стань, ні глянь.
Жыві, жыві, знаць, дома лепей...

Хведар між тым паспеў адбегчыся да гандляркі піражкамі, і цяпер уся чацвёрка ішла, занятая немудрагелістай студэнцкай вячэрай. НЭП скончыўся разам са стракатым і гаманлівым светам лавачак, закусачных і карабейнікаў, і гандлярка піражкамі цяпер стаяла за жалезнай скрынкай на колах з акуратным надпісам: «Ленторг». І піражкі ў яе былі па фіксаванай цане, спечаныя ў дзяржаўнай фабрыцы-кухні і толькі аднаго гатунку.

— А пра якое сховішча ты пытаўся, Хведар? Што за падземная царква? — пацікавілася Вераніка.

— Ды ёсць такая чутка... — ахвотна патлумачыў Хведар. — У зборніку беларускіх паданняў Корб-Варановіч змясціў казку пра падземную царкву ў Ройне. А мясцовыя камбедчыкі распавялі, што гэта, магчыма, замаскаваныя звесткі пра бандыцкае логвішча... Там жа дасюль белабандыты арудуюць недабітыя! І ніяк не зловіш, нібыта пад зямлю хаваюцца. Ты ж, Алесь, таксама з Ройна родам, можа, чуў што пра сутарэнні, таемныя цэрквы?

— Ды адкуль? — паціснуў плячыма Алесь, дажоўваючы піражок, які так хутка скончыўся. — Я ў тым Ройне два разы ў жыцці быў... Апошні раз на бабуліным пахаванні. Хіба што бацька ведае? Хаця і ён з таго мястэчка ў шаснаццаць гадоў як з'ехаў, так і... А як бабуля памерла, у нашай леснічоўцы зусім чужыя людзі пасяліліся, па разнарадцы з райкама.

— А ты спытай бацьку, як вернешся, — параіў П'янкоў. — Не забудзься толькі!

— Спытаю... Спытаю... Калі з ім гаварыць можна будзе...

Цікава, ці перастаў бацька набірацца, як Марцін мыла? Добра, хоць матулі ніколі не чапае... Але столькі піць — і Галілей урэшце зробіцца дурны, як кавальскія гарны. А ён жа доктар! Ад яго жыцці залежаць!

— Кто шагает дружно в ряд? — піянеры на чале з бледнатварай па-піцерску дзяўчынай-важатай ішлі насустрач бадзёрымі шэрагамі. Алесь не адразу зразумеў, што за такое вялікае, брунатна-чорнае, яны валакуць — здавалася неверагодным, што дзеці здатныя несці такую гаргару. Калі атрад наблізіўся, выявілася, што гэта — вялізная фігура з пап'е-машэ, якая мусіла ўвасабляць, напэўна, сусветны імперыялізм ці канкрэтна лорда Керзона: таўстун у чорным фраку і цыліндры пагойдваўся круглым жыватом уверх на руках піянераў, нібыта ўпаляваны дзівосны звер. Відаць, да агітспектакля рыхтуюцца.

— Мы на горе всем буржуям мировой пожар раздуем! Левой! Левой! Левой!

Вось каго трэба слухаць, а не Блока! Уладзіміра Маякоўскага, якога пераймае таварыш Павал Гукайла. Таварыш Маякоўскі ўжо дакладна не дапусціў бы сентыментальнасцяў і слабасцяў і не засіліўся б, як Сяргей Ясенін, ад чыёй паэзіі камсамольцу таксама трэба адрачыся...

Студэнты прыціснуліся да парапета, па той бок якога жыла сваім халодным бурлівым жыццём Нява, і прапусцілі чырвоную змену.

— Больш ніхто тут не ходзіць! Ніякіх піянераў! Здымаецца рэвалюцыйнае кіно! — даляцеў аднекуль спераду камандзірскі голас, узмоцнены рупарам. Алесь страпянуўся:

— Таварыш Гукайла! Пайшлі да яго хутчэй! Трэба ж развітацца!

І пабег туды, адкуль чуўся голас і дзе тоўпіліся людзі.

Кінакамера прымасцілася ля самага парапета, там, дзе пачыналіся прыступкі да вады. Унізе, на краі пірса, стаяў матрос у парванай на грудзях і заляпанай чырвонымі плямамі марынарцы, са звязанымі за спінай рукамі. Выгляд у яго быў такі, нібыта ён зараз парве зубамі любога, хто наблізіцца, і кроў абліжа. Насупраць матроса, ля другога краю пірса, паныла стуліўся белагвардзейскі генерал (калі верыць бліскучым пагонам), худаваты, з абвіслымі сівачорнымі вусамі. Генерал непамысна тузаўся ад няўхвальных воклічаў з цікаўнага натоўпу на свой адрас, ягоны вузкі лоб пакутліва моршчыўся. Каля кінакамеры размахваў рукамі, у адной з якіх была жалезная варонка рупара, каржакаваты чалавек, яшчэ досыць малады, але страшэнна важны: на ім быў расшпілены часучовы пінжак, з-пад якога бачылася бялюткая кашуля з вышываным гальштукам, дыхтоўныя адпрасаваныя нагавіцы, бліскучыя чаравікі з гамашамі... Русую шавялюру прыціскаў капялюш з шырокімі брыламі, а дазволіць сабе насіць буржуазны ўбор, калі нават былыя графы перайшлі на кяпуркі і цюбецейкі, мог не кожны таварыш.

— Ну што ты сагнуўся, як пусты стручок! Ты ж генерал! Арыстакрат! Плечы разгарні, падбароддзе ўгару, і ненавідзь, ненавідзь гэтага матроса! — крычаў начальственны чалавек на адрас генерала.

— Я ж не артыст, таварыш Гукайла! І не арыстакрат! Я маляр! — жаласна прагаварыў белагвардзеец тонкім, амаль бабскім, голасам. — Дайце мне другую ролю!

— Па-першае, гэта дэзерцірства, таварыш Гаўрылаў! Вы выконваеце важную для камуністычнай агітацыі ролю. Па-другое, у рэвалюцыйных фільмах павінны здымацца не недабітыя буржуі, а пралетарыі. А па-трэцяе... Няма чаго траціць час! За працу! Падайце яму сцяг!

Асістэнт, жвавы хлопец з саламянымі валасамі, падбег да «генерала» і ўсунуў яму ў рукі кавалак чырвонай тканіны.

— Таварыш Гукайла, а можна мне рукі развязаць? Сцерхлі! — таксама нечакана жаласна прагаварыў суворы матрос у скрываўленай марынарцы. — Я іх проста так за спінай трымаць буду!

— А як матросы ў сямнаццатым цярпелі? — зароў Гукайла. — Мы тут не ў цацкі гуляем! Мы праўду перадаём! Дадайце яму крыві на фізію...

Асістэнтка з дзіцячымі банцікамі на косах шчодра намазала твар матроса чырвонай фарбай, так, што той пачаў адплёўвацца чырванню, якая зацякала на вусны. Плямы з агідай распаўзаліся на антрацытавых хвалях Нявы.

— Матор! — раўнуў Гукайла. Генерал падняў перад сабой, трымаючы абедзвюма рукамі, сцяг:

— Глядзі, чырвоная морда! Вось так з усімі вамі будзе!

Тонкі голас белагвардзейца зусім не вязаўся з пагрознымі словамі, добра, што кіно — не тэатр, галасоў не чуваць. З відочнай цяжкасцю тканіна паддалася малярскім рукам і з глухім трэскам парвалася напалам...

— Ну вось, з першага разу! Малайчына! — задаволена крыкнуў рэжысёр. — А то — слабасільны я, слабасільны... Ну што, наступную сцэну?

— Таварыш Гукайла, трэба было б буйнымі планамі гэта ўсё зазняць... — са здзеклівай ветлівасцю прагаварыў адзін з кіношнікаў, меланхалічны брунет у касцюме, з прылізанай грыўкай, падобнай да тлустай коскі. — Асобныя кадры... Як сцяг ірвецца... Мужны твар матроса... Разумееце, гэта пасля манціравацца будзе. А так, агульны план — невыразна. І яшчэ Леў Барысавіч здымае звычайна некалькі дубляў кожнага эпізоду...

— Плёнку народную не эканоміць ваш Леў Барысавіч! — шырокі твар Гукайлы пайшоў чырвонымі плямамі. — Не разумею, чаму мяне прызначылі ўсяго другім рэжысёрам. Сцэнарый мой, працую я ўдарнымі тэмпамі... І пакуль ваш Леў Барысавіч у шпіталі, працаваць будзем, як належыць! Па-пралетарску! Усе нормы перавыканаем! Ну, добра... Давайце там... буйны план...

Да радасці назіральнікаў, генералу загадалі падняцца на ўзбярэжную і рваць сцяг перад самай камерай,

так, каб на экране былі відаць толькі ягоныя драпежныя імперыялістычныя рукі. Але калі артыст пачаў тузаць чарговую анучу, Гукайла злосна закрычаў:

— Стоп! — падбег да маляра, схапіў таго за руку і падняў яе ўверх, дэманструючы асістэнтам. — Гэта, па-вашаму, рука царскага генерала, га?

Маляр апраўдваўся:

— А што, таварышы? Я ж казаў, я працоўны чалавек! Ну, раструшчыла было два пальцы на будоўлі...

Вузлаватыя доўгія пальцы маляра нагадвалі не вельмі ачышчаныя ад зямлі карані, ды яшчэ не ўсе былі ў наяўнасці, і сапраўды аніяк не маглі належаць панскаму нашчадку.

Гукайла раз’юшана азірнуўся вакол:

— Ану, шукайце мне чалавека з патрэбнымі грэбзамі!

Асістэнты разбегліся ўбакі, як вадамеркі ад кінутага ў сажалку каменя.

— Павал Валер’евіч! — над парапетам паказаўся заліты чырвоным твар матроса — небарака, забыты ўсімі на пірсе, самавольна падняўся наверх. — Можна мне рукі развязаць?

Балтыйская чаіца, заходзячы на вiраж над здымачнай пляцоўкай, пранізліва крыкнула нешта няўхвальнае.

— Ды развяжыце гэтага нышчыка! — адмахнуўся Гукайла і пачаў абводзіць поглядам натоўп, выглядаючы рукі... Піцерцы шарахнуліся, намацваючы кішэні... Нікому, відавочна, не хацелася рваць рэвалюцыйны сцяг.

— Таварыш Павал! — нарэшце насмеліўся падаць голас Алесь Вяжэвіч. — Гэта мы!

Гукайла спыніў на ім незадаволены позірк.

— А-а, землякі... — і адразу ж нядобра ажывіўся. — Пакажы рукі!

І згас.

— Не падыходзяць... Надта далікатныя. А ты, Аўтух?

Папара неахвотна згадзіўся на агляд...

— Сямён, Ніначка! Сюды! — раўнуў Гукайла. Як ні дзіўна, але ў худога Аўтуха рукі аказаліся самыя што ні ёсць генеральскія — далоні, як лапаты, пальцы, як сасіскі, пры гэтым пазногці дагледжаныя... Збянтэжаны паэт не паспеў апамятацца, як яго апранулі ў генеральскі мундзір і

паставілі перад камерай. Ён толькі жаласна мармытаў, трымаючы перад сабой анучу, ужо не чырвоную, а шэрую, бо чырвоныя скончыліся:

— Я ж сялянскі сын... Я камсамолец... Я не магу...

— Ды не тузайся, дурню! Па-першае, на экране будуць толькі твае рукі. Па-другое, лічы гэта камсамольскім даручэннем. Матор!

Чайкі кружлялі пад юлёва-жоўтым небам, якое рыхтавалася да бясчынства белай ночы, і іх выкрыкі чамусьці страшэнна нагадвалі істэрычны рогат. Аўтух, счырванеўшыся да слёз, пад вясёлыя каментары лігаўскай шпаны, якая заняла першыя шэрагі назіральнікаў, разадраў ужо трэцюю анучу — Гукайла ўсё-ткі наважыўся зрабіць дублі, відаць, каб заторкнуць раты асістэнтам. Кіношнікі хаця і слухаліся пакорліва, аднак не прапускалі магчымасці падкрэсліць, што маюць справу з непрафесіяналам. Калі з Аўтуха знялі генеральскі мундзір, Алесь зноў наважыўся гукнуць земляка.

— Таварыш Павал, мы сёння ад'язджаем...

Рэжысёр сунуў рупар меланхалічнаму брунету:

— Здымай далей сам... Буйны план з матросам.

І павёў Алеся, расштурхваючы натоўп. Вераніка, Аўтух і Хведар пацягнуліся следам, прычым Аўтуха здзекліва піхалі і крычалі ўслед: «Енерал!»

Яны сталі пад ліхтаром, якому гэтай ноччу з нагоды ейнай белай хваробы выпаў выходны. Шпіль Адміралцейства ўтыркаўся ў нізкае паўночнае неба, быццам штык.

— Ну што, значыць, будзем развітвацца... Прывітанне Беларусі. — Гукайла чамусьці гаварыў холадна, зусім не так, як учора, калі яны толькі прыехалі і ён дапамагаў ім з адрасамі і начлегам. — Усё сабралі? Ворага выкрылі?

— Сабралі, усё, што трэба, сабралі, — запэўніў П'янкоў. — Можа, і вы што дадасце?

Гукайла, аднак, нат не зірнуў на яго. Увогуле, Алесь толькі цяпер усвядоміў, што Гукайла і раней ігнараваў прысутнасць Хведара, нібыта той быў бясплотным ценем.

— А ты, прыгажунька, толькі расцвіла пад ленінградскім халодным сонцам... Хочаш, у кіно цябе здыму?

Вераніка зачырванелася і матлянула залатой касой.

— Тады шчаслівай дарогі.

І адвярнуўся ў бок Нявы.

Алесь, трохі разгублены такім лаканічным развітаннем, рушыў за сябрамі ў бок Віцебскага вакзала.

— Гэй, Вяжэвіч, аловак свой забяры! — пачуўся вокліч услед. Алесь паслухмяна падбег, хаця дакладна ведаў, што ніякага алоўка ён таварышу Гукайлу не даваў. Той чакаў яго, сур'ёзны і нават устрывожаны.

— Ты, Алесь, чалавек прамы і гарачы, як і я быў у свой час. Пакуль рогі не абламалі. Таму... пастарайся думаць, перш чым нешта зробіш.

Словы рэжысёра прагучалі вельмі нечакана, ды Алесь чамусьці не дужа здзівіўся, нібыта ў ягонай свядомасці ўжо выспела тлумачэнне... Але ён усё-ткі перапытаў:

— Вы... пра што?

— Я пра жыццё... і смерць. — змрочна прагаварыў Гукайла. — Расказвалі мне пра вашую... даследчую працу гэтымі днямі. Запомні, не кожны сябар, хто табе ў рот заглядае. Не кожны вораг, хто табе ў вочы сваю праўду выкажа. Часам варта рот на замку патрымаць, а вачыма пільней глядзець. Асабліва калі нехта аблізвае позіркам тваю дзяўчыну, быццам кот — закрыты жбан са смятанай.

Гукайла зняў капялюш, вецер, які пах морам і смерцю, ускудлачыў ягоныя валасы, і Алесь убачыў іншага Паўлюка — шыракатварага цемнавокага беларускага хлопца з Налібоцкай пушчы, патомнага інсургента. Ад ягоных словаў душа студэнта сціскалася, быццам ад марозу.

— Я за рэвалюцыю любому глотку парву. Я пад бізунамі ў дэфензіве ляжаў... Я ў пятнаццаць гадоў жандараў вось гэтай рукой... З нагана... За рэвалюцыю — а не за якогась дзядзьку, які беларускай душы не разумее, і не бачыць вялікай бяды, калі беларусы як асобны народ увогуле знікнуць. Злодзей грамчэй за ўсіх крычыць: «Трымай злодзея!». Запомні, хлопец: мы — беларусы. Мы — тыя, каму не дадзена права на існаванне, але мы жывём, як ні выполваюць, ні прымінаюць коламі, ні выпальваюць. Галоўнае — каб з карэннем не выдралі... Каб дзяцей не пазбавілі памяці

пра тое, што яны — беларусы. Вось і ўсё, што я хацеў табе сказаць. І калі ў цябе ёсць хоць кропля мазгоў, студэнт, і прыстойнасць — а каб я ў гэта не верыў, я б табе нічога не сказаў, — ты гэтыя мае словы засунеш зараз у самы далёкі куток сваёй памяці. З'ясаваў?

Алесь моўчкі хітнуў галавой, і, сціскаючы ў пальцах гукайлаў хімічны аловак, які той усё-ткі ўсунуў яму ў руку, пабег даганяць сваіх. Вераніка стаяла на фоне вечаровага неба і каменных плітаў, светлая і таненькая, як свечка, а П'янкоў шыўся ля яе, нібы цёмны васковы нагар. Аўтух раздражнёна азіраўся, і Алесь раптам з усёй яснатой зразумеў, што Папара, «спявак калгасаў і заводаў», насамрэч не любіць не толькі Корб-Вярановіча, але і калгасы і заводы, і яго, Алеся. І ўвогуле — любіць толькі сябе.

— Пра што ён з табой гаварыў? — нібыта між іншым папытаўся Хведар. Алесь паглядзеў у ягоныя вочы з алейным бляскам і чамусьці адказаў няпраўду:

— Ды так, раіў на цягнік не спазніцца... Ну і запрашаў яшчэ прыязджаць.

Да цягніка заставалася гадзіна, а Віцебскі вакзал яшчэ далёка... Хутка з вежы грыфонаў пачнуць вылятаць прывідныя стварэнні, і Марына Корб-Вярановіч, напэўна ж, пабачыць іх адлюстраванні ў сваім акне.

**Раздзел 6.**
**ПАДЗЕМНАЯ ЦАРКВА І «АМЕРЫКАНКА»**

«Старыя людзі кажуць, што там, дзе зараз гаік ля Ройна, стаяла царква. Вельмі прыгожая і багатая. Пабудавалі яе два браты-князі. Будавалі, а царква ўсё разбураецца. Мо таму, што браты ніяк не маглі дамовіцца, імем чыйго святога апекуна яна будзе называцца. Старэйшы хацеў, каб ягоным — святога Юрыя, малодшы — каб ягоным, святога Язэпа... А сцены ўсё рушацца, старэйшы меншага папікае, што той вінаваты, меншы злосць тоіць... Тады ім дзядок адзін параіў: скончыць спрэчкі, узяць кубак срэбны, кроўю сваёй удваіх яго напоўніць і ў падмурак замураваць. Так зрабілі, кроў сваю змяшалі, царкву асвяцілі ў імя святога Юрыя,

і яна болей не рушылася. Тады князь Юры, старэйшы каторы, пайшоў на вайну, а меншы, Язэп, застаўся ў палацы. От старэйшы вяртаецца, і багацця прывёз з сабою, золата ў куфрах, і нават карону. І захацелася малодшаму тае кароны. То і кажа старэйшаму: «Пайшлі найперш у царкву, памолімся, што ты шчасліва вярнуўся». Ну, пайшлі яны, нікому не сказаўшы. Зайшоў старэйшы ў царкву, а малодшы дзверы за ім зачыніў на замок, і тады з падмурка кубак са сваёй і братавай крывёй дастаў і кроў тую перад брамаю выліў. І царква разам са старэйшым братам у зямлю правалілася. Вярнуўся малодшы дамоў, але ж агледзеўся: а карону брат ягоны з сабою ў царкву таемна ўзяў — хацеў абразу Маці Божае яе ахвяраваць. Ну і шкада стала малодшаму князю кароны, спрабаваў у царкву неяк спусціцца, аж і знаку яе ўжо няма. А і шчасця ў князя болей не было. Багацце ягонае ўсё сышло, адзін срэбны кубак застаўся. На месцы, дзе царква правалілася, гаік вырас, малодшы князь пасля смерці ў лесуна ператварыўся і ў гаіку тым дасюль жыве, ўваход у царкву шукае і срэбны кубак вартуе. Праз шмат гадоў пастушок адзін ройнаўскі праз гаік ішоў, нагой на нешта напароўся — ажно гэта крыж залаты з зямлі тырчыць. Пастушок ухапіўся за вярхушку крыжа, пацягнуў — і ён уверх як пойдзе, цэла царква падымаецца... Але тут лясун выскачыў у ваўчынай скуры, загалёкаў. Хлопчык, ведама, спалохаўся, упусціў крыж. І царква адразу назад, у зямлю, і нейкі плач, енк нібыта з яе пачуўся. Кажуць, каб царкву падняць, трэба ў лесуна адабраць срэбны кубак, і зноў напоўніць братняю крывёю, і над крыжам падземнай царквы паставіць. А мы, малыя часта бегалі ў гаік, паслухаць, як пад зямлёй нехта моліцца, можа, князь старэйшы. Калі ў вакрузе бандыты панскія з'явіліся, якія хацелі ў нас царскую грамату на волю забраць, яны ў царкве хаваліся, бо іх князь замураваны ўпусціў. Таму іх і пералавіць не маглі. І цяпер, як каму трэба схавацца — ці ад рэкутчыны хто ўцякае, ці ад помсты, — самае вернае, калі старэйшы князь падземную царкву для цябе адамкне. А адмыкае ён толькі тым, у каго іншае надзеі няма». Запісана ад Апанаса Кульчы, 98 г., в. Ройна Наўскага пав.».

Неяк Ася адказвала ў блогу на флэш-моб-апытанку: «Пяць рэчаў, якія я ненавіджу». Адказвала, кіруючыся дэвізам «Вы хочаце патасу? Фіг вам, сябры».

Атрымалася, што Ася ненавідзіць:

1. Калі ідзе дождж, вецер ірве з рукі парасон, аж спіцы выварочваюцца, а ў другой руцэ — цяжкая сумка.

2. Усцягваць калготкі на мокрыя ногі, напрыклад, у распранальні басейна.

3. Калі лезеш у кашалёк, каб расплаціцца з манікюршай, і пераконваешся, што лак на пазногцях яшчэ не высах.

4. Пішаш тэкст у прыпадку натхнення, падымаеш вочы на манітор — і бачыш, што апошнія дзесяць хвілінаў у вордзе была англійская мова.

5. Едзеш у грамадскім транспарце, і ёсць вольнае месца на двайным сядзенні, але нехта ўсеўся не ля акна, а з краю — бо яму хутка выходзіць. А табе аблом угаворваць пасунуцца ці, яшчэ горш, праціскацца самому на месца ля акна. І ты стаіш і чакаеш, што чалавек вось-вось сыдзе, і тады спакойна сядзеш, а ён усё не выходзіць...

Уплыў пункту пятага Ася цяпер адчувала на сваёй нервовай сістэме. Немаладая дзеўка ў клятчастым кароткім палітончыку, з вейкамі, на якія быў укладзены цэлы цюбік падробнай французскай тушы, ціскала на кнопкі мабільніка, як радыстка Кэт, і Ася проста не ў змозе была пераадолець сябе, каб сказаць: «Ці не маглі б вы пасунуцца?» альбо: «Дазвольце, я сяду...». Таму цярпліва навісала над эгаістычнай дамай, трымаючы проста над яе галавой разгорнутую кнігу народных казак і легендаў. Таміна была цяжкая, тралейбус, доўгі, з «гармонікам», трэсла на паваротах, як пракаветны воз, словы старога padання мігцелі ў свядомасці, як зерне кавы ў кавамолцы, і Ася амаль ужо даспела да таго, каб абараніць свае пасажырскія правы...

— Так, Анжэла... Прабач, я, вядома, памятаю, што ты Ларыса... Ларыса Пампееўна... Што ў цябе? Мне зараз не вельмі зручна гаварыць...

Нізкі мужчынскі голас гучэў дзесьці за спінай. Ася адразу закруцілася, заазіралася — звыклы інстынкт беларуска-

моўнага чалавека ў горадзе на гук роднае мовы: хутчэй за ўсё, пабачыш знаёмца.

О так, гэта быў знаёмец. Нават са спіны і наводдаль, з-за чужых плеч Ася пазнала яго па той дрыготцы нянавісці, якая прайшлася па ейным целе. Корб-Варановіч. Трэба ж, яна была ўпэўненая, што халёны гісторык ездзіць толькі на ўласным аўто. А ён, як просты смяротны... А можа, машына ў рамонце? Ці ён скнарышча, на бензін шкадуе? Спрадвечная народная логіка: у госці трэба ісці басанож, а боты несці на кіёчку...

Мабільнік гісторыка быў, відаць, настроены на высокую гучнасць, бо нават Ася пачула пранізлівы жаночы голас па той бок бяздротавай сувязі. Корб-Варановіч адказваў з прыхаванай тугою і змушанай ветласцю:

— Ларыса Пампееўна, я ўсё памятаю. Я абавязкова куплю сінія фіялкі. Так, роўна сем штук. Не, яны не будуць у гаршчэчку. І прашу, прымі свае таблеткі...

Раптам з тэлефона пачулася спяванне... Суразмоўца завяла оперную арыю. Ася не залічвала сябе да меламанаў, таму не магла вызначыць, што менавіта спявалася, тым больш наколькі прафесійна, але Корб-Варановіч нават на нейкі час адняў трубку ад вуха і адвярнуўся... Потым сабраўся з духам і працягнуў размову:

— Усё, Анжэла... Ларыса... Хопіць... Цудоўна, цудоўна спяваеш... Танальнасць самае то. Усё. Прымі таблеткі. Пакуль.

Ася хуценька адвярнулася. Размова відавочна не прызначалася для старонніх вушэй, жонка там Варановіча па мабільніку спявала, палюбоўніца ці дачка... Арсеніі дужа не хацелася, каб гісторык заўважыў, што яна за ім назірае, і ўвогуле ейную прысутнасць. І цяпер думала, ці не праехаць лішні прыпынак — бо кіраваліся яны з Корб-Варановічам у адно месца, а менавіта ў ягоны інстытут, дзе мусілі сустрэцца са Скрынічам і ягонымі інтэлектуальнымі фантазіямі. Дзеля якіх Ася, між іншым, выпрасіла тры дні за свой кошт па «сямейных абставінах», і, відаць, толькі дзякуючы таму, што начальнік атрымаў ад Вячкі кніжку з душэўным аўтографам і перакананасць, што ў Асі і Скрыніча ўсё дужа сур'ёзна.

Імжыў паскудны восеньскі дожджык, які наліпаў на твар, як халоднае павуцінне, Шэры Гмах, родны брат Шэрай Будыніны, падзяляў раніцу на «да працы» і «на працы». Ася, як магла, запавольвала крок, каб постаць Корб-Варановіча аддалілася на бяспечную адлегласць, але выйшла як заўсёды. Няёмка і непрыгожа. Даніла Раманавіч азірнуўся, нібыта адчуў позірк, які свідраваў ягоную абцягнутую светлай плашчоўкай спіну, і адразу пабачыў Асю, якая па-дурному шарахнулася ўбок, інстынктыўна хаваючыся за нейкую цётку. А Корб-Варановіч, вядома, прыпыніўся. Шляхціц. Трэба даму пачакаць. І Асі давялося, угнуўшы галаву, набліжацца да гісторыка, які адразу ж падняў над ёй свой чорны парасон. Парфума «Х'юга Бос» дадаткова нагадала, што з начальнікам не варта ўступаць у нефармальныя размовы. Да таго ж, адзіны позірк, які ахвяраваў Вяжэвічаўне нашчадак графаў, быў дастаткова красамоўны. Ён змерыў ад пятаў да макаўкі ейную постаць: доўгая чорная спадніца, высокія чорныя чаравікі на шнуроўцы, на рубчатай тоўстай падэшве, чорны джынсовы плашчык, зверху чорны шаль з кутасамі, фенечкі, пярсцёнкі, грыўна з белага металу на шыі... У паветры лунала: сярэднявечную прынцэсу з сябе ўяўляем, а прадзед у НКУС служыў? Так яны, пасля лаканічнага прывітання, і дайшлі моўчкі да дзвярэй, нібыта пасаджаныя на адзін ланцуг ворагі.

А Скрыніч ужо чакаў ля варановічаўскага кабінета, як заўсёды, праскочыўшы праз усе ведамасныя рагаткі.

...Срэбны кубак пабліскваў на пісьмовым стале, цалюсенькі, як стагоддзі таму, змацаваны тонкай гумкай цялеснага колеру. Вячка прагна аглядаў яго з усіх бакоў, ледзь не датыкаючыся драпежным носам да пацямнелага срэбра. Грубаватая чаканка выяўляла паляванне — лемпард, высока ўскідваючы лапы, нёсся над цацачнымі ялінкамі і дамкамі, за ім беглі харты, і спяшаўся на прыземістым дрыгканце вершнік з узнятым мечам... Праўда, тая палова кубка, якая належала Корб-Варановічу, з вершнікам, была больш бліскучанькай — відаць, акуратны гісторык адчышчаў адмысловымі сродкамі.

— Пятнаццатае стагоддзе, — багавейліва шаптаў Вячка. — А я, калі малюнак у справе вашага прадзеда знайшоў, і не марыў, што ўдасца вось так... На свае вочы...

— Я таксама не спадзяваўся пабачыць кубак цэлым, — змрочна прагаварыў Корб-Вeconомановіч. — І ўвогуле, не спадзяваўся, што гісторыя майго роду раптам ажыве, і я павінен буду клапаціцца, каб на паверхні гэтага кіпню не з'явілася брудная пена. Павінен... Дарэчы, я вельмі, вельмі вам удзячны, Вячаслаў. Тое, што вы напісалі пра майго прадзеда, пра ягоных знаёмых, пра тую эпоху... Гэта важыць болей, чым тамы навуковых даследаванняў. І прабабку я менавіта такой і ўяўляў. Яна ж была настаўніцай беларускай мовы — а калі пачаліся пераследаванні прадзеда, яе нідзе ў школу не бралі. І дзед мой толькі з трэцяга разу ў інстытут паступіў. На фізіка. А з трэцяга курса — на фронт... Ведаеце, якая прабабка Марына была? — твар Корб-Варановіча прасвятлеў, шэрыя вочы заззялі. — Аднойчы ў іх двор прыйшлі вандроўныя музыкі — скрыпач і сляпы спявак з прыгожым моцным голасам. Марына Корб-Варановіч якраз была ў двары і пачала падпяваць... Захапілася, заспявала на ўвесь голас... Атрымалася дужа хораша, суседзі з вокнаў павысоўваліся. І скрыпач угаварыў прабабку пайсці з імі ў суседні двор. І яна згадзілася — спявалі рамансы, народныя песні... Накідалі ім грошай болей, чым звычайна... Вядома, усё засталося музыкам. А прабабка проста была шчаслівая, што ўдалося наспявацца — у камуналцы асабліва песню не завядзеш... Дзед гэты выпадак часта ўспамінаў.

— А калі яны на Беларусь вярнуліся? — не вытрымала, пацікавілася Ася. Корб-Варановіч, відаць, ужо змірыўся з яе існаваннем побач з сабою, таму, хоць болей і не ўважыў позіркам, адказаў:

— Калі прадзеда выслалі ў Саратаў, прабабка з сынам паехалі за ім. А праз два гады яго яшчэ далей адаслалі. Ажно ў Ханты-Мансійскую вобласць. І жонку ўжо з ім не пусцілі. А ў 1937-м на яго запыт у лагер прыйшоў з Беларусі. Адвезлі ў Менск, збіраліся выкарыстаць у новай справе, зняць паказанні. А ён маўчаў. Я ведаю, бо ён — Корб-Варановіч. Памёр ад катаванняў у бальніцы. Вам сказаць,

чый подпіс маецца на пратаколе аб ягонай смерці «ад сардэчнай недастатковасці»?

Ася зразумела, што зноў гаворка пра ейнага продка. Вось прычапіўся... Ёй да таго прапра... як да леташняга снегу. Мала хто з продкаў кім быў... Хоць піратам Карыбскага мора. А граф працягваў, але ягоныя вочы ўжо нагадвалі шэры лёд:

— Прабабуля да апошняга не ведала, што муж памёр. Пасылкі слала, аб спатканні прасіла... А дзед, іхні сын, выжыў. Вярнуўся з фронту ў медалях. Вось тады яны з маці ў Менск і перабраліся. Але спадар Скрыніч гэта і так добра ведае... У архівах сядзеў, напэўна, не менш за мяне... Плюс пісьменніцкая інтуіцыя.

Позірк, які Даніла Раманавіч кінуў на Вячку, Асі не спадабаўся: у ім была і нейкая сабачая адданасць, і баязлівая трывога... Ды ён жа ў такой залежнасці цяпер ад Вячкі, раптам з жахам усвядоміла прадстаўніца роду Вяжэвічаў, што калі Скрыніч загадае яму ўтапіцца, пад пагрозай, што ў выпадку аслушэнства апаганіць вобраз Корб-Варановічаў у сваім несмяротным рамане — гэты, як сабачка Му-Му, паслухмяна пабяжыць у човен, да вяроўкі з глыжом... Вось рарытэт... Відаць, лічыць, што і Ася павінна за гонар роду на крыж лезці... Дзівак.

Мабільнік Корб-Варановіча загаласіў паланэзам Агінскага. Гісторык скасавурыўся на свой тэлефон, нібыта спадзяваўся, што той сам па сабе заторкнецца, трохі прамарудзіў, паднёс да вуха...

Зноў спяванне нявызначанай арыі. Скамянелы твар слухача.

— Анжэла, я дужа заняты. Так, Ларыса Пампееўна. Я не забыўся. І фіялкі. Забягу ў восем. Пакуль.

Корб-Варановіч адключыў мабільнік і раздражнёна схаваў яго ў кішэню сваёй камізэлькі, на гэты раз не з чорнай скуры, а са светлай замшы, апранутай паўзверх шэрага гольфа, трохі святлейшага, чым мінулы раз. Але зноў ніякага пінжака, штроксы колеру марэнга-клэр, як сказаў бы модны шляхцюк XIX стагоддзя, што азначала адценне дыму на полі бойкі Напалеона пры Марэнга. Падобна, начальнік аддзела

не дужа шанаваў касцюмы і не вельмі радаваўся «оперным» тэлефанаванням.

— Ваша жонка, відаць, спявачка? — Скрыніч, вівісектар кляты, бязвінна пазіраў зялёнымі вачыма з вечнай шалёнай іскрынкай на сваю чарговую ахвяру.

— Была... — удавана абыякава адказаў Корб-Варановіч. — Спявала ў оперным тэатры, праўда, у невялікіх ролях.

— Невялікіх роляў не бывае, — збанальнічаў Вячка, які не збіраўся кідаць плённы занятак вярэджання чужой раны, калі ўжо пашчасціла на яе натрапіць. — А якое сцэнічнае імя вашай жонкі? Я, магчыма, прыпомніў бы, я ў оперу хадзіў... Ларыса Пампееўна Корб-Варановіч?

Арсенія паспрачалася б на свой улюбёны пярсцёнак з сердалікам, што Вячка ў жыцці ў оперу не хадзіў, ну хіба пару разоў на халяву. Проста яму карціць дзеля аздобы сюжэту яшчэ трошкі душы выцягнуць з фанабэрыстага гісторыка. Вунь як той плямамі пайшоў.

— Насамрэч яе завуць Анжэла Сідарэвіч, — не дужа ахвотна адказаў Корб-Варановіч. — А Ларыса Пампееўна... Ну, проста яна любіць, каб яе называлі ў гонар Ларысы Пампееўны Александроўскай.

— Як гэта — у гонар?

Арсенія гатовая была зараз забіць Вячку, і нават адчувальна выцяла яго пад сталом нагой у цяжкім камэлотаўскім чаравіку. Вячка і не здрыгануўся, не адрываючы паляўнічага позірку ад ахвяры. Корб-Варановіч ганарыста закінуў галаву:

— Анжэла не зусім здаровы чалавек. У тэатры сем гадоў таму былі скарачэнні, яна засталася без працы, голас пачаў псавацца, ды яшчэ мы з ёю напярэдадні... развяліся. Перажыванні... Стрэсы... Карацей, — у голасе гісторыка пачуўся выклік. — Яна лічыць сябе рэінкарнацыяй Ларысы Александроўскай. Усё, я задаволіў вашую цікаўнасць?

Ася гатовая была скрозь зямлю праваліцца ад няёмкасці. Мастацкая дэталь вылушчаная з рэальнасці. Разам з крывёй.

Толькі цяпер Арсенія ўсвядоміла, што Корб-Варановіч носіць заручальны пярсцёнак, які для яе адназначна быў сведчаннем сямейнасці, не на правай, а на левай руцэ. Усе Асіны знаёмыя развядзёнкі і развядзёнцы заручальных

пярсцёнкаў увогуле не насілі. А ён носіць. Усё яшчэ кахае? Ці проста паказвае, што не жадае лёгкіх знаёмстваў?

Гэты пярсцёнак Корб-Варановіч зараз змрочна круціў на пальцы. Жэст, зусім як у яе, Асі.

Ну чаму яна, літрэдактар, не валодае ўсімі гэтымі прыёмчыкамі маніпулявання людзямі, каб «вырульваць» размову куды трэба? Сядзіць вось так звычайна, язык праглынуўшы, толькі ў галаве бліскучыя ідэі мітусяцца, як нязлоўленыя плоткі. А Скрыніч, як сыты вампір, адкінуўся на крэсле:

— А цяпер «хатняе заданне», сябры! Вы зрабілі свае радаводы для параўнання?

Корб-Варановіч палез па свой дыхтоўны партфель з брунатнай тоўстай скуры, які кінуў быў пад стол, і дастаў вялікі аркуш, складзены ў чатыры столкі. Ясная справа, ён не чакаў Вячкава загаду, каб скласці радавод... Рознакаляровае радаводнае дрэва вілося ва ўсе бакі, нагадваючы водарасці, аблепленыя ракавінкамі. Ася не сумнявалася, што арыгінал даўно вісіць у рамачцы на сцяне графскай кватэры.

Так... XVI стагоддзе. Браты Варановічы, Георгій і Іосіф. Георгій загінуў у дваццаць пяць гадоў, нашчадкаў няма. І заканчваецца — Даніла Варановіч, апошні з роду.

Арсенія зацікаўлена схілілася над малюнкам. Усе лініі абрываюцца... Адна толькі таненькая цягнецца ўверх. Цікава, пры сабе пан Даніла не пазначыў імя жонкі... Самотны. На вастрыі свайго роду...

— А ты, Арсенія?

Ася пачырванела і дастала аркушык са школьнага сшытка ў краткі. Корб-Варановіч выразна хмыкнуў.

— Усяго да чацвёртага калена? Малавата будзе! — весела пракаментаваў Вячка. — І да таго ж у цябе Вяжэвічы — усе па жаночай лініі. Гэта няправільна. Бацька і дзед — зусім іншых прозвішчаў. А прызнайся, ты запісала прадзеда Аляксандра Вяжэвіча дзякуючы таму, што прачытала пра яго ў маім рамане?

— І што? — агрызнулася Ася, усё яшчэ абураная. — Не ўсе могуць пахваліцца прысутнасцю продкаў у радаводных кнігах. Што ведаю, тое ведаю...

— А ў бабулі хіба не пыталася пра Алеся Вяжэвіча? — пацікавіўся па-настаўніцку Скрыніч.

— Пыталася... — буркнула Ася. — Бабуля пачала ўспамінаць, як ейная маці, Вераніка Змітраўна, нагаравалася ў вайну з ёй, маленькай, на руках, як падаліся яны ў вёску да далёкіх сваякоў, як ад карнікаў уцякалі, у партызанах былі, як пасля вайны пасяліліся ў Мінску ў падвальнай камуналцы каля Опернага тэатра. Маці працавала ў школе, а яна паступіла ў харэаграфічную вучэльню. А пра бацьку свайго толькі і сказала, што маці як яго ўспомніць, так і плача, і плача... Бедны, кажа, бедны. Загінуў малады. І ўсё. Ні паперкі, ні фотаздымка, ні нават радавой легенды. Прабабка рана памерла, яшчэ да таго, відаць, як рэабілітаваць пачалі. Таму і маўчала пра мужа. Пра дзеда ўвогуле нічога не ведаю. Адзін раз бабуля прагаварылася, што быў суворавец. Сувораўская вучэльня побач зусім была з іх камуналкай... Але не пажаніліся, хаця і вяселле былі прызначылі, бо ён чагосьці спалохаўся... Доўга прасіў прабачэння, плакаў, казаў, што кахае, але надта хоча стаць у будучым генералам... А бабуля ганарлівая, выгнала і не стала дапытвацца, чым яна яму перашкаджае ў кар'ерных планах. Думала, што не захацеў з дзеўкай без адукацыі жаніцца — яна ж, як з вучэльні сышла, нікуды не паступіла з-за нейкай траўмы, працавала швачкай.

— Проста суворавец ваш даведаўся, што ягоная каханая — дачка ворага народа, — задумліва прамовіў Корб-Варановіч. — Ён жа быў будучы афіцэр, армейская эліта, так што ўсе сувязі адсочваліся. Ну і паставілі хлапца перад выбарам... Тым болей справа была, наколькі я разумею, яшчэ да Хрушчова...

Арсенія раздражнёна зірнула на дзядзьку, чыя прысутнасць працягвала яе злаваць і нерваваць. Але ягоная гіпотэза была падобная да праўды.

— Магчыма, і так... Праверыць не магу. Так што не было ў маім дзяцінстве старой вясковай хаткі, куды на лета прыязджаеш «далучыцца да каранёў» і сырадою. Добра, бабуля па-беларуску любіла размаўляць, «Сымона-музыку» на памяць чытала, «Курган», вершы Багдановіча... Гэта мая

прабабка-настаўніца яе навучыла. А то б засвойвала я «дзеканне» па спевах «Н.Р.М.»...

— Якая розніца, якімі шляхамі чалавек прыходзіць да радзімы? — словы Асі чамусьці зачапілі Вячку. — Я дзэканне ў дваццаць гадоў толькі засвоіў. Пісаў ужо аповеды пад Караткевіча, а прамаўляць правільна не ўмеў. Скуль дзіцяці асфальту... І нічога, як бачыце, авалодаў. А колькі маіх аднакурснікаў родам з вёсак, чые бацькі чысцютка на мове ўсю жытку прагаварылі, як і яны самі ў дзяцінстве басаногім, патрапіўшы ў горад, напіналіся тлумачыцца «на языку», усё жыццё пазбаўляюцца ад акцэнту і зненавідзелі беларушчыну, як сведчанне сваёй правінцыйнасці. Вось гэта — «штучнасць»!

Ноздры Скрыніча раздзімаліся. І Ася згадала, што яго не аднойчы шчыкалі крытыкі за «штучнасць мовы». Комплекс, відаць, сядзіць — наконт недахопу аўтэнтычных матчыных калыханак у духоўным выхаванні... Маці Скрыніча, наколькі Арсенія ведала, калі і нешта магла яму напяваць, дык хіба «Yesterday», бо вырасла на «Бітлах» і Высоцкім, ніколі не была замужам, працавала гукаапаратарам на радыё і апраналася ў пацёртую джынсоўку. Сынавы раманы чытала, але яны ёй не падабаліся. Затое Вячка не вырас «мамчыным сынком», як часта здараецца, калі самотная кабета адна гадуе сына.

— І так, усё пачынаецца з двух братоў, якія цудоўна ўпісваюцца ў легенду пра падземную царкву, Юрыя і Язэпа Вaraновічаў. Прыдомак «Корб» калі ў родзе з'явіўся? — раманіст вярнуўся да сваіх марыянетак.

— Пры Жыгімонце Старым, — прабурчэў гісторык.

— Не ад сваяцтва з аўстрыйскім дыпламатам Іаганам Корбам, выпадкам?

Адкуль толькі Скрыніч столькі розуму набраўся?

— Не. Проста адзін з роду ажаніўся з уладальніцай старажытнага герба «Караб». На ім залаты карабель з ільвінымі галовамі і мураваная вежа з зубцамі. Шлюб быў дужа ганаровы для Варановічаў, ну і...

— Ясна, удасканалілі прозвішча для важнасці, — легкадумна падрахункаваў Вячка, не звярнуўшы ўвагу, як

пераняўся нашчадак роду. — Два браты, дзве царквы... Пад зямлёю і на зямлі. Класічная падвойная беларуская існасць. Паводле легенды, малодшы брат, Язэп, забіў старэйшага. Потым пабудаваў царкву святога Язэпа. Пра царкву святога Юрыя згадваецца ў тастаменце аднаго з Корб-Варановічаў, які завяшчаў паставіць туды нейкі куфар, да магілы Юрыя Варановіча. Там жа гаворыцца пра таямніцу, якая перадаецца старэйшаму ў родзе. Ці не магло гэта быць прызнаннем у злачынстве і звесткамі пра месца пахавання старэйшага брата? Ну і пра тую «карону» з легенды? Можа быць, царква святога Юрыя — усяго толькі капліца? Усыпальніца, якую няцяжка схаваць у зямлі? І кубак, рассечаны напалам, — ключ туды, палову якога далі на захаванне верным слугам?

— Гэта ўсяго толькі легенда, — гісторык разглядаў свае счэпленыя на стале далоні. — Памяць — тоўшча вады... Усё скажаецца, вобразы мяняюцца... У ваколіцах Наўя ёсць Ваўкалацкі лес і легенда пра ваўкалакаў з дзвюма пашчамі. А нядаўна гісторык Паліна Чарапавіцкая высветліла, што ў часы паўстання Каліноўскага ў тым лесе дзейнічаў атрад інсургентаў, якім кіраваў чалавек па прозвішчы Ваўкалак. Ён проста любіў апранаць ваўчынае футра, і ў яго на твары быў глыбокі шнар ад шаблі — вось вам і «другая пашча»! Менавіта таму падчас рэвалюцыі там і з'явіўся атрад Лаўрына Карыбутовіча «Ваўкалакі», Карыбутовіч, гэткі рамантык-тэрарыст, любіў выкарыстоўваць старасвецкую атрыбутыку. Не варта верыць усяму наўпрост... Забойства радавітым шляхціцам роднага брата, да таго ж старэйшага — гэта ніяк не магло не адлюстравацца ў дакументах, — над попельнымі хвалямі валасоў Корб-Варановіча так і ўяўлялася шляхецкая шапка з дыяментавым «гузам», такая ж, як на партрэтах, што цямнелі на сценах кабінета. — Разумееце, змяняўся спадчыннік роду — і паколькі шляхта ўся павязаная кроўнымі сувязямі, абавязкова быў бы розгалас і судовы разбор. Нашым продкам вадзіцца ды судзіцца была раскоша, судовыя дакументы чытаць цікавей, чым летапісы. Ва ўсіх дакументах запісана — Георгі Варановіч загінуў падчас бітвы на рацэ Вядрошы. Малалікае ліцвінскае войска на чале з маладым гетманам Астрожскім білася там

з войскамі Івана Трэцяга. «Было масквы 40 000 конных, апроч пешых, а літвы чатыры з паловай тысячы... і сышліся абодва палкі ў бітве, і біліся да шасці гадзін абодва палкі...» Летапісец сцвярджае: «Там з-за трупаў конь не скакаў...». Хто са шляхты выжыў — забралі ў маскоўскі палон. І Астрожскі, і Храбтовіч, і Осцік правялі дзевяць гадоў у няволі. Так што смерць... колькі там яму было? — дваццацігадовага князя ў тае калатэчы аніяк не выклікае падазрэнняў. Нідзе гэта не аспрэчана. Вінаваціць чалавека ў забойстве ўласнага брата на падставе пяцісотгадовай байкі? — гісторык раздражнёна паціснуў плячыма. — І згодзен, дзе б магла хавацца цэлая царква? Нерэальна. Я быў у Ройне не адзін раз, легенду пра падземны храм адна старая толькі і памятала — паказвала на кукурузнае поле. Відаць, там рос гаік, які згадваецца ў зборніку прадзеда.

— Таксама пераканаўча, — пагадзіўся Вячка, але Ася не сумнявалася, што ніхто яго ні ў чым не пераканаў. — Але...

Паветра страсянуў пранізлівы гук сірэны, падалося нават, што вакол прайшлі кругі, як па паверхні вады.

Вось ён, тэст на экстрэмальную сітуацыю... Арсенія скамянела, сціснулася, стаіла дыханне... М-да, не быць табе, дзеўка, Жанай д'Арк і Аміляй Плятэр. Вячка, звычайна маланкарухавы Вячка цяпер толькі лена пацягнуўся, скептычная ўсмешка кранула вусны. Во самаўладанне... А масіўны Корб-Варановіч ужо матэрыялізаваўся ля дзвярэй, нібыта пругка пераляцеў па паветры, як лемпард, і крычаў у калідор:

— Што здарылася?

Уладны ваяводаў вокліч.

Нейкая жанчына, відаць, на бягу пачала нешта верашчаць-адказваць, але ўсе гукі тут жа накрыў забойча-спакойны барытон з усіх радыёкропак:

— Шаноўныя супрацоўнікі і наведвальнікі! Праводзіцца планавая вучэбная эвакуацыя з будынка. Захоўвайце спакой і парадак. Карыстайцеся схемамі эвакуацыі, якія размешчаныя ў кабінетах і калідорах. Просьба неадкладна пакінуць памяшканне.

Дробны тупат і ўсхваляваныя галасы на калідоры засведчылі, што народ наш дысцыплінаваны, як мае быць.

Яшчэ трохі напалохаць — і пачнуць па галовах адзін аднаго бегчы. На твары Корб-Варановіча вялікімі літарамі была напісаная агіда.

— Дасылалі, здаецца, на тым тыдні паперу пра гэтую... эвакуацыю. Але я не паверыў, што і праўда магчымы такі маразм.

— Можа, пойдзем? — нясмела віскнула Ася, у душу якой патроху запаўзала інстынктыўная паніка: усе ж бягуць, можа, і праўда нешта страшнае, а ім не гавораць, каб не напалохаць...

Вячка пагардліва сплюнуў. Ну, так, Аксана расказвала, што ён усе школьныя лінейкі ды сустрэчы з ветэранамі ўпарта ігнараваў, а калі і быў на іх, дык з такім адсутным выглядам, што настаўнікі шалелі.

Корб-Варановіч, да здзіўлення Арсеніі, таксама не выяўляў асаблівых парыванняў да дысцыпліны. А яна лічыла, што ён такі пунктуальны і добранадзейны...

— Вось што, скарыстаемся магчымасцю пасядзець у цішыні... — рашуча прамовіў пан Даніла. — Калі вы таксама не хочаце ўдзельнічаць у гэтым фарсе, ёсць у мяне тут адна схованка... Ніякія шакалы не пралезуць.

— О’кэй, дзядзька! — Вячка ажно праззяў і дазволіў сабе нечуваную інтымнасць у звароце. — Наш чалавек! Вядзі...

Арсенія, уздрыгваючы ад кожнага новага завывання сірэны, з жахам глядзела на абодвух мужчын. І ясна разумела: яны вар’яты! Што адзін, што другі. Няўжо да іх не даходзіць, што ў будынку можа апынуцца бомба, ці пажар, ці тэрарысты, ці... Асін жах меў містычную падбіўку: яна была пэўная, што збываюцца ейныя мары пра выбух у Шэрай Будыніне, толькі здзяйсняецца ўсё ў Шэрым Гмаху — кажуць жа, што калі ўвесь час пра нешта думаць, яно матэрыялізуецца... Вось яе і пакаралі вышэйшыя сілы — наклікала катастрофу, а што, калі сама ў ёй апынешся?

Але Вячка ўжо схапіў Асю за руку і пацягнуў услед за Корб-Варановічам.

«Схованка», куды прывёў іх гісторык, аказалася катухом з адзіным акном на нахіленай сцяне пад самай столлю — нібыта яны знаходзіліся ў куфэрку, які трохі прыадчынілі.

Уздоўж сценаў грувасціліся кардонныя каробкі, напэўна з паперамі, а пасярэдзіне — стары кухонны стол з калісьці белымі ножкамі і зялёная працiснутая канапа. Супрацоўнікі Шэрага Гмаху не надта маглі разгульваць па горадзе ў працоўны час, «дзякуючы» прапускной сістэме, але, падобна, кампенсавалі гэта, нефармальна ўладкоўваючы свой працоўны побыт. Ася адчула прыступ дэжавю: зусім нядаўна яна гэтак жа сядзела ў таемным прытулку Шэрай Будыніны...

Выццё сірэны сціхла, як і тупат. Усё... Цяпер, калі што — ім, не зажадаўшым удзелу ў «фарсе», гамон.

Срэбны кубак з гумкай на таліі красаваўся на кухонным стале.

— Вы звярнулі ўвагу на асаблівасць легенды пра двух братоў? — загаварыў Вячка як нічога ніякага. Рэдактарка паспрабавала засяродзіцца на нечым, акрым магчымага выбуху.

— Нейкая задоўгая легенда, — няўпэўнена прагаварыла яна, пакутліва ўспамінаючы нешматлікія заняткі па фальклоры ва ўніверы. — Нагрувашчана ўсяго... Магло на некалькі легендаў хапіць.

— Вось! — Вячка ўзняў палец. — Не легенда — а бабілёнская вежа, якая стагоддзямі нарастала, пакуль не рассыпалася. У аснове — пазнавальны міф пра Ромула і Рэма. Успомніце: два браты нешта будуюць, спрачаюцца з-за таго, чыё імя яно будзе насіць. Адзін брат насміхаецца з другога, што сцены, якія той узводзіць, рушацца, абражаны забівае насмешніка. Збудаванню застаецца імя забойцы. Усё!

— Вы хочаце сказаць, што першааснова легенды, якую запісаў мой прадзед, патрапіла пад стрэхі з падручніка па лаціне з маёнтка? — задумліва прагаварыў гісторык.

— Хто ведае... — азваўся Скрыніч. — Але далей вымалёўваецца і вось гэты кубак са змяшанай крывёй, і карона, і залаты крыж, які тырчыць з зямлі... І нават лясун. Занадта шмат артэфактаў. І нарэшце, самае нетыповае — што?

Корб-Варановіч тут жа адказаў:

— Згадкі пра паўстанцаў. Безумоўна, «царская грамата на волю» — гэта адсылка да часоў паўстання Каліноўскага.

Чутка, якая распаўсюджвалася ўладамі для кампраметацыі інсургентаў у вачах сялян: добры цар даў вам грамату на волю, пісаную залатымі літарамі, а злыя паны яе схавалі. Ну і — алюзіі аж да сучасных апавядальніку ўцекачоў.

— Дык што, будзем шукаць падземную царкву? — скептычна прамовіла Ася, якую ўся гэтая гаварыльня ўжо пачала нерваваць. — Зараз перамалюем гравіроўку на кубку, возьмем старыя карты і пачнём высвятляць, які ўзгорак у ваколіцах Ройна азначае вось гэты зубчык... Гэтак было ў тваім перадапошнім рамане, Вячаслаў? Толькі замест кубка там разьблёны куфэрак.

Скрыніч на дзіва сумеўся, ледзь не пачырванеў.

— Ну так, паўтор... А чаму не? Ты ж памятаеш, я якраз і хачу займець у рэале тое, што прыдумваў. Перамалюем, параўнаем... Нешта могуць сімвалізаваць вершнік, хорт і лемпард, якія-небудзь мясцовыя назвы. Не дарэмна ж гэтым сховішчам чэкісты цікавіліся. Карыбутовічаўскія «ваўкалакі» цалкам маглі знайсці прытулак у нейкім падобным месцы. І Корб-Варановіч мог яго падказаць. Апанаса Іванавіча нездарма вінавацілі ў сувязях з Карыбутовічам. Усе гэтыя яго-ныя казкі пра аднафамільца... Не надта я веру ў іх. У 1918-м улады мяняліся, як козыры ў гульні. Марына Корб-Варановіч нараджала ў бацькоў у Клецку. Корб-Варановіч прыехаў туды бальшавіцкім упаўнаважаным, горад занялі палякі — стаў настаўнікам гімназіі... Мог і форму «ваўкалакаў» часова апрануць — Карыбутовіч жа пазіцыянаваў сябе гэткім незалежнікам, і з белымі, і з чырвонымі ваяваў па чарзе, нават вершы па беларуску пісаў — некаторыя інтэлігенты спакушаліся, не разумеючы, што рамантыка нядоўга ў лесе трывае, бо захлынаецца ў крыві. Швагер Апанаса Іванавіча зноў жа невядома калі загінуў. Мог хаця б дзеля яго раскрыць сямейную таямніцу — пра ўваход у царкву святога Юрыя. Мяркую, хаця таямніца мусіла перадавацца старэйшаму ў родзе, традыцыя аднойчы прыпынілася. Але падчас паўстанняў дзевятнаццатага стагоддзя Корб-Варановічы цалкам маглі ёю зноў скарыстацца. Апанас Іванавіч, як вучоны, зацікавіўся, змог дабрацца да ісціны. Варта паехаць у Ройна, там агледзімся...

— Ага, жандары не агледзеліся, чэкісты не агледзеліся, хаця, пэўне ж, усё там перапаролі, а мы праз столькі гадоў руйнавання і заарання зможам, — зазлавала Ася. — Паслухай, я не разумею... Ты ж казаў, што напісаў раман... Дык павінен і так усё ведаць!

Скрыніч вырачыў вочы.

— Ведаеш, я не прарок. Мінулае — так, магу рэканструяваць. А цяперашняе — давайце ўжо разам неяк зробім.

Вось гіцаль... А пачынаў жа калісьці з таго, што ўсё па тэксце!

— У такім выпадку ты ўпэўнены, што правільна рэканструяваў мінулае маіх продкаў? — агучыла Ася тое, што яе дужа непакоіла. — Няўжо ўсё так і было — адзін людзей у турме катаваў, другі ездзіў, збіраў кампрамат на няшчаснага прафесара, каб запраторыць таго на Салаўкі? Не разумею, як такое магло адбывацца. Здаецца, у выпадку з Алесем Вяжэвічам ты апісваеш чалавека разумнага, сумленнага, і ён жа аддае кагосьці толькі за ягоныя погляды на катаванні і расстрэл?

— Запэўніваю, гэта была норма, — задумліва і горка адказаў замест Вячкі Корб-Варановіч, зноў круцячы на пальцы шлюбны пярсцёнак, нібыта той яму апякаў руку. — Маніпуляваць чалавечай свядомасцю насамрэч вельмі лёгка. Вы думаеце, татальная прапаганда толькі цяпер з'явілася? Ды пасля рэвалюцыі на гэта былі кінутыя такія сілы, што нам зайздросціць застаецца. Каб сёння беларускую культуру так прапагандавалі, нашы пісьменнікі выдаваліся б мільённымі накладамі. Плакаты, улёткі, кіно, агітбрыгады, вулічны тэатр, рэвалюцыйныя прыпеўкі... А якія слоганы шыкоўныя! «Смерць буржуям!», «Мір буданам, вайна палацам!», «Хто быў нічым, той стане ўсім!». Плюс зварот да самых прымітыўных інстынктаў: забраць у маёмасных, прынізіць тых, хто вышэй... Людзі замбаваліся на раз. Учора ты — ніхто. А сёння — носьбіт вышэйшай ісціны, суддзя і кат... Даць чалавеку адчуванне ўласнай значнасці — куды важней, чым нешта матэрыяльнае. Званне стаханаўца, пераходны Чырвоны сцяг, грамату... Матывацыя, якая нічога не каштавала сістэме. Фанатызм прывабны. Ён здымае адказ-

насць. Што паляванне на ведзьмаў, што габрэйскія пагромы, што дыктатура пралетарыяту... Людзі, асабліва маладыя, якія ўжо пры саветах выраслі, выкрывалі таварышаў без усякай няёмкасці, узахліп. Але заўсёды былі адзінкі, якія захоўвалі годнасць.

— А хто іх ведае? — цынічна скрывіўся Вячка. — Хто «спяваў» у засценках, хто маўчаў?

— Усё час выкрывае! — усхадзіўся Корб-Варановіч. — Усплываюць дакументы...

— Дакументы складаюць людзі, і чуткі яны ж могуць спецыяльна запусціць! — запярэчыў Вячка. — Я адразу ніколі не прымаю на веру, калі нехта кажа: вось гэты стукач, гэты сумленны...

— Але яны ёсць, і іх можна і трэба пазнаваць!

— Думаеце? — Вячка больш не ўсміхаўся. — Алесь Дудар — здавалася б, такі непахісна мужны аўтар верша «Пасеклі край наш напалам...». А калі яго «замялі», цэлы раман спавядальны для следчага напісаў — усё падрабязна пра калег, хто што казаў, якія мае нацдэмаўскія настроі... Мог жа абмежавацца парай старонак. Я калі чытаў — плакаў ад расчаравання. Пасля супакоіўся. Ён жа і сябе выкрываў, шчыра хацеў выправіцца. Здаралася і іншае — многія падпісвалі пратаколы допытаў у такім стане, што ўжо не ўсведамлялі, што робяць... Таму не трэба нікога вінаваціць і тым болей прагнуць помсты праз гады.

— У такім выпадку давайце заявім, што гістарычная справядлівасць не патрэбная! Давайце шанаваць катаў і ахвяраў на роўных! — угневаўся граф.

— Не перабольшвайце! Я за гістарычную справядлівасць, але еднасць нацыі ўсё-ткі важнейшая за палітычныя, рэлігійныя і якія б там ні было расколіны...

Раптам забразгаў замок, дзверы рэзка расчыніліся... Так, дыскусіі вядуць да зніжэння пільнасці — ніхто з тройкі не звярнуў увагі на крокі ў калідоры.

У дзвярах стаялі два дзецюкі ў камуфляжы і стары чыноўнік з чырванаватай фізіяноміяй. Чыноўнік выглядаў гэткім маленькім трыумфатарам: калі не войска чужое разбіў, дык хоць шыбы іншаземнага зняверцы.

— Так, Даніла Раманавіч, зноў дысцыпліну парушаем? Як дзеці, далібог. Вам што, жартачкі — эвакуацыя? А калі б сапраўды дом замініравалі? Начальнік аддзела! Вы прыклад павінны паказваць, за сваіх супрацоўнікаў адказнасць несці... А вы! Ды яшчэ са староннімі асобамі! У вашым гэтым прытоне! Кубкі расставілі... А што ж закускі малавата?

Корб-Варановіч выпрастаўся, выяўляючы раскайванне не болей, чым вандроўны гандляр, які прадаў мядзяны пярсцёнак за залаты.

— Давайце абыдземся без школьных вывалачак, Казімір Іосіфавіч. Калі я застаўся ў будынку, значыць, у мяне былі падставы. Хочаце прымяняць санкцыі — давайце. Толькі пазбаўце мяне павучальных прамоў.

Казімір Іосіфавіч сплываў атрутай і ветлівымі ўсмешкамі.

— Ужо ж не сумнявайцеся, Даніла Раманавіч, санкцыі будуць. І такія, якіх вы не чакаеце. Усё прыпомніцца. Зборы подпісаў пад вашымі дурацкімі лістамі, цкаванне паважанага навукоўца Леаніда Калантая, і як вы выгароджвалі нацыяналіста Калюжку... Звольнілі Калюжку — і вы за ім пойдзеце. Праз два месяцы ваш кантракт заканчваецца, і запэўніваю — падаўжаць яго ніхто не будзе.

— Шкадую толькі інстытут, які патрапіў у рукі такога беспрынцыпнага чыноўніка, як вы! — раўнуў Корб-Варановіч. — Пайшлі...

Апошнія словы ён адрасаваў Арсеніі і Вячку. Скрыніч паспрабаваў быў па звычцы выкарыстаць свой пісьменніцкі аўтарытэт, але для Казіміра Іосіфавіча сучасная беларуская літаратура, відавочна, заканчвалася на Іване Шамякіне і Васілю Быкаве, і Вячка са сваімі гістарычнымі фэнтэзі апынаўся якраз на неадкрытых папяровых землях.

Ася падумала, што ў жыцці Корб-Варановіча было сваё бетоннае пудзіла, і, магчыма, ён гэтак жа, як Ася — Шэрую Будыніну, ненавідзеў свой Шэры Гмах... Але ж не, гісторык іншы, ён любіць працу, якой тут займаецца... І якой яны з Вячкам, падобна, толькі што яго пазбавілі.

— Не хвалюйцеся за мяне, не зволяць... Пабаяцца... Каб маглі — даўно б вытурылі, — раптам прабурчэў Корб-Варановіч, які, відаць, перахапіў вінаваты позірк Асі.

— І не збіралася за вас хваляваецца!

Як ён мог падумаць, што яе цікавіць ягоная кар’ера! А меркаванне пра сябе якое! «Пабаяцца»! Падумаеш, граф! Ненавіджу...

Санлівы вераснёўскі дождж усё яшчэ сыпаўся на горад, у якім з’яўлялася ўсё больш Будынін і ўсё менш заставалася Сядзіб. Арсенія адмовілася ад Вячкавых праводзін і пашыбавала па лужынах да прыпынка. Азірнулася яшчэ на Корб-Варановіча... Той падносіў да вуха мабільнік. І хутка з яго данесліся водгукі спеваў Ларысы Пампееўны Александроўскай, якая ў свой час мела гонар агучыць вершаванае пасланне беларускага народа таварышу Сталіну. Цікава, дзе графскі нашчадак знойдзе сем фіялак не ў гаршку?

**Раздзел 7.**
**БОКС ЯК ЗБРОЯ ПРАЛЕТАРЫЯТУ**

«Да кола! Да кола!» — гарлалі лонданскія пралетарыі XVIII стагоддзя пры найменшым парыванні на вулічную бойку з надзеяй на відовішча.

Асаблівым поспехам карысталіся двубоі на кулаках між кабетамі. Аб іх нават абвесткі даваліся ў газетах кшталту: «Я, Элізабэт Уілсан з Кларкенуэла, жадаю атрымаць задавальненне ад Ханы Хайфілд пасля лаянкі, якая ў нас надарылася, і выклікаю яе на арэну дзеля кулачнага двубою са стаўкаю ў тры гінеі, а ў руцэ ў кожнай няхай будзе манета ў паўкроны, і тая, якая першай уроніць, лічыцца, што прайграла».

Манеты патрэбныя былі, каб пані не драпаліся.

І вось скажыце, чаму цяпер, калі пралетарскі двубой на кулаках атрымаў высакароднае найменне бокс і пачаў служыць павышэнню фізічнай культуры савецкай моладзі, жанчыны аказаліся абдзеленымі? Хіба беларускія камсамолкі, якія садзяцца на трактары і ў кабіны аэрапланаў, меней мужныя, чымся старасвецкія лонданскія Элізабэт і Ханы? Чаму іх не прымаюць у секцыю боксу, якая стварылася пры Менскім тэхнікуме фізкультуры?

— Таму што ў баксёраў ва ўсіх зламаныя насы, — весела патлумачыў Алесь Вяжэвіч, разгарачаны, вясёлы, у незашпіленым сінім паліто-бобрыку і расхрыстанай на грудзях кашулі-вышыванцы, паўзверх якіх боўталіся на матузку дзве новенькія баксёрскія пальчаткі. — Ты што, хочаш хадзіць са зламаным носам?

Вераніка Манцэвіч мімаволі памацала свой нос, зграбненькі, роўненькі і трохі-трохі, для мілаты, кірпаты.

— Падумаеш, для савецкай жанчыны знешняя прыгажосць — не галоўнае.

— І ты б магла без ваганняў і шкадобы зламаць нос іншай прыгожай дзяўчыне?

Вераніка сярдзіта наставіла каўнер драпавага палітончыка (восеньскі вецер не надта ласкавы).

— Калі яна — шпіёнка... Ці белагвардзейка... Запраста.

Алесь паблажліва ўсміхнуўся.

— А калі яна — твая сяброўка, і цябе проста паставілі з ёю біцца на рынг? А можна яшчэ і зубы павыбіваць.... Сківіцу зламаць...

Дзяўчына зазлавала:

— Ва ўсім свеце адбываюцца спаборніцтвы жанчынбаксёраў, яны нават мужчын перамагаюць. У Амерыцы ў школах для дзяўчат ёсць секцыі боксу, лічыцца, гэта добрая гімнастыка для цела. Я бачыла ў старой польскай газеце партрэт чэмпіёнкі, графіні Джын ля Мар — нават вельмі сімпатычная, нос на месцы. Ты спецыяльна перабольшваеш.

Але ў голасе дзяўчыны ўжо не чулася ранейшага энтузіязму. Вяжэвіч пераможна прыўзняў бровы. Але сёння ён гатовы быў пагадзіцца з аднакурсніцай ва ўсім: вось ужо два тыдні не бачыў яе такой вясёлай, і ўвогуле бачыў толькі здалёку, яна ўпарта пазбягала Алеся, і ён гадаў, чым яе пакрыўдзіў, што ў яе здарылася. І тое, што Вераніка прыйшла паглядзець на ягоную трэніроўку, да таго ж адна, без сяброўак і гэтага клапатлівага ветрака П’янкова, напаўняла такой радасцю, што Алесю здавалася, ён зараз можа выкарыстаць у якасці баксёрскай ігрушы любую з вось гэтых цёмных навіслых над Менскам хмараў, і выб’е з яе ўсё чарнату і халодную вільгаць, і верне небу тую яснату, якая зараз у

ягонай душы. Як усё ўдала — збываюцца мары. Дыскусія ў Акадэміі навук выкрыла ворагаў беларушчыны, ненавісны Корб-Варановіч, якому Ігнатоўскі рэкамендаваў пакінуць універсітэт і ўвогуле Беларусь, цяпер, напэўна, адправіцца да сваёй жонкі-белагвардзейкі ў Ленінград, дзе яму самае месца, а цяпер і Вераніка, якая не падпускала да сябе два тыдні — аж змарнеў Алесь, сон страціў, прыйшла сама!

Вераніка, між іншым, зноў спахмурнела, забыўшыся на жаночы бокс, падобна, яе цвяліла неадвязная і непрыемная думка. Алесь не насмельваўся распытваць, але пастараўся зноў адцягнуць увагу сяброўкі:

— Глядзі, трамвай! Гура!

Сапраўды, у канцы вуліцы паказаўся вагончык. Не прайшло і месяца з дня пуску ў Менску першага трамвая, і месцічы ўсё яшчэ дзіваваліся на гэты цуд, і ўсім жадаючым не хапала месца ў драўляных дрыготкіх вагончыках, там-сям яшчэ прыкрашаных кветкамі.

— Пайшлі пракацімся! У мяне грошы ёсць! — пацягнуў Алесь Вераніку за руку. І, дзіва, яна паслухмяна пабегла за ім да прыпынка трамвая, што пачаў ужо адчайна і весела звінець, хаця ехаў ён зусім у іншы бок, чым студэнтам было трэба.

...Свіслач незадаволена каціла зялёныя хвалі, і былі яны такія непразрыстыя, што здаваліся глыбейшымі за хвалі Нявы.

— Вось бы збудаваць тут такую ж узбярэжную, як у Ленінградзе! — тужліва прамаўляў Алесь, выдзіраючы чаравік з чарговай рудой калюжыны і ў чарговы раз абяцаючы сабе набыць нарэшце галёшы. — Можа, пойдзем туды, дзе брукаванка?

Вераніка адмоўна паматляла галавой і, упарта адышоўшыся яшчэ далей, у самую твань, да вады і ржавых шматоў сухой травы, спынілася. Неба навісала, як зрэбны занавес вандроўнага тэатра, дзе за імправізаванымі кулісамі рыхтаваліся да рытуальнага забойства драўляныя мячы. Навокал — ніводнае жывой душы, акрамя чародкі варон, якія кіраваліся некуды ў бок Кальварыйскіх могілак. Апошнія залатыя лісты ціснуліся да чорнага галля, нібыта дрэвы

хавалі ад рэўкамаўцаў яшчэ не рэквізаваныя ашмёткі арыстакратычнай раскошы. Гэта дарэмна: зімовыя сцюжы, як і рэвалюцыя, усюдыісныя.

Алесь глядзеў у блакітныя вочы Веранікі, і ў яго кружылася галава, і здавалася неверагодным насмеліцца нават дакрануцца да гэтай тонкай рукі, да залатых валасоў, прыкрытых беленькім вязаным берэцікам, і палалі шчокі ад таго, што так нясцерпна хацелася гэтага дотыку.

— Мяне выклікалі ў ДПУ.

Манцэвіч прагаварыла гэта на адным выдыху, нібыта баялася, што не хопіць смеласці сказаць, калі трошкі прамарудзіць.

Вароны, нібыта збіўшыся са шляху, кружлялі ў небе па коле, як смецце ў віры... У іх выкрыках чулася: «Да кола! Да кола!»

— Чаму? Калі? — непаслухмянымі вуснамі прамовіў Алесь.

Вераніка адвярнулася. Яе чаравічкі былі ўсе залепленыя гразёю, але Алесь гатовы быў цалаваць іх — каб гэта вярнула ёй шчасце і спакой. Але спакою — гэта ўжо зразумела пакутліва ўся яго істота — не будзе.

— Пасля дакладу Корб-Варановіча ў акадэміі... Пыталіся пра цябе.

Цяпер Алесю здавалася, што халодная гразкая вадкасць паглынула яго па горла.

— Упаўнаважаны сказаў, што ты чалавек таленавіты, але паддаўся шкодным уплывам. Яны за табой адмыслова назіраюць, каб выправіць на патрэбны шлях. А я, аказваецца, непралетарскага паходжання — уяві сабе, толькі таму, што мой бацька быў пры царызме старшынёй добраахвотнай пажарнай дружыны і матчына радзіна ўся ў Заходняй Беларусі. А маці ж мая ўжо сем гадоў як памерла, і бацька працуе на чыгунцы. Але я не маю права працягваць сяброўства з табою і тваёй «хеўрай», бо як чалавек, хісткі ў перакананнях, цябе не змагу выправіць, затое сама патраплю пад уплыў і зраблюся шкодным элементам. Так што ў мяне два варыянты: я мушу альбо парваць з табой усялякія зносіны, каб не спіхваць цябе ў нацыяналістычную дрыгву,

альбо сумленна дакладаць пра ўсё, што ты гаворыш і робіш, таварышам у ДПУ...

— І што ты вырашыла? — адчайна спытаў Вяжэвіч.

— Не ведаю... — Вераніка схапілася рукамі за скроні. — Мне ўвогуле гэтыя дні здаецца, што мяне сурочылі Начніцы і я не магу прачнуцца. Ведаеш, Хведар П'янкоў прапанаваў выйсце... — дзяўчына нервова засмяялася.

— Хведар?

— Так... Добры таварыш Хведар. Адкуль толькі даведаўся? Прапанаваў пабрацца з ім шлюбам і забыцца на ўсе непрыемнасці. Казаў, што і ты ў турму загрыміш, і мяне за сабою пацягнеш. Намякаў на свае бліскучыя перспектывы пасля абароны дыплома... Смоўж.

— Я яго заб'ю! — Алесь сцягнуў з шыі матузок, на якім матляліся пальчаткі. — Ты не павінна змушаць сябе... Я проста паабяцаю... Не, прысягну сваім жыццём — што ніяк цябе болей не скампраметую. Ні погляду, ні слова...

— Дурань! — Вераніка злосна стукнула кулаком у баксёрскую пальчатку, якая вісела цяпер разам з напарніцай на плячы спартсмена-аматара. — Тады ўжо трэба адразу распісацца і мне, і табе ў сваім шкодніцтве! Ці ты і праўда гатовы вось так, пры першай пагрозе — ні слова, ні погляду? Ты гатовы мяне аддаць?

Алесь сумеўся.

— Хіба я маю на штосьці права? Дзеля тваёй бяспекі...

— Што ты мэкаеш, як цяля? Баксёр! Чаму ты лічыш, што мне патрэбная бяспека ад цябе? Без цябе?

Няўжо ён, Вяжэвіч, сын турэмнага лекара, неабыякавы гэтай неверагоднай, разумнай, смелай красуні? Гэта было — як, ужо амаль падаючы ў прорву, апынуцца на бяспечнай палянцы. Алесь нясмела дакрануўся да белага берэціка... Рука слізганула ніжэй, пагладзіла залатую пасмачку валасоў, такую неслухмяную, што не захацела красавацца разам з усімі ў касе.

— Калі б я толькі ведаў... Што хоць трохі, крышачку табе патрэбны, я б... зубамі грыз, жыццё паклаў... не аддаў бы.

— Таксама мне — зубамі... А боксам нашто пайшоў займацца?

Забытая светлая ўсмешка вярнулася на твар Веранікі.

...Яе вусны былі такія цёплыя — а далонькі халодныя, як ледзяныя... Усё сталася так ясна...

— Я не дазволю разлучыць нас. Колькі цяпер часу? — Вяжэвіч сурова ссунуў густыя бровы, бы рыхтаваўся на двубой.

— Гадзіны тры, а што?

— Пайшлі! — Алесь пацягнуў дзяўчыну ў бок ад зялёных хваляў, рашуча рассякаючы восеньскую гразь. — Пойдзем у ЗАГС і распішамся. Як мая жонка, ты ж не зможаш пра мяне дакладаць — гэта нават у ДПУ павінны разумець! Ні ў адной краіне не даюць веры такім сведчанням. І П'янкоў адчэпіцца нарэшце — усвядоміць, што яму нічога не свеціць. Спадзяюся, усе гэтыя забабоны наконт вэлюму, кветак і банкету цябе абыходзяць. Я жыву ў асобным пакоі, так што...

— Чакай! — Вераніка вырвала руку і, гледзячы ў спалоханы ейным жэстам твар хлапца, перабольшана строга прамовіла. — Мы, вядома, супраць рамантыкі, але дзе хоць нейкае прызнанне ў каханні?

— Ага, ну так! — Вяжэвіч прасвятлеў і раптам бухнуўся на адно калена проста ў гразкую калатэчу. — Вераніка Манцэвіч, чароўная Вераніка... я... я... кахаю... адразу пакахаў... — апошнія словы ніяк не стасаваліся з тэатральшчынай. Алесь, відаць, гэта адчуў, таму што ўзняўся і ўмольна зазірнуў у блакітныя вочы.

— Я праўда... кахаю цябе... Дужа... Я не ведаю, як мне гэта давесці... Ты станеш маёй жонкай?

Вераніка адвяла вочы.

— Скажы, верш «У святле месяцовым твая залатая каса...» ты мне пісаў?

— Табе.

— І ўсе наступныя вершы будзеш прысвячаць толькі мне?

— Вядома!

Вяжэвіч, зразумела, сам у гэта верыў, выпусціўшы з увагі частку свайго творчага набытку пра трактары і станкі.

— Тады згодная!

Менскія насмешныя вароны кружлялі між хмарамі і Свіслаччу, але іх хрыпаты смех не мог прывесці да ро-

зуму дзве юныя авантурныя істоты, якія, як безліч іхніх равеснікаў цягам безлічы стагоддзяў, былі ўпэўненыя, што свету ёсць нейкая справа да іхніх пачуццяў, і больш за тое, свет пакорліва схіліцца перад іхняй воляй быць разам...

І якое ўсё-ткі шчасце, што вопыт папярэднікаў нічому такіх не вучыць!

...Яны стаялі на ўскрайку брукаванкі, паміж шэрымі дамамі, шэрым небам і няпэўным лёсам, такія шчаслівыя, што на іх, здавалася, азіраліся на развітанне нават восеньскія лісты, якія нёс паміраць кастрычніцкі вецер. Маладыя бясконца перачытвалі выдадзеную ім толькі што паперку: пасведчанне аб шлюбе. Добра, што працэдура гэтая, да роспачы старасвецкіх матуль, цяпер спрасцілася да смешнага. Але паступова ў паветры, ужо заплямленым кроплямі вечаровага дажджу, вымалёўвалася вычварнай славянскай вяззю самае непрыемнае для закаханых пытанне: «Што далей?»

— Пойдзем да мяне? — прапанаваў Алесь.

Вераніка адмоўна хітнула галавой.

— Разумееш, я так адразу не магу... Заявіцца да тваіх бацькоў... Не!

— Тады... да цябе? Усё роўна давядзецца знаёміцца са сваякамі, — як мага больш нязмушана прамовіў Алесь.

Нявеста разгублена паціснула плячыма... Бацька — чалавек круты... Мачысе, вядома, усё роўна, але пакрычаць заўсёды гатовая.

— Тады ў інтэрнат! Я ніколі сабе не дарую, калі зараз мы проста разыдземся... Адгэтуль — і назаўсёды — мы разам! Хлопцы абавязкова зарганізуюць нам пакойчык!

— І банкецік? — здзекліва прамовіла Вераніка. — Прабач, але мне зараз меней за ўсё хочацца шумнай кампаніі. Як і натацый дарослых і разумных...

— Халера... Тады... вось што, пайшлі ва ўніверсітэт! — заявіў Алесь.

Дзяўчына разгубілася.

— Навошта?

— Ну як! — у вачах новаспечанага мужа загарэліся агеньчыкі. — Там яшчэ мусіць быць адчынена — бо вячэрнія

курсы займаюцца. Прабяромся. Стаімся дзесьці... І перанačуем, ды хоць бы ў актавай залі. У мяне во — ключ ад яе ёсць!

— Адкуль?

— Ты ж сама пазамінулы тыдзень з намі на рэпетыцыі туды бегала, да кастрычніцкіх святаў рыхтавацца. А мы і дасюль працягваем. Вершаваны рэвалюцыйны спектакль, лічы, гатовы. Каменданту надакучыла, што мы ключ ад актавай па дзесяць разоў на дзень пытаемся, выдаў дублікат, каб я вярнуў пасля свята. Так што — ёсць дзе адзначыць вяселле! А заўтра нешта вырашым.

Гэта, вядома, было абсалютовае глупства. Але і вокамгненны шлюб выглядаў не разумней. Яны купілі бутэльку ліманаду, чацвярцінку сітнага, кракаўскай каўбасы і некалькі шакаладных цукерак. Чым не банкет? Кастрычніцкі дождж толькі раздражнёна сыпануў услед парачцы жменю халодных пырскаў.

Алесь і Вераніка праслізнулі паўз дзядка-вахцёра, як два шкадлівыя нячысцікі-кручонікі. Яны сядзелі, прыціснуўшыся адно да аднаго, у такой вялізнай у цемры залі, і, халера, такой халоднай, пілі ліманад з цукеркамі і чакалі, калі сціхнуць апошнія галасы і крокі. Напэўна, гэта і было шчасце?

Нарэшце ўсё змоўкла, ліхтар за акном развешваў навакол прывідныя ромбы свайго святла, вялізны партрэт Сталіна сурова пазіраў з задніка сцэны.

— Чакай, зараз мы цудоўна ўладкуемся! — заявіў Алесь. — Тут, за кулісамі, мы ўчора склалі стары зялёны занавес. Ну як стары... Проста парторг паглядзеў і сказаў, што тэрмінова трэба чырвоны, каб не ўзнікала асацыяцый з контррэвалюцыйнай арганізацыяй «Зялёны дуб».

— Па такой логіцы трэба ўсе дубы на Беларусі выкарчаваць! — фыркнула Вераніка. — Ідыёт у фрэнчы... Правільна Дубоўка напісаў у сваёй паэме:

Ты думаеш, культура ходзіць
У портках ката слаўнае камуны,
У портках генерала Галіфэ?
Або у марынарцы ходзіць Фрэнча —
Другога ката, ката нашых дзён?

— Ш-ш-ш... — Алесь жартаўліва зірнуў у бок партрэта. — Зараз правадыр пачуе — і парторгу дакладзе. Памажы мне лепей...

Маладыя выцягнулі з-за кулісаў цяжкі сувой. Алесь таксяк зрабіў з яго падабенства ложка, падаслаўшы сваё паліто, залез між пыльных столак, як у кокан:

— Хадзі сюды... Сагрэешся.

— Ты што, здурнеў? — разгубілася Вераніка. — Проста на сцэне?

— А чаму не? Тут цяплей, чым унізе, а між партрэтам і кафедрай і не дзьме зусім. Давай... Паліто сваё здымі, замест падушкі прыдасца.

За акном праехала машына, святло ад фар зданню праплыло па столі. Машына, якая едзе так позна па горадзе, — гэта было для месцічаў ужо пудзіла горшае ад начніцаў, бо сведчыла аб жорсткай рэальнасці. Вераніка замерла, услухоўваючыся. Контру павезлі. Ці паехалі арыштоўваць? Колькі чалавек цяпер у Менску слепа ўглядаюцца ў ноч, чакаючы, ці не наблізіцца гуд матора, ці не спыніцца ля іхняга дома «чорны варанок»? У іх на Чыгуначнай ужо з двух дамоў забіралі... Але ж гэта здараецца з кімсьці, толькі не з табой, па невядомых, але важных падставах... Пра гэта немагчыма было, не хацелася думаць.

— Хадзі сюды!

Вочы Алеся здаваліся цёмнымі-цёмнымі, нібыта прагалы, упарты лоб святлеў, як мармур... Мёртвае аблічча... Вераніка страсянула галавою, каб адагнаць страшнае насланнё, і палезла ў неверагодны будан са старой тэатральнай заслоны. Там сапраўды было ўтульна і цёпла, і там чакалі моцныя і ласкавыя рукі Алеся... А варта падняць угору вочы — зверху навісаў партрэт Сталіна. Чамусьці дзяўчыне падалося гэта падобным, як бы яны ўляглі́ся ў егіпецкай пірамідзе, спаміж саркафагаў, ля падножжа статуі якога-небудзь Рамзэса.

А між іншым сёння ў іх першая шлюбная ноч...

— Мне здаецца, што я рыхтуюся скрасці тое, што мне не належыць, — са скрухаю прашаптаў Алесь. — Скажы мне, скажы, што не пашкадуеш!

— Калі не пашкадуеш ты...

— Ніколі!

Яго вусны палалі... Гузікі на кофтачцы аказаліся нязручна дробныя, і іх было занадта шмат...

Глухі грукат скалануў ноч. Потым яшчэ далучыліся шоргаты, стук дзвярэй... Да свядомасці маладых гэтае гукавое аздабленне дайшло не адразу, але гукі не змаўкалі, і над імправізаванай коўдрай прыўзняліся дзве галавы.

— Што гэта? — прашаптала Вераніка.

— Не ведаю, — напружана адказаў Вяжэвіч, абапёршыся на локаць.

Зноў грукат, ужо не такі моцны. Гэтай ноччу ў будынку ўніверсітэта яны відавочна апынуліся не адны.

— Перачакаем? — шапнула Вераніка. — Можа, сюды не прыйдуць?

Вяжэвіч пазмрачнеў.

— Баюся, гэта нядобрыя госці... Ну хто можа прыйсці ва ўніверсітэт у гадзіну ночы? І вось так нешта варочаць... Зладзеі!

— Або...ператрус?

Вяжэвіч правёў рукой па хвалістых попельных валасах, азірнуўся на партрэт.

— Калі так, то... могуць дабрацца і да нас. А калі зладзеі нешта пакрадуць, папсуюць, ці па-камсамольску адседжвацца? Прыйдзецца паглядзець. Ты, маленькая, сядзі тут... Я толькі пагляджу і вярнуся.

Ён лёгка пацалаваў яе ў вусны, і, не зважаючы на пратэсты, ціха саслізнуў са сцэны на халодны паркет босымі нагамі.

Праз шчыліну быў відзён цёмны калідор... Ага, вось яго прарэзала дарожка святла з адчыненых дзвярэй... Там, здаецца, кафедра славянскіх моў? Нехта выцягваў з кабінета цяжкую скрыню, напханую кнігамі. Потым выйшаў, выносячы яшчэ адну... Паставіў яе на першую... Постаць патрапіла на святло. І Алесь ад шалёнай нянавісці сціснуў зубы. Корб-Варановіч! Што ён тут робіць, зладзюга? Якія сляды замятае, што крадзе?

Каханне супроць нянавісці аказалася слабой прынадай. Вяжэвіч, не адказваючы на спалоханыя пытанні

Веранікі, ускочыў на сцэну, ліхаманкава апрануўся і, не зашнуроўваючы чаравікі, вылецеў на калідор.

Корб-Варановіч стаяў пасярод ярка асветленага кабінета, трымаючы ў руках тэчкі, вакол панаваў рэзрух — шкляныя дзверцы шафаў парасчыняныя, на стале скрынкі з карткамі, стосы кніг і папер... На твары лінгвіста імгненна адлюстравалася нянавісць Алеся.

— Што вы тут робіце, студэнт Вяжэвіч?

— Тое самае пытанне я магу задаць вам!

— Вы лічыце, маеце права на ўсё? — Корб-Варановіч кінуў тэчкі на стол. — У мяне дазвол універсітэцкай адміністрацыі забраць свае рукапісы, кнігі, картатэкі. Гэта ж цяпер непатрэбна беларускай навуцы. Я ж, як даказана вашымі намаганнямі, шавініст.

Алесь зласліва ўсміхнуўся.

— Што, з’язджаеце?

— З’язджаю! Прынамсі, ёсць яшчэ навуковыя ўстановы, дзе цэняць навуку, а не нацыяналістычную дэмагогію. А вы што, паназіраць прыйшлі, каб я не скраў універсітэцкае прэс-пап’е? Мала таго, што набраліся подласці даставаць маю жонку і сына...

Апанас Іванавіч ледзь выгаворваў словы, так душыў гнеў.

— Алесь, што тут?..

Толькі яе не хапала... У дзверы спалохана зазірала Вераніка, добра хоць, кофтачку паспела зашпіліць, але погляд Корб-Варановіча спыніўся на яе растрапанай касе, і ў вачах дацэнта з’явілася сапраўдная агіда.

— Яшчэ і дзяўчыне вырашыў жыццё папсаваць. Прэч адсюль, мярзотнік! Даносчык!

— Сам мярзотнік!

Алесь сам не заўважыў, як прыняў баксёрскую стойку. Корб-Варановіч зацікаўлена хмыкнуў, зняў акуляры, паклаў у кішэню пінжака і таксама падняў кулакі.

— Што, мазгоў не хапае на слоўныя аргументы? Ці перад гэтай няшчаснай вашай ахвярай пакрасавацца захацелася? У бабуінаў гэта прынята.

— Яна мая жонка! — Алесь, не памятаючы сябе ад злосці, нанёс удар... Які, праўда, прыйшоўся у паветра, затое Корб-

Варановіч у адказ «прыклаў» ворага ў плячо — Алесь паспеў трохі ўхіліцца, іначай атрымаў бы якраз у падбароддзе. Цяпер рэшткі цывілізацыі з абодвух мужчын сплылі, як вясновы лёд з ракі. Вераніка, здаецца, ледзь не благала дзесьці побач, спрабуючы спыніць бойку, але абодва так праглі выплюхнуць назапашаную за гады нянавісць, што ўсе словы былі дарэмныя, больш за тое — Алесь цьмяна прыпамінаў, як раўнуў на дзяўчыну нешта кшталту «Не замінай!».

Тым не менш, гэта было не дваровае тузанне, а сапраўдны двубой. Алесь хадзіў у секцыю боксу ўсяго тры тыдні, але старанна ўжываў тое, чаму навучылі. Корб-Варановіч таксама недзе засвоіў азы жорсткіх танцаў на рынгу. Абодва былі адной, магутнай, камплекцыі, можа, Корб-Варановіч трохі шырэйшы ў плячах. А тэмперамент дакладна выяўляўся аднолькавы. Ворагі паскідалі пінжакі, закасалі рукавы кашуль і круціліся па коле, пільна назіраючы адзін за адным. Удары межаваліся з рэплікамі.

— Нават калі вы мяне заб’яце, вам не ўдасца адарваць беларускую мову ад рускай! Яны з аднаго кораня, невук, запомні! — Корб-Варановіч размахнуўся. Пад левым вокам Вяжэвіча з’явілася чырвоная пляма.

— На беларускай мове пісаліся Статуты яшчэ тады, калі маскоўскі князёк з татарскіх рук еў! Мы еўрапейцы! Балты!

Вяжэвіч з усяе моцы ўдарыў у адказ. З правага брыва Корб-Варановіча выцекла кропля крыві.

— Вы скачаце пад дудку Пілсудскага! Уся гэтая пальшчызна толькі псуе яшчэ не распрацаваную мову! — былы выкладчык ухіліўся ад удару злева.

— Кажыце ўжо, як думаеце: дыялект. Вы ж не лічыце беларускую мову паўнавартаснай?

Алесь пацэліў ворагу ў плячо.

— Нацыяналістычны засценак!

— Шавініст!

— Даносчык! Навошта ездзілі ў Піцер?

— Я даносчык? А ці не з падтрымкі ДПУ ў вас такая смеласць з «нацыяналістамі» ваяваць? Што вы ў акадэміі нагаварылі на ўсіх?

Трапны ўдар у сківіцу Вяжэвіча.

— Я ніколі не быў стукачом!

Удар левай у галаву дацэнта.

— А хто даносы на Лёсіка і Ластоўскага пісаў?

— Гэта былі артыкулы! Аргументаваныя!

Студэнт атрымаў чарговую поўху ў левую выліцу.

— На вас таксама пісалі аргументаваныя артыкулы!

Выкладчык прапусціў удар справа.

— Вы не здольныя ацаніць тых аргументаў, у вас няма элементарных філалагічных ведаў.

— Яшчэ б, у мяне ж быў такі бяздарны настаўнік!

— Вас немагчыма нічому навучыць!

— А вы не можаце нічому навучыць!

Былы дацэнт і студэнт грунтоўна ўжо змалацілі адзін аднаго, пот, змяшаны з крывёй, заліваў вочы. Дый вочы не надта пазіралі, запухшы. Дыханне зрабілася хрыплым, так што на доўгія прыгожыя фразы абодвух баксёраў ужо не хапала. У цырку для гледачоў наступала б самая цікавая стадыя: хто першым зваліцца? Чые стаўкі выйгралі? Вераніка, адзіная глядачка, ужо даўно не назірала за бойкай, толькі ціха ўсхліпвала ў куце. Думка пра жаночы бокс, хутчэй за ўсё, болей не падавалася ёй прывабнай. Аркушы лёталі па пакоі, быццам серпанцін падчас карнавалу.

— А бо-ожачкі!

У дзвярах стаялі дзядок у кажуху — універсітэцкі вартаўнік — і маладзенькі бялявы міліцыянт, які трымаў у прыўзнятай руцэ наган. Дзядок спалохана пытаўся:

— Апанас Іванавіч... Таварыш дацэнт... Ды што ж вы тут робіце? Вы ж казалі, ціхенька ўсё будзе...

Алесь апусціў рукі... Гэта канец. Напад на выкладчыка. Што ж, ён не збіраецца лгаць і апраўдвацца! Толькі востры ўкол віны працяў пры думцы пра Вераніку... Паабяцаў абарону, называецца! Рыцар!

Корб-Варановіч між тым скрыжаваў на грудзях рукі са збітымі костачкамі і ганарыста закінуў галаву з акрываўленым брывом і падбітым вокам:

— Хіба мы каму-небудзь перашкодзілі? Я звальняюся і спецыяльна заяўляў, каб мне дазволілі сабраць свае кнігі ў гэты час, каб нікому не замінаць... А гэта мае студэнты, якіх я прасіў дапамагчы.

— Нешта дзіўна яны вам дапамагаюць! — недаверліва прамовіў міліцыянер, абводзячы запалымі светлымі вачыма разгромлены кабінет і расхрыстаныя постаці ўдзельнікаў мізансцэны, але ўсё-ткі схаваў наган у кабуру.

— Шафа выпадкова павалілася, кніжкі на нас падалі, цяжкія. — Корб-Варановіч, калі хацеў, мог зрабіць свой голас да агіднага фанабэрыстым і безапеляцыйным. — Але вы не хвалюйцеся, мы навядзём парадак. Заўтра ўсё будзе чыста.

Афіцыйны госць скептычна пасміхнуўся.

— Можа, і так. Але паспяшайцеся з чысцінёй — калі праз гадзіну не вызваліце памяшканне, усіх арыштую.

На развітанне дзядок-вартаўнік азірнуўся, акінуў вокам збітых на горкі яблык дуэлянтаў і прамовіў ушчувальна:

— Э-эх, людцы... А яшчэ браты...

Ні Вяжэвіч, ні Корб-Варановіч не зажадалі абвяргаць няправільныя высновы са свайго падабенства. У кабінеце запанавала няёмкае маўчанне. Яго парушыў Корб-Варановіч тым жа безапеляцыйным тонам:

— Вам запрашэнне патрэбнае? За працу бярыцеся!

Заплаканая Вераніка, пазбягаючы глядзець на недарэку-мужа, пачала збіраць з падлогі паперкі. Вяжэвіч, адчуваючы сябе апошнім нягоднікам (у адносінах, вядома, да жонкі, а не да дацэнта), падняў перавернутую скрыню з кнігамі.

Корб-Варановіч хутка перабіраў тэчкі, адначасова аддаючы па-армейску каманды сваім «памочнікам».

— Гэта я бяру з сабою... Гэта ў тую скрыню, для акадэміі... Гэта ў шафу. Манцэвіч, кнігі трэба ставіць роўна!

— Яна цяпер Вяжэвіч... — прабурчэў Алесь, ён пасля бойкі з цяжкасцю варочаў сківіцаю. Корб-Варановіч, які пакаваў чарговую кардонную скрынку, выпрастаўся:

— Дык вы не... сачынялі? І калі вы зарэгістравалі свой шлюб?

— Восем гадзін таму... — змрочна прамовіў Алесь, сам у сказанае слаба верачы. — Пасведчанне ў кішэні паліто... Магу паказаць.

Корб-Варановіч некалькі імгненняў, відаць, засвойваў інфармацыю, потым паглядзеў на Вераніку, якая з перабольшанай стараннасцю складала карткі, ігнаруючы мужчын,

спыніў позірк на незашнураваных чаравіках Алеся... Але, на дзіва, стрымаўся ад здзекаў і павучэнняў. Вымавіў толькі:

— М-да... Што ж, думаю, вы павінны прасіць прабачэння ў сваёй жонкі за такую... шлюбную ноч.

Алесь і сам гэта ведаў... І лічыў справядлівым, што на ягоныя нясмелыя спробы прымірыцца Вераніка толькі адварочваецца. На душы рабілася ўсё агідней і гарчэй, куды больш балючай, чым атрыманыя ўдары, тым больш што зваліць усе непрыемнасці на ненавіснага Корб-Варановіча, як бы ні было гэта спакусна, сумленне не дазваляла. Мог жа не кідацца на дацэнта, а вярнуцца да каханай... Але — сышоў ад яе ў такі момант, за які паміраюць! Ды такой абразы яна можа ніколі не даравацЬ... Правільна маці гаворыць: «Вас, Вяжэвічаў, трэба час ад часу ў палонцы вымочваць, як лён, не будзеце ўспыхваць ад найменшай іскрынкі».

Праз гадзіну кабінет быў зачынены, а стары зялёны занавес лёг сувоем за кулісы ў актавай зале (вядома, дацэнта ў гэты працэс Алесь не пасвячаў, сам збегаў, прыбраць раскіданыя рэчы і рэшткі «банкету»). Вяжэвіч дапамог вынесці скрыні, якія Корб-Варановіч падрыхтаваў забраць з сабою, і перажыў іранічны позірк дацэнта з нагоды баксёрскіх пальчатак, якія давялося зноў павесіць на шыю.

Вецер нібыта спадзяваўся затушыць адзіны на вуліцы ліхтар, а каб жыццё зусім не падавалася мёдам, імжыла. Вераніка, Алесь і Корб-Варановіч стаялі на ганку ўніверсітэта, і ноч была такой чорнай, што ёю, здавалася, можна мазаць колы, як дзёгцем. Да раніцы было яшчэ, як да сузор'я Валапаса.

— Куды вы цяпер? — начальніцкі голасам спытаў дацэнт. Па-чалавечы размаўляць ён, відаць, проста не ўмеў.

— Я хачу дамоў, — тонкім ад крыўды голасам прагаварыла Вераніка, і Алесь кінуўся шаптаць нягеглыя фразы наконт таго, як ён шкадуе аб сваіх выбрыках, і «ўсё будзе добра».

— А дзе вы жывяце? — папытаўся Апанас Іванавіч у Веранікі, нібыта на лекцыі пра спражэнне дзеяслова.

— На Цыгуначнай... — абыякава кінула тая.

— Далекавата... — гэтак жа абыякава адзначыў дацэнт і раптам прамовіў тонам, які не прадугледжваў пярэчанняў:

— Ідзем да мяне. Гэта літаральна праз два дамы, і адзін пакой у маёй кватэры вольны. Ну што гледзіце, як незасватаныя? Я што, сам павінен усе гэтыя скрынкі валачы?

Корб-Варановіч валодаў рэдкай здольнасцю нават добрыя свае прапановы падаваць, як плёскаць у твар воцатам, таму не было ніякай няёмкасці ўдзячнасці — яна не прадугледжвалася адпачатку.

Кватэра ў дацэнта аказалася абуральна вялікай, калі ўспомніць катух, у якім жылі ягоная жонка з сынам у Піцеры, але не дужа і шыкоўная ў параўнанні з кватэрамі прафесуры. Але пакоі сапраўды было два, асобныя, вітальня, кухня... Старая мэбля з цяжкога дрэва, лінялыя аксамітныя парцьеры з цяжкімі кутасамі з залачоных нітак... Усё гэта, як і кватэра, здавалася чужым і безаблічным і належала ўніверсітэту. А дабро Корб-Варановіча, як зразумеў Алесь, месцілася ў вялізным фанеравым чамадане, які стаяў напагатове ў вітальні, ды ў тых скрынках, што яны прынеслі з універсітэта.

Бутэлечка ёду была адна на дваіх, і люстэрка трумо таксама. Алесь і Корб-Варановіч дзелавіта мазалі свае баявыя раны, намагаючыся адзін перад адным не моршчыцца. Алесь, вядома, спадзяваўся, што яму дапаможа ягоная дама, але дама дэманстратыўна сышла на кухню, дзе важдалася з прымусам і імбрыкам. Раны свайго ветранага каханага яна відавочна не лічыла гераічнымі.

— Калі кахае, даруе, — спакойна прамовіў Корб-Варановіч, якому, відаць, надакучыла назіраць за перасмыканнямі свайго былога студэнта і нядаўняга праціўніка. Алесь паклаў на сподак перамазаны ёдам ватны тампон. Твар быў так сабе, для прыцемкаў.

— Я не павінен быў з вамі біцца, — змрочна прамовіў студэнт.

Корб-Варановіч прыгладзіў акуратныя вусікі, уздзеў акуляры і адышоўся ад люстэрка.

— Не пераацэньвайце свайго ўплыву на мяне. Я мог не ўступаць у бойку.

— Чаму ж уступілі? — гэта злосна папыталася Вераніка, якая выйшла з кухні з кубкамі на медным падносе.

— Дужа хацелася набіць пысу вашаму мужу, — спакойна адказаў Корб-Вараповіч.

— Цяпер задаволеныя? Абодва?

Пад вачыма нявесты заляглі цені стомы. Алесь і Апанас Іванавіч пераззірнуліся.

— Збольшага, — асцярожна адказаў Корб-Варановіч.

Вусны Веранікі затрэсліся, напачатку ад абурэння, потым ў яе пачаўся істэрычны смех. Паднос бразнуў аб стол, аж гарбата з кубкаў выплюхнулася.

— «Збольшага!» Божа мой! Дарослыя людзі! Можа, вам адразу на пісталетах? Вырашыце раз і назаўсёды свае пытанні...

— Хто ведае, можа, калі апынецца і так... — нечакана сур'ёзна адказаў Корб-Варановіч. — Калі жывеш у час пераменаў, невядома, як наступны раз сустрэнешся з сябрам ці ворагам. А цяпер... давайце адзначым вашае вяселле гэтай гарбатай і пайшлі адпачываць. — Памаўчаў, гледзячы на пачырванелых маладых. — У нас з Марынай таксама шлюбная ноч незвычайная была... У скляпенні.

— Як гэта? — здзівілася Вераніка.

— Ды так... Пайшлі вянчацца, і ў тую ж гадзіну палякі мястэчка занялі. А я быў у чырвонаармейскай форме... Абсурд! Ці мог я калі падумаць, што павяду сваю абранніцу да алтара ў апратцы з чырвонымі зоркамі! Але пераапранацца не выпадала. Не паспеў я пярсцёнак на руку нявесты надзець, на цвінтары — выбухі... Дык бацюшка нас там жа, у ройнаўскай царкве, у скляпеннях і схаваў. Да ранішняй службы прасядзелі. Пахавальныя пліты, надмагільныя скульптуры... Цалкавітая готыка.

Корб-Варановіч скасавурыўся на напружаны твар Алеся з падбітым вокам.

— Не, гэта не тое таемнае сховішча, пра якое ў нашай мясцовасці ходзяць чуткі і якое так настойліва шукаюць таварышы чэкісты. Царква як царква... Ваш бацька, Алесь, яе выдатна памятае. Дарэчы, яе ўжо рэквізавалі пад зернясховішча.

Голас дацэнта зрабіўся зусім нейтральным. Алесь раптам падумаў, што насамрэч Корб-Варановічу зусім не падабаецца

лёс храма, і ўвогуле ён не вытравіў з душы рэлігійны опіум, і ўвогуле невядома што з сябе ўяўляе, і як толькі яго, Алеся, занесла ў гэтае варожае логвішча... Ну і вяселле...

Ноччу яны з Веранікай проста трымаліся за рукі, і Алесь шаптаў словы кахання і маліў аб прабачэнні, аж пакуль Вераніка не заснула, але на яе вуснах лунала лёгкая ўсмешка, і Вяжэвіч зноў паверыў, што не зусім упусціў залатакосае сваё шчасце.

Яны сыходзілі вельмі рана. Заспаны Корб-Варановіч, у кашулі і нагавіцах з падцяжкамі, нават не зрабіў спробы ўсміхнуцца. Яго шэрыя вочы выпраменьвалі холад, ну і, можа, крышачку іроніі.

— Мы ўдзячныя вам... Але... — прагаварыў Алесь, сузіраючы разбітае брыво дацэнта.

— Але гэта нічога не мяняе, — холадна завяршыў ягоную думку лінгвіст.

— Так, — Вяжэвіч цвёрда зірнуў у твар, так падобны да ягонага і гэткі ж пабіты. — Я па-ранейшаму лічу, што вам не трэба было сюды прыязджаць. Што вы сваімі выказваннямі толькі справакавалі шкодныя для беларусаў спрэчкі, і нам гэта яшчэ адгукнецца. І сапраўднай беларускай мовай вы не валодаеце.

— А я па-ранейшаму лічу, што вузкі нацыяналістычны пагляд шкодзіць навуцы, — спакойна прагаварыў Корб-Варановіч. — А вы смаркач і невук.

Яны памаўчалі, празрыстая сцяна была непераадольнай.

— Ведаеце, — раптам ціха прамовіў дацэнт, — неяк я прачытаў пра адно выказванне Вальтэра... «Я не згодны з гэтым меркаваннем, але гатовы аддаць жыццё за тое, каб мой апанент мог яго вольна выказваць». Гэта вельмі высакародна і прыгожа... Баюся, што не зусім дарос да такога ўспрымання. Але што вы і вашыя куміры не дараслі яшчэ больш — таксама праўда. Пальчаткі не забудзьцеся...

Алесь адвярнуўся і адчыніў дзверы, а Вераніка — Вяжэвіч хацеў бы думаць, што яму на злосць, — раптам хутка пацалавала нягодніка Корб-Варановіча ў шчаку і, апярэдзіўшы Алеся, пабегла ўніз па лесвіцы.

І ім усім трэба было жыць далей. Трэба было б жыць...

Па яшчэ пустой і цёмнай вуліцы насустрач Вераніцы і Алесю няспешна, як сытая чорная пачвара, праехаў «варанок»...

І можна было не азірацца, каб упэўніцца, да якога дома ён зверне.

**Раздзел 8.**
**ПАДАРОЖНІКІ І КІНОШНІКІ**

Калісьці ўраджэнец вёскі Ключкі з-пад Бялынічаў Тадэвуш Падаліца апісваў, як праўдзівы беларускі шляхціц рыхтуецца да падарожжа.

Напачатку, тыдні за два-тры, ён і ягоныя будучыя спадарожнікі пачынаюць ад'ядацца. Не горш, чым барцы сумо. Таўсцеюць, мераючы жываты матузкамі. Трэскаюць вяндліну, запечаных гусей і пірагі з зайчацінай. Пацеюць над місай з заціркай. А хатнія тым часам робяць каўбасы, тушаць капусту з мясам, пякуць пірагі. У брычку «засупоньваюцца» клункі, мяшкі, валізы, так што яна пачынае нагадваць маёнтак на колах... А пасля — дарога з прыпынкамі ў кожнай карчме. За кожным слупом — новы свет. І з'яўляюцца падарожныя нататкі, кшталту «Перэгрынацый» Генрыха Вольфа з Цюрыха, які ў 1572 годзе ехаў на Беларусь праз Германію і Польшчу.

«Ляйпцыг. 4-га студзеня бачыў я вярблюда, паказваў яго на рынку тамтэйшы лекар.

31-га пан Сімонэ Сімані пачаў тлумачыць трактат «Аб гніенні».

2-га сакавіка пан Гітлер распачаў выклад кнігі «Аб душы».

А тады Вольф пераязджае на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага. І тут ужо расповеды, як берасцейскія сяляне ледзь згадзіліся вывесці яго з пушчы за апошні срэбны сыкгнет, як б'юць зуброў і мядзведзяў, і лаканічны запіс: «Магнаты п'юць з шапак».

У пасёлку Ройна пілі з пластыкавых шклянак, дакладней сказаць, «пластыковак». Прынамсі, пад кустамі ля закінутай капліцы іх было столькі, быццам яны там раслі, падобна бледным грыбам невядомай пароды.

А вось ад'ядацца, едучы сюды, можа, і варта было. Тады б вецер не змушаў што ні хвіля прыгінаць галаву і рабіць няпэўныя крокі ўбок. Паветра, якое не па-шляхецку штурхаецца, Асі нават фоткаць не жадалася, хаця фотаапарат матляўся на раменьчыку, перакінутым праз шыю, а сухое лісце, ужо болей падобнае на ашмёткі брунатнай паперы, старанна падкрэслівала ўсе павевы. Вядома, ні Вячка, гэткі сабе спрактыкаваны турыст, з нацягнутым на галаву капюшонам курткі і заплечнікам, ні тым болей масіўны Корб-Варановіч у скураной кяпурцы з апушчанымі вушамі і скураной жа куртцы, падобнай да лётчыцкай, такіх праблемаў не адчувалі... Тупалі размашыстым крокам, уяўляючы, магчыма, сябе героямі тэлеперадачы «Падарожжа дылетанта». Ветрам можа здзімаць толькі легкадумных паненак, як у аповедзе Яна Баршчэўскага. Праўда, там пані-інсекту, якую знесла ветрам ад даверлівага мужа, выявілі праз нейкі час у абдоймах суседскага пана...

Арсеніі больш за ўсё хацелася зараз апынуцца ў сваёй кватэрцы, на канапе, перад уключаным тэлевізарам... Хай бы віхор знёс яе адсюль, з гэтай вар'яцкай вандроўкі!

Тым болей ёй зусім не падабалася ўкліньвацца ў шумлівы натоўп, заняты нейкай агульнай справай, а менавіта такі сабраўся чамусьці перад сядзібным домам Ройна, які ўжо бялеў на даляглядзе калонамі — незадоўга да рэвалюцыі адзін з Сітавых, апошніх уладальнікаў, перарабіў сядзібу ў духу класіцызму. Мітынг там, ці што, сход сяброў кааператыва?

За спінамі вандроўнікаў нарастаў трактарны рокат, але яны нават не азірнуліся, шыбуючы па ўзбочыне — была ахвота вецер вушамі лавіць, а дарэмна — хутка ім давялося ўсвядоміць, што іх абганяе зусім не трактар ці нейкая іншая мірная сельгастэхніка, а... танк. Не надта новы, папраўдзе, хіба чырвоная зорка на брані намаляваная зусім нядаўна. Танк прагрукатаў у бок сядзібы, дзе адбывалася незразумелае дзейства, і цяпер можна было разгледзець людзей у вайсковай форме, чырвоныя сцягі і пражэктары, якія абмацвалі промнямі будынак і купку людзей на ганку.

— Прыехалі, спадарства, — працадзіў скрозь зубы Вячка, супаставіўшы пабачанае. — «Партызанфільм» здымае чарговы опус пра вайну. Ваша радавая сядзіба мае шанец праславіцца на кінафестывалі «Лістапад», спадар Даніла.

Корб-Варановіч замыкаў ад агіды.

А Арсенія дык нават зацікавілася... Нават прыспешыла крок. Яна ні разу ў жыцці не бачыла, як здымаюць кіно. Не, Ася ў прынцыпе ведала, чаго вартыя ўсе гэтыя серыялы, дзе артысты, пераходзячы з адной здымачнай пляцоўкі на другую па пяць разоў на дзень, могуць не ведаць, як завуць іх героя і што ён робіць у фільме. І тым болей ведала, чаго вартыя ідэалагічна вывераныя паробкі, якія мусілі ўвекавечваць з максімальна сціплым фінансаваннем вялікі подзвіг народа... Але дзяўчыне ну так хацелася спазнаць на сабе магію экрану, як часам самы скептык марыць сустрэць варажбітку, якая скажа ўсю чыста праўду...

Сядзіба, па фасадзе якой прайшоўся добразычлівы пэндзаль бутафораў, магла ўвасабляць наступствы бамбёжкі і без макіяжу. З-пад белай фарбы бачыліся воспіны чырвонай цэглы, калоны, здавалася, паабгрызаў не самы сыты цмок... Над уваходам вісела бялюткая прасціна з намаляваным чырвоным крыжам — менавіта так ва ўяўленні кіношнікаў абазначваў сябе палявы шпіталь. Калі ўспомніць, што па буднях у гэтых сценах цяпер рабілі кукурузныя палачкі, атрымлівалася ўвогуле нешта сюррэалістычнае.

Хударлявы фацэт з бакенбардамі і мікраскапічнай цёмнай бародкай, нібыта намаляванай, раўнуў на натоўп, і ўсё заварушылася: хтосьці нёс насілкі з параненым, хтосьці прыкурваў, а камера была скіраваная на бландзіністую медсястрычку, якая вяла на ганку сядзібы, напэўна, вельмі кранальную размову з параненым салдатам з перавязанай галавой. Да засмучэння Асі, ні слова з тае размовы не было ёй чутно, хаця яна пастаралася прабрацца ў першыя шэрагі цікаўнікаў, разам з ройнаўскімі падлеткамі. Рэдактарка шчыра думала, што ўсё будзе, як у тэатры. Але акцёры размаўлялі між сабою зусім ціха, нікольկі не клапоцячыся, каб іх чулі гледачы, не рабілі выразных жэстаў. Да таго ж перашкаджаў увесьчасны гуд і шум вакол. А яшчэ чым далей, тым болей

вярэдзіла недаўменне: падзеі, напэўна ж, мусілі адбывацца падчас вайны, каля лініі фронту, у перапынку між баямі, а на салдатах, якія, па ідэі, толькі што з акопаў, чысценькія адпрасаваныя гімнасцёркі, нават са складкамі ад прасаў, беленькія каўнерыкі. Штучная кроў глядзелася на гэтых гімнасцёрках зусім недарэчы. Бінты таксама былі бялюткія, боты блішчэлі, нібыта героі прыйшлі не з фронту, а з балю ў сувораўскай вучэльні. Прычоскі, твары і рукі нагадвалі пра касметычны салон. Арсенія з жахам разглядала нафарбаваныя да лялечнасці вейкі медсястры, блакітныя бліскучыя цені на яе павеках, памаду колеру «спакуса кабарэ»... Ды і на твары ейнага суразмоўцы з акуратнай павязкай на галаве нават здалёк бачылася касметычная тынкоўка. І гэта пасля фільмаў Турава і Пташука!

Рэжысёр скамандаваў «Стоп», і адразу ля камеры намаляваўся невысокі сіваскроневы мужчына ў пясочнага колеру плашчы і капелюшы. Твар мужчына меў пляскаты, невыразны і чырванаваты, а голас віскліва-важны:

— Альберт Аляксандравіч, трэба абавязкова дадаць крыві ў кадр! На павязцы галоўнага героя павінна быць выразная пляма! Гэта ж вайна!

— Добра, Леанід Паўлавіч, — пакорліва згадзіўся фацэт з піжонскай бародкай.

Ася падумала, што для натуральнасці трэба было б найперш змыць хаця б з медсястры макіяж і манікюр, але паслухмяныя асістэнты ўжо забегалі з балончыкамі чырвонай фарбы, як пачынаючыя вампіры, і шчодра прыкрашалі пад густ Дракулы псеўдапараненых. Галоўны герой атрымаў сваю чырвоную пляму на галаву.

— Матор!

Нехта тузануў Асю ззаду за куртку. Жэстыкуляцыя Вячкі ясна паказвала: калі сама адсюль не пойдзе, зараз выцягне гвалтам.

Ася незадаволена адарвалася ад відовішча. Пад старой таполяй чакаў Корб-Вđịарановіч, падобны да шляхцюка, якога зараз збіраюцца адлупцаваць на голай зямлі, не падсцілаючы дыванка. А гэта для шляхты ганьба нечуваная, бо без дыванка лупцуюць толькі мужыкоў.

— Леанід Калантай, сучара! — шыпеў граф, не адрываючы вачэй ад чалавека ў пясочным плашчы, здзівіўшы Асю брутальнай тэрміналогіяй. — Няўжо гэты падлюка і бездар у сцэнарысты падаўся?

— Хутчэй, у сааўтары ці кансультанты пралез, — змрочна патлумачыў Вячка. — Сцэнар адзін драматург забамбіў, Трубачоў, здаецца, прозвішча. А гэты ж у нас тыпу гісторык, па сумяшчальніцтве ідэолаг.

— Пайшлі адсюль... — злосна прамовіў Корб-Вярановіч. Але Ася замарудзіла, заазіралася. На здымачнай пляцоўцы пачаліся крык і мітусня. Кансультант Калантай голасна даказваў, што рука параненага байца, якога павінны былі праносіць на насілках перад галоўнымі героямі, выглядае непераканаўча. Баец быў увесь, акрамя вачэй, абматаны бінтамі, і па сюжэце толькі па ягонай працягнутай да гераіні руцэ ў ім апазнавалі ці то мужа галоўнай гераіні, ці то ейнага брата.

— У сцэнарыі напісана — скалечаная, пачарнелая рука салдата з заручальным пярсцёнкам. А гэта што? — Калантай падняў уверх канечнасць артыста, які ляжаў на насілках. — Такой рукой толькі на піяніна граць! Ніякі грым не дапаможа. Знайдзіце адметную, працоўную, баявую руку! Гэта ж не роля са словамі. Давайце любога з масоўкі, хто ў стане варушыцца.

Артыст нешта бубніў праз бінты, якія абмотвалі ягоны твар, але яго ўжо скінулі з насілак, як фальшывую мумію. Зорны час гэтага масоўшчыка незваротна скончыўся. Асістэнты забегалі ў натоўпе, разглядаючы рукі, рукі, рукі... Леанід Паўлавіч незадаволена круціў галавой, аглядаючы кандыдатаў.

— Не хочаце зняцца ў кіно? — задабральна прагаварыў высокі мужчынскі галасок. Корб-Вярановіч, не верачы, што звяртаюцца да яго, павярнуўся і пачаў ператвараць позіркам у попел маладзенькага асістэнта з доўгімі чорнымі валасамі, абматанага памаранчава-зялёным шалікам аж па вушы. Асістэнт схіліўся носам да рукі гісторыка, што трымала сумку.

— А, не, прабачце, не падыходзіце, — расчаравана прагаварыў асістэнт з шалікам, відаць, не знайшоўшы ў далані гісторыка патрэбнай пралетарскасці, і пашнырыў далей, так і не падняўшы (на сваё шчасце) вачэй на твар патэнцыйнага кандыдата. А то хто ведае — спапяліўся б яшчэ, як Семела перад Юпітэрам...

— Гадасць якая, — з пачуццём прагаварыў Корб-Варановіч. Ася і Вячка ціха кіслі ад смеху, намагаючыся яшчэ болей не раззлаваць ганарыстага гісторыка.

Гэта, аднак, зрабіў перабольшана радасны вокліч:

— Даніла Рама-анавіч! Каго я бачу! Калега!

Да Корб-Варановіча сунуўся Леанід Калантай, і не трэба было быць Станіслаўскім, каб распазнаць пад шырокай усмешкай забойчую порцыю нянавісці. Па Скрынічы і Асі кансультант слізнуў абыякавым вокам, як па статыстах. Беларускае гістарычнае фэнтэзі спадару Калантаю было, падобна, да фіялетавага ліхтара, і пісьменніка Вячку Скрыніча ён у твар не ведаў.

— Якім чынам? Да нас ці так, на сядзібу палюбавацца?

— Да вас мне няма аніякай справы, Леанід Паўлавіч. — Корб-Варановіч быў падобны да помніка самому сабе, такі застылы зрабіўся ягоны твар. Ну-ну, ведаем мы цану гэтаму ледзяному спакою... — Затое мне ёсць справа да нацыянальных культурных каштоўнасцяў, якім вы адмаўляеце ў праве на існаванне. Навошта паляўнічы дамок з вашай падачы зруйнавалі?

— Гучнае слова — «паляўнічы дамок», — скрывіўся Калантай. — Звычайны будан.

— З печкай васямнаццатага стагоддзя, аблямаванай унікальнай мсціслаўскай кафляй? З кашанымі кратамі расліннага арнаменту? З рэшткамі двухсотгадовага паркету? — ноздры Корб-Варановіча пачалі нядобра раздзімацца.

— З гніллём і ржой векавой даўніны, — са спакойнай здзеклівасцю паправіў Калантай, і Ася з жахам зразумела, што гэты дзядзька ў плашчы колеру сухога пяску выдатна разумее, як «завесці» гісторыка, і чамусьці менавіта гэтага і дамагаецца. — Трыццаць гадоў адзін вецер там гуляў — нікога не хвалявала. Ведаем мы вас, вы гатовыя бараніць

спарахнелыя бэлькі, абы давесці, што «ўсё гіне», благое начальства нішчыць помнікі. А што пры гэтым многа чаго будуецца, рэстаўруецца — не заўважаеце. На аб'ектыўнасці імя не зробіш. Лепей на выкрыванні ды ляманце. Як вы там у рэцэнзіі на маю апошнюю кнігу напісалі? «Замахваюцца на святыя муры гісторыі»? «Заядаюць кукурузнымі палачкамі сумленне»? А вось фільм гэты наш на святую тэму, пра Вялікую Айчынную, вас не цікавіць. Вы б хутчэй пра белабандыта Карыбутовіча, які па калена ў бязвіннай крыві, кіно знялі, ці не так, Даніла Раманавіч?

Вячка вылез наперад, адціраючы плячом Варановіча:

— Мы ўпэўненыя, што фільм на святую тэму знойдзе свайго гледача, шкада, часу не маем паназіраць за ягоным стварэннем. Мы тут так, праходзілі... Нас чакаюць пільныя справы.

Апошнія словы Скрыніч вымавіў з асаблівым націскам і ўзяўся за перадплечча Корб-Варановіча. Ага, так той і супакоіўся. Пасмяротны муж Ларысы Александроўскай скінуў з сябе Скрынічаву руку, як лось — маладзенькага харта:

— Зверстваў хапала. І з боку чырвоных, і з боку белых, і з боку зялёных... Чытаў дакументаў не меней за вас. І адказнасці з Карыбутовіча не здымаю. Але і гэта — частка нашай гісторыі, гэтак жа, як і паўстанне Каліноўскага, як бітва на Вядрошы і пад Воршай, Грунвальд... А вы ўсё, што было да рэвалюцыі, проста касуеце. А там жа свае героі і свае злачынцы, там — цэлая гістарычная Атлантыда, пра якую пісаць ды здымаць, ствараючы нацыянальны міф!

— Ды няўжо ж? Выпады палякаў супраць расійскай дзяржавы — гэта вам цікава... А вось гераічны подзвіг беларускага народа ў барацьбе з фашысцкімі акупантамі — бідаць, не так рамантычна, — працягваў цвеліць гісторыка кансультант.

— Мая бабуля са сваёй маці ледзь ад фашысцкіх карнікаў уратаваліся, у канцлагеры былі, пасля — у партызанскім лагеры... Мне не трэба даводзіць, што такое — фашызм, — вочы Корб-Варановіча палалі шэрым ваярскім агнём. — Але не трэба прыкрывацца балючай для кожнага беларуса тэмай, каб аддаваць забыццю тое, што перажылі ра-

нейшыя пакаленні! Ды толькі падчас Паўночнай вайны ў нас кожны другі загінуў! Гарады палілі, мірных жыхароў выразалі... Адных — за тое, што ўніяты, другіх — за тое, што праваслаўныя, трэціх — за тое, што тут жылі... Татары, шведы, маскоўцы, казакі, палякі... Усе патапталіся...

«Між Усходам і Захадам — круцяцца іх жарнавы — Перамелены лёсы, падзелены нават магілы...»

Калантай здзекліва папляскаў у ладкі, відавочна задаволены тым, што слухачоў у дыспуту (і сведкаў для патэнцыйнай міліцэйскай справы) дадалося.

— Трэба ж, які пафас! Гэта вам не трэба спекуляваць на мінулым, спадар. Такія, як вы, любому бандыту ўсё гатовыя дараваць, калі ён аднойчы назваўся барацьбітом за Незалежную Беларусь. А савецкую ўладу, без якой Беларусі не было б зусім, ва ўсіх грахах вінавaціце... У мяне самога дзед быў рэпрэсаваны, бязвінна расстраляны. І што, мне сябе ў грудзі пяткай стукаць — ах, я ахвяра рэжыму?

Корб-Варановіч ужо тросся ад праведнага гневу, ледзь пара не ішла.

— Вушам не веру, гэта вы пафас асуджаеце? Ды вы на пафасе і ідэалагічнай траскатні кар’еру сваю зрабілі!

— Вы называеце тэму Вялікай Айчыннай вайны ідэалагічнай траскатнёй? — голас Калантая быў мяккі, як шоўк, з якога скручвалася пятля. — І гэта гаворыць загадчык аддзела дзяржаўнай навуковай установы?

Асі зрабілася страшна. Няўжо шалёны граф не разумее, што ад яго толькі і чакаюць, каб сарваўся?

Шалёны граф не разумеў. І невядома, чым скончылася б гэтая сцэна, калі б не выбух, ад якога завібрыравала пад нагамі гразкая восеньская глеба.

— Што?.. — падскочыў Леанід Калантай. — Што яны вытвараюць, ідыёты? Я сігналу не даваў!

Яшчэ адзін выбух... Танк, які стаяў ля сядзібы-шпіталя, уздрыгваў, нібыта ад стрэлаў. А там, дзе заканчвалася поле, уздымаліся фантаны зямлі. Але фантанаў тых неяк было зашмат. Ася ўспомніла, што бачыла фільм пра тое, як здымаюцца падобныя сцэны. Стрэлы толькі імітуюць, а з дапамогай пульту ўзрываюць загадзя падрыхтаваныя закапаныя ў

зямлю запалы. Камера прагна здымала відовішча, мясцовая дзятва вішчэла ад захаплення.

— Стоп! Вашы піратэхнікі што, зусім здурэлі? Вы там усё сваё начынне ўзарваць вырашылі? Тут па сцэнарыі адзін танк страляе! І хіба не бачыце, што сінхроннасці няма! — Калантай лысаватай Немезідай ляцеў да рэжысёра з прыклеенай бародкай.

Вячка з усіх сілаў тузануў гісторыка за руку.

— Дзіцячы сад пры неўралагічным аддзяленні! Пайшлі адсюль, альбо я ў наступным раздзеле рамана апішу, як ваш прадзед прымусы ў камуналцы краў!

Скрыніч, нягледзячы на жартоўныя словы, таксама раззлаваўся наўсур'ёз, нават гісторык гэта зразумеў і дазволіў сябе звесці, хаця і сычэў пры гэтым нешта страшнае і няўхвальнае.

Ася подбегам рушыла па жухлай траве і вясковых лужынах за дзвюма ахвярамі гістарычнай памяці і гадала, наколькі б яе ўзрадавала відовішча пабітага арыстакрата Корб-Варановіча. Відовішча, несумненна, было б прыемнае... Але калі б пры гэтым таварыш Калантай атрымаў двайную порцыю кухталёў, было б яшчэ прыемней. А то цяпер адчуванне, як быццам праехала побач машына і абліла цябе тванню з лужыны. І пацалуй яе ў бампер...

...У шэрым-шэрым небе, над шэрай-шэрай зямлёй, ляцелі шэрыя-шэрыя хмары, і маленькі белы самалёцік, патрапіўшы між імі, таксама зрабіўся шэрым-шэрым і з усяе моцы кінуўся ўцякаць у бок сонечных турэцкіх берагоў, дзе зможа вярнуць сабе сваю бель, і ніхто з ягоных пасажыраў у гэты час не шкадаваў, што злятае адсюль.

— Якая прыгажосць! — у гэты час мройна прамовіў Вячка, азіраючы панылыя ройнаўскія краявіды з зааранымі ўзгоркамі, купкамі бярозак-соснаў, з нежылой хатай закінутага хутара, крытай дранкай, з няшчасным калгасным конікам, што цягнуў барану на нечым пустым гародзе... Ася недаверліва паглядзела на аўтара фэнтэзі і зразумела: ён сапраўды ва ўсім гэтым бачыць прыгажосць! І Корб-Варановіч расчулена паглядае вакол і цалкам салідарны са сваім лялькаводам...

Рэдактарка нават пазайздросціла: чаму вось ёй зараз толькі холадна, шэра і непамысна, а гэтыя атрымліваюць эстэтычнае задавальненне? Гэтак чалавек, якому не дадзена кахаць, пазірае на закаханых, шчаслівых ужо ад погляду адно на аднаго...

Корб-Варановіч быў у іх за сталкера, і Асю гэта трохі непакоіла. Зараз уцягне ў гісторыю... Завалачэ да мясцовых апазіцыянераў, арганізуе пікет у абарону радавой сядзібы, а пасля яе, Арсенію, з «Сокала-прынта» за саўдзел, як казюрку раздушыць, звольняць. Адна справа — сысці з горда ўзнятай галавой, іншая — калі выкінуць, як анучу з коміна, а ў цябе крэдыт... Вячку, вядома, хоць бы што... Падбухторвае ды радуецца, Петроній з Серабранкі. Як кажуць на вёсцы, дзяўчыне — вяселле, а карове смерць.

Але ў хаце за акуратным зялёным плотам, куды прывёў іх Корб-Варановіч, жыла толькі старая настаўніца. Дабрэнная бабуля сямідзесяці гадоў з каротка стрыжанымі сівымі валасамі і выцвілымі вачыма, у старым джынсавым камбінезоне і чамусьці ў ружовых гумовых боціках з палосамі чорна-белых ромбаў.

— Унучка пакінула, калі пасля вакацый у горад ад'язджала, — патлумачыла Аляўціна Пятроўна, заўважыўшы цікаўны позірк Арсеніі. — Сказала, што за лета перарасла культуру эма.

Арсенія міжволі хіхікнула. Яна заўсёды весялілася, калі бачыла падлеткаў, якія спрабавалі касіць пад модную плынь эма, апранаючы ружова-чорна-белае, робячы пірсінг дзе толькі бачна, хаваючы вочы пад даўжэзнымі чорнымі грыўкамі і пры гэтым відавочна не прачытаўшы ніводнай старонкі Дастаеўскага. А між тым, калі гэты рух пачынаўся, яго ідэалогіяй лічыліся творы Дастаеўскага з рэфлексіўнымі, эмацыйна-дэпрэсіўнымі героямі... А ўсё звялося да ружовых боцікаў і прымітыўных благанняў эстрадных хлопчыкаў пра тое, што ўвесь свет — дзярмо...

Вельмі новая выснова.

Добра яшчэ, што разумненькія ўнучкі сельскіх настаўніц гэта ўсё перарастаюць.

Аляўціна Пятроўна — вось ужо не навіна! — была адданай прыхільніцай раманаў Вячкі Скрыніча і ад прысутнасці такога госця пачувалася, як на святой гары. На стале з'явілася патэльня з яешняй са скваркамі, нарэзаная паляндвіца, салёныя гурочкі і бутэлька сухога малдаўскага віна «Лідзія», якую Корб-Варановіч выгрузіў са сваёй элеганцкай сумкі. А яшчэ дастаў цэлы стос літаратурных і гістарычных часопісаў і кніг... За якія Аляўціна Пятроўна расцалавала «Даніка» ў абедзве шчакі.

Хата была абстаўленая напалову па-гарадскому, напалову — па-вясковаму... «Сценка» з тэлевізарам, куфар, накрыты посцілкай... Гліняныя медалі ў гонар беларускіх дзеячоў, партрэты пісьменнікаў, падшыўкі беларускіх выданняў... На сцяне вісеў склееныз двух ватманаў вялізны плакат з назовам «Кароткая гісторыя Ройна». Наклееныя выразкі з газет і фотаздымкі, подпісы рознакаляровымі фламастарамі... Пачэснае месца, вядома, займаў радавод Корб-Варановічаў. Род Сітавых таксама прысутнічаў, заканчваўся на штабс-капітане, які пасля рэвалюцыі з усёй сям'ёй з'ехаў за мяжу. Род самой Аляўціны Пятроўны вёўся ад заможных сялянаў, большая частка якіх была раскулачаная і згінула ў Сібіры. Подпіс пад адлюстраваннем невялікага драўлянага дома з дзвюма калонамі на ганку і мансардай змусіў сэрца Асі забіцца хутчэй: «Сядзіба А. Вяжэвіча, ляснічага. 1890-я гады. Урочышча Звяркі, ваколіцы Ройна». А побач — партрэт лабастага светлавалосага хлопца, відавочна фрагмент нейкага агульнага фотаздымка: «Алесь Вяжэвіч, паэт. 1908–1938». Справа — выява чалавека з такім жа ўпартым ілбом і адкрытым позіркам, з цёмнымі валасамі і вусікамі: «А.І. Корб-Варановіч, філолаг. 1892–1938». Вось цікава, паляўнічы дамок, відаць жа, у лесе, і сядзіба ляснічага мусіць быць у лесе... Выходзіць, і Вяжэвічы, і Корб-Варановічы — гэткія лясныя самотнікі? Ася пашукала ў сабе пакліканне да пушчанскіх нетраў, і не знайшла.

— Як бачыце, усё можна даведацца пра свой радавод, трэба толькі сапраўднае жаданне, — гэта апошні Корб-Варановіч з'едліва пракаментаваў. Арсенія злосна прыкусіла

губу. Ментар... А дзе ж ты сам на плакаце сваёй знаёмцы? Не заслужыў?

Подпіс «Д. Р. Корб-Варановіч» выявіўся... Але пад фотаздымкам хлопчыка гадоў пяці. Бялявенькі хлопчык, лабасты, у белай кашульцы з «матылько м» і чорных шорціках, прыціскаў да сябе скрыпку і быў такі спалоханы, такі няшчасны... І ягоная ўсмешка відавочна была спароджаная суровым загадам дарослых усміхнуцца.

— Гэта вы? — папыталася Арсенія, не ў апошнюю чаргу спадзеючыся засмуціць фанабэрыстага гісторыка. Удалося. Корб-Варановіч раздражнёна сціснуў вусны, за яго адказала Аляўціна Пятроўна:

— Так, гэта Данік! Такім я яго першы раз пабачыла — на конкурсе юных талентаў у Мінску! Я павезла туды двух сваіх вучняў, і Данік там быў... Такі разумненькі, такі таленавіты хлопчык! А як прозвішча яго дазналася — адразу знаёмства з ягоным бацькам завяла. Раман Паўлавіч Корб-Варановіч, інтэлігентны чалавек, настаўнік музыкі, шкада, памёр рана. Таксама радаводам сваім цікавіўся. Усе сілы на выхаванне сына аддаваў! Без маці ж гадаваўся хлопчык... Так і пасябравалі. Я да іх ездзіла ў Мінск, яны да мяне ў Ройна, на радзіму продкаў... Я канцэрты Даніка арганізоўвала ў клубе... Усе проста млелі! Як ты іграў, Данік!

Гісторыка чамусьці перасмыкнула, і ён пераключыўся на другое:

— Галоўнае, дзякуючы Аляўціне Пятроўне, я зацікавіўся гісторыяй.

Вячка, відаць, адчуў, што зноў можна дабрацца да саменькіх параненых нерваў героя:

— А чаму музыку кінулі?

— Таму. Перабраў я ў свой час музыкі, — скрозь зубы прагаварыў Корб-Варановіч, кінуўшы ненавісны позірк на спадчынніцу Вяжэвічаў, хаця пытанне задала не яна, а Скрыніч. — Лепей па справе пагаварыць... Што вы думаеце, Аляўціна Пятроўна, наконт легенды пра падземную царкву і двух братоў?

— Ох, Данік... Гэтай падземнай царквою нас усіх у свой час замучылі, — нечакана адказала настаўніца, сярдзіта

падціснуўшы вусны. — Не праходзіла і некалькі гадоў, як улады, якія яны там ні былі, пачыналі месцічаў трэсці: дзе таемнае бандыцкае сховішча? Немцам і тое нехта даклаў, шукалі партызан пад зямлёй... Але калі хто і ведаў — мне не сказалі. А ты мне таксама не сказаў, што ў цябе ёсць такая прыгожая сваячка. Каб ты старэйшы быў — я б падумала, дачка?

Апошняя фраза прагучэла з няўпэўнена-запытальнай інтанацыяй. Гісторык і Ася з аднолькава збянтэжанымі і абуранымі фізіяноміямі загаварылі, узаемна перабіваючыся, наконт абсалютовага недачынення адно да аднаго.

— Гэта Арсенія Вяжэвіч, з тых Вяжэвічаў, што ў вас былі ляснічымі, — патлумачыў Скрыніч, якога сітуацыя шчыра весяліла. Аляўціна Пятроўна праззяла.

— Вось падарунак ты мне, Данік, зрабіў! Такія госці! Далібог, упершыню на душы лягчэй стала пасля таго, як гэтыя навалачы дом тваіх продкаў парушылі... Калантай жа нездарма сюды кіношнікаў сваіх прывалок — у яго доля ў кукурузных палачках, вам кожны ройнавец скажа. А на месцы паляўнічага дамка ён свой зараз збудуе, вілу над штучным возерам. Яму тое месца дужа спадабалася. Да вайны там хоць нарыхтоўчая кантора была, пасля новую пабудавалі, вось і закінулі дамок. Мы хацелі там музей зрабіць — не далі... Чакалі, покуль зусім усё валіцца не пачне. Вось яны, новыя ўладары... А леснічоўка, што тут на фотаздымку, таксама знішчаная. Яшчэ падчас вайны — немцы спалілі, партызанаў шукалі. Апошні Вяжэвіч, ляснічы Антоні, жыў у ёй напачатку дваццатага стагоддзя. Ягоны сын паступіў у медыцынскі інстытут, з'ехаў у горад — і з канцамі... Як у моладзі заведзена. Яшчэ ведаю, ягоны ўнук вершы пісаў. Знайшла некалькі вершыкаў, здымак, зроблены на з'ездзе «Маладняка»... Але ўсё на гэтым. А род, аказваецца, прадоўжыўся! Жывуць ройнаўцы! І хто вы, таксама гісторык?

— Не, я літаратурны рэдактар, — з няёмкасцю адказала Ася, шчыра спадзеючыся, што ніхто з яе спадарожнікаў не вымавіць назвы «Сокал-прынт», якая на свядомых беларусаў рабіла абсалютова пэўнае ўражанне, і да чалавека з гэтай адыёзнай установы адносіны ўтвараліся таксама пэўныя.

Пасля рытуальных фразаў захаплення патэнцыйнымі творчымі здольнасцямі Асі, якія дабрадушная настаўніца проста не магла не агучыць, Скрыніч жалезнай воляй дэміурга павярнуў размову да свайго рамана. Але нават разгляданне срэбнага распалавіненага кубка не ўнесла яснаты. Нават Аляўціна Пятроўна, відаць, стамілася ад спрэчак і пайшла пазавіхацца па гаспадарцы. Арсенія не магла не выказаць расчаравання.

— Прабач, Вячаслаў, але ў тваіх раманах на гэтай стадыі ўсё заўсёды высвятляецца. Гэткі навуковы савет герояў — і калі ласка, месца на карце вылічылі, скарбы адкрылі. А тут — і тастамент сярэднявечны, і легенда, і артэфакт з таямнічымі малюначкамі... І нічога.

Скрыніч адкінуў з ілба доўгую грыўку.

— Я, можа, таксама хацеў бы, каб было, як у рамане. Вось толькі не атрымліваецца. Пракляты кубак... — Вячка раздражнёна зірнуў на злашчасны артэфакт. — Між іншым, гэта не мая радавая таямніца. Добра, з цябе, Ася, узяць няма чаго. А няўжо вы, Даніла Раманавіч, не можаце хоць нешта прыдумаць пра гэтых лемпардаў-хартоў? Вось жа, царква выбіта... Вершнік некуды мячом паказвае... Што вы, дурнейшы за сваіх продкаў? Думайце!

Корб-Вcovaravіч узяў фамільны скарб у рукі:

— Калі дадумваць мінулае — атрымаецца тое, што мы з вамі сёння назіралі на здымачнай пляцоўцы. Прабачце ўжо, не магу вам распісаць маршрут да апошняй купіны. Якім чынам вылічваць? Звер можа ўказваць на урочышча Звяркі... Хорт, скажам, на паляўнічы дамок... Па-любому месца, дзе магла б знаходзіцца падземная царква, і па легендзе вядомае: там, дзе зараз поле, насупраць галоўнай сядзібы. Вось толькі катакомбнага хрысціянства на Беларусі не прыпомню. У шаснаццатым стагоддзі царкву не маглі будаваць пад зямлёй. Так, яна была праваслаўная — але праваслаўе тады мела на нашых землях магутных абаронцаў: Алелькавічы, Астрожскія... Радзівілы і Хадкевічы фундавалі праваслаўныя цэрквы, хоць былі ў асноўным кальвіністамі. Пасля ўжо, у васямнаццатым стагоддзі, і царква святога Язэпа ў Ройне стала

ўніяцкай, потым — касцёлам, а тады — зноў праваслаўным храмам, пасля рэвалюцыі — зернясховішчам, а калі адно скляпенне засталося — бульбасховішчам... А ў ВКЛ жылі ўсе рэлігіі — і праваслаўе, і каталіцызм, і пратэстанцтва, і юдаізм...

— Так ужо мірна ўжываліся?.. — не дала веры Ася.

— Не так ужо мірна, але на фоне нецярпімасці ў той жа Масковіі, Нямеччыне ці Іспаніі з іхнімі інквізіцыямі — тут, на скрыжаваннях Еўропы, было проста вальнадумства, — брыдкім фанабэрыстым тонам патлумачыў гісторык. — Магнаты ўвогуле веру мянялі, як вопратку. Згадайце, у тастаменце майго продка загадваецца не рабіць шкоды веры «вартаўнікоў лесу» Вяжэвічаў. Тым больш не магу ўявіць, што пабудаваную царкву нехта, не падчас ваенных дзеянняў, а з рэўнасці разбурыць. Хутчэй гаворка ўсё-ткі пра ўсыпальніцу ці капліцу. І ўвогуле — чаму мы прычапіліся да малюнкаў на кубку? — Корб-Варановіч перавярнуў срэбную штуковіну. — Вось гэтая падстаўка васьмікутнай формы дзейнічала як ключ. Устаўлялася ў адтуліну на камені...

— Гэта вы фільмаў пра Індыяну Джонса нагледзеліся! — фыркнула Арсенія. — Магчыма, кубак меў такое вялікае значэнне для ўладальнікаў, бо калісьці выкарыстоўваўся як пацір, для прычасця. — На дзяўчыну сышло натхненне. — І тое, што такі сакральны сасуд нехта рассек напалам, магло адбыцца толькі ў надзвычайных абставінах. Падчас вельмі важнай трагічнай падзеі...

— Напрыклад, забойства Язэпам Варановічам свайго старэйшага брата Юрыя Варановіча з дапамогай вернага слугі Вяжэвіча! — прапанаваў версію Вячка. — Таму Вяжэвічам гаспадары і давалі прывілеі — за саўдзел у злачынстве. Таму і ненавідзелі — як сведкаў. І часткі кубка былі напамінам пра агульную таямніцу!

Версія актыўна не спадабалася Корб-Варановічу, якому за гонар роду было крыўдна. Нічога, на крыўдлівых ваду возяць... Ася не бачыла нічога заганнага ў тым, каб стацца нашчадкам якой-небудзь сярэднявечнай лэдзі Макбет беларускага разліву.

— Гэта таму, што ў вас адмерла гістарычная памяць! — безапеляцыйна заявіў Корб-Варановіч.

— Гэта таму, што я шаную сваіх продкаў усялякіх! Думаеце, яны ўсе павінны быць героямі?

— Ды каб і былі — вы іх не ведаеце. А прычынай — абыякавасць і непісьменнасць...

Ася адчула, як кроў кінулася ў галаву. Гліняныя медалі, развешаныя на матузках па сценах настаўніцкай хаты, завібрыравалі...

— Прабачце, але калі хто зацыклены на гонары роду — неадменна няздзейснены сам па сабе!

Дзесьці на варыўні імбрык пачаў закіпаць на выключаным агні.

— У такім выпадку лепшыя людзі свету былі такімі няздзейсненымі! А быдла заўсёды самадастатковае...

Валасы графскага нашчадка калмаціліся, як ад ветру. Арсенія так крутанула свае пярсцёнкі, што два зляцелі на стол, груканулі, закруціліся, быццам хацелі ў паніцы схавацца.

— Мне падалося, ці вы толькі што аднеслі мяне да катэгорыі быдла?

— Гэта не я вас аднёс! Вы разважаеце, як уласціва гэтай распаўсюджанай катэгорыі!

— Вы проста самазакаханы індывід!

— Не пераацэньвайце мяне, мне да вас у гэтым плане далёка...

Ася ўскочыла і зрабіла крок да ворага.

— Вы атрымліваеце задавальненне, калі прыніжаеце людзей! Прызнайцеся!

Корб-Варановіч таксама ўскочыў, як грэшнік з гарачай патэльні.

— Паверце, таго, хто мае ўласную годнасць, нельга прынізіць! А мяне найбольш раздражняе, калі людзі не цэняць таго, што ім дадзена! Ламаюцца пры першым подыху ветру! У вашых апавяданнях у «Маладосці» было шмат наіву, шмат пачаткоўскага пераймання, але было галоўнае — шчырае жаданне нешта данесці да чытача, здольнасць бачыць

тое, што не бачаць іншыя... І куды яно падзелася? Чатыры гады прайшло — што вы напісалі?

Арсенія разгубілася... Корб-Варановіч чытаў ейныя аповеды! За якія самой сёння сорамна...

— А можа, я проста зразумела, што пісьменніцы з мяне не атрымаецца?

— А можа, вам проста не хапае самаахвярнасці? Бог даў здольнасці, але ж развіваць іх цяжка. Славы не чакаецца, грошай не плацяць... Таму на табе, Божа, назад гэты крыж, у мяне плечыкі баляць!

Каля сядзібы здымалі чарговыя сцэны фільма пра вайну ў адпрасаваных гімнасцёрках, кабанчык Аляўціны Пятроўны дажоўваў вараную бульбачку, усе самалёты з Беларусі ў Турцыю на сёння адляцелі, а Вяжэвіч і Корб-Варановіч так глядзелі адно аднаму ў вочы, што каб між іхнімі поглядамі паставіць шкло — трэснула б... Каламутная, застаялая, старажытная нянавісць віравала ў двух шэрых позірках, Арсеніі падалося нават, што іх з гісторыкам прыцягвае адно да аднаго, як супрацьлегла зараджаныя металёвыя плыты... Дзяўчына апамяталася ад таго, што Корб-Варановіч трымае яе за запясце — няўжо яна замахнулася на паскудніка? — і ягоныя сківіцы сціснутыя да рыпення. І яе ўсю пераварочвае ад гэтага дотыку...

І тут у кішэні гісторыка зайграў паланэз Агінскага...

Ася ўжо ведала, што Корб-Варановіч пачуе па сваім мабільніку. Ларыса Пампееўна Александроўская выдала чарговыя рулады. Арсенія пачала супакойвацца. Падабрала са стала пярсцёнкі... Змеявік і кашэчае вока... Вось жа, найшло! Ніколі так не «заводзілася». Тым больш на старэйшых. Чаму адзін выгляд графскага нашчадка так на яе дзейнічае? Ды і ён на яе спакойна глядзець не можа...

Былая спадарожніца графскага жыцця працягвала спяваць. Вусны Вячкі перакрывіла з'едлівая ўсмешка. Ася зразумела, што раманіст зараз страшэнна злосны, відаць, з-за збою ў развіцці сюжэту.

— І чаму вы развяліся з такой неардынарнай жанчынай? — бязвінным тонам папытаўся Вячка, варта было Корб-Варановічу скончыць песенную размову. Той сабраўся

адмаўчацца... Але Скрыніч быў настроены на карыду. Пазайздросціў, ці што, гарачай дыскусіі сваіх спадарожнікаў?

— А гэта ж сюжэт рамана! Маладая жонка-спявачка карысталася вялікім поспехам у прыхільнікаў і калегаў. Творчая натура... Тэмперамент... А муж — у гістарычных архівах корпаецца, амаль што бухгалтар... Нецікава. Яна нават дзяцей ад яго не хацела. І тым болей не цярпела кантролю, абмежавання волі... А ён кахаў, хадзіў следам, упрошваў... А яна спявалася, апускалася да выпадковых сувязяў...

Чаму Скрыніч так здзекуецца? За Асю вырашыў заступіцца?

— Не вашая справа! — Корб-Варановіч паставіў срэбны кубак на стол, нібыта ўпячатаў, ажно дзве паловы, змацаваныя гумкай, ссунуліся адна ад адной. Значыць, раманіст патрапіў у самую болевую кропку. — Да вашага будучага твора мае адносіны з Анжэлай не маюць дачынення!

Вусны гісторыка небяспечна дрыжэлі.

— А чаму яна захапілася вобразам Александроўскай? Не якой-небудзь Палінай Віярдо?

Корб-Варановіч збіраў рэшткі ўраўнаважанасці, відавочна не жадаючы раўсці на свайго куміра, як дагэтуль на рэдактарку з «Сокала-прынта». Ася мімаволі смакавала прыніжэнне графчыка. Вось і пакутуй за гонар роду, як дэкляраваў.

— Яшчэ студэнткай Анжэла патрапіла ў майстэрню да славутага скульптара Заіра Азгура. Той шукаў мадэль для нейкага афіцыйнага заказу... І да яго вадзілі студэнтак знаёмыя выкладчыкі з тэатральна-мастацкага інстытута, фізкультурнага, ну і з кансерваторыі... А Азгур усіх бракаваў пад разважанні, што ў сучасных жанчын зусім папсаваліся прапорцыі, і не знойдзеш класічнай, гарманічна развітай фігуры... У якасці прыкладу паказваў скульптуру Александроўскай: вось тут утвараецца ідэальна роўны трохкутнік, між смочкамі грудзей і цэнтрам ямінкі пад шыяй... А вось тут залатое сячэнне... Сапраўдная жанчына! Так у Анжэлы і ўтварыўся ідэал...

— Значыць, Азгур і вашу будучую жонку збракаваў... Нуну. Цікава, а ў цябе, Ася, падобных комплексаў няма? Як у цябе з залатым сячэннем? Праверым?

Ася ўздрыгнула ад нечаканасці. Гэта да яе? Скрыніч зноў выяўляўся такім самым хамлом, як калісьці на выставе, калі прапаноўваў Асінай сяброўцы наручнікі. Але Арсенія была ўжо мудрэйшая. Калі Вячка гэтак бессаромна сцябаецца, хоча схаваць нейкія пачуцці. Цікава, што на гэты раз яго так завяло? Іхняя з Корб-Варановічам спрэчка? Проста тое, што не могуць разгадаць таямніцу кубка? А Скрыніч кідаў жорсткія драпежныя позіркі то на Данілу Раманавіча, то на Арсенію, нібыта не мог выбраць, хто з іх болей яму варожы.

Добра, Аляўціны Пятроўны няма, давялі б старую да інфаркту.

— Вячаслаў, перастань! — Арсенія надала голасу належнай упэўненасці. — Давай вернемся да нашых продкаў.

— Ланцуг роду неперарыўны, як на бачку ад унітаза! — блазнаваў Скрыніч. — Сучасныя нашчадкі мне гэтак жа цікавыя, як і іх продкі. Хаця і дэградавалі, як прапорцыі жаночых фігур. — Скрыніч спыніў позірк на дзяўчыне. Позірк нейкі незразумелы, тужлівы, які не зусім вязаўся з яго здзекліва-паблажлівым тонам. — Пачынаеш пісаць, і не ведаеш, што выйдзе. Цікавая гераіня атрымліваецца ў маім рамане. Строіць з сябе незразуметую інтэлектуалку, а сама ўсё працуе і працуе ў ідэалагічна правільным выдавецтве, дапамагаючы розным Калантаям абгрунтоўваць знішчэнне беларушчыны. Дзіва што ні мужыка ў яе няма, ні таленту...

Корб-Варановіч нешта абурана загуў, але Скрыніч як не пачуў.

— Што з такой гераіняй далей рабіць? — Вячка пазіраў спадылба, скрозь чорную грыўку, выгаворваючы словы, нібыта яму было балюча. — Катарсіс ёй арганізоўваць, пераацэнку жыццёвых каштоўнасцяў? Але як? Яна ж нават пакахаць не можа. Чужых пачуццяў у бінокль з трох крокаў не заўважае. Можа, падкажаце, як сюжэт далей карэктаваць?

Арсенія адчула, што ў яе перахоплівае дыханне. За што ён з ёю так? Ды яшчэ на вачах Корб-Варановіча! Не, яна не паддасца! А Скрыніч бязлітасна працягваў:

— Дарэчы, адна наша з табой, Ася, агульная знаёмая, Волечка — памятаеш такую? — на незалежнае радыё пайшла! І я ёй усё-ткі даў інтэрв'ю, з задавальненнем!

Гэта ўжо занадта... Адразу граф, цяпер гэты... Гэты... Да якога яшчэ не ўсё перагарэла, не мані самой сабе, малявалася ж, як пасля напісання раману ўспыхне полымя пачуццяў.

Ася выдатна разумела, што Скрыніч спецыяльна даводзіў яе да зрыву, намацваючы самае балючае, як і з Корб-Варановічам. Што гэта патрэбна для ягоных пісьменніцкіх маніпуляцый... Але нічога не магла з сабой зрабіць. Вячка сказаў пра яе праўду. І з гэтай праўдай сядзець тут гэтак жа невыносна, як з самай добразычлівай муміяй...

Не, якія ўсё-ткі ўсе мужыкі сволачы!

Зараз пачнуць супакойваць, абмотваць нератамі слоў, спаконвеку прызначаных для істэрычных баб, і змусяць адчуць сябе менавіта такой істэрычкай... Ну чаго ты ўсхадзілася, малая, падумаеш, сказалі ёй нешта!

Ася паднялася, намагаючыся захоўваць спакой, мармытнула пра тое, што ёй трэба на двор, у сенцах схапіла куртку і... Сутыкнулася на двары з Аляўцінай Пятроўнай, тая нешта пыталася... Потым пачуліся галасы Вячкі і Корб-Варановіча... А рэдактарка ляцела скрозь прыцемак, а ён імкліва згушчаўся, быццам кісель з чарніц, які паставілі на агонь. Ляцела з усёй даступнай хуткасцю, на фізкультуры так не бегала, і хваліла сябе за нелюбоў да абцасаў, і абы далей, далей, далей... Мільганула думка: здаецца, аўтобусны прыпынак за сядзібай, ля таго месца, дзе парэшткі зруйнаванай царквы... Ці ходзяць яшчэ аўтобусы, Ася нават не гадала. Каб скараціць шлях, ірванула праз поле, як зацкаваны заяц. Справа бялелі калоны старой сядзібы. Кіношнікі, мабыць, з'ехалі, танка не відно. Удалечыні цямнела палоска Ваярскага лесу, у якім калісьці жылі яе продкі. А пад нагамі тварылася лясун ведае што — поле толькі здаля здавалася роўным. Арсенія пачала ў прыцемку спатыкацца што ні крок, цяжкія чаравікі-берцы вайсковага ўзору чапляліся за нейкія карэнні... Хутчэй, хутчэй! Тым болей за спінай усё гучней клікалі ненавісныя галасы. Хоць скрозь зямлю праваліся — у адчаі і безнадзейнасці падумала Ася...

І правалілася.

**Раздзел 9.**
**КАРНАВАЛ ПЯТАГА КОЛА**

Калісьці Дантэ прыдумаў свой план пекла.

У пятым коле, дзе Стыгійскія балоты, Дантэ змясціў душы ўгневаных. Іхнія глоткі забітыя тванню, каб яны не маглі болей лаяцца. Зразумела, пакрыўджаны жыццём фларэнтыец не мог не змясціць туды душы сваіх палітычных праціўнікаў — а няхай ведаюць, як лаяцца ды выганяць з радзімы паэтаў...

Алесь Вяжэвіч быў пэўны, што ў гэтым сырым, як парыжскія катакомбы, катуху любыя палітычныя спрэчкі таксама скончыліся б тванню ў горле, як у пятым коле Дантавага пекла. Твані тут хапала. Халодная смярдзючая жыжа — амаль па шчыкалацць... На сценах жывапісныя рагі цвілі — Леанарда да Вінчы быў бы ў захапленні. Якія хочаш сюжэты можна ў вычварных пацёках уявіць...

А ён, Алесь, сваю ранейшую камеру, набітую вязнямі так, што на адных нарах даводзілася спаць утрох, лічыў пеклам... Што значыць — усяго два тыдні турэмнага стажу. Усё пазнаецца ў параўнанні. Там хоць нары былі, а тут толькі тры драўляныя цурбаны, ды яшчэ абсечаныя наўскос, каб зняволены не мог прыдрамаць, надзейна седзячы... Ну а што хацець — карцар! Але тут жа Вяжэвіч успомніў, як яму расказвалі і пра іншыя карцары, якія тут ёсць... Напрыклад, пра каменны мяшок — нішу ў сцяне, куды ставілі чалавека. Ні павярнуцца, ні рукі прыўзняць, ні выпрастацца... І замыкалі. На суткі, на двое, на трое... Часам — у поўнай цемры, часам проста ў твар свяціла зыркая лямпачка... У параўнанні з падобным — гэты карцар што? Курорт! Праўда, Алесь думаў, што апынецца адзін. І ніяк не чакаў суседа... Ды шчэ якога — сам Леанід Калантай! Былы супрацоўнік наркамата знешніх зносінаў, такі заўсёды элеганцкі, такі ўсюдыісны, у прэзідыумах ззяў, як новы медаль... І на табе — разам з маладым выкладчыкам педтэхнікума ў карцары. Праўда, у адрозненне ад Алеся, у якога ўжо пачалі ад холаду нямець босыя ногі, Калантай быў у ботах, дый фрэнч, хаця брудны і смярдзючы, усё-ткі цяплейшы, чым Алесева кашуля, ды яшчэ ўся парваная падчас апошняга допыту. Алесь мімаволі

завёў руку за спіну, памацаць шнары — ці ўсё яшчэ сочацца крывёй... Аднакамернік зараз жа пачаў выказваць спачуванні і абурэнне на адрас недазволеных метадаў следства... Алесь абмежаваўся кароткім:

— Нічога, разбяруцца...

У пятым коле гняўлівым словам няма месца. Усё-ткі два тыдні — таксама тэрмін для не зусім дурнога чалавека, каб засвоіць такія-сякія правілы выжывання... У тым ліку як паводзіцца з такім занадта балбатлівым і вальнадумным суседам, якому дужа карціць дамагчыся тваёй шчырасці.

Та-ак, нагледзеўся за два тыдні... Алеся і цяпер перасмыкае, калі ўспамінае спухлы ад пабояў, зарослы шчэццю твар Міхася Зарэцкага ці падбітыя вочы і ссутуленую па старэчы постаць свайго былога дэкана... Таму адбілі ныркі, і ўвогуле ўсё адбілі так, што той па-сабачы скавытаў ад болю, калі трэба было справіць малую патрэбу. А ў першы дзень Алесевага зняволення ў іхнюю камеру шпурнулі чалавека толькі што з допыту. Увесь збіты, скрываўлены, няшчасны мог толькі мыкаць і хапацца за вушы рукамі з садранымі пазногцямі... Пасля Алесь даведаўся, што следчыя любілі гэтым завяршаць допыты — у вушы паддоследнага ўстаўлялі зробленыя з аркушаў паперы рупары і штомоцы крычалі, змяняючы адзін аднаго, гадзінамі... Алесь толькі са слоў іншых з жахам усвядоміў, што гэты напалову сівы небарака — паэт Міхась Чарот, чые партрэты школьніцы па ўсёй Беларусі мройна ўклейвалі ў свае альбомы...

Якім ён сам стане праз яшчэ пару тыдняў? Месяц? А мо і год такога пекла? І бацька не вылечыць... Але няхай з ім зробяць што заўгодна — абы сюды не патрапіла Вераніка... Абы не зачапіла яе гэтая крывавая віхура... Як яна там з дачушкай? Ірынка... Маленечкая, бялявенькая, а як хораша таньчыць!

Самае страшнае для Алеся было — сустракацца на допытах са сваімі сябрукамі і чуць з іх разбітых вуснаў, што ён, Алесь, — нацыянал-фашыст і вербаваў іх у антысавецкае падполле, якое ачольвалі Гікала, Галадзед, Чарвякоў і Жылуновіч. Алесь зрываўся, пярэчыў, абураўся... Неабламаны яшчэ! Таму і апынуўся тут, у карцары. А ця-

пер, успомніўшы пра Вераніку і дачку, уявіў: калі б іх сюды прывялі, пад рулі наганаў, пад бізуны... а такое было цалкам магчыма... Ці ўстаяў бы ён? Ці адмовіўся б даваць паказанні на сяброў?

Засталося спадзявацца, што Вераніка праявіла мудрасць і зрабіла, як ён наказваў: жыве на кватэры ў Кунцаўшчыне, пры школцы, дзе выкладае, сюды нават не суецца, і як мага хутчэй падала на развод...

Вяжэвіч успомніў іхняе неверагоднае вяселле сем гадоў таму і сумна засмяяўся... Ён тады шчыра верыў, што іхні шлюб уберажэ яе ад цікавасці органаў! Наіўны!

Калантай адразу ж пачаў распытваць, што развесяліла суседа? Што ён такое прыпомніў? Можа, нешта з банкету з нагоды 30-годдзя творчай дзейнасці Якуба Коласа? Вяжэвіч жа там быў?

— Не памятаю... — прабурчэў Алесь і паспрабаваў падціснуць пад сябе змерзлыя ногі, уладкаваўшыся на хісткім цурбанчыку. І як тут спаць? А ўжо двое сутак сну і ў адным воку не было...

Раптам да дзвярэй карцара падышлі, нехта зазірнуў у закратаванае акенца, забразгалі засовы...

— Устаць, падлы!

Вяжэвіч не паверыў бы сваім вачам, каб за гэтыя дні не ўпэўніўся, што тут магчыма ўсё. У камеру штурхнулі высокага плячыстага дзядзьку з упартым ілбом і фанабэрыстым поглядам шэрых вачэй. Апанас Іванавіч Корб-Врановіч! Былога дацэнта добра патрапала турэмная машына. Ён таксама быў босы, у адной парванай кашулі невызначальнага колеру, уся ў закарэлай крыві і брудзе. Нагавіцы таксама ператварыліся ў вартыя жалю ашмёткі. Што Алеся ўразіла ў знешнасці былога выкладчыка — калісьці цёмныя валасы як прысыпаныя снегам і адраслі да плеч, неахайная барада, ледзь не як у Рабінзона Круза. Толькі трымаецца па-ранейшаму ганарыста, хаця фанабэрыя змяшаная з панурасцю. На Вяжэвіча ледзь зірнуў... Падобна, усё яшчэ ненавідзіць. Пятае кола пекла — якраз для гняўлівых.

Леанід Калантай радасна падскочыў да новага суседа:

— Апанас! Вось не чакаў цябе тут пабачыць! Ты ж нібыта на пасяленні ў Ханты-Мансійску... Якім чынам? І адразу ў карцар... Ну, характар у цябе не змяніўся... Зараз усё раскажаш... Чакай, мэблю табе пастаўлю... Якраз і былы вучань твой тут, пазнаеш?

Пакуль Калантай мітусіўся з так званай мэбляй, Корб-Варановіч, які дагэтуль не зрабіў і спробы прывітацца з Алесем, сустрэўся з тым позіркам і запытальна кіўнуў у бок былога сябра і дарадчыка. Алесь, зразумеўшы, крануў пальцам вусны... Дзяцел побач, заторкніся, салоўка. Нечакана Корб-Варановіч слізнуў у бок Калантая і, пакуль той быў павернуты да яго спінай, націснуў яму некуды на шыю... Былы супрацоўнік наркамата знешніх зносінаў змоўк на паўслове, як выключанае радыё, і ціха споўз на мокрую цэментавую падлогу. Корб-Варановіч акуратна прыўзняў яго, пасадзіў проста ў лужыну, прыхінуўшы да сцяны.

— Ну, вось, з гадзінку часу ў нас ёсць...

І працягнуў Вяжэвічу руку.

— Вітаю!

Алесь агаломшана паціснуў руку былому апаненту. Першы і апошні раз у жыцці.

— А што вы з гэтым... Калантаем... зрабілі?

Корб-Варановіч усміхнуўся ў бараду і ўсеўся на вызвалены цурбан, нібыта на каралеўскі пуфік.

— Крымінальнікі навучылі. Ачуняе і нічога не ўспомніць.

Алесь не стаў распытвацца, дзе гэта выхаванец акадэміка Карскага змог пераняць крымінальны досвед. Абодва нейкі час памаўчалі — і столькі змясцілася ў гэтых некалькіх хвілях маўчання, што яны здаваліся нязносна цяжкімі, бы кроплі лавы.

— Як ваша жонка? — парушыў маўчанне Корб-Варановіч.

— У Кунцаўшчыне... Дачцы пяць гадоў... — лаканічна адказаў Алесь. — А вашыя як?

— Марына да мяне ў Саратаў прыехала, хоць я і быў супраць. Калі мяне ў Ханты-Мансійскую вобласць саслалі, у Югру, таксама рвалася за мною... Але туды сваякам дарогі няма — на шчасце. Хаця Марына ледзь не прабілася. Уяўляеце, да самага лагера дайшла, дзесяць вёрст па тайзе,

нават пасылку з сухарамі і цыбуляй нейкім цудам мне перадала. Яна ў мяне адчайная... Зараз, напэўна, у Ленінград вярнулася з Паўлікам. Я два гады быў у лагеры. Лес валілі...

Корб-Вярановіч глядзеў на свае рукі... Алесь таксама зірнуў і жахнуўся: у былога дацэнта не хапала двух пальцаў, а тыя, што засталіся, належалі ніяк не чалавеку разумовай працы. Пазногці абламаныя, чорныя, скура парэпаная...

— Пальцы я адмарозіў, — проста патлумачыў Корб-Вярановіч, не ўдаючыся ў падрабязнасці.

— Але да лагераў вы ўсё-ткі сталі прафесарам?

— Так, і нават загадчыкам кафедры пабыў у Саратаўскім універсітэце. А вы?

— Я тры гады як выкладаю ў педтэхнікуме, — ціха прамовіў Алесь, і нязжытая туга па тым, іншасветным, жыцці сціснула сэрца.

— Ведаеце, некаторы час маім падначаленым быў Ластоўскі, яго таксама саслалі, — Корб-Вярановіч сумна ўсміхнуўся. — Я тады яшчэ не перагарэў, напісаў заяву на звальненне... Не хацеў працаваць з ім побач.

— Разумею... — апусціў галаву Алесь.

— Дзіўна, — да Корб-Вярановіча вярнуўся з'едлівы тон. — І вам болей не хочацца адправіць мяне ў накаўт?

— Гэта і без мяне ёсць каму тут рабіць, — адказаў Алесь, і абодва горка засмяяліся.

— Чым гэта скончыцца? — раптам вырвалася ў Алеся. — Чаму так усё?

— Т-с-с... — прашыпеў Корб-Вярановіч. — Ад такіх пытанняў адразу намагайцеся пазбавіцца. І ў думках, і ў размовах. Табу! Пасля... тыя, хто выжывуць, пачнуць шукаць адказы. Я спадзяюся — што пачнуць... Магчыма, вы будзеце сярод іх, Алесь. А для мяне ўсё скончана. Я адсюль не выйду.

Вяжэвіч зразумеў, што пярэчыць і суцяшаць не выпадае. Суразмоўца проста ўпэўнены ў тым, што гаворыць.

— Я — як вы з сябрамі і прадказвалі — іду ў іх як вялікадзяржаўны шавініст, а заадно агент японскай разведкі. А вы? Нацыянал-фашыст? Агент дэфензівы? Што ж... У мяне ў бараку быў выкладчык лаціны, які прызнаўся на допыце, што ён агент Карфагена і Вавілонскага царства.

Каму справа? Трэба ўсвядоміць, што адпаведнасць нашых прызнанняў ісціне і шчырасць нашых раскайванняў насамрэч не маюць ніякага значэння. Мае значэнне толькі колькасць выкрытых ворагаў і «расколатых» вязняў. Вы чулі, Вяжэвіч, што новы кіраўнік беларускага НКУС Берман загадаў, каб тут кожны дзень вымагалі прызнання ад аднаго-двух арыштаваных? Любымі сродкамі. Так што адзінае, што магчыма ў такой сітуацыі, — пацягнуць за сабой паменей людзей.

Корб-Варановіч раптам зайшоўся ў прыступе пакутлівага кашлю, і Алесь зразумеў, які суразмоўца насамрэч выснажаны і змучаны. На адной фанабэрыі трымаецца... Вось жа — у карцар загрымеў. А можа, гэта называецца пачуццё годнасці?

Тут такога панятку няма.

Былы дацэнт перастаў перхаць, дыханне вырывалася з ягоных грудзей з нядобрым свістам. Але Варановіч не рабіў нават спробы прыўзняць з халоднай вады пасінелыя ногі.

— Слухайце, Алесь... У нас мала часу, і калі ўжо ўдалося хоць крышачку выйграць яго ў гэтых... Я павінен распавесці... тым болей шанец у вас сапраўды ёсць — ваш бацька на добрым рахунку ў наркамаце, я ведаю... Бо тое, што я мушу расказаць, закранае і вас. Вы — Вяжэвіч. Вы з Ройна.

— Ды я сто гадоў у тым Ройне не быў! — запярэчыў Алесь.

— Не важна... У вашай сям'і захоўваецца палова старажытнага срэбнага кубка...

— Адкуль вы ведаеце? — падазрона спытаў Вяжэвіч.

— У маім родзе таксама захоўваецца такая палова. Пацір, рассечаны мячом і аддадзены нашым продкам на захаванне. Насамрэч гэта — ключ... Ключ ад той самай таемнай царквы, пра якую ўсе пыталіся.

— І... дзе яна? — схаладнеў Алесь. А раптам стукач — не толькі Калатай, але і дацэнт, дакладней, прафесар? З чаго б такая шчырасць? Але Корб-Варановіч цвёрда адказаў:

— Прабач, я не скажу табе, як туды патрапіць. Не ў тым мы месцы, каб грузіць адно аднаго небяспечнымі звесткамі. Усё роўна што валіць свае куфры з уласнага прабітага чоўна на іншы, у якім не меншая прабоіна. Але нехта яшчэ павінен ведаць... маю гісторыю... Я не хачу зносіць яе з са-

бой у магілу. Сябру было б распавесці цяжэй... А вы і так пра мяне немаведама што думалі, якія ўчынкі прыпісвалі... Вас не ўразіць ніякае маё злачынства... Чакай, праверу, як наш сябар пачуваецца.

Дацэнт прайшоўся, хлюпаючы босымі нагамі па вадзе, да Калантая, што мірна прытуліўся да сцяны, памацаў...

— Дрыхне...

Забраўся на свой цурбанчык, правёў рукамі па твары.

— Проста слухай і нічога не пытайся. Я зараз скажу... пакуль магу... І болей да гэтай тэмы мы ніколі не вернемся, нават калі і будзе магчымасць. Гэта было ў 1919 годзе. Клецк пераходзіў з рук у рукі, я быў то чырвонаармейскім упаўнаважаным, то настаўнікам мясцовай гімназіі, то «старэйшым ваўкалакам» у атрадзе Карыбутовіча... Што вы так на мяне гледзіце? Апрануў мундзір месяцы на тры... Лаўрын Карыбутовіч мог завабіць. Распавядаў пра ВКЛ, пра дух беларускай вольнасці, пра аднаўленне Беларусі ад мора да мора... Марку трымаў, маўляў, «ваўкалакі» — гэта вам не савінкаўцы і не балаховічаўцы, а высакародныя беларускія ваяры, абаронцы простага люду. Але аднойчы я даведаўся, што некалькі чалавек з нашага атрада, а там жа шваль усялякая прыбівалася, самавольна спрычыніліся да пагрому, што ўтварыла іншая банда... А я гэтую жывёльную нянавісць да іншаверцаў проста не зношу. І на месцы Карыбутовіча расстраляў бы паганцаў на месцы, як толькі даведаўся. А ён проста адчытаў іх... Нешта тлумачыў пра талерантнасць у новым Вялікім Княстве, якое абавязкова будзе створанае... Вядома — не хацеў саслабляць атрад. Але ягоныя высокія словы назаўсёды страцілі для мяне прывабнасць. Я сышоў ад тых «ваўкалакаў»... Пасля на нейкі час паверылася, што пры бальшавіках магчыма нацыянальнае адраджэнне. Марына нарадзіла... А ў атрадзе Карыбутовіча мяне лічылі дэзерцірам. Асабліва пагарджаў мною Марынін брат, Сяргей Паўлючыц. Яму было сямнаццаць, усе рэвалюцыі свету трымаліся менавіта на такіх юнаках... Ён шчыра верыў ва ўсё, што прамаўляў Лаўрын, і не даваў веры таму, што магло збіць з яго атамана німб. Сяргей з Марынай разам гадаваліся, і жонка вельмі ім даражыла. Апекавалася амаль

па-мацярынску. І вось, калі ўжо ўсталявалася савецкая ўлада і я на нейкі час пераехаў з жонкай і дзіцем у Ройна, вядома, каб быць падалей ад сведкаў, якія маглі здаць мяне ЧК, да мяне ўночы, крадма прыйшоў Сяргей... Каб не безвыходнае становішча — нізавошта не наведаў бы здрадніка. Але іх засталося шасцёра з атрада, яны аказаліся якраз у маіх ваколіцах і іх абклалі, як ваўчыную зграю, а ў іх меліся параненыя... Сяргей неяк чуў мае разважанні пра родавыя таямніцы, пра старажытныя дакументы, якія я знайшоў, звесткі пра таемны храм, у якім хаваліся інсургенты — Варановічы... Чуў, як я зачытваў легенду, якую меркаваў уключыць у будучы зборнік... Карацей, ён запатрабаваў, каб я адкрыў ім шлях у падземнае сховішча. Дарэмна я папярэджваў, што гэта небяспечна, што ў тым сутарэнні гадоў пяцьдзясят ніхто не быў, ад часоў апошняга паўстання, і механізм, які адкрывае дзверы, можа быць папсаваны... Ён абазваў мяне баязліўцам. Пагражаў, што прывядзе ўсіх сюды, яго сястра абавязкова іх схавае. І я... навучыў яго. Я хацеў, каб ён сышоў... Каб усе яны пакінулі нас у спакоі. Раз і назаўсёды. Ён паабяцаў гэта — нават у выпадку няўдачы са сховішчам. І я даў яму ключ... Разумееце, каб адкрыць дзверы, патрэбны цэлы кубак... Тады яшчэ я не ведаў, дзе можа захоўвацца другая палова. Ды і каб ведаў — застрэліўся б, не пайшоў да Вяжэвічаў. Але нашы продкі дарэмна былі ўпэўненыя ў непаўторнасці кожнага свайго вырабу. Не так цяжка было сагнуць з мосенжу нешта падобнае да падстаўкі таго паціра, дакладна тых самых памераў. Сам я дзверы не адмыкаў, не да таго было, толькі месца знайшоў. І ніхто ў цэлым свеце болей пра гэтае месца не ведае. Я ўручыў яшчэ Сяргею трохі прыпасаў і пастараўся выкінуць гэты візіт з галавы. Я быў пэўны, што дзверы яны не адчыняць.

Я мог пайсці праверыць іх сховішча назаўтра... Праз дзень... Праз тыдзень... Але я не пайшоў. Марына ляжала з бранхітам, маленькі Паўлік патрабаваў догляду... Новая ўлада апантана шукала ворагаў, а мы ж былі «былыя». Нашчадкі граф’ёў. Адсочваўся кожны крок. Я меў некалькі непрыемных візітаў да чэкістаў. Хаця... ніякія апраўданні тут не дарэчы.

Праз месяц Марына папыталася, ці не чуў я штосьці пра Сярожачку. І я сказаў — «Не». Узяў кошык для грыбоў дзеля апраўдання вандроўкі і адправіўся... туды, дзе сховішча.

Яны ўсё-ткі адчынілі дзверы... Замураваны князь адгукнуўся на іх просьбу. Але выйсці назад не змаглі. Яны дасюль ляжаць там разам з таямніцай нашага роду. І ляжаць будуць павек. Так, я ведаю, што мусіў іх выцягнуць, пахаваць па-хрысціянску... Хаця б забраць іхнія дакументы... Але я... не змог. Учыніў, як апошні баязлівец, — замкнуў сутарэнне і сышоў.

Я нікому нічога не сказаў, тым болей жонцы. Ці мала чалавек гінула ў тых віхурах? Але мне цяпер паміраць з гэтым. Святара тут не прадугледжваецца, так што... Вось мая споведзь. Калі выйдзеш адсюль, раскажы ўсё Марыне. Так, гэта жорстка... Але хай яна ведае, што жыла ўвесь гэты час з нявартым чалавекам. Ёй будзе лягчэй перажыць маю смерць і знайсці сваё шчасце з іншым. Будзе каму па-хрысціянску спамянуць загінулых. А калі яна мяне прабачыць — маёй душы будзе так лёгка, як не было тут, на зямлі. Бо я ўжо амаль дваццаць гадоў уяўляю сабе, ледзь не штоночы, як яны там паміраюць...

Корб-Варановіч зноў закашляўся, і Калантай заварушыўся, неўразумела азірнуўся, стаў на ногі... Ён быў малы, лысы, мокры і разгублены.

— Ну ты, браце, і спіш! — удавана весела прамовіў дацэнт, здушыўшы кашаль. — Сеў проста ў лужыну — і захроп. Тут такія парушэнні дысцыпліны праходзяць?

Калантай злосна азірнуўся, на Вяжэвіча, на былога сябрука, на ўласныя мокрыя штаны... Пацёр шыю... І адчайна закалаціў у дзверы, увесьчасна кідаючы позіркі на Корб-Варановіча, нібыта чакаючы, што той зноў яго ўкладзе спаць.

У камеру ўварваліся трое.

— Ты, і ты! — чарнявы вартаўнік тыцнуў пальцам на Калантая і Вяжэвіча, — На выхад! А ты, контра, сядзець! — раўнуў у бок Корб-Варановіча.

Былы дацэнт і ягоны былы вучань не развіталіся нават позіркамі. Няхай каты застаюцца ва ўпэўненасці, што шавініст і нацыяналіст па-ранейшаму варагуюць.

Турма жыла сваім нялюдскім жыццём, напоўненым болем, нянавісцю і крыкамі. Калантая павялі далей па калідоры, а Вяжэвіча ўпіхнулі ў маленечкі пакой справа. Кінулі чаравікі, чыстую кашулю, пінжак... Нават кальсоны. Прынамсі, падлога тут была сухая, і замест цурбанаў — нары... Алесь з задавальненнем расцёр знямелыя ногі. Пераапрануўся, абуў чаравікі — якраз па памеры... Прайшла гадзіна, дзве... На якое кола Дантавага пекла яго кінуць далей? Дзверы расчыніліся, вязня зноў некуды павялі, цяпер ужо на другі паверх. Тут былі не камеры, а кабінеты. Зноў допыт? У пакоі, утульным, цёплым, нават з парцьерамі на закратаваных вокнах, з паркетнай падлогай і ляпнінай на столі насустрач падняўся з крэсла турэмны лекар.

— Тата!

Старэйшы Вяжэвіч змрочна глядзеў на сына.

— Падпісвай пратакол, і пайшлі...

— Які пратакол? Куды... пайшлі?

Справа, за пісьмовым сталом, сядзеў малады нкусавец, сыты, як млынарова карова, і з засяроджаным выглядам чытаў нейкія паперы. Ён і падазваў Алеся.

— Вось тут распішыцеся.

Вяжэвіч недаўменна наблізіўся. Схіліўся над аркушамі... Гэта была распісаная па рэпліках ягоная нядаўняя размова з Корб-Варановічам.

— Давай, Алесь, падпісвай... Цябе вызваляюць. — адрывіста прагаварыў старэйшы Вяжэвіч.

Увушшу выкладчыка педтэхнікума зашумела, нібыта зноў нехта роў яму ў вушы праз папяровыя варонкі.

Вось чаго ён чакаў дзве гадзіны — пераздымалі стэнаграму!

— Я не хачу...

— Заторкніся! — скрозь зубы прашыпеў лекар і сілай уклаў у руку сына пяро. — Удалося паўдзельнічаць у раскрыцці ворага — радуйся. — І дадаў яму на вуха амаль бязгучным шэптам. — Калі табе на нас з маці напляваць, падумай пра жонку з дзіцем. Ну!

Алесю падалося, што зямля сыходзіць з-пад ног. Так і бачылася, як Корб-Варановіч, прачытаўшы імя пад пратаколам, крывіць вусны і шыпіць з пагардай: «Вяжэвічы...»

І цяпер ён цалкам будзе мець падставу адносіцца да іх з пагардай... Але як жа гэта?... Няўжо сусед па карцары іх з прафесарам падмануў?

А гэта выйсце...

— Няхай Калантай падпісвае.

— Пры чым тут ён? Калантай абмішурыўся, як дурань, — патлумачыў з брыдкай усмешкай нкусавец. — Даў сябе адключыць гэтаму белагвардзейцу... Так што ваша дапамога неацэнная, Вяжэвіч. У тым карцары акустыка добрая, але мы не ведалі дакладна, хто праб'е гэтага хітравана на шчырасць: былы сябар ці былы вораг. Колькі гадоў не маглі раскалоць яго наконт бандыцкага логвішча! Трымаўся, як сталёвы, некаторыя следчыя нават паверылі ў версію наконт «проста легенды». І вось, калі ласка — за паўгадзіны вам удалося! — нкусавец пакруціў светлавалосай галавой, як быццам яму далі пакаштаваць нешта смачнае. — Вядома, шкада, падрабязнасцяў не выцягнулі... Але гэта ўжо справа тэхнікі. Цяпер расколем суку, як гнілы арэх! Але ж трэба, як гэты ваш контрык... сваіх жа... ажно шэсць штук умарыў!

Службовец шчыра зарагатаў. Алесь зразумеў, што з ім ужо гавораць, як са сваім...

— Дык навошта вам тое сховішча?

— На то! — важка адрэзаў следчы. — Вораг — нават мёртвы — застаецца ворагам. Дакументы пры іх нейкія будуць. Асобы ідэнтыфікуем. У кожнага ж сваякі, злачынныя сувязі... Гэта, таварышы, раскрыццё цэлай банды!

Тлусты твар нкусаўца свяціўся ад шчасця.

— Трэба толькі тыя паловы кубка сканфіскаваць... Вы ўжо пашукайце ў сваіх сямейных хованках.

Лекар схапіў сына за бязвольную руку з заціснутым пяром і гвалтам змусіў паставіць нейкую закаручку.

— Пайшлі!

Алесь ачомаўся і кінуў пяро, як гадзюку:

— Сволачы! Я ніколі...

І сагнуўся напалам, бо бацька моцна ўдарыў пад рэбры.

Лекар трымаў сына ў абдоймах і цягнуў да выхаду.

— Усё нармальна, таварыш лейтэнант! У яго шок...

— Ну, шок дык шок... — абыякава пагадзіўся нкусавец. — Падлячыце і будзьце гатовыя. Калі што, мы яшчэ звернемся да паслугаў вашага сына. У яго добра атрымліваецца.

Ужо ў калідоры Алесь упаў на калені і захлынуўся плачам.

Гэта было дзявятае кола пекла. У якім умярзалі ў лёд здраднікі.

Маладая прыгожая жанчына гадоў пад трыццаць стаяла ў чарзе, прыціскаючы да грудзей невялікі клунак. Залатая каса жанчыны была ўкладзеная каронай вакол галавы, зялёная сацінавая кофтачка з белым каўнерыкам, строгая спадніца і туфлікі-лодачкі вельмі пасавалі б настаўніцы... Магчыма, жанчына і была настаўніцай — разумны, строгі выраз гожага твару, горка падціснутыя вусны, стомленыя вочы. І ганарыстая пастава. Нягледзячы на тое, што ў чарзе жанчына прастаяла ўжо пяць гадзінаў, а перад гэтым прайшла пешкі кіламетраў дзесяць, ажно з Кунцаўшчыны, для чаго давялося падымацца зацемна.

У гэтым натоўпе ніхто не спяшаўся. Не абураўся, не спрабаваў пралезці наперад. І складалі яго адны жанчыны — старыя, маладыя, былі і дзеці... Усе з клуначкамі, усе маўклівыя і спалоханыя...

У прынцыпе, да чэргаў у гэтым горадзе даўно ўжо прывыклі. Па селядцы, па хлеб, па запалкі, па паркаль... Дзесяць гадоў таму ў паэтычным зборніку «Угрунь» цяперашняга намесніка старшыні Саюза пісьменнікаў БССР Алеся Александровіча быў надрукаваны нават верш пра гэтую з’яву:

Холадна. Застыў
Шумлівых вуліц гул.
Бягу ў каператыў
Раней заняць чаргу.
Поўна галава
Радасці, надзей.
Будуць выдаваць

Воблу і алей.
Вогнішча расклалі.
Холадна. Мароз.
Рана паўставалі.
Выцягнуўся хвост.
Дзе там пералічыш,
Абіраюць голь:
Выдаюць сярнічкі,
А хаваюць соль.
Пішуць для парадку,
Крэйдай, як па норме:
На грудзях, на латках
Кожнаму свой номер.
І ў мяне дзясяты,
А прыйшоў другім.
Хочацца дахаты.
Сцеражэш чаргі.
Сонца разбудзіла
Прозалаць-зара,
І мяне змяніла
Замярзаць сястра.

А пару дзён таму паставілі пытанне аб вывадзе Александровіча са складу праўлення Саюза пісьменнікаў. А яшчэ перад гэтым перарэзаў сабе горла, праўда, не да смерці, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Міхась Клімковіч. Кажуць, не вытрымаў, як намеснік яго выкрываў на сходах.

Але гэтая чарга была не па селядцы і не па алей. Яе хвост пачынаўся дзесьці на Камсамольскай, а галава заканчвалася ля Жоўтага дома, наркамата ўнутраных справаў, ля акенца, праз якое прымалі перадачы для арыштаваных. Акенца часта зачынялася, і тады па чарзе праносіўся як бы агульны ўздых расчаравання і трывогі. Часам у кагосьці перадачу не прымалі... Тады мог пачуцца альбо лямант роспачы, альбо плач палёгкі — гледзячы, па якой прычыне адмовілі... Але зараз жа ізноў запаноўваў парадак і цішыня.

Жанчына з залатою касой стомлена пераступіла з нагі на нагу. Дома засталася маленькая дачушка, на міласэрную

суседку. Таму трэба абавязкова паспець закупіць гасцінцы, у тым ліку і для дабрадзейкі...

Радыё на слупе азвалася бадзёрым маршам.

«Менск сустракае савецкіх герояў! Заўтра на святочных вуліцах сталіцы Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі можна будзе пабачыць гераічных лётчыкаў Чкалава, Байдукова, Белякова, якія едуць у Маскву, здзейсніўшы свой беспрыкладны палёт. Лепшыя прадстаўнікі беларускага народа будуць удастоеныя гонару сустрэцца з экіпажам самалёта Валерыя Чкалава...»

Голас дыктара, глыбокі прыгожы барытон, гучэў так аптымістычна, што хацелася зараз жа бегчы на вакзал і займаць чаргу, каб сустракаць герояў...

Але з гэтай чаргі ніхто не скрануўся.

— Значыць, заўтра перадачы не будуць прымаць... — прашалясцела наперадзе. Жанчына ў белай хустцы ледзь варушыла збялелымі вуснамі.

— Чаму? — перапытала яе суседка, заплаканая маладзенькая дзяўчына ў модней сіняй сукенцы і берэціку.

— Ну як жа ж — прыедуць героі, а тут мы стаім праз увесь праспект... Разгоняць, як відаць...

Яшчэ адна кабета, немаладая, шыракакостная і змрочная, прамовіла нават з нейкім выклікам:

— А чулі, два дні таму Галадзед застрэліўся?

— Што, і ён? — здзівілася жанчына ў белай хустцы. — Чарвякоў жа таксама застрэліўся... Ва ўласным кабінеце.

— І Гамарнік... І былы старшыня Саўнаркама Адамовіч... — пацвердзіла змрочная кабета.

— Сціхніце! Пасаромеліся б антысавецкія размовы весці! — гэта завярашчала пані ззаду, якая абчапіла сваю белую блузку значкамі МОПРа і Асаавіяхіма, нібыта západaзраны ў блюзнерстве абчапляўся крыжамі ды іконкамі. — Правільна вашых сямейнікаў пасадзілі! Усе вы антысаветчыкі!

— А ты сама чаго тут стаіш? Тваіх не пасадзілі? — злосна спытала змрочная.

— У нас памылка! Хутка разбяруцца.

— Чакай, чакай, дурніца... Дачакаешся! Не нашым носам маліну кляваць.

Але з усіх бакоў на дыскусійніц спалохана зашыкалі...

Жанчына з залатой каронай кос сцішана ўздыхнула і прыцiснула крапчэй клунак. Хоць бы ўдалося дастаяцца да вечара...

— Вераніка?

Невысокі, ніжэйшы за жанчыну на паўгалавы, шчуплы мужчына ў вайсковай новенькай форме пазіраў запытальна-паблажліва хуткімі шэра-зялёнымі вачыма, як пакрытымі плёнкай алею. Яго боты блішчэлі, як медзь духавога аркестру.

— Прывітанне, Хведар, — стрымана адказала жанчына. — Ты што, працуеш там? — кіўнула наперад, у бок Жоўтага дома.

— Ну чаму абавязкова там? — усміхнуўся мужчына, энергічна махнуўшы рукой, і Вераніка згадала ягонае студэнцкае прозвішча «Вятрак». — Я ў Міністэрстве знешніх зносінаў.

— Пад началам таварыша Калантая? — з ледзь заўважнай непрыхільнасцю прамовіла жанчына. — Ён жа так табою апекаваўся...

— Я не маю нічога агульнага з грамадзянінам Калантаем, — холадна прамовіў мужчына. — Ён аказаўся добра замаскаваным ворагам, трацкістам, і зараз знаходзіцца пад следствам.

— І ты, Хведар, вядома, дапамагаў выкрываць ворага? — вельмі спакойна спытала-сцвердзіла Вераніка.

— Вядома, я праявіў пільнасць, — адвёўшы вочы, згадзіўся Хведар і зараз жа ажывіўся: — А хочаш, дапамагу табе? Ты ж Алесю перадачу прынесла? Вось і перадамо без чаргі. У мяне там добрыя знаёмыя... Пайшлі!

Вераніка з няёмкасцю азірнулася. Кабеты побач пазіралі з зайздрасцю, а некаторыя і з непрыхаванай злосцю. Веры гэтаму... ветраку... няма ніякай, але дзеля Алеся...

— Добра, пайшлі!

Радыё працягвала трансляваць маршы. Па праспекце Сталіна ішлі вясёлыя людзі, моладзь у талстоўках і футболках, са значкамі, з марозівам... Служачыя з парусінавымі і скуранымі партфелямі... Шнырылі піянеры з плакатамі «Купляйце білеты 4-й рэчавай латарэі дзеткамісіі пры

УЦВК!»... Ва ўсіх было цікавае, скіраванае ў непазбежную светлую будучыню, жыццё. Ніхто не звяртаў увагі на ланцуг панылых жанчын на ўзбочыне праспекта.

— А я цябе папярэджваў, Веранічка, — спачувальна прамовіў Хведар. — Папярэджваў... Вось і дачакалася.

Вераніка збіралася нешта адказаць, і, магчыма, непатрэбна рэзкае, але яны ўжо апынуліся перад уваходам у дом, які месцічы лічылі за лепшае нават не згадваць, як смяротную пошасць. Хведар паказаў пропуск вартавому чырвонаармейцу. Той узяў пад казырок, і Вераніка апынулася ў вестыбюлі, прыкрашаным белымі калонамі, чырвонымі сцягамі і партрэтамі Сталіна, Леніна і Дзяржынскага. Нічым не адметная зала ўрадавай установы. Толькі больш нідзе не было б гэтак страшна і прыкра. Дзесьці ў нетрах гэтага будынка зараз знаходзіўся Алесь Вяжэвіч...

— Давай сюды свой клунак... Пачакай мяне трохі, — уладна распарадзіўся Хведар і знік за прахадной з жалезнай «вяртушкай», якую таксама ахоўвалі пільныя таварышы. Вераніка глядзела на чырвоны сцяг, устаўлены ў адмысловую падстаўку, з вышытымі на ім залатымі літарамі, і паўтарала ў галаве ціхія вершы:

Пра чырвоную хустку на косах тваіх залатых
Я хацеў расказаць табе казку, ды словы забыўся.
Іх забраў у мяне сумны вецер, як я, малады,
І да зоркі каханай аднёс, з зоркай ён ажаніўся.

Як гэтыя вершы лаяў Аўтух Папара, пачуўшы за сяброўскім сталом! Дэкадэнцтва, буржуазны сентыменталізм... У часопісы Алесь нат не думаў несці, ведаў, што таксама толькі аблаюць. А Веранікцы падабаліся ягоныя такія радкі. Вось толькі ці не яны паспрыялі таму, што яна гэтыя дні правяла ў страшнай чарзе!

Праўда, і Аўтух арыштаваны. Не ўратавалі паэмы пра станкі...

— Вераніка, хадзі сюды! — Хведар махаў рукою з-за прахадной.

...У невялічкім пакоі з закратаваным акном на другім паверсе Жоўтага дома было зусім не страшна. Звычайны

кабінет, якіх шмат. Парцьеры на вокнах і ляпніна на столі. Мажны службовец прыўстаў з-за пісьмовага стала і расплыўся ва ўсмешцы:

— Вось якая вы, чароўная Вераніка! Вераніка Змітраўна Вяжэвіч, у дзявоцтве Манцэвіч. Не, не хвалюйцеся, дапытваць вас ніхто не будзе. Зараз вызвалю кабінет, каб вы маглі вольна пагутарыць са старым сябрам. Настойліва раю прыслухацца да слоў таварыша П'янкова. Ён жадае вам толькі дабра, Вераніка Змітраўна.

Падміргнуў Хведару і выйшаў.

Хведар адразу замітусіўся, падсунуў да стала крэсла...

— Садзіся, Веранічка! Гарбаты хочаш?

— Хведар, навошта ты мяне сюды прывёў? — холадна, стараючыся, каб голас не дрыжэў, папыталася жанчына.

— Ты ж чула — пагаварыць, раз ужо надарыўся выпадак. Ты ж мяне ў госці не пускаеш...

— Мы даўно ўсё між сабой перагаварылі, Хведар. Я замужам, у мяне дзіця, і ты нібыта ажаніўся.

П'янкоў усеўся за пісьмовы стол, паклаў перад сабой счэпленыя рукі, якія так і намагаліся зноў разганяць паветра.

— Абставіны мяняюцца... Ты сама выдатна разумееш. Ну што цябе чакае? Алесь сам сябе пахаваў. Нават калі зараз абыдзецца — усё роўна яго не пераробіш, зноў патрапіць сюды. І цябе пацягне. Хто будзе гадаваць вашае дзіця? Аддадуць у спецыяльны прытулак для дзяцей ворагаў народа. А ты думаеш, што са сваёй знешнасцю вось так і захаваеш вернасць у лагерах? Не будзь дурнічкай... Ды падчас следства... Думаеш, на гэтым стале мала ганарлівак такіх ляжала, з задранымі спадніцамі?

Жанчына сціснула рукі, каб не дрыжэлі.

— Не трэба мяне палохаць. Алесь ні ў чым не вінаваты...

— А я і не палохаю, — Хведар гаварыў вельмі спакойна. Цяпер «вятрак» выклікаў у былой аднакурсніцы сапраўдны жах. — Проста так і будзе... А я табе прапаноўваю надзейную абарону. Новае жыццё! Я ж кахаю цябе... Колькі гадоў кахаю! Пасялю цябе з дачкой у выдатнай кватэры ў Раманаўскай Слабадзе, табе не спатрэбіцца працаваць, забяспечу пайком. Жонка ў мяне — вось дзе, дзяроўня няшчасная, — Хведар

сціснуў кулак. — Так што нічога не бойся... Усё будзе — і для цябе, і для малой. Хочаш — какава, хочаш — аксамітныя сукенкі... Як у Бога за плячыма жыць станеш! Летам у Піцунду, у Сочы... Валюты для Таргсіну буду даваць... У мяне замежныя камандзіроўкі...

Хведар патроху расхваляваўся, рукі ягоныя зноў пачалі рассякаць паветра, падкрэсліваючы жэстамі кожную заваблівую прапанову. Вераніка ўскочыла:

— Замаўчы! Слухаць не хачу... Я буду чакаць Алеся! Я веру, што яго вызваляць! Ён чысты, сумленны... Ён не стане сябе агаворваць, усё вытрымае!

Хведар з'едліва рассмяяўся.

— Твой чысты Алесь пяе, як салоўка, на следстве. Два тыдні ўсяго праседзеў, а ўжо дапамог вельмі буйную рыбіну раскалоць. Так што нават калі яго і выпусцяць... часова, падкрэсліваю... героя ты ў ім болей не пазнаеш. А то строіў з сябе... Прынцыповы такі...

Вераніка непаслухмянымі вуснамі прамовіла:

— Я табе не веру...

— Вер не вер, кажу, як ёсць. Сама спытаеш у мужанька, як надарыцца.

— Чакай... Дык яго ўсё-ткі выпусцяць? — вочы Веранікі загарэліся надзеяй. Хведар скрывіўся.

— Можа, і выпусцяць... Дарэчы, каб гэта хутчэй адбылося, ты б таксама дапамагла следству. У вас захоўваецца срэбны кубак, дакладней, ягоная палова?

Вераніка падазрона паглядзела ў ільсняныя вочы суразмоўцы.

— Не памятаю...

— А ты ўспомні! Гэты кубак тэрмінова трэба здаць у асобы аддзел. Ад гэтага залежыць лёс твайго мужа!

Жанчына закрыла твар рукамі, нібыта жадала падумаць, адасобіўшыся ад навакольнага свету.

— А што гаворыць пра гэты кубак Алесь?

Хведар нецярпліва ўстаў з-за стала і падышоў да жанчыны.

— Якая розніца... Дык ёсць кубак? Алесеў бацька сцвярджае, што сын з сабой забраў. Значыць, у вас дзесьці...

Вераніка цвёрда глядзела ў вочы П'янкову.

— Я не ведаю, дзе той кубак. Няхай Алесь прыгадае сам. Мы пераязджалі, ты ж чуў, напэўна, з ягоным бацькам не надта ўжыліся, ламачча поўна пакідалі на кожнай кватэры... Можа, заваліўся куды... А можа, Алесь яго ўжо здаў на срэбны лом, калі грошы трэба былі?

П'янкоў прыкметна захваляваўся.

— Як гэта здаў? Такую старажытную рэч... Ты, гэта, пашукай! Можа, давай разам да цябе паедзем, пашукаем? Зараз машыну выклічу...

— Дзякую, не трэба. У маім пакойчыку ў Кунцаўшчыне срэбра дакладна няма.

Хведар злосна скрывіўся.

— Ну, глядзі, Вераніка... Не памыліся. На жыццё іграеш. Не забывай, дзе знаходзішся. Сюды прыйсці лёгка, а вось выйсці...

Жанчына зноў сціснула рукі, нібыта ад холаду. Зараз падалося, што самае галоўнае — пакінуць гэты кабінет і гэты будынак... А тады нешта з'ясуецца. На волі можна ўцячы, схавацца, засіліцца... А цяпер што заўгодна — толькі б выбрацца з гэтай твані.

— Я ўсё зразумела, Хведар. Дзякую табе за ўсё. За прапанову... Я падумаю. І кубак пашукаю. Не забудуся.

Голас госці падступна дрыжэў, і П'янкоў падабрэў.

— І праўда, што гэта я на цябе так націснуў... Падумай, пашукай... Праз пару дзён я цябе знайду.

— Добра...

— Ну, тады пайшлі, праводжу... А хочаш, заедзем у краму, цукерак купім для дачкі?

Ля дзвярэй кабінета Хведар нібыта выпадкова правёў рукой па спіне жанчыны, тая ледзь стрымала дрыготку агіды. Гэтак купец агладжвае аблюбаваную на рынку кабылу, пра цану за якую амаль дамовіўся.

Раней бы развярнулася ды адвесіла яму поўху... Пабаксёрску... Каб па сценцы размазаўся, смоўж...

Толькі б выйсці адсюль... Вярнуцца да дачкі... І гэты пракляты кубак схаваць як мага падалей. Хаця ён і так у надзей-

ным месцы... Калі б Алесь хацеў, каб ён патрапіў у іхнія рукі, сказаў бы ім, дзе шукаць. А яна нізавошта гэтым не аддасць. Алесь заўсёды паўтараў — галоўнае, захоўваць годнасць. Таму яна і не верыць нагаворам на яго. Выклікаць на сябе злосць — гэта Вяжэвіч можа. А кагось здаць? Дапамагаць следству? Не, гэта на яго не падобна.

Праўда, калісьці яны ж ездзілі ў Ленінград, збіралі кампрамат на Корб-Варановіча ў кампаніі П'янкова... Алеся ж так лёгка завесці, падбіць на шалёныя ўчынкі...

Ну а што, калі яго і праўда ўблыталі ў нешта ганебнае? Калі зламалі? Што, муж ёй патрэбны толькі з гераічным бляскам у вачах? Не дачакаецеся... Яна прыме яго ўсякім. Зразумее і даруе. Абы застаўся жывы...

Дарэчы, Гукайлу таксама шукаюць, каб арыштаваць. Збег з Піцера, цяпер невядома дзе...

...На вуліцы па-ранейшаму свяціла сонца, мітусіўся натоўп, радыё перадавала беларускую народную песню «Ой, пасеяла Улляніца лянок...» А жанчына з залатымі косамі, укладзенымі каронай на галаве, ішла пасярод вуліцы, трохі пахістваючыся, як пасля цяжкой хваробы, і ў яе вачах патроху памірала неба.

Гэта было восьмае кола Дантавага пекла, у ягоным цэнтры знаходзіцца бяздонны калодзеж, а ў ірвах, запоўненых агнём і распаленым пяском, сядзяць ілжывыя дарадцы, падлюкі, крывадушнікі і зводнікі.

Толькі ніхто з мінакоў, акрым жанчыны, пра гэта не здагадваўся.

## Раздзел 10.
## У ГАСЦЯХ У ЗАМУРАВАНАГА КНЯЗЯ

Чалавек істота цікаўная. Ён сілкуецца ўражаннямі. Напрыклад, прагне выйсці з таго ўзроўню, на якім яму адведзена жыць прыродай.

Цікаўнасць падлягае пакаранню. Пасля восьмага паверха страчваецца сувязь з зямлёй, на дваццаць пятым немагчыма адчыніць фортку... Мы не павінны спаць вышэй за дрэвы, а самымі высокімі будынкамі ў горадзе мусяць быць храмы!

Але мы будуем хмарачосы, уздымаемся ў горы і лезем у пячоры.

Людзі заўсёды лічылі, што пад зямлёй існуе цэлы сусвет. У Гадэс старажытных грэкаў можна было прыплысці толькі па хвалях горнай ракі Ахерон, ракі ўздыхаў. Нічога добрага вандроўніка там, аднак, не чакала — нуда, вечны прыцемак, і старажыл таго месца Ахіл не дарэмна скардзіўся Адысею, што хацеў бы лепей быць няшчасным наймітам на полі сярод жывых, чымся цараваць мёртвым над мерцвякамі. Духі зляталіся, нібыта пякельныя мухі, каб адчуць водар, дакладней, смурод ахвяры, якую спальвалі дзеля іх на вогнішчы... Калі нейкі таемнаведца хацеў перамовіцца з канкрэтным духам, мусіў адганяць іншых ад вогнішча, як надакучлівую жамяру. Пад Мідгардам, светам скандынаваў, існаваў Нідавелір, Цёмныя палі гномаў. Натуральна, з незлічонымі скарбамі. А вось падземны свет кельтаў Анвін быў зусім не такі страшны, гэта ўвогуле падземны рай, туды можна патрапіць нават жывому, калі адчыніць дзверы. Там сваё сонца, у промнях якога песцяцца жывёлы з белай поўсцю і чырвонымі вушамі...

Ася зусім не імкнулася ні ў Гадэс, ні ў гномскія цёмныя палі, ні нават у прыемны Анвін, пагладзіць белых пухнацікаў... Яна, вядома, прыхільна ставілася да андэграўнду, і нават лічыла сябе трохі ў яго пасвечанай... Але апынуцца ў андэграўндзе ў прамым сэнсе гэтага слова, ды яшчэ вось так раптоўна! Марыў заяц пра піва, і яго прынеслі на стол пад піўной падліваю...

Аднекуль даносіліся ледзь чутныя галасы, якія клікалі дзяўчыну. А вакол была цемра. Халодная, вільготная, смярдзючая цемра сутарэння, смак зямлі ў роце... Магіла?

— Ася, ты тут? Ты жывая?

Але з горла Арсеніі змог выціснуцца толькі нейкі здушаны нават не крык — віск... Як у сціснутай у кулаку птушкі. Ад панікі не магла нават уцяміць, ці жывая, ці не зламала што, як настойліва пыталіся галасы зверху.

Нарэшце крык прарваўся дзікімі ўсхліпамі, і зараз жа адчуўся боль у левай галёнцы... Але, дзякуй Богу, не рэзкая...

Рукі намацвалі рыхлую халодную зямлю... Падобна, Ася і паваліліся на кучу зямлі, што яе і выратавала.

Патроху свядомасць разамглялася, і варыянт з магілай і жыццём-пасля-смерці аддаляўся.

У такім выпадку куды ж яе занесла? Закінутая студня? Бамбасховішча?

— Вяжэвіч, адыдзіцеся! Я зараз да вас саскочу!

— Стой! Куды?..

Ася ледзь паспела адсунуцца, як побач зваліўся яшчэ нехта, нос і рот зноў забіла земляным пылам, так што пачаўся кашаль і чханне... Потым непадалёк заварушылася жывое, вялікае, надзейнае...

— Ася, вы тут? Нічога не зламалі? Асцярожна... Лягчэй...

Але дзяўчына ўжо з усёй моцай панікі ўчапілася ў чалавека побач з сабою, ледзь не павісла, шукаючы абароны... Чалавек гладзіў яе па спіне, па галаве, заадно асцярожна абмацваючы, правяраючы на траўмы:

— Ціха, ціха... Усё добра... Не баліць? Ну вы і напалохалі нас...

А зверху даносіліся злосныя крыкі:

— Здурэў, гісторык сраны? Ты хоць калі думаеш, перш чым зрабіць? Узяць і сігануць уніз! Крэтын! Прыдурак! Як мне вас цяпер двух выцягваць? Ды вы хоць жывыя там? Гэй!

Корб-Варановіч — да Асі паступова даходзіла, што гэта менавіта ён, — падняў галаву і гукнуў уверх:

— Здаецца, без пераломаў... Толькі не шуміце, спадар Скрыніч! Пастарайцеся, каб пра гэтае месца не даведаліся пабочныя...

— Ды што ж я вас, адзін выцягну?

— І не палохайце Аляўціну Пятроўну. У яе брата машына ёсць, папрасіце, каб яна вам арганізавала... Прыдумайце якую прыстойную падставу. Ну і вяроўкі знайдзіце. Галоўнае — без розгаласу!

Запанавала маўчанне. Ася зразумела, што Вячка сышоў, і нястрымны жах зноў змусіў яе сэрца закалаціцца, быццам град у бляху. А калі Скрыніч не вернецца? Калі ў ягоную геніяльную галаву ўзбрыло прыкончыць галоўных герояў рамана гэткім эфектным спосабам? Быў жа такі

старажытнагрэчаскі мастак, Парасій Эфескі, які, каб даканала выявіць пакуты Праметэя на карціне, загадаў укрыжаваць проста ў майстэрні старога раба, адмыслова для гэтага купленага, і пры гэтым яшчэ прыпальваць няшчаснага распаленымі абцугамі, для жывасці мімікі. Замучыў старога да смерці, і Асю больш за ўсё абурала, што гэткія садысцкія схільнасці не заміналі шаноўнаму Сакрату весці з Парасіем разважныя філасофскія гутаркі пра сутнасць мастацтва...

— Дзе... дзе мы?

— Думаю, менавіта там, куды так зацята хацелі патрапіць.

Корб-Варановіч акуратна ададраў Асіны рукі ад сябе, устаў, пры гэтым сцішана застагнаўшы (пабіўся, ці што?), і па вачах разанула святло... Гісторык уключыў мабільнік у функцыю ліхтарыка. Вузкі прамень нахабна слізгануў вакол...

Напэўна, белабандыт Карыбутовіч не супраць быў бы ўзяць Асю ў штурмавую групу ў якасці гукавой зброі. Таму што нават конь, які насіў камандарма Будзёнага, ашалеў бы і панёс вусатага гаспадара прэч ад ейнага дзікага віску. Даніла Раманавіч ледзь не выпусціў з рукі ліхтарык, прынамсі, ягоны прамень пераскочыў некуды пад каменныя зводы.

Але ў вачах Асі стаяла пабачанае відовішча ў найлепшых традыцыях готыкі: трупы. Шкілеты ў гнілых ашмётках... Чарапы... Чорныя прагалы вачэй, там-сям — наліплыя на брунатную костку пасмы валасоў... Іржавыя стрэльбы... Біклагі... З падсвядомасці ўсплыло вычытанае ў адрэдагаваным падручніку па судовай медыцыне, што пару гадоў таму немаведама як апынуўся ў выдавецкім партфелі: згодна з правілам Каспера, адзін тыдзень гніення трупа на паветры роўны двум тыдням гніення ў вадзе і васьмі тыдням гніення ў зямлі. А для даследавання неабходна ўзяць пяцьсот грамаў цягліцаў, змесціва мачавога пухіра і страўніка...

— Ды сціхніце, далібог! І не зламіце мне руку. Яны нам нічога не зробяць. Мне што, па шчоках вас лупіць?

Ася дрыжэла, як у ліхаманцы... Але патроху рабілася сорамна: вось ужо не чакала ад сябе, што ў экстрэмальных абставінах так запанікуе. Колькі разоў глядзела фільмы жахаў, і заўсёды пацяшалася з дзяўчатак, якія вось так па-

вар'яцку верашчалі, забачыўшы шкілеты... І, вядома, думалася: дурніцы, сама ніколі не заверашчу!

Прамень ліхтарыка абшарыў сутарэнне, спусціўся пад ногі...

— Дзесьці тут шапка мая павінна быць... — гісторык неяк з цяжкасцю нахіліўся, памацаў рукой унізе, падняў і ўздзеў, абтросшы, на галаву свой стылёвы скураны шлем. Потым задраў галаву, пасвяціў уверх.

— Відаць, піратэхнікі калантаеўскія запалы побач ставілі! — з задавальненнем зазначыў гісторык. — Кладка зусім нядаўна абвалілася. Пяцьсот гадоў праіснавала — і гамон... Не ад сапраўднай бамбёжкі нават, а ад бутафорыі... — пасвяціў на Арсенію. — Але ж трэба, спадарыня, які ў вас талент увальвацца ў непрыемнасці! У цэлым полі наступіць менавіта туды, дзе яміна! Мы на хвілю нават у містыку паверылі — вось ваша жвавая постаць наперадзе мільгае, як лісіны хвост, вось — знікла... Як скрозь зямлю правалілася. І наце вам ключы ад Магілёва — правалілася ўзапраўду!

Да Корб-Варановіча вярнуўся фанабэрыста-з'едлівы тон, і гэта дапамагло Асі супакоіцца і нават пачаць злавацца.

— Між іншым, вы таксама сюды для чагосьці скочылі, замест таго каб мяне падымаць... А я б вашу прысутнасць з ахвотай прамяняла на магчымасць апынуцца наверсе! Удвох вы б мяне ўжо дасталі!

— А што б вы адна рабілі, пакуль бы мы вяроўку знайшлі? Ад жаху звар'яцелі б ужо... — з некаторай няёмкасцю прабурчэў гісторык і пачаў вадзіць промнем ліхтарыка па сценах. — А калі б вы сама не маглі варушыцца? Крывёй сцякалі? Дастануць вас усё роўна... Не хвалюйцеся... А раз ужо мы тут — дык давайце даследаваць.

Асі цяпер было шчыра напляваць на ўсе таямніцы свету, нават калі б тут захоўваўся Святы Грааль... Корб-Варановіч, відаць, баючыся новага прыступу крыку, не асвятляў тое месца, дзе ляжалі чалавечыя парэшткі, вывучаў зводы скляпення. І Асі здавалася, што ўся неасветленая прастора забітая шкілетамі.

— Ну вось і разгадка наконт праваленай царквы, — спакойна прамовіў гісторык. — Яе проста не дабудавалі. Гэта

ўсяго толькі лёхі. Вунь там мусілі быць сходы наверх, і там таксама. І знарок завалена камянямі. Засыпалі зверху зямлёй, накідалі дзірвану — і ўсё... З іншага боку, калі ў тастаменце гэта называецца царквою — яе мусілі асвяціць... Можа, як капліцу?

У промні ліхтарыка вычарніўся на сцяне вялізны каваны крыж, прымацаваны пад самай столлю. Гісторык, да здзіўлення Асі, некалькі разоў перахрысціўся і пакланіўся, і нават малітву прамовіў.

— Слава Айцу, і Сыну, і Святому Духу, і цяпер, і назаўсёды, і адвеку... Амін. Вы ведаеце малітвы, Арсенія? Памойму, самы час паўспамінаць іх... Тут дакладна адпраўлялі набажэнствы. Вось і алтар...

Чатырохвугольны камень быў зусім не падобны да алтара, якім яго ўяўляла Арсенія — багата аздобленым, прыгожым... Проста глыж, з груба насечанай палоскай арнаменту з крыжыкаў.

— Такія алтары рабілі ў першых хрысціянскіх цэрквах. Магчыма, тут нават жыў нехта з пустэльнікаў... — разважаў гісторык, ніколькі не клапоцячыся пра тоны зямлі над галавой. — Чым бліжэй чалавек да Бога, тым болей яму патрэбная ціша. Свяціцель Мікалай Сербскі неяк сказаў: вялікае кола коціцца павольна, ціха... Маленькае круціцца куды хутчэй, і ад яго болей шуму. Але вялікае кола лёгка абганяе малое. Так і з людзьмі. А самае вялікае кола душы чалавечай — Бог. Яго хаду можна асэнсаваць толькі тады, калі маленькія колцы нашыя перастануць мітусіцца і рыпець. Тады і асэнсуеш сябе часткай Боскага кола, якое ахоплівае Неба і зямлю... Пачуеш яго хаду... Але камусьці дадзена пачуць яго і ў зямным жыцці... Можа быць, у такім месцы.

Мужчына пайшоў наперад, і дзяўчына, учапіўшыся за яго рукаў, рушыла ўслед, і баючыся застацца адна, і баючыся наступіць на яшчэ адзін шкілет, тым болей, пад нагамі нешта агідна пахрумствала... Трымацца за ворага — гэта, трэба сказаць, хвалюе нават у такіх абставінах.

— Тут і сапраўды хаваліся стагоддзямі, — задумліва прамовіў спадар Даніла, знайшоўшы нешта падобнае да місы. — Гэтай пасудзіне гадоў сто пяцьдзясят, — пасвяціў

уніз. — Калісьці ложак быў... Згніў. О, цэлы набор! — падняў тры доўгія нажы. — Афіцэрскія, царскай арміі... Няйначай, трафеі продкаў... Мусіць, пад падушкай трымаў нейкі інсургент. А дзе, уласна кажучы, таемныя дзверы? І як іх адчынялі, калі для гэтага патрэбны быў цэлы кубак? Хіба хтосьці з Вяжэвічаў і Корб-Варановічаў аб'ядноўваліся, як вось мы з вамі? Нешта не верыцца...

Пасярод памяшкання, не такога ўжо вялізнага, як адразу падалося, але ўсё-ткі метраў дваццаць у даўжыню, стаялі ў два рады калоны з цэглы, якія пераходзілі ў зводы. Над тым месцам, куды ўпала Ася, столь уздымалася вышэй, утварала купал, вось ён пасярэдзіне і абваліўся.

— Вентыляцыя павінна быць, іначай нельга, — мармытаў Корб-Варановіч. — З адной дзіркі тут не было б такога свежага паветра. Тым болей — нябожчыкі... Мы б адразу задыхнуліся. І свечкі тут калісьці гарэлі... — Даніла Раманавіч зноў са сцішаным стогнам нахіліўся, асвятліў нешта пад нагамі, крануў пальцам. — Воск... Шкада, не палю, зараз бы вызначыліся са скразняком з дапамогай агеньчыка...

Ася здушыла віск. Ліхтарык высветліў яшчэ адзін шкілет у рэштках вайсковай формы. Чалавек памёр, лежачы тварам уніз. Ён нібыта хацеў некуды дапаўзці, у яго выцягнутай руцэ было заціснута нешта падобнае да гранаты. Арсенія нават занепакоілася — а раптам ірване? Корб-Варановіч скасавурыўся на дзяўчыну:

— Вы... адвярніцеся, калі вам блага, — і схіліўся над нябожчыкам. Падняў крыж з жоўтага металу, памацаў рэшткі папругі.

— Гэта форма атрада Карыбутовіча... Ён адмыслова сто такіх спражак замовіў, з ваўчынымі галовамі...

Голас даследчыка прагучэў зусім ціха, з нейкай горыччу... Ася захлынулася ад здагадкі:

— Выходзіць, Вячка праўду апісаў у рамане! Гэта ваш прадзед іх сюды паслаў!

Гісторык адказаў са злосцю:

— Вячка выкарыстоўваў пратакол следства! Мне што, трэба тлумачыць, як пісаліся такія пратаколы ў разгар рэпрэсій? Тым болей да складання быў датычны Алесь Вяжэвіч.

— Але ж ён не назнарок... Яго падставілі нкусаўцы...

— Назнарок, не назнарок — гэта аўтарская фантазія, — адрэзаў Даніла Раманавіч. — Ёсць дакумент, пад ім — подпісы... Усё. Прынамсі, мой прадзед, як вы можаце пераканацца, месца сховішча не адкрыў нават пад катаваннем!

— Мог бы і адкрыць... Ім жа ўсё роўна ўжо было! — заўважыла Ася, думаючы пра нябожчыкаў, і Корб-Варановіч зазлаваў яшчэ больш.

— Ён гэтых людзей абараніў, хоць і мёртвых. Іх сваякоў, іх сяброў... Вось хаця б, — Корб-Варановіч паднёс да промня ліхтарыка нешта круглае. — Бачыце? На гадзінніку дарчы надпіс: «С. Павлючицъ, г. Клецкъ, на память об окончании гимназии, 1917 г.». Вось і вылічылі б арганісты ворагаў, лёгка, як перыну асмаліць... Хто з белабандытам вучыўся, хто сябраваў, хто мог ведаць пра ягонае сховішча... У трыццаць сёмым нкусаўцы за ўсё хапаліся, абы крывавы план выканаць. Страшна ўявіць, колькі б людзей перасаджалі, калі б Апанас Іванавіч не змаўчаў. А вось і ключ...

Гісторык прысеў ля выцягнутай наперад рукі шкілета, у якім была «граната». Ася адвярнулася, не ў змозе назіраць, як Корб-Варановіч лёгка расціскае мёртвыя пальцы, і яны падаюць асобнымі брунатнымі костачкамі.

— І куды гэта павінна было ўстаўляцца? — мармытаў гісторык, круцячы ў руках нешта. Ася з цікавасці наблізілася... Скручаны ліст мосенжу ў разрэзе ўтвараў васьмiканцовы шматкутнік. Даніла Раманавіч кінуўся абмацваць сцены ў тым накірунку, куды паказваў рукой няшчасны Паўлючыц, сваяк ягонай прабабкі. А цемра навакол усё згушчалася, і скурай адчуваўся цяжар зямлі над галавой.

— Стойце! А калі тут усё абваліцца? — устрывожылася Арсенія. Але гісторык ужо заглыбіўся ў нейкую нішу:

— Ага, вось яны, дзверы... Дакладней, камень... Значыць, за ім павінен быў пачынацца падземны ход. Цікава, куды ён мог весці? Вось адтуліна... Зараз паспрабую...

Арсенія нават трохі забылася на нябожчыкаў, цікуючы за Корб-Варановічам, ды той ужо сунуўся назад, заклапочана разглядаючы масянжовы ключ, як бедны пляменнік — запавет багатай цётухны.

— Бескарысна... Я думаю, справа ў тым, што гэтая штуковіна зроблена з мяккага металу і дэфармавалася, калі няшчасныя адмыкалі дзверы сюды.

— Яны загінулі ад голаду? — прашаптала Арсенія.

— Прынамсі, не падобна, каб задыхнуліся. Іх позы... Але не будзем пра гэта, — перарваў сябе Корб-Варановіч, відаць, не жадаючы жаночай істэрыкі. І дадаў падазрона мяккім тонам. — У мяне кепская навіна для вас, Арсенія. У маёй мабілцы хутка сядзе батарэйка. Я мушу выключыць ліхтар. А ў вас мабільнік з сабою?

Ася пачала ліхаманкава абмацваць кішэні курткі, джынсаў... А ўласна кажучы, дзе яе сумка, джынсавая, з кішэнькамі, гоцкімі нашыўкамі і заклёпачкамі? Яна забрала яе з хаты Аляўціны Пятроўны, калі ўчыніла свае вар'яцкія ўцёкі?

Сюды сумка дакладна не падала... Значыць, або засталася наверсе, на полі, або ў хаце... Разам з мабільнікам і фотаапаратам.

— Ясна... — зразумеў Даніла Раманавіч намаганні дзяўчыны. — Значыць, прыйдзецца пацярпець. Зараз мы з вамі выберам самы прывабны сухі куток... Падалей ад... таго, што вас палохае... Ну вось тут хаця б, дзе ложак быў. З яго ных дошак можна зрабіць падабенства лаўкі... Та-ак... Мы сядзем сюды, і я выключу ліхтарык. Гэта ненадоўга. Хутка прыедзе Скрыніч, дастане нас... А потым мы сюды вернемся з усім належным абсталяваннем. Зробім тое, што не змог мой прадзед — пахаваем гэтых людзей па-хрысціянску. Усё агледзім... Можна ўжо без вас. Вы і так здзейснілі подзвіг — без вас мы б ніколі гэтае сховішча не знайшлі.

Ася, адчуваючы сябе, як журавель на хвойцы, паслухмяна ўселася каля гісторыка, пастараўшыся сесці максімальна блізка, але не датыкаючыся. Калі ён чакае, што яна будзе яму ўдзячная, — памыляецца. Ён таксама зрабіў свой унёсак у тое, што ёй закарцела ўцячы на злом галавы, арыстакрат няшчасны.

І тут святло згасла.

Дзяўчына зараз жа прытулілася да ненавіснага дзядзькі. Як кажуць, у поцемку і гніляк свеціць. Ад дужага цела

Корб-Варановіча, здавалася, сыходзілі ўперамежку хвалі то нянавісці, то нейкага хвалюючага прыцягнення — трывожны кактэйль, ад якога сэрца абрыналася ў прорву.

Слуп цьмянага святла з дзіркі ў купале зусім знік у цемры, як прывід.

— А нас знойдуць? — спалохана прагаварыла Ася. — Можа, Вячаслаў блукае, не можа адшукаць уваход?

— Глупства! — строга прагаварыў гісторык. — Пакрычыць — мы пачуем, адкажам. Урэшце, тут не так ужо глыбока. Вунь, нацягаю камянёў пад адтуліну, залезеце мне на плечы — якраз дастанеце да паверхні. Калі праз гадзіну нічога не зменіцца — так і зробім.

— Добра... — прамовіла Ася і страпянулася ад падазронага шолаху. Зараз мерцвякі падымуцца...

— А чаму вы ўсё-ткі кінулі пісаць?

Можна падумаць, яму не ўсё роўна... Як усё-ткі нервуе дотык да яго! Рэдактарка рашуча адсунулася, але адчуць вакол сябе адну цемру было занадта страшна, і Ася зараз жа зноў прыціснулася плячом да нягодніка. Сядзіць, напэўна, здзекуецца ў думках...

Добра хоць, што грэбліва не адсоўваецца.

— Часу няма... Натхнення няма... Вы вунь таксама музыку сваю кінулі!

— Хочаце, раскажу, чаму я музыку кінуў? — падтрымаў свецкую бяседу граф, які старанна здзяйсняў праграму па адцягненні ўвагі істэрычнай дзявулі ад праблемнай рэчаіснасці. Ася моўчкі хітнула галавой, забыўшыся, што ў цемры яе жэст усё роўна не бачны. Цяпер ёй было фіялетава, прапанавалі б паслухаць пра шаманаў Чукоткі, гісторыю стварэння «Рамаяны» ці сюжэт невядомага рамана ракаўскага кантрабандыста Сяргея Пясецкага.

— Мой бацька хацеў выхаваць з мяне Моцарта, — з горыччу і нават агідай прагаварыў гісторык. — Дакладней, Паганіні. Аляўціна Пятроўна думала, ён беларускай гісторыяй апантана цікавіцца — а яго цікавіла пацвердзіць маю радавітасць, для гучнасці імя, для будучых артыкулаў і тэлеперадач. Мы ж колькі гадоў былі проста Варановічы —

не ведаю, ці нашчадкі рэпрэсаваных не жадалі цвеліць уладу арыстакратычным прыдомкам, ці ў пашпартным стале адмовіліся аднойчы запісваць «нестандартнае» прозвішча... Бацька дамогся, каб у нашых дакументах значылася радавое імя. Юны геній Даніла Корб-Варановіч мусіў стаць сусветнай знакамітасцю!

— А што ў гэтым дрэннага? — нервова пракаментавала Ася, якой усё мроіліся ў цемры то крапанне, то шолахі...

— Дрэнны не энтузіязм, дрэнны фанатызм... Самая лепшая ідэя праз яго ператвараецца ў пачварнасць. Маці памерла, калі мне было тры гады... Год бацька піў. Яшчэ праз год знайшоў адхланне: уладкаваўся настаўнікам музыкі на паўстаўкі, так, абы на ежу заробку хапала, і пачаў рабіць з мяне Паганіні. З пяці гадоў я прачынаўся а шостай, тады — прабежка ў парку, потым — скрыпачка... Сняданак, гімнастыка, амаль армейская, — зноў скрыпачка... Абед. Гадзіна на сон — скрыпачка. Прабежка — скрыпачка. Гадзіна на чытанне ці падрыхтоўку да ўрокаў — зноў скрыпачка. І ў адзінаццаць — у ложак. Разнастайнасць уносілі наведванні канцэртаў і ўдзел у конкурсах юных талентаў ды рэдкія візіты да бабы з дзедам. Яны мяне шкадавалі, але ж не вельмі ўяўлялі, як я жыву. Дагледжаны, крэпенькі, на скрыпачцы так добра грае... А скардзіцца я і ў маленстве не ўмеў. У ліцэй пры кансерваторыі мяне, да бацькавага шаленства, не ўзялі, прапанавалі аддаць у музычную школу... Тут ужо бацька заўпарціўся і не аддаў — раз выкладчыкі не могуць распазнаць будучага генія, дык няхай лаўры яго выхаваццеля належаць толькі Корб-Варановічу-старэйшаму, і я пайшоў у звычайную школу. Але расклад мой змяніўся мала. Сяброў у мяне не мелася, гуляць сам па сабе я не мог... Я дужа любіў чытаць, дык даводзілася рабіць гэта пад коўдрай з ліхтарыкам. Вядома, калі толькі ўдавалася, уцякаў з дому, хаваўся, пракуднічаў з дваровымі хлопцамі... І так да шаснаццаці гадоў.

— А што здарылася ў шаснаццаць гадоў? — шэптам папыталася Ася.

— Да гэтага часу нават самы зацяты ментар мусіў зразумець, што вучань, які пры такой сістэме навучання не

можа заняць і сёмага месца на конкурсе сярод равеснікаў, проста не мае адпаведных здольнасцяў. Бацька не разумеў. А ў шаснаццаць я стаў ужо настолькі дужы, што выхапіў у яго з рук дзягу, галоўны інструмент навучання. А потым разламаў на ягоных вачах на трэскі скрыпку. Ён маўчаў, глядзеў... Назаўтра быў п'яны, як бэля. І цвярозым я яго болей не бачыў. Дзесяць гадоў таму ён памёр ад цырозу. Вось так, Арсенія... Так што можна сказаць, што я забіў уласнага бацьку. Гэтак жа, як мой прадзед забіў людзей у гэтай царкве.

Голас гісторыка загучэў глуха, Ася схапілася за скроні.

— Ну што вы ўсе з пачуццём віны! З нейкімі комплексамі! Мне ўвогуле калі-небудзь сустрэнецца нармальны мужчына?

— Нармальны мужчына сустракаецца нармальным жанчынам, — не прапусціў паздзекавацца Корб-Варановіч, і Арсенія ледзь не забылася ад злосці, дзе знаходзіцца. — А з вамі нават нармальны пачынае рабіцца шаленцам.

— Вы хочаце сказаць, што гэта я вінаватая, што Вячка на мяне так накінуўся? — агучыла Ася нядаўнюю крыўду. — Што вы мяне даводзіце — ясна. Вы мяне ненавідзіце ў гістарычным кантэксце. Узаемна. А яму я што зрабіла?

Корб-Варановіч адкашляўся, нібыта перад лекцыяй.

— А хіба вы не разумееце, Ася, што ён вас кахае?

— Ён... што?

— Не, ну нельга ж быць такой эмацыйна глухой! Ка-ха-е! — са злосцю сказаў гісторык. — Па-хлапечы, з выбрыкамі, з гульнёй самалюбства... А вы мне нагадваеце правінцыялку, якая стаіць пасярод сталічнага вакзалу і абедзвюма рукамі прыціскае да сябе сваю няшчасную сумачку са штучнай скуры з трыма тысячамі ў кашальку. І ў кожным бачыць злодзея, які на гэтую яе сумачку ўжо вочы распаліў.

У Асі задрыжэлі вусны.

— Вы... вы... нягоднік! Вы ўсё выдумляеце, абы мяне абразіць!

— Дурніца! — спакойна-атрутна прамовіў Корб-Варановіч.

— Сволач! — Арсенія гатовая была разраўсціся, але зверху пачуўся голас:

— Даніла Раманавіч! Ася! Вы тут?

Вузкае лязо святла пачало абмацваць сутарэнне, зараз жа спатыкнуўшыся аб выцягнутыя ногі аднаго з нябожчыкаў... Ну, тое жудаснае, у што гэтыя ногі ператварыліся.

— Мы тут! Тут! — загарлала Ася.

Цёмна было, як у кішэні, холадна, як у маёнтку Зюзі, басаногага славянскага бога холаду, мокра, як у валасах русалкі. Неба і зямля нічым не адрозніваліся, зліваючыся ў адзін восеньскі хмарны космас без адзінай зоркі і без адзінай кветкі. Але як тут было добра! Без таямніцаў, без шкілетаў, без навязанай залежнасці ад ненавіснага чалавека... І нават усе пярсцёнкі засталіся на пальцах. Можа быць, хтосьці і здольны ўбачыць Бога, седзячы ў сутарэнні, але для Асі гэта было недасяжна.

Рэдактарка зірнула ў бок Корб-Варановіча: той наблізіўся да машыны, якая адна разганяла фарамі густы змрок. Арсенія заўважыла, што ён ідзе, неяк нязручна трымаючы ля боку локаць. Усё-ткі пабіўся? Але ў Асі не ўзнікла і найменшага парывання папытацца. Цяпер, на паверхні, яна ўявіць не магла, як шчэ нядаўна прыціскалася да гэтага немаладога дзядзькі, прысутнасць якога адчувала скурай, нібы сцюжу...

А Вячка паводзіўся дзіўна. Доўга пытаўся, ці не баліць у Асі што, запатрабаваў нават закасаць калашыну джынсаў на пабітай назе — нічога, костка цэлая... Голас ягоны гучэў насмешна, але рукі дрыжэлі. А цяпер, у машыне (трэба ж, умее кіраваць!) замест таго, каб пачаць распытваць пра такое жаданае сутарэнне, ён маўчаў і глядзеў у цемру, нібыта лена трымаючы рукі на рулі старэнькага «Міцубісі». І Корб-Варановіч, падобна, не мог адарвацца ад нямога дыялогу з духамі продкаў. А зусім нядаўна Арсенія дзесьці ў падсвядомасці была ўпэўненая, што Скрыніч, якому карцела знайсці падземную царкву, так і планаваў, што Ася раззлуецца на ягоныя словы, паляціць у палі і там зваліцца проста ў патрэбнае месца. Вячка ж і сам намякаў, што ледзь не правідца ды празорца...

Раптам Корб-Варановіч парушыў цішу задуменным маналогам:

— Вось я думаю... У Расіі быў такі звычай... Каб пеўні не будзілі гаспадара надта рана, над шастком нацягвалі дрот. Толькі асабліва актыўны вястун прачнецца, страпянецца, пацягнецца, каб усё наваколле збаламуціць, — і цюк галавой з гордым грабеньчыкам аб дрот... Тут ужо не да спеваў.

Ася не вельмі зразумела, да чаго гэтая прыпавесць, але Скрынічу, відаць, было ясна, таму што ён скалануўся, нібыта за каўнер патрапіў лядзяш:

— Часам я і сам шкадую, чаму нада мной не вісіць якаянебудзь рэйка... Меней бяды было б. Прабач, Арсенія. З-за мяне ледзь не адбылося няшчасце. Прабач...

Ася вушам не паверыла: Вячка — просіць прабачэння? Ды яшчэ такім голасам, нібыта зараз заплача. А дзе ж натацыі на адрас істэрычнай паненкі?

Аднак калі яны аддалі машыну брату Аляўціны Пятроўны, якога ў цемры Ася толкам і не разгледзела, так, цёмны сілуэт за плотам, хрыплаваты голас на фоне неверагодна спакуснага паху падгарэлай у вогнішчы бульбы, да Вячкі зноў вярнулася былая сцёбнасць і нахабная цікаўнасць, як да выпушчанага з клеткі вераб'я ягоная жвавасць. І ён нават наехаў на Корб-Варановіча за тое, што не прыхапілі артэфактаў са схавішча.

Корб-Варановіч Асю непакоіў. Ён ішоў, як заўсёды, выпрастаўшыся, але неяк асцярожна, нібыта нёс нешта біткое. Пракляты графчык... Калі і балюча — не прызнаецца, што хоць лоб медны, але ж і мур каменны. Ідыёт... Як яшчэ можна расцаніць ягоны ўчынак з саскокваннем невядома куды? А калі б Ася не паспела адсунуцца і ён прызямліўся ўсёй сваёй вагой на яе? Заўсёды ён так — проста з моста... Дзяўчына разумела, што разважае несправядліва, і ад гэтага яшчэ больш апаноўваў гнеў. «Ненавіджу...» — думала яна, гледзячы ў шырокую спіну мужа вар'яткі, і кроў пульсавала ў скронях. Няхай Вячка апіша яго вось такім дэбілам, няздзейсненым Паганіні... Хаця б за тое, што сачыніў пра Скрыніча гэтую лухту з падлеткавым каханнем, якога Ася і з трох крокаў не бачыла.

Прынамсі, нянавісць да апошняга з Варановічаў дапамагала адагнаць думкі пра тых, хто застаўся ляжаць у сутарэнні... Сціскаючы ў мёртвых пальцах даўно пустую біклажку, з якой

калісьці чорныя ад смагі вусны спрабавалі злавіць хоць кроплю вады... Ася заганяла кадры нядаўняга мінулага ў самыя глыбіні свядомасці, а яны няўмольна ўсплывалі, як пухіры з вады. У аднаго мерцвяка прастрэлены чэрап, а побач ляжыць наган... Падобна, небарака не вытрымаў пакутаў павольнай смерці, сышоў сам... А вось нацельны крыжык, які праваліўся скрозь рэбры, павіс на ланцужку там, дзе калісьці білася сэрца... А вось нешта варушыцца ў чорнай вачніцы, не, не рабак, нейкая бяскрыўдная машката, але ад гэтага не менш жудасна... Усё, згіньце, мроі некрафіла! Вось разбіты і мокры вясковы асфальт, які ў цьмяным святле ліхтароў блішчыць, як лёд, вось пластыкавая бутэлька з-пад піва «Аліварыя», па якой праехалася кола аўтамабіля, вось бетонныя слупкі са светаадбівальнымі палосамі, нібыта гномскія асочнікі ў аднолькавых мундзірах, вартуюць свой Нідавелір пад Мідгардам... На баку — улюбёная джынсавая сумка, у сумцы — мабільнік і ключы ад Кватэры... А яшчэ фотаапарат, якім Ася так і не скарысталася. Непадалёк ад прыпынка — тое, што засталося ад царквы святога Язэпа. Бляшаны дах накрывае парэшткі сценаў. З былога бульбасховішча даносіліся п’яныя галасы — зруйнаваны храм стаўся прытулкам для ўсіх мясцовых алканаўтаў. Гэта — рэальнасць, звыклая, зразумелая... І акрамя яе зараз няма нічога, так што скрыпкі ў торбу — і дахаты.

На апошні аўтобус, зразумела, спазніліся.

Давялося ісці да шашы, лавіць машыну — ідэя аптымістычнага Вячкі. Ася слаба спадзявалася на міласэрнасць кіроўцаў — вядома, адну дзяўчыну хтосьці прыхапіў бы, але напалоханая крымінальнай хронікай рэдактарка нізавошта б да незнаёмца не села. А такую кампанію хто возьме? Яны з Корб-Варановічам упэцканыя, як бамжы, дарэмна што трохі паабчысціліся ў Аляўціны Пятроўны. На каленках шэрых джынсаў Асі чорныя плямы выглядалі проста непрыстойна. Добра, сцямнела так, што нават сядзіба не праглядалася скрозь мокры і ветраны змрок.

Раптам наперадзе пачулася сапрана: «Любоў дзіця, дзіця свабо-оды...» Спевы набліжаліся, і можна было не гадаць, чый светлы сілуэт выплывае да іх з восеньскай слаты —

Корб-Варановіч так скалануўся, быццам у яго пад нагамі разарваўся снарад з кіношнага танка. Ну што ён такі эмацыйны, хоць у скафандры трымай...

Ася зноў успомніла сваё наведванне выставы пацыентаў неўралагічнага дыспансера, іх спакойныя-спакойныя, нібыта змятыя, а тады наспех разгладжаныя шэрыя твары, а яшчэ працу Чэзарэ Ламброза пра сувязь геніяльнасці і вар'яцтва. Ламброза апісваў шмат выпадкаў, калі неадукаваныя «прасцяцы», звар'яцеўшы, раптам выяўлялі незвычайны талент. Адзін сялянскі хлопчык з Павіі, напрыклад, пачаў сачыняць арыгінальныя оперныя арыі...

Рэдактарка спрабавала супакоіцца і «паліткарэктна» сустрэць тое, што зараз выплыве з цемры і слаты...

Ларыса Пампееўна Александроўская ад часоў сваёй смерці здорава схуднела і ператварылася ў натуральную бландзінку. Гламурнай, праўда, назваць яе было цяжка, бо гламурныя бландзінкі не апранаюць сцёганае балоневае паліто выцвіла-бурачковага колеру вытворчасці фабрыкі «Калінка» і боты з пацёртай да бляску штучнай замшы на гумавай падэшве. Сумачку з бруднай белай скуры ўпрыгожвалі пачварныя, выразаныя з жоўтага дэрмаціну кветкі. Твар спявачкі, безумоўна, калісьці быў прыгожы гэткай «простай славянскай прыгажосцю», але скура даўно страціла і бель, і румянак, нагадваючы зжаўцелую і змятую шорсткую паперу, а светлыя вочы хваравіта запалі, абкружыліся цёмнымі плямамі. Бляклыя валасы заплеценыя ў дзве кароткія коскі, перавязаныя аксамітнымі анучкамі. У гэтай кабеце было нешта драпежна-птушынае, і рухалася яна рыўкамі, нібы вышукваючы яшчарак, так што здавалася, зараз прадзяўбе цябе вастраватым носам.

— Анжэла, што за фокусы! — Корб-Варановіч паспрабаваў узяць камандны тон.

— Я гатовая да здымкаў! Куды ісці? — голас спявачкі быў яшчэ больш камандны. — Я не магла адмовіцца ад прапановы зняцца ў радавой сядзібе! Мне дадуць персанальную грымёрку, н'ест сэ пас?

Пасля перамоў, што нагадвалі дыялогі са спектакля абсурду, высветлілася, што Анжэла, яна ж Ларыса, не

дазваніўшыся да былога мужа, які праваліўся пад зямлю ў літаральным сэнсе, уключыла тэлевізар і забачыла сюжэт пра здымкі новага беларускага фільма пра вайну. Яго рэжысёр даваў інтэрв'ю, красуючыся на фоне Ройнаўскага маёнтка. А ў кадры выразна бачыўся знерваваны нашчадак колішніх уладальнікаў сядзібы. Па адной ёй зразумелай логіцы спявачка вырашыла, што гэта былы муж здымае кіно, і ёй адведзеная там галоўная роля. Вакзал — аўтобус — Ройна — муж... А дзе кіно?

— Любоў дзіця, дзіця свабо-оды...

Недзе ў вёсцы забрахалі сабакі, ловячы чорнымі пашчамі мокры вецер, а той цвяліў іх празрыстым хвастом, сцябаў па чуйных мяккіх насах, і хутка ўсё Ройна ператварылася ў заказнік адмысловага сабачага брэху... А потым усё сціхла, як і не было. Мясцовыя сабакі выдатна разумелі, што, як ні брашы, ланцуг не саржавее. Па бляклых косах прымадонны сцякалі кроплі, і Корб-Варановіч падняў над сваім вар'яцкім лёсам чорны парасон.

Нью-Александроўскай доўга тлумачылі, што здымкі на сёння скончаныя, што трэба прыехаць удзень, Вячка і Ася наперабой сакаталі нешта пра бліскучыя перспектывы сінематографа ў асобна ўзятай пазанацыянальнай студыі, выдатна разумеючы, што галоўнае зараз — адвезці не цалкам адэкватную спадарыню у горад, а там няхай пігулкі скажуць сваё антыдэпрэсантнае слова. Корб-Варановіч, уладна ўзяўшы Анжэлу-Ларысу пад руку, скіроўваў яе да шашы. Гэта было горай, чым весці чалавека нападпітку, бо рухі ў пані былі па-птушынаму імклівыя, здавалася, вырвецца — і паляціць, спяваючы, так, што не дагоніш...

Яшчэ адна істэрычка ў той жа яміне — гэта быў не той падрахунак дня, якога ўсе жадалі.

Хацелася — дахаты, вячэраць і ў ложак... На жаль, самыя простыя мары часта прыводзяць да самых вычварных шляхоў здзяйснення.

Жоўты, як рамонкавая гарбата, старэнькі «форд» прытармазіў ля іх і падаўся Асі аздобленым незямным ззяннем, проста ў німбе дабрадзейнасці. У машыне былі двое, кіроўца і ягоная жонка, і за дзесяць тысяч з носа маглі

прыхапіць трох чалавек, калі з задняга сядзення, вядома, прыбраць вядро з морквай у багажнік.

Ясна было, што Корб-Варановіча з ягонай спяваючай нагрузкай трэба адпраўляць у першую чаргу.

— А мы з табой, Ася, наступную машыну пяроймем! — аптымістычна заявіў Вячка.

Арсенія разгублена азірнулася... Яшчэ чакаць на гэтай слаце, пакутліва адганяючы вобразы нябожчыкаў? Ды яны гэтую машыну дваццаць хвілінаў чакалі, дзякуй добраму духу Дарожніку, злітаваўся — ну а што, калі ў лесе — Лясун, у полі — Палявік, у дарогі мусіць жа быць Дарожнік...

Раней казалі пра ўдалага вандроўнага, што яму воўк дарогу перабег... Ні ваўкоў, ні новых машын дзяўчына чакаць не збіралася.

— А чаму я не магу з імі паехаць? — нервова запытала Ася, азіраючыся на машыну з прыветна расчыненымі дзверкамі. Вячка неяк сумеўся.

— Ну чаму не можаш... Калі хочаш, едзь... Проста...

Арсенія не стала слухаць далейшыя разважанні ўшанаванага рамантычнымі дзяўчатамі пісьменніка і палезла ў «Форд» услед за Данілам Раманавічам і рэінкарнацыяй з коскамі. Корб-Варановіч змрочна зірнуў на Асю:

— Можа, вы ўсё-ткі складзяце кампанію спадару Вячаславу?

Ды што яны, згаварыліся? Эгаісты няшчасныя! Ася сціснула вусны... Мінск маніў мацней за жалейку пацукалова.

Ну, чаму не едзем?

Калі ўжо «Форд» набраў хуткасць, Ася азірнулася: сумная постаць Вячкі, які стаяў нерухома і глядзеў ім услед, раптам абудзіла ўкол сумлення: кінулі чалавека аднаго, ноччу, на дарозе... Ды не проста ж чалавек, культавы пісьменнік... Гонар нацыі... Новы Караткевіч! А калі раптам тое, што казаў Корб-Варановіч... пра хлапечую закаханасць... у нейкай ступені праўда? Тады яна ўчыніла проста ганебна!

Але не, не можа быць. Каб Скрыніч — і раптам датклівы... Нічога з ім не станецца, выкруціцца, ён жа такі — з касцёла

галку здыме. Яшчэ хутчэй за іх на ўрбаністычныя прасторы вернецца, назапасіўшы атруты і ўражанняў...

Калі глядзіш праз вокны машыны, якая едзе па начной шашы ў далёкі горад, чамусьці апаноўвае роспачная туга — а раптам ты ніколі не прыедзеш дадому? — і адначасова ўяўленне малюе, як апынаешся вось у гэтым сівым у святле фараў хмызняку, ці вось ля тае хаткі, чые вокны свецяцца цьмяным жоўтым агнём не для цябе... І тут надалей пройдзе твой век...

Корб-Варановіч сядзеў паміж Асяй і сваёй былой жонкай. Дзяўчына зноў адчувала дотык моцнага цела, але ўвага спадарожніка была скіраваная толькі на Анжэлу... Зразумела, гісторык непакоіўся, як міласэрныя гаспадары машыны, якія завялі між сабою дужа практычную размову, ці варта набыць на лецішча біятуалет, паставіліся б да арыі з оперы Бізэ ў жывым выкананні. Даніла Раманавіч нешта ціха гаварыў, гаварыў, гаварыў... Супакойваў, пераконваў, адцягваў увагу... Ася ўспомніла, як пару гадзінаў таму ён гэтак жа адцягваў ейную ўвагу... І ледзь не захлынулася ад хвалі раздражнення з незразумелай горыччу. Графчык!

— Ты ніколі нічога з сябе не ўяўляў! Ты мне проста зайздросціш! Ты нікчымнасць!

У голасе вар’яткі гучэла сапраўдная пагарда, і ні кроплі вар’яцкага ў ейным тоне цяпер не было. Нават жонка кіроўцы цікаўна-трывожна азірнулася, раз, другі, трэці, нібы запамінаючы цікавую сямейную звадку для пераказу сяброўкам.

Корб-Варановіч замаўчаў, не зрабіўшы аніякай спробы апраўдацца, абурыцца альбо перавесці ўсё ў жарт. Ася скасавурылася... Ён сядзеў з заплюшчанымі вачыма, і такая стома была ў ягоных рысах, безнадзейная, застарэлая, што Асіна зласлівая радасць бачыць графчыка прыніжаным трохі прывяла.

Апынуўшыся на Нямізе, Ася ледзь сама не заспявала: яшчэ пятнаццаць хвілінаў на метро — і дома... Нават забылася, што ўпэцканая, нібы свінчо. А вось Корб-Варановічу прыйшлося пабачыць семдзесят і сем агнёў. Ён трымаў сваю падапечную пад руку, а тая нечакана ажывілася, як смалы ў

агонь падлілі, і цяпер трымала ўвагу ўсёй вуліцы... Арсенія збіралася была ўжо ўцякаць, сказаўшы абавязковыя ветлівыя словы, але спявачка, якая круцілася, як уюн на патэльні, упусціла на зямлю сваю сумачку з нашытымі жоўтымі кветкамі, і Корб-Вcraановіч паспрабаваў яе падняць.... Адна рука ў яго была занятая ўтрыманнем былой жонкі, а другой ён, падобна, не мог як след карыстацца... Спробы ягоныя нахіліцца і выцягнуць руку суправаджаліся сцісканнем зубоў, праступаннем поту на лбе і стрыманым шыпеннем... І вось будзе тут займацца мазахістычнай гімнастыкай, а дапамогі не папросіць, ганарлівец няшчасны.

Ён усё спрабаваў падняць з мокрага асфальту сумачку, Ларыса Пампееўна рвалася ў другі бок, выводзячы рулады Расіні. Аксамітныя анучкі з яе валасоў даўно згубіліся, і мокрыя бляклыя пасмы жаласна тырчэлі ва ўсе бакі... Гатовы скетч для «Монці Пайтан», англійскага комік-гурта.

Добрая справа падлягае пакаранню... Урэшце, Вlarановіч выратаваў яе ад жаху сутарэння... Цаной уласнага здароўя, падобна. Арсенія, загадзя раскайваючыся ў сваім парыванні, падняла сумачку ў жоўтыя кветкі, ускінула сабе на плячо і падхапіла спявачку пад руку з другога боку.

— Ну, куды ідзём?

— Как ярко све-етит после бу-ури солнце... — зараз жа азвалася Ларыса Пампееўна. Корб-Варановіч, нават у прыцемку было відаць, пачырванеў.

— Направа... На вуліцу Караля...

Цікава, праходзяць стагоддзі, і першаасновы гарадскіх назваў забываюцца, думала Ася, калатаючыся ў бакі ад вольных рухаў Александроўскай, быццам паслухмяная дэталь гадзіннікавага механізму. Плошча Юбілейная нават у БССР не перайменоўвалася — цалкам ідэалагічна вывер态ная назва, а была ж заснаваная ў гонар 1500-годдзя Нікейскага сабору. Пройдзе яшчэ некалькі вякоў, вуліца Караля застанецца... Хто ўспомніць, што жыў такі архітэктар за Саветамі? Будуць уяўляць сабе старажытнага манарха... Галоўнае, каб вуліц з імёнамі катаў не засталося.

Дзверы ў пад’езд давялося таксама адчыняць самой Асі — Корб-Варановіч злітасціўся прашыпець пра ключы

ў кішэні курткі... Змрочны пад'езд са скрэмзанымі сценамі і паскуднымі пахамі, дзверы, абабітыя дэрмацінам, спрэс парэзаным чымсьці вострым, прычым у некалькіх месцах парэзы складаюцца ў непрыстойнае слова. На кнопку званка, такую брудную, што брыдка датыкацца, давялося зноў жа націскаць Асі.

Дзверы расчыніліся, выпусціўшы на лесвічную пляцоўку воблака перагару і цыгарэтнага дыму. Няголены чырванатвары мужык гадоў трыццаці пяці, у майцы з плямамі і трэніках, аптымістычна пазіраў бліскучымі светлымі вочкамі з-пад прыпухлых павекаў з белымі вейкамі:

— О, Ларыска вярнулася! Як раз табе каўтануць пакінулі! На донцы — самае сонца...

Александроўская какетліва ўсміхнулася, няўважна адсунула былога мужа, як вецце, якое навісла над сцежкай, і заплыла ў кватэру. Мужык па-сяброўску прыабняў яе за плечы, насмешна зірнуў на Корб-Варановіча:

— Табе не прапаноўваю, паніч!

Дзверы зачыніліся гучна, нібыта вылаяліся. Ася спахапілася:

— Сумачку! Сумачку забярыце!

Ляскатнуў замок, няголены мужык моўчкі выхапіў у Асі гламурны аксэсуар з дэрмаціну і зноў зачыніўся. У кватэры пачуліся спевы і рогат.

Гісторык, не зважаючы на Асю, павольна спусціўся па лесвіцы. На вуліцы паглядзеў на зоры, якіх не было відно ў прынцыпе, паправіў свой скураны псеўдашлем, буркатнуў:

— Дзякую за дапамогу... Заўтра стэлефануемся, — і рушыў некуды ў бок дома з гордым найменнем «Напалеон» — высотка воляю архітэктараў была ўвенчаная бетоннай «трохвуголкай» з аляпістым надпісам «Вэлкам».

Плечы разгорнутыя, галава ганарыста задраная... А дзверы ён сабе сам адчыніць? З яго станецца прастаяць усю ноч, спрабуючы павярнуць ключ левай рукой. А калі пераломы? І да доктара наўрад пойдзе. Вось жа характар упроўны... Ася, якая ўжо была адышлася на адлегласць, як гранату кінуць, паглядзела на графскую спіну і бегма вярнулася. Корб-Варановіч раздражнёна зірнуў на Вяжэвічаўну:

— Што яшчэ? Вы думаеце, мне не хапіла вашай прысутнасці на сёння?

— Зараз сыду, але напачатку падыміце руку ўгару! — холадна скамандавала Ася, якую перасталі кранаць гэтыя дзіцячыя выбрыкі. — Правую.

— Што за глупства! — Корб-Варановічу зноў клямка запала.

— Не глупства, а праява міласэрнасці, — гэтак жа халадна прагаварыла Ася — узаемнае раздражненне, якое яны з графам адчувалі адно да аднаго, пазбаўляла яе дзіўным чынам звыклай скутасці ды корпання ва ўласных комплексах, і нават з'яўлялася прыемная ўладнасць і вольнасць. — У вас нешта з правай рукой, і бок пабіты. Можаце кульгаць сабе самі, а можаце прыкусіць сваю фанабэрыю, пакуль я не ўпэўнюся, што вы ўдала патрапілі ў кватэру. Хопіць, што Вячаслаў застаўся сярод ночы на дарозе за сорак кіламетраў ад горада. Вы ж нікога не пыталіся, трэба скакаць да мяне ў сутарэнне ці не...

Гісторык нешта прабубніў пра нахабную моладзь, але рушыў далей, моўчкі церпячы прысутнасць прадстаўніцы варожага роду.

Ася ішла побач, і ад хвалявання ажно перасыхала ў роце. Яна сама не магла растлумачыць, навошта цягнецца за малазнаёмым дзядзькам. Ідзе сам, не хістаецца... Не памрэ, калі яна яго не правядзе. Але развярнуцца і сысці дадому, у пустую кватэру — ад адной думкі апаноўвала нясцерпная туга. І гісторык жа яе чамусьці не праганяе... Маўчыць... Дзяўчына час ад часу лавіла на сабе ягоны задумлівы позірк.

Яна проста дапаможа адчыніць яму дзверы, і ўсё...

Ля пад'езда яны спыніліся, Корб-Варановіч набраў левай рукой код на дамафоне, штурхнуў дзверы... І застыў, прытрымліваючы іх плячом, нібыта не ведаў, як учыняць далей. І Ася спынілася, адчуваючы, як шалёна калоціцца яе сэрца. У святле, якое струменіла з лесвічнай пляцоўкі, Арсенія разгледзела, што Корб-Варановіч гэтак сціснуў рукою край жалезных дзвярэй, нібыта хацеў здабыць з жалеза ваду. Як быццам нечага моцна баіцца альбо нецярпліва

чакае. Вось толькі незразумела, чаго: каб Арсенія знікла ці каб засталася.

Калі б гісторык зараз штосьці сказаў, рэдактарка завярнулася б, відаць, ды пабегла. Але ён проста маўчаў, чакаючы, пакуль Ася вызначыцца сама. Яна зноў перанялася пад незразумелым цяжкім позіркам. І рашуча зайшла ў пад'езд.

Трэба ж упэўніцца, што ён не моцна пакалечыўся.

Кватэра Корб-Варановіча аказалася вялікай, цёмнай і пустой, як пакінуты палац. Святло гарэла толькі ў вітальні — яго працэджвала скрозь краты стылізаваная пад старажытны каваны ліхтар лямпа, таму немагчыма было вызначыць — тры пакоі, два... Столь высокая, белыя шпалеры, паштоўкі і фотаздымкі старога Менска на сценах... Карціны — зноў жа з відамі старога горада, Ася нават пазнала аўтарства вядомых мастакоў. Асабліва «прыкалола» каванае крэсла — нават думка ў яго сесці выклікала адчуванне холаду, уяўляўся дотык металу. Але ж стыльна як! І, вядома, абраз, накрыты аўтэнтычным ручніком, а пад ім вісіць лампадка.

А ў куце вітальні ззялі ружовыя пухнатыя пантофлікі з вышытымі золатам сэрцайкамі.

Сэрца Арсеніі чамусьці прапусціла адзін удар, а тады стала горача. У гэтых пантофлях цяжка было ўявіць рэінкарнацыю Александроўскай. Ну а што, ты думала, дужы і не стары мужчына з плячыма, як засланка, і пародзістым да стэрэатыпнага тварам бачыць жанчын толькі па тэлевізары? Тэмперамент у пана яшчэ той... Разведзены, пры пасадзе. Ад кабетаў, мабыць, не адбіцца.

Чамусьці думаць пра гэта Арсеніі было непрыемна да болю, хаця пухнатыя пантофлі цалкам маглі быць братамі тых мужчынскіх пантофляў з вышытым надпісам «Speed» з вітальні Асінай кватэры і прызначацца зБольшага для дэманстрацыі. Але яна іх усё роўна не абула, хаця і скінула свае брудныя цяжкія берцы і засталася ў шкарпэтках (файна, што не рваныя). Далей вітальні праходзіць не збіралася. Упэўніцца, што графчык дзеяздольны, і дахаты...

А Корб-Варановіч усё шаргацеў у лазенцы, спрабуючы паставіць сабе дыягназ, як таго запатрабавала Ася. Дзяўчына

асцярожна зірнула ў шчыліну... Гісторык сцягнуў з сябе куртку, а вось кашулю не мог... Ася рашуча адчыніла дзверы.

— Гэта трэба вадой!

На кашулі гісторыка красавалася ржава-чорная пляма прысохлай крыві, на ўвесь бок. Не дзіўна, што ён не мог рукі падняць і нахіліцца... Тканіна намёртва прыліпла да раны і стаяла дубам. Як ён гэта ўмудрыўся?

— Жалязяка нейкая з зямлі тырчэла... Якраз паміж курткай і кашуляй праехалася, калі саскочыў... Добра, куртка не парвалася, — незадаволена патлумачыў Корб-Варановіч. Вопратку шкадуе, ага, а калі б яшчэ ўбок — мог, як хрушч на іголку, на тую жалязяку начапіцца... Ася аж пахаладзела, уявіўшы відовішча. Але ж здохне — не прызнаецца, што няправільна зрабіў.

А ў лазенцы акуратна... Стэрыльна чыста. Сантэхніка блішчыць, на керамічных плітках пад малахіт ні следу цвілі... У Асі так ніколі не атрымлівалася. Дарагі шампунь, масажная мачалка... Няўжо сам граф такі гаспадарчы? Ці прыходзіць хто, дапамагае?

Працэс лячэння Корб-Варановіч зносіў стаічна. Яшчэ б ён стаў стагнаць... Ася нават злавіла сябе на садысцкіх думках — назнарок зрабіць яшчэ больш балюча, каб урэшце спадар скінуў з сябе міну камсамольца на допыце. Кашулю ўдалося адляпіць, рэбры, як запэўніў гаспадар, былі цэлыя. Драпіна, і ўсё. Мазь, ёд, бінты — ну, як умела рэдактарка, так і забінтавала! З пяску бізуна не спляцеш. Ася выйшла ў вітальню, адкасваючы рукавы швэдара, і падумала, што ў Вячкавых раманах часта здараецца, што герой паранены, гераіня яго вось так ратуе, а тады ён і ўтрэскаецца ў яе, як пярун у сухую грушу, а яна ў яго... Тыповая схема: Трышчан ды Іжота. Скрыніч дакладна б зараз закруціў жарсці... Дзяўчына нервова хіхікнула. Вось дурноцце ў галаву лезе...

Забінтаваны Корб-Варановіч выйшаў за Асяй у вітальню, пасунуўся да шафы:

— Выбачайце, зараз накіну кашулю...

Пасля ні ён, ні яна не маглі ўспомніць дакладна, як усё было. Проста ў пэўныя моманты свядомасць чалавеку толькі

перашкаджае, ну і адключаецца яна, лагічная наша. Вучоныя кажуць, што жарсць і стрэс праяўляюцца аднолькавымі сімптомамі і аднолькава пакутліва і неадольна.

Іх проста прыцягнула адно да аднаго, як два па-рознаму зараджаныя кавалачкі металу. Гэтаму немагчыма было супрацьстаяць. Іхні пацалунак меней за ўсё нагадваў пяшчотны пацалунак закаханых. І ён быў доўгі, як прамінулы дзень, і падгіналіся ногі, і можна было абысціся без паветра...

А потым Ася адляцела да супрацьлеглай сцяны вітальні, адшпурнутая Корб-Варановічам, як кацяня.

Граф стаяў, прыціснуўшыся спінай да сваёй сцяны, нібыта сабраўся ў яе ўрастаць.

— Ідзіце адсюль. Зараз жа. Ну! Дурное дзяўчо! Прэч!

Арсенія нават не адразу зразумела, што за шумныя цяжкія гукі чуе — а гэта дыхаў мужчына насупраць. Як загнаны звер. Яго грудзі, на якіх ляжаў пацямнелы срэбны крыж, цяжка ўздымаліся, цягліцы напружваліся, як перад смяротным двубоем. А ў вачах былі здзіўленне, адчай, злосць... Але галоўнае — нешта яшчэ...

Тое, што змусіла Асю падысці і проста няўклюдна торкнуцца тварам у яго грудзі...

Гэта было мацней за смерць.

— Я цябе ненавіджу... — разгублена, з безнадзейным адчаем прагаварыла Арсенія.

— Узаемна... — скрозь зубы працадзіў мужчына і з нейкім звярыным стогнам зноў прыпаў да яе вуснаў — як самазабойцы кідаюцца ў агонь.

А праз паўтары вечнасці ён сурова прашаптаў:

— Што ж... Значыць, так суджана... Такі, значыць, кон... Сышліся шляхі...

І Арсенія адчула, што яе адрываюць ад падлогі, і дужыя рукі нясуць... А, няхай хоць бы і ў прорву...

**Раздзел 11.**
**ЗАКОН ЯНУСА**

Захопнікі-рымляне старанна пераймалі ўсіх багоў звяяваных грэкаў, уладальнікаў вытанчанай культуры, толькі імёны ім свае давалі... Замест Арэса — Марс, замест Зеўса — Юпітэр... А вось адзін бог быў фірменна рымскі, непаўторны... Двухаблічны бог Янус. Гэты бог, акрамя іншых важлівых справаў, ахоўваў ганак дома і выпраўляў у шлях. І кожны жыхар магутнай імперыі, асабліва ў часы, калі штодзень ён мог па загадзе імператара апынуцца ва ўласнай лазенцы з перарэзанымі на руках і пад каленьмі венамі, ведаў, што мудры бог Янус дае яму слушны прыклад: мець адзін твар — для дому, другі — для грамадства, дакладней, поліса. І той твар, з якім высоўваешся за ўласны парог вонкі, мусіць быць такі самы, як ва ўсіх добранадзейных грамадзянаў імперыі, спалучаючы гонар за прыналежнасць да магутнага Рыма і адданасць вялікаму імператару, роўнаму ўсім багам...

Алесь, пераступаючы парог аўдыторыі, у чарговы раз уявіў, як у яго з'яўляецца іншы твар... Сур'ёзны, добранадзейны твар савецкага выкладчыка педагагічнага тэхнікума... Ці мог ён яшчэ нядаўна ўявіць, што пачне прыходзіць да сваіх вучняў уласным двайніком, пачувацца з імі не так, як у размовах з сябрамі? Ён калісьці і ўзяўся за выкладанне з устаноўкай — быць заўсёды шчырым і навучаць не літаратуры, а любові да літаратуры... Якія дыскусіі ўзнікалі на ягоных лекцыях! Вочы юнакоў і дзяўчатак, у большасці з вёскі, палалі такім энтузіязмам, што верылася — справа Язэпа Лёсіка, Вацлава Ластоўскага, Гаўрылы Гарэцкага, пазбаўленых звання акадэмікаў, арыштаваных, сасланых і, падобна, зніклых назаўсёды, не згіне... Калісьці, калі народны ўрад пастанавіў, што навучанне мусіць быць на беларускай мове, хапіла тых, хто гэтаму супраціўся. «Кому нужны вместо аттестатов ваши «посьведчаньни»? Как можно преподавать «арыхметыку» на неразработанном, насильственно навязываемом населению белорусском языке»? Алесь быў яшчэ на першым курсе, калі ў «Крестьянской газете» з'явіўся ліст ад грамадзянаў горада Полацка, горада Скарыны, аб тым, што беларуская мова — вымысел купкі нацыянал-шавіністаў,

90 адсоткаў насельніцтва рэспублікі размаўляе па-расейску, і нельга ж сур'ёзна лічыць за пісьменнікаў Якуба Коласа і Янку Купалу! Як ён тады абураўся разам з таварышамі! А старыя настаўнікі сабатавалі пераход навучання на беларускую, дый самі сяляне, выпраўляючы дзетак у школу, злаваліся: гэтак мы і дома гаварыць умеем, а вы навучыце сыночка па-вучонаму! І тады сотні дзяўчат і хлопцаў з рабфака пайшлі ў школы, выкладаць свайму народу і вяртаць яму яго годнасць, рабіць так, каб ён не знік... Бо калі знікне мова — непазбежна знікне, сальецца з іншым і народ... Алесь тады таксама з сябрамі пасля заняткаў ва ўніверсітэце бегаў выкладаць у школку...

Так, калісьці ён не баяўся нічога. Мог у твар крыкнуць падонку, што той падонак. А цяпер часам ловіць сябе на думцы, што баіцца ўласных вучняў. Не ўсіх, некаторых... Шаснаццацігадовых камсамольцаў, якія гэтак жа шчыра змагаюцца супраць антысавецкіх праяў, як ён у студэнцкім юнацтве.

Першую частку лекцыі давялося саступіць зачытванню артыкула з «Комсомольской правды» аўтарства маскоўскага журналіста Міхаіла Кальцова пад назвай «Свора кровавых собак». Артыкул быў прысвечаны працэсу над трацкістамі-бухарынцамі. Вядома, Алесь мог запатрабаваць, каб гэта рабілі на спецыяльных гадзінах — на палітінфармацыі, на толькі што ўведзеных лекцыях па марксізму-ленінізму... Але гэтым ён бы выявіў, што не хоча слухаць пра суд над ворагамі, а паколькі ён сам — пасля арышту, гэтак учыніць — падпісаць сабе прысуд... А як жа Вераніка і Ірынка?

І ён сядзеў з не сваім, уважліва-спакойным тварам і слухаў. «...Когда встают прохвосты, которых судебный язык корректно называет подсудимыми, когда они встают и начинают, то с прибитым видом кающихся грешников, то с цинической развязностью кающихся негодяев, подробно рассказывать о своих чудовищных деяниях, — хочется вскочить, закричать, ударить кулаком по столу, схватить за горло этих грязных, перепачканных кровью мерзавцев, схватить и самому расправиться с ними. ...Вот они сидят за прочным барье-

ром, под стражей красноармейцев с винтовками, плененные, обезвреженные звери. А ведь они бродили на свободе!».

Вяжэвіч глядзеў на твары сваіх студэнтаў, на якіх адбіткам гарэў праведны гнеў журналіста, і вельмі добра ўяўляў, якім чынам былі атрыманыя гэтыя падрабязныя, жахлівыя паказанні падсудных... Так, гэта, безумоўна, ворагі ўлады, мацёрыя, зацятыя. У адрозненне ад Зарэцкага, Галавача, Маракова, яго самога. Ды Алесь пакаштаваў працэдуру следства. Асабліва «кранула», як былы наркам унутраных спраў Ягода, нядаўна ўсёмагутны і пагрозны, у якасці змякчальных абставінаў успамінаў, што кіраваў будаўніцтвам каналаў, якія зараз з'яўляюцца «прыкрасай эпохі». І прасіўся, каб яго паслалі на гэтыя каналы...

Каб Алесю матчына вера ў Бога — зараз папрасіў бы ў Яго адняць хоць на час заняткаў частку памяці... Замкнуць, як куфэрак з доказам забойства...

Лекцыя ўсё-ткі загінула не да канца. Засталося яшчэ хвілінаў пятнаццаць на расповед пра творчасць Якуба Коласа.

— Такім чынам, у паэме «Сымон-музыка» паэт таленавіта, з глыбокім псіхалагізмам паказвае нам пакутлівы шлях станаўлення таленту, праз непрызнанне, праз спакусы забяспечанага жыцця, праз сумнівы ў самім сабе...

Вучань з першага рада, яснавокі хлопец з акуратна зачасанай на бок цёмнай грыўкай, нібыта прыклеенай да лба, адразу падняў руку:

— Аляксандр Антонавіч, але ў «Полымі» напісалі, што гэтая паэма Коласу не ўдалася, у ёй ён дапускае ідэалізм і містыку, і нават ужывае слова «бог»! Замест таго, каб паказваць барацьбу працоўных супраць эксплуататараў, малюе жабракоў, якія толькі стогнуць, плачуцца і знаходзяць ратаванне ў дурных фантазіях!

Суседка хлапца з грыўкай, гаваркая выдатніца Наста, дзьмухавец з бялявенькімі пушыстымі валасамі і блакітнымі вялізнымі вачыма, зараз толькі нізка апусціла галаву над сталом і сціснула тонкія пальцы, аж збялелі.

— Ды Колас увогуле замаскаваны вораг! — строга прамовіла чарнявая дзяўчына з такімі бялюткімі каўнерыкам

і манжэтамі на брунатнай сукенцы, нібыта яны былі зробленыя з арктычнага снегу, асвечанага крокамі гераічных чалюскінцаў. — У яго месяц таму вобыск быў, зброю шукалі...

— Ілжэш, Калінкіна! — абурана крыкнуў з апошняй парты руды хлопец, шчодра ўсыпаны рабацінкамі, так што здавалася, быццам вакол яго болей сонца. — Якуб Колас — рэвалюцыянер, ён у Пішчалаўскім замку сядзеў! Ён клікаў беларускі народ да свабоды!

Дзяўчына строга падціснула і без таго вузкія вусны.

— Можаш не верыць, Гаўрылкін, але мы жывём непадалёк ад Міцкевічаў, і маю маці запрашалі падчас вышуку за сведку. Яна ўсё бачыла: як ваш Колас моўчкі стаяў тварам да сцяны, рукі ўгару, зусім як сапраўдны шпіён, а супрацоўнікі НКУС усё ў хаце пераварочвалі. Думаеш, калі б нічога не было, з класікам так бы абыходзіліся?

Вяжэвіч адчуў, як цёмная гарачая хваля гневу ахоплівае яго, яшчэ трошкі — і ён ганебна сарвецца... Стоп! Дурня і ў касцёле б'юць. Ты не бязмозглы юнак, ты адказваеш за чужыя жыцці! І за... душы тых, хто перад табой. Каб ніхто з іх неператварыўся ў... таксама ж камсамольцаў, якія дапытвалі Кузьму Чорнага і Міхася Зарэцкага, Валерыя Маракова і яго самога, Вяжэвіча, у Жоўтым доме, і каб не стала нікому з іх улюбёнай забавай гарлаць абразы і пагрозы ў папяровы рупар, устаўлены ў вуха паддоследнага...

— Шмат хто з творчых людзей часам памыляецца, таму што творчасць — гэта няспынны пошук. Памятаеце, як у паэме Купалы гаворыцца — «Гуслям, княжа, не пішуць законаў»? У Пушкіна гэты матыў таксама гучыць: «Затем, что ветру, и орлу, и сердцу девы нет закона»... Паэт — Сымон-Музыка, ён жыве, нібыта скуру садралі, пакутуе за тое, што іншы б не заўважыў, прапускае праз сябе боль эпохі. Нямецкі паэт Гётэ сказаў: «Расколіна прайшла праз сэрца паэта». І калі ў яго ёсць сапраўдны талент і любоў да народа, ён усё роўна выпрастуе на правільны шлях. І гэта галоўнае. Якуб Колас публічна, у газеце, прызнаў свае памылкі і адмежаваўся ад іх, і для нас адно мусіць быць важным — яго таленавітыя творы...

— А вы таксама прызналі свае памылкі, Аляксандр Антонавіч?

Хлопец з прылізанай грыўкай не насмешнічаў, ён быў нават вельмі сур'ёзны і сур'ёзна чакаў адказу.

Вяжэвіч адчуў, што вось-вось забудзецца на парады Януса.

Яго выратаваў званок. Лекцыя скончылася. Але не скончыўся дзень і час... Наперадзе чакаў чарговы сход выкладчыкаў і камсамольска-партыйнага актыву тэхнікума. Не ісці было нельга. А ісці — пакута невымоўная.

Яму дужа пашанцавала. Звычайна тых, хто пабываў пад следствам, нідзе не бралі на працу, знаёмыя перабягалі на другі бок вуліцы... Жонка сасланага Язэпа Лёсіка, Ванда Лявіцкая, дачка пісьменніка Ядвігіна Ш. і маці трох малалетніх дзяцей, так радавалася, калі ўзялі мыць посуд на адну з менскіх выстаў... А тады іх сям'ю і з кватэры сагналі, і пашпарта спадарыні Вандзе не далі, і давялося з'ехаць у Паволжа... Але Вяжэвіч быў вызвалены дужа хутка, з працы яго нібыта і не звальнялі, і, надзіва, начальства паставілася вельмі добра. Вакол ягонай кар'еры арыштанта хадзілі розныя чуткі. Вядома, некаторыя пазбягалі Алеся — а раптам «недавыкрыты» вораг народа! Іншыя ж, якія лічылі сябе асабліва здагадлівымі, у прысутнасці Вяжэвіча стараліся сказаць нешта ідэйна правільнае, падкрэсліць, як усёй душой падтрымліваюць працу нястомных органаў па выкрыцці нацыянал-фашыстаў... І ад няшчырага пафасу Алесю рабілася горш, чым ад спалоху іншых. А здаралася, да яго падыходзілі таемна, з просьбаю паспрыяць у вызваленні сваякоў альбо адвесці немінучую пагрозу ад сябе... І хіба хтосьці паверыў, што ён сапраўды не можа дапамагчы? Але самае горшае — поўныя пагарды позіркі тых, хто яшчэ заставаўся на волі і не да канца зламаўся...

Толькі думкі пра сям'ю ратуюць. Ірынку абавязкова трэба аддаць у танцавальны гурток... Трэба ж, як прыгожа ў яе атрымліваецца — то паказвае, як таньчыць сняжынка, то ператвараецца ў пчолку, то ў ветрык... Нават Вераніка, калі глядзіць, проста расцвітае, усміхаецца, як калісьці, — а яна нібыта развучылася шчыра, гарэзна ўсміхацца пасля яго-

нага арышту. Ходзіць, як цень... Некалькі разоў заставаў яе ў слязах — а пасля сустракаў такі вінаваты позірк, нібыта гэта яна яго катавала ў турме... Можа, справа ў жончынай новай працы — узялі сакратаркай у наркамат асветы. Як было адмовіцца ад такой выгоды? Занятая ўсяго да абеду, і тое не кожны дзень, праўда, здараюцца вячэрнія паседжанні. Затое паёк — проста акадэмічны, для дзяцей супрацоўнікаў — падарункі... Тканіну размяркоўваюць, абутак... Праўда, Вераніка чамусьці не любіць абновак, прынесла неяк панчохі — таненькія, як павуцінка, кінула ў шуфляду. Так і не ўздзела ні разу. Алесь неяк быў папрасіў — пафарсі хоць перад мужам... Адмовілася, як быццам прапанаваў дакрануцца да здохлай жабы. Можа, ёй варта вярнуцца выкладаць у школку?

На сходах Вяжэвіч змушаў сябе проста не слухаць, думаць пра сваё... Але на гэты раз саркафаг, у якім ён сябе замкнуў, не тое што даў трэшчыну — разляцеўся на друз... Бо абмяркоўвалі, што рана ці позна непазбежны перавод навучання ў тэхнікуме на расейскую мову. Пакуль яшчэ толькі некалькіх спецыяльных прадметаў. Гэта дасць выпускнікам магчымасць лягчэй асвойвацца ў вучэбных установах іншых рэспублік савецкай краіны, ды і час пазбавіцца штучных тэрмінаў, прыдуманых нацыянал-фашыстамі, што пісалі першыя беларускія падручнікі. У нас інтэрнацыянал, усім трэба вяртацца да мовы, на якой размаўляў Ленін...

У шыбы ўдарыў мокрай лапай вясновы дождж. Вяжэвіч ускочыў з месца, ноздры ягоныя раздзімаліся:

— Гэта будзе здрада свайму народу! Здрада тым, хто загінуў у царскіх турмах, дамагаючыся права беларусаў мець свае школы і інстытуты! Нагадваю, Дэкрэт аб беларусізацыі прымаўся Усебеларускім з’ездам Саветаў. Дзеці, якія навучаюцца на роднай мове, паказваюць найлепшыя вынікі ў ведах... Ачомайцеся! Як можна адмаўляцца ад таго, што далося такой крывёю! Ды ўспомніце верш Янкі Купалы да велікарускага шавініста:

Ён, гэты скінуты сатрап,
Не знае, што ў свабодзе жыць,

Яму дай вісельню, дый каб
На ёй «языкі» ўсе ўшчаміць.

Не па нутру, як смерць, яму,
Што беларускае дзіцё
Бяжыць у сцюжную зіму
У школку пазнаваць жыццё.

Спужаўся, што хлапчук ў лапцях,
Напаўадзеты вёскі сын,
У роднай мове ўчыцца мог?
О, стыдна, рускі гражданін!

Язык твой царскі ён табе
Не выража, спакойны будзь!
Цябе тваім жа у кляцьбе
Ён не забудзе памянуць.

Алесь не змог дачытаць апошнюю страфу —

Былых не выклічаш вякоў,
І ты, Масквы кароннай гразь,
Парваных не скуеш акоў,
З якой брахнёю не вылазь!

Відаць, гэты верш ведаў не толькі ён, таму што з першых жа радкоў усчаўся такі вэрхал, такое абурэнне, змяшанае са страхам, нібыта ў пакой запусцілі жывога грыфона... Прарвала ўсіх — не таму, што праглі вяртання ва ўлонне расейшчыны, а таму, што кожны, хто не запярэчыць, мог патрапіць у саўдзельнікі. Нават калі нехта палічыў Алесеў выбрык правакацыяй органаў — яшчэ больш напінаўся... Сход паступова пераўтвараўся ў выкрыццё канкрэтнага ворага, выкладчыка беларускай мовы і літаратуры Вяжэвіча. Які дапускае на ўроках нацыяналістычныя і ідэалістычныя выказванні, і скіроўвае вучняў у бок ад генеральнай лініі, і насмешнічае над святымі для савецкага народа традыцыямі, і займаецца рэлігійнай прапагандай...

А ён, дурань, уяўляў, што навучыўся прыкідвацца і прыстасоўвацца! Алесь агледзеўся вакол... Некалькі

выкладчыкаў, збялелыя, маўчалі і хавалі вочы... Астатнія... Ды што б ён зараз ні сказаў — яго проста не пачуюць.

Вяжэвіч падкрэслена лена падняў з падлогі свой партфель і, не азіраючыся, выйшаў з залі. Па лбе каціліся кроплі поту. Што ж, рана ці позна гэтым мусіла скончыцца. Так, аднойчы з яго зрабілі здрадніка і правакатара. Але ж здраднікам ён ніколі не быў! Як угневаецца бацька!

На ганку Алесь трохі пастаяў, падставіўшы твар халодным кроплям дажджу, у якіх так хацелася адчуць прысмак вясны, але чулася толькі халадэча і туга.

— Таварыш Алесь, мне трэба з вамі пагаварыць...

Выдатніца Наста, нервова круцячы ў руках парусінавы партфельчык, стулілася пад маладой бярозкай, нібыта тонкае вецце, яшчэ не апранутае ў зялёны сает, магло абараніць ад дажджу. Алесь пакруціў галавой. Наіўнае дзяўчо... Лепей ёй цяпер не паказвацца побач з крамольным выкладчыкам. Але Наста ўжо падышла, так умольна гледзячы вялізнымі блакітнымі вачыма, што адмовіць было злачынствам.

— Добра, Наста... Гавары, што ў цябе за пытанне?

Дзяўчынка дрыжэла, але хутчэй ад нерваў, чым ад холаду.

— Толькі мама сказала, пра гэта няможна расказваць... А мне абавязкова... Я не магу... А каму, як не вам? Вы ж нікому, ніколі... Праўда? Толькі... давайце адыдземся.

Алесь адчуў сябе трохі непамысна... Нашто яму падлеткавыя таямніцы? Але паслухмяна рушыў да прысадаў, якіх не было відаць з вокнаў тэхнікума. Сакавіцкае неба стваралася нібыта з цёмна-шэрага дыму... Колер марэнга...

— Ну, што здарылася?

Наста падняла на выкладчыка вочы, абведзеныя ценямі.

— Я на Цне жыву... Пазаўчора, у нядзелю, мы пайшлі на Брод, коцікі ламаць... Ну, вербачкі. Не, не дзеля вербнай нядзелі, — спалохана ўдакладніла камсамолка. — Так проста, любім вербачкі... Я, сястра, двое хлапцоў суседскіх... Раптам чуем — загулі машыны... Едзе «эмка», а за ёю тры «чорныя вораны». Усе збеглі, а я спалохалася, не паспела, прысела ў хмызняках за насыпам пяску. А «эмка» якраз туды пад’ехала, і выйшлі з яе чацвёра ў вайсковым. Усе ў рамянёх, з партупеямі. Падышлі да кучы, у якой я сядзела, і загля-

даюць уніз — а там, аказваецца, яміна вялізная. «Вораны» развярнуліся, сталі ў рад. Адзін з ваенных падышоў да «ворана», расчыніў дзверцы і пачаў выводзіць адтуль людзей са звязанымі за спінай рукамі. А тады... падвялі іх да яміны — і ў патыліцу... з наганаў... Жанчыны там былі... Усе так проста адзетыя, гавораць па-нашаму... Дзядзька ў лапцёх, як з машыны выйшаў, адразу — на калені і давай благаць: «А людцы мае, а Божа ж мой, а што ж я кепскага зрабіў? У чым я вінаваты?» А яго — у патыліцу...

Дзяўчына закрыла твар рукамі, яе худзенькія плечыкі, абцягнутыя драпавым палітончыкам, пачалі ўздрыгваць. Алесь разгублена глядзеў на яе, не ведаючы, як вярнуць гэтаму дзіцёнку веру ў людскасць і савецкую ўладу. А калі яна гэта страціць... Як ёй далей жыць? Наста сутаргава ўздыхнула і зноў працягнула страшны расповед.

— Як цяпер бачу... Выведуць шэсць чалавек, рукі развяжуць... Паставяць на край яміны... Выводзяць і выводзяць... Страляюць і страляюць... Людзі лямантуюць, просяцца... А ваенныя толькі: «Становись! Становись!» Я аж самлела. А некалькіх ужо мёртвых з машыны выкінулі. Засталося два чалавекі. Надта вымаляліся. Адзін зусім малады, на нашага Казіка падобны... З паралельнай групы... Тады ім кінулі рыдлёўкі, каб яміну закопвалі. Тыя пазасыпалі. І іх таксама прыстрэлілі. Пяском прысыпалі зверху... Пайшлі да машын. Я адпаўзаць, адпаўзаць... У лаўжы нейкія звалілася, у калюгу...

Надзея паглядзела ў вочы выкладчыку зусім не дзіцячым позіркам.

— У нас усе пра гэта ведаюць. Толькі так вось, як я, зблізку не бачылі. Крыкі ж далёка чуваць. Улетку зямля, бывае, «дыхае» над такімі ямінамі... Стогны з-пад пяску... Але ж хто пойдзе раскопваць? У нас у пасёлку таксама двое жывуць, з тых, што расстрэльваюць... Яшчэ і хваляцца. Дзеўкі ёсць, што гараць выйсці замуж за нкусаўца. А гавару я вам вось чаму...

На мужчыну і дзяўчынку з шалёнай злосцю сыпануў халодны дождж, але яны гэтага не заўважылі.

— Калі выкінулі з машыны аднаго мерцвяка, ён якраз на бок упаў, тварам да мяне, блізенька... І... гэта былі вы.

— Што? — не зразумеў Алесь. Але дзяўчынка ўпарта паўтарыла:

— Гэта былі вы. Толькі старэйшы, сівы зусім, і лоб увесь збіты. Я пасля, як на наступны дзень у тэхнікуме вас пабачыла, перапалохалася. Я ж думала, вы мёртвы.

Ад страшнай здагадкі Алесь прыкусіў губу, каб не закрычаць, не спалохаць дзяўчо, але твар яго, відаць, змяніўся жахліва...

Наста жаласна ўсміхнулася.

— Ну, вось... Распавяла... Трохі лягчэй стала. Пайду...

Вяжэвіч пакутліва шукаў словаў — дзяўчынка ж таксама, відаць, спадзявалася нешта выратавальнае ад яго пачуць.

— Я ведаў таго чалавека, на мяне падобнага. Ён быў... добры чалавек. У кожным, самым крывавым часе ёсць дабро... Павер, Наста, яно ёсць... Ёсць сумленныя, чыстыя людзі... Каханне... Трэба заставацца чалавекам. Заўсёды заставацца чалавекам. Чуеш?

Алесь змахнуў з вачэй салёны дождж.

— Быў такі беларускі паэт, Франц Савіч... Ён уваходзіў у падпольнае «Дэмакратычнае таварыства» ў Віленскім універсітэце. Калі яго схапілі, яму было дваццаць тры гады. Яго страшэнна катавалі. Франц сядзеў у смярдзючай яміне, дзе яго заядалі вошы, у кайданах. А ён жа яшчэ і збіты быў увесь. Аднойчы паспрабаваў утапіцца ў збане з вадой, які яму прынеслі наглядчыкі, — так баяўся, што не вытрывае, здасць таварышаў... Яго паважалі нават каты. Франца саслалі ў Сібір, у салдаты. А тады ён уцёк, далёка, на чужыну, і стаў доктарам. І лячыў людзей. І калі здарылася пошасць халеры, застаўся з зусім чужымі яму хворымі і памёр, ратуючы іх... Не чакаючы ні славы, ні ўзнагароды. Разумееш, пра што я?

Наста хітнула галавой, яе вочы нарэшце страцілі страшную пустэчу.

— Дзякуй вам.

У галінках дрэваў, чорных, голых, абуджаўся сок, жыццёвая сіла напаўняла мёртвыя пупышкі, і тыя рыхтаваліся

выставіць свае слабыя, незнішчальныя зялёныя сцяжкі насустрач сіверу і залеве.

Алесь ішоў дахаты і амаль нічога не бачыў перад сабою — слёзы, пякучыя мужчынскія слёзы, наварочваліся на вочы. А ён быў пэўны, што Корб-Варановіча расстралялі яшчэ год таму... Неўзабаве пасля іх размовы, гэтак падступна ператворанай у данос. Прынамсі гэтак сказаў бацька. Схлусіў...

Алесю хацелася кагосьці забіць... Як калісьці ён хацеў знішчыць чалавека, якога пазаўчора закапалі ў халодны вясновы пясок. Значыць, Корб-Варановічу ўдалося пражыць яшчэ год... Як ён вытрымаў? Ці не зламаўся?

Алесю так і не ўдалося выканаць ягоную просьбу, сустрэцца з Марынай Корб-Варановіч. У Ленінград яна пакуль не вярнулася, адшукаць яе ў Саратаўскай вобласці не змог... А цяпер — ці застаецца на гэта час? Пасля сённяшняга сходу ў Алеся ёсць усе магчымасці легчы побач з былым ворагам, і блакітныя вочы якой-небудзь вясковай дзяўчынкі, пацямнелыя ад недзіцячага жаху, будуць назіраць яго смерць з-за хмызнякоў...

Паэт можа перастаць пісаць вершы, але не можа пазбавіцца ад вобразаў, як віхла не можа ганарліва ўзняць угару свае таненькія галінкі. Вяжэвіч уявіў, як адна з багіняў Парак, кашчавая старая з адзіным вокам у лобе, намацала ў агульным скрутку нітку ягонага лёсу, не залатую, не срэбную, проста белую з прымешкам чырвонага суворую нітку, і прымерваецца ўжо бліскучымі, як водбліск сонца на вадзе, нажніцамі, каб перарэзаць... Алесь нават чуў глухі ляскат сталёвых лёзаў, ад якога зводзіць сківіцы, як ад няспелай чаромхі.

Прынамсі, ён паспее пабачыць сваіх родных...

Ад Веранічынай працы ім далі ордар на кватэру на ўскрайку горада, на Даўгабродскай, на першым паверсе цаглянага двухпавярховіка. Два пакойчыкі і кухня — гэта здавалася верхам раскошы! На кухні, за паркалёвай фіранкай, аказалася нават ванна — вялізная, чыгунная, на жалезных ільвіных лапах, з белым эмалевым пакрыццём спрэс у ржавых плямах... Для Ірынкі — лічы, возера, калі пару вёдзер вады заліць...

— Тата! Я навучылася таньчыць, як рыбка!

Рыбка ты мая... Алесь падхапіў бяляvenькае сваё цуда на рукі, пацалаваў у лобік... Ірынка не дужа ўдалася ў Вяжэвічаў — толькі валасы ды вочы ягоныя, і цяпер ужо зразумела, што радавой мяккасці ў рысах не будзе, і Алесь шчыра гэтаму радаваўся. З характарам дзеўка вырасце, жвавенькая...

Вераніка паказалася з другога пакоя. Як яна ўсё-ткі схуднела, аж пад вачыма — цёмна... Але ад гэтага яшчэ прыгажэй.

Можа быць, удасца неяк уберагчы яе, каб не перажываць ёй зноў грукат у дзверы,ператрус, арышт мужа... Вар'яцкая думка — пайсці самому ды здацца «ў апрацоўку»... Не засільвацца ж — маці ніколі не даруе. Колькі разоў паўтарала: няма страшнейшага граху, як адмовіцца ад дару Боскага, ад жыцця... Нават на крыжы ёсць надзея!

Калі б ён мог маліцца, як у дзяцінстве! Шчыра, з верай непарушнай і шчаслівай, звяртацца не да пагрознага Цара нябёсаў — а да ўсёдаравальнага, усёразумеючага Айца...

...Калі магчыма, пранясі гэтую чару паўз мяне... Але няхай будзе, як Ты хочаш...

Усё-ткі добра, што маці ўпотай ад усіх пахрысціла сваю ўнучку, — прыйшла ў галаву настаўніка крамольная думка. Пахрысціла тут, побач, у Аляксандра-Неўскай царкве, якая адна і засталася дзейнічаць з усіх культавых пабудоваў... Алесь і Вераніка абураліся, але супакоіліся, — што ж, забабоны жывуць доўга, а дзіцяці шкоды няма. А цяпер Алесь быў рады, што ў дачкі нябесны заступнік... Не, Вяжэвіч не збіраўся апраўдваць цемрашальства. Але... А раптам усё, у што ён верыў у дзяцінстве, рай і апраметная, анёлы-ахоўнікі і дэманы-спакушальнікі, Прасвятая Багародзіца і сонм святых угоднікаў, насамрэч існуе, як і Усёдаравальная Любоў і Страшны Суд?

Каб жа гэта было так...

Дзвярны званок разануў па вушах, як пугай. Яшчэ раз, яшчэ... Няўжо так хутка?... Вераніка пайшла адчыняць. Алесь схіліў галаву над пісьмовым сталом, ператварыўшыся ў слых. Вось бразгае замок... Рыпяць дзверы... П'яны голас бацькі.

Даўно ўжо ягоны голас не звязваўся для Алеся з радаснай палёгкай.

Старэйшы Вяжэвіч стаяў пасярод вітальні, трымаючыся рукой за сцяну. Ён усё яшчэ быў дужы і прыгожы, калі не прыглядацца, і староннi чалавек мог і не зразумець, наколькі ён ва ўладзе шклянога бога. Ды Алесь выразна бачыў: твар азыз, скура робіцца пергаментна-жоўтай, на носе праступаюць юлёвыя прожылкі, цёмныя валасы адбягаюцца ад высокага лба ўсё далей, а у светлых вачах — жудасная пустэча, як у наўца, які загінуў гвалтоўнай смерцю. Алесь чытаў пра вучоных, што намагаліся здабыць выяву, якую нібыта захоўваюць вочы мерцвяка, — тое апошняе, што ён бачыў у жыцці. Што ж давялося пабачыць бацьку, пасля чаго ён, колішні, памёр?

Лепей не ведаць.

Антон Антонавіч Вяжэвіч упёрся цяжкім паглядам у сына.

— Што ж ты нарабіў, Сашка? Праўду кажуць — ратавалі вадзяніка ад вады, затапіў вадзянік гарады... Каму стала лягчэй ад тваіх палымяных прамоваў? Што зменіцца да лепшага? І да булавы трэба галавы...

Трэба ж, якая аператыўнасць... Даклаў нехта, куды трэба, пра сённяшні сход.

Вераніка спалохана спытала ў свёкра:

— Няўжо... зноў?

— Зноў! — злосна пасміхнуўся лекар. — І яшчэ як пракукарэкаў наш пястун паэтычны! Да Масквы дайшло. І на гэты раз ніхто не дапаможа. Ні мае сувязі, ні... твае, Вераніка.

Алесь змрочна прамовіў:

— Я не зрабіў ніякага злачынства.

Бацька засмяяўся, быццам ламалася сухое дрэва.

Паляванне на ведзьмаў — вясёлы занятак,
Мерзлы бруд б'е фантанамі з-пад капытоў.
Нарадзіўся на свет —
дык ужо вінаваты...
Вінаваты стакроць, хто ў загон не пайшоў.

Та-ак, калі бацька пачынае цытаваць вершы, значыць, справа зусім дрэнь...

— Ты не сябе сёння загубіў... Ты ўсю сям'ю загубіў. Ты хіба сабе належыш? Дзеля чаго я і твая жонка душы свае заклалі, сябе прадалі, каб цябе, боўдзілу, ад смерці выкупіць? Каб ты героем непрызнаным беспакарана над травою лунаў, нехта мусіў у гразі папоўзаць! Ты пра гэта не задумваўся, лятун? І што, усё дарэмна?

Бацька стаяў, злёгку пахістваючыся, пасярод вітальні, вялікі, роспачны, варты жалю... А ягоныя словы, як кроплі кіслаты, раз'ядалі свядомасць, дастаючы да жывога...

— Пры чым тут Вераніка? — непаслухмянымі вуснамі прашаптаў Алесь, зірнуў на жонку... І скамянеў ад жаху: яна, скурчыўшыся, спаўзала на падлогу, закрыўшы галаву рукамі, нібыта на яе сыпаўся гарачы попел.

— Веранічка! Што з табой? Ды яшчэ ж нічога не здарылася! — Алесь кінуўся дапамагаць, паднімаць... А яна з нейкім адчаем адштурхоўвала яго рукі, хавала твар:

— Не чапай мяне! Не датыкайся да мяне! Ты не разумееш... Ты нічога не разумееш!

А турэмны лекар зарагатаў страшным, пякельным рогатам...

Малодшы Вяжэвіч застыў ад раптоўнай здагадкі.

— Ты... ты прасіла за мяне Хведара? Як ты магла!

Вераніка сядзела на падлозе, прыхінуўшыся да сцяны, яе прыўкрасны збялелы твар нагадваў маску. А голас быў мёртвы.

— Калі б я не была з ім, цябе б даўно забралі.

— Чакай, а праца твая... Усе гэтыя пайкі, какава, панчохі... Вячэрнія паседжанні... — Алесь чуў свой голас нібыта збоку.

— І ордар на кватэру, і паблажлівасць твайго начальства ў тэхнікуме! — дакончыў з горкім здзекам Антон Антонавіч. — Толькі калі ты, смаркач, зараз уздумаеш разыгрываць Атэла — я цябе ўласнай рукой прыб'ю... Адзін ты, рыфмар недароблены, не бачыў, як твая каханая пяклуецца... Не хацеў бачыць, удумвацца... А цяпер позна. Вось жа пашчасціла мне на самагубцаў... Можа, хоць маці тваю паспею выцягнуць з дрыгвы, перш чым самога...

— А што з маці? — Алесь адчуваў сябе, як човен, на які зараз кінуць апошні камень — і пойдзе на дно.

— Верніца твая маці... — Антон Антонавіч раптам усхліпнуў. — Сёння на Аляксандра-Неўскую налёт быў. Забралі ўсіх... Святароў, харыстаў, прыхаджан... Абразы, шаты ў кучу сцягнулі, падпалілі... А Сафійка абраз проста з полымя выхапіла, пад кофту засунула... Няўжо спадзявалася, што не ўгледзяць? Вось і пацерпіць цяпер за веру сваю, як марыла... Вянец пакутніцкі атрымае... Я пабег пра яе дазнавацца. А там мне і пра цябе знаёмыя даклалі.

Голас Антона Антонавіча здрыгануўся. Турэмны лекар правёў рукой па твары, змахваючы слёзы, гора і прывід чалавечнасці.

— Адзінае, што можа нам усім яшчэ дапамагчы, — аддай ім палову срэбнага кубка, якую ты ў мяне забраў. Я ведаю, вас і абшуквалі, і распытвалі... Ды сэрца мне падказвае — затаіў ты кубак з нейкіх рамантычных меркаванняў. Нашто табе пакрываць графскіх вылюдкаў, Корб-Варановічаў? Яны над намі стагоддзямі здзекаваліся. Дзе кубак?

Алесь упарта ссунуў бровы.

— Няма. І не будзе.

Старэйшы Вяжэвіч пільна ўгледзеўся ў твар сына.

— Няўжо цябе зачапіла раскрыццё родавых таямніцаў, усе гэтыя падземныя цэрквы, княскія магілы? Дурань! Сыдзеш разам з таямніцамі ў зямлю, і нас пацягнеш...

— Кубка няма!

Бацька скрушліва ўздыхнуў:

— Парода... Ды не графская. Не спадзявайся — для Корб-Варановічаў мы назаўсёды — род прыслугі, ніжэйшы гатунак. Дом, дзе можна спраўдзіць права першай шлюбнай ночы... Проста час ад часу трапляліся сярод Вяжэвічаў такія, якім здавалася, нібы могуць зраўняцца, парадніцца з гаспадарамі... Цягнула адно да аднаго, як смалу да абцаса. І што добрага? Нянавісць назапашваецца вякамі, адзін глыток любові не пазбавіць моцы возера атруты. Адна Вяжэвічаўна гадоў сто таму звязалася з графам Варановічам, што ў паўстанне падаўся, хавацца яму дапамагала, насуперак сям'і пайшла, усё, што ні прасіў, рабіла, жыццём рызыкавала... А ён яе

кінуў, як скарыстаную анучу, і пашлюбаваўся з князёўнай. І тады Вяжэвічаўна здала ўладам увесь ягоны атрад, на чале з камандзірам. За такое маглі ўзнагародзіць канфіскаванай маёмасцю бунтаўнікоў. А падманутая паненка ўзяла ды адмовілася. І маёнтак у Ройне дастаўся нейкім расейцам. А мог быць нашым. Нашчадкі доўга неразважлівую бабулю нядобрым словам успаміналі. Вось як...

Турэмны лекар змрочна агледзеў маладых.

— Шкада, унучку не пабачыў... Але, можа, гэта і да лепшага. Дзеці, яны адчуваюць, што ў дарослых на душы. Усё. Пайду «ворагаў народа» лячыць. Мог бы параіць збегчы, схавацца... Але пакуль не ведаю тых, каго б не знайшлі. А можа, табе пашанцуе? Калі ў Саранск які... У Казахстан...

Турэмны лекар паклаў на этажэрку пачак купюр, перацягнутых гумкай.

— Вось, болей не маю... Бывай, сыне... Наўрад мы на тым свеце сустрэнемся.

Дзверы зачыніліся. У кватэры запанавала ціша, якую парушала толькі вясёлае шчабятанне Ірынкі з-за зачыненых дзвярэй пакоя — відаць, зноў вучыць сваіх лялек таньчыць балет. Вераніка ўсё гэтак жа нерухома сядзела на падлозе, і Алесь змог, хаця і не адразу, здушыць мужчынскі эгаістычны гнеў, выгнаць з уяўлення жахлівыя карціны, ад якіх вар'яцеюць, — як тваю каханую лашчаць чужыя рукі... Замест гэтага засталіся толькі жаль, і скруха, і каханне, якое ўсё даруе.

Алесь прысеў побач з жонкай, абняў... Вераніка, быццам не верачы, прыхінулася да яго, і мужчына адчуў, што яна ўся дробна дрыжыць...

— Не трэба нічога гаварыць, нічога тлумачыць... Гэта я не змог цябе абараніць. Прабач мне, калі можаш... Калі выжыву — Ветрака прыб'ю ўласнаручна. Чэрап яго гнілы кулаком раструшчу, — Алесь з цяжкасцю перавёў дыханне, перанятае гневам. — Паслухай, дарагая... У мяне апошняя просьба. Знайдзі, калі ласка, Марыну Корб-Варановіч... Памятаеш, мы да яе ездзілі ў Ленінград? Можа, яна туды вернецца... І перадай вось што...

Алесь хутка зашаптаў ёй на вуха...

Вераніка недаверліва адсунулася, паглядзела на мужа.

— Так, гэта была ягоная просьба... І мая такая ж...

Алесь устаў, падняў жонку.

— Ну, дзе мой турэмны клунак?

Гэта быў не жарт — апошні год, як і ў тысячах сем'яў, у Вяжэвічаў заўсёды ляжаў напагатове «турэмны клунак»: сухары, змена бялізны, цёплыя шкарпэткі... Вераніка ўпарта падкладала туды адзінае багацце — залаты пярсцёнак з заімглёным смарагдам, што дастаўся ад бабулі...

— Мы зараз жа павінны сабрацца ўсе! — як прачнуўшыся, горача загаварыла Вераніка. — Бацька твой сказаў — а раптам удасца? З горада выберамся пешкі, пераначуем у маёй цёткі ў Воўкаўшчыне, а там — у Казахстан... Сядзець і чакаць смерці — горай за смерць!

Алесь адмоўна пахітаў галавою.

— Зловяць — тады і цябе арыштуюць. А Ірынка на каго застанецца?

Але Вераніка ўжо ліхаманкава забегала па кватэры, выкідаючы з шафаў на падлогу нейкія транты.

У дзверы не пастукалі — загрукаталі, нібыта ламіўся статак шалёных адзінарогаў...

— Ірынку трымай! — крыкнуў Алесь і сам пайшоў адчыняць.

Ім далі хвілю развітацца — ён пацалаваў Вераніку, дачку... Узяў свой клунак...

У «варанку» ён аказаўся апошнім — столькі было напхана людзей, што ўсе стаялі, прыціснутыя адно да аднаго, як сцяблінкі лёну ў снапку. Мужчыны, жанчыны, старыя, маладыя, зусім падлеткі... Лямант, шэпты, праклёны, малітвы... Нехта ўвесь час трывожна ўскрыкваў проста ў Алеся над вухам:

— Цішэй! Сціхніце! Грамадзяне, давайце не ўсугубляць!

Нібыта крыкам тут можна было штосьці «ўсугубіць»...

Некалькі галасоў — падобна, святары ці пеўчыя — спявалі пакаянны канон. Проста карціна Босха ў зацямненні...

— Аляксандр Антонавіч! — таненькі галасок зрываўся ад слёз. Алесь азірнуўся, але што ўбачыш у цемры?

— Гэта я, Наста...

Божа мой, Божа, папусціў ты нам за грахі нашыя...

— Не бойся, Настачка!

— Ды што ж ужо... Як яно будзе, так і будзе... — з адвечнай пакорлівасцю патомнай беларускі прашалясцелі словы.

Пакорлівасць, рахманасць, талерантнасць... Як жа без іх беднаму бульбаеду? Вось калі трэба на кагось беларуса нацкаваць — яму ўбіваюць у голаў пра ягоныя мужнасць, гераічнасць і ахвярнасць. А калі ён гераічна, паліўшы сваёй крывёю ўласныя стаптаныя палі, пераможа — крыжакоў, татараў, французаў, сваіх жа братоў дзеля выгодаў чужога дзядзькі, яму зноў трындзяць пра талерантнасць і братнюю лагоду. А хто абароніць вось гэтую блакітнавокую беларускую дзяўчынку? За што ёй наканавана згінуць між бязлітасных шасцярэнек бяздушнага механізму? Чаму беларусы вечна ядуць адзін аднаго па чужым загадзе? Каталікі — праваслаўных, праваслаўныя — уніятаў, шляхта — мужыкоў, усходнікі — заходнікаў... Вяжэвіч адчуў, як яго ахоплівае гнеў, б'ецца ў сэрцы, у скронях... Дурань! Які ён дурань! Што даў год прыстасавальніцтва, змірэння? Пакуты і ганьбу жонкі? У што ён сваёй баязлівасцю яе ператварыў! Хоць бы вершы пісаў! А ён іх душыў у сабе, жывых, балючых... Усё! Больш не дачакаюцца. Ані слова пакоры... Ані намёку на згоду... Хай робяць з ім, што хочуць.

## Раздзел 12.
## ХАЙ МЁРТВЫЯ САМІ ХАВАЮЦЬ СВАІХ МЕРЦВЯКОЎ

Заснавальнік беларускага тэатра Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч сваю жонку Юзэфу Бараноўскую выкраў. Яго нанялі за хатняга настаўніка да віленскіх багацеяў, ён закахаўся ў шаснаццацігадовую дачку гаспадароў, яна адказала ўзаемнасцю — і настаўнік яе звёз. Ноччу, на конях... Таемна павянчаліся... І нарадзілі чатырох дзетак.

Няма жанчыны, якая б не марыла, што аднойчы яе вось так звязуць.

У Асі было неадольнае адчуванне, што з ёю менавіта так і сталася. Шалёны намёт коней, надзейныя рукі каханага, таемнае вянчанне, першая шлюбная ноч... Нават усплывалі

немаведама адкуль карцінкі: белыя калоны сядзібы застаюцца за цёмнымі прысадамі, мяккая ігліца прыглушае стук капытоў, дрыжыць полымя вянчальнай свечкі ў бязлюднай царкве, голас святара гучыць пагрозна, узлятае пад самую столь, насупраць жаніх у сурдуце, нібыта Даніла Корб-Вpiановіч, ён — і не зусім ён, глядзіць трывожна і ўладна, і з такой жарсцю... А каля левай скроні ў яго — след ад шаблі...

Гістарычных раманаў трэба меней чытаць.

Рэдактарка невідушчымі вачыма глядзела ў акно, за якім не было нічога цікавага. Толькі шэрая бетонная сцяна, з якой можна атрымаць хіба што асацыяцыі пра расстрэл...

Унутры Шэрай Будыніны ўтварыўся кокан, непрасякальны для звычайнай бюракратычна-дысцыплінарнай гульні. Спазніся раней Арсенія на дваццаць хвілінаў, зараз бы круцілася ў крэсле, як жук у павуціне, і думала, якімі страшнымі рэпрэсіямі адгукнецца сённяшняя вольнасць. А цяпер яе думкі былі толькі пра мінулую ноч (вечар, дзень, раніцу).

Што гэта было?

Гэта вось тое самае, што прадказвала ёй маці на падлеткавае ныццё пра незапатрабаванасць у амурна-гіменейных справах: «Пачакай, прыйдзе твой час»? Чаму невядомая сіла кінула яе ў абдоймы ненавіснага чалавека, мужчыны, які старэйшы за яе на... ну, не так шмат, на дванаццаць гадоў? Што за стыхійная моц абудзілася ў заўсёды закамплексаванай дзеўцы, якая раней, цалуючыся, звычайна думала толькі пра тое, што ўсё робіць няправільна, што зараз з яе пасмяюцца? А распрануцца... Як можна — з ейным няўклюдным целам, ды на вачах чужынца... Адкуль цяпер такі спакой, такая... паўната жыцця і абароненасць! З люстэрка глядзеў новы твар... Стамлёны і шчаслівы, з больш вытанчанымі рысамі, і тая дзеўка ў люстэрку захоўвала вялікую таямніцу... Яшчэ там адбіваліся лямпы дзённага асвятлення са столі кабінета, схаваныя пад рабрыстыя краты, і Арсенія ўявіла, што гэта два прывідныя ланцугі твараў цягнуцца да яе з мінулага — род Корб-Вараноўічаў і род Вяжэвічаў. Твары былі аднолькава раз’юшаныя.

Ася нацягнула вышэй каўнер тонкага чорнага швэдарагольфа, пазычанага ў Корб-Варановіча: далібог, даводзіцца, як школьніцы пасля вясковай дыскатэкі, хаваць чырвонасінія плямы на шыі... Дадому ж так і не дабралася, пераапрануцца. Добра, джынсы ейныя і бялізну Корб-Варановіч вымыў у пральнай машыне, устаўшы сярод ночы, пакуль Ася спала, а тады паклаў на электрасушылку...

Неўзабаве пасля таго, як Арсенія ажыццявіла параду старога паэта набыць досвед «мордай аб асфальт», вядомы празаік, які рэдагаваў ейныя аповеды, пачаў наракаць, што ў іх усё занадта прыгожа.

— Крышталёвыя келіхі, клавесіны, вэлюмы... Што вы, бруду ў гэтым жыцці не бачыце? Болю? Урэшце, жывой плоці з пахамі поту і мачавіны? Уявіце, што вам трэба апісаць першую шлюбную ноч... Як вы справіцеся? Зноў — «Яны зліліся ў жарсным пацалунку, і сузор'і спусціліся з нябёсаў, і зямля сплыла з-пад ног»? Альбо сур'ёзную прозу пішыце, альбо займіцеся вышываннем.

Тады Ася вельмі пераняласся. Яна ж сама толькі што перажыла «першую шлюбную ноч» з незнаёмым пэтэвушнікам. І што, апісваць, як ён крактаў над ёю, і не мог адразу патрапіць, куды належыць, і жаласным голасам папрасіў дапамагчы, а яна, ледзь не ванітуючы ад агіды, але поўная рашучасці давесці эксперымент да канца, дакранулася да ягонага... Цьху! Які мэсэдж для чытача яна гэтым пашле? Абудзіць юрлівасць? Падорыць вобразы для начных фантазій? Не для таго бралася за асадку, пардон, клавіятуру. Чаму кожны мастак-графік абавязкова мусіць быць Бердслеем? Дый той, паміраючы ад сухотаў, святога каталіцкага прычасця запрасіў і свае ілюстрацыі да «Лісістраты», з чэлесамі, загадаў знішчыць.

Арсенія прагартала процьму кніг у пошуках згаданага апісання першай шлюбнай ночы. У Караткевіча гэта выглядала так: «І яна даравала мне нават боль», альбо вакол закаханых у адказны момант сапраўды нешта закруцілася, заззяла... «Я паміраў двойчы...» — «Я таксама...».

У Івана Шамякіна ў «Шлюбнай ночы» дастаткова было, як яны прачнуліся, а ў дзяўчыны сцерхла рука, бо там ляжа-

ла галава каханага, але маладая баялася паварушыцца, каб не пабудзіць яго... Хапала, вядома, і тэкстаў, у якіх фігуравалі напружаныя чэлесы і набрынялыя пахвы, клітары, аргазмы і фрыкцыі... І гэта чамусьці хвалявала куды меней.

Цікава, а як бы Арсенія апісала мінулую ноч з Корб-Варановічам? Як увогуле можна кранаць словамі тое, што мусіць застацца таямніцай між дваімі?

Але ад успамінаў закруцілася галава, аж млосць разабрала.

На стале ляжаў чарговы рукапіс, няўважна скрэслены Асяй, але што яна там крэсліла, калі трэба яго здаваць, ёй было, як да Бабілону... Неадменна тут пабываў чорцік Тытывіл, які ў сярэднявечных скрыпторыях штурхаў мніхаў-перапісчыкаў пад руку, каб крыва напісалася...

Ася зноў і зноў пракручвала ў галаве нядаўнія кадрыкі... Раніца пасля першай сумеснай ночы... З'ява, якая спаконвек выклікае жах не толькі ў легкадумных асобаў, адвечных пікапшчыкаў. Уладзімір Караткевіч і той пісаў:

І ёсць дзясяткі, з кім можна спаць,
Прачынацца — ніводнай няма...

Сёння Ася прачнулася і нават нейкі час ляжала, ледзь не муркочучы, як котка, ад утульнага шчасця, якое таненька пазвоньвала ў душы, як срэбныя званочкі... Хаця колькі там удалося паспаць? Гадзіны чатыры ад сілы...

— Ну што, паненка, калі прызначым вяселле?

Корб-Варановіч глядзеў на яе, падпёршы галаву рукою, з насмешкай і прыхаванай пяшчотай. Ася правяла пальцам па ягоным твары, паўтараючы абрысы, гэтак падобныя да ейных... Высокі лоб, просты нос (толькі ў яе трошачкі прыўзняты), вусны з гэтай асаблівай, даткліва-даверлівай складкай, якія могуць рабіцца саркастычнымі і жорсткімі... А падбароддзе ў яго мужнае, з ямінкай...

Вяселле? Якое вяселле? Хіба між імі было сказана хоць паўслова пра каханне?

— Ты што, думаеш, гэта — усё? Я вось так цябе вазьму і адпушчу?

Мужчына змусіў яе адкінуцца на падушку, нахіліўся зверху. Яго вочы здаваліся цёмнымі, як восеньская вада, і нават пагрознымі.

— Зразумей, дурнічка, тое, што адбылося, не можа быць проста дзеля задавальнення. «Стануцца двое адною плоццю...» — думаеш, для прыгожага слоўца сказана? Я — хрысціянін. Кепскі, грэшны хрысціянін... Але я ведаю, да чаго трэба ставіцца сур'ёзна. Мы звязаныя назаўсёды. Я за цябе адказваю перад Богам і людзьмі...

Ася на хвілю забылася на ўсё, адказваючы на пацалунак, хаця вусны ўжо і так балюча гарэлі, а пасля адчула, як у яе едзе дах ад неверагоднай прапановы. Хрысціянін, пачуццё доўгу... Ну так, зразумела цяпер, чаму ён са сваёй спявачкай важдаецца...

— Ты што, кожнай жанчыне, якая бывае ў гэтым ложку, робіш такія ультыматумы?

Корб-Варановіч памаўчаў.

— Не, не кожнай...

Ася адвярнулася. Пацвердзіў, што тут бывала не адна да яе...

— Вось ён, вынік маскуліннага выхавання! Найвышэйшым дасягненнем для жанчыны лічыцца — пашлюбавацца... Злавіць свайго мужчыну... Займець уладара... А калі мне гэтага не трэба?

— А што табе трэба? — Даніла зусім не раззлаваўся, наадварот, паблажліва ўсміхаўся, гледзячы на яе, як на дзіцё, якое ўгневалася, што пясочны піражок нясмачны. — Што хочаш ад гэтага зямнога існавання ты сама, Арсенія?

— Ну, хаця б пачуць, як мяне кахаюць...

А Корб-Варановіч, вось паскуднік, замест таго, каб прызнавацца ў каханні, лена сеў, пацягнуўся па нагавіцы, пачаў апранаць. Калі Вячка нагадваў ваўка, дык гэта быў леў. З попельнай хвалістай грывай. А на бінтах жа ў яго зноў трошкі кроў праступіла... Ну, не дзіўна — уночы ён быў то неверагодна пяшчотны, то проста шалёны... Уй-й, як усё баліць — быццам чатыры ўрокі фізкультуры запар... Нават забылася пра здаравучы сіняк на назе, клапатліва змазаны Корб-Варановічам нейкай празрыстай адмысловай маззю.

— Усё вельмі проста. Уяві, што мы ніколі больш не сустрэнемся. Разыдземся — і зробім выгляд, што нічога не адбылося. Так, зацямненне свядомасці... Пожад... Ты згодная на такое?

Ён стаяў перад ёю і чакаў адказу, нібыта зусім спакойна, але грудзі ягоныя ўздымаліся амаль як учора, калі ён спрабаваў змагчы жарсць і адправіць нахабную Вяжэвічаўну дадому... І Ася таксама паднялася, і напляваць ёй было, што стаіць яна без адзежы перад мужчынам і што зусім не так уяўляла свайго рамантычнага героя...

— А ты... Зможаш болей мяне не бачыць?

Корб-Варановіч холадна прамовіў:

— Спадзяюся, не памру ад гэтага.

Памаўчаў, цешачыся Асіным абурэннем, і ціха, незадаволена дадаў, так, што не ўзнікала сумненняў у шчырасці:

— Можа, і не памру... Але памерці мне было б лягчэй.

І перарывіста ўздыхнуў:

— Вось такое насланнё.

Нягоднік! Яна ж яго зусім не кахае! А ён — яе! Каханне — гэта доўгія прыгляданні і лёгкія дотыкі, нясмелыя і палкія прызнанні... Пяшчота, якая перарастае ў тое полымя, у якое ім давялося раптоўна скочыць... Складаны танец... А не бойка...

Хаця, чакай, у некаторыя эпохі каханне якраз атаясамлівалі з бойкай! Катул, напрыклад... Пацалункі да крыві, драпіны і сінякі, раз'ятранае сутыкненне, крыкі палюбоўнікаў... Ася мімаволі скасавурылася на жывапісныя чырвоныя драпіны, што прыкрашалі плячук гісторыка, і гэтыя драпіны пакінула ноччу зусім не котка... Як гэта стасуецца з хрысціянскім вызначэннем любові, якая ўсё пакрывае і лагодзіць? А цяпер ёй трэба далучыць сюды ранішнюю яешню (сам згатуе!), мыццё брудных шкарпэтак (нізавошта!), спатыканне аб непадымныя гантэлі, што валяюцца вунь там, на дыванку (прыбярэ ў кут!)... Ці доўга могуць трываць такія адносіны?

Урэшце, ёсць Вячка... Іранічны, геніяльны, непрадказальны... Як жа ён? А, ды ён жа застаўся пасярод чыстага поля ля шашы...

Значыцца, што, развітацца з дзядзькам — і ніколі больш? Уявіла.

І ледзь не застагнала ад болю — усё ўнутры абрынулася, скруцілася ў халодны вузел жаху... Ды што ж гэта настолькі пазбавіла яе волі? Як прыкавала...

З вуснаў дзяўчыны сарвалася зноў адчайнае:

— Я цябе ненавіджу! Як жа я цябе ненавіджу!

І тая ж невядомая сіла шпурнула яе да мужчыны, змусіла прыціснуцца, адчуць ягонае моцнае цела, ухапіцца за яго, нібы патанала...

— Я цябе... таксама... ненавіджу... — задаволена адказаў мужчына, лёгка цалуючы яе твар і рукі. — Таму неадкладна прыгатую сняданак... Вопратка твая высахла, забірай у лазенцы. Бо мы абое ўжо капітальна спазняемся. А мне яшчэ ў Ройна ехаць...

— Вяжэвіч, гэта вы рэдагавалі?

Начальнік кінуў на стол перад Асяй скрэсленыя старонкі. А, гэта з ранішняй порцыі, якую рэдактарка, відаць, паспела здаць у карэктуру.

— Вы што, здзекуецеся? Што за глупства! Ці гэта правакацыя?

Арсенія сумленна паспрабавала засяродзіцца на аркушах паперы. Тыповы «сокал-прынтаўскі» тэкст... Пра развіццё эканомікі, няспыннае, як ікота ў п'янога, і падвышэнне дабрабыту народа ажно да накрыўкі каналізацыйнага люка... І са здзіўленнем прачытала выведзеныя ўласнай рукой паўзверх друкаваных радкоў фразачкі кшталту «лапша ідэалагічная, вышэйшага гатунку, паўпразрыстая, утрыманне штучнага тлушчу ніжэй нормы, біялагічна-дэфектыўныя антыдэпрэсантныя дабаўкі праверaныя на студэнтах журфака».

Начальнік сыходзіў гневам, як мінералка — бурбалкамі. А Арсенію раптам разабраў дурны смех.

— Яна сёння нейкая не такая, — тут жа азвалася з-за свайго камп'ютарнага стала каляжанка Валянціна. — У Вяжэвіч, падобна, нервовы зрыў, Канстанцін Львовіч. Нешта ў яе здарылася сур'ёзнае, на пытанні не адказвае, маўчыць... Вось у істэрыку кінулася. Не звяртайце ўвагі. Ёй да доктара трэба.

— Нервовы зрыў! — начальнік ледзь не пляваўся танкагубым ротам, раздражнёна сузіраючы Арсенію, якую працягваў казытаць Чорцік-Рагатунчык. — Ва ўсіх здараюцца няшчасці. Хто развёўся, у каго родны чалавек памёр, Аля Сакурава з маркетынгу вунь дзіця мёртвае нарадзіла... І ніхто на працы істэрык не закатвае! Тым болей шкодніцкіх акцый не ўтварае. Развяла раманы з раманістамі! Яны добраму не навучаць... Хворыя нервы — заяву на стол, і наперад! Сюды чарга стаіць, няма чаго месца займаць! Сёння ж тлумачальную на стол дырэктару... Трэба ж... «Лапша ідэалагічная, вышэйшага гатунку»... — прабурчэў ён, сыходзячы, і сам сабе хіхікнуў. Ася ведала, што ейныя фразачкі з рэдактуры зараз пойдуць гуляць па кабінетах. Тыя, хто выробляе туфту для шараговага спажыўца, як правіла, цудоўна ведаюць ёй цану.

— Здаецца, абышлося, — з палёгкай уздыхнула Валянціна. — Мне падзякуй. Ды што на цябе такое сёння найшло?

— Так, замуж выходжу, — весела прамовіла Арсенія абсалютовую лухту, закрыла тэчку, аж пыл пайшоў ад старонак, схапіла сумку, куртку, трывала забылася ў шафе чорную спартовую шапачку, якую Корб-Варановіч насунуў на яе раніцай з буркатаннем пра «мазгі апошнія адмарозіш», і выбегла за дзверы, ігнаруючы крыкі Валянціны пра тое, што замужжа замужжам, а да абеду яшчэ сорак хвілінаў, і можа прыйсці праверка, і план, план...

«План», між іншым, гэта яшчэ і порцыя наркотыку на слэнгу нарыкаў.

Шэрая Будыніна раптам страціла над Арсеніяй усялякую ўладу. Ася накрэмзала ў прыёмнай заяву на звальненне «па сямейных абставінах», падміргнула ашалелай сакратарцы і пайшла прэч...

Даніла ж так і сказаў: «І нагі тваёй не будзе ў «Сокалепрынце!».

Вось камандаваць сабою яна дакладна нікому не дазволіць. І ўвогуле, яшчэ нічога наконт далейшых адносінаў не вырашыла... Так яму і сказаць, няхай памучаецца. Але з Данілам цяпер пабачацца дай Бог увечары... Ён жа зараз, напэўна, дастае са сваёй камандай нябожчыкаў з сутарэнняў... Ёсць,

аказваецца, у яго каманда — двое археолагаў і адзін самавук-краязнавец, гэткія ж шаленцы на гістарычнай глебе, як і ён. Варта гукнуць — усё пакідаюць і памчацца ці старую сядзібу ратаваць, ці гарадзішча раскопваць... Ну і студэнты ёсць на падхваце, змена маладая старых фанатаў...

Значыць, ён можа там і заначаваць... Калі да радавых таямніцаў дойдзе, на ўсё забудзецца! Хоць бы яшчэ ў якую зваду з Калантаем не патрапіў...

Думка, што нягодніка Варановіча яна, магчыма, сёння не сустрэне і не зможа падрабязна растлумачыць, як яго ненавідзіць і чаму, раптам сапсула Асі ўвесь настрой... Аж да слёз...

— Прывітанне паненцы!

У вестыбюлі, пад рэкламнымі плакатамі выданняў «Сокала-прынта» стаяў Вячка. З гэткай жа драпежнай усмешкай, у чорнай джынсавай куртцы, з заплечнікам, з якога тырчэла сіняя тэчка.

Ася адчула, што чырванее, і хуценька папыталася, спрабуючы схаваць няёмкасць:

— Ну, як ты дабраўся?

— Нармалёва! — Скрыніч працягваў усміхацца. Але Асі падалося, што ў ягонай усмешцы не болей весялосці, чым на шкле — поўсці. — А ты як даехала?

— Таксама нармальна... — Ася шчыра спадзявалася, што голас яе гучыць, як заўсёды.

— Нармальна? — выскаліўся Вячка і раптам схапіў яе за руку, аж балюча стала. — Я табе ўсю ноч тэлефанаваў! Нават сваякам тваім... Няма, кажуць, Асі! Думаў, прыехала, спіш... Раніцай хацеў цябе на працу правесці — няма... Корб-Варановіч таксама слухаўку не бярэ, паскуда. Дзе ты была?

Арсенія асцярожна вызваліла руку.

— А чаму ты лічыш, што маеш права мяне дапытваць? Я ўжо вялікая дзяўчынка. Якая табе справа, дзе я была?

Скрыніч закінуў чарнавалосую галаву, нібыта сабраўся завыць, але раптам засмяяўся. Сухавата, няшчыра... Але ўсё-ткі цяпер ён быў болей падобны да звычайнага цынічна-вясёлага Вячкі.

— Ну, мне ж трэба праверыць, ці спраўджваецца тое, што я напісаў пра сваіх герояў... Памятаеш, я абяцаў, што мы пражывём дакладна ўвесь мой новы раман?

Вячка дастаў з заплечніка сінюю пластыкавую тэчку, тузануў гумку, знайшоў патрэбны аркуш...

— «Яе проста пацягнула да гэтага немаладога, ненавіснага чалавека нейкая неадольная сіла... Іх пацалунак менш за ўсё быў падобны да рамантычнага пацалунку закаханых... Калі б яшчэ яна магла зазірнуць у гэтую хвілю ў ягоныя халодныя, разважлівыя вочы, дык удалося б утрымацца на краі прорвы, зразумець, што для яго яна — усяго толькі маладзенькая дурнічка, чарговы аб'ект жывёльнай жарсці, якую ён так умела абуджаў у нявопытных дзяўчатак...»

У Арсеніі пацямнела ўваччу ад гневу. Яна рванула з Вячкавых рук паперу, скамячыла, кінула...

— Перастань! Даніла, калі б пачытаў, цябе б праз акно выкінуў!

— Значыць, праўда! — вусны Вячкавы дарэмна спрабавалі скласціся ва ўсмешку. — Ён для цябе ўжо «Даніла»! Вось яна, моц пісьменніцкага ўяўлення! Усё па плане!

— Ты што, хочаш сказаць, што сплянаваў, каб я і Корб-Вароновіч... — Ася захлынулася ад абурэння.

— Не я сплянаваў — Кніга! — урачыста абвясціў Вячка. — Куды ж ты магла падзецца ад свайго кону?..

А Даніла таксама гаварыў пра кон...

І Ася зусім бы паверыла ў гэты блёкат, у сваю марыянеткавую асуджанасць, калі б... Калі б у Скрыніча не дрыжэлі вусны, не плёскаўся на дне зялёных вачэй боль, калі б той самы боль не хаваўся за блазенскім тонам...

Ды аўтар фэнтэзі нават схуднеў за гэтую ноч, твар выснажыўся, як ад смяротнай пакуты...

— Ты што, пешкі да Мінска дабіраўся? — вырвалася ў Асі з нечаканай шкадобай, і вочы Скрыніча адразу ўспыхнулі. Шкадаванне — найвялікшая абраза для таго, хто хоча быць пераможцам.

— Ну чаму пешкі, на рыжскай фуры з марожанай рыбай даехаў, як пан. Не разам з рыбай, вядома, а ў кабіне з кіроўцам. Байкамі пра здані беларускіх дарог расплаціўся.

Напрыклад, пра Міколку-паравоза... Стаіць сабе такі хлопчык ноччу ля дарогі і паказвае голую дупу ўсім машынам, што едуць з захаду. А як машына параўняецца з тым месцам — няма нікога... Толькі на асфальце белай крэйдай роспіс Міхася Лынькова. Эдмундасу, кіроўцу, дужа гісторыя спадабалася.

Скрыніч відавочна змог суняць свае псіхі на сёння. Што ж, нават Плябанскія млыны, ад якіх Няміга стагоддзямі разлівалася, аднойчы знеслі...

— Наконт маладзенькіх дурнічак — гэта я пажартаваў. Прабач. Заносіць часам. А папярэдні раздзел, пра трыццаць восьмы год, чытала? Я табе на «мыла» скінуў...

Арснія вырашыла прыняць «люльку міра» з пісьменніцкіх рук.

— Не, прабач, не да таго было...

І зноў пачырванела. Ну так, «да звязды» ёй было... І яшчэ не да адной «звязды»...

— Тады пайшлі ў кавярню! Ты ж, як я зразумеў па тваім выглядзе — быццам верабей, які груганá задзёўб, — сёння, прынамсі, на працу вяртацца не збіраешся? Пачытаеш, а тады рушым у Ройна... Думаеш, я ўпушчу паглядзець, што там наш гісторык выкапае? На гэты выпадак нават машыну пазычыў у сябра.

Вячка ўрачыста пакруціў на пальцы ключы.

— У геніяльных пісьменнікаў свае перавагі. Можна не купляць уласнай машыны, пакуль ёсць багатыя адданыя прыхільнікі.

— У Ройна!

Значыць, Ася хутка ўбачыць Данілу! Які, вядома, зноў напусціць на сябе фанабэрыю, а яна... Яна абліе яго пагардай, і расцвеліць, і давядзе да тэмпературы вадкага металу, бо цяпер выдатна ведае, што пад абалонкай ганарыстага волата жыве безабаронны даверлівы дзіцёнак, які прагне любові і прагне аддаваць сваю любоў — нават калі ведае, што не варта... Відаць, Асіны спадзяванні адбіліся на твары...

— З’еш лімон... — груба буркатнуў Вячка, павярнуўся і пайшоў да выхаду, прыгорблены, хударлявы, напяты... Арсенія толькі на вуліцы, ідучы за ім да сіняга, амаль но-

венькага, «Рэно», зразумела, што значыць ягоная рэпліка, і са спазненнем раззлавалася. Раўнуе... От мужчыны, трэба кожнаму пачувацца адзіным пеўнем на двары...

У кавярні яны занялі самы кутні столік, аддзелены ад залы стылізаванай пад сцяну сярэднявечнага замка перагародкай. Свечка палала ў каваным падсвечніку, адкідваючы цені, падобныя да зубцоў каралеўскай кароны. Вячка замовіў дзве кавы-латэ.

— Ведаеш, мяне заўсёды нервуе, калі бачу, як нашыя міфы замяшчаюцца іншакультурнымі. Вось як называецца гэтая кавярня? «Три богатыря». Чаму «богатыри»? Чаму не рыцары? Людзі нашыя, калі ўяўляюць сваё мінулае, думаюць пра церамы і баярскія шапкі... «Каб не Пётр Першы, у нас бы дасюль каптаны з доўгімі рукавамі насілі ды сарафаны з какошнікамі...» А тое, што калі ў Масковіі быў Пётр Першы, у нас быў Жыгімонт, і ніякіх церамоў і баяраў, — ужо і ўявіць не могуць... Што і ў Менску, і ў Гародні, і ў Нясвіжы яшчэ да таго, як Пётр пачаў рэфармаваць сваіх русічаў, насілі пудраныя парыкі, ладзілі балі і філасофскія дыспуты, біліся на шаблях па дуэльным кодэксе і ўчынялі маскарады...

Арсенія тужліва лізнула смачную белую пенку з лыжкі... Вячка зноў усеўся на ўлюбёнага дрыгканта і ляцеў над верасовай пусткаю, аж туман з-пад капытоў курэў... Але ж і Корб-Варановіч — з таго самага куста, няўжо ён таксама на сняданак і вячэру пачне чытаць лекцыі? А Вячка гаварыў ліхаманкава, быццам нешта сам у сабе загаворваў, замаўляў хваробу:

— А параўнаць Грунвальдскую бітву з Лядовым пабоішчам — гэта ж смех! У бітве на Дубровенскім полі 40 тысячаў крыжакоў забілі, і яшчэ 15 тысячаў у палон узялі. А Аляксандр Неўскі, названы брат сына татарскага хана, на Няве разбіў усяго 5 тысячаў шведаў. У знакамітым Лядовым пабоішчы з абодвух бакоў білася 25 тысячаў вояў... У дзесяць разоў меней, чым пад Грунвальдам. 400 нямецкіх рыцараў забілі, 50 узялі ў палон... Лакальныя бойкі, якія не мелі вялікага гістарычнага значэння. Але цяпер Аляксандра Неўскага ведаюць усе, у школе вучаць, а пра Грунвальд браткам-беларусам трэба яшчэ даводзіць, што меў да нас дачы-

ненне і ўвогуле нешта значыць... Так што нам трэба вучыцца, як ствараць уласныя міфы! Нават што ёсць, раскруціць не можам... Алеша Паповіч, Дабрыня Нікіціч, разумееш...

Вячка нарэшце выгаварыўся і ўсміхнуўся амаль жаласна.

— Добра, ты пакуль чытай, а я пакурыць схаджу...

«А Даніла не курыць», — мімаволі падумала Ася і адразу ж зазлавала на сябе за гэткую зацыкленасць. Нешта пачала ў думках звязваць сваё жыццё з гісторыкам... З чаго б то?

А хутка не магла думаць ні пра што болей, акрым лёсаў іхніх прадзедаў...

«Ані слова пакоры... Ані намёку на згоду... Хай робяць з ім, што хочуць».

Апошнія радкі расплываліся ў вачах ад слёз. Ася апусціла галаву на стол, паўзверх аркушаў, не ў змозе назіраць гламурнае начынне кавярні... Бо ўяўленне давала зусім іншыя малюнкі... На якіх людзі з прастрэленымі патыліцамі валіліся ў ямы... Няўжо так і было? А гэтыя жорсткія словы аднаго з герояў... Пра ўзаемнае прыцягненне Вяжэвічаў і Корб-Вараховічаў і абавязковую здраду... Зямля ў Курапатах — вось што з'яднала іх лёсы. Ася ўсхліпнула і агледзелася. Вячка яшчэ не вярнуўся. Але які ж ён таленавіты! Так пісаць, такое праз сябе прапусціць... Ды ёй, звычайнай, шараговай дзеўчынёсе, трэба з яго парушынкі здзімаць, кілімам слацца... А ён з-за яе яшчэ перажывае! Любая іншая зараз песні б спявала ад радасці, што стала музай такога пісьменніка! Што, магчыма, ён падорыць ёй сваё каханне... Корб-Варановіч жа гаварыў пра гэта...

Скрыніч, нібы пачуў яе думкі, паказаўся між столікаў, усеўся, ганарліва адкінуўшы доўгую цёмную грыўку... Ад яго чамусьці пахла не тытунём, а дажджом і палыном... Як ад ваўкалака.

Ася пастаралася ўкласці ў пагляд усё захапленне і раскайванне ва ўласных паводзінах:

— Гэта... гэта выдатна!

Вячка, нават не стараючыся схаваць задавальненне, хітнуў галавою, як антычны бог.

— Зразумела, выдатна! Выбітна, я сказаў бы! Больш за тое — знойдзецца аж дваццаць чалавек, якія гэта пачы-

таюць і захопяцца. З іх яшчэ дзесяць не пабаяцца ўслых пахваліць... Астатніх жаба задушыць, бо яны таксама літаратары. З дзесяці смелых выявяцца два крытыкі, якія нешта напішуць пра мой раман. І я магу назваць прозвішчы гэтых крытыкаў проста цяпер.

Ася разгубілася ад такога самабічавання.

— Ну навошта ты перабольшваеш... Твае раманы чытаюцца тысячамі!

— Людзі зараз нічога з таго, што напружвае, не чытаюць. Тым болей ім у лом чытаць па-беларуску. Думаеш, студэнты, што мяне хваляць, паглыналі вачыма мае кніжкі? Яны проста чулі, што, каб быць прасунутым, трэба мяне хваліць. Вось і ўсё. Я, як і мае калегі, пішу ў вялікую прорву, спадзеючыся, што ў ёй акажацца дно і нехта асабліва цікаўны калісьці пасвеціць туды ліхтарыкам... Ці выпадкова ўваліцца. Як ты ў Ройнаўскую царкву.

Арсенія адразу ўспомніла, што зараз у тым сутарэнні шчыруе яе... каханак? Жаніх? Блёкат адной ночы? І што ў яе ёсць шанец хутка з ім пабачыцца. Дакрануцца... «Не трэба было так доўга манашкай жыць», насмешна прагаварыў нехта нядобры ў свядомасці. Шалёная сумесь нянавісці і прыцягнення зноў ударыла ў галаву...

Вячка, які зноў пазмрачнеў, назіраючы за зменамі Асінага настрою, кінуў на стол грошы.

— Усё, паехалі... А то дні цяпер кароткія...

Восень злітасцівілася прыўзняць шчыльны шэры вэлюм і зірнула цёмна-сінімі халоднымі вачыма на маленькія хаты, крыты бляхай сядзібны дом з белымі калонамі і голае поле, пасярод якога стаяў невялікі намёт і важдаліся людзі з дзіўным, не зусім сельскагаспадарчым, рыштункам. Вячка пад'ехаў як бліжэй, машына незадаволена падскоквала на барознах. Прытармазіў ля старэнькага чорнага «джыпа», на якім, падобна, прыехала Варановічаўская каманда.

— Усё, вылазь...

Арсенія выскачыла з «Рэно»... Яшчэ з машыны яна заўважыла сярод іншых плячыстую постаць у скураной куртцы, са скураным шлемам-кяпуркай на попельных непаслухмяных валасах.

Яна доўга пракручвала ў галаве сцэнар іх цяперашняй сустрэчы... Забяспечыць абыякавы выгляд, падысці няспешна... Бо графчык, вядома, напусціць на сябе важнасці, можа, і поглядам не адорыць... Ад уяўленага халоднага выразу на ягоным твары ў Асі загадзя сціскалася сэрца...

А ён узяў і адразу падбег да яе... І яна таксама, аказваецца, ужо бегла яму насустрач... Пацалаваў, прагна, моцна, адарваўшы ад зямлі, ад чаго галава проста пайшла кругам... Паставіў перад сабой, зірнуў строга, як выхавацелька.

— Чаму без шапкі? Мазгі саграліся? Вецер жа!

Насунуў ёй на галаву свой скураны шлем.

— Маці маіх будучых дзяцей павінна быць здаровай!

Няўважна кінуў некуды за Асіну спіну:

— Добры дзень, спадар Скрыніч!

І павёў ашалелую дзяўчыну, прыабняўшы, да калегаў.

— Пайшлі знаёміцца... Паўло, Віталь, Алесь — гэта Арсенія Вяжэвіч, літаратарка і мая нявеста.

А ён у гэтым увесь! Ніякай маскіроўкі, намёкаў, нюансаў, пастанавіў нешта шляхціц — так і будзе!

Археолагі рук Асі не падавалі — бо ўпэцканыя былі... Але ўсміхаліся ёй ад душы, не хаваючы зацікаўленасці. Ася ад разгубленасці не надта запомніла, як каго звалі, хто якія кампліменты ў ейны адрас казаў... Аднаго, барадатага дзядзьку ў ватоўцы, па прозвішчы Калюжка, яна ведала — бываў на літаратарскіх тусоўках, артыкулы друкуе часта... Словы пра «не збіраюся я замуж!» — прагучэлі б тут дурным какецтвам, і Ася змаўчала. Тым болей было чым заняць увагу. Вакол, на цыратах, рассцеленых на зямлі, красаваліся ў адмысловым парадку раскладзеныя экспанаты з сутарэння — стрэльбы, пісталеты, спражкі, нагрудныя крыжы ды іншае... На цэлы музей хопіць! Маладзён з цёмнымі валасамі, забранымі ў куртаты хвосцік, старанна фатаграфаваў усё, худзенькая дзяўчынка ў хакі занатоўвала...

Ася здрыганулася: справа ляжала шэсць вялікіх скруткаў з чорнай цыраты... Перавяла позірк на Корб-Варановіча. Той сумна хітнуў галавой:

— Так, гэта яны... Жаўнеры з атрада Карыбутовіча. Я дамовіўся са святарамі, заўтра зладзім адпяванне... Трое

каталікоў, двое праваслаўных, адзін юдэй... Рабіна цяжкавата знайсці, але нібыта атрымаецца.

Арсенія са здзіўленнем зірнула на Данілу: а яна думала, ён так уцаркоўлены ў праваслаўе, што іншай веры не прызнае! Даніла адгадаў яе думкі:

— Так, я праваслаўны. Ад прадзедаў... І веры сваёй не здраджу. Але галоўны Боскі дар чалавеку — свабода. Сапраўдная, боганатхнёная. І калі Гасподзь паважае нашую волю, чаму мы павінны пагарджаць воляю бліжніх? Усе добрыя справы рабіліся з праўдзівай вераю, а гнюсныя — ад фанатызму... На гэтай зямлі не павінна ўціскацца нічыя вера.

Побач усчаўся захоплены гуд, праца прыпынілася: чытачы пазналі вялікага пісьменніка Вячку Скрыніча. А паколькі ў гісторыкаў былі з аўтарам гістарычнага фэнтэзі свае рахункі, завіравала дыскусія...

— Ты абедала? — Корб-Варановіч, падобна, не перабольшваў пра сваю адказнасць за Асю, апякуючыся ёю, нібы заўсёды так рабіў. — Што ела?

Арсенія сумленна паўспамінала.

— Каву-латэ...

— Ну так, спадар геній спраўджвае запавет Сірано дэ Бержэрака наконт таго, што абед паэта — дзве вінаградзінкі. Пайшлі...

Корб-Варановіч прывёў Арсенію ў намёт, дзе былі састаўленыя нейкія скрыні, грувасціліся заплечнікі і вопратка, бо спрактыкаваныя экспедытары, вядома, змянілі красоўкі ды скуранкі на гумовікі і балоневыя курткі. Гісторык усадзіў «нявесту» на нейкую скрынку і ўсунуў ёй у рукі вялізную канапку, сапраўдную «канапішчу» з батона, вяндліны і свежага агурка.

— Чакай, тут тэрмас быў з гарбатай... Вось, трымай, не апячыся.

Арсенія паслухмяна спажывала палявую ежу і спрабавала асэнсаваць, што з ёй адбываецца. Тыран і дэспат сядзеў побач і пільна, проста з жарсцю, вывучаў пажаўцелыя паперы. Аж захацелася вярнуць ягоную ўвагу да сваёй персоны.

— Цікавае што знайшлі?

І галавы не падняў.

— Так...
— А пра таямніцу роду Корб-Варановічаў?
— І пра яе... Зараз спусцімся разам, паглядзіш...
— А Калантая не сустрэў?
Не адарваўся ад улюбёных папер.
— Сустрэў...
— Пасварыліся?
У адказ — няўважнае мыканне. Нехта казаў пра шкоду фанатызму...
— Я з «Сокала-прынта» звольнілася...
— Увечары куплю шампанскае, адзначым.
І зноў чытае, чытае, чытае...
— А... Анжэла тэлефанавала?
— Тэлефанавала. Спявала арыю Керубіна. Папрасіла купіць тры апельсіны.
Корб-Варановіч нарэшце падняў на Арсенію насмешны погляд.
— Не падабаецца? Што ж, такі да мяне даважак: амбітная вар’ятка з асацыяльным ладам жыцця. У многіх ёсць нягеглыя сваякі. А я не кідаю бліжніх у бядзе, нават калі гэта напружвае.
— Ты яе кахаў? — Ася змрочна запхнула ў сябе апошні кавалак канапкі.
— Кахаў, вядома, — легкаважна адказаў гісторык. — Не, паненка, нават і не прасі, каб я параўноўваў пачуцці да яе і да цябе. Каханне заўсёды непаўторнае.
— Значыць, ты што, і мяне кахаеш?
Злыдзень з’едліва ўсміхнуўся.
— Што значыць — «і мяне»? Я не разменьваюся. А часам хочацца цябе прыдушыць...
І ўсяго толькі пасунуўся да Асі і правёў рукою па яе шыі... Пяшчотна-пяшчотна... І ўсяго толькі паглядзеў ёй у вочы... Калі мужчына так глядзіць на дзяўчыну, у той непазбежна ўзнікае жаданне загадаць яму нешта страшнае і неверагодна цяжкое, бо ясна, што пакорліва пабяжыць выконваць.
А толькі ўчора яны сядзелі ў сутарэнні, у цемры, і яна баялася прыхінуцца да яго...
— Смачна есці, — пахмурны, як восень, Вячка, які нарэшце вырваўся з чэпкіх рук навукоўцаў, зазіраў у на-

мёт. — Трэба ж, у вас, Даніла Раманавіч, на схіле жыцця матрыманіяльныя планы намаляваліся.

Усё, упёрліся рогамі ў адныя вароты.

Ася ўскочыла.

— Вячаслаў, гэта нашая справа! Да таго ж яшчэ нічога не вырашана...

— А па-мойму, усё вырашана, — фанабэрыста прамовіў граф і фірменным жэстам адкінуў галаву. — Так і напішыце ў новым раздзеле рамана, спадар Скрыніч.

— Аляўціна Пятроўна, здаецца, прыняла Асю за вашу дачку? — з няшчырай усмешкай прамовіў Скрыніч.

Корб-Варановіч выпрастаўся, як спружына.

— Думаю, не варта шумець на вачах дзяўчыны... Давайце адыдземся.

Бо-ожа, класічны варыянт двух падлеткаў нападпітку: «давай выйдзем, пагаворым»...

Даніла сурова кінуў Асі:

— Сядзі, не высоўвайся! Усё нармалёва.

І пайшлі... Двубой? У чыстым полі, на вачах вучонай публікі?

Ася, вядома, высунулася паназіраць... Дзве постаці стаялі наводдаль і нешта адно аднаму даводзілі. Не біліся, што нават трохі расчаравала Арсенію. Згодна хітнулі галовамі. Вячка першы рэзка павярнуўся і пайшоў. За ім пасунуўся Корб-Варановіч, нібыта несучы на плячах нябесны звод, падобна Атланту... Абодва не жадалі нічога тлумачыць Асі, і яна пачала падазраваць, што гэта па агульнай дамове і пакуль адбылося, так бы мовіць, абмеркаванне месца двубою і зброі. Трэба сачыць за гэтымі дурнямі, каб чаго не ўтварылі...

Купал падземнай царквы расчысцілі, і цяпер былі відны фрагменты цаглянай кладкі. А ўніз ішлі дыхтоўныя металёвыя складныя драбіны, прымацаваныя ўбітымі ў кладку альпінісцкімі жалязякамі. Арсенія трохі павагалася — ці лезці ў сутарэнне, дзе перажыла такі страх... Тым болей выпадкова пачула, як археолагі заклапочана абмяркоўвалі нетрываласць канструкцыі... Маўляў, хоць бы не абрушылася тая царква. Але Корб-Варановіч, як заўсёды, не раздумваючы, палез першы, і Ася — куды ж падзецца! — пасунулася

за сваім мужчынам, ледзь не віснучы на ім... І толькі ўнізе дадумалася спытаць, прыклаўшы даланю да ягонага боку:

— Баліць?

Той накрыў яе далоньку сваёй, прыціснуў да сябе, прыслухаўся:

— О, вось зараз усё зажыло. Дзякуй.

І, не выпускаючы яе рукі, пацягнуў за сабой.

Гэта зусім не нагадвала мінулы візіт. Зверху на провадзе звісала лямпачка, якую сілкаваў рухавік «джыпа». Усе артэфакты старанна прыбраныя, на сценах і падлозе крэйдай зробленыя загадкавыя паметкі... Ін-вен-та-ры-за-цыя...

А Даніла прывёў яе да каменнага алтара. Перахрысціўся на жалезны крыж, які вісеў на сцяне. Гісторык быў зараз вельмі сур'ёзны, нават урачысты, і Ася мімаволі пачала пранікацца. А ён дастаў скрутак, разгарнуў... Зблiснула старое срэбра. Радавы кубак! Рассечаны напалам і з'яднаны. Корб-Варановіч ціха паставіў яго ў ямінку ў цэнтры каменя.

— Не ведаю, што менавіта хацелі продкі... Чыёй крывёй трэба напаўняць гэты посуд... Але... хоць часткова выканаю.

Яны пастаялі, было ціха-ціха, галасы наверсе даносіліся як з таго свету.

— Ідзі сюды... Чакай! Памятаю тваю неадэкватную рэакцыю на нябожчыкаў. Пастарайся зараз быць мужнай. У твайго ўлюбёнага Юнга сказана, што ў кожным чалавеку ўжываюцца Аніма і Анімус — жаночая і мужчынская часткі душы. Давай, абуджай свайго Анімуса!

У далёкім куце, дзе знайшлі шкілет з выцягнутай да выхаду рукой, святла не хапала, і Корб-Варановіч уключыў ліхтар. У каменнай падлозе зеўраў чорны прастакутнік. Адну пліту ссунулі, а ўнізе, у глыбіні, бачылася... Так, яшчэ адзін шкілет, са складзенымі на грудзях рукамі і шасціканцовым залатым крыжам, які паблiскваў на брунатных скобах, прыкрытых лахманамі ўзорыстай тканіны. Чэрап з рэшткамі бясколерных, магчыма, калісьці попельных, валасоў ахопліваў залаты абруч з гравіраваным арнаментам, падобным да скандынаўскага, з буйнымі чырвонымі камянямі.

— Юры Корб-Варановіч, — прамовіў шэптам Даніла, нібы баяўся пабудзіць продка-нябожчыка. — І залатая карона...

Спецыяльна хацеў табе паказаць. Замураваны князь. Мы пакуль не чапалі... Самая каштоўная знаходка. Заўтра прыедзе прафесар Сымон Антонавіч Прымач з прадстаўнікамі гістарычнага музея, дужа прасілі, каб усё заставалася, як ёсць. Толькі вось гэта я ўсё-ткі забяру...

Гісторык стаў на калені, нахіліўся і асцярожна выцягнуў з каменнай труны цяжкі скураны скрутак.

— Думаю, гэта тое, што ён хацеў бы мне перадаць... Там унутры металічны футарал, а ў ім павінны быць паперы... І я хацеў бы іх прачытаць першым. На, патрымай ліхтарык і гэты скрутак... Адыдзіся...

Корб-Варановіч з сілай піхнуў пліту, яна, на дзіва, ссунулася, нібыта на нейкім механізме, і са злавесным грукатам упала на ранейшае месца.

— Бачыш, зроблена так, каб адзін чалавек мог адкрыць, нават не самы моцны. Таму зараз учынім так...

Даніла прывалок некалькі камянёў, наваліў на надмагілле продка, так што ніхто б не западозрыў, што ўнізе нешта ёсць.

— Ну, вось, — задаволена прагаварыў гісторык. — А то яшчэ залезе хто... Зараз кіношнікі прыедуць, на вячэрнюю натуру... А нашто нам лішнія цікаўныя вочы, асабліва калантаеўскія? Так што мы дамовіліся — а чацвёртай збіраем манаткі, каб увагі не прыцягваць. А, забыўся... Хадзі сюды... Мы ж учора так і не скарысталіся прыцемкам і тэт-а-тэтам...

— Ты проста нягоднік і блюзнер!

— Не-сум-нен-на!

Наверсе і праўда зборы ішлі поўным ходам. Двое археолагаў збіраліся заначаваць у Аляўціны Пятроўны, астатнія адпраўляліся нанач дахаты. Вячка стаяў ля свайго «Рэно», сунуўшы рукі ў кішэні курткі, і вывучаў блакітныя астраўкі ў шэрым беларускім моры, якое ў беларусаў над галавой. Намёт, скрыні, рыдлёўкі — усё ўжо было пагружанае ў «джып». Страшныя скруткі з чорнай цыраты таксама зніклі. Затое цяпер у машыну акрамя кіроўцы ніхто б не ўсунуўся. Скрыніч прапанаваў «чаўночны метад» — чатырох падкіне да шашы, потым вернецца па іншых. Да яго адразу падселі

худзенькая студэнтачка і хвастаты фатограф, прычым студэнтачка пастаралася ўладкавацца на пярэднім сядзенні.

— А ты, Ася? — звярнуўся Скрыніч да дзяўчыны нібыта абыякава.

— Мы пазней, — адказала Арсенія, якой дужа не хацелася зноў апынацца поруч з двума «пераклінутымі» мужчынамі.

— Як хочаш... — Вячка зачыніў дзверы і скрануў з месца сваё «Рэно» так злосна, што тармазы віскатнулі, як коткі.

Ася і яе леў няспешна ішлі за іншымі, якія далікатна перагналі парачку. Пад нагамі было ўжо не поле, а гравійка, час ад часу замест каменьчыкаў траплялася патрушчаная на друз керамічная плітка — стракатая, як крылы матылёў. А ля дома з белымі калонамі пачыналася знаёмая мітусня. Патрыятычны фільм пра вайну працягваў нараджацца, пакутліва і натхнёна. Масоўка віравала, як патрывожаны мурашнік. Узмоцненыя мікрафонамі галасы аддавалі загады зрабіць устрывожаныя твары, азірацца на гукі выбухаў і ні ў якім разе не глядзець у камеру. Адзін раз пачуўся і вісклівы голас Калантая, ад якога Корб-Варановіч скрывіўся, як ад няспелай ажыны ў роце. А потым гісторык бы спатыкнуўся, пачаў ліхаманкава корпацца ў заплечніку.

— Слухай, мы там кубак пакінулі... Вось я асёл... А раптам ноччу ўсё-ткі хто залезе! Мы ж і драбіны не дасталі. Ты ідзі з усімі, а я збегаю... Хутка даганю.

Ася незадаволена зморшчылася. Цалавацца над княскімі магіламі не трэба, тады і правалаў у памяці менш здарацца будзе. Праўда, было... хвалююча...

— Не затрымлівайся толькі.

Даніла сунуў ёй цяжкі заплечнік, лёгка пацалаваў у лоб і пабег... Паколькі вячэрняя і ранішняя прабежкі ад часоў вундэркіндства заставаліся для яго святым рытуалам, гісторык быў у добрай бягунскай форме і мусіў справіцца сапраўды хутка. Ася трохі паглядзела яму ўслед і пацягнулася даганяць археолагаў.

Над галавой пачуліся хрыплыя крыкі, якія нібыта сыпаліся на зямлю бруднымі камякамі. Вяжэвіч задрала галаву: у небе кружлялі сотні... а можа, тысячы чорных сілуэтаў, быццам машката... Выпісвалі адным ім вядомыя

руны між зямлёю і аблокамі, нібыта рабілі замову на гэтую няшчасную краіну... Гракі? Крумкачы? Галкі? Вароны? Як гарадская дзеўчынёха, Арсенія ў такіх тонкасцях не разбіралася.

Метраў праз сто яна азірнулася: Корб-Варановіч, ейны патомны вораг, знікаў у зямлі... Потым азірнулася яшчэ раз: роўнае поле, як нікога не было. Аж неяк непамысна... Ды што граф так заваждаўся пад зямлёй, на магілу продка медытуе?

— Увага! Матор! — данеслася ад сядзібы, і раптам пачуўся моцны выбух... Ася не давала веры вачам: непадалёк ад таго месца, дзе знаходзіўся падземны храм, асядаў фантан зямлі. І зноў падняўся такі ж фантан... Нешта глуха грукнула... Яшчэ і яшчэ... Пад нагамі скаланулася зямля.

Вядома, гэта была бутафорыя... Вядома, ніхто ні ў кога тут насамрэч не страляў... Але сэрца сціснула ледзяная рука жаху. Учора ж ад такіх бутафорскіх выбухаў абрушыўся купал царквы! Відаць, устрывожылася не толькі Ася. Барадаты археолаг у ватоўцы сарваўся з месца і пабег, як шалёны, да сядзібы, зрываючы голас крыкам:

— Стойце! Спыніцеся! Там чалавек!

А Ася рванула туды, дзе застаўся Даніла.

За ёй таксама нехта бег, абганяючы, благаючы... Вось зараз, зараз насустрач выйдзе плячыстая постаць, іранічны нізкі голас папытаецца, што за паніку ўчынілі.

Каб яе не ўтрымалі за куртку, Ася б кульнулася ўніз. Там, дзе хавалася падземная царква, зямля прасела, утварыўшы вялізную яміну. Акуратны такі кратар. На рыхлай паверхні ні знаку — толькі там-сям раскіданыя кавалкі цэглы.

Нехта побач пачаў разгублена, са слязьмі, лаяцца... І гэта было горш за смяротны прысуд.

Арсенія проста ўпала на калені і глядзела на свежую магілу свайго новага, няспраўджанага жыцця.

Чорныя птушкі раіліся ў небе, як пякельныя пчолы.

## Раздзел 13.
## АГОНЬ НАВАГОДНЯГА БАЛЮ

Колькі разоў гэты горад знішчаўся амаль цалкам... Яго нішчылі татары, шведы і маскоўцы, пажары, паводкі і пошасці... А ён аднаўляўся.

Аднаўляўся ён і цяпер, пасля чарговай ваеннай навалы... Людзі, як мурашкі, карпатліва разбіралі па каменьчыку завалы, ладзілі трамвайныя шляхі і лініі электраперадач... Ніякая галеча не магла зменшыць радасці ад таго, што настала Вялікая Перамога, што нялюдская вайна скончаная, і жыццё чалавечае нарэшце набывае каштоўнасць... Вярталіся надзеі і святы.

Новы, 1946 год рыхтаваліся адзначыць як мага пышна... Толькі старыя памяталі, што калісьці ў праваслаўных гэта быў час каляднага посту і да Раства Хрыстова, каляднай вячэры і падарункаў ад Святога Мікалая заставаўся цэлы тыдзень, а каталікі ўжо тыдзень як тую калядную вячэру з'елі... Цяпер ёлкі, прыкрашаныя на вершалінах чырвонымі зоркамі, ставіліся па ўсёй краіне менавіта ў гонар Новага года. У вызваленай сталіцы Беларусі самы пышны, самы вялікі баль мусіў адбыцца ў клубе магутнай арганізацыі, якая аддана змагалася з ворагамі народа, нямецкімі шпіёнамі і імперыялістычнымі дыверсантамі ўсіх масцей. Трэцяга студзеня ў клуб імя Дзяржынскага на плошчы Свабоды былі запрошаныя паўтысячы лепшых вучняў горада і лепшыя настаўнікі. Якая бойка адбывалася за тыя запрашальнікі! Колькі інтрыгаў закруцілася, колькі слёзаў пралілося! Расказвалі легенды пра незвычайныя падарункі і пачастункі, якія чакаюць шчасліўчыкаў. Па ўсім Мінску шылі пышныя сукенкі — хто з атласу і крэпдэшыну, а хто і з парцэраў ці накрухмаленай марлі... Нехта здабываў для танцаў на паркеце лакавыя лодачкі з саюзніцкай дапамогі, а нехта падфарбоўваў самаробныя парусінавыя туфлі на пяньковых падэшвах...

Гэта мусіла быць адмысловае савецкае свята.

Настаўніца беларускай мовы і літаратуры мінскай сярэдняй школы нумар тры не атрымала запрашэння на гэтую вечарыну. Не таму, што яна была не самай лепшай настаўніцай,

але акрамя педагагічных якасцяў улічвалася шмат што... Членства ў партыі, удзел у грамадскім жыцці... А яшчэ — ці быў пад акупацыяй, ці ўдзельнічаў у партызанскім і падпольным руху, ці няма падазроных сувязяў...

Пад акупацыяй жанчыне давялося пабываць, але нічым яна сябе не заплямiла. У вёсцы ў цёткі давялося перажыць нашэсце карнікаў, ледзь уратавала сябе і малую дачку ад смерці ў падпаленай адрыне, у якую фашысты сагналі жыхароў. Потым — партызанскі атрад, праца настаўніцай у лясной школцы, удзел у баявых дзеяннях... Гэта дало права пасля вызвалення атрымаць пакой у камуналцы падвальнага паверха шыкоўнага дома на вуліцы Горкага, дзе жылі вядомыя пісьменнікі, толькі тыя, зразумела, не ў падвале, і выкладаць у прэстыжнай гарадской школе. Але жанчына мела пляму ў біяграфіі — яе муж яшчэ да вайны быў расстраляны як нацыянал-фашыст і агент польскай дэфензівы... Таму настаўніцу ніколі не пасылалі на злёты і з’езды перадавікоў адукацыі, і білетаў на імпрэзы, падобныя гэтай, у клубе Дзяржынскага, ён не прызначалася.

А яна не пайшла б і сама. Не хацела сустракаць людзей з магутнай канторы, увогуле зноў мець хоць нейкае дачыненне з НКУСам... І дачку сваю яна б не пусціла.

Але Ірынка — лепшая вучаніца харэаграфічнай вучэльні, якая адчынілася ў Мінску ў год Перамогі, будучая зорка савецкага балета. Каму трэба, ведаюць, хто яе бацька, якога яна сама не памятае, але паблажліва дазволілі станьчыць разам з іншымі навучэнкамі на ўрачыстым навагоднім балі... А сукенку, пышную, як дзявочы сон, Ірынка сшыла сабе сама — так ужо любіць уборы майстраваць, відаць, намарылася ў сваім страшным дзяцінстве пра прыгожыя сукенкі...

Настаўніца стамлёна адсунула стос сшыткаў... Магла б не правяраць — вакацыі. Але хацела наступную чвэрць пачаць з разбору хатніх сачыненняў пра любімага героя беларускай літаратуры, якія папрасіла здаць на апошнім уроку. Дзеці стараліся, прыкрашалі аркушыкі малюнкамі, адзін хлопчык напісаў нават у вершах — пра героя Змітрака Бядулі, прыгоннага генія Салаўя. Да таго ж звыклая праца дапамагае скараціць чаканне, прыгасіць незразумелую трывогу...

Жанчына вызірнула ў акно, дзеля чаго давялося стаць на зэдлік, бо ў падвальным паверсе яно месцілася пад самай столлю. Настаўніца была яшчэ дастаткова маладая і прыгожая: зграбная постаць, твар з правільнымі рысамі, цёмныя бровы ўразлёт, вялізныя блакітныя вочы, вакол якіх толькі зблізку можа было ўгледзець сетку дробных зморшчын. Ды і сівізна ў залатых косах, укладзеных каронай вакол галавы, не заўважная...

«Ты ў мяне як актрыса!» — часта з гонарам гаварыла Ірынка, худзенькая, але жвавая і пругкая, нібы маладая казуля.

Калі ж яна вернецца? Палітончык, як кажуць, ветрам падшыты... Хоць бы не пацягнулася, натхнёная святам, па вуліцах блукаць... Відаць, феерверкі пачалі пускаць, неба ажно асвятлілася над плошчай Свабоды.

Жанчына ўздыхнула і хацела ўжо злазіць на падлогу... Але за акном пачулася сірэна. Праехала пажарная машына... Яшчэ адна... Міліцыя... Устрывожаныя людскія галасы... Нехта прабег туды, дзе ззяла святочнымі сполыскамі неба...

Святочнымі?

Настаўніца кінулася ў вітальню, ускінула футра-цыгейку, пуховую хустку... Людзей на вуліцах рабілася ўсё больш, яны беглі за Оперны тэатр, у бок плошчы... Усё часцей гучэла: «Пажар! Пажар! Дом культуры загарэўся!».

Там было пекла... Як у вайну. Сыпаліся іскры, нешта трашчала, выбухала... Валіў чорны дым. З вокнаў высоўваліся языкі полымя і дзеці, якія крычалі, прасілі дапамогі... Пышныя спадніцы, гэтак любоўна пашытыя матулямі і бабулямі, успыхвалі, як фанцікі... Нехта выкідваўся ўніз — кагосьці паспявалі злавіць на расцягнутыя шынялі... Мароз быў такі, што аблітыя вадой выратаваныя рызыкавалі зараз жа памерці ад ахаладжэння... Пад вокнамі клуба мітусіліся роспачныя людзі, выкрыкваючы імёны сваіх дзяцей... Настаўніца таксама бегала і крычала:

— Ірына! Ірачка!

Божа мой, ды ці ёсць ты — зберагла дачку ад спецдамоў для дзяцей ворага народа, ад фашысцкіх карнікаў, ад голаду там, у лесе — каб страціць цяпер, у мірны час, на навагоднім свяце! Алесь, любы, даруй!

— Ірачка!

— Мама!

Настаўніца кінулася на родны голас, расштурхоўваючы людзей.

— Ірачка!

— Я тут!

Высокі ваенны ў шынялі нёс на руках дзяўчынку. Жанчына кінулася да яе.

— Асцярожна. Яна абгарэла... Асабліва ногі... — задыхана і хрыпла прамовіў вайсковец і азірнуўся ў пошуках дапамогі, бо яго захістала. — Дзе ж дактары? «Хуткая дапамога»? Яе трэба ў бальніцу...

— Мамачка! Як балюча! — плакала Ірынка, і жанчына скінула з сябе футра, разаслала на снезе.

— Кладзіце яе сюды!

Ваенны асцярожна паклаў юную балерыну на футра. І сам са стогнам сеў побач, проста на снег, цяжка перхаючы. Настаўніца зрывала з сябе хустку, кофту, захутвала дачку, плачучы і ад неверагоднай палёгкі, і ад жаху — бо ногі, цудоўныя, таленавітыя ногі яе дачкі былі спрэс ранай...

— Нічога, нічога, любенькая, зараз цябе адвязуць у бальніцу, падлечаць... Будзеш таньчыць лепей, чым раней!

— Мама, ён нас ратаваў! Мы за сцэнай засталіся, выйсці самі не маглі, бо дэкарацыі пападалі. Танечку вынес, Іну... Потым па мяне вярнуўся — а я і ісці не магу, бо на мне нешта ляжыць...

Настаўніца схапіла вайскоўца за руку, паднесла яе да вуснаў... Той з няёмкасцю адняў руку.

— Ну што вы! Мы ж савецкія людзі!

Ад пажару светла было, амаль як днём. Жанчына разгледзела ратаваўцу: малады, гадоў дваццаць сем, высокі ўпарты лоб, просты нос, хвалістыя валасы... Нешта было ў гэтым абліччы, што змусіла сэрца сціснуцца ад застарэлага болю.

— Скажыце, прашу вас, як вас завуць?

— Павел Корб-Варановіч, лейтэнант артылерыі, зараз — студэнт фізфака. Давучваюся.

І закашляўся...

Настаўніца адчула, што ў яе спынілася на хвілю сэрца... Пад горла падступілі рыданні. Не можа быць! Яна ж па запавеце мужа спрабавала перад вайной знайсці Корб-Варановічаў, але дарэмна. Ёсць Гасподзь! Ёсць воля Ягоная...

Ірынка заплакала ад болю... Настаўніца бездапаможна забегала, спрабуючы знайсці медыкаў... Кінулася да машыны з чырвоным крыжам — але яе ўжо загрузілі так, што дзверцы не зачыняліся...

— Толку не будзе... Занадта шмат параненых, — прахрыпеў той, хто выратаваў Ірыну. — Чакайце, зараз трохі галавакружэнне пройдзе... Дапамагу занесці дзяўчынку. Тут жа Другая Савецкая бальніца зусім побач.

Лейтэнант Корб-Варановіч стаў на калені, зачарпнуў прыгаршчай снег, з сілай расцёр твар, скроні... Страсянуў галавой... Падняўся, трохі пахістваючыся, на ногі.

— Дыму наглытаўся... Ну што, маленькая, адпраўляемся? Пацярпі яшчэ трохі... Як цябе завуць?

Падхапіў на рукі, панёс. Настаўніца мітусілася, паспяваючы за ім, захутваючы на хаду сваё дзіця, нешта гаворачы супакойвальнае, хаця душылі слёзы... А побач гэта ж на руках неслі дзяцей... Кульгалі самі ахвяры, хто мог...

Назаўтра людзі шапталіся, што, хаця ў зводках значылася сто семдзесят загінулых падчас пажару ў клубе, насамрэч іх нашмат болей. Шапталіся і пра тэрарыстычны акт... Але следства зваліла ўсё на дзіцячыя штукарствы. Нібыта сын аднаго з нкусаўцаў з агнём забаўляўся... І ўвогуле, няма чаго языкі распускаць, паніку разводзіць. Не было пажару на навагоднім балі.

Грушаўка, замеценая снегам, нічым не адрознівалася ад звычайнай вёскі, хаця была мінскім прадмесцем і насялялі яе самыя натуральныя гарадскія пралетарыі. Да веснiцаў аднаго з дамкоў падышла высокая жанчына ў цыгейкавым футры і белай пуховай хустцы, з пакункам у руцэ. Руды віславухі сабака весела рваў ланцуг, сыплючы на няклікаую госцю хрыплы брэх. З хаты выйшла таўсматая кабета, хутаючыся ў кажух.

— Што вам?

— Мне Марыну Паўлаўну Варановіч... — адказала госця.

— Гэта з другога боку... Прайдзіце па сцежцы, вось тут, — патлумачыла кабета і гукнула на ланцуговага вартаўніка: — Рудзька, сціхні! Вушы, далібог, закладае!

Рудзька, аднак, заліўся брэхам яшчэ адчайней, але відаць было, што не ад злосці, а каб паскакаць, пагарэзаваць... Хвост у яго круціўся, як прапелер у аэраплана.

— Ціха, ціха, міленькі... — прагаварыла госця, заходзячы на двор. Сцежка, пратаптаная ад веснічак, вяла за рог хаты, хадзілі тут, падобна, досыць часта, і нават пяском пасыпалі. За рогам аказаўся яшчэ адзін ганак і дзверы, акуратна пафарбаваныя ў зялёны колер, з сінімі ромбамі, якія нагадвалі скандынаўскі арнамент. Жанчына трохі памарудзіла, змагаючы хваляванне, і пастукала ў дзверы. Пачуліся крокі, грукнула клямка. Гаспадыня, худзенькая, невысокая жанчына з зусім сівымі валасамі, забранымі ў вузел, глядзела на госцю насцярожана-запытальна.

— Добры дзень, Марына Паўлаўна! Я... мне трэба з вамі пагаварыць. Ваш сын нядаўна на пажары выратаваў маю дачку.

Насцярожанасць знікла з вачэй гаспадыні.

— Праходзьце, калі ласка...

У хаце вясковага не было нічога. Нават печку нехта расфарбаваў дэкадэнцкімі сінімі вензелямі на белым фоне. Шмат кніг — на паліцах, на этажэрках, старасвецкі круглы столік, накрыты кавалкам цюлю, з вышытымі па краях рабінавымі гронкамі, зверху на круку звісае газоўка. На стале — парцалянавыя кубкі і цукарніца, у куце ля акна — швейная машынка «Зінгер»... Дарэвалюцыйная, сапраўднае багацце ў пасляваенным горадзе.

— Гэта вам...

Госця працягнула гаспадыні цяжкі пакунак, тая замахала рукамі.

— Нічога не возьмем, нават не думайце!

— Ды вы паглядзіце адразу...

Марына Паўлаўна паклала падарунак на стол, разгарнула... Стос сініх кніжак, старых, з залатым абрэзам.

— Блок! Поўны збор твораў! Божа мой, ад гэтага сапраўды немагчыма адмовіцца!

Гаспадыня прагна разгарнула верхні томік.

О весна без конца и без краю.
Без конца и без краю мечта.
Узнаю тебя, жизнь, принимаю,
И приветствую звоном щита...

— Дзякуем! Як я даўно гэтага не чытала! Паўлік таксама Блока любіць.

— Гэта ад бібліятэкі майго мужа засталося, — ціха прагаварыла госця. — А вы не памятаеце мяне, Марына Паўлаўна?

Гаспадыня ўгледзелася ў гожы твар.

— А мы раней сустракаліся?

— Так, мы прыходзілі да вас у ленінградскую кватэру, на Сёмай лініі, калі былі студэнтамі філфака. Я — Вераніка Вяжэвіч, жонка Алеся Вяжэвіча.

Гаспадыня паклала сіні том на іншыя, нібыта ён апёк ёй рукі.

— Не думаю, што нам ёсць пра што гаварыць.

Вераніка сутаргава ўздыхнула, але вачэй не апусціла.

— Я прыйшла не толькі для таго, каб падзякаваць... Хаця Ірына — гэта ўсё, што засталося ў мяне ў жыцці, і даражэй за жыццё. Але я прыйшла і для таго, каб выканаць апошнюю волю вашага мужа і майго.

Худзенькая жанчына сціснула кулакі.

— Што агульнага магло быць у Апанаса з Алесем Вяжэвічам? Я помню, як Апанас мне распавядаў пра цкаванне яго ва ўніверсітэце... Колькі ён перажыў! А як ваш муж з сябрамі мяне дапытваў! Я пасля вашага візіту кожны дзень чакала арышту.

Вераніка Вяжэвіч сцягнула хустку на плечы, сціснула яе краі.

— Майго мужа расстралялі ў тым жа годзе, што і вашага. Толькі трохі пазней. Быў выпадак, калі яны апынуліся ў адной камеры. Паверце, між імі ўжо не было ранейшай варожасці. Яны... паважалі адзін аднаго. Апанас Іванавіч распавёў Алесю адну страшную гісторыю... Папрасіў вам

пераказаць. Ды Алесь, якога вызвалілі на нейкі час, вас не знайшоў — ні ў Ленінградзе, ні ў Саратаве. А перад тым, як яго зноў забралі, сказаў мне адшукаць вас.

Марына Корб-Варановіч раздражнёна выцерла слёзы, якія навярнуліся на светлыя вочы.

— А я ж толькі нядаўна даведалася, што Апанас загінуў у трыццаць восьмым. Мне ж не казалі... Я ўсю вайну думала, што ён жывы... І Паўліку на фронт пісала — жывы бацька, пра цябе пытаецца, чакае перамогі і вызвалення... Колькі запытаў ва ўсе інстанцыі... А колькі пасылак пераслала — і хоць бы адну, навалач, вярнулі... Толькі ў верасні атрымала паперку — асуджаны Апанас Корб-Варановіч памёр ад ішэмічнай хваробы сэрца ў бальніцы мінскай турмы. Я не сумнявалася, што хаваецца за гэтым эўфемізмам... Сардэчная хвароба са свінцу... — Марына Паўлаўна зноў правяла па твары вузкай даланёй. — Сядайце... Зараз зраблю гарбаты з трускаўкамі. У нас ёсць сапраўдны цукар, не сахарын... А як вашая дачушка?

Вераніка стамлёна села на венскае крэсла, старое, вытанчана-нетрывалае.

— Дактары кажуць, што хадзіць зможа. Праўда, лячэнне зойме не адзін год. А вось таньчыць... З балетам давядзецца развітацца. А яна ж такая таленавітая... Ведаеце, нават у партызанскім лагеры канцэрты паказвала... Адзін падрыўнік у нас добра на вуснавым гармоніку граў, дык Ірынка такое вырабляла... Полечка, кракавяк, танец маленькіх лебедзяў... У вучэльню адразу конкурс прайшла, першым нумарам... Але галоўнае — жывая. Не прападзём... Яна яшчэ і шые добра, любіць строі прыдумваць. Магчыма, на мадэльера захоча пайсці.

— Мне вельмі шкада... — ціха і шчыра прамовіла гаспадыня. — Вы піце, піце гарбату... І печыва пакаштуйце.

А потым яны разам плакалі, нават не робячы спробы суцешыць адна адну.

— Вось чаму Апанас па начах крычаў нешта пра Сярожачку... — урэшце прагаварыла Марына. — Бедныя... І тыя, у сутарэнні, і Апанас... Як ён жыў з гэтым... Думаў, што я не дарую...

— Нас усіх час ламаў, — ціха прамовіла Вераніка. — Алесь мне таксама не змог прызнацца, што ягоную размову з Апанасам Іванавічам канспектавалі асабісты... Ён нічога не ведаў. А выйшла — нібыта ён правакатар. Таксама дараваць сабе не мог... Па начах плакаў...

— А вы адкуль даведаліся?

— Былі ў мяне... крыніцы інфармацыі... — глуха прагаварыла Вераніка, нібы цераз сілу, і гаспадыня заўважыла, што госцю пачынае калаціць, як ад ліхаманкі. — Я не магу пахваліцца, што выйшла чысценькай. У мяне таксама было... індывідуальнае пекла.

І схавала твар у далоні.

Марына Корб-Вархановіч з далікатнасці памаўчала. Потым перавяла размову на іншае.

— Вось жа і на мне ёсць правіна... Вы засталіся Вяжэвіч, а я нават прозвішча не захавала. У пашпарце я — проста Варановіч. І сына так запісала. Надта паўсюль чапляліся, што «Корб-Варановіч» гучыць арыстакратычна. А так бяспечней. Варановічаў на Беларусі як азёраў. Толькі Паўлік не змірыўся, упарта называе сябе Корб-Варановічам. Характарам у бацьку...

На двары зноў забрахаў нястомны Рудзька, пачуліся галасы суседзяў... Сціхлі. Вераніка выпрасталася.

— І яшчэ адно... Вельмі важнае. Тая палова срэбнага кубка, што захоўваецца ў вас... Такая ж ёсць і ў сям'і Вяжэвічаў. І ваш муж, і мой больш за ўсё хацелі, каб кубак не патрапіў у рукі органаў, але і не знік, працягваў перадавацца ў спадчыну. Разам з таямніцай роду.

— Так, Апанас пра гэта гаварыў... Я схавала ягоны кубак у...

— Не гаварыце мне, дзе! Не прамаўляйце ўслых... — адразу спыніла жанчыну госця. — Я таксама сваю палову перахавала... Няхай пра месца даведаюцца толькі нашыя дзеці, бо настане ж час, калі гэтыя рэліквіі можна будзе беспакарана ставіць хоць у буфет. І няхай пераходзяць далей...

— Я выканаю гэта...

...За акном пачынаў згушчацца ранні зімовы прыцемак, снег зрабіўся сінім, а неба імкліва чарнела, нібыта шэрая

прамакатка ўсмоктвала атрамант з перакуленай чарніліцы. Гаспадыня запаліла газоўку, і цені адбегліся ў куты пакоя, як віжы. Вераніка парушыла маўчанне.

— Марына Паўлаўна, а дзе вы зараз працуеце? Вы ж, наколькі я памятаю, мая калега, выкладчыца беларускай...

Кабета горка ўсміхнулася.

— Куды ўжо мне... У школцы я толькі пару гадоў у маладосці і выкладала, да замужжа. Не хачу прасіцца на працу, дзе пачнуць пераглядаць маю падазроную біяграфію. Яшчэ Паўліку нашкоджу. Уладкавалася ў Дом фізкультуры, выдаваць спартыўны інвентар.

Абедзве памаўчалі, перабіраючы ў думках успаміны...

— Хоць бы ведаць, дзе магіла Апанаса! — горка прагаварыла гаспадыня. — Каб хоць так развітацца...

— Я ведаю прыблізна... — ціха сказала Вераніка, і яе суразмоўца ўскочыла.

— Адкуль?

— Свёкар распавёў... Перад тым, як засіліцца. Ён быў доктарам, працаваў у турэмнай бальніцы, — з няёмкасцю патлумачыла госця.

— Ведаю, Апанас гаварыў... І дадаваў, што ад Вяжэвічаў нічога іншага і не чакаў. Прабачце...

Вераніка кіўнула галавою.

— Алесь са сваім бацькам таксама не надта ладзілі. Хаця той рабіў усё, што магчыма, каб абараніць сям'ю, скарыстаўшы службовае становішча. Не змог... І свякроў забралі, і Алеся... Іх забілі практычна там жа, дзе і Апанаса Іванавіча. Гэта пад Мінскам, на Цне.

— Адвядзіце мяне туды!

Светлыя вочы сівой жанчыны пазіралі так адчайна, быццам яна прасілася за сваё жыццё.

— Толькі ж — там проста яміны... Насыпы... А цяпер усё замецена, дый асачыць могуць, — папярэдзіла Вяжэвіч.

— Мне ўсё адно! Я не магу чакаць спрыяльнага надвор'я... Я ўжо дзесяць гадоў мрою хоць пра найменшую звестку пра яго... Прашу вас! Як хутчэй!

— Добра, добра... Як я магу адмовіць... — Вераніка ўстала і пачала завязваць хустку. — У школе цяпер вакацыі, так што я не занятая. А ў вас калі вольны дзень?

Твар Марыны Паўлаўны прасвятлеў надзеяй.

— У сераду. Давайце дамаўляцца, дзе сустрэнемся.

Калісьці ў гэты час ад хаты да хаты хадзілі калядоўшчыкі, людзі гатавалі шчодрую куццю, дзяўчаты лілі ў ваду воск і кідалі за вароты чаравік, каб спраўдзіць адвечныя дзявочыя трывогі: ці выйдзе замуж, калі, за каго...

Магчыма, гэта яшчэ недзе рабілася, крадма, ціха, але не тут. Хаты бліжэйшай вёскі, замеценыя снегам па шыбы, здаваліся непрыветна маўклівымі, нават дым з іх комінаў нагадваў не пра ўтульнасць хатняга цяпла, а пра пякучы дотык агню...

Дзве ўдавы з цяжкасцю прабіраліся па замеценай дарозе між хмызоў да недалёкага лесу.

— Напэўна, трэба было ў абход пайсці, па шашы, — задыхана сказала маладзейшая, больш высокая і зграбная.

— Нічога, дойдзем, — супакоіла яе старэйшая, падобная постаццю да падлетка на фоне станістай спадарожніцы. — За мяне не хвалюйцеся, Вераніка... Я трывушчая.

На шчасце, завірухі сёння не было, хаця неба навісала шэрым саванам...

— Вунь туды цяпер, направа... — сказала маладзейшая. — Якраз выйдзем на дарогу.

Дзве постаці ўпарта прабіраліся да лесу. Сосны ў накінутых на цёмныя шаты белых бурносах нагадвалі змрочных вартавых.

— Цяпер хвілінаў пятнаццаць лесам — і зноў направа... Толькі б не замецена было. Я тут апошні раз у лістападзе была, на Дзяды...

Але на лясной дарозе, куды яны звярнулі, бачыліся свежыя сляды ад колаў. Тут даволі часта ездзілі машыны. У глыбіні лесу раздаўся адзіночны стрэл... Жанчыны трывожна пераглянуліся.

— Няўжо... тут яшчэ расстрэльваюць? — ціха прашаптала Вераніка.

Марына Паўлаўна нахмурылася.

— Не думаю... Месца, вы ж самі казалі, ужо вядомае ў народзе, катаў, якія сюды вазілі, таксама знішчылі свае ж

яшчэ да вайны. Дый хто будзе капаць яміны такімі маразамі! Страляў нейкі паляўнічы... Думаю, няма чаго турбавацца.

Яны збочылі са сцежкі і выйшлі на просеку. Снег тут ляжаў няроўнымі гурбамі, скрэмзанымі слядамі ад лыжаў.

— Вось... Недзе тут... Пад адным з гэтых узвышшаў ляжыць мой муж, пад другім — ваш... Дакладней вам ужо ніхто не скажа, — ціха прагаварыла Вераніка. І дадала, як сама сабе.

— Прывітанне, Алесь...

Побач пачулася такое самае, ціхае і горкае:

— Прывітанне, Апанас... Любы...

Трое лыжнікаў, двое юнакоў і дзяўчына, у цёплых шараварах і куртках, у яркіх вязаных шапачках і шаліках, праляцелі па лыжні, весела ўскрыкваючы, калі лыжы падскоквалі на ўзгорках, на хвілю адрываючы сваіх уладароў ад засыпанай снягамі зямлі... Маладзёны неўразумела паглядалі на двух жанчын, якія асобна адна ад адной прагульваліся па сумётах, спыняючыся, прыгінаючыся...

— Пралескі шукаюць! — весела пракрычала лыжніца сябрам, і кампанія са смехам памчала далей, да берага Цны.

Дзве цёмныя постаці наблізіліся адна да адной.

— Ну што, можа, пойдзем? — папыталася маладзейшая жанчына.

— Зараз... Яшчэ хвілінку... — папрасілася старэйшая, чый голас перарываўся ад плачу. — Прабачце... Але даўно мне не ўдавалася так выплакацца. Нібыта ў Апанаса на плячы... — вінавата ўсміхнулася. — Супакоюся... А то да людзей выходзіць брыдка.

З таго боку, адкуль яны прыйшлі, зашаргатаў снег. Да ўдоваў набліжаўся мужчына ў ватоўцы. Мужчына як мужчына: загарэлы хударлявы твар, упэўненыя рухі чалавека, які звык да вандровак, пранізлівыя цёмныя вочы ў сетцы глыбокіх зморшчынаў... Падобна, звычайны паляўнічы, бо за плячыма ў яго вісела стрэльба, а да пояса з патранташам быў прычэплены падстрэлены заяц.

— Дабрыдзень, жанчынкі! Нешта невясёлая ў вас прагулка, гляджу?

Усмешка і голас былі шчыра аптымістычныя. Вераніка кінула хуткі позірк на напятую Марыну Паўлаўну.

— Мы проста так сюды заблукалі. Яловых лапак хочам наламаць, упрыгожыць актавую залю.

— А вочы заплаканыя, — зазначыў паляўнічы. – Нешта вы тут, нібыта па могілках, ходзіце, грамадзяначкі.

— На Беларусі ўся зямля – могілкі, – не вытрывала Вераніка, і Марына Паўлаўна спалохана абняла яе:

— Ціха, Вераніка... Не слухайце яе...

— Так, загубілі народу праклятыя фашысты! – мужчына спачувальна паківаў галавой, дастаў пачак папяросаў «Казбек», вытрас адну, прыкурыў...— Дык што, у вас тут і праўда пахаваны хтосьці?

— А каб і так, якая вам справа? – не вытрывала Вераніка, у якой усё ў душы пераварочвалася ад упэўненага тону паляўнічага.

— Ну вы скажаце – якая справа... Савецкі чалавек ніколі ад чужой бяды не адвернецца. І ад усяго падазронага таксама. Пільнасць страчваць нельга, грамадзяначкі. Фашыстаў пагналі, а бандыты ж засталіся, паліцэйскія недабіткі, шпіёны...

Незнаёмец паглядзеў, нібыта ўкалоў цёмнымі вачыма.

— А вы ж гарадскія, так? На настаўніц падобныя... У калгасе, куды мяне парторгам прыслалі, цяпер добрая школка... Дабіўся, каб адрамантавалі. Нядаўна дзвюх настаўніц-камсамолак прыслалі ажно з Масквы. А адну, старую, арыштавалі. Пры немцах у школе выкладала, дзяцей новаму парадку вучыла, сука. Таксама інтэлігентная. У берэціку белым хадзіла. Цяпер не пафарсіць.

Жанчыны маўчалі, самі не разумеючы, чаму іх апаноўваў халодны жах. А паляўнічы спакойна выпусціў у зімовае паветра струмень казбекаўскага дыму.

— Так, пільнымі трэба быць, жанчынкі. Вораг – ён паўсюль хаваецца. Я ўжо добра гэта ведаю. Давялося вылоўліваць гадаў.

Мужчына кінуў недапалак пад ногі і прамовіў на развітанне з прыхаванай насмешкай:

— Ну, ламайце свае яловыя лапкі...

Зручней закінуў стрэльбу за плечы і пайшоў пругкай хадою ў бок Цны. Марына Паўлаўна з плачам села на снег.

— Божа мой, як я напалохалася, мне раптам падалося, што гэты чалавек мог быць з тых, што забілі нашых мужоў!

— Уставайце, уставайце, пойдзем хутчэй... — зашаптала Вераніка, падымаючы яе. — Нам нельга тут заставацца...

Калі яны, падтрымліваючы адна адну, выйшлі з лесу, Вераніка парушыла маўчанне трывожным шэптам:

— Як вы думаеце, гэты чалавек выпадкова тут апынуўся?

Марына Паўлаўна варухнула збялелымі вуснамі.

— Магчыма, што невыпадкова.

Кабеты зноў замаўчалі. Калі яны наблізіліся да замеценых снегам дамкоў, Вераніка папыталася гэтак жа ціха:

— Вы казалі Паўлу пра тое, куды мы ідзём, увогуле, хто я?

Марына Паўлаўна паматала галавою.

— Не, не казала...

— Правільна! І не кажыце! — горача зашаптала Вераніка, азіраючыся, нібыта іх маглі падслухоўваць проста тут, на дарозе. — І я дачцэ нічога не скажу... Яна і пра бацьку дакладна нічога не ведае. Толькі, што загінуў рана. Дзяцей трэба зберагчы...

— Так, ваша праўда... Дзяцей трэба зберагчы. І акрамя гэтага анічога не мае значэння.

Яны развіталіся на ўскрайку горада, калі ўжо сцямнела. Вераніка села ў трамвай, Марына Паўлаўна суха, амаль незаўважна, кіўнула на развітанне і засталася на прыпынку, хаця ёй трэба было ехаць таксама ў гэты ж бок. Але Вераніка не насмелілася яе ўгаворваць ці дамаўляцца на наступную сустрэчу. Магчыма, ім і праўда лепей не падтрымліваць знаёмства...

Трэба заехаць у краму, атаварыць прадуктовыя карткі... Каб занесці Ірынцы ў бальніцу штось смачнае. Няхай не стане балерынай, няхай не спазнае гучнай славы... Але працягне род Вяжэвічаў і аднойчы атрымае ў спадчыну ад продкаў палову срэбнага кубка, рассечанага невядома калі і навошта.

За вокнамі трамвая свяціліся яшчэ рэдкія агні горада, што паўставаў з руінаў.

А калі на голых галінках кволых дрэўцаў, высаджаных ля Тэатра оперы і балету, паказаліся празрыста-зялёныя кволыя лісткі, у акно падвальнай кватэры пастукалі.

— Вам пасылка!

Мужык у непадпяразанай гімнасцёрцы, пакінуўшы вазок ля пад'езда, звалок па прыступках цяжкую скрынку.

— Ну, гаспадыня, куды ставіць?

Дзяўчынка, што ляжала на ложку пад акном з кніжкай казак у руках, папыталася:

— Мама, што гэта?

— Не ведаю... — пацiснула плячыма гаспадыня. Пасыльны спрытна разламаў скрынку і дастаў адтуль разабраную нажную машынку «Зінгер», яшчэ дарэвалюцыйную, чорную, бліскучую, з выгінастымі, як рогі аленя, каванымі падстаўкамі...

— Вось, сказалі даставіць для дзяўчынкі, якая надта добра шые. Відаць, гэта ты і будзеш, вачастая? А плаціць не трэба, мне ўжо заплочана... Ну, куды паставіць?

— Мама, швейная машынка! — дзяўчынка схапілася за мыліцы, што стаялі каля ложка, і падкульгала да свайго шчасця. — Вось сюды, дзядзечка, пастаўце. Да акна, каб відней было!

Мужчына спрытна сабраў машынку, нацягнуў на чорнае металёвае кола скураны раменьчык...

— Ну, хай добра шыецца! Можа, прыйду, замоўлю што!

І пайшоў.

У падвальнай кватэры нібыта стала святлей і цяплей. Дзяўчынка ўселася на падстаўлены маці зэдлік і паспрабавала націснуць нагой на ўзорыстую каваную педаль, войкнула ад болю, але ўсё-ткі націснула. Кола лёгка зрушылася, з мяккім шоргатам закруціліся хітрыя механізмы...

— Гэта ты купіла, мама?

— Не, дарагая... Гэта падарунак табе ад адной добрай цёткі. Ты яе не ведаеш.

— Я стану самай лепшай у свеце швачкай, мама! І пашыю табе сукенку, як у каралевы!

— Добра, Ірынка! Я дачакаюся...

У горадзе панавала вясна. Узгоркі ў лесе над празрыстай рачулкай Цной прыкрасіліся шыкоўным кілімам кураслепу, і гарадскія дзеці бегалі па ім са шчаслівым смехам, і збіралі

кволыя букецікі, і палілі вогнішчы ў гэтым цудоўным, бесклапотным, жывапісным месцы, у якім чамусьці там-сям нехта ставіў драўляныя крыжы. Але яны вельмі хутка гэтак жа немаведама кім прыбіраліся, і нішто не азмрочвала спакой гараджан, якія прыходзілі сюды, каб адпачыць на прыродзе...

## Раздзел 14.
## ЗОНА НЕДАСЯЖНАСЦІ

Арфей калісьці вывеў Эўрыдыку з царства мёртвых, скарыўшы сэрца змрочнага Аіда, ён жа Гадэс, чароўнай песняй...

У прынцыпе, «Паланэз Агінскага» таксама здольны крануць падземныя сэрцы, прынамсі, кожны свядомы беларус павінен у гэта верыць.

Ася ў чарговы раз націскала на кнопку мабільніка, каб пачуць у адказ «Апарат абанента выключаны альбо знаходзіцца па-за зонай дзеяння сеціва».

Гэта было абсалютовае глупства, але ёй здавалася кожны раз, калі яна так рабіла, што нейкая нябачная павуцінка працягваецца ад яе да Данілы Корб-Варановіча, праз тоўшчу зямлі, цэглы і камення.

Даўно сцямнела, дождж прывіднымі ніткамі з'ядноўваў чорнае неба і чорнае поле, у святле ліхтароў і фараў гэтыя ніткі часам здаваліся залатымі.

Ася дакранулася да сваёй шыі... Там усё яшчэ сляды ад пацалункаў Данілы. Нібыта трошачкі прысутнічае ён сам.

— Слухай, Ася, чацвёртыя суткі пайшлі... Ідзі да Аляўціны Пятроўны, паспі, у намёце ж холадна.

Дзяўчына адмоўна пахітала галавой.

Нехта ж мусіць быць на сувязі з замураваным князем...

Рукі і спіна балелі ад рыдлёўкі... Яны адразу пасля няшчасця ўсе кінуліся раскопваць завал, яшчэ верачы, што не адбылося непапраўнага, што варта толькі дабрацца да зводаў сутарэння...

Але нават экскаватар не даў рады. Падземная царква абрушылася капітальна, разам з тонамі зямлі... Захаваліся калоны — сёння адкапалі іх вярхушкі, якія зараз сіратліва

тырчэлі над руінамі... А ўсё астатняе было друзам. Зусім як у Асіных мроях пра скон Шэрай Будыніны. Спецыялісты нешта казалі пра ўплыў шматвяковай вільгаці, уздзеянне грунтовых водаў, што дастаткова было нязначнага сатрасання зямлі, каб усё пасыпалася... Праца выратавальнікам не на адзін дзень. І не на два. Дай Бог да маразоў управіцца, каб знайсці цела...

— Ён жывы! — пачуўшы першы раз пра «цела», скрозь зубы прагаварыла Ася, і ўсе чамусьці «звялі», як кветкі ў мароз. Але папраўку ў лексіку ўнеслі.

Увушшу ўсё яшчэ стаяў крык Леаніда Калантая:

— Чаму ўчынілі самавольныя раскопкі? Не ўзялі дазвол у сельсавеце, не ўзгаднілі ні з кім? А тэхніка бяспекі! Хоць бы сцяжок які пакінулі, што там ёсць збудаванне і могуць быць людзі! Ніхто ж скрозь зямлю не бачыць!

У прынцыпе, усё гаварылася справядліва... Але слухаць, што «Корб-Варановіч зрабіўся ахвярай уласнай недысцыплінаванасці і авантурызму» было невыносна. Ася проста падышла і схапіла спадара ідэолага за гальштук, накруціла на руку і нешта такое прасычэла проста ў барвовы твар, што Калантаю на нейкі час адняло мову, а на лбе праступіў пот.

«Гэта яго нявеста, вы ўжо прабачце», — гаварылі нейкія галасы.

Першую ноч яны таксама ўсе капалі, цягалі камяні... Прыехалі два эмчээсаўцы з сабакам і адмысловымі прыборамі, агледзеліся... Сказалі, што пакуль ніякіх прыкметаў жыцця пад завалам не назіраюць. Але капайце, капайце... Мёртваму, вядома, усё роўна, але ж там, па вашых сцверджаннях, скарб каштоўны...

Ася не сумнявалася, што нехта пільна прыглядае за лёсам таго скарбу.

Цяпер ішла чацвёртая ноч. Вядома, людзі працягвалі працаваць, але Ася выдатна бачыла, што ўжо без асаблівага энтузіязму. Тры дні — крытычны тэрмін, усё часцей чула яна пра гэта перашэптванні. Даставаць нябожчыка — можна і не спяшацца. Падобна, акрамя Асі ніхто не верыў, што Даніла Корб-Варановіч можа выратавацца.

У намёт зайшла «каманда» — барадаты Калюжка, лысаваты краязнавец Паўлюк, высокі археолаг у акулярах Алесь... Выстраіліся ўрачыста, як на паніхідзе.

— Арсенія, паверце, мы зробім усё, што можна. Мы вельмі шанавалі Данілу Раманавіча. Ён сказаў, што вы ягоная нявеста. А ён словамі не кідаўся. Таму ведайце: блізкі чалавек Данілы Раманавіча заўсёды будзе дарагі і нам. Можаце, калі што, разлічваць...

Арсенія толькі ўскінула галаву «фірменным» Корб-Вараповічаўскім жэстам:

— А чаму гэта вы гаворыце пра яго, як быццам ён мёртвы? Мой жаніх — не такі чалавек, каб даць вось так сябе пахаваць жыўцом! Ён жывы. Ён моцны, як леў, і бясстрашны, у яго дужыя рукі, ён выберацца.

Археолагі сышлі з няёмкімі паперхваннямі і мыканнем. Затое з'явіўся Вячка. Наколькі можна бачыць у святле ліхтара, упэцканы па вушы і ўвесь напяты, хаця яны ж тут усе такія...

— Ты едзеш са мной у горад. Не вар'яцей, да раніцы ўсё адно нават да паловы не раскапаюць, ты яму нічым не дапаможаш, седзячы ў чыстым полі. Выспішся, памыешся — раніцай прыедзем назад. Не хочаш сама — сілай павязу. Мяне тут проста моляць цябе забраць, каб жаласным выглядам на нервы не ціснула. Людзям і так не салодка. Ну!

Ася няўцямна глядзела на мабільнік, які зусім разрадзіўся, і вось-вось яго экранчык стане чорным... Як зямля. Вячка схапіў дзяўчыну за плечы і змусіў падняцца. Яна зірнула на яго пачырванелымі вачыма:

— А ў тваім рамане і гэта апісана, Вячаслаў? Класны фінал... Ды і нязручны персанаж сыходзіць са сцэны.

— Ідыётка! — Вячка груба выштурхнуў яе з намёта, Ася ледзь паспела прыхапіць заплечнік Данілы, з якім нізавошта б не рассталася... Гэта была рэч, звязаная з ім...

У машыне Ася адразу заснула, скруціўшыся на заднім сядзенні, абняўшы заплечнік...

Ёй прысніўся Даніла. Ён ляжаў у вузкім, як труна, месцы, вакол яго былі зямля і камяні. Але ён быў жывы. Грудзі

пакутліва ўздымаліся, вусны на твары, зарослым шчэццю, выснажаным, чорным ад гразі, варухнуліся... Асі хацелася б, каб ён вымавіў яе імя... Але, падобна, зняможаны графскі нашчадак проста вылаяўся. Відзежа атрымалася такой натуральнай, што Асі падалося, быццам можа дакрануцца да свайго мужчыны... Яна прачнулася ад уласнага крыку, Вячка ўжо падрульваў да ейнага дому...

— Добра, што ноч, сустрэчных машынаў няма, а то б яшчэ ўрэзаўся ад такіх гукавых эфектаў... — прабурчэў Скрыніч. — Які ў цябе пад'езд?

Яшчэ пару тыдняў таму Ася з візіту Вячкі зрабіла б для сябе цэлы рытуал... Цяпер ёй было абыякава. Колькі б рук яе ў будучым ні абдымалі — ёй патрэбныя толькі адны абдоймы...

Вячка няёмка патаптаўся на парозе.

— Ты не супраць, калі я тут заначую? Не хацелася б пакідаць цябе адну... Ты б сябе бачыла з боку...

Арсенія яго пытання проста не ўспрыняла і моўчкі пайшла ў лазенку... Яна стаяла пад гарачым душам і думала пра Данілу... Уяўляла, што ён стаіць побач... Вось ягоныя рукі лашчаць яе... Прыціскаюць да сябе пад цёплымі струменямі вады... Набліжаюцца ягоныя вусны... Ася нават прыадкрыла свае вусны, ловячы прывідны пацалунак... І застагнала, сустрэўшы пустэчу.

Ён зараз у зямлі... Камяні ляжаць у яго на грудзях...

У дзверы лазенкі пастукалі.

— Арсенія, з табой усё нармальна?

А яна сядзела ў ванне, абняўшы калені, і сыходзіла слязьмі...

— Не памірай, калі ласка! Не памірай...

Пасля Вячка спрабаваў карміць яе нейкімі кансервамі з адкаркаваных наспех бляшанак, але яна ўпала ў ложак, як была, у джынсах і тым жа варановічаўскім чорным гольфе, і адключылася.

Ёй зноў прысніўся Даніла. На гэты раз ён ляжаў на грудзе камянёў, выцягнуўшы наперад руку, як той ягоны родзіч, Сяргей Паўлючыц, і ў руцэ быў заціснуты, вядо-

ма, срэбны кубак... Ася там, у сне, трывожна ўглядалася, услухоўвалася — ці жывы? Ці дыхае? Чуваць было, як крапае вада... Ну, давай, падай прыкметы жыцця... Нібыта пачуўшы, мужчына паварушыўся...

Ася зноў прачнулася ад уласнага крыку.

— Я там бляшанку тушонкі адкрыў на кухні... І батон ёсць, — азваўся Вячка, які засядаў за ўключаным камп'ютарам. — Астатняе з'еў. Выбачай, з гатаваннем ежы ў мяне праблемы...

— Якая ежа... Паехалі ў Ройна, — прамармытала Ася. Добра, не распраналася — а Вячка не ўздумаў ёй з гэтым дапамагчы. Як там сотавы? Зарадзіўся?

У шалёным спадзеве пабачыць жаданы выклік з нетраў Ася кінулася да стала, дзе вяртаўся да жыцця пасаджаны на чорны шнур да разеткі мабільны тэлефон... Было толькі два прапушчаныя выклікі, абодва ад маці.

— Паслухай, Арсенія... — няёмка пачаў Скрыніч. — Я некалькі разоў тэлефанаваў у Ройна. Ноччу экскаватар не працаваў, так што практычна нічога не змянілася... Хлопцы вельмі прасілі, каб я цябе тут хоць да вечара затрымаў. Прабач, ты іх нервуеш.

— Чым? Тым, што нагадваю, што Даніла не памёр? — Асю пачало калаціць. У краіне столькі ўсялякай тэхнікі для капання зямлі, столькі выратавальнікаў, жаўнераў, міліцыянтаў... Чаму не прыгнаць адразу кучу, няўжо немагчыма ўсё зрабіць хутка?

— Я павінна ехаць. Зразумей, кожная прыгаршча зямлі, якую я зніму з яго, мне залатая...

Вячка падняўся, узяў дзяўчыну за плечы.

— Калі што, нам патэлефануюць... Давай пачакаем хоць да абеду. Ідзі, памыйся, паеш, як чалавек, тады можаш палазіць у Інтэрнэце... Там-сям пра Корб-Варановіча згадваюць.

На афіцыйных сайтах «трагедыя ў Ройне» не згадвалася. Толькі некалькі неафіцыйных напісалі, што з вядомым навукоўцам Данілам Корб-Варановічам адбыўся няшчасны выпадак падчас раскопак, але цела (зноў цела!) пакуль не знойдзена. На форумах, вядома, людзі гулі, у Жывым

Часопісе ўтварылася суполка, якая сачыла за падзеямі. Ася пабачыла, што там рабілі запісы добраахвотнікі, што раскопвалі царкву, і выклікаліся дапамагчы новыя. А Арсенія і не ведала, што Корб-Вярановіч быў аўтарам дваццаці манаграфій і зборнікаў артыкулаў, доктарам навук і чальцом немавед якіх міжнародных камітэтаў і грамадскіх арганізацый... Што ж, у «Сокале-прынце» ягоныя кніжкі не друкаваліся, на вечарыны памяці гістарычных асобаў, дзе Даніла мог прысутнічаць, Ася даўно не хадзіла...

Відаць, нехта пасылаў інфармацыю на форум проста з Ройна, таму што апошнія звесткі пра падзеі былі дваццаціхвіліннай даўнасці. Экскаватар запрацаваў, але ўсё ўскладняе моцны дождж, прыкметаў жыцця пад заваламі няма, да ніжняга слоя, дзе павінны быць парэшткі, дакопвацца шчэ не адзін дзень...

«Парэшткі»! Самі вы парэшткі...

А за акном сапраўды залева, ажно шыбы здаюцца перакрыўленымі ад струменяў, што па іх сцякаюць, і здаецца, што да іх з вуліцы прыціскаюцца белыя твары тапельцаў.

Ася набрала ў пашукавіку імя свайго мужчыны. Трэба ж, спасылак, як на класіка якога... Фотаздымкі... У Крэўскім замку, у Міры, у Празе, у Кліўлендзе... На канферэнцыях, круглых сталах, на раскопках... Манітор расплываўся ў вачах ад слёз.

Нешта пляснула побач... Ася павярнулася. Гэта Вячка бразнуў аб стол сваю запаветную сінюю тэчку. Ягоны твар быў збялелы і таксама нейкі перакрыўлены.

— Каб я ведаў, чым гэтая гульня абернецца... Зараз нават у Гогаля толкам не сыграеш — той мог эфектна спаліць у агні рукапіс, а зараз застаецца толькі файл з камп’ютара выдаліць. А які ж гэта жэст для вечнасці? Ніякай урачыстасці...

Вячка правёў абедзвюма рукамі па зблажэлым твары, парослым чорнай шчэццю.

— Я ж дзеля чаго ўсё пачаў пісаць... Каб цябе залучыць! Штучку такую ганарыстую... Марго казала, як ты нудзішся ў «Сокале-прынце», як табе не хапае прыгод на ўласную... галаву. Я пакорпаўся ў тваім радаводзе... І такі шыкоўны ма-

тэрыял падвярнуўся! Следчая справа твайго прадзеда, якая выцягнула на свет справу Корб-Вараноўіча... І пачалося. Я ж фанат... Я не лгаў. У мяне рэальнасць і ўяўленне нераздзельныя. Я сам часта не ведаю, чаму так ці іначай напісалася... За герояў жыву... Пра карціну з тваім двайнікам я даўно ведаў, і, шчыра кажучы, паспрыяў таму, каб менавіта яе сюды прывезлі. Так, я ведаю, што ты хочаш сказаць, — падняў руку Скрыніч. — Што можна было куды прасцейшым шляхам звярнуць на сябе тваю ўвагу. Але проста — мне было б не цікава. Я хацеў Вялікай Гульні. Ты была ідэальнай гераіняй. Рамантычная, закамплексаваная, самотная. Не падобная да тых дзевак, што скакалі да мяне ў ложак і якіх так проста «раскласці на элементы»... Як тваю сястру, напрыклад. І ўсё з табой амаль жа атрымалася!

Гэта было жахлівае адкрыццё, але цяпер Арсеніі толькі трохі зрабілася брыдка ад здагадкі, што Марго ўсё-ткі атрымала славутага аднакласніка калі не ў мужы, дык у часовыя каханкі. Вядома, недарэка Гоша ніяк не мог задаволіць ейныя амбіцыі. Вячка ўскочыў і захадзіў па пакоі.

— Я збіраў звесткі пра сваіх герояў, распісваў ролі. Выходзіла, што Корб-Вараноўіч — дзядзька ў гадах, жанаты, характар паскудны — агрэсіўны, фанабэрысты... Як яго лаялі чыноўнікі з аддзела культуры! Ну чаму я не ўлічыў, што два гісторыкі называлі яго «дабрэннай душы чалавекам» і «сумленнем гістарычнай навукі», не прыглядзеўся да тых кабетаў, якія, пачуўшы «Даніла Раманавіч Корб-Вараноўіч», рамантычна ўздыхалі ці чырванелі... Яны ж не ўсе былі сталыя ды шараговай знешнасці... Я планаваў, што ён у табе адразу выкліча моцную антыпатыю, а значыць, па ўсіх законах псіхалогіі, ты дапусціш мяне бліжэй. Хто мог падумаць, што між вамі такое здарыцца! — Вячка ўчапіўся ў свае чорныя валасы. — Гэта было нешта неверагоднае! Я ніколі не бачыў, каб людзей так цягнула адно да аднаго — з першага ж погляду! Вы яшчэ самі не разумелі, што з вамі адбываецца... Але ж я — пісьменнік! Я — дэміург, лялькавод, рэжысёр, сцэнарыст! Я выдатна заўважаў, як між вамі аж паветра віравала ад напружання, ад узаемнай цікавасці... Тады,

у Аляўціны Пятроўны, не вытрымаў, сарваўся... Сяджу, як на чужым вяселлі, на якое прыйшоў быў, як жаніх. Ведаеш, момантамі падчас вашай бліскучай сваркі ў мяне было такое ўражанне, што вы проста ў мяне на вачах зараз кінецеся адно да аднаго, як галодныя да хлеба, і пачняце цалавацца... Блін...

Вячка рухнуў назад, у крэсла. Ася агаломшана спрабавала асэнсаваць тое, што чула. А так жа і здарылася... Урэшце яны кінуліся адно да аднаго... Няўжо звонку гэта выглядала непазбежнасцю? Яна ж гісторыка цярпець не магла... І ён яе таксама... А Скрыніч шпурнуў свой рукапіс на падлогу, так што разляцеліся старонкі, падскочыў да Асі, падняў яе з крэсла, як ляльку:

— Дарагая, мілая, зразумей, гэта проста гульні псіхікі! Мне Данілу Раманавіча таксама страшэнна шкада, і я таксама ночы не сплю, і буду хоць рукамі разбіраць той кляты завал... Але не ўяўляй таго, што няма і не магло быць. Ты не мела бацькі, сядзіць падсвядомая патрэба ў прысутнасці старэйшага мужчыны... Каб насіў на ручках, ушчуваў, прабачаў, падказваў... А ён у дзяцінстве не атрымаў любові, і цяпер прагне яе атрымліваць і дарыць — вечны недалюблены дзіцёнак... Сваіх дзяцей не зрабіў, родзічаў няма, а так хочацца пра кагосьці клапаціцца... Вось з гэтай вар'яткай важдаўся. І з табой, як з дзіцем, нянькацца пачаў. Надзень шапачку, не хадзі босая, паеш... Ён жа кантраляваў бы кожны твой крок! Дзе затрымалася, чаму невясёлая? Згадзіся, ты ўсё роўна такога б не сцярпела! Я разумею... Першы ўдалы сэксуальны досвед — гэта зачароўвае. Але, павер, ён не адзіны вопытны мужчына, з якім жанчыне можа быць добра. А я цябе кахаю. Чуеш, кахаю!

Вячка пачаў асыпаць яе пацалункамі, але Ася спакойна адсунулася, прамовіла з мяккім дакорам.

— Не трэба казаць пра яго ў мінулым часе, Даніла жывы. А выберацца, я яму ўпраўлю комплексы на месца. А для бацькі ён занадта... хуліганісты. Часам як дзіця горкае...

Ад яе ціхай мройнай усмешкі Вячку проста затрэсла. Ён адпусціў Асю і зноў усеўся ў крэсла, мармычучы сам сабе:

— Ёлуп... Знайшоў калі, усё сапсуў... Пачакаць трэба... Проста пачакаць...

Зазваніў тэлефон, не мабільны, гарадскі. Але Арсенія кінулася здымаць трубку, ледзь усё на стале не перакуліла.

— Асенька, дзе ты знікла? Трубку не бярэш, і на працы кажуць, што цябе няма...

— Бабуля, я звольнілася.

На тым баку праваду на імгненне запанавала маўчанне.

— Ну, можа, і да лепшага.

Ася нават усміхнулася — мілая бабуля, ідэалістка, якая выхавала ідэалістаў... Вечная галеча, затое ўзаемаразуменне і згода.

— Два тыдні не паказваеш носу, — між тым дакарала бабуля. — Замуж выйдзеш — а мы і не даведаемся. А я табе цікавую сукенку пашыла, як ты і хацела, чорную, доўгую, з устаўкамі з тафты... Як у цябе, дарэчы, са Славікам?

— З якім Славікам? — затармазіла Ася, не адразу зразумеўшы, што згаданая асоба сядзіць з ёй у адным пакоі і меланхалічна даядае тушонку з бляшанкі вытворчасці г. п. Бяроза.

— Ну з пісьменнікам, які з Рытачкай вучыўся. Быў, памятаю, у школе здохлы, бледны, шкадлівы... А цяпер — цікавы такі мужчына, разумны, вясёлы... Ён у мяне ў панядзелак тры гадзіны прасядзеў. Пра мінулае распытваў... — бабуля горка-горка ўздыхнула. — Што ж, навошта мне ў магілу ўспаміны забіраць... А Славік, можа, нешта карыснае для людзей напіша. Ты глядзі, дзеўка, не ўпусці яго. Ён жа за табой са школы ўпадаў.

Арсенія разгублена зірнула на Вячку. Каго ні паслухаць, усе за ёй упадалі... Ці яна дурнаватая, ці яны не туды падалі. Паколькі ва ўласным інтэлекце Арсеніі сумнявацца было крыўдна, выбрала другі варыянт.

Пазнавата гэтыя ўпаданні выявіліся... Гора зноў сціснула сэрца кіпцюрыстай лапай. Яшчэ толькі дзевяць раніцы. Яна абяцала патрываць да абеду, не ехаць у Ройна. А Даніла там, у сутарэннях, пад грудамі камянёў... Ася націснула зноў на кнопку сотавага, каб набраўся нумар Корб-Варановіча... «Апарат абанента знаходзіцца па-за зонай дзеяння сеціва...» Аднак хопіць плачу. Сёння ёй яшчэ давядзецца ўсяляць надзею ў людзей, якія зняверыліся.

Вячка паныла паставіў каля клавіятуры пустую бляшанку.

— Ну вось, як знервуюся, ваўчыны апетыт прачынаецца. Табе застаўся батон і палова пачка масла. Здаецца, яшчэ яйкі ёсць... Можа, падсмажым?

Ася паматала галавой, хаця паесці з меркаванняў самазахавання не перашкодзіла б.

— Ты чаго да маёй бабулі хадзіў?

Вячка сумна ўсміхнуўся.

— Хочаш ведаць? Зараз пакажу...

Лена ўстаў і пачаў перабіраць рассыпаныя па падлозе аркушы, як быццам шукаў залаты пярсцёнак пад восеньскім лісцем. Падабраў некалькі, склаў, працягнуў Асі.

— На, чытай... І яшчэ батон пажуй, а то звалішся. Пайду, гарбаты завару.

А Даніла б зараз хуценька згатаваў амлет, адпускаючы здзеклівыя жартачкі пра нягеглую гаспадыню, у якой у халадзільніку тры хвосцікі ад каўбасы і дзвесце свежазамарожаных галодных паглядаў, і прымусіў бы паснедаць, а потым...

Ася неверагодным намаганнем волі адагнала тугу і паглыбілася ў чарговы тэкст з Вячкавага рамана.

Хочаш пераканацца, што ты не самы няшчасны чалавек на свеце? Азірніся на бліжніх. А сорамна як... Яна ж нічога не ведала! У бабулі хворыя ногі, а як гэта сталася? Дзе магіла прадзеда, таксама Арсенію раней не цікавіла...

Яны з Данілам павінны абавязкова схадзіць у Курапаты... Хаця Даніла, вядома ж, там бываў. Такі чалавек, як ён, не мог не наведаць месца, дзе закапаная частка крывавай беларускай гісторыі.

І зноў віна перад Скрынічам лягла на душу... Ён сапраўды талент. Не ён мусіць амлеты пячы, а яму павінны спунаваць, усе ўмовы ствараць, абы пісаў... А ён ёй гарбату вунь падае...

— Ты вялікі пісьменнік... — ціха прамовіла Арсенія. — Я ганаруся, што знаёмая з табою...

— Але ты мяне не кахаеш, — змрочна сказаў-сцвердзіў Вячка. Арсенія разгублена паглядзела на яго. Так, геніі — эгацэнтрысты... Але няўжо ён не разумее...

— Табе не здаецца, што зараз не самы спрыяльны час высвятляць адносіны? Калі мой... дарагі мне чалавек... адзіны... магчыма, памірае? Што за сцэны рэўнасці да таго, хто чацвёра сутак камянямі засыпаны?

Відзежа са снабачання паўстала перад вачыма.

Дзяўчына ўскочыла, схапілася за галаву.

— Усё, не магу... Паехалі!

Вячка таксама ўскочыў, раз'юшаны і адчайны.

— Ды чым ён цябе так прываражыў? Мазгі зусім перакленіла...

І з усяе моцы нянавісці ўдарыў па заплечніку Корб-Варановіча, які сціпла стаяў, прыхінуты да сцяны. Заплечнік з глухім шоргатам паваліўся, рэчы з яго пападалі на падлогу... Упакоўка вільготных сурвэтак, распухлы ад запісаў нататнік у скураной вокладцы, патрапаны маленькі малітоўнічак, такі ж патрапаны агульны сшытак, цэлы пук асадак, якія раскаціліся, нібы ліцвіны з маскоўскага палону, рулетка, металёвы тэрмас, складны паляўнічы нож... Каб жа гэта Корб-Варановіч прыхапіў з сабою ў сутарэнне!

Вячка падняў цяжкі скрутак, загорнуты ў цэлафанавы пакет.

— А гэта што?

— Гэта Даніла з труны Юрыя Варановіча дастаў, — успомніла Арсенія. — Але сказаў, што толькі сам хоча прачытаць.

Ды Вячка ўжо здзёр цэлафан і раскручваў каляную ад часу скуру. Унутры аказаўся футарал, як маленькі тубус, зверху абмазаны нечым брыдкім, падобным да застылага тлушчу. Скрыніч бесцырымонна абчысціў налёт нажом. Зблісnуў метал.

— Зверху воск, унутры — срэбра... — няўважна патлумачыў ён Асі, узяўся за футарал абедзвюма рукамі, з сілай крутануў... Той распаўся на дзве паловы, і на столываліўся шорсткі шчыльны ліст, спісаны выцвілым атрамантам.

— Пергамент, адмыслова апрацаваны, разлічаны на доўгае захаванне... — задумліва канстатаваў Скрыніч. — Пачатак шаснаццатага стагоддзя. Яго не адзін раз разгортвалі, між

іншым. Вось трэшчынкі... Я, вядома, не прафесійны палеограф, але чытаць такія дакументы насабачыўся.

Арсенія змрочна зазірнула ў ліст, не разабрала ані слова ў старажытнай вязі. Гэта была таксама частка Данілы. Таямніца ягонага роду, якую ён так прагнуў адкрыць. Ці варта дазваляць Вячку соваць у яе свой драпежны нос? Ася зусім было ўжо сабралася выхапіць пергамент з рук «дэміурга» і спаслацца на тое, што Даніла вернецца, сам пачытае, але раптам ёй прыйшло ў галаву... А што, калі словы далёкага продка дапамогуць вызваліць Данілу? Дадуць невядомыя звесткі пра падземную царкву?

— Чытай хутчэй... — хрыплым голасам прамовіла Ася, зірнуўшы яшчэ раз на свой сотавы, які маўчаў, як трыпутнік пад капытом.

Вячка расклаў пергамент на камп'ютарным стале, адсунуўшы клавіятуру і манітор, прыціснуў жорсткія краі марскімі каменьчыкамі, якія Ася калісьці расклала па ўсёй кватэры ўперамежку з ракавінкамі, быццам імітуючы караблекрушэнне, запаліў настольную лямпу і нізка нагнуў над тэкстам... Адразу відаць, спрактыкаваны... І пачаў чытаць, перакладаючы, як мог, на сучасную мову...

«Я, раб Божы Іосіп Вороновіч, пакідаю запавет непарушны ўсім сваім нашчадкам, колькі б іх ні было... І запавет той у труне павінен захоўвацца майго старэйшага брата, адзінароднага, Юрыя Вороновіча, які ў царкве святога Юры пахаваны. І кожны старэйшы ў родзе няхай, калі ягоны старэйшы сын падрасце, адкрые яму шлях сюды, а той, прыйшоўшы і прачытаўшы запавет гэты, пакладзе яго на месца і воскам запячатае, каб ягоны старэйшы сын у свой час таксама прыйшоў і прачытаў... Няхай гісторыя нашага роду паслужыць спадчыннікам нашым у навучэнне і ва ўстрашэнне, чым абярнуцца можа здрада каралю і айчыне і безразважная жарсць, якая адольвае падобна хваробе. Змірайце ж свае сэрцы, якія ў Варановічаў палкія, як вагонь паганскага Купалля, малітваю і пастом і суворай шляхецкаю воляю.

У год ад нараджэння Хрыстова 1508 была злашчасная бітва на рацэ Вядроша. Разбілі маскоўцы, якіх было, як жа-

мяры, войска кароннага гетмана Канстанціна Астрожскага, так што вада ў рацэ чырвоная плыла, і пабралі ў палон усіх шляхціцаў. І пайшлі на гэтую бойку пад штандарам кароннага гетмана бацька мой, Антоні Варановіч, і старэйшы брат мой, Юры Варановіч, воін магутны, як тур, і бясстрашны, як леў. Бацьку прывезлі верныя слугі параненага. А Юрыя не было сярод палонных, і не было яго сярод тых, каму ўдалося вярнуцца. І прыйшла вестка, што ён мёртвы. Загінуў Юры Варановіч у сечы на Вядрошы. Так казаў я сваім дзецям, і так няхай кажуць мае дзеці сваім.

А што адбылося насамрэч з братам маім, Юрыем Варановічам, я зараз вам распавяду».

**Раздзел 15.**
**ДА СЁМАГА КАЛЕНА І ПАВЕК**

Цёмна было, як у коміне, каб хто вытнуў, не ведаў бы, з кім сварыцца... Ды яшчэ дождж ліў. Сакавік у гэтым годзе ўвогуле быў халодны, як рыбіна, і дажджлівы, і неба здавалася мокрай анучай, якую дбайная гаспадыня старанна выціскала над зямлёй, замяшанай разам са снегам у агідную калатушу. З-пад капытоў коней выплюхваліся брудныя вадаспады, і хацелася аднаго: у цёплы прытулак.

Але часам цемра і холад падаюцца больш прывабнымі, чым яркае сонечнае святло. Прынамсі для тых, хто хаваецца і ўцякае.

Да Ройнаўскага палаца, які абазначаўся на фоне чорнага неба толькі ледзь бачным, трохі цямнейшым ад неба абрысам высокага даху, упрыгожанага па кутах вежачкамі, у якіх цьмяна свяціліся акенцы, пад'ехалі намётам двое вершнікаў. Адзін, вышэйшы і больш дужы, падтрымаў меншага, які зусім абсунуўся на спіну зняможанага каня, спешыўся і падышоў да брамы. Твар ягоны быў схаваны нізка насунутым коптурам, толькі відаць было па пастаўе, што нечаканы госць высокі, магутны, як тур, і не стары. На грукат азваўся суворы голас вартавога, у браме адчынілася закратаванае акенца, і прыўзняты над агароджай ліхтар, у алеі якога канаў светлай смерцю тоўсты кнот, разагнаў

цемру на адну валасіну. З двух бакоў паўзверх агароджы на прыхадняў наставілі рулі крэмніевых стрэльбаў, падобныя да жалеек смерці. У Вялікім Княстве — неспрыяльны час для адчыненых брамаў і начных гасцяванняў.

— Перадайце пану Язэпу Варановічу гэты сыгнет, — уладна пракрычаў вершнік і перакінуў цераз браму скрутак, у якім згаданы прадмет, відаць, і знаходзіўся. — Пабудзіце яго, калі спіць, бо гэта вельмі важна, і ваш пан дужа раззлуецца, калі вы ўчыніце іначай.

За брамай пачуліся галасы і крокі.

Чалавек зноў ускочыў у сядло са звыклай лёгкасцю ваяра і цярпліва пачаў чакаць. Ягоны спадарожнік, таксама шчыльна захутаны ў плашч з коптурам, стуліўся ў сядле, нібыта птушка. Нарэшце загрукалі засовы, брама з тоўстых бярвёнаў адчынілася, і двое начных гасцей прыспешылі коней...

Прыслужнікі скіравалі прыхадняў да чорнага ўвахода, як загадаў ім пан, і па ягонаму ж загаду разбегліся. Падобна, госці сапраўды прывезлі важныя звесткі, і гэтыя звесткі, гэтак жа як і аблічча гасцей, не прызначаліся для староннiх вушэй і вачэй. У палацы запанавала ціша.

Ля ганка больш высокі госць спешыўся і дапамог сысці з каня другому, літаральна зняў, асцярожна паставіў на ногі, прытуліў да сябе... Дзверы грукнулі, выпусціўшы ў імжу і цемру слабое святло свечкі. Стары лёкай запрашальна махнуў рукой, і двое ўвайшлі. Старэча ў зялёным каптаніку з утэрфіну, не праяўляючы ані каліва цікаўнасці, не азіраючыся, ці ідуць за ім госці, ветліва-абыякавы патомны прыслужнік, правёў прыхадняў па калідоры, падняўся па вузкай вінтавой лесвіцы на другі паверх, адчыніў дзверы пакоя, нізка схіліўся, счакаўшы, пакуль двое зойдуць, і замёр ля дзвярэй. Калідор абудзілі хуткія гучныя крокі маладога мужчыны гадоў дваццаці трох, са светла-русымі густымі хвалістымі валасамі і дагледжанымі доўгімі вусамі, у модным фалендышавым саяніку, такія пачала насіць шляхта пры двары Жыгімонта з падачы маладой каралевы-італьянкі Боны, але пры баявым мячы на баку. Пан змрочна кіўнуў вернаму слузе:

— Глядзі, каб пакуль ніхто сюды не набліжаўся, і носу цікаўнага не высоўваў, бо засяку! І сам каб не ўздумаў падслухоўваць, іначай сядзеш на палю. Ты мяне ведаеш, Гаўрыла.

І зайшоў у пакой з таямнічымі прыхаднямі.

Слуга падумаў быў, што госці надта важныя і небяспечныя — бо малады пан, нават сярод ночы пабуджаны, не паленаваўся ўскінуць на сябе саян з узорыстай парчы, відаць, каб выглядаць адмыслова важна, і ўзяў сваю ўлюбёную шаблю, не парадную, а вострую ды надзейную, напітую варожай крывёй.

Але стары зараз жа адагнаў думкі, бо добраму слузе нельга разважаць пра панскія справы, ён мусіць толькі выконваць загады. Тым болей Язэп Вdespite Варановіч — пан акрутны і гарачы, як кіпень. Таму прыслужнік адышоўся далей да лесвіцы, там, дзе гарэла ў жалезным абручы паходня, і прытуліўся да сценкі, гатовы прастаяць так хоць да раніцы.

Пакой быў ярка асветлены свечкамі ў двух срэбных кандэлябрах, зробленых у выглядзе аленяў з галінастымі рагамі. Гаспадар стаў перад гасцямі, ганарыста адкінуўшы галаву. Вышэйшы госць зрабіў крок наперад і адкрыў твар, дужа падобны да твару гаспадара, толькі аброслы кароткай светлай бародкай.

— Здароў будзь, браце Язэп!

— І табе вітанне, брат Юры, — змрочна адказаў гаспадар. — Не думаў, што пабачу цябе жывога.

— Не дужа рады ты мяне бачыць, Язэп, — з дакорам прагаварыў госць. — А мы ж пяць гадоў не бачыліся, аж з Кракава. І не забывай — я старэйшы, і гэты палац і ўвесь маястат мог быць маім...

— І я б слова не сказаў, каб ён быў тваім! — са злой гарачнасцю прагаварыў Язэп Варановіч. — Тады я б не быў братам чалавека, якога бацька пазбавіў спадчыны, а кароль — шляхецкай годнасці!

— Годнасці шляхціца не можа пазбавіць ніхто: ні кароль, ні людскі суд! — з гэткай жа гарачнасцю адказаў госць. — А перад Богам я адкажу — бо я не здрадзіў веры прадзедаў, не звязаўся з папістамі, як ты.

Полымя свечак здрыганулася, другі госць, па-ранейшаму захутаны ў плашч, пахіснуўся. Абодва Варановічы маўчалі, такія падобныя, шэравокія, магутныя, намагаючыся ўтаймаваць ятрасць, якая ў абодвух, падобна, была спадчыннай, а двубой між братамі — грэх... Нарэшце малодшы парушыў напружаную, як нацягнутая цеціва, цішу, кіўнуўшы ў бок другога госця:

— Гэта яна?

— Так, гэта Алена, мая вянчаная жонка.

Другі госць зрабіў крок наперад. Тонкія рукі адкінулі коптур. Дзявочы твар дзіўнай прыгажосці быў такі белы, быццам дзяўчына ніколі не бачыла сонца. Чорныя, як бяззорная ноч, доўгія валасы, выгінастыя бровы, вялізныя цёмныя вочы, абкружаныя ценямі, гожы рот з пульхнымі вуснамі...

— Вось дзеля чаго ты загубіў сябе, браце, — горка прамовіў Язэп Варановіч. — Што ж... Прызнаю... Птушка такая рэдка ў сіло трапляецца.

Госця апусціла галаву, і муж зараз жа абняў яе, прытуліў да сябе.

— Не трэба вінаваціць ва ўсім яе! Дзеля адной гожасці жаночай я б не ўчыніў таго, што ўчыніў. Хіба толькі я перайшоў на службу да маскоўскага цара? Так зрабілі многія праваслаўныя. Няўжо ты не бачыш, як з Польшчы да нас лезуць папісты і ўсіх абярнуць у сваю веру хочуць? І хіба няпраўда, што нашу каралеву Алену Рурыкаўну, дачку Івана Трэцяга, змушалі да каталіцтва? Хто яе ў кляштар сілком валок? Ці не Осцік, з якім ты хаўрусаваўся?

Язэп Варановіч грэбліва скрывіў вусны.

— Каралева не павінна быць прычынай вайны, не павінна дапускаць, каб на народ, якім яна кіруе, нападаў той народ, які яе ўзрасціў... Моцна ты змяніўся, браце, ад тых часоў, што мы бачыліся ў Кракаве. Калі хацеў лацвей Богу паслужыць, лепей бы вярнуўся, каб царкву ў імя свайго святога дабудаваць — а то грошы паслаў, запатрабаваў, каб ніхто да фундавання, акрым цябе, не датыкаўся... А як будоўля ідзе, хоць раз пацікавіўся? Што грошай не хапіла, сцены два разы рушыліся, так што ад зямлі іх не падняць, і людзі

ўжо і дабудоўваць не хочуць, бо пайшлі благія чуткі пра месца, ведаеш?

Малодшы Вարановіч глыбока ўздыхнуў, відаць, каб канчаткова не сарвацца на крык, і працягваў больш разважна.

— Маскалям не вера, а зямля нашая патрэбная! А каталік Казімір, між іншым, пабудаваў у княстве тры касцёлы і пяць цэркваў. А цяпер з-за нападу маскоўцаў палякі якраз і ўціснуць нашую веру. Ды што я табе даказваю... Хіба гетман Астрожскі, Рыгор Осцік, Літавор Храптовіч, якія зараз у кайданах сядзяць у маскоўскім палоне, меней праваслаўныя за цябе? Калі ты такі вернік, што прысягай каралеўскай у імя веры пагарджаеш, чаму ж на адзінаверцаў руку падняў? Каб бацька табе пад руку патрапіўся, і яго забіў бы? Каб я на Вядрошы ваяваў, забіў бы і мяне? Бацьку на смерць паранілі твае новыя хаўруснікі, праз год пад Смаленскам на мне чатыры шнары пакінулі, цудам крывёй не сцёк, і на крыж мой не паглядзелі... Трэба было табе заставацца ў маскоўшчыне, брат...

Юры Варановіч апусціў шэрыя вочы.

— У маскоўшчыне... Там мала каштуе чалавечае жыццё, і следу нашай залатой вольнасці шляхецкай няма, шляхціц там — халоп цара і можа без суда, па адной царскай волі, быці пакараны... Ды ў нас нават лапцюжны шляхцюк не сцярпеў бы таго, што церпяць самыя радавітыя баяры! Там надта шмат ад ардынскіх парадкаў... Ну і, ты ж ведаеш, мусіць, я ледзь не забіў Шчэпу...

— Чуў, — голас Язэпа Варановіча быў халодны, як вецер за акном. — Што ты пабіўся з улюбёным царскім ваяводам, які пасек ліцвінскія войскі, толькі ўхваляю... А вось што пабіўся не з-за айчыны, а з-за дзеўкі — ухваліць не магу. Яна ж у Шчэпы не жонкай была, а звычайнай наложніцай... Ды яшчэ паланянкай. Ну, адбіў, звёз... Нашто яшчэ трэба было з ёй жаніцца, псаваць кроў шляхецкага роду?

— Алена высакароднейшая за нашых шляхцянак! — выкрыкнуў Юры, кладучы руку на дзяржальна мяча. — Напачатку яе і праўда падаслалі да мне, каб быў больш прыхільны да пераходу пад штандары Івана, але потым...

Ты не ведаеш, што такое каханне, брат! Калі Шчэпа мяне ў поруб пасадзіў, яна мяне выцягнула, схавала... І не прызналася, дзе, нават калі дапытвалі. А потым, дурнічка, хацела мяне вызваліць ад сябе, з ракі яе даставаў...

Юры Варановіч прытуліў да сябе жонку і пяшчотна пацалаваў яе ў лоб, потым зірнуў на брата.

— Мне без яе не жыць. А яна чакае дзіця.

Язэп змрочна памаўчаў, гледзячы на братавую.

— Ты хоць хрышчаная?

Тая моўчкі кіўнула, не падымаючы вачэй.

— З якога народу? Хазарка, мусіць?

— Яна праваслаўная, і яна — Алена Варановіч, і яна народзіць спадчынніка роду! — сказаў важка, як адрэзаў, Юры.

Твар малодшага брата пацямнеў ад гневу.

— Не быць вашаму сыну спадчыннікам роду! Ты забыўся, што ты — нават не шляхціц. Ты пазбаўлены шляхецтва, ты не маеш права насіць наша слаўнае прозвішча, валодаць нічым, што належыць Варановічам, у тым ліку са спадчыны нашае маці з роду Парэшкаў. Гэтак напісаў у тастаменце наш бацька, а ягоны тастамент зацвердзіў кароль. Твая здрада звяла бацьку ў магілу! З Вядрошы яго прывезлі параненага, але ён адольваў і горшыя раны. Цэлы павет ведае, як ён кляў цябе і тваё семя да сёмага калена! Нават на смяротным ложы. Ты ведаеш пра загад, каб такіх, як ты, што на Вядрошы перайшлі на бок ворага, аддаць смерці? Цябе асудзілі па ўсіх правілах і законах, як дзяржаўнага злачынцу! Добра, што прыйшлі звесткі, нібыта цябе забілі твае ж маскоўцы, і бацька ўмаліў караля з гэтай нагоды, каб нашае імя не ганьбілася, калі загад чыталі на ўсіх пляцах Кароны і Княства.

— У Маскоўскім княстве мяне таксама асудзілі на горла, — холадна прамовіў Юры Варановіч. — За намі гналіся ад Смаленска... І ўдалы паляўнічы можа атрымаць узнагароды за нашыя галовы. Як жа ўчыніш ты, Язэпе, з намі?

Цяперашні гаспадар памаўчаў, зялёная парча ягонага саета, расшытая перлінамі, паблісквала ў святле свечак, як скура змяінага караля.

— Я не выдам цябе, бо ты мой брат. Але і прыняць цябе, як брата, як Юрыя Варановіча, не магу. І жонку тваю прызнаць сваячкай нават не прасі.

Жанчына павярнулася да старэйшага Варановіча.

— Любы, пайшлі адсюль! Я ж казала — не варта ехаць... Лепей у Чэхію... Ці ў Інфлянты...

Голас у яе быў прыгожы, трошкі нізкаваты, з нязвыклым вымаўленнем.

— Ты не зможаш доўга ехаць, — з жорсткасцю адчаю прамовіў мужчына. — Загубіш дзіця, загубіш сябе... Нас будуць лавіць па ўсіх дарогах... І нават калі ўдасца правацца... Жыць на чужыне? Сярод іншаверцаў? Што будзе з нашымі нашчадкамі? Лепей на радзіме ім быць слугамі, чым дзесьці — панамі-перахрэстамі...

І павярнуўся да брата.

— Я прыму тваю волю, Язэпе. Толькі дапамажы.

Малодшы Варановіч задумаўся, яго твар рабіўся ўсё больш жорсткім і рашучым.

— Што ж, я дам табе магчымасць выкупіць сваю правіну. Табе — і тваім нашчадкам. Быць ім слугамі маіх нашчадкаў да сёмага калена. Ты з’ехаў у Кракаў адзінаццаць гадоў таму, яшчэ дзіцем, цябе тут ніхто не пазнае... Я скажу, што ты — сын пакаёўкі Марыі Вяжэвіч, бацькавай каханкі, які выгадаваўся ў яе радзіны ў Камянцы. Няхай бацька прабачыць мне за гэтую ману, у імя Госпада... — Язэп перахрысціўся на абразы ў куце пакоя. — Але ж Марыя Вяжэвіч і праўда не аднойчы саграvала ягонае ложа. Памерла яна даўно, сваякоў тут няма. Ніхто не ўсумніцца. Нават братам маім пры гэтым застанешся. Пад яе прозвішчам і жыць вам. Нядаўна памёр мой ляснічы, можаш заняць ягонае месца. Ты ж выбітным быў паляўнічым, памятаю. Аддам вам дамок ля Волатавага дуба, там усё патрэбнае для шляхецкага жыцця. Грошай вылучу дастаткова, каб ні ў чым не мелі недастачы. Адзіная ўмова — ніхто не павінен даведацца, хто ты. Юры Варановіч загінуў у сечы на Вядрошы.

Юры прагаварыў глухім голасам:

— А як жа дзеці?

— Дзеці вырастуць Вяжэвічамі, — жорстка прамовіў Язэп Варановіч. — Пакуль не зменіцца сем пакаленняў. Пакуль не сыдзе бацькоўскі праклён. Не бойся, я не дапушчу, каб твае праўнукі апусціліся да стану смуродных мужыкоў, і іх секлі на стайні мае праўнукі. Я пакіну тастамент, каб кожны старэйшы ў родзе даведваўся, хто такія Вяжэвічы, і, не раскрываючы ім гэтага, даваў грошы на годнае жыццё, адукацыю для дзяцей, на шлюбы з добрымі сем'ямі, і аберагаў ад прыніжэнняў, і захоўваў у праваслаўнай веры. А нашчадку ў восьмым калене будзе ўсё раскрыта, і вернецца яму прозвішча і шляхецтва. Той, хто застанецца з роду Варановічаў, няхай пашлюбуецца з кімсьці з Вяжэвічаў, і ўз'яднаецца братняя кроў у іх дзецях.

— Мая душа не супакоіцца, пакуль гэтага не здарыцца, — ціха і горка прагаварыў Юры Варановіч. — Вякі прамінуць, і ці застанецца хто жывы з роду? Але хай будзе, як ты вырашыў... Адзіная просьба мая — няхай пахаваны я буду пад сваім прозвішчам і згодна са сваім ранейшым званнем.

Малодшы Варановіч задумаўся.

— Гэта павінна быць таемнае месца... І асвячонае. Вось што.. Тая царква святога Юрыя, якую ты не дабудаваў, няхай станецца тваёй усыпальніцай. А я пабудую іншую — святога Язэпа. Твая царква ўзведзеная на цалю над зямлёю... Яе можна схаваць пад дзірваном і зладзіць таемны ўваход туды праз новую царкву. Такі самы, як зрабіў наш бацька з маёнтка Вялынічы да кляштара. Там яшчэ камень паварочваўся адмысловым ключом. Майстар з Полацка, мусібыць, яшчэ жывы.

Язэп Варановіч падышоў да камоды, што стаяла пад абразамі, адчыніў дзверцы, інкруставаныя дзівоснымі кветкамі. Зблiснула срэбра.

— Памятаеш гэты кубак? — прамовіў Язэп. — Яго падараваў нашаму бацьку за верную службу вялікі князь Казімір. З яго прыняў бацька сваё апошняе прычасце. Я думаў ахвяраваць у храм, каб надалей служыў пацірам... Але няхай станецца ён пячаткай нашае дамовы і ключом...

Язэп паставіў кубак на маленькі стол, які стаяў ля акна, выхапіў меч, размахнуўся... Лязо з дамаскае сталі ўвайшло

глыбока ў дрэва, кубак распаўся на дзве роўныя палавіны. Малодшы Варановіч працягнуў адну палавіну брату, другую ўзяў сабе.

— Няхай перадаецца старэйшаму ў родзе... У тваю царкву нельга будзе ўвайсці, не склаўшы абедзвюх палавін, таму не перарвецца сувязь між Варановічамі і Вяжэвічамі. Памолімся ж, каб не варагавалі нашыя нашчадкі і выканалі прадзедаву волю.

— Амін... — прашаптаў Юры Варановіч. І чарнавалосая жанчына з дзівосна прыгожым і спакутаваным тварам перахрысцілася таксама.

Для тых, хто сышоў, усё адно — прамінаюць хвілі, гады альбо стагоддзі... Толькі для душы, яшчэ з'яднанай са сваім грэшным і балючым футаралам, час працякае, як пясок скрозь пальцы... Гэтыя пясчаныя струмені ўсё згусалі перад вачыма, так што нават святло свечак, запаленых па ўсім пакоі, заімглілася... Пан Астафій не памыліўся — гэта грамнічныя свечкі, значыць, надзеі няма... Толькі б паспець выканаць тое, што запаведалі продкі...

Як ён прыспешваў фурмана, які вёз яго дадому, у Ройна, нягледзячы на тое, што кожны каменьчык, які трапляўся пад колы карэты, вяртаў у раны боль ад вострага жалеза. Нездарма жонка, Адэліна з Корбутаў, папікала, што Варановічы ў гарачай вадзе купаныя, у агні хрышчаныя. З усяго роду ён апошні застаўся, Астафій Варановіч, калі не лічыць ягонага малога сынка, усе сваякі палеглі — хто ў бойках са шведамі, расійцамі альбо казакамі, хто — у шляхецкім двубоі... Ледзь што — за шаблю альбо шастапёр, і — справа гонару! Вось і ён...

Але як, як было змаўчаць! Гэты «нямы сойм» і так увойдзе ў гісторыю, як ганьба і Вялікага Княства, і Рэчы Паспалітай. Прапілі сваю залатую шляхецкую вольнасць, прагулялі, прагарлалі ў бясконцых «ліберум вета»... Не маглі дамовіцца, хто ж сядзе на трон, магнаты інтрыгавалі, змаўляліся хто са шведскім каралём, хто з расійскім царом, нават з казацкімі правадырамі і татарамі, шляхцюкі

перабягалі з групоўкі ў групоўку, і ўсе ўрэшце скарыліся чужынцам. І вось расійскі цар Пётр дамаўляецца з саксонцам Аўгустам Моцным і вяртае таму польскі трон, з якога яго ўжо былі сагналі. Чужыя ўладары дамаўляюцца сачыць за парадкам у Рэчы Паспалітай! Ганьба! А цяпер збіраецца сойм, на якім прызнаюць, што ўся шляхта не каталіцкага веравызнання — адгэтуль дысідэнты, урэзаныя ў правах. А заадно, відаць, і языкі ўсім урэзалі — бо, як распавялі Астафію, ніхто не запратэставаў, змірыліся... Усохлі, як вывешаныя на дроціку рыбіны, перад гэтым выпусціўшы ў Божы свет смурод гніення сваёй пыхі... Каб ён сам змог патрапіць на сойм! Хоць адзін крык было б чуваць... Калі б толькі Корб-Варановічы былі магнатамі, як Сапегі альбо Радзівілы, каб да яго, Астафія Корб-Варановіча, далучаліся з боязі альбо ў спадзеве на багатую ўзнагароду... Але Варановічы — шляхта сярэдняй рукі... А цяпер яшчэ — і дысідэнты, якіх можна і на сойм не пусціць, нечуванае парушэнне шляхецкіх правоў! Перастрэлі на вуліцы, зачапілі... А ён — не, каб зразумець, што гэта змова, што імкнуцца не дапусціць у залю асабліва непакорлівых, кроў у галаву кінулася, ну і... Атрымалася тузаніна, абражаныя павыхоплівалі зброю...

Двубоямі нікога не здзівіш. Варановічы — не трысцінкі, адзін у адзін волаты... Але саксонец, якога супраць яго выставілі, быў проста пачварай, створанай для забойстваў, ягоныя рукі былі як сцёгны звычайнага чалавека, ды яшчэ імклівы, як вяпрук, пра што можна было здагадацца, толькі ўжо атрымаўшы лязо пад рэбры.

Астафій не думаў, што вось так раптоўна адправіцца да прадзедаў на піва, хаця праўдзівы шляхціц мусіць быць падрыхтаваны да гэтага падарожжа штодня.

Варановіч абвёў вачыма пакой, у якім рабілася ўсё цямней.

— Дзе Антось?

— Зараз яго прывядуць, — гэта жонка, Адэля. Ён не мог разгледзець праз смяротную імглу, але і так памятаў: худы бледны твар, строга падціснутыя тонкія вусны... Добра было б, каб сынок, Антось, удаўся не ў яе, а ў Варановічаў,

але пакуль ад бацькі ў яго толькі шэрыя вочы. Эх, ну чаму даводзіцца выбіраць — альбо нявеста добрая, альбо пасаг добры... Ды каб яшчэ сам выбіраў! Для ягоных бацькоў пасаг пераважыў нават тое, што нявеста — рымскай веры, а яшчэ больш, чым пасаг, — радавітасць нявесты, магчымасць атрымаць у карыстанне ейны герб «Кораб», бо Адэля засталася таксама апошняй са свайго роду, і дадаць да свайго прозвішча гучны прыдомак «Корб».

— Дзе пісар?

— Тут... І пан Міхал, і пан Раман прыйшлі за сведкаў... І айцец Казімір. Можаш складаць свой новы тастамент.

Голас Адэлі халодны, як імжа.

Пакрыўдзілася, калі ён, толькі прынеслі параненым у дом, ледзь языком варочаў, абвясціў, што хоча скласці новы запавет. Баіцца, што яе абдзеліць ці нешта такое ўпіша супраць каталіцкай веры. І навошта прывалакла сюды свайго ксяндза? Але няма сіл яго выганяць. Хоць бы хапіла распавесці тое, што павінен быў распавесці Антосю на паўналецце... Як калісьці яму самому бацька. Астафій ніколі не забудзецца цяжар складзенага з дзвюх паловаў срэбнага кубка, змрочнае падарожжа праз сутарэнне, магілу забытага продка, шорсткі гук пергаменту, які разварочвалі ягоныя рукі, і страшны сэнс словаў... Потым ён павінен быў узяць з труны апошні з сямі скруткаў з залатымі манетамі, каб перадаць яго ляснічаму Вяжэвічу, які чакаў ля ўвахода ў сутарэнне, і вярнуць яму ягоную палову срэбнага кубка. А на Астафію яшчэ і асаблівы кон: прамінула ўжо дзвесце гадоў, як у дамку ля Волатавага дуба пасяліліся Вяжэвічы. І вось ужо восьмае пакаленне іх з'явілася там на свет Божы — у асобе чарнявенькай жвавай Вяжэвічаўны, якой зараз гадзікі два.

А вось і Антось... Худзенькі, у маці цемнавалосы, спалоханы...

— Сын, я павінен паспець сказаць... Ты — апошні з роду Варановічаў... На табе — выканаць запавет прадзедаў... Вазьмі ў той шафе, на сярэдняй паліцы, палову срэбнага кубка...

Астафію здавалася, што ён выказваецца зразумела і проста, але ягоныя загады чамусьці выконваліся страшэнна

марудна. Ён хацеў, каб яго словы запісваліся, але не мог бачыць, ці так гэта. Тлумачыў пра Вяжэвічаў, пра неабходнасць шлюбу...

— Ты зробіш гэта, сыне? — хапаўся рукой за худую хлапечую руку, Антосік спалохана ківаў, згаджаўся.

— Іначай праклён продкаў на наш род ляжа... — шаптаў зняможаны Корб-Варановіч.

Сабраўшы апошнія сілы, ён прамовіў:

— Запаведую таксама, каб сын мой, Антон, і дзеці ягоныя захоўваліся ў праваслаўнае веры.

У пакоі стала цёмна-цёмна... А пасля ўспыхнула сляпучаяркае святло, якое не абпаляла і не змушала прыжмурвацца, бо было не ад зямнога сонца.

— Тастамент гатовы, пане, — прамовіў пісар, сагнуты крукам худы шляхцюк, які даўно адвучыўся здзіўляцца тым жарсцям і паскудствам, якія творацца вакол ложа паміраючых. Адэліна абвяла вачыма прысутных.

— Мой муж памёр. Перад смерцю небарака трызніў, вы ўсе сведкі.

— Вядома, які там шлюб спадчынніка Корб-Варановічаў з дачкой ляснічага! — паслужліва падтакнуў шляхцюк у пашарпаным камзоле. — Трызніў бедны пан!

— Не дзіўна, амаль крывёй сцёк, пакуль давезлі! — пацвердзіў другі сведка, шляхціц, падобны да аблыселага ката.

Адэліна нахіліла галаву, правяла даланёй па сухіх вачах.

— Пані-маці, а што хацеў мне запаведаць пан-бацька? Што я мушу зрабіць з гэтым кубкам? — дрыжачым голасам папытаўся Антось, трымаючы абедзвюма рукамі старажытнае срэбра.

Маці падышла, паклала руку на цемнавалосую галаву.

— Гэта рэліквія роду Корб-Варановічаў. Ты павінен захоўваць яе і перадаць старэйшаму сыну, а той — свайму старэйшаму сыну. Проста беражы гэты кубак, як памяць пра слаўных продкаў.

Ксёндз устаўляў у складзеныя на грудзях рукі нябожчыка тонкую свечку, а яна ўсё валілася.

— Пані-маці, а што ён казаў пра Вяжэвічаў? Я павінен з кімсьці ажаніцца?

Адэліна Корб-Варановіч паглядзела сыну ў шэрыя вочы.

— Вядома, ты калісьці ажэнішся. Выбераш сабе самую радавітую, самую лепшую нявесту. А пра Вяжэвічаў бацька хацеў нагадаць, што яны рабілі важныя паслугі вашым продкам, таму мы павінны іх сям'ю таксама дарыць сваёй міласцю. Зразумеў?

Антось хітнуў галавой. Больш за ўсё на свеце яму хацелася ўцячы з гэтага страшнага пакоя, дзе немагчыма дыхаць ад смуроду свячнога дыму, крыві і нянавісці, дзе бацька ляжыць з гэткім пажаўцелым, незнаёмым тварам, а побач нешта шэпча айцец Казімір.

— Ідзі, сын, і скажы, каб цябе апранулі ў жалобу. Цяпер ты — старэйшы ў родзе!

Хлопчык з палёгкай сышоў, ледзь стрымліваючыся, каб не бегчы, а пані падышла да мёртвага цела, перахрысцілася, пацалавала нябожчыка ў лоб.

— Небарака так і памёр схізматыкам.

— Мы не ведаем межаў міласэрнасці Божае, — дакорліва прагаварыў ксёндз. — Усё ў ягонае волі... Вы, пані, можаце адмаліць душу свайго мужа — ахвярамі на храмы, праведным жыццём і выхаваннем сына ў сапраўднай веры.

— Амін, — прагаварыла пані Адэліна і перахрысцілася. Тое ж зрабілі і сведкі.

Наперадзе ўсіх чакалі доўгія дні памінання і хаўтураў — у Вялікім Княстве, нягледзячы на войны і пошасць, не забыліся на дзядоўскія звычаі, і за чарай медавухі не адзін шляхцюк, выціраючы мокрыя вусы, сказаў: «Добры быў ваяр пан Астафій, супакой, Госпадзе, душу яго». Усім слугам далі падарункі, каб памянулі памерлага. Ляснічым Вяжэвічам дастаўся тузін срэбных лыжак, інкруставаных перлінамі, — у пасаг маленькай Вяжэвічаўне.

...Лістота прасявала зорнае святло, і ўсё навокал, залітае таямнічым блакітам, здавалася прывідным, і шаты дрэваў, і шчодрыя чэрвеньскія травы, і абліччы людзей.

— Ну што, прынесла?

— Так, любы... — стройная, як трыснёг, дзяўчына разгарнула скрутак ільняной тканіны, і ў месяцавым свят-

ле зблiснула старое срэбра. Высокi плячысты мужчына ў iнсургенцкiм мундзiры ўзяў у рукi палову срэбнага кубка, пакруцiў у руках... Дастаў са скуранoй паляўнiчай торбы, што вiсела на плячы, такую самую палову кубка, прыклаў iх адна да аднoй...

— Трэба ж, не манiлi легенды... Цэлы кубак... Калi ён яшчэ i дзверы нам адчынiць — пастаўлю па свечцы ўсiм продкам. Бацька не заўважыў?

Дзяўчына нахiлiла галаву.

— Не... Iначай ён бы гэта хутчэй знiшчыў, чым дапусцiў, каб ты трымаў у руках. А мяне проста забiў бы. Кажа — вы бунтаўшчыкi, каталiкi, якiя хочуць аддаць нас пад уладу Польшчы, зруйнаваць цэрквы i ўсiх зноў парабiць кметамi, халопамi. Ён Корб-Варановiчаў увогуле не любiць, хаця i служыць iм. У бацькi зараз у гасцях царскi афiцэр, Сiтаў, п’юць разам...

Мужчына пагардлiва фыркнуў.

— Ну як жа. Правадыр атрада карнiкаў, прысланых па нашыя душы. Не вер нiкому, Ганна, хто гаворыць, што ў нас адзiны шлях — быць часткай iмперыi, вечным малодшым братам. Я ж табе даваў чытаць «Мужыцкую праўду»... Мы — беларусы, наш шлях — не з маскоўскiмi гаспадамi i не з польскiмi панамi... Проста пакуль што нам з палякамi па аднoй дарозе — супраць царызму, «за нашу i вашую волю»...

— I мой бацька тое самае гаворыць, што ў нас мусiць быць свой шлях... — нясмела запярэчыла Ганна. — Але кажа, што лягчэй пакуль дамовiцца з адзiнаверцамi, бо палякi ўжо давялi, як яны суседзяў шануюць, — пападзём пад iх, праз пару пакаленняў усе стануць палякамi. Усходнiмi крэсамi. Нашыя ж продкi праваслаўнымi былi ад пачатку... Iх гвалтам у унiю паперaводзiлi.

— Ну а пакуль што мы — Заходнiя губернi. Сапсаваныя рускiя, якiх трэба выправiць на славянскi капыл. Таксама гвалтам.

Паўстанец схаваў абедзве паловы кубка ў скураную торбу, прыўзняў твар дзяўчыны за падбароддзе:

— Дзякуй, Ганна... — i пацалаваў яе ў вусны. Дзяўчына палка адказала на пацалунак, прыхiнулася да мужчыны,

учапілася ў яго тонкімі рукамі, нібы шукала абароны. Ноч пазірала тысячамі вачэй, але ў іх не было цікаўнасці... Чаго толькі не адбывалася пад святлом зораў цягам незлічоных стагоддзяў!

— Андрусь, любы, ты — жыццё маё... Я пайду за табой паўсюль... — прагаварыла дзяўчына, хаваючы твар у яго на грудзях. Мужчына асцярожна адсланіўся.

— Зараз у мяне іншая спадарожніца — смерць... Калі нам не ўдасца знайсці таемны прытулак — канец усяму... Абклалі з усіх бакоў, як дзікіх звяроў. Ведаеш, мой брат Павал паранены... — голас Корб-Варановіча здрыгануўся. — Падобна, у яго пачаўся антонаў агонь... Стары Каргут прыкладае цестам, але ці дапаможа? Атрад Снядэцкага разбіты, дзесяць чалавек павесілі проста на месцы, без суда...

Ганна горда ўскінула галаву.

— Я не баюся смерці, бо ганьба — страшней, а я пайшла на ганьбу... Здрадзіла бацьку, згубіла цноту... Зараз збіраюся апаганіць нечыя магілы...

— Гэта магілы Корб-Варановічаў, маіх продкаў, Ганна, — сурова прамовіў мужчына. — Думаю, яны самі паўсталі б, каб маглі, каб абараніць сваіх нашчадкаў.

— Што ж, тады пайшлі, — цвёрда прамовіла дзяўчына. — Я ўзяла ліхтар, свечкі і крэсіва. Толькі кажу — я не маю пэўнасці, што тая легенда, якая перадаецца ў маім родзе, праўдзівая. Мала што прапрадзеду прымроілася... Твой продак мог прынесці золата з сабою, а не спускацца за ім у сутарэнне, у таемны ход пад царквою...

Храм узвышаў свае вастраверхія купалы на фоне цёмнасіняга аксаміту неба, здавалася, што перад табой — стромая гара, на вяршаліне якой пачынаецца лесвіца ў свет святла і любасці. Але тут, унізе, гэтая гара здавалася пагрознай...

Прынамсі, пакуль бразгаў засоў, здымаліся цяжкія замкі, дзяўчына ўся дрыжэла, нібыта чакала нябеснай кары...

— Запалі свечку ў ліхтары, Ганна!

Гэта быў апошні шанец... А калі людзямі валодае такі адчай, страх у душах памірае, як агонь свечкі на занадта моцным ветры, і нечакана ўсё ўдаецца.

...Яны стаялі пад зводамі падземнага храма, дзе ўжо паўтара стагоддзі ніхто з жывых не быў. Цёмныя зводы навісалі, як вечка каменнай труны, над тымі, што насмеліліся парушыць спакой гэтай прасторы.

— Выдатнае месца! — узрушана прагаварыў Андрэй Корб-Варановіч, і ягонае захапленне староннямy назіральніку падалося б недарэчным у прытулку шматвяковай цемры і тла. — Вось і магіла майго продка... Юры Корб-Варановіч... Трэба ж, а мы гадалі, дзе ён пахаваны. Юры загінуў у бойцы з маскоўцамі, тры з паловай стагоддзі ўжо прамінула. Я пастараюся, каб ягоны спакой не быў парушаны... У гэты кут мы нават заходзіць не будзем.

Андрэй Корб-Варановіч перахрысціўся, потым агледзеўся, уздыхнуў.

— Адзіная нязручнасць — уваход праз царкву... Давядзецца карыстацца ім толькі вось так, начамі. Але ж затое ніхто не надумаецца шукаць тут! Дзякуй, Ганна!

Мужчына пацалаваў дзяўчыну ў шчаку. Тая горка ўздыхнула.

— Ты цяпер не такі палкі, як калісьці... Калі год таму на Купалле ты змусіў мяне скакаць з табой праз агонь, а пасля мы заблукалі ў лесе... Яшчэ трошкі — і я паверу ў плёткі, якія звязваюць з тваім імем імя панны Людвікі. Вядома — яна шляхцянка, а я — з роду прыслугі...

— Кінь дурное, Ганна! — раздражнёна адказаў мужчына. — Я наведваў Снядэцкіх, бо яны — нашыя паплечнікі. Бо бацька і браты панны Людвікі загінулі, ёй пагражае канфіскацыя маёмасці і, магчыма, высылка... А яна, нягледзячы на небяспеку, рыхтуе для нас лекі і перадае зброю... Я захапляюся ёю! Але... не больш. І яна да мяне абыякавая. Зусім абыякавая. — У апошніх словах быў ледзь прыкметны дамешак горычы. Андрусь памаўчаў. — Так што табе няма пра што хвалявацца. Хіба я мог бы так даверыцца жанчыне, якую не кахаю! А я — у тваіх руках, гэтак жа, як жыццё маіх братоў і маіх людзей.

— Праўда, ты ў маіх руках... — ціха прамовіла дзяўчына. — Але ж і я — у тваіх... Без твайго кахання я памру. Таму прашу цябе — не хадзі да Снядэцкіх... Пасылай каго другога.

Мужчына памаўчаў.

— Добра... Болей не пайду.

Інсургентаў не маглі злавіць вось ужо каторы месяц. Як скрозь зямлю праваліліся... Урадавыя войскі абшуквалі ўсе лясы і дамы, зазіралі на млыны і ў лесьнічоўкі... Шукалі і сяляне, бо за выкрыццё бунтаўшчыкоў была абяцана нечуваная ўзнагарода, уся маёмасць злачынцы мусіла адысці тым, хто яго злавіў. Няўлоўнасць злыдняў спараджала чуткі пра чарадзейства...

Восеньская ноч пахла прысакам і трывогай. У дзверы дома ляснічага пагрукалі. Ягоная дачка вызірнула ў акно... І памчала адчыняць.

Некалькі чалавек у форме расійскіх жаўнераў занеслі на плашчы ў дом цела. На падлозе ўтварылася дарожка з цёмных кропляў...

— Тата! Што з ім?

Дачка ляснічага, прыгажуня Ганна, цемнавокая і гнуткая, калацілася ад роспачы. Вяжэвіча паклалі на ложак, але ён нават не расплюшчыў вачэй. На яго правым баку, на шэрым сурдуце ўсё пашыралася цёмная пляма, з-пад крыса сурдута тырчэла ануча, якой, відаць, закрылі рану, — тканіна захоўвала лапікі сляпуча-белага толькі па краях, уся набрынялая і цяжкая ад крыві... Ганна апусцілася на калені і дрыжачымі пальцамі пагладзіла бацькаву руку — яна была халоднай, як мармур.

— Бунтаўшчыка высачылі, а ён, навалач, адстрэльвацца пачаў... — змрочна прагаварыў адзін з вайскоўцаў, капітан, халёна-небяспечны, як пародзісты хорт. — Не перааймайцеся, спадарыня, мы ўжо паслалі па лекара. Толькі самі не чапайце — тут нічым не дапаможаш.

— Якога бунтаўніка? Дзе? — збялелымі вуснамі прагаварыла паненка, не адводзячы вачэй ад выснажанага твару бацькі, які моўчкі ляжаў з заплюшчанымі вачыма, сцяўшы сківаіцы, толькі кроплі поту праступалі на ягоным высокім ілбе...

— Ды ў Снядэцкіх засоку зрабілі.... Туды ваш граф панадзіўся хадзіць штоноч, галоўны бунтаўнік, — патлумачыў капітан.

— Андрэй Корб-Варановіч? Да Снядэцкіх? — мёртвым голасам прагаварыла дзяўчына, якая стаяла на каленях над ложкам параненага бацькі.

— Ну, ён самы... Да паненкі, відаць, шастаў, — прамовіў гучным басам шыракатвары жаўнер з вусамі і брывамі такімі чорнымі, быццам выпацкаў іх у сажы. — Кабяліна ваш граф, здаровы такі, шустры... А тая таксама сучка, гарыць на ёй усё... Прабачце, паненка, за грубасць. Ваш бацька — малайчына, высачыў... Але ж вось...

— Значыць, гэта граф яго параніў... — дзіўным голасам спытала-сцвердзіла Ганна Вяжэвіч. Ляснічы захрыпеў, на вуснах ягоных паказалася чырвоная пена.

— Ганна... Кубак... Кубак нашчадкам перадавай...

— Адыходзіць, — прашаптаў нехта.

Ляснік захрыпеў і сціх, чуваць было толькі сутаргавае дыханне ягонай дачкі. Прысутныя пасцягвалі шапкі, захрысціліся... А вось паненка не стала плакаць, нават слязы не ўраніла. Яна паднялася, і яе цёмныя вочы гарэлі, як у шалёнай.

— Вы хочаце яго злавіць? Графа Андрэя? Я магу дапамагчы.

Бунтаўнікоў удалося злавіць. Іх перахапілі ля суседняй вёскі — яны ехалі лагчынай, дзе ніхто б і не надумаў шукаць, калі б не дачка забітага ляснічага. На гэты раз жаўнераў было дастаткова, каб заліць свінцовым дажджом усю лагчыну. Некалькіх злачынцаў нават удалося затрымаць жывымі... У тым ліку Андрэя Корб-Варановіча, які страціў прытомнасць ад ран.

Панна Людвіка Снядэцкая, вось нечаканасць, абвясціла, што яна — таемная жонка графа. Вядома, людзі пачалі гаварыць, што гэта мана, што злоўленыя злачынцы часта прыкідваюцца жанатымі, каб мець магчымасць спатканняў з фальшывымі жонкамі, але паненка на сваім настояла і нават здабыла пасведчанне аб шлюбе, заверанае ксяндзом.

Паколькі двое братоў Корб-Варановіча ў бойцы загінулі, апошняму з роду, з улікам бесперастанных просьбаў наваяўленай жонкі, было даравана жыццё — і вечная катарга.

Хадзілі чуткі, што гэтаму паспрыяла і міласэрнасць Вяжэвічаўны, якая даравала злачынцу смерць бацькі і таксама прасіла за яго.

Да таго ж Ганна Вяжэвіч адмовілася ад узнагароды за гэткую важную паслугу дзяржаве з дзіўнымі словамі, што таму, хто памёр, нічога не трэба, а яна ўжо памерлая. Запатрабавала толькі, каб арыштаваны інсургент вярнуў ёй палову срэбнага кубка, якая, па яе словах, была скрадзеная з іх дома. Як выявілася, сямейная рэліквія знаходзілася ў панны Людвікі Снядэцкай — яна і перадала яе Вяжэвічаўне. Дзе ўвесь гэты час хаваліся злачынцы, засталося невядомым. Маёнтак у Ройне быў аддадзены капітану Івану Сітаву, які непасрэдна кіраваў уціхамірваннем бунту ў павеце.

**Раздзел 16.**
**З АДНОЙ КРЫВІ І ЧАТЫРОХ РУК...**

У замку каля Львова цікаўным турыстам паказваюць камяні тампліераў... На адным — таямнічыя знакі і літары, на другім — выбіты вянок, падобны да лаўровага, і глыбокая вузкая дзірка... Немавед для чаго. Зразумела, спрактыкаваныя экскурсаводы прыстасавалі камень з дзіркай для таго ж, для чаго іх калегі па ўсім свеце іншыя рэчы, ад пляцоўкі на скале да старога куфра ў сутарэнні: для гульні «загадай жаданне». Прынамсі, у замку каля Львова не патрабавалася класці на камень грошы, а ўсяго толькі засунуць у дзірку вялікі палец і пастарацца, не дастаючы яго, павярнуцца вакол сябе, вядома, па сонцы. Ну і што пры гэтым загадаеш, абавязкова збудзецца.

У такіх справах галоўнае — верыць. Тады і цыдулка, сунутая ў стары збан, і манета, кінутая ў фантан, непазбежна арганізуюць табе шчаслівы шлюб, паступленне ва ўніверсітэт, спрыянне шэфа і гэтак далей... Калі ж не — верыў, браце, мала...

Гадоў пяць таму Ася старанна круцілася ля каменя тампліераў, ледзь не вывіхваючы палец, і прамаўляла пра сябе палкае жаданне аб палкім каханні... А аб чым яшчэ можа марыць студэнтачка журфака, якая жыве ў прахадным

пакоі «хрушчоўкі» з маці і бабуляй, а ў другім высвятляюць адносіны сястра з мужам?

Цяпер усё спраўджвалася ў адваротным парадку. Палкае каханне ўжо было, і належала знайсці камень з дзіркай, які мог бы гэтае каханне выратаваць...

Ася больш не насмельвалася прыспешваць Вячку, які кіраваў машынай, бо той толькі злосна сычэў пра патэнцыйныя два трупы ў чужым разбітым на лузгу «Рэно»... А яны абавязкова павінны даехаць! Як хутчэй! Ася выратоўвалася ад нясцерпнае спешкі тым, што чытала малітоўнічак, адноўдзены ў Данілавым заплечніку.

«Пакінуў Цябе, не пакінь жа мяне... Пакінуў Цябе, не пакінь жа мяне»... — гэтыя словы проста крычалі ў галаве.

Арсенія праклінала сябе, што за ўвесь гэты час не наважылася паглядзець змесціва заплечніка. Не прачытала тастамент Язэпа Варановіча. Каб жа раней даведацца, дзе ўваход у падземную царкву! Можна было б адразу паспрабаваць дабрацца да Данілы праз яго. Якая яна няўважлівая... Трэба было хаця б адсачыць тую дэталь, што Апанас Варановіч з толькі што абвенчанай жонкай праседзелі ноч у сутарэннях царквы святога Язэпа — быў час агледзецца, выпадкова адшукаць у якой-небудзь каменнай пліце адтуліну складанай формы, якая нагадала спадару лінгвісту пра сямейную рэліквію.

Чорныя дрэвы мільгалі за вокнамі машыны, як быццам уцякалі ў краіну восеньскіх ценяў ад немінучай зімы. Вячка лаяўся ўжо не скрозь зубы, а ўслых, не саромеючыся, на бязмозглых ёлупняў, якія купляюць правы і не ўмеюць ездзіць, займаюць паласу, не даюць абагнаць, хаця самім ужо так пільна патрэбна завесці скрыню піва «Балтыка» на лецішча... Цікава, як за рулём змяняюцца людзі — нават самыя ціхмяныя могуць падацца монстрамі. Напэўна, Даніла з ягоным выбуховым характарам лаяўся б яшчэ апантаней... Не, лепей далей ад граху, не трэба ім з Данілам набываць машыну...

Калі, вядома, ім надарыцца магчымасць рабіць такі выбар...

Ася зноў пачала паўтараць, як заклён, як малітву: «Не памірай... Толькі не памірай...»

Яна не надзела ніводнага свайго пярсцёнка з каменьчыкамі-талісманамі, і не таму, што спяшалася, а таму, што само слова «камень» выклікала ў яе цяпер жах... Да Ройна яны заехалі ўсяго за паўгадзіны. Добра, ужо калі пад'язджалі, Арсенія датумкала патэлефанаваць археолагам, каб хоць хтосьці прыйшоў сюды з інструментам... За столькі гадоў выкарыстання таго, што засталося ад царквы святога Язэпа, у якасці бульбасховішча таемныя дзверы ў падземны ход, хутчэй за ўсё, заваленыя, засыпаныя, дый невядома, ці не абваліўся за столькі гадоў сам ход... Як адчыняць тыя дзверы, Ася пакуль не турбавалася: абышоў жа ўмову з наяўнасцю цэлага кубка Апанас Іванавіч Корб-Вараповіч. Значыць, можна нешта прыдумаць, змайстраваць ключ па памеры падстаўкі ад кубка, якая і абмераная, і замаляваная... Невядома, ці цалкам паверыў спадар Калюжка «са таварышы» істэрычным крыкам нявесты загінулага доктара навук пра нейкія катакомбы, але, калі і дапусціў, што дзеўка ад гора розумам паехала, расхвальваўся і запэўніў, што ўжо бягуць да парэшткаў царквы.

Праўда, калі машына з Мінска падрулліла туды, ніхто яшчэ не падыходзіў. Вось знаёмы хмызняк, за ім вымалёўваюцца сціплыя дамкі Ройна, а вось аўтобусны прыпынак, пусты, як сцэна летняга тэатра ў залеву, за ім — недарэчнае збудаванне, падобнае да бамбасховішча ці закапанага ў зямлю па самы дах кароўніка. Бляшаны дах, здаецца, стаіць проста на зямлі, у каменным фасадзе зеўраюць прагалы замест дзвярэй...

Учарашняя залеваператварыла глебу ў балота. Вячка рэзка тармазнуў, пусціўшы з-пад колаў няшчаснага «Рэно» ніягары бруднай вады. Пасажырка выскачыла з машыны, як верабей з падпаленай адрыны, і панеслася да былой царквы, расплюхваючы цяжкімі «камэлотамі» гразь.

Смурод пад бляшаным дахам стаяў неверагодны, нібыта там захоўвалі не бульбу, а гной. І цёмна зусім... Пад нагамі хрумсцелі аскалёпкі бутэлек. Пустая яміна, апрацаваная па баках цэментам, зеўрала пасярэдзіне, а з краёў яшчэ заставалася пляцоўка, метры тры, якая з таго моманту, як бульбу перасталі сюды засыпаць, працвітала як клуб мясцовых алканаўтаў і заклапочаных падлеткаў. Калісьці ўніз вёў

з’езд для грузавікоў, але ад яго засталося толькі дзве ржавыя сагнутыя рэйкі, насціл увесь згніў. Цікава, няшчасных выпадкаў тут не здаралася? Ніхто не ўвальваўся ў яміну? Наколькі там глыбока? Ася захісталася на краі каменнай кладкі, углядаючыся ў прорву...

Нехта моцна тузануў яе назад за куртку.

— Зусім здурэла! Зноў хочаш упасці? Мала нам няшчасцяў?

Вячка запаліў ліхтар, пасвяціў вакол. Да дна было метры чатыры, там царавала цемра. Можна было разгледзець толькі бляск лужынаў, горы смецця і ўсялякае ламачча, ад старых унітазаў да выкарыстаных шын.

А ўніз як жа спусціцца? Ася гатовая была хоць скокнуць... Скрыніч цярпліва пайшоў па перыметры яміны, падсвечваючы ліхтарыкам:

— Дзесьці павінна ж быць лесвіца...

Сапраўды, злева выявіліся жалезныя скобкі, увагнаныя ў камень, абмазаны цэментам. Арсенія адштурхнула Вячку і пачала жвава спускацца ўніз, як праўдзівая спартоўка — хаця насамрэч вышэй тройкі па фізкультуры атрымаць была няздольная. Вячка, лаючыся, падсвечваў ёй ліхтарыкам. Пару разоў нага саслізнула, напэўна, і пальцы паабдзірала... Пляваць, не да таго.

Пад нагамі хлюпнула твань, смурод забіў горла слізкім камяком... Яшчэ на ваніты час траціць! Не ўжо... Не да сантыментаў, як сказаў праглынуты акулай стары пірат, калі ўспорваў нажом жывот беднай рыбіне, занесенай у Чырвоную кнігу.

Пакуль Вячка спускаўся з ліхтаром, Арсенія дадумалася ўключыць свой мабільнік на рэжым падсветкі. Агледзелася... Безнадзейнасць скруціла на імгненне душу: ды ў гэтай сметніцы за год нічога не адшукаеш!

Значыць, няма чаго марудзіць. І зараз жа ледзь не на каленях пачала аглядаць падлогу з каменных плітаў, адкідваючы нагамі смецце. Вячка саскочыў з лесвіцы ціха, як рысь, вылаяўся і таксама пачаў абшукваць былое сутарэнне царквы. У сценах віднеліся нішы, закладзеныя цэглай: падобна, там знаходзіліся пахаванні Корб-Варановічаў, пакуль рабо-

ча-сялянская ўлада не вычысціла парэшткі эксплуатататараў з патрэбнага ў гаспадарцы памяшкання. Не хацелася думаць пра лёс тых парэштак аў... Ася шчыра спадзявалася, што іх хаця б закапалі ў зямлю, а не ўчынілі, як са свінцовай труной пані Ядвігі Любанскай з капліцы Лошыцкага парку: пусцілі на пераплаўку для вырабу дэталяў для электрастанцыі. Над нішамі па ўсёй сцяне красаваліся ржавыя краты, якія прыкрывалі круглыя адтуліны памерам з кулак, магчыма, сярэднявечныя галаснікі, якія спрыялі акустыцы. Але думкі пра гэта віліся побач са свядомасцю, як леныя восеньскія мухі. У свядомасці было іншае. Пайшлі пятыя суткі, як Даніла апынуўся пад завалам. Сто з лішнім гадзінаў.

Пачуўся грукат, нешта павалілася, разбілася, пакацілася... Ася нават трохі адарвалася ад пошукаў, каб азірнуцца: Вячка, не цырымонячыся, расчышчаў падлогу ад непатрэбшчыны, падфутбольваў, пхаў...

— Падобна, тут каналізацыя блізка праходзіць... Як пісаў Максім Гарэцкі пра няздольнасць тубыльцаў пакласці праз гной кладку, так і цяпер актуальна... Свінні...

Ася ліхаманкава абмацвала кожную пліту падлогі, на якіх калісьці стаялі на каленях вернікі. Ва ўяўленні яна проста бачыла, як на яве, патрэбную выбоіну... Госпадзе, ну падкажы! Ну скіруй, куды належыць!

Наперадзе, у куце, пачуўся ціхі шоргат. Вячка быў у другім баку, таму ясна, што шаргаталі самыя натуральныя жыхары падобнага месца. Пацукі, у лепшым выпадку — каты... Ася з бояззю ўгледзелася ў той бок, дзе шаргатала, падсвечваючы ліхтарыкам... Здаецца, нічога... Але намечаны ёю маршрут расчысткі вёў менавіта туды — абмінаючы вялікія завалы, якія Асі было не адолець.

Ага, зараз яна спалохаецца пацукоў, завішчыць, усё кіне, збочыць... Размарыліся! — злосна адказала Ася ў думках невядомаму апаненту і рушыла наперад, рассоўваючы бруд дошкай, прыстасаванай замест шуфліка...

Зноў нешта валяецца наперадзе... Куча смецця, шыны... Нешта ў гэтым завале паварушылася...

Ася на нягнуткіх нагах наблізілася. Кроў запульсавала ў скронях...

Адна з каменных плітаў у самым куце была ссунута, там зеўрала акуратная прастакутная прорва, а на яе краі ляжаў...

З чалавекам падабенства было аддаленае — істота спрэс у гліне і глеі, у мокрых лахманах, і смярдзіць нялітасціва... Хто гэта — Асі не трэба было здагадвацца, бо сусвет звузіўся да маленькай кропкі... Дзяўчына ўпала на калені, спрабуючы перавярнуць цяжкое цела. Здаецца, нешта крычала. Твар аднойдзенага быў увесь у гразі, у прыцемку сутарэння — проста чорны...

Жывы? Ён жывы? Анёлы Божыя, зрабіце так, каб ён быў жывы! Ася гладзіла ўпэцканае аблічча, адціраючы бруд, вызваляючы знаёмыя рысы, спрабавала расчуць, ці б'ецца сэрца, прыкладаючыся да грудзей, але ўвушшу толькі шалёна шумела яе ўласная кроў.

Зрабілася светла — нехта скіроўваў сюды промні адразу некалькіх ліхтарыкаў. Раптам на брудным да непазнавальнасці твары расплюшчыліся такія знаёмыя шэрыя вочы.

— Даніла Раманавіч, як вы? — нехта з археолагаў, якія паспелі сюды спусціцца, вядома, не мог прыдумаць больш разумнага пытання.

А хрыплы, глухі голас прыхадня з таго свету прамовіў амаль мройна.

— Ну што вам адказаць, калега... Жэ не манж па амаль сіс жур, як сцвярджаў Кіса Вараб'янінаў.

І дадаў з адценнем фірмовай графскай фанабэрыі:

— А ўласна кажучы, з чаго б то столькі панікі?

Пасля некаторага анямення вакол загулі галасы, замітусіліся людзі, пачалі назвоньваць мабільнікі наконт хуткай дапамогі і матэрыялізоўвацца тэрмасы з гарбатай і нечым яшчэ, што, як вынікала з кароткіх энергічных дыскусіяў, можна спажыць пасля доўгай галадоўкі. А Арсенія, як шалёная, заліваючыся слязьмі, быццам кандовая гераіня мыльнай оперы, цалавала свайго мужчыну, які адмыслова дзеля яе вярнуўся з Аіду, які дзеля яе прабіўся скрозь каменне, зямлю і ваду, неверагодна бруднага, смярдзючага, згаладалага, зняможанага і каханага.

* * *

— Калі пасыпалася каменне са столі, раздумваць асабліва не было як. Тут толькі па-звярынаму, інстынкты ды цягліцы... У мяне ў руках быў кубак, злева знаходзіліся каменныя дзверы... Там не круціць трэба было, а добра націснуць. Ну і... націснуў, мабыць, як след. Старажытныя механізмы, яны ж на стагоддзі і былі разлічаныя, не тое, што сёння: кніга максімум праз семдзесят гадоў спарахнее, мэбля з ДСП — праз паўстагоддзя рассыплецца, замкі кітайскія з металёвага прасаванага друзу кожны год мяняй... А тут каменная пліта раз — і сама ўбок пайшла. Як у ліфце. Толькі выскачыў у падземны ход, за маёй спінай усё і абвалілася... І, галоўнае, пліта тая пахілілася, з-за яе камяні пакаціліся... Ну і ўсё, назад, значыць, ніяк.

Корб-Варановіч ляжаў на бальнічным ложку, у свойскім бэжавым махровым халаце, прывезеным Асяй з ягонай кватэры, ад левай рукі цягнулася празрыстая таненькая трубачка да кропельніцы, у правай руцэ быў свойскі ж парцалянавы кубак, распісаны японскімі іерогліфамі, у кубку выпраменьваў вохкую пару прынесены Асяй курыны булён, Ася ў казённым белым халаціку сядзела побач, на зэдліку... І выгляд у графа быў такі самазадаволены і элеганцкі, нібыта ён у графскім сваім палацы літасціва прымаў просьбітаў. Нават абсунуўся не асабліва, толькі што здрапаны ўвесь ды ў сіняках, рукі збітыя зусім. Але ні пераломаў, ні сур'ёзных ран, толькі знясільванне. І драпіна на рэбрах зацягнулася. Ася шчасліва ўсхліпнула. І як добра, што ў палаце другі ложак пакуль пусты, можна спакойна пагаварыць.

— Бо-ожа, колькі я каменя перацягаў за гэтыя дні! — працягваў сібарыцкім тонам Корб-Варановіч, папіваючы булён. — На ўсё жыццё нацягаўся. Калі мяне цяпер у якое сутарэнне пасадзіць, як графа Монтэ-Крыста, на раз падкоп змайстрачу. Толькі б ліхтарык з сабой быў. Без сотавага мне цяжка давялося б. А так хапіла сілкавання амаль да канца, вядома, ашчаджаў, адключаў. Вось улучыў я ліхтарык, агледзеўся... Падземны ход продкі будавалі дыхтоўны. Карэта б не праехала, а вось маленькі вазок — цалкам маг-

чыма. І самае галоўнае — там была вентыляцыя! Падобна, каменная труба, умураваная зверху ў кладку, з адтулінамі праз роўныя прамежкі. Каб не гэты павеў, подых волі, няхай і смярдзючы — дык не ведаю, ці выжыў бы. А так зразумеў, што ёсць шанец. Недзе ж гэтая вентыляцыя выходзіць на паверхню! Цяпер можна здагадацца: памятаеш, у бульбасховішчы па перыметры сценаў круглыя ржавыя краты? І каб уся гэтая раскоша, якую я апісаў, захоўвалася ў тым стане, у якім была пару стагоддзяў таму, я б, можа, хвілінаў праз дзесяць пабачыў неба. Але прабегчыся, як па брукаванцы, не атрымалася...

Корб-Варановіч цяжка ўздыхнуў і пацягнуўся паставіць пусты кубак на тумбачку. Ася перахапіла яго, паставіла сама... А што ж, трэба, каб і цябе, самастойны наш, нехта паабслугоўваў, а то вечна незадаволена фыркае на любую дапамогу.

— Булён сама варыла?

Арсеніі дужа хацелася зманіць, але хіба яму зманіш...

— Не, бабуля...

— Дзякуй Богу. А то я быў падумаў, што перастаў разбірацца ў людзях, і мая нявеста ноччу згатавала сабе чароўнае зелле, выпіла і навучылася гаспадарыць.

Даніла адкінуўся на падушкі, узяў Асіну руку ў сваю і, лёгка пагладжваючы яе пальцамі, працягнуў расповед уцекача з таго свету.

— М-да, дык вось, калі я агледзеўся, мне зрабілася трохі няўтульна, як мядзведзю, які зразумеў, што ў Смаргонскай акадэміі яго стануць вучыць не мёд з вулля даставаць, а на ланцугу таньчыць, ды яшчэ навучанне будзе адбывацца з дапамогай распаленай рашоткі. Звод так абрушыўся, што не бачна было праходу... Нават пралазу. Пасля такіх завалаў я сустрэў яшчэ штук восем. Каб пра іх ведаў, можа, не хапіла б духу разбіраць і першы. А так — ну што ж, пачаў працярэбліваца, як крот. Тым болей прыпасы выявіліся — у кішэні курткі заваялася ўпакоўка лядзенчыкаў ад кашлю «Холс». Дзесяць штук. Так што вячэры, сняданкі, абеды былі забяспечаныя на тры дні. Дый зубы можна было не чысціць — ментолавы пах... Яшчэ бонус — вада. Яе было

досыць. Дажджы лілі кожны дзень, і на мяне цякло з усіх расколінаў. Нават шыкоўны посуд меўся: срэбны кубак. Адну палову я выкарыстоўваў як шуфлік, у другую збіраў ваду. Вось так цягаў ды раскопваў, цягаў ды раскопваў.

Корб-Варановіч аж застагнаў, успомніўшы сваю працоўную эпапею.

— Калі звод абрынуўся, можа, дзесь утварылася дзірка на паверхню? — умяшалася Ася.

— Я спадзяваўся, што так і ёсць... Але гэта было б занадта проста для майго квесту. Толькі праз адну гару пракапаюся, прайду пяцьдзясят метраў — зноў завал... Як жук у слоіку, якога злы школьнік ганяе праз штучныя перашкоды.

Арсенія адразу ўспомніла Вячку, з ягонымі эксперыментамі як над жамярой, так і над людзямі... І зласліва падумала: цікава, ён прадугледжваў хэпі-энд у сваім рамане?

— А апошнія дзвесце метраў зусім пачаўся сюррэалізм — паморшчыўся Корб-Варановіч. — Мясцовая каналізацыя там прарвалася ў падземны ход, і я ішоў па пояс у лайне. Іду і думаю: вось каб я гэта прысніў, дык грошай перапала б куча! Прыкмета такая ёсць, ведаеш... А так — наяве... Ды яшчэ спатыкнуцца баюся... Ногі ўжо не надта трымаюць, а нырца ў гэта дабро даваць не хочацца. Пад самы канец выбраўся на прыступкі. Здагадаўся, што ля выхаду знаходжуся. Ліхтарык ужо не свяціў, таму намацваў адтуліну ў дзвярах рукамі, а дзверы ж над галавой... Даволі доўга намацваў. Звязаў дзве паловы кубка разам, як было... І ўстаўляць баюся. А што, калі не адчыніцца? Калі над плітой — зямля ці ўвогуле якое збудаванне? Карацей, натузаўся я з гэтымі дзвярыма так, што не памятаю, як выпаўз... Ну і на свежым паветры адключыўся. Апрытомнеў — нада мной дзявочая істэрыка.

Апошняя фраза прагучэла гэтак самазадаволена, што Арсенія проста павінна была абурыцца, але яе адразу ж пацягнулі за руку, і вось яна ўжо цалуецца з прычынай абурэння... Ад гісторыка прыемна пахла шампунем для мужчын «Дав», і Ася з іроніяй успомніла, як адчайна граф адмываўся ад набытага ў сутарэннях водару і ўмудрыўся скарыстаць за раз тры бутэлечкі гэтага шампуню.

— Чакай.... — Ася вызвалілася і палезла ў сумку. — Мне сказалі, што цябе нельга хваляваць, але я ведаю, што ты мне не даруеш, калі я не дам табе адразу ж пачытаць...

І працягнула пергамент з тастаментам. Даніла Раманавіч, прымацаваны да кропельніцы, заварушыўся ў ложку, спрабуючы зручней уладкавацца, каб прытрымліваць шорсткі ліст, Ася дапамагла...

Ён чытаў старажытную вязь, вядома, хутчэй, чым Вячка. Прачытаў і адкінуўся на падушку, заплюшчыўшы вочы. Пергамент з ціхім шоргатам згарнуўся ў трубку, як змяя, якая ўкусіла ахвяру і лена скручваецца ў кольцы. Ася маўчала, даючы магчымасць нашчадку Корб-Варановічаў асэнсаваць і перажыць прачытанае.

— Братняя кроў... — прашаптаў Даніла, не адплюшчваючы воч. — Божа мой, колькі мы адзін аднаму пралілі тае братняе крыві... Уся Беларусь залітая. Колькі маны. Колькі дарэмнай нянавісці. Здрады. Дурасці.

Ён паглядзеў у шэрыя вочы Вяжэвічаўны сваімі шэрымі вачыма, у якіх пульсаваў боль.

— Ты казала, я завернуты на чысціні крыві... Толькі для мяне гэта значыць зусім не тое, што для дбайцаў пра арыйскую расу. У нас жа — і ў ва мне, і ў табе — столькі ўсяго, напэўна, намяшана за стагоддзі, і габрэйскага, і рускага, і ўкраінскага, і польскага, і татарскага... Якая розніца! Не гэта вызначае прыналежнасць да роду, да зямлі, а толькі любоў да гэтай зямлі і гонар за свой род. Вось і ўсё.

Корб-Варановіч правёў здрапанай рукой па арыстакратычным твары, які яшчэ нядаўна знаходзіўся ў ганебнай блізкасці да натуральнага дзярма.

— Што з таго, што Калантай — беларус па нараджэнні? Яму тут усё чужое, усё малацікавае і недаразвітае, ён адчувае сябе на маргіналіях, правінцыялам вялікай імперыі, цэнтр якой не тут. А мой сябар Алесь, археолаг, — са смілавіцкіх татар, калі да бацькоў у Смілавічы прыязджае, у мячэць ходзіць. І ён галаву скласці гатовы, калі спатрэбіцца, каб адратаваць якую старажытную царкву ад разбурэння, вочы сапсаваў, начамі разбіраючы старасвецкія хронікі, абы белай плямай у нашай абылганай гісторыі стала меней...

У яго не толькі дзеці, але і ўнукі на чысцюткай беларускай мове паўсюль размаўляюць! Мы з ім таксама адной крыві. Аляўціна Пятроўна з Ройна — з патомных сялянаў. Але яна ведае свой род да восьмага калена, пра кожнага з продкаў адсачыла звесткі... І яна больш радавітая, чым які-небудзь прамы нашчадак князя, якому пляваць на ўвесь гэты продкавы ланцуг, і добра, калі дзеда ўласнага памятае, і жыве ён толькі тут і цяпер. Ведаць свой род — гэта яшчэ і мець адказнасць перад сваёй зямлёй. Разумееш, малая?

Корб-Варановіч трымаў Арсенію за руку, і яна адчувала, што да яго вяртаецца ранейшая моц, небяспечная і надзейная. І пачуццё гумару, чорнага, як ройнаўскія сутарэнні.

— А ты ўсё-ткі арыстакратка! Арсенія Варановіч! Ах, як шкада... А я ўжо склаў у галаве сюжэт кшталту беднай Лізы... Я ўвесь такі радавіты, адорваю сваёй міласцю сціплую пейзанку! А пейзанка ўся такая сарамлівая... Каханка па начах кіпцюрамі не драпае...

— Мярзотнік! Я цябе ненавіджу! — Арсенію ажно затрэсла ад абурэння — а яна і забылася за апошнія дні, як яе можа злаваць гэты... Гэты...

— Узаемна! — расплыўся ва ўсмешцы Корб-Варановіч. Раптам павярнуўся да сваёй правай рукі, падключанай да кропельніцы, твар у яго зрабіўся знаёма шалёны.

— А, пайшло яно... — і рашуча пацягнуў з вены голку.

— Што ты робіш! Ненармальны! Асцярожна! — заверашчала Ася. Але Даніла ўжо грэбліва адкінуў катэтар, які абурана загайдаўся, па кроплі губляючы гаючую вадкасць. Граф схапіў Асю за руку, змусіў упасці на вузкі ложак побач з сабою, нахіліўся над ёю на адлегласць апошняй пяшчоты, прашаптаў:

— Я здагадаўся пра сакральны кубак, напоўнены змяшанай братняй крывёй, які трэба паставіць на алтар... Ён у нас народзіцца. Месяцаў праз дзевяць. Мы панясём хрысціць, а паколькі ён хлопчык, яго абнясуць вакол алтара, уводзячы ў храм!

Ася няёмка закруцілася на ложку — а раптам зойдзе хто! І ўвогуле...

— Па-першае, чаму хлопчык? Па-другое, я яшчэ не згадзілася на шлюб! Па-трэцяе, ты мне яшчэ ні разу не сказаў, што кахаеш!

Даніла крануў вуснамі яе шчаку, зашаптаў на вуха, казычучы цёплым подыхам.

— Па-першае, мне, папраўдзе, усё роўна, хлопчык ці дзяўчынка. Па-другое, інтэлігентная гарадская паненка, аматарка кавы-латэ і срэбных пярсцёнкаў, якая абцалоўвае мужчыну, які толькі што вылез з каналізацыі, альбо вычварэнка, альбо сапраўды яго кахае. І па-трэцяе, хіба я выбраўся б з-пад усіх гэтых завалаў, каб не кахаў цябе?

І нахіліўся яшчэ бліжэй... Амаль наваліўся... І яна абхапіла яго, і вусны яе цяпер сустрэлі зусім не пустэчу...

— Хворы Варановіч! Як вам не сорамна! Чым вы займаецеся!

Медсястра, маладая і сімпатычная, як тэлевядучая, чырванела ад абурэння.

— Кропельніцу знялі... Гэта парушэнне рэжыму! Вы забыліся, што вы не дома, а ў бальніцы! Дзяўчына! Пакіньце палату!

Ася паспрабавала ўскочыць з ложка, але Даніла магутнай рукой затрымаў яе, прыціснуў да сябе, нязмушана разваліўшыся.

— Дзяўчына застанецца, колькі захоча, таму што яна мая нявеста, і мы занадта доўга не бачыліся. Таму давайце мяне выпішам з бальніцы за парушэнне рэжыму. Я ж зусім здаровы, самі бачыце...

— Гэта галоўны ўрач будзе вырашаць, каго калі выпісваць! А мы толькі супакаяльнае можам укалоць! Ачысціце палату ад старонніх!

— Мая нявеста не староння!

Медсястра раззлавалася наўсур'ёз, неяк аж занадта ўсхадзілася... Ася ўспомніла, што калі першы раз яе пабачыла і папрасілася ў палату да Данілы, тая неяк асабліва пазмрачнела... М-да, а ў Данілы яшчэ і студэнткі ёсць... І супрацоўніцы маладыя...

Трэба адразу ж выкінуць ружовыя пантофлікі з ягонай кватэры на сметніцу.

Крык стаяў на ўсю бальніцу, як на Ракаўскім кірмашы, што, падобна, графу прыносіла шчырае задавальненне. Хіба ён і праўда спланаваў, каб яго зараз адсюль выкінулі са скандалам?

— Усім добры дзень! Што за бітва на Сіняй Вадзе, а татараў не відаць?

Гэта ў палату заваліў Вячка Скрыніч, вясёлы, іранічны, імклівы... Праўда, убачыўшы Асю пры баку Данілы, таксама на імгненне пазмрачнеў. Але тут жа з уласцівым яму імпэтам і хітраванскай дыпламатыяй пачаў улагоджваць медсястру, вывеў яе ў калідор, прыабняўшы, нешта інтымна нашэптваў...

Арсенія прыслухоўвалася да дыялогу ў калідоры, але перашкаджаў Даніла, бо калі ён да яе дакранаўся, свядомасць неяк імглілася. Нарэшце паслядоўніца Флорэнс Найнтынгел, заснавальніцы медсястрынскага руху, гучна сказаўшы наастачу нешта кшталту «Зусім сумленне страцілі», але ўжо без ранейшай злосці, змоўкла і сышла. Па калідоры гучна прастукалі яе абцасікі. Вячка вярнуўся ў палату. Арсенія ўсё-ткі выслізнула з абдоймаў графа і ўселася на зэдлік, прыгладжваючы валасы.

Скрыніч ужо не ўсміхаўся. Ён апусціўся на акуратна засланы пусты ложак і кінуў каля сябе на падлогу заплечнік.

— Пастарайцеся да раніцы не патрапіць у псіхушку, і тады, магчыма, заўтра вас выпішуць...

Корб-Варановіч незадаволена паморшчыўся.

— Мне тут пю-рэ даюць... А я хачу адбіўную. З кетчупам.

— Адбіўную табе пакуль нельга... Ну што ты, як малое дзіця... — нервова азвалася Арсенія, якой было страшэнна няёмка перад аўтарам культавага фэнтэзі — за сваё шчасце, за тое, што яна і сама марыць проста зараз збегчы з Данілам дахаты...

— Просьбу выканаў, вашую спявачку наведаў... — змрочна працягваў Скрыніч адчытваца перад недысцыплінаваным пацыентам. — У хаце, здаецца, экзатычных гасцей няма, занёс хлеб, малако, яек, сасісак... Сасіскі яна ж можа зварыць? Выслухаў дзве арыі, паабяцаў букет белых ружаў.

Даніла пасур’ёзнеў.

— Дзякуй вялікі... А то ейныя сябры, што цягаюцца выпіць ды пагудзець, і не падумаюць нешта ёй прынесці з прадуктаў. А яна забываецца на такія грубыя матэрыяльныя рэчы, як абед. Праз пару тыдняў яе зноў у Навінкі кладуць.

Вячка запытальна зірнуў на Арсенію: як яна ставіцца да падобных клопатаў? Ася нязмушана вытрымала ягоны позірк. Кепска было б, каб гісторык у сувязі з аднойдзеным маладзенькім шчасцем забыўся на старое сваё няшчасце, і няхай жыве бедная вар'ятка, як атрымліваецца. А ягоны альтруізм Ася як-небудзь перажыве. Скрыніч апусціў вочы, палез у заплечнік і дастаў запаветную сінюю тэчку, распухлую ад аркушаў. Беражліва ўзважыў... Наўрад ездзіў збіраць старонкі з падлогі Асінай кватэры — пэўна ж усё вывеў наноў.

— Ну вось, практычна закончыў.

Корб-Варановіч зацікаўлена прысеў на ложку.

— Ну і як атрымалася?

Скрыніч сумна ўсміхнуўся.

— Здаецца, някепска. Гэткая кальцавая кампазіцыя: пачалося ў шпіталі, заканчваецца ў шпіталі. Не хвалюйцеся, я не садыст, прозвішчы ў рамане трохі змяніў.

Арсенія нерашуча спытала, па-ранейшаму адчуваючы віну.

— А як з... ролевай гульнёй? Ты пражыў свой раман, як хацеў?

— Пражыў, халера! — Вячка кінуў рукапіс побач з сабой на ложак. — Уражанняў атрымаў з накрыўкай! Суперрэалістычна! Асабліва апошні тыдзень.

Раманіст правёў рукой па худым твары.

— І вось што цікава, спадарства... Я часта ўжываю ў раманах і аповесцях такую схему: галоўная гераіня, побач два героі. Адзін — асноўны, каханне да якога ў гераіні выспявае паступова, супроць ейнай волі, і дадатковы герой, уведзены ў тэкст проста для таго, каб паненцы было з каго выбіраць. Бо я ж загадзя ведаю, што яму нічога не свеціць, і лёс ягоны — да апошняга тупіць і не верыць у сваё фіяска. Таму гэты герой выпісваецца больш блякла, інертна, толькі надзелены некалькімі характэрнымі рысамі для запамінальнасці, ну і

каб гераіню нечым адштурхнуць. І вось я — я! — апынаюся ў ролі гэтага дадатковага героя! Проста ўлёт!

Вячка істэрычна зарагатаў, але рэзка абарваў смех. Памаўчаў, утаропіўшыся ў падлогу, пакрытую выцертым зялёным лінолеумам.

— Так што я вам удзячны. Вы свае ролі выканалі.

Корб-Варановіч зірнуў на Арсенію, якая пунсавела ад няёмкасці, падняўся, стаў над Вячкам, як ганаровая варта.

— Вы не можаце быць дадатковым героем, спадар Скрыніч. Вы — аўтар. І гэта мы вам удзячныя. Без вашага ўмяшальніцтва мы б не сустрэліся з Арсеніяй. Не адкрылася б таямніца нашага роду. Не выканаўся запавет продкаў. Не з'явіўся б ваш выдатны твор.

— І фіг з ім, каб не з'явіўся... — прабурчэў Вячка, без былой крыўды, затое з ранейшай мізантропіяй. — Усё роўна чытач наш на адной канапе змяшчаецца.

— Усе вялікія справы пачыналіся з кола аднадумцаў, якія змяшчаліся на адной канапе, — усміхнуўся Даніла. — І толькі што на прыкладзе Вяжэвічаў і Корб-Варановічаў вы самі давялі, чаго вартыя ўсе варагаванні беларусаў і іх схільнасць падзяляцца на групоўкі.

Скрыніч тужліва ўздыхнуў, зірнуў у шэрыя вочы графа, устаў і працягнуў яму руку.

— Спадзяюся, мне не давядзецца перапісваць шчаслівую канцоўку... Пра тое, як нарэшце — і навекі — з'яднаўся срэбны кубак.

— Не давядзецца, — цвёрда прамовіў гісторык, пацiснуў пісьменніцкую руку і азірнуўся на Арсенію. Тая, як прыцягнутая нябачнай вяроўкай, стала побач, і адразу ж яе прыабняў той, з кім можа разлучыць толькі смерць.

— А, дарэчы, дзе ён, той кубак? — пацікавіўся Вячка. — Гэта ж якая рэліквія... Увесь раман — вакол яго лёсу, фактычна... У Ройне царкву амаль раскапалі, зараз да магілы продка Асі дабяруцца. Можа, і кубак можна знайсці?

Корб-Варановіч спахмурнеў.

— Не чапаў бы я магілы Юрыя Варановіча... Ён і так пры жыцці пекла зведаў, і пасля смерці спакою няма. А кубак тым болей шукаць не стану. Няхай сімвал раз'яднання родных

братоў застаецца там, дзе зараз знаходзіцца. Лепей паставіць помнік па Алесю Вяжэвічу і Апанасу Корб-Варановічу... Хаця б крыж які. Месца прыблізна ведаем...

У калідоры загрукатала каталка, пачуліся сярдзітыя галасы санітараў... Ася зразумела, што зараз у палату прывязуць яшчэ аднаго хворага. Вячка схаваў рукапіс у заплечнік, закінуў яго за спіну, выпрастаўся — іранічны, шалёна-вясёлы, адчайны беларускі пісьменнік, не патрэбны масаваму чытачу...

— Ну, чым жа завяршыць нашую эпапею? — падумаў. — Вось што, скажыце мне, спадар Даніла, як у рамане Булгакава гаворыць Майстар Понцію Пілату: «Свабодны!»

Корб-Варановіч сур'ёзна паглядзеў на аўтара і без ценю іроніі прамовіў адведзеную рэпліку:

— Свабодны!

— І вы таксама! Жыве Беларусь!

Раманіст падняў руку ў развітальным жэсце і выскачыў за дзверы палаты нумар шэсць, паспеўшы ў апошні момант размінуцца з каталкай, на якой везлі чарговага скалечанага незалежным жыццём беларускага індывіда ў абдоймы самай бясплатнай у свеце медыцыны.

*2009–2010*

# ЗМЕСТ

**Сутарэнні Ромула**
*Раман*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 26

**Рублеўская Людміла Іванаўна**

# Сутарэнні Ромула

Раманы

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Алесь Пашкевіч
Вёрстка Ларысы Ваўчок
Карэктура Алены Спрытніч

Падпісана да друку 26.04.2012. Фармат 84х108 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 27,30. Ул.-выд. арк. 23,46.
Наклад 500 ас. Зак. 292.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.